# ПРАДМОВА

Аднойчы, у пачатку 90-х, Сяргей Антончык у размове паскардзіўся на дрэннасьці ды цяжкасьці навокал, а потым і кажа мне: „Адзіная сьветласьць – наша выдатная сяброўка Галя. Ёсьць яшчэ сумленьне на сьвеце. Гледзячы на яе, хочацца і людзям верыць, і жыць лепей”, – сказаў Сяргей.

Мне гэта запомнілася, хоць тады і ў думках не было, што лёс мой і Галін можа злучыцца. Тады, без перабольшаньня, „Галя” (Галіна Фёдараўна Палачаніна-Вашчанка) была легендай Народнага Фронту і, я б сказаў, – ягоным сумленьнем (прынамсі, для сяброў).

Самую безнадзейную і непад’ёмную справу, калі ўжо ніхто ня мог нічога зрушыць зь месца (нават разам), мы, нарэшце, даручалі Галі, і яна … выконвала. Рабіла. Прытым рабіла сама, нікога з нас не турбуючы і ня тузаючы. Настрой у яе заўсёды быў вясёлы, энэргіі шмат, і твар – усьмешлівы. І калі яна сьмяялася сваім звонкім радасным сьмехам, усе навокал таксама пачыналі ўсьміхацца (як я потым сабе адзначыў – на славу Народнага Фронта), нават калі гэта была дарожная міліцыя, а БНФ парушыў правілы.

Праўда, я быў сьведкам, калі савецкі чыноўнік, палічыўшы, што мае справу з прастафіляй, – зарываўся. І тады (што куды дзявалася) – гучэў гэтакі нізкі цяжкі метал, як з арыі Мефістофеля, а з вачэй сыпаліся іскры, стралялі маланкі (толькі што дым ня йшоў з вушэй), і чыноўнік ад нечаканасьці толькі лавіў ротам паветра, як рыба, якую зьбіраліся пачысьціць.

Увогуле, што мне вельмі падабалася (і ня толькі мне) – гэта тое, што нашая фронтаўская барацьба з расейскім камунізмам у 90-х мела элемэнты такой творчай імправізацыі і камэдыйнай эстэтыкі. Асабліва гэтым мы карысталіся ў Вярхоўным Савеце, дзе разыгрывалі цэлыя сцэны і спэктаклі па абуваньні камуністычнага бэтону ў лапці. Перамога са сьмехам давала нам падвойныя сілы. Але трэба ведаць, што зьмест нашага змаганьня з імпэрскім камунізмам быў далёкі ад сьмеху. Бальшыня з нас проста высільвалася ў няроўнай барацьбе, а лёсы многіх былі амаль трагічнымі.

Галіна Фёдараўна Палачаніна нарадзілася на Лагойшчыне ў сям’і настаўнікаў. Пасьля сканчэньня Менскага Пэдінстытуту і потым асьпірантуры пры ім, працавала ў Менскім Навукова-Дасьледчым Інстытуце Пэдагогікі, напісала шэраг навукова-метадычных артыкулаў, выдала кніжку па методыцы выкладаньня рускай літаратуры („ Дидактический материал по русскай литературе IX класс”. – Минск, „Народная асьвета”, 1992 г.)

Са зьяўленьнем Беларускага Народнага Фронта ўключылася ў палітычнае змаганьне і ў беларускае Адраджэньне, што ў корані перамяніла яе жыцьцё і, без перабольшаньня скажам, – стала яе лёсам.

Ад самага пачатку Фронту яна ўваходзіла ў Сойм БНФ, была дэпутатам ад Фронту ў Менскім Гарадзкім Савеце (1990-1996 гг.). Пэўны час была кіраўніком самай вялікай раённай фронтаўскай структуры ў Менску (Койданаўскай Рады) і старшынёй фронтаўскай арганізацыі „Дзеці Чарнобыля БНФ". З канца ліпеня 1996 года ў палітычнай эміграцыі.

Кніжка Галіны Пазьняк „Беларусь у сэрцы", побач з працамі Сяргея Навумчыка, адно з першых выданьняў, дзе прадстаўлены разгорнутыя (хоць і фрагмэнтарна) ўспаміны пра рух Беларускага Адраджэньня ў канцы 80- і 90-х гадах мінулага стагоддзя, пра беларускіх адраджэнцаў і барацьбу, якая прывяла да аднаўленьня і ўсталяваньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.

У кнізе пададзены таксама ўспаміны з жыцьця ў СССР, аб дачыненьнях з Васілём Быкавым, а таксама запісы размоваў кіраўнікоў Фронту аб пэўных падзеях нядаўняй беларускай мінуласьці, літаратурныя рэцэнзіі і інш.

Усё гэта новы матэрыял, які, спадзяюся, паслужыць на карысьць нашай Бацькаўшчыны і мэмуарнай літаратуры.

Успаміны Галіны Пазьняк маюць яшчэ тую асаблівую каштоўнасьць, што напісаныя чалавекам, які непасрэдна дзейнічаў і працаваў у фронтаўскіх структурах і ў структурах мясцовай выбарнай і выканаўчай улады (Менскі Гарсавет і Менскі Гарвыканкам). Тут падаецца свой асабісты (і тым каштоўны) погляд знутры на Беларускае Адраджэньне і на сістэму дачыненьняў паміж тыхчасовай уладай і Адраджэньнем. У тэкстах закранутыя пласты, якія яшчэ ніколі не траплялі на старонкі цяперашняга друку. Гэтая кніга, таксама як і працы Сяргея Навумчыка, – цаглінка ў гісторыю беларускага змаганьня за незалежнасьць, нацыянальнае адраджэньне і свабоду.

*Зянон Пазьняк*

*23 траўня 2007 г.,*
*Нью-Ёрк*

# БЕЛАРУСЬ У СЭРЦЫ

***Да 10-годдзя БНФ***

## ПАЧАТАК

Мой шлях да Беларусі пачаўся восеньню 1988 года. Нядзеля 30 кастрычніка сталася знакавым днём у беларускім жыцьці і ў беларускай гісторыі: першыя масавыя *Дзяды* ў савецкай Беларусі, калі ўлады БССР упершыню ўжылі сілу супраць вялікай колькасьці мірных людзей.

Напярэдадні гэтых падзеяў мае сябры Яўген Лаўрэль і Тамара Новікава, зь якімі я разам працавала ў НДІ пэдагогікі, параілі мне схадзіць у гэты дзень на Ўсходнія могілкі.

Трэба сказаць, што пра беларускую нашую справу я тады асабліва не задумвалася, сьмяялася з „руководящей роли КПСС", але гаварыла па-расейску і сістэма жыцьця расейска-бальшавіцкіх саветаў мяне як бы не закранала. Але пры гэтым ў душы я заўсёды заставалася беларускай. Сябры, відаць, гэта адчувалі, таму, нічога надта не тлумачачы, сказалі: „Схадзі абавязкова, гэта будзе вельмі карысна". Я пайшла.

У мэтро высьветлілася, што цягнік на станцыі „Ўсход" не прыпыняецца: на некалькі гадзінаў улады перакрылі ўвесь транспарт, і дабрацца да Ўсходніх могілак на пэўны момант было немагчыма. Праз нейкі час транспарт зноў запрацаваў, і я прыехала са спазьненьнем. Усё галоўнае ўжо адбылося, людзі (начале з Зянонам Пазьняком) ужо рушылі на Курапаты. Але і таго, што засталося для маіх вачэй, сталася дастаткова, каб перавярнуць усю маю сьвядомасьць...

Я выйшла з мэтро і не паверыла сваім вачам: міліцыя, войскі, здавалася, былі сабраныя з усёй Беларусі, нейкія незнаёмыя мне машыны (з закратаванымі вокнамі, з вадзянымі гарматамі). Праезжая частка ад мэтро да могілак перакрытая, а ўздоўж тратуару да саміх могілак – два ланцугі міліцыянтаў, так што прайсьці можна толькі „скрозь строй". Усё гэта выглядала даволі страшна, але я пайшла.

Каля могілак хадзілі ўзбуджаныя людзі. У вачох – пытаньне, разгубленасьць. І ўсюды – міліцыянты, грозныя, бязьлітасныя, грубыя. (Цяпер гэтым на Беларусі нікога ня зьдзівіш, тады гэта было ўпершыню.) Раптам я ўбачыла зьбялелы ад болю твар мужчыны. Рэч у тым, што міліцыянт стаў збіваць і закручваць рукі нейкай незнаёмай дзяўчыне зь бел-чырвона-белым сьцяжком, і гэты мужчына закрычаў: „За што вы яе б'еце?". І яго ўдарылі дубінкай так, што зламалі палец на руцэ...

Салдаты, нябачаная раней тэхніка, перакошаныя твары, грубасьць, крыкі міліцыянтаў „расхадзіцца", іх неабгрунтаваная агрэсія супраць мірных людзей, многія зь якіх прышлі на могілкі з кветкамі, каб ушанаваць памяць продкаў – усё гэта ў імгненьне перавярнула маё жыцьцё. Тут, на гэтых могілках, усё і вырашылася. Стала абсалютна зразумела: трэба пачынаць жыць дзеля Беларусі, трэба ўключацца ў барацьбу.

## ЗЯНОН ПАЗЬНЯК

Неўзабаве Тамара Новікава прапанавала: „Сёньня, калі ўдасца, пойдзем на сход у Дом кіно". Гэта быў адзін са сходаў, якія праводзіў Народны Фронт напярэдадні выбараў у Вярхоўны Савет СССР. На ўваходзе стаяла дружына, прапускалі далёка ня ўсіх. Праз нейкі час у дзьвярох паказаўся спадар Яўген Гучок, ён нас і правёў.

Заля Чырвонага касьцёлу (у ім тады разьмяшчаўся Дом кіно), была поўная народу. Атмасфэра незвычайная. Усе прысутныя здаваліся нейкімі блізкімі, сваімі.

Пачаліся прамовы пра палітычную сытуацыю ў Савецкім Саюзе, пра выбары ў Вярхоўны Савет СССР. Я слухала з захапленьнем. Прамовы ўспрымаліся як незвычайна сьмелыя.

Гаварылі пра тое, што Беларусь найбольш з усіх рэспублікаў СССР перапоўненая ваеннымі базамі, рознымі ўзбраеньнямі. Нехта параўнаў наш край з танкам на мінным полі – нагэтулькі была забруджаная наша зямля вайсковай тэхнікай СССР і ўсім, што з гэтым зьвязана. Гаварылі пра разбуральны ўплыў гэткай канцэнтрацыі зброі на экалёгію Беларусі, што ў спалучэньні з Чар-

нобыльскай катастрофай давала вельмі сумную карціну... Але усе чакалі Пазьняка.

І вось ён зьявіўся: высокі, вельмі худы і вельмі ўзьнёслы, адухоўлены. Ён гаварыў пра лёс Беларусі, пра яе будучыню. Так я ўпершыню пачула пра Незалежную Беларусь. „Як гэта, няўжо такое магчыма?” – думала я сабе. Ня верылася. Але невядомы мне Пазьняк гаварыў так пераканаўча, у яго словах не было ні кроплі сумніву, як быццам ён „падглядзеў” падзеі ў часе. Трэба верыць, верыць і працаваць, жыць гэтым будучым днём – вынікала з прамовы. Запомнілася яго абсалютная пераканасьць і палымяная любоў да Бацькаўшчыны.

Беларусь, яе лёс, яе будучыня – і для мяне цяпер сталі галоўныя.

Крыху пазьней мой калега па Навукова-дасьледчым Інстытуце Пэдагогікі, дзе я працавала, і сябра Яўген Лаўрэль даў пачытаць мне артыкул Зянона Пазьняка пра двухмоўе. На той момант, скончыўшы асьпірантуру з тэмай па рускай клясычнай літаратуры, я лічылася спэцыялістам па методыцы выкладаньня рускай літаратуры і гаварыла па-руску. Артыкул Пазьняка мяне так моцна ўразіў, што я яго нават законспэктавала. Ён стаў для мяне яшчэ адным моцным штуршком майго вяртаньня да роднай мовы і сваіх каранёў.

## ПЕРШЫЯ МІТЫНГІ

Яны былі зьвязаныя з абмеркаваньнем у цалкам савецкім Вярхоўным Савеце БССР 11-га скліканьня Закона аб мовах *(студзень 1990 г.)*.

У першы дзень абмеркаваньня Закону ў Вярхоўным Савеце ўся плошча Незалежнасьці (тады Леніна) ў Менску была запоўнена менчукамі. Мы патрабавалі, каб адзінай дзяржаўнай мовай стала беларуская мова.

Назаўтра дэпутацкія дэбаты працягваліся, і тысячы людзей па закліку арганізацыяў Народнага Фронту зноў сабраліся ля Вярхоўнага Савета. Мы былі ўсе разам, знаёмыя і незнаёмыя беларусы, мы адчулі сябе народам. Міліцыі, удалолся, аднак, адціснуць людзей бліжэй да Галоўпаштамту. Тым ня менш, грамада не разыходзілася. Выказвалі патрабаваньні, каб у Беларусі беларуская мова стала дзяржаўнай. Камуністычныя дэпутаты Вярхоўнага Савету супраціўляўся гэтаму закону, стараліся яго выхаласьціць, зрабіць пустым. Памятаю, як асабліва шчыраваў адзін такі „беларускі” дэпутат, артыст Менскага рускага тэатру Янкоўскі, выступаў супраць дзяржаўнасьці беларускай мовы (фрагмэнты гэтага абмеркаваньня паказвалі ў „Навінах” па Беларускім тэлебачаньні). Прыехаўшы на Беларусь з Расеі, ён адчуваў сябе тут (як шмат хто зь іх) беспакараным, пад



***2. 30 верасьня 1988 г., Менск, „Дзяды” ля Ўсходніх могілак.***



*3. 30 верасьня 1988 г., Менск, „Дзяды”. У цэнтры „дыскусіі” З. Пазьняк і палкоўнік міліцыі.*

аховай камуністычнай партыі, ненавідзеў беларускую мову і не хацеў, каб на Беларусі (у складзе СССР) беларуская мова стала дзяржаўнай. А народ, актыўныя беларусы, патрабавалі прыняцьця Закону аб дзяржаўнасьці роднай мовы.

На трэці дзень абмеркаваньня ўлады дазволілі мітынг каля Дому палітасьветы, і некалькі тысячаў менчукоў з плошчы Незалежнасьці хлынулі туды. Людзі былі настроеныя на перамогу. Гэта радвала і ўздымала. Упершыню ў БССР тысячы людзей узьняліся ў абарону беларускай мовы. Шмат хто зь іх гаварыў па-руску, але чыстая хваля Адраджэньня ўскалыхнула ў беларусах тое, што 70 гадоў спала ў душах за саветамі.

Актыўны шматтысячны супраціў людзей на плошчы, іх напор і патрабаваньне не прапалі надарэмна. Закон быў прыняты. Беларуская мова абвяшчалася адзінай дзяржаўнай мовай. Толькі механізм яго ўвядзеньня быў, на жаль, расьцягнуты аж на 10 гадоў.

Мы з сябрамі чакалі іншага. Мова нашага народу выціснутая камуністычным рэжымам з шырокага ўжытку, і вяртаць яе трэба хутчэй, каб гэты працэс набыў незваротны характар. Але, пад націскам грамадзкасьці, прымалі Закон тыя ж камуністы, якія зьнішчалі мову. Ад іх чакаць іншага не выпадала.

Ня гледзячы на пэўныя расчараваньні, настрой у нас быў сьвяточны, і мы з сябрамі Койданаўскай Рады БНФ вырашылі адзначыць гэтую падзею разам у вялікай і гасьціннай кватэры Сяргея Антончыка, які прапанаваў нам з Сяргеем Міхновым запрасіць на наша Койданаўскае сьвята Сяржука Сокалава-Воюша (на тыя часы ён быў фронтаўскай бардаўскай зоркай, і ягоную песьню-гімн „Фронт, Фронт, Фронт” мы сьпявалі ўсюды). Вочы Сяргея пры гэтым сьвяціліся: „Пасьпяваем разам, пагаворым з Сяржуком!” Мы радасна пагадзіліся.

На наш агульны стол койданаўцы можна сказаць бягом прынесьлі самае смачнае, што ў каго было дома, тут жа паставілі рассоўныя вялікія сталы і пачалі хуценька смажыць, наразаць, раскладаць па талерках...

Прыехаў Сокалаў-Воюш, але не адзін, а са „сьвітай” суправаджэньня. Мы з Тамарай Антончык пераглянуліся. Гэтыя незнаёмыя людзі (чалавек 5-6) імгненна расьселіся без запрашэньня за стол і накінуліся на яду (галодныя былі ці што?), перакідваючыся між сабой вульгарнымі незразумелымі нам фразамі. Мы глядзелі і думалі: і дзе Сяржук іх адкапаў, гэтых экзотаў, у якой крапіве?

Якія ўжо тут песьні і цёплыя размовы. А нам так хацелася пабыць разам самым з сабой у сваёй Койданаўскай сям’і і разьдзяліць сьветлыя думкі і перажываньні ад першай перамогі. Пазьней прыехала Алена Радкевіч, і пачаліся нейкія балаганныя жарты са „сьвітай”. Мяне гэта моцна ўразіла, бо ў нас, у койданаўцаў, былі зусім іншыя

дачыненьні: рамантычнае братэрства і чысьціня. Вечар быў сапсаваны, затое мелі навуку (якую добра ведаюць на Беларусі): за гасьцінным сталом павінны зьбірацца аднадумцы. Чужых да сябе мы болей не запрашалі.

Потым быў масавы фронтаўскі мітынг на стадыёне Дынама ў Менску, калі сабралася шмат тысячаў народу, і луналі нашыя бел-чырвона-белыя сьцягі. Тады былі часы, калі насіць бел-чырвона-белую значку было небясьпечна, але гэта не палохала.

Палітычныя прамовы на мітынгах дапамагалі беларусам асэнсоўваць ідэю незалежнасьці Беларусі (якая на тыя часы шмат для каго была новай, неверагоднай), уздымалі дух, рамантычнае захапленьне, якое падмацоўвалася песьняй. І плошча нам падпявала: „Фронт – ён маё і тваё абуджэньне, ён народу майго Адраджэньне – Фронт... „

Заўсёды, падчас адраджэнскіх мітынгаў на плошчы, сярорд былых камуністаў неяк стыхійна ўзьнікала рушэньне, і яны публічна палілі свае чырвоныя білеты. Праз гэты рытуал яны як бы адракаліся і адмяжоўваліся ад злачыннай кампартыі, у якой знаходзіліся за часы камуністычнага рэжыму.

Аналягічныя „акцыі" былых камуністаў праходзілі па ўсёй Беларусі. Шмат хто потым з гэтых людзей навяртаўся да Бацькаўшчыны, да справы беларускага Адраджэньня і зьвязаў свой лёс з барацьбой за шчасьце, волю і незалежнасьць Айчыны.

## ФРОНТАЎСКІ „НАРОДНЫ ЎНІВЭРСІТЭТ"

Уздым канца 80-х пачатку 90-х гг. ускалыхнуў беларускае грамадзтва. Жаданьне пераменаў проста вісела ў паветры. Але вельмі вялікая колькасьць беларусаў мала што ведала пра агульную нашу гісторыю, пра некалі магутную нашу дзяржаву Вялікае Княства Літоўскае, пра старажытныя беларускія сымвалы – *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг* і *гэрб Пагоня*. Бальшавікі шмат пастараліся, каб беларусы лічылі сваю вялікую гісторыю толькі ад 1917 года. Ашуканыя камуністычнай прапагандай за саветамі, беларусы рэдка задумваліся пра акупанцкія „кругі" нашай Бацькаўшчыны (расейскі, польскі, савецкі) і жылі са сьведамасьцю „гісторыі БССР". І зараз (у канцы 80-х – пачатку 90-х) камуністычная прапаганда, выкарыстоўваючы нашае „няведаньне", павяла ўзмоцненую атаку на сапраўдную беларускую гісторыю.

Таму Фронт пачынаў сваю дзейнасьць з адраджэньня гістарычнай памяці народа. Гэтая ідэя была ўвасоблена ў фронтаўскім „Народным ўнівэрсітэце".

Для шэраговых сяброў і прыхільнікаў адраджэнцкага руху (фронтаўскага авангарду) быў наладжаны агульнаадукацыйны Народны ўнівэрсітэт – сістэма папулярных лекцыяў па розных галінах беларускага жыцьця, і найперш – з гісторыі нашай зямлі і нашага роду. Фронтаўцы зьбіраліся ў розных будынках і залях на лекцыі па гісторыі, эканоміцы, гаспадарцы Беларусіі г.д. Напачатку кіраўніцтву Фронта ўдавалася дамаўляцца зь Менскім Тэатральным Інстытутам, з Саюзам мастакоў, з Домам кіно („Чырвоны касьцёл") і іншымі ўстановамі (пакуль партыйныя кіраўнікі ня ўбачылі ў беларускай грамадзкай ініцыятыве небясьпеку для сваёй улады і, фактычна, забаранілі такія лекцыі кіраўнікам усіх установаў, дзе былі вялікія залі).

Пасьля камуністычнага прымусу і загонаў на іхныя палітычныя „мерапрыемствы" перад кожным савецкім сьвятам (у гадавіну кастрычніцкага перавароту, на дзень савецкай арміі, на 8 сакавіка, на 1 мая і г.д.), каб слухаць занудныя хлусьлівыя „даклады" пра „победное шествие коммунизма", іхныя „парадныя" псэўдамастацкія канцэрты з ляйтматывам „торжества коммунізма", пасьля ўсяго гэтага здавалася б, зацікавіць людзей да публічных лекцыяў немагчыма. На справе ж аказалася, што людзі па-сапраўднаму прагнулі праўдзівай гісторыі пра свой народ і сваю зямлю.

Адну з першых лекцыяў (калі ня першую) чытаў для нас гісторык і археолаг Міхась Чарняўскі. Праходзіла яна ў вялікай залі Тэатральнага інстытута. Ужо само відовішча велізарнай залі, цалкам запоўненай людзьмі, уражвала.

Зьбіраліся мы вечарамі, пасьля працы, віталіся, паціскалі адзін аднаму рукі. А потым наступала цішыня. Памятаю, што спадар Чарняўскі гаварыў павольна і ня надта гучна, але ўсё было чуваць і без мікрафона.

Цішыня залі ўражвала. Усе слухалі, і нават канспэктавалі. Мне тады здавалася, што мы ўсе ў гэтай залі нават разам дыхаем: удых-выдых... Такое было адчуваньне еднасьці.

Потым былі лекцыі Міхася Ткачова, Зянона Пазьняка, Міколы Ермаловіча і шмат іншых дасьведчаных беларусаў, на якія заўсёды зьбіралася шмат народу.

Калі ж Фронту ўдалося вылучыць шэраг сваіх прадстаўнікоў кандыдатамі ў Вярхоўны і мясцовыя Саветы БССР, для фронтаўскіх кандыдатаў былі наладжаныя спэцыяльныя лекцыі па розных галінах дэпутацкай дзейнасьці (эканоміка, сацыялёгія, культура, гісторыя, паліталёгія і г.д.). Гэткая ж праца праводзілася і ў рэгіянальных Радах і суполках.

Кіраўніцтва Фронту разумела неабходнасьць такой папярэдняй падрыхтоўкі сваіх кандыдатаў – каб пасьля абраньня нашыя дэпутаты былі падрыхтаваныя для „ўладнай" барацьбы за вольную Беларусь.

## ВЫЛУЧЭНЬНЕ КАНДЫДАТАЎ У ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР

Па выбарчым законе СССР існавала адзіная магчымасьць вылучыць свайго, народнага (не намэнклятурнага) кандыдата ў дэпутаты – трэба было сабраць сход, здаецца, ня менш за 500 чалавек. Але сходы, як правіла, арганізоўвалі і кантралявалі камуністычныя ўлады (камуністычныя партарганізацыі былі ў кожнай установе, у кожным калектыве; яны былі рэальнай палітычнай уладай). У Маскоўскім раёне Менска па нашым патрабаваньні ўлады дазволілі правесьці такі сход у памяшканьні тэатра Музкамэдыі. Пачынаўся сход выбаршчыкаў а 18-й гадзіне. Улады раёна прапускалі людзей толькі па пашпартах, правяралі, каб была прапіска ў Маскоўскім раёне. Намэнклятуры на сход навезьлі шмат, але на ўваходзе стаяла і дружына Фронта. Прапускаць выбаршчыкаў па прапісцы – дык ўсіх, і намэнклятуру таксама.

На гэты сход я ўзяла з сабой прыяцельку. Палітыкай яна не цікавілася, але калі апынулася ў той атмасфэры, убачыла абсалютна нахабныя паводзіны камуністаў, іхную злосьць, то і яна мужна вытрымала больш васьмі гадзінаў змаганьня ў зале.

Весьці сход (пасьля нашай барацьбы і галасаваньня залі) прызначылі дваіх: адзін прадстаўнік камуністаў і ад Фронту Сяргей Міхноў, які тады кіраваў арганізацыяй Фронту Маскаўскага раёну (Койданаўскай Радай). Памятаю, кандыдатаў на гэтым сходзе вылучылі ажно 19 чалавек (камуністы стараліся). Сутнасьць жа вялікай колькасьці вылучэнцаў зводзілася да аднаго: замучыць людзей доўгімі выступамі, задурыць галаву прысутным і – не прапусьціць Пазьняка. Таму вылучаныя былі ня толькі артадаксальныя камуністы, але і так званыя „незалежныя кандыдаты", „незалежнасьць" якіх – была толькі прыкрыцьцём рабскай адданасьці партыйнаму начальству.

Кожны вылучэнец павінен быў выступіць са сваёй праграмай, кожную праграму абмяркоўвалі, вылучэнцу задавалі пытаньні з залі, потым дазвалялася чатыры выступы: два ў падтрымку, два – супраць (так па кожным з 19-ці вылучаных). Пасьля – галасаваньне. Кандыдатам у дэпутаты заставаўся той, хто набраў болей галасоў.

Ад Фронта быў вылучаны Зянон Пазьняк. Але „перад закрыцьцём сьпісу" вылучэнцаў нечакана ад Фронта вылучаецца і Юры Хадыка. Мяне (ды і ня толькі мяне) гэта вельмі зьдзівіла. Фронт у гэтым выпадку ягонай кандыдатуры не прадугледжваў. Але тады ўжо было не да развагаў. Атмасфэра стварылася вельмі напружаная.

Бездапаможна і наіўна выглядалі спробы вылучэнца ад „рабочых" „закляйміць" праклятых „нефармалаў" (так называлі нас, фронтаўцаў, камуністы). Кандыдат „ад тэхнічнай інтэлігенцыі" (інжэнер нейкага завода) заклікаў разам з партыяй рушыць на перабудову „жызьні". Асабліва спрактыкавана выступаў навуковец, доктар навук, філёсаф-камуніст Цернавой. Яго прамова была найбольш крывадушнай, бо апэлявала да гісторыі, выяўляла эрудыцыю і майстэрства, за якімі былі прыхаваныя фальсіфікацыя і падман.

Выступы кандыдатаў працягваліся. Час ішоў няўмольна, рэглямант выступаў (колькасьць пытаньняў, адказы) – не вытрымліваўся. За гэтым павінны былі сачыць вядучыя сходу. „Чаго Міхноў марудзіць, хутка ноч? – пыталася ў мяне прыяце-

лька. – Усё ж ясна, заля – наша, трэба дзейнічаць рашуча, не даваць камуністам зацягнуць час!”

Заля чакала выступу Пазьняка. І тут было абвешчана: Пазьняк знаходзіцца перад уваходам у тэатр, яго не пускаюць (маўляў, у яго няма прапіскі ў Маскоўскім раёне).

Што тут пачалося! Ярыя камуністы ашчэрыліся: „Правільна, не пушчаць!” Заля ўзарвалася абурэньнем: „Ён ня выбаршчык Маскоўскага раёна, а кандыдат ад Фронта!” Так працягвалася даволі доўга. Фронтаўцы і спачуваючыя не саступалі і на ўсе катэгарычныя „забароны” камуністаў пляскалі ў далоні і скандзіравалі: „Пазьняка, Пазьняка!”. Мы выказалі такі напор і такую моц, што „скруцілі” камуністаў, і пад шквал апладысментаў у залю ўвайшоў Зянон Пазьняк.

Пасьля ягонага выступу камуністы спрабавалі яшчэ зацягнуць час, але стала зразумела: Пазьняк перамог. Тады пачалося новае змаганьне, як галасаваць: простым адкрытым галасаваньнем ці закрытым, праз бюлетэні. У залі ж было шмат кіраўнікоў гораду і раёну, людзі былі як бы „пад наглядам” начальства, а значыць, у галасаваньні не свабодныя. Таму камуністы патрабавалі галасаваць адкрыта, простым галасаваньнем, каб „кантраляваць” сітуацыю.

Сяргей Міхноў чамусьці марудзіў. Адусюль чуліся незадаволеныя галасы: „Чаго Міхноў чакае, мы ж перамагаем?” Пад націскам залі, нарэшце, мы галасуем. Па радах працуюць выбраныя „лічыльнікі”, лічаць галасы. У выніку – большасьць за галасаваньне бюлетэнямі. Аб’яўляецца невялікі перапынак для падрыхтоўкі бюлетэняў, але бюлетэні фронтаўцы падрыхтавалі вельмі хутка.

Каля другой гадзіны ночы пачалося галасаваньне, у выніках якога мы ўжо не сумняваліся. Не сумняваліся і камуністы, бо сітуацыя была абсалютна зразумелай і на нашу карысьць. І тады намэнклятура вырашыла сарваць галасаваньне. Згулялі на розьніцы паміж „прыняўшымі ўдзел у галасаваньні” і „прагаласаваўшымі”.

Раздалі бюлетэні. У галасаваньні прыняло ўдзел больш за 500 чалавек. І па выніках падліковай камісіі абсалютная большасьць прагаласавала за Пазьняка. Але вынік залічваўся толькі тады, калі пры падліку галасоў колькасьць бюлетэняў апушчаных у ўрну, была таксама ня менш за 500 (прынцып не лягічны і не справядлівы). Нам не хапіла каля 10-15 бюлетэняў (іх камуністы проста не апусьцілі ў урну). Было абвешчана, што выбары кандыдата ў дэпутаты ў Вярхоўны Савет СССР не адбыліся. Людзі былі вельмі абураныя на камуністаў.

Мы вышлі з тэатру каля трэцяй ночы праз восем гадзінаў змаганьня, якое скончылася бязвынікова. Транспарт ўжо не хадзіў, і ўсе ішлі дамоў пешшу ад Музкамэдыі на Паўднёвы Захад. І ўсё ж апатыі не было. Мы адчулі сваю сілу, мы зразумелі, што камуністы могуць нас яшчэ ашукаць, але ўжо не перамагчы.

Цяжкае было змаганьне новай маладой незарэгістраванай арганізацыі БНФ з таталітарнай камуністычнай сістэмай. Зарэгістраваць кандыдатам у Вярхоўны Савет СССР антыкамуніста было, практычна, немагчыма. Зь вялікага сьпісу магчымых кандыдатаў ад Фронту гэта зрабіць удалося, па-мойму, толькі ў чатырох-пяці акругах.

Хоць С. Шушкевіч ніколі ня быў сябрам Народнага Фронту, але зь ім дамовілася кіраўніцтва БНФ, і вырашылі за яго кандыдатуру змагацца. Ня раз на мітынгах С.Шушкевіч заяўляў, што на 95 адсоткаў падтрымлівае ідэі БНФ. Падтрымлівае – значыць трэба дапамагаць. І ўвесь Фронт працаваў на Шушкевіча. Працавала і мая Койданаўская Рада.

Гэта потым, на пасадзе Старшыні Вярхоўнага Савета, ён адхрысьціцца ад БНФ, а тады мы ўсе верылі ягоным словам, і спадзяваліся на яго.

Агітаваць у афіцыйных СМІ за нашых кандыдатаў было немагчыма. Усе газэты друкавалі матэрыялы толькі камуністычных кандыдатаў. Таму усё рабілася ахвярнай працай людзей. Памятаю, трэба было расклеіць шмат улётак у падтрымку Шушкевіча, і я брала сваю 11-гадовую дачку і яе сяброўку, і мы хадзілі па раёне Футлярнага заводу, па сваім мікрараёне і клеілі, раскідвалі ў паштовыя скрыні. Я пільна ўглядалася, каб не было міліцыянтаў, каб не схапілі мяне зь дзецьмі. Мы рызыкавалі, але вельмі спадзяваліся, што недарэмна.

Аднаго разу мы з сябрам-фронтаўцам Косьцем Лапко прышлі да спадара Шушкевіча па нейкім пытаньні. Толькі мы пачалі гаворку, як у кабінет увайшоў нехта з групы падтрымкі сп. Шушкевіча



*4. 1989 г. Нарада сяброў Сойму БНФ. У цэнтры М. Купава і З. Пазьняк.*

і сказаў, што па яго акрузе раськіданыя лістоўкі, быццам ён у свой час адрокся ад бацькі як ад „ворага народу”. Гаворка імгненна прыпынілася: „Выбачайце, правакацыя, трэба тэрмінова прымаць меры. Усё будзе добра, але зараз я мушу ісьці,” – запэўніў нас сп. Шушкевіч, бо мы шчыра зьбянтэжыліся за яго.

Мы прадаўжалі агітацыю кожны дзень і кожны вечар, пакуль не сьцямнее, хадзілі па дварах і пад’ездах. Вельмі стамляліся, але ніхто не стагнаў, бо так трэба было для Беларусі.

У выніку нашага ахвярнага змаганьня С. Шушкевіч стаўся дэпутатам СССР. Ад Народнага Фронту удалося правесьці толькі 4-5 чалавек, але ніхто з абраных тады дэпутатамі СССР не былі здольныя на асабістыя ахвяры дзеля Бацькаўшчыны. У „палітыцы” зь іх застаўся, бадай, толькі А. Дабравольскі (казаць жа пра ягоную ахвярнасьць на карысьць незалежнасьці Беларусі, на жаль, не прыходзіцца, асабліва пасьля ягонага вялага існаваньня ў Вярхоўным Савеце 13-га склікання).

Але тады наперадзе нас чакала больш сур’ёзнае выпрабаваньне: вылучэньне кандыдатаў ад Фронту ў Вярхоўны Савет БССР. У сітуацыі страшэннага паклёпу на Фронт мы мусілі шмат працаваць, каб тлумачыць людзям нашыя мэты і задачы.

## ФРОНТАЎСКАЯ ЛІТАРАТУРА

Важная роля ў нашым змаганьні належыла распаўсюджваньню *„Навінаў БНФ”* і іншай літаратуры, якую прывозілі ў асноўным з Прыбалтыкі. Атрымаць яе можна было ў Доме літаратара (дзе напачатку абаснаваўся Фронт), але як яе распаўсю-



*5. 1989 г. Менск. Зборка на „экалягічны” (чарнобыльскі) мітынг БНФ. Зьлева Галіна Пазьняк.*

дзіць і дзе? Найперш – на працы. Памятаю, як хадзіла я па пакоях свайго НДІ і прапаноўвала купіць газэты (у кіёсках Саюздруку іх, зразумела, не прадавалі). Спачатку людзі насцярожваліся, некаторыя пужаліся, але ў асноўным – бралі. Газэты каштавалі 30 капеек. І тым, хто сумняваўся ці баяўся купіць, хацелася проста падарыць нумар. Але для мяне было вельмі важна, каб чалавек сваімі трыццацю капейкамі як бы далучыўся да нашай сьвятой справы, таму я гаварыла пра кошт газэты і ў кабінетах супрацоўнікаў, і ў кіраўніцтва, і ў транспарце – дзе прыдзецца. Непаразуменьняў ня памятаю. Але найлепей было на мітынгах. Упэўненасьць, што раблю справу рызыкоўную, але патрэбную для Беларусі, пазбаўляла страху. Газэту куплялі з прыхільнасьцю. А падчас мітынгу – яе проста расхаплівалі. Бывала, людзі нават папярэджвалі: „Асьцярожна, міліцыянт!” – і закрывалі сьпінамі.

Перад пачаткам аднаго з першых мітынгаў на Паўднёвым Захадзе людзей сабралася шмат. Нашыя актывісты – зь бел-чырвона-белымі сьцягамі. І тут міліцыя катэгарычна забараняе мітынг на Паўднёвым Захадзе і прапаноўвае ісьці на „дазволенае” месца на вул. Уманскага. Разьлічвалі, што людзі разыйдуцца. Мы заклікалі не разыходзіцца і йсьці калёнай (адлегласьць у 3-4 тралейбусных прыпынкі). Імгненна арганізавалі калёну і рушылі пад сьцягамі.

Гэта было першае шэсьце менчукоў у нашым раёне на чале з актывістамі Койданаўскай Рады – прыгожае, вялікае, з песьнямі. Франтаўская літаратура таксама была з намі. Пачаўся мітынг. Мы вельмі хутка сталі распаўсюджваць газэты. І тут да мяне падышоў афіцэр міліцыі і прыгразіў: „Калі яшчэ раз убачу – вунь машына, бачыш, тлумачыць будзеш у аддзяленьні!” Я кінулася да мікрафона: „Дарагія людзі! Вось за гэтыя газэты, у якіх праўда пра нашае жыцьцё, вось той міліцыянт грозіць мяне арыштаваць!” Натоўп загудзеў. Людзі сталі абурацца, нехта прапанаваў „абараніць дзяўчыну”, нават прагаласавалі. Міліцыянт быў высьмеяны. А праз паўгода я сустрэлася зь ім у зале паседжаньня Менгарсавета. Гэта быў начальнік міліцыі Маскоўскага раёну Аляксандар Шчурко. Ён, як і я, быў абраны дэпутатам...

Фротнаўскія мітынгі на Паўднёвым Захадзе не абмінала ні намэнклятура, ні міліцыя, бо на іх заўсёды зьбіралася шмат людзей. Да кожнага такога мітынгу мы рыхтаваліся вельмі сур’ёзна, стараліся прадугледзіць усе акалічнасьці. На адзін такі мітынг прыехаў сакратар гаркаму П. Краўчанка абараняць ненавіснага ўсім намэнклятуршчыка Галко (першага сакратара менскага гаркаму КПБ-КПСС), які балатаваўся ў дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР у нашым раёне і за якога ўлада стаяла гарой. Слова ўзяў П. Краўчанка і пачаў хлусіць пра „сумленнага” камуніста Галко. Але нашая папярэдняя інфармацыя насельніцтва, нашыя ўлёткі не дазволілі яму падмануць людзей: Краўчанку абсьвісталі.

Так працавалі актыўныя людзі па ўсіх раёнах сталіцы. Але на многія „раённыя” франтаўскія мітынгі запрашалі нас, койданаўцаў, дапамагчы ня толькі прапагандыстамі, а і гукаўзмацняльнай апаратурай. (Калі зьбіралася шмат людзей, і ў асноўным на вуліцы, без мікрафонаў-гукаўзмацняльнікаў было ніяк, і ўсе прыстасаваньні мы павінны былі мець свае, бо ніхто, зразумела, нам нічога не „даваў”.)

Мне заўсёды хацелася быць разам з сябрамі, і яны бралі мяне ў каманду. Так мы аб’езьдзілі ўвесь Менск і некаторыя іншыя гарады Беларусі. Памятаю, як выступалі перад жыхарамі Маладэчна, стадыён якога быў поўны народу. Запомніўся



*6. 1989 г. Фронтаўскі мітынг на стадыёне ў Маладэчна. Ля мікрафона Галіна Пазьняк. (Зьлева са сьцягам С. Міхноў, у глыбіні – Г. Карпенка).*

яшчэ адзін мітынг, здаецца ў Барысаве. Нашым апанэнтам быў дырэктар завода Леанід Козік. Як жа яго ненавідзелі рабочыя! Яму не давалі прамаўляць, выкрыквалі „прэч!" А потым ён быў „абраны" ў Вярхоўны Савет. (Пазьней стаў адданым служкам Лукашэнкі.)

Заўсёды, калі я разносіла літаратуру, за мной сачылі міліцыянты. Тады мы прыдумалі хадзіць па-дваіх-траіх, і хто-небудзь быў з фотаапаратам. Як толькі да мяне скіроўваўся міліцыянт, „нашы" яго тут жа спрабавалі сфатаграфаваць (часам фатаапарат быў нават бяз плёнкі – не хапала грошай). Але прыём спрацоўваў, стрымліваў грубасьць міліцыянтаў і ахвоту „схапіць нефармала".

Кожнай такой маленькай „перамозе" мы радваліся і сьмяяліся, калі ўдавалася абдурыць міліцыянта. Так расла нашая дружба, адчуваньне сяброўскага пляча.

Падзеі ў Тбілісі, у Вільні, мужная барацьба Прыбалтыйскай дэлегацыі на зьезьдзе дэпутатаў СССР за сваю незалежнасьць – усё гэта (і гераічнае, і трагічнае) не было для нас „чужым” – „летувіскай”, „эстонскай”, латвійскай ці грузінскай справай. Іх мужнасьць натхняла і нас, беларусаў, мацавала наш дух, а відэматэрыялы (які Фронту ўдалося прывезьці ў Менск) пра ўвод танкаў у Тбілісі, Вільню і пра чалавечыя ахвяры ў барацьбе за незалежнасьць мацаваў нашыя сілы на змаганьне.

## ДАРЭМНЫЯ СПАДЗЯВАНЬНІ

Трансляцыю 1-га зьезда дэпутатаў СССР у Маскве глядзела ўся Беларусь. Гэта быў зьезд, на якім (дзякуючы незвычайнай мужнасьці і бясстрашшу дэлегацыі прыбалтыйскіх дэпутатаў) упершыню адкрыта з экранаў тэлебачаньня сьвет пачуў пра таямніцы жудаснай савецкай імпэрыі. Ім перашкаджалі, не давалі слова, але яны ўсёй сваёй камандай дамагаліся яго і казалі пра агідны пакт Молатава-Рыбентропа, пра акупацыю іхніх краінаў... Гаварылі сьмела, не баючыся і не аглядваючыся. Захоплівала дух ад іхнага прыкладу.

Мы на Беларусі пільна ўглядаліся ў экраны, каб убачыць нашых прадстаўнікоў С. Шушкевіча ці А. Дабравольскага сярод тых сьмелых і мужных дэпутатаў. Мы чакалі, што С. Шушкевіч, як і прыбалтыйцы, возьме слова і скажа пра вынікі Чарнобыля для Беларусі, пра акупацыю нашага краю, пра незалежнасьць. Але сп. Шушкевіча (як і іншых дэпутатаў ад Беларусі) чуваць не было, і мы ніяк не маглі сабе патлумачыць, чаму ён адмоўчваецца.

Калі ён вяртаўся з Масквы са зьезду, мы (чалавек пятнаццаць) вырашылі сустрэць яго, каб распытаць, выказаць падтрымку (бо ўсё яшчэ спадзяваліся, што гэта змагар за незалежную Беларусь). Сп. Шушкевіч нас не чакаў, ён быў крыху разгублены, і разам з тым, у нейкай эйфарыі. На пытаньні („Чаму вы ня выступілі?”) сп. Шушкевіч сказаў, што немагчыма было дамагчыся слова. „Гэта толькі пачатак, мы яшчэ возьмем сваё,” – запэўніў нас сп. Шушкевіч.

Але патрэбнага слова, якога Беларусь чакала ад дэпутата СССР С. Шушкевіча, ён так і не сказаў ні на 2-й, ні на 3-й сэсіі. Імпэрыя развальвалася на вачах, і трэба было (калі на ўласнае змаганьне не хапала мужнасьці) хаця б салідарызавацца з Прыбалтыйскай дэлегацыяй, далучыцца да іхных заяваў... Праўда, камэра зафіксавала нейкі ягоны выступ, але гэта было нейкае лепятаньне, нешта такое невыразнае, што я запомніла толькі сам факт выступу.

Час патрабаваў мужных гераічных людзей, якія б не баяліся. Спадар Шушкевіч аказаўся іншым, але ў гэта так не хацелася верыць, і мы яшчэ шмат часу спадзяваліся на яго...

## ЗМАГАРЫ-РАМАНТЫКІ

Як супрацоўніца НДІ педагогікі я тады мела некалькі гадзінаў рускай мовы ў школе „Паўднёвага Захаду” Маскоўскага раёну. Гэта былі часы, калі толькі-толькі пачалі зьяўляцца бел-чырвона-белыя значкі і ўлады адразу пачалі шальмаваньне нашай сымволікі. Газэты друкавалі брудныя артыкулы, на нашыя мітынгі камуністы прывозілі стэнды з артыкуламі і фатаграфіямі (са сфальшаванымі матэрыяламі, каб скампраметаваць нацыянальную сымволіку і БНФ). Намэнклятура старалася заблытаць людзей, бо ў тыя часы „шырокія масы” мала што ведалі ці зусім нічога ня ведалі пра *Бел-Чырвона-Белы сьцяг*, пра *гэрб Пагоня*. Як заўсёды, намэнклятура разьлічвала на сілу падману. Некаторыя верылі.

Насіць бел-чырвона-белую значку было забаронена. Але я сваю маленькую значку не здымала ніколі, нават у школе, на занятках. Вучням гэта вельмі падабалася. Паколькі я была навуковым супрацоўнікам НДІ і не была падпарадкаваная школьнаму кіраўніцтву, яно рабіла выгляд, што не заўважае мой сьцяжок.

Пасьля першых мітынгаў на Паўднёвым Захадзе, дзе я заўсёды актыўна ўдзельнічала, адносіны да мяне ў школе рэзка падзяліліся: адны ставіліся да мяне з павагай, другія – зь нянавісьцю.

Нашая праца была цяжкай і самаахвярнай. Бо супраць нас працавала велізарная партыйна-дзяржаўная машына. Але мы не шкадавалі ня толькі часу і сілаў, нярэдка аддавалі свае апошнія грошы на газэты, паперу, на „абсталяваньне” мітынгаў, на штрафы і г.д.



*7. Сакавік 1991. Фронтаўскі мітынг ля Дома Ураду ў Менску. Збор сродкаў на Фронт.*

Нярэдка на мітынгах прыходзілася зьбіраць ахвяраваньні. Аднаго разу падчас збору ахвяраваньняў адзін мінчук усклікнуў: „Эх, зрабіў „заначку” ад жонкі, але вам аддаю, ня шкода.” Навакол засьмяяліся. (Мы падзякавалі, але параілі ўсё ж не хаваць ад жонкі грошы.)

Кожнага разу пасьля збору сродкаў мы стваралі падліковую камісію і разам лічылі грошы. Потым складаўся пратакол, які падпісвалі некалькі асобаў, і грошы „здавалі” кіраўніку Койданаўскай Рады і сябру Сойма БНФ Сяргею Міхнову. Пра далейшы лёс грошай ніхто ніколі не пытаўся. Наша адданасьць Беларусі, Фронту, барацьбе за свабоду здавалася настолькі бясспрэчнай, што ні ў каго не ўзьнікала ніякіх дрэнных думак, акрамя агульнай справы і агульных інтарэсаў.

26 лютага 1990 г. на адным з буйнейшых перадвыбарчых мітынгаў на плошчы Незалежнасьці (тады плошчы Леніна) прысутнічалі кіраўнікі ЦК КПБ. Іх спэцыяльна, ведаючы іхнюю наздарнасьць ў прамаўленьні, запрасіла нашае кіраўніцтва БНФ, каб яны выступілі перад народам. У народзе іх называлі „андатравыя шапкі”, бо гэтыя „андатры”, як і так званыя „дублёнкі”, у тыя часы былі характэрнай прыкметай намэнклятуры. Яны каштавалі дорага, былі страшэнным „дэфіцытам”, у свабодны продаж, як правіла, не пастуралі, разьмяркоўваліся нават не ў крамах, а яшчэ на гандлёвых базах, і толькі па начальству.

Вышэйшае намэнклятурнае начальства Беларусі стаяла перад людзьмі ў сваіх шапках. Народ пачаў патрабаваць, каб тыя, выступаючы перад людзьмі, зьнялі іх (фронтаўцы былі ўвогуле бяз шапак). Але першы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў прадаўжаў выступаць у шапцы. Людзі абураліся, не давалі яму гаварыць. У адрас намэнклятуры сыпаліся моцныя словы, воклічы непрыняцьця.

Камуністычны начальнік рабіў адчайную спробу абараніць „кіруючую і напраўляючую” ролю кампартыі ад „экстрэмістаў”, як камуністы казалі пра барацьбітоў за незалежнасьць Беларусі. Але нічога, акрамя грэблівасьці і гневу, выклікаць у статысячнага мітынгу ні Я. Сакалоў, ні іншыя „кіраўнікі” ўжо былі ня ў стане. (Сакалоў, дарэчы, у час выступу



*8. 26 лютага 1990 г., 100–тысячны перадвыбарчы мітынг БНФ у Менску. Выступае З. Пазьняк.*

так і не зьняў сваё „шапё”. Плошча аж раўла. Тады Пазьняк супакайвае людзей і кажа нешта накшталт: „Ды ня здыме ён сваю шапку, ня можа паступіцца прынцыпамі. Хай гаворыць ў шапцы”.)

Як заўсёды, я з сябрамі зьбірала на мітынгу ахвяраваньні (папярэдне вядучы прадставіў мяне, я са скрыняй выйшла да мікрафона, каб усе мяне ўбачылі). Плошча была запоўнена менчукамі. Шмат журналістаў, тэлекамераў. І тут я нечакана разварочваюся да Я. Сакалова і са сьмехам прапаную: ахвяруйце на Народны Фронт! Ад нечаканасьці партыйны кіраўнік аслупянеў. Усе кінакамеры, якія былі на плошчы, разьвярнуліся ў наш бок і сталі здымаць, зашчоўкалі фотаапараты, людзі з цікавасьцю назіралі. Сакалоў бездапаможна і разгублена адступіў на крок-другі. Сытуацыя станавілася сьмешнай. І, каб адчапіцца, ён кінуў у скрыню пяць рублёў. Сьмяялася ўся плошча: Сакалоў ахвяраваў грошы Народнаму Фронту.

Камуністычная ўлада ў той час з усёй сілы старалася абылгаць Фронт, і асабліва – Зянона Пазьняка. Чаго дамагаецца Зянон Пазьняк, якая праграма Народнага Фронта – пра гэта бальшыня беларусаў ня ведалі, а чулі толькі брудны паклёп і лаянку ў бок Пазьняка і Фронта. Таму напрыканцы мітынгу было вырашана (прагаласавалі) ўсёй калёнай ісьці на тэлебачаньне, патрабаваць непасрэднага эфіру, каб прымусіць камуністаў даць магчымасьць Зянону Пазьняку і іншым прадстаўнікам Народнага Фронту выказаць з тэлеэкрану сваю праграму і патлумачыць, чаго дамагаецца Народны Фронт.

Плошча рушыла да адміністрацыйнага будынку тэлецэнтра. Людзі ішлі зьяднаныя, рашучыя, упэўненыя ў сваёй сіле. Уся тэрыторыя праспэкту ад паштамту да тэлецэнтру запоўнілася дэманстрантамі. Масы людзей акружылі будынак тэлебачаньня. Дэлегацыя начале з Зянонам Пазьняком пайшла ў будынак з патрабаваньнямі эфіру. Натоўп гудзеў. Нейкі час мы стаялі ў чаканьні, але кожны, хто там знаходзіўся, настроены быў вельмі рашуча. Уражаньне было такое, што калі эфіру не дадуць, людзі разьнясуць будынак па цагліне.




*9. 26 лютага 1990 г., 100–тысячны перадвыбарчы мітынг БНФ у Менску.*

Нарэшце да нас выйшаў Зянон Пазьняк і паведаміў, што нашае патрабаваньне абяцаюць выканаць, але франтаўская дэлегацыя павінна ехаць на вуліцу Макаёнка, да вытворчага тэлецэнтра. „Ня трэба разыходзіцца. Калі нас тут ня будзе, намэнклятура проста падманіць і ня дасьць эфір”, – заклікаў Зянон Пазьняк. І ўсе людзі ня толькі засталіся чакаць, але запатрабавалі вынесьці тэлевізар на вуліцу, каб выступ кіраўнікоў Фронту па беларускім тэлебачаньні бачыць на свае вочы. Патрабаваньні былі настолькі рашучыя, што кіраўніцтва тэлебачаньня і намэнклятура спужаліся. Вынесьлі вялікі тэлевізар, і праз нейкі час мы ўсе ўбачылі гэты выступ – не-

пасрэдны выступ кіраўнікоў Народнага Фронту ў адкрытым эфіры.

Потым шмат хто расказваў: як толькі на экране зьявіўся Зянон Пазьняк і іншыя прадстаўнікі Фронту, у першы момант ня верылі сваім вачам, а праз пару хвілінаў пачалі тэлефанаваць знаёмым – хутчэй уключайце тэлевізар! Гэта сталася падзеяй, роўнай выбуху бомбы. Гэта была бліскучая перамога і Зянона Пазьняка, і Фронта, і тысячаў рашучых, сьмелых людзей, якія адчулі сябе гаспадарамі на сваёй зямлі.

Праз паўгадзіны на тэлестудыі было сабранае ўсё камуністычнае кіраўніцтва Беларусі, якое спрабавала „адкруціць” сітуацыю, „раскрыць сапраўдны твар нефармалаў”, але іхныя выступы ўжо нічога ня значылі пасьля выступу Фронта, пасьля словаў Пазьняка ў эфіры.

* * *

Успамінаецца, як цяжка тады было ўсім нам. Не было ні памяшканьня, ні тэхнікі. Але мы неяк на гэтым не засяроджваліся. Намі кіравала жаданьне пераменаў, непрыняцьце камунізму і цьвёрдая вера ў перамогу. Пра асабістае, пра ўласны дабрабыт зусім ня думалася. Так, прынамсі, думалі і адчувалі шмат хто. Але мне здавалася, што так думаюць абсалютна ўсе.

Аднаго разу жонка Сяргея Міхнова мне сказала па сакрэту, што Сяргей купіў два дамы недзе ў вёсцы. Я зьдзівілася: чаму так сакрэтна, гэта ж вельмі добра – дом. Але яна вельмі прасіла не прагаварыцца Сяргею, што я ведаю. Я так і не зразумела, чаму гэта быў „сакрэт”.

* * *

Рэспубліканская арганізацыя Фронта зьбіралася ў Чырвоным касьцёле (тады – Дом кіно), ва ўнівэрсытэце, у музэях. А мы, у раёне, знайшлі нейкае непрыстасаванае падсобнае памяшканьне ў адным з дамоў Паўднёвага Захаду. Зьбіраліся і на кватэрах. Часьцей за ўсё – у гасьціннай і ўтульнай 4-пакаёвай кватэры Сяргея Антончыка. Гаварылі пра нашыя задачы, плянавалі мерапрыемствы, сьпявалі беларускія песьні, пілі гарбату (ніякай гарэлкі!), марылі. Кожны раз Сяргей Антончык прасіў мяне пачытаць беларускія вершы, што я рабіла з задавальненьнем.




***10. Франтаўскія „Дзяды” 2.XI.1991, Менск.***

Памятаю, як аднаго разу, пачуўшы ў выступе Пазьняка, што ў вольнай Беларусі ня будзе „прапіскі”, мы дружна абмяркоўвалі гэтую праблему. Прывычныя да савецкіх „стандартаў”, усе мы моцна дзівіліся:

– Як гэта – без прапіскі?

– Гэта ж можна будзе ўсюды езьдзіць і, калі захочацца, застацца жыць і працаваць, дзе спадабалася, – казаў нехта.

– І ніякай „прапіскі” будзе непатрэбна, – дадаваў другі. Мы ніяк не маглі надзівіцца і нарадавацца гэтай „навіне”.

– Без „прапіскі” – гэта ж будзе зусім новае жыцьцё! – радваліся мы будучаму шчасьцю.

Гаварылі па-беларуску, і як толькі хто пераходзіў на расейскую мову, Міхноў (сам жа расеяц) адразу загадваў: „Гаворым па-беларуску!” Нярэдка мы разыходзіліся пад раніцу, адразу на працу.

Не хачу нікога пакрыўдзіць, але мне здаецца, што нашая Койданаўская Рада была самая дружная, самая лепшая, самая ахвярная, моцная і рамантычная. Тыя часы Койданаўскай Рады былі сьветлыя, чыстыя і найлепшыя. Не існавала ні здрады, ні падману. Разам нам было вельмі ўтульна і радасна, мы адчувалі душэўны камфорт. Мы

жылі агульнымі інтарэсамі, агульнымі праблемамі, агульным змаганьнем. Самае важнае і дарагое ў нас было агульным – гэта нашая Беларусь, за будучыню якой мы змагаліся. Быць разам і змагацца за Беларусь – гэта было шчасьце.

Памятаю, летам я вырашыла звазіць дачку, якая вельмі часта прастуджвалася, на поўдзень, каб загартаваць яе. Але мне было сорамна перад сябрамі, што я зьнікну амаль на тры тыдні з агульнага нашага жыцьця, калі столькі працы дзеля нашай Бацькаўшчыны. Я падзялілася гэтымі думкамі са сваім сябрам Сяргеем Антончыкам, на што ён проста загадаў мне, каб я выкінула такія думкі, ехала і „аздараўляла" дачку.

23-га чэрвеня 1989 года ўсе актыўныя койданаўцы дружнай камандай паехалі на Першы Ўстаноўчы зьезд БНФ у Вільню, дзякуючы салідарнай падтрымцы летувісаў, якія далі нам такую магчымасьць. Правесьці ж наш Першы Зьезд у Беларусі ўлады не дазволілі. „Никакой независимости, никакого Народного Фронта и никакого съезда!" – заяўлялі яны і лічылі, што будзе так, як было ўжо 70 гадоў пры саветах. Шырокі грамадзкі рух і масавыя патрабаваньні не цікавілі „гаспадароў жыцьця", загадваць яны прызвычаіліся. Але часы імкліва мяняліся, і сталася па-нашаму.

Зьезд атрымаўся ўрачыстым і прыгожым (заля была з густам ўпрыгожана нацыянальнай сымболікай, плякатамі, партрэтамі выбітных беларусаў – вынік працы лепшых беларускіх мастакоў). Была зацьверджана Праграма і Статут БНФ, абраны Старшыня Народнага Фронту Зянон Пазьняк і ягоныя намесьнікі: Міхась Ткачоў і Юры Хадыка. Пасьля гэтага мы мелі юрыдычнае права рэгістраваць Народны Фронт як грамадзкую арганізацыю.

А дома нас чакала цяжкая праца першай выбарчай кампаніі ў Вярхоўны Савет БССР і мясцовыя Саветы.

## ПАЧАТАК БАРАЦЬБЫ ЗА ВЯРХОЎНЫ САВЕТ БССР І МЯСЦОВЫЯ САВЕТЫ

Сходы па вылучэньні кандыдатаў у дэпутаты, дзе вылучаліся нашыя прадстаўнікі, ніколі не заставаліся па-за ўвагай улады. Камуністы стараліся запоўніць бальшыню залі кагэбістамі і правакатарамі.

Паседжаньне рэспубліканскай арганізацыі Таварыства Беларускай Мовы па вылучэньні кандыдата ў дэпутаты БССР адбывалася ў вялікай аўдыторыі Тэхналягічнага інстытуту. Народу сабралася шмат, бо адным з вылучэнцаў быў Зянон Пазьняк. Каб яму перашкодзіць быць абраным кандыдатам, сабралі „лепшыя сілы" КПСС. Яны вылучылі ня толькі сваіх артадоксаў, але пастараліся сутыкнуць баларусаў ілбамі і прапанавалі ў якасьці альтэрнатывы Пазьняку вельмі прыстойнага чалавека, рэктара аднаго ВНУ. Памятаю, як шчыраваў камуніст П. Краўчанка, нейкі камуніст Суша. У іх усё было адпрацавана гадамі, расьпісана, як па нотах. Але як ні стараліся камуністы, перашкодзіць Народнаму Фронту яны былі ня ў стане, і на гэтым сходзе перамог Занон Пазьняк, які быў абраны кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савету БССР ад ТБМ.

На гэты раз у кожным раёне былі нашыя вылучэнцы. У асноўным гэта была наша беларуская інтэлігенцыя, лепшыя людзі, якія стаялі на незалежніцкіх пазыцыях.

Пачалася перадвыбарчая кампанія. Групы падтрымкі фронтаўскіх кандыдатаў працавалі па выбарчых акругах ў кожным раёне. Я тады працавала ў сваім, Маскоўскім.

## КОЙДАНАЎСКАЯ РАДА БНФ

У Маскоўскім раёне Менска Народны Фронт (Койданаўская рада) быў сканцэнтраваны на Паўднёвым Захадзе і кіраваў Радай Сяргей Міхноў. На тыя часы ён быў актыўным фронтаўцам, умеў арганізаваць людзей. Мы моцна сябравалі – Сяргей Міхноў, Сяргей Антончык і я. Пазьней такім сябрам стаў і Валянцін Голубеў.

У нашай Радзе сабралася шмат людзей, якія ня толькі „ў душы" жадалі пераменаў, але былі вельмі актыўнымі. Самае моцнае пачуцьцё таго часу для мяне зьяўляецца пачуцьцё пэўнай і вернай сяброўскай надзейнасьці. Нашыя думкі, дзеяньні і лад жыцьця я часам параўноўваю зь бегам, бо нашую агульную справу Адраджэньня Беларусі мы ўсе разам рабілі з энэргіяй, я б сказала „бягом".

На ўсё хапала сілаў і жаданьня зрабіць як найлепей і як найхутчэй. Мы зьбіраліся пасьля працы і абмяркоўвалі палітычную сітуацыю, свае дзеяньні па выбарчай кампаніі. Спачатку мы займаліся выбарчымі сходамі ў Вярхоўны Савет.

Найбольш прыймальным для нас (хоць і надзвычай цяжкім) стаў шлях вылучэньня па месцу жыхарства ад выбаршчыкаў. (Можна было вылучацца яшчэ і ад працоўнага калектыву, але антыкамуністу гэты шлях быў зачынены: ні начальства, ні камуністычныя прафсаюзы не дапусьцілі б гэтага пад уціскам няўсыпнага вока партыйнага камітэту (парткаму), якія існавалі ў любым рабочым калектыве.)

Гэты шлях быў цяжкім, бо каб вылучыць у дэпутаты нашага прадстаўніка, неабходна было сабраць на кожны сход па вылучэньні фронтаўскага кандыдата ня менш за 500 жыхароў з выбарчай акругі. Мы ўпарта хадзілі па кватэрах і запрашалі на сход выбаршчыкаў. Хадзілі па дамах, стукаліся ў кожную кватэру, тлумачылі і запрашалі на сход. Бывала ўсяляк. Часамі, калі мы агітавалі па кватэрах, які-небудзь камуніст-артадокс выклікаў міліцыю, каб нас схапілі.

Але мы былі разам, мы былі як сям'я. Пра нейкія няўзгодненыя дзеяньні, нечую „самадзейнасьць", нязгоду з агульнапрынятым рашэньнем – не магло быць і гаворкі. Мы разумелі: трэба быць „у кулаку", пільна трымаць вуха, бо ворагаў і ахвочых загарнуць нашую Беларусь занадта шмат, каб ня быць пільнымі. Таму, ня гледзячы на велізарную камуністычную машыну, вельмі часта мы перамагалі, хоць барацьбітоў, якія нічога не баяліся (ні камуністычнай улады, ні хлусьні, ні паклёпу), было ня так і шмат. А калі пазьней фронтаўская Апазыцыя ў Вярхоўным Савеце пачала перамагаць абсалютную камуністычную большасьць „малымі сіламі" і потым аднавіла незалежнасьць Беларускай дзяржавы, яе нацыянальныя сымвалы, спыніла дзейнасьць КПСС рукамі самой жа КПСС і г. д., тады стаў відавочным ўсім Боскі закон: перамога даецца тым, хто змагаецца, хто аб'яднаны, дзейнічае ўзгоднена, як адзін кулак. (У наступнай выбарчай кампаніі ў 1995 годзе перамогі не адбылося, на мой погляд, яшчэ і таму, што для часткі фронтаўцаў выбары сталі „сваімі", асабістымі. Неабходныя былі салідарная ўзаемадапамога і татальны кантроль за ходам выбарчай кампаніі, што не пад сілу нейкім адзінкам і магло быць дасягнута толькі ўсімі разам. Рэжым ужо тады скарыстаў супроць Фронту безаглядную фальсіфікацыю. Але гэтай паразе паспрыялі і тыя, што перасталі дзейнічаць калектыўна – В. Івашкевіч, У. Анцулевіч, В. Трыгубовіч і іншыя раскольнікі, якія (каб стаць дэпутатамі) дзейнічалі згодна сваіх асабістых інтарэсаў, маючы свой „уласны выбарчы бюджэт" і ўласную выбарчую кампанію. У выніку – рэжыму ўдалося беспакарана сфальсіфікаваць выбары, і дэпутатам ад Фронту ня стаў ніхто.)

Нягледзячы на цяжкасьці, неабходны кворум на сходы выбаршчыкаў мы зьбіралі. Але абавязкова прыяжджалі і прадстаўнікі з райвыканкаму, партыйныя „работнікі" сачыць за намі. Яны ўсяляк стараліся зацягнуць час пустымі пытаньнямі-дыскусіямі, каб людзі ня вытрымалі доўгага сядзеньня ў залі ў будні дзень. Калі намэнклятуры ўдавалася вельмі зацягнуць час, заля паступова пусьцела, не дачакаўшыся галасаваньня. У людзей, як заўсёды, было шмат справаў, асабліва ў жанчын. Дома чакалі дзеці, сям'я, назаўтра рана на працу, а тут сход зацягваецца на 3-5 гадзінаў... І тады ўсе нашыя намаганьні, каб сабраць людзей, аказваліся дарэмнымі: людзі не вытрымлівалі і йшлі дадому. Мы прасілі іх вярнуцца праз 1-2 гадзіны на галасаваньне. Было ўсяляк. Часам, назаўтра зноў пачыналі з абходу дамоў і з просьбай яшчэ раз сабрацца на сход...

Вынікі галасаваньня такога сходу пільна адсочваліся. У асноўным, гэта тычылася колькасьці галасаваўшых. У астатнім (ня гледзячы на стараньне намэнклятуры і ейныя правакацыі) мы перамагалі. Але нават калі сход прызнаваўся „не адбыўшымся", мы не гублялі прысутнасьці духу: зноў і зноў зьбіралі людзей на сходы. Так здарылася, калі мы зьбіралі сход па вылучэньні кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета ад Фронту Сяргея Міхнова, вылучыць кандыдатуру якога ўдалося толькі на другі раз.

Выступаючы на сходзе выбаршчыкаў па вылучэньню кандыдата ў дэпутаты, Сяргей моцна хваляваўся. Хваляваліся і мы, яго сябры. Але на Паўднёвым Захадзе Менска (дзе вылучаўся Сяргей) Фронт гучэў моцна, тут мы працавалі злажа-

на і шмат – і вынікі былі. І калі С. Міхноў стаў кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР, у яго абраньні дэпутатам ён (і ўсе мы) былі ўпэўненыя. Таму Сяргей на сваёй акрузе амаль не працаваў, а дапамагаў іншым фронтаўцам (у тым ліку і асабіста мне). А працаваць было трэба, і моцна.

Тое, што Сяргей амаль не працуе на сваёй акрузе дзівіла, я нават падумала, а ці хоча ён увогуле стаць фронтаўскім дэпутатам. Але ў тым жыцьцёвым рытме было не да „доўгіх разваг". Мы ўсе „сьпяшаліся" і „без працы" не былі ніколі (ня там, дык тут). (А вось калі на выбарах Сяргей „не прайшоў", паверыць у гэта і „пагадзіцца" ўсім нам было вельмі цяжка, хоць мы і разумелі, ды і сам Сяргей гэта прызнаваў, што так сталася ў выніку слабой агітацыйнай кампаніі на яго выбарчым участку.)

Асабліва запомнілася мне, як мы змагаліся за вылучэньне ў кандыдаты Валянціна Голубева. Гэта была агульная фронтаўская барацьба.

Заля адной са школаў Паўднёвага Захаду была поўнай, а мы ўсё яшчэ хадзілі па дамах і запрашалі людзей (на выпадак, калі камуністам ўдасца зацягнуць час і людзі пачнуць разыходзіцца).

Пачалося вылучэньне кандыдатаў. Іх назьбіралася больш за дзясятак. Потым – выступы вылучэнцаў, потым выступы з залі: адзін у падтрымку, адзін супраць.

Выступ Валянціна Голубева быў добры, але ж і апанэнты „не драмалі". У залі хапала „людзей у цывільным" і памагатых. Мы хваляваліся за галасаваньне. І тут нечакана прыехаў Зянон Пазьняк (гэта, дарэчы, ён угаварыў маладога камуніста-беларуса і навукоўца Голубева уступіць у Фронт і балатавацца ў дэпутаты). Зянон Пазьняк выступіў у падтрымку Валянціна. Заля літаральна ўзарвалася апладысьмэнтамі. Перамога была забясьпечана, і кандыдатам у дэпутаты сход выбаршчыкаў выбраў Валянціна Голубева.

Паколькі цэнтар Койданаўскай Рады БНФ Менска канцэнтраваўся на Паўднёвым Захадзе, амаль кожны дзень я езьдзіла туды на гарадзкім транспарце, бо жыла на адлегласьці 7–10 тралейбусных прыпынкаў ад сваіх сяброў, у раёне вуліц Люксембург- Лермантава, і на пачатку была ў сваім раёне адзінай фронтаўкай. Калі сябры прапанавалі мне вылучыцца кандыдатам у дэпутаты Гарсавета па месцы жыхарства (у Вярхоўны Савет у маім раёне Фронт вылучыў В. Вячорку), я разгубілася. З аднаго боку я разумела, што нельга аддаваць акругу камуністам і трэба змагацца. Але ж я тут была адна. „Чаго ты баішся, мы ж будзем з табой разам, „– сказалі сябры. І я пагадзілася.

Маім вылучэньнем займаўся Сяргей Міхноў. Ён знайшоў нейкі кааператыў, працоўны калектыў якога мяне і вылучыў – рэдкі выпадак, калі людзі не пабаяліся вылучыць фронтаўку.

Я здала ў выбарчую камісію неабходныя дакументы, і неўзабаве мне выдалі пасьведчаньне кандыдата ў дэпутаты Менгарсавета па 75-й Лермантаўскай акрузе.

І сапраўды, не было выпадку, калі б я засталася адна ў „сваёй выбарчай кампаніі". Здаецца, на маю выбарчую акругу зьяжджаліся ледзь ня ўсе койданаўцы. Запомнілася, як аднаго разу ішоў сьнег з дажджом і на вуліцы было вельмі мокра і няўтульна. Я чакала сяброў пасьля працы, але ня вельмі спадзявалася, што хто-небудзь прыедзе. Прыехала ж чалавек дзесяць. Мы хадзілі па дварах зь мегафонамі, гаварылі зь людзьмі ў дварах. Часам некаторыя выходзілі да нас паглядзець як на дзіва: такая непагадзь, а яны – пра выбары. Дзівакі!

А мы не шкадавалі сіл для будучыні. Часамі я стамлялася так, што дома вечарам так і засынала ў крэсьле. А назаўтра – ізноў праца ў акрузе да-пазна. Тады было так. Аднекуль браліся сілы, якія перамагалі і грыпу, і кашаль, і неверагодную стому. Немагчымае станавілася магчымым.

## ВЫБАРЫ-90

Папярэднія вынікі выбараў, як правіла, становяцца вядомымі ноччу, у дзень выбараў. Мы чакалі агульных вынікаў, бо ніхто не перажываў „за сябе", усе хваляваліся за Фронт. У гэтую ноч да фронтаўскай інфармацыі дазваніцца было складана. І вось першыя зьвесткі: Пазьняка выбралі з першага туру галасаваньня!

Але далей мы даведаліся, хто з фронтаўскіх кандыдатаў, адзін за другім, „не прайшоў" на другі тур, ці дакладней сказаць, каму не далі прайсьці: падліковыя камісіі ўсе былі „схопленыя" КПБ. Гэта быў першы, вельмі моцны ўдар. І ня ўсе яго здолелі вытрымаць...

Потым пачаліся бясконцыя новыя і новыя давыбары, але істотна павялічыць Апазыцыю БНФ у Вярхоўным Савеце не ўдалося.

Не прайшла ў Гарсавет і я. Выбары па маёй акрузе абвясцілі не адбыўшыміся, бо ў галасаваньні прыняло ўдзел менш 50 адсоткаў выбаршчыкаў, хоць у выніку галасаваньня па маёй акрузе сярод пяці кандыдатаў перамога была за мной.

Праз два месяцы былі абвешчаныя дадатковыя выбары. Сябры прапанавалі мне паспрабаваць яшчэ раз, каб (калі ўжо ня выйграць), дык ня даць прайсьці намэнклятуры. Я пагадзілася. І пачаліся ізноў цяжкія дні працы ў дварах, на сходах, на мітынгах. Як заўсёды, са мной былі мае сябры-франтаўцы. У дзень выбараў яны наладзілі сур'ёзны кантроль за галасаваньнем і падлікам галасоў на выбарчых участках. Мы (чалавек дзесяць) чакалі вынікаў у мяне дома. Каля першай ночы вынікі сталі вядомыя. Я перамагла трох канкурэнтаў.

Мы абдымаліся, сьмяяліся, гаварылі, гаварылі. Кожны з маіх сяброў радваўся за маю перамогу, як за асабістую, бо ўспрымалі яе як перамогу Фронта. Разьвітваючыся з сябрамі, я запэўніла, што ўся мая дзейнасьць у Гарсавеце будзе ад імя Фронту і дзеля Беларусі.

## АНТЫКАМУНІСТЫЧНАЯ ДЭМАНСТРАЦЫЯ – 90

У гэтым жа 1990-м кіраўніцтва Фронту вырашыла правесьці ў Менску ўсебеларускую антыкамуністычную дэманстрацыю і мітынг якраз на 7 лістапада (у дзень кастрычніцкага бальшавіцкага перавароту 1917 года). Заяўнікамі былі чалавек 5-6 дэпутатаў-франтаўцаў Вярхоўнага Савета (З. Пазьняк, В. Голубеў, Л. Баршчэўскі, Г. Сямдзянава і яшчэ некалькі чалавек). У сьпісе заяўнікаў стаяла і маё імя як дэпутата Менгарсавета.

Дэманстрацыю, як ня дзіўна, дазволілі (ізноў „падставіўся" шчыры наш Аляксандар Міхайлавіч Герасіменка), бо, відаць, тагачасная камуністычная ўлада і падумаць не магла, якія маштабы прыме гэтая акцыя і якія незваротныя вынікі ад яе чакаюць беларускае грамадзтва. А падзея атрымалася знакавай.

Было вырашана ісьці не традыцыйна – ад плошчы Незалежнасьці (тады пл. Леніна) да Круглай плошчы, – а наадварот, да Вярхоўнага Савету. Таму менчукі і антыкамуністы з усёй Беларусі зьбіраліся нараніцы на плошчы Якуба Коласа.

Як заўсёды, нашую калёну суправаджала франтаўская Дружына, бо кіраўніцтва адраджэнцкага руху вельмі дбала як за парадкам падчас франтаўскіх масавых мерапрыемстваў, так і за ягонай „эстэтыкай". (Потым гэта стала нашай добрай франтаўскай традыцыяй на ўсіх нашых акцыях: парадак, чысьціня, культура паводзінаў і прыгожы агульны выгляд нашых калёнаў ці „плошчаў".)

Франтаўская калёна рушыла вельмі арганізавана і была аформлена рознымі антыкамуністычнымі транспарантамі, распрацаванымі беларускімі мастакамі. Луналі нацыянальныя сьцягі. Мы ішлі па праспэкце Францыска Скарыны (тады Леніна) вясёлыя, з радасьцю дэманстравалі канец камунізму. Людзі увесь час скандавалі антыкамуністычныя лёзунгі: „Далоў КПСС!", „Камуністы – вон зь Беларусі!" і г.д. Такое масавае шэсьце супраць КПСС (тысячаў 30-40 чалавек) – было ўпершыню. Жыхары дамоў уздоўж праспэкту „абляпілі" вокны, бальконы. Нас віталі і падтрымлівалі, а ад калёны гучна разносілася: „Хадзем з намі! Хадзем з намі!"

Калі мы дасягнулі будынка КДБ, тут беларускаму гумару ў калёне не было канца. Перапужаныя кадэбэшнікі не маглі ўцяміць, што адбываецца, чаму людзі, маса людзей, рагоча зь іхных высунутых у вокны вушэй, акругленых вачэй і разьзяўленых ратоў. „Што гэта, землятрус?" – чыталі мы на іхных паўпрытомных тварах. А у адказ чулася: „Далоў камунізм!", „Хадзем з намі!" Карціна была сьмешная, і дэманстранты проста рагаталі з яшчэ ўчора „грозных" служкаў таталітарнага рэжыму.

На плошчы Леніна пачаўся мітынг. Дэпутаты прамаўлялі, заклікалі беларусаў разьвітацца з цяжкім камуністычным мінулым. Зьявілася міліцыя і стала ў дзьве шэрэнгі ўздоўж вуліцы „Советской", „бароначы" чорны помнік Леніну.

Пазьняк зьвярнуўся да людзей, каб утварылі калідор – праход да помніка, якому было вырашана ўскласьці „дары ГУЛАГа" (шыбеніцы, кайданкі, ланцугі, зэкаўскую фуфайку, пудзіла энкавэдзіста і

г.д. – усё, што прынёс Ленін і камунізм). Людзі раступіліся, і група ўскладальнікаў урачыста рушыла да помніка чорнага ідала. Узначальваць „шэсьце" павінны былі 4 дэпутаты. Заранёў я пра гэта ня ведала, але мяне паклікалі Сяргей Антончык і Валянцін Голубеў, і мы ўчацьвярох (разам з Галінай Сямдзянавай) рушылі як дэлегаты народа да шэрэнгаў міліцыі, якая перашкаджала ускладальнікам „дароў" прайсьці да помніка. Нічога „страшнага" мы рабіць не зьбіраліся – толькі зьдзейсьніць сымвалічны акт (аддаць даніну іхняму Леніну тымі сымвалічнымі рэчамі, якія ўвасаблялі камуністычны рэжым, і ўскласьці іх да падножжа статуі). Але гэтая сымволіка так напужала камуністаў, што міліцыі быў дадзены загад спачатку не пускаць людзей, а потым – зрабіць сутычку. Людзі гэта зразумелі і сілай натоўпа разарвалі міліцэйскі лянцуг. Сымвалічная акцыя была зьдзейсьнена. Міліцыя спрабавала адціснуць людзей, „рассекчы", але на зьбіцьцё не адважылася.

Мы ж, Народны Фронт, сваю задачу выканалі. Гэта сталася кропкай адліку агоніі камунізма ў Беларусі.

Літаральна на наступны дзень пачаўся шквал паклёпу на Народны Фронт. Радыё, тэлебачаньне, газэты – усе хорам раўлі пра „экстрэмістаў" і „фашыстаў" БНФ. Атака была масаваная (але для бальшыні фронтаўцаў ня страшная), якая моцна перапужала, аднак, тых, хто ня быў сапраўдным адраджэнцам, а стаўся толькі спадарожнікам Адраджэньня да першага выпрабаваньня, пакуль „усё было ціха". Як толькі іхнаму ўласнаму камфорту нешта перашкодзіла, яны тут жа адмовіліся і ад Фронта, і ад Адраджэньня, і тым больш – ад змаганьня. Гэтыя людзі (у асноўным камуністы-перабудоўшчыкі, розныя савецкія пісьменьнікі і т. п. ) пасыпаліся з Фронту, як асеньняе лісьце на дол пад парывам моцнага ветру. Пад шалёнай атакай камуністычных ўладаў, партыйнах ворганаў, друку, радыё-тэлебачавньня і функцыянераў (атака сапраўды была жудаснай, масаванай, усеабдымнай, з дня ў дзень), пад гэтай атакай ачысьціўся і загартаваўся Народны Фронт. Было цяжка, але вышла на добра. Барацьба патрабавала барацьбітоў, а не балбатуноў, пустапарожніх разумнікаў і назіральнікаў.

## ВЫЗВАЛЕНЬНЕ ВАЛЕРЫ СЯДОВА

Адным з актыўных ускладальнікаў „дароў" Леніну быў Валеры Сядоў. Ён спрабаваў закінуць вісельню на шыю стваральніка камуністычнага ГУЛАГа Леніна. Гэта ўсё было зьнята на плёнку, і В. Сядова арыштавалі.

Камуністы ў бяссільлі аж вар'яцелі. Акцыя была дазволеная, заяўнікі – дэпутаты. І як тут ім расправіцца з намі? Вырашылі адыграцца на В. Сядовым, як кажуць, на ўсю катушку. Пазьней Валеры расказваў, што ў Пішчалаўскай турме яго кінулі ў карцар – цёмны маленькі халодны і глухі пакойчык, які не праветрываўся, дзе ў цемнаце можна было толькі стаяць, ці, скурчыўшыся сядзець. Холад, голад, цемра і адзінота. У такой сітуацыі ня цяжка было страціць ня толькі здароўе, а нават і жыцьцё. У Валерыя, які перад гэтым аб'явіў галадоўку, – пачаліся галюцынацыі. Але Фронт адразу ж пачаў барацьбу за вызваленьне Валеры Сядова.




***11. 7 лістапада 1990 г. Менск. Антыкамуністычны мітынг БНФ. (Фота У. Кавальчука).***




(Фота У. Кавальчука).

*12. Антыкамуністычны мітынг БНФ 7.XI. 1990.*

Як дэпутат Вярхоўнага Савету Зянон Пазьняк наведаў турму, і ў суправаджэньні начальніка Пішчалаўскай турмы абышоў увесь Пішчалаўскі замак зь верху да нізу, зазіраючы ў камэры, што стала штуршком для ягоных выкрывальных выступаў бесчалавечнага рэжыму на сэсіі Вярхоўнага Савета, і ў СМІ. Пазьняк зрабіў шмат дэпутацкіх запытаў пра арышт Сядова, хадзіў у пракуратуру, дамогся асабістага кантролю за гэтай справай ад пракурора па нагляду за выкананьнем законаў у турмах. Нарэшце ён пастараўся, каб справа Сядова выйшла за межы Беларусі і стала вядомая ва ўсім сьвеце. Неўзабаве нават беларусы ў Аўстраліі дэманстравалі з лёзунгам „Свабоду Сядову"! Вызваліць Сядова была справай нашага гонару.

Але камуністы здаліся не адразу. Таму і мы, фронтаўцы, вырашылі рабіць пікеты ў абарону Сядова. Цкаваньне Фронту было тады вельмі моцнае, што неяк насьцярожыла некаторых нашых дэпутатаў. Таму ўзначальваць пікеты павінны былі абавязкова дэпутаты.

Разам з сябрамі мы ня раз станавіліся на праспэкце (тады Леніна) недалёка ад кінатэатра „Цэнтральны" (каля крамы адзежы). Паколькі я была абаронена дэпутацкім імунітэтам, то прамаўляць трэба было менавіта мне. Побач стаялі сябры і спачуваючыя. Заўсёды адкрыта дэманстраваў сваю салідарнасьць з фронтаўскім вязьнем Валянцін Асташынскі (ён ня быў дэпутатам і яго, разабраўшыся, маглі б „загрэбсьці"). Валянцін, як правіла, трымаў мегафон і стаяў побач, пакуль я гаварыла ў мікрафон. Пікет мы рабілі перасоўны, у розных „кропках" дзень за днём аж да таго часу пакуль супольнымі намаганьнямі Фронту, дэпутатаў і ўсіх людзей добрай волі, усе разам ні дамагліся вызваленьня Валеры Сядова.

Як толькі В. Сядоў апынуўся дома, па даручэньні Старшыні Фронта мы з сябрамі адвезьлі яму фронтаўскую дапамогу (што сабралі сарод фронтаўцаў) і перадалі нашую маральную падтрымку і пажаданьне хутчэй паправіць сваё здароўе пасьля Пішчалаўскіх засьценкаў.




*13. Антыкамуністычны мітынг БНФ 7.XI. 1990. (Справа – Валеры Сядоў).*

## „ЛІТАРАТУРАЗНАЎЦА" З ПРАКУРАТУРЫ

Пасьля 7 лістапада 1990 г. Пракуратура ўзбудзіла справу. Па чарзе выклікалі ўсіх заяўнікаў мітынгу на допыт. Мяне не чапалі зь месяц, і я ўжо падумала, што „абыйшлі". Але неўзабаве прышла позва і да мяне.

Я прышла ў Пракуратуру каля 10 гадзінаў раніцы. Мяне сустрэў даволі самаўпэўнены сьледчы, вырашыўшы, відаць, што гэтай „дамачцы" ён крылы хутка абламае.

– Я буду вам задавать вопросы, а вы – отвечать, – начальніцкім тонам вымавіў сьледчы, гледзячы мне ў вочы. – Все ваши показания я буду записывать, а вы потом их подпишите.

– Добра, – кажу, – толькі папрашу задаваць пытаньні і „записывать" мае адказы на дзяржаўнай беларускай мове, згодна Закна аб мовах.

– К сожалению, я не владею белорусским языком, будем говорить на русском", – усьміхнуўся ў адказ сьледчы.

– Калі вы ведаеце Закон, як дзяржаўны служачы вы абавязаны валодаць дзяржаўнай мовай, тым больш, што я не разумею па-руску. І як жа мы будзем з вамі гаварыць? І што, я павінна буду падпісываць тое, чаго не разумею? – адпарыравала я крыху зьдзекліва на яго загадны (як да „вінаватай") тон. – Калі вы ня ў стане выконваць свае прафэсійныя абавязкі на дзяржаўнай мове, паклічце перакладчыка.

Сьледчы стаў злавацца, але запярэчыць мне не было аргумантаў, і ён моўчкі пайшоў шукаць перакладчыка. Яго не было хвілін 20. Вярнуўся ён ужо зусім „іншым" (магчыма дзе-небудзь параіўся), пачаў прасіць прабачэньня, што не знайшоў перакладчыка. Ён пачаў лагодна і „по-хорошему":

– Извините, пожалуйста, но сегодня найти переводчика невозможно. Если хотите, перенесем нашу встречу на другой день. Но я все же просил бы вас согласиться на разговор сегодня.

– Добра, – кажу, – задавайце свае пытаньні, бо і ў мяне няма жаданьня губляць яшчэ адзін дзень. А як з запісам размовы? Я па-руску не падпішу!

– Галина Фёдоровна, – узмаліўся сьледчы, – пожалуйста, согласитесь писать показания сами, ну нет другого выхода сегодня.

– Добра, – кажу, – толькі гэта ўсё пацягне часу. Задавайце свае пытаньні.

Сьледчы пачаў пытацца і пісьмова пісаць мне пытаньне (па-руску). Я адказвала вусна, а потым запісвала свае словы па-беларуску. Мы гаварылі пра падзеі 7 лістапада, што, як, калі адбывалася, пра мой удзел. Не абыйшлося без пытаньняў пра Фронт, пра яго „слабыя" сілы.

– Вы памыляецеся, у нас у Фронце самыя лепшыя і магутныя сілы Беларусі, і самыя славутыя імёны, – адказваю.

Слова за слова, і неяк сьледчы зачапіў імя Васіля Ўладзімеравіча Быкава.

– Послушайте, он же уже „исписался", и пишет.., он обычный „публицист", а „не художник слова" і г д.

На гэты час я якраз займалася творчасьцю В. У. Быкава ў НДІ педагогікі (дзе працавала) і учапілася за „нехудожественные" творы.

– Вы так лічыце? Але вы памыляецеся, і зараз я вам гэта патлумачу як спэцыяліст. Слухайце.

Сьледчы паспрабаваў мяне лагодна перабіць („Оставим это"), але тут ужо перабіла я.

– Вы закранулі мой нацыянальны гонар, абразіўшы вялікага сусьветнага пісьменьніка, відаць, памылкова лічыце гэта ў межах сваёй кампэтэнцыі. Што ж, давайце падыскутуем. Ня хочаце? Тады слухайце, каб больш ніколі ў вас не ўзьнікала жаданьня абражаць вялікага чалавека і мастака.

І я пачала чытаць яму лекцыю (хутка і ўпэўнена), са шматлікімі спасылкамі на творы мастака. Асабліва злавалі майго „слухача" (па вядомых прычынах) спасылкі на аповесьць „Мёртвым не баліць". Я гаварыла даволі доўга, сьледчы спрабаваў мяне перапыніць, але я перакананна йшла „ў атаку", і сьледчы пракурор зьмірыўся і слухаў. І толькі калі падышоў час абеду, ён запэўніў, што згодны са мной, што зразумеў мяне як прафэсіянала-філолага.

– Сейчас время обеда, я предлагаю спуститься в наш буфет, – пачула я прапанову.

– Я прышла да вас не на абед, а на ваш „допыт", вось і дапытвайце, – так „прымусіла" я сьледчага „пагаладаць".

Гаварылі мы шмат, аж да 19-й гадзіны (бо ўсё трэба было зафіксаваць). Я падкрэсьлівала, што зьяўляюся антыкамуністам і ганаруся нашай акцыяй 7 лістапада. Сьледчы не пераставаў зьдзіўляцца:

– Галина Фёдоровна, вы не боитесь? А что, если времена изменятся и всё вернется назад?

– Не, не баюся, – адказала я, і гэта была абсалютная праўда. – Як бы ня сталася, але я выбрала свой шлях сьведама, і сьведама стала антыкамуністам. Няхай баяцца тыя, хто здзяйсьняў анычалавечую палітыку і зьнішчаў беларускі народ. А я – звычайная беларуска, люблю Беларусь і не хачу, каб яна была пад акупацыяй Расеі. Што ў гэтым антынароднага, дрэннага?

Размова завершана не была, але болей я дыскутаваць не зьбіралася.

– Ужо 19 гадзінаў, працоўны дзень скончаны. Я сьпяшаюся на вечарыну нашага адраджэнскага барда Сокалава-Воюша. Калі маеце яшчэ пытаньні – другім разам, – і я рашуча ўстала. Так скончыўся мой „допыт" ў Менскай Пракуратуры.

Магчыма, зараз гэта выглядае і непраўдападобна, але так было. Сістэма дагнівала, пачыналіся перамены і ніхто з працаўнікоў сістэмы ўжо не адчуваў сябе ўпэўнена (трапіла б я яму ў 30-я). Калі яшчэ улічыць мой уздым і перакананасьць – і неагрэсіўнасьць сьледчага, дык у выніку атрымалася даволі сьмешна, нават камічна: сьледчы вымушана слухаў таго, каго сам выклікаў на допыт.

## ПРАПАНОВА В. ЯКАВЕНКІ І С. МІХНОВА

Ня гледзячы на маё дэпутацтва і занятасьць як сябра Сойму БНФ, я заставалася сябрам Койданаўскай Рады Фронта і ўдзельнічала ў яе паседжаньнях. Тады быў агульны энтузіязм, і на любы заклік Фронта мы, койданаўцы, адгукаліся першымі. Аднаго разу вясной С. Міхноў прывёў на паседжаньне Рады Васіля Якавенку. Ён жыў ня ў нашым раёне і тады ўжо ня быў сябрам Фронту ( ў 1989 годзе ён выступіў, здаецца, у „Советской Белоруссии" супроць дзеяньняў Фронту і яго выдалілі з БНФ па ідэйных меркаваньнях). Тым ня менш ён прышоў да нас з прапановай, каб мы ўсёй Радай узяліся за добраўпарадкаваньне Паўднёвага Захаду. Ён гаварыў, што мы будзем саджа-



*14. 1991 г. Пікет БНФ у абарону В. Сядова. Гаворыць Галіна Пазьняк, справа – Валянцін Асташынскі.*

ць дрэвы, рабіць дарожкі, прыбіраць тэрыторыю, садзіць кветкі, і тады, маўляў, усе ўбачаць, што такое Фронт. „Каб людзі нам паверылі, мы павінны на справе пераканаць іх, што шчыра хочам перамяніць жыццё да лепшага", – энэргічна гаварыў Якавенка.

Сябры слухалі. Адны скептычна, ведаючы прамоўцу, але бальшыня – з энтузіязмам і вочы іх сьвяціліся: такім вялікім было жаданьне пераменаў. Было відаць, што ўсе згодныя працаваць, тым больш, што Якавенка браўся забясьпечыць саджанцамі і ўсім неабходным інструмантам. Сталі абмяркоўваць першую акцыю.

„Толькі давайце будзем мудрэйшымі і сьціплейшымі. Ня трэба падкрэсьліваць, што мы – Фронт, ня трэба сьцягоў. Давайце працаваць, а людзі самы ва ўсім разьбяруцца", – угаворваў нас Якавенка.

Міхноў маўчаў. Тады я ня вытрымала: „Як гэта без сьцягоў? Мы – гэта Фронт, і мы ўсюды і заўсёды павінны падкрэсьліваць гэта. Толькі са сьцягам і толькі як Беларускі Народны Фронт! І ніякіх спэкуляцыяў не павінна быць. Чаго нам хаваць наш сьцяг?"

Сябры падтрымалі мяне, і мы разам пагадзіліся, што будзем працаваць толькі зь *Бел-Чырвона-Белым Сьцягам* і пад эгідай Фронту. Якавенка спрабаваў спрачацца, даказваць, але ўбачыў, што гэта ня мае сэнсу. „У такім разе я не зьбіраюся прадстаўляць вам ніякія інструманты і саджанцы", – амаль выкрыкнуў Якавенка і, абураны, „ляснуў дзьвярыма". Ён пайшоў, і ўсе пераканаліся, што гэта была звычайная правакацыя.

Прайшоў некі час. Аднаго разу Сяргей Міхноў патэлефанаваў мне дадому і сказаў, што трэба тэрмінова пагаварыць. Я запрасіла яго ў хату, але ён цьвёрда сказаў: „Выйдзем на вуліцу – сур'ёзная размова".

Мы хадзілі па вуліцах майго раёна, і Сяргей спачатку доўга нешта тлумачыў мне пра нашае змаганьне, пра Фронт. Я слухала.

– Ты актыўны і сумленны чалавек (камплімэнтарна казаў Сяргей), шмат працуеш у Фронце, але, я думаю, не ва ўсім разьбіраешся добра і да канца. Ты надта верыш у непагрэшнасьць Пазьняка, а між тым ён не такі ўжо і „правільны", як ты думаеш. Ёсьць людзі, якія думаюць інакш...

– на правах сябра казаў мне Сяргей, і увесь пафас яго „прамовы” зводзіўся да таго, што „Фронт” і „Пазьняк” зусім не адно. Ён вельмі стараўся пераканаць мяне, прасіў падумаць, прыводзіў нейкія свае „аргументы” „кепскасьці” Пазьняка, каб я засумнявалася не ў Фронце ці ў нашай барацьбе, а менавіта ў Старшыні Фронта. „Ты не падумай, я ня супраць Пазьняка, я „за”, але ці варта ўжо так старацца, як ты, менавіта для яго „іміджа”, як быццам акрамя яго ў нас ужо больш і лідараў няма, падумай”, – скончыў Сяргей.

Я была ашаломленая і ад чыста жаночай разгубленасьці не з’арыентавалася ў сітуацыі, каб адпаведна адказаць. Ды і аргументаў у мяне было няшмат. Упершыню я ўбачыла і даведалася пра Пазьняка нядаўна, у канцы 1988 года. Слухала ягоныя выступы-прамовы як шараговы сябра Фронту – вось і ўсе „веды” „здаля”. Сяргей жа быў сябра, і мой, і Фронта, і ўсе мы (ў тым лікау і я) неяк прывыклі яму давяраць і верыць. Але я не магла ня верыць і сваім вушам, якія слухалі Пазьняка і „бачылі” ягоную праўду. Гэтая „праўда” стала і маёй, таму я хоць і „змаўчала”, але пераканаць мяне ў адваротным (у тым, што Пазьняк не сапраўдны лідар, які ахвяруе ўсё сваё жыцьце дзеля Бацькаўшчыны, што ён не бачыць значна далей за іншых „лідараў” і не заўсёды гаворыць праўду) – было немагчыма. Я падумала, што, можа, Сяргей памыляецца, што гэта „пройдзе”, бо мы ж усе любім адно – нашую Беларусь.

Потым Сяргей ніколі больш не аднаўляў гэтую нашу размову. Чаму? Ня ведаю, магчыма, зразумеў, што для мяне ўрэшце рэшт справа была не „ў Пазьняку” (хоць ён для мяне заўсёды заставаўся самым вялікім аўтарытэтам), а ў нашай Бацькаўшчыне. Я бачыла шчырую любоў Пазьняка да Беларусі і адгукалася на яе, бо любіла Бацькўшчыну гэтаксама – ўсім сэрцам). Калі любіш Беларусь – ніхто не саб’е і не „перавучыць”, бо крытэрый – адзін: Беларусь.

## АПАЗЫЦЫЯ БНФ І ЛЁС БЕЛАРУСІ

Бясспрэчна, лёс Беларусі, яе будучыня вырашаліся ў Вярхоўным Савеце. І тут было вельмі важна, якая колькасьць ад агульнага складу дэпутатаў належыць прадстаўнікам Беларускага Народнага Фронта. На жаль, іх у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня аказалася вельмі мала: Апазыцыя БНФ склала менш 10 адсоткаў. І не перастаеш зьдзіўляцца, як многа зроблена гэтымі людзьмі, як бліскуча яны перамагалі халуёў страшнай таталітарнай сістэмы. Гэтыя людзі навечна ўвайшлі ў гісторыю нашай Бацькаўшчыны як героі-змагары за яе Свабоду. Іхнае жыцьцё гэтыя пяць год было падпарадкаванае змаганьню. Яны не шкадавалі сілаў. Гэта было цалкам ахвярнае жыцьцё.

Раніца 12-га красавіка 1995 года ніколі не сатрэцца з маёй памяці. Тады, скарыстаўшы ўсе магчымасьці парляманцкай барацьбы, каб ратаваць Бацькаўшчыну, дэпутаты Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня пайшлі на надзвычай мужны ўчынак – аб’яўленьне галадоўкі ў залі каля трыбуны парляманту ў знак пратэсту супраць грубага парушэньня Канстытуцыі Лукашэнкам і пракамуністычным парляментам, падрыхтоўкі антызаконнага рэфэрэндуму і здачы дзяржаўных інтарэсаў. Сваёй нечаканай галадоўкай яны паўплывалі на вынікі парляманцкага галасаваньня і перамаглі. Дэпутаты не прагаласавалі за антынацыянальныя пытаньні рэфэрэндуму. Але ноччу Лукашэнка ўвёў у парлямант войскі. Дэпутаты Фронту былі зьбітыя і вывезены з парляманту. Пытаньні рэфэрэндуму пад пагрозай вайсковай сілы былі незаконна перагаласаваныя і перазацьвярджаныя з парушэньнем закону.

Пра гэта мала гаварыць „у агульных рысах”, гэта прадмет спэцыяльнага дасьледваньня. Мяркую, яно будзе зроблена нашымі гісторыкамі, палітыкамі, вучонымі, пісьменьнікамі. І вельмі важна, каб гэта адбылося хутчэй, пакуль ня сьцерлася з памяці ніводная дэталь дзейнасьці парляманцкай Апазыцыі Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня, бо кожны іх дзень жыцьця быў унікальны.

## МЕНСКІ ГАРСАВЕТ

З восені 1990 года ўсё жыцьцё Рэспублікі, а значыць і дзейнасьць мясцовых Саветаў, былі зьвязаныя з падзеямі ў Авальнай залі.

Калі я прыйшла ў Менскі Гарсавет, аргкамітэт па падрыхтоўцы першай сесіі ўжо працаваў са складу абраных дэпутатаў з першага туру. Была ўжо ўтвораная і *Дэмакратычная плынь*, у якую ўвайшло чалавек сорак. Фронтаўцаў і „спачуваючых" было, здаецца, сямнаццаць. Астатнія – тыя, хто ня быў з камуністамі, але і да нас яшчэ толькі „прыглядаўся". Былі абраныя тры сустаршыні *Плыні,* вызначаныя кандыдаты ў старшыні камісіяў, за якіх мы мусілі змагацца на першай сэсіі. Асаблівыя спрэчкі вяліся па кандыдатуры старшыні Менгарсавета ад Дэмакратычнай плыні, бо гэта была першая за 70 гадоў дыктатуры камуністаў магчымасьць выбраць на такую пасаду некамуніста, чалавека дэмакратычных поглядаў.

На маю думку, гэта павінен быў стаць чалавек інтэлігентны, выхаваны, адукаваны, хто з гонарам пройдзе „медныя трубы" Менгарсавета і за каго б было потым ня сорамна. Мне здавалася, што такім чалавекам сярод нас зьяўляецца Ігар Чарняўскі. Са мной пагаджаліся многія, кандыдатура была „прахадная" („рэйтынгавае" галасаваньне *Плыні* паказала, што Ігара Чарняўскага падтрымлівае большасьць). Здавалася, Ігар возьме на сябе гэты цяжар „першага", але я памылілася. Паразважаўшы, ён адмовіўся.

Тады спыніліся на кандыдатуры Анатоля Гурыновіча. Я ня бачыла ў гэтым чалавеку асобы, якая б адпавядала майму ўяўленьню лідэра. Калі на сесіі абмяркоўвалі ягоную кандыдатуру на пасаду старшыні Гарсавета, камуністы задавалі яму такія пытаньні, адказ на якія патрабаваў канкрэтнай фармулёўкі сваіх поглядаў у адносінах да незалежнасьці Беларусі, адносінаў з Расеяй і інш. „А якое дачыненьне вы маеце да БНФ?" – спытаў нехта. І Анатоль адказаў, што вылучаны ён не ад БНФ, а ад ТБМ (маўляў, ня блытайце). Мне гэта вельмі не спадабалася, бо ў асабістых дачыненьнях з сябрамі Народнага Фронту ён дэкляраваў якраз адваротнае. Я галасавала супраць.

У выніку галасаваньня Старшыней Менгарсавета быў абраны А.М. Герасіменка (бо камуністаў і намэнклятуры, якія выставілі яго кандыдатуру, была большасьць), а А.Гурыновіч – стаў першым ягоным намесьнікам.

Да першай сэсіі ў нас быў падрыхтаваны сьпіс Прэзыдыюма Менгарсавета ад *Плыні*, за які мы мусілі змагацца далей.

Першая сэсія Менгарсавета паказала: большасьць дэпутатаў у залі складае камуністычны блёк. Але расклад сілаў у нас атрымаўся іншы, чым ў Вярхоўным Савеце (дзе Апазыцыя БНФ склала 8 адсоткаў). Фанатычных камуністаў было менш паловы. Да іх прымыкалі кіраўнікі прадпрыемстваў, дырэктары заводаў, школ, бальшыня настаўнікаў. Разам іх была палова ці трохі болей за палову. Але ж дзвух трацінаў у іх не было, і гэта давала нам магчымасьць блякаваць адыёзныя рашэньні, уплываць на тых, хто спрабаваў самастойна думаць, а ня толькі слухаць загады начальства. Такі шанец давала патаемнае галасаваньне праз бюлетэні, калі дэпутат сапраўды мог галасаваць незалежна ад „пільнага вока". Акрамя таго ў нас зьявіліся шансы ваяваць за палову сваіх прадстаўнікоў у Прэзыдыюме. Надзеі і спадзяваньні часам станавіліся радаснай упэўненасьцю, што мы ўжо перамаглі...

Першая сэсія доўжылася, здаецца, тры месяцы. Галасавалі, спрачаліся, стваралі „пагадняльныя" камісіі паміж „імі" і „намі". Нарэшце, дамовіліся: *Плынь* прадстаўляе на галасаваньне 7 ці 8 чалавек (гэта палова).Такая ж колькасьць будзе і ад камуністаў. Сьпіс Прэзыдыюма будзе зацьверджаны толькі тады, калі пройдуць галасаваньне ўсе „узгодненыя" кандыдатуры ад двух бакоў. Таму галасаваць кожны дэпутат павінен і за „сваіх", і за „іхных".

Гэтая барацьба для многіх з нас была ўпершыню, у чымсьці мы аказаліся даверлівымі і наіўнымі. (Пазьней высьветлілася, што сярод „нашых", якіх прадстаўляла на галасаваньні *Дэмплынь,* аказаліся і такія, хто потым галасаваў разам з камуністамі...)

Нарэшце (ў ліпені 1990 года) абралі Прэзыдыюм. Дэпутаты запісваліся ў дэпутацкія камісіі. Зразумела, дэпутат ня можа займацца ўсім адразу. Я прыглядалася, у якой камісіі праца бодзе больш плённая, дзе створыцца дзейсная група дэпутатаў, і хадзіла на паседжаньні чатырох пастаянных камісіяў: па адукацыі, па культуры, на Чарнобыльскую і па прывілеях, але потым вырашыла застацца ў першых дзьвюх.

## ВОСТРАЯ НЯСТАЧА ЛІДАРА

Сілаў было шмат і жаданьня ўсюды пасьпець. Але я разумела, што трэба ствараць і ў Гарсавеце сваю апазыцыю БНФ. Пытаньне: хто яе ўзначаліць? Здавалася натуральным, што гэта павінен стаць Анатоль Гурыновіч: у яго як у першага намесьніка старшыні гарадзкой улады былі вялікія правы, быў свой кабінет, дзе можна было зьбірацца, і галоўнае – інфармацыя па ўсіх галінах гарадзкога жыцьця была перад ім адкрытая. Магчымасьцяў было нямала. Думаю, каб Анатоль узяўся за гэтую неверагодна цяжкую, але ганаровую працу, многае магло б быць інačай.

Калі Гарсавет пад нашым націскам прыняў рашэньне аб усталяваньні нацыянальнай сымволікі над будынкам сталічнай улады, франтаўцам у Гарсавеце здавалася, што гэта пачатак „вялікіх справаў”. Са згоды Анатоля я ўзялася за арганізацыйную частку па фармаваньні фракцыі БНФ і прыхільнікаў (бо большасьці ў нас, зразумела, не было). Адбылося нават некалькі паседжаньняў, але праходзілі яны неяк безініцыятыўна: не было пляна дзеяньняў, не было і стратэга. У астатніх не было і вопыту дэпутацкай працы. Па многіх пытаньнях мы часамі былі занадта наіўнымі. Высьветлілася, што стварыць апазыцыю і разгарнуць яе канкрэтную працу ў Гарсавеце – справа не такая простая і нам не пад сілу. Актыўныя „працаўнікі” ў фракцыі былі. Але нeставала лідэра, які б аб’яднаў усіх нас сваёй воляй, інтэлектам, ясным бачаньнем „тактыкі” і „стратэгіі” і ўменьнем сказаць рэжыму цьвёрдае „НЕ”, калі таго вымагала сітуацыя.

Напрыклад, нашае рашэньне аб нацыянальнай сымволіцы ніхто не адмяняў, і *Бел-Чырвона-Белы сьцяг* мог бы заставацца над гарадзкой уладай і пасьля ганебнага рэфэрэндума 1995 году. Вядома, лукашысты знайшлі б крывую дарожку, каб ігнараваць Менгарсавет, але варта было змагацца. Трэба было толькі праявіць настойлівасьць і нязломную волю намесьніку старшыні гарсавета А.Гурыновічу, а адмяніць рашэньне сесіі камуністы-лукашысты не змаглі б (двух трацінаў галасоў для адмены яны б не набралі). Але для змаганьня трэба было быць асобай, не баяцца і ня мець ніякіх зачэпак, якімі б рэжым мог „трымаць” Анатоля.

А „зачэпкі” былі. „Улада” (хоць якая там „улада”) моцна ўскружыла яму галаву і „спрычынілася” да зьмяненьня ягонай асобы. Службовы кабінет ён ператварыў у „асабісты” і пачуваўся „панам”. Са сваімі непасрэднымі падначаленымі ён абыходзіўся груба, на заўвагі сяброў не рэагаваў. Потым у гэтым самым кабінеце пачаліся і п’янкі („пасьля работы”), і ўвогуле – непрыстойнасьць. Пра гэта ведаў увесь Гарвыканкам, але яго не чапалі, бо зручна было трымаць на ланцугу „дэмакратычную адзінку” штатнага раскладу Гарвыканкама. Сяброў Анатоль ня слухаў і ніякай маральнай адказнасьці перад тымі, хто яго выбраў, не адчуваў. Пачынаць скандал – не выпадала. Мы ўсе пакутвалі ад гэтага сораму, але выйсьця ня бачылі. Вось табе і франтаўская кандыдатура. Я чула, што Пазьняк зьбіраўся яго выключыць з БНФ, але да гэтага часу Гурыновіч сам пайшоў ў сацыял-дэмакратыю і, здаецца, ці ня быў намесьнікам старшыні Грамады.

Я думаю, што калі чалавек не зьяўляецца самадастатковай асобай, то ў начальства лепш яму не падавацца. Вялікая (і нават малая) улада ды адказная пасада не пойдуць яму на карысьць і стануць горам для іншых. Псаваньне такога чалавека і маральнае зьніжэньне – амаль заканамернасьць. Пасьля 12 красавіка 1995 года (калі Лукашэнка пайшоў на злачынства – арганізаваў зьбіцьцё дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце), у наступны ж дзень вестка пра гэта ўстрасянула ўвесь сьвет. Толькі не Менгарсавет, дзе вырашана было адзначыць канец нашай дэпутацкай дзейнасьці – сфатаграфавацца разам усім дэпутатам і пайсьці на „фуршэт”, піць шампанскае. Памятаю, нас з Вольгай Кузьміч асабіста запрашаў (!) А. Гурыновіч. На маё абурэньне яго неадэкватнымі заклікамі і дзеяньнямі Анатоль толькі пацiснуў плячыма і – пайшоў сьвяткаваць.

Пазьней я бачыла гэтую агульную фатаграфію, на якой з „дэмакратаў” не было, бадай, толькі нас з Вольгай Кузьміч...

Калі ж я цяпер задумваюся над мінулым, то выразна бачу многія нескарыстаныя магчымасьці, якія (упэўнена) паўплывалі б на лёс усёй Беларусі, калі б у Гарсавеце быў лідэр, сьмелы і адданы беларускай незалежнасьці. Бо Менск мог бы стаць прыкладам для ўсёй Беларусі шмат у чым. Закон

аб мовах у навучальных установах Менска мог запрацаваць мацней (бо толькі праз нашую мову мы можам быць беларусамі), горад мог бы стаць сапраўды беларускай сталіцай, дзе ўсё было б па-беларуску: і афармленьне, і мова чынавенства. Пачалася б сьвежая ланцуговая рэакцыя разьвіцьця, якая б апасрэдавана ўплывала б на моладзь і іхных бацькоў у станаўленьні нацыянальнай сьвядомасьці. І мы б выйшлі наперад, мы б сталі сапраўднымі беларусамі, задумаліся б аб сваіх нацыянальных інтарэсах і ніхто б нас не ашукаў, не тлуміў бы галаву здаваць Беларусь маскалям „на продаж". Трэба было ўсяго толькі вярнуцца да нацыянальнага гонару, стаць ганаровымі беларусамі. За намі пацягнуліся б гарады і вёскі. Для нацыі патрэбны быў прыклад-штуршок, востра патрэбны, бо энтузіязм 90-х – каштаваў дарагога.

Ахвярная дзейнасьць невялікай купкі гераічнай Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце яскрава прадэманстравала абсурднасьць камуністычнага лёзунгу „незаменимых личностей нет". Ёсьць у гісторыі народа асобы, якіх ні замяніць, ні падмяніць немагчыма. І каб не было нашай слаўнай Апазыцыі БНФ, якую згуртаваў яе лідэр, то, можа, і незалежнасьці ўжо не было б. А яна жыве і будзе жыць, бо існуе вялікая (хоць і пакутная) нацыя – беларусы, і ў яе ёсьць свае Вялікія людзі.

## ФРОНТАЎСКІЯ ПЕРАМОГІ Ў МЕНГАРСАВЕЦЕ

Але жыцьцё ішло, падзеяў было шмат. І на кожную пасьпявала рэагаваць Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце. Мы ішлі ўсьлед, і за многія нашыя крокі я радуюся і сёньня.

Калі ў жніўні 1991 года ў Маскве адбыўся путч, дэмакратычная частка Прэзыдыюма Гарсавета паспрабавала прыняць пэўную заяву з асуджэньнем перавароту – не атрымалася: камуністы „перацягнулі". Тады мы паспрабавалі правесьці экстранае паседжаньне сэсіі Гарсавета – кворуму не хапіла. І мы абралі шлях, якім надалей прышлося карыстацца вельмі часта: прынялі заяву дэпутацкага сходу. Для некаторых, магчыма, гэта падасца сёньня ня вельмі важным. Магчыма, але быць дэпутатам і маўчаць, чакаць „большасьці", таксама не выпадала. Думаю, на любым узроўні, які даступны, трэба змагацца, а ня быць пасыўнымі назіральнікамі, калі героі нешта зробяць. Што маглі, мы стараліся рабіць, хоць, зразумела, у дзяржаўным маштабе – вырашалі ня мы.

Пасьля бліскучай перамогі Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце па вяртаньні незалежнасьці Беларусі і прыняцьці Вярхоўным Саветам пад ціскам фронтаўскай Апазыцыі пастановаў „Аб часовым прыпыненьні дзейнасьці КПБ-КПСС на тэрыторыі Беларускай СССР", „Аб дэпартызацыі органаў дзяржаўнай улады і кіраваньня Беларускай ССР, дзяржаўных прадпрыемстваў, установаў, арганізацыяў і маёмасьці КПБ і ЛКСМБ", Менгарсавет стварыў дэпутацкую камісію па кантролю за захаваньнем і выкарыстаньнем маёмасьці КПБ-КПСС і ЛКСМБ. Галасаваньне па складу такой дэпутацкай камісіі было „рэйтынгавае". У выніку большую палову камісіі склалі камуністы ці падпарадкаваныя камуністам. Улік жа гэтай маёмасьці быў, зразумела, ў выканкама, дзе выпадковых людзей не было. Таму далейшае разьмеркаваньне маёмасьці, фактычна, ішло па-за межамі нашага кантролю.

Адказнасьць за захаваньне ўзятай пад ахову маёмасьці была ўскладзена на намесьнікаў старшыні выканкама Ул. Ярмошына і Г. Нікіценку. А супрацоўнічаць абавязалі з Саветам Міністраў, якім кіраваў В.Кебіч. Карціна ясная. Вось бы дзе спатрэбілася цьвёрдая рука намесьніка старшыні Гарсавета, якой у „нашага" прадстаўніка А.Гурыновіча, на жаль, не было.

Важнымі рашэньнямі гэтай сесіі яшчэ былі наступныя: а) даручэньне *Камісіі па культуры, ахове і адраджэньні гісторыка-культурнай спадчыны* ўнесьці на зацьвярджэньне выканкама прапановы па перайменаваньні вуліцаў, плошчаў і выкарыстаньні помнікаў манументальнай прапаганды ў г. Менску; б) падтрымаць рашэньне Прэзыдыюма Вярхоўнага Савета БССР аб уключэньні ў парадак дня наступнай сесіі пытаньня „Аб назве, дзяржаўным гэрбе і дзяржаўным сьцягу Беларускай ССР"; в) падтрымаць пастанову Вярхоўнага Савета БССР „Аб забеспячэньні палітычнай і эканамічнай самастойнасьці Беларускай БССР".

Апазыцыя ў Вярхоўным Савеце дзейнічала апэратыўна і пасьпяхова. Але, на вялікі жаль, пытаньне аб новых выбарах (па ўсё той жа прычыне

камуністычнай большасьці) правесьці не ўдалося: улада засталася старая. Але тое, чаго дасягнуць удалося, адкрывала пэўныя магчымасьці і для нас, Гарсавета.

Адным з першых рашэньняў, якога пачала дамагацца *Камісія па культуры* – гэта зьмена камуністычнай сымволікі ў Менску, перайменаваньне вуліцаў і плошчаў сталіцы, перабудова галоўнай плошчы Менска, дзе стаяў чорны помнік-прывід Леніна.

Працавалі шчыра. За вельмі невялікі час былі падрыхтаваныя і абгрунтаваныя рашэньні аб вяртаньні беларускай сталіцы гістарычнай назвы *Менск,* аб сьцягу і гэрбе *Пагоня* на тэрыторыі Менска. Але рашэньні аб уключэньні пытаньня ў парадак дня сэсіі прымаліся Прэзыдыюмам (яго бальшынёй). Тут трэба было пераконваць: многія ў тыя часы проста ня ведалі анічога пра *Бел-Чырвона-Белы сьцяг, гэрб Пагоню*. А камуністычныя газэты, радыё, тэлебачаньне прыкладалі велізарныя намаганьні, каб абліць гразёй тое, што павінна было б стаць для беларусаў сьвятым.


МІНСКІ ГАРАДСКІ САВЕТ НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ
ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
г. Мінск, Ленінскі праспект, 8. Тэл. 22-05-75

МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ СОВЕТ НАРОДНЫХ ДЕПУТАТОВ
ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
г. Минск, Ленинский проспект, 8. Тел. 22-05-75

РАШЭННЕ РЕШЕНИЕ

от 13 мая 1993 № 263

Аб перакладзе і установцы шыльдаў установ, арганізацый, прадпрыемстваў, фірмаў і іншых інфармацыйных надпісаў на беларускай мове

У мэтах выканання Закона Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" і надання статусу дзяржаўнасці беларускай мове Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт народных дэпутатаў ВЫРАШЫЎ:

1. Перакласці на беларускую мову усе шыльды установ, арганізацый, прадпрыемстваў, фірмаў і іншыя інфармацыйныя надпісы у г.Мінску і установіць іх да 1 снежня 1993 года.

1.1 У цэнтральнай частцы горада (пр.Францішка Скарыны, пр.Машэрава, вуліцы Няміга, М.Багдановіча, Рэвалюцыйная, К.Маркса, Кірава, Ф.Энгельса, Леніна, Урыцкага, Свярдлова, Валадарскага, Я.Купалы, Інтэрнацыянальная, Ульянаўская, Бабруйская, Ленінградская, плошчы Незалежнасці і Прывакзальная) замену вышэйназваных шыльдаў і надпісаў зрабіць да 1 верасня 1993 года.

2. У далейшым выконваць шыльды установ, арганізацый, прадпрыемстваў іншыя інфармацыйныя надпісы толькі на беларускай мове.

2.1 Установку шыльдаў з надпісамі на іншых мовах, у парадку выключэння, рабіць толькі з дазволу Мінгарвыканкома.

3. Надрукаваць дадзенае рашэнне у гарадскіх газетах "Добры вечар" "Вячэрні Мінск".

4. Кантроль за выкананнем дадзенага рашэння ўскласці на члена Мінгарвыканкома, начальніка упраўлення "Мінскгалоўархітэктура" Дінэвіча Я.Л., упраўленне культуры Мінгарвыканкома (Пятровіч А.Я.)

Старшыня гарсавета А.М.Герасіменка
Кіраўнік спраў Л.М.Валодзькіна

Зак. 1037.

*15. Рашэньне Менгарсавета ад 13.05.1993 аб установцы беларускіх шыльдаў.*

Пасьля таго, як аргумэнты сяброў нашай камісіі не пераканалі Прэзыдыюм, мы прапанавалі запрасіць на наступнае паседжаньне аўтарытэтных гісторыкаў, якія б прафэсійна патлумачылі гістарычную сітуацыю. Так на першым такім паседжаньні доўга выступаў вядомы гісторык, прафэсар Міхась Ткачоў. Ён доўга расказваў сябрам Прэзыдыюма (на якім я прысутнічала як дэпутат, але без права голасу) гісторыю нашай Беларусі, адкуль, зь якіх часоў да нас дайшоў *Бел-Чырвона-Белы сьцяг, гэрб Пагоня*, потым доўга адказваў на пытаньні і ... не пераканаў (асабліва тых, якім перакананьні былі не патрэбныя, у іх была пазыцыя). Артадоксы ашчэрыліся „намёртва", былі і тыя, хто ўсё яшчэ „сумняваўся". Тады мы запрасілі вядомага гісторыка і геральдыста А. Цітова, які, здавалася, не пакінуў ніводнай кропкі над „і". Але і гэта было бязвынікова: пераканаць некаторых камуністычных артадоксаў было немагчыма, яны цьвёрда стаялі „супраць". Акрамя таго, у іх быў адзін „галоўны", на іх думку, аргумант: Вярхоўны Савет не прыняў адпаведных рашэньняў па рэспубліцы, як жа, маўляў, мы можам прымаць такія рашэньні раней!

Але мы не здаваліся. Работа з дэпутатамі ішла актыўная, усё былі „на ўздыме". Мы мелі магчымасьць уключыць пытаньне ў парадак дня яшчэ праз галасаваньне ўсіх дэпутатаў на сэсіі (здаецца, двумя трацінамі), што нам і ўдалося зрабіць.

І вось 5 верасьня 1991 года на 5-й нечаргавай сесіі цаной цяжкага змаганьня Менгарсавет пры-



-9-

БССР
МІНСКІ ГАРАДСКІ САВЕТ
НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ

г. Мінск, Ленінскі праспект, 8. Тэл. 22-05-75

РАШЭННЕ

ад 6 сентября 1991г. № 170

БССР
МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ СОВЕТ
НАРОДНЫХ ДЕПУТАТОВ

г. Минск, Ленинский проспект, 8. Тел. 22-05-75

РЕШЕНИЕ

5-й внеочередной сессии
XXI созыва

О площади им. В.И. Ленина
и Ленинском проспекте в
г. Минске

Исходя из декларирования и развития государственности и суверенитета Белоруссии в отношениях между другими суверенными государствами СССР, утверждения политической и экономической самостоятельности республики на международной арене и, учитывая в связи с этим важность топонимических названий и монументальной символики мест, где размещаются высшие органы государственного управления, Минский городской Совет народных депутатов РЕШИЛ:

1. Поручить депутатской комиссии по культуре, охране и возрождению историко-культурного наследия и исполкому горсовета в течение сентября 1991 года решить вопрос о переименовании площади Ленина и Ленинского проспекта с учетом предложений народных депутатов и граждан города Минска.

2. Мингорисполкому разработать и до 1.05.1992г. осуществить комплекс мероприятий по благоустройству данной площади, исходя из следующего:

- заменить памятник В.И. Ленину на архитектурно-художественную композицию, символизирующую суверенитет и независимость Белоруссии, национальное возрождение белорусского народа.

Для разработки проекта указанной композиции объявить республиканский конкурс, его результаты обсудить с широким кругом населения и творческой интеллигенции г. Минска.

- проектом благоустройства пересмотреть схему движения транспорта и пешеходов по площади, исключив разделение дорогой памятника и площади массового накопления людей, создать возможность свободного подхода и размещения больших групп народа непосредственно у памятника.

Председатель горсовета А. Герасименко

Тип. 1. З. 2647. Т. 3000. Минск. 1990

*16. Рашэньне Менгарсавета ад 6.09.1991 аб дэмантажы скульптуры Леніна ў Менску.*



-3-

| | |
|---|---|
| БССР<br>МІНСКІ ГАРАДСКІ САВЕТ<br>НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ<br>г. Мінск, Ленінскі праспект, 8. Тэл. 22-05-75 | БССР<br>МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ СОВЕТ<br>НАРОДНЫХ ДЕПУТАТОВ<br>г. Минск, Ленинский проспект, 8. Тел. 22-06-75 |
| РАШЭННЕ | РЕШЕНИЕ |
| ад 5 сентября 1991г. № 166 | 5-й внеочередной сессии XXI созыва |

Об использовании националь-ной символики

Минский городской Совет народных депутатов РЕШИЛ:

1. Установить, что в городе Минске наряду с государственной символикой БССР используется белорусская национальная символика – бело-красно-белый флаг и герб "Погоня".

2. Установить наряду с государственным флагом БССР национальный бело-красно-белый флаг над зданием Мингорсовета и в зале заседаний сессии Мингорсовета.

Председатель горсовета А.М.Герасименко

***17. Рашэньне Менгарсавета ад 5.09.1991 аб выкарыстаньні ў горадзе беларускай нацыянальнай сымволікі.***

мае гістарычныя рашэньні аб выкарыстаньні нацыянальнай сымволікі:

1. *Устанавіць, што ў горадзе Менску разам з дзяржаўнай сымволікай БССР выкарыстоўваецца беларуская нацыянальная сымволіка – Бел-Чырвона-Белы сьцяг і гэрб „Пагоня”.*
2. *Усталяваць разам з дзяржаўным сьцягам БССР нацыянальны Бел-Чырвона-Белы сьцяг над будынкам Менгарсавета і ў залі паседжаньняў сэсіі Менгарсавета.*

Калі такое рашэньне пры галасаваньні „прайшло”, мы не маглі ў гэта паверыць: яшчэ існавала БССР, над будынкам Вярхоўнага Савета вісеў сымвал рэспублікі СССР, а над будынкам насупраць, над гарадзкой уладай будзе лунаць наш нацыянальны сьцяг! Гэта і зараз, праз шмат гадоў, прымушае ганарыцца няхай сабе і не такой маштабнай, але перамогай.

Цікава, што за некалькі дзён да прынятага рашэньня аб узьняцьці нацыянальнага сьцяга над будынкам Гарсавета, наш сьцяг ужо залунаў над ім. Знайшліся сьмелыя людзі, якія яго там умацавалі. Правісеў наш сьцяг каля гадзіны, пакуль заўважылі. А вось 5 верасьня, як толькі рашэньне



- 5 -

БССР
МІНСКІ ГАРАДСКІ САВЕТ
НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ

г. Мінск, Ленінскі праспект, 8. Тэл. 22-05-75

БССР
МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ СОВЕТ
НАРОДНЫХ ДЕПУТАТОВ

г. Минск, Ленинский проспект, 8. Тел. 22-05-75

РАШЭННЕ

РЕШЕНИЕ

ад 5 верасня 1991 г. № 168

5-й нечарговай сесіі
XXI склікання

Аб інтэр'еры залы паседжанняў Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў.

Зыходзячы з новых грамадска-палітычных абставін і ідучы насустрач працэсу адраджэння гістарычнай спадчыны беларускага народа, Мінскі гарадскі Савет народных дэпутатаў РАШЫЎ:

1. Усталяваць у зале паседжанняў Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў выяву гістарычнага герба г.Мінска ўзору 1591г.

2. Даручыць адпаведным службам выканкама Мінскага гарсавета прыняць меры па ажыццяўленню дадзенага рашэння.

Старшыня Мінгарсавета А. Герасіменка

*18. Рашэньне Менгарсавета ад 5.09.1991 аб выкарыстаньні Магдэбургскага гэрбу Менска.*

было прынятае, мы ўжо павесілі яго законна і неадкладна: усё было падрыхтавана заранёў. Ніхто ня ведаў яшчэ пра прынятае рашэньне. Зноў пачаўся перапалох: зьняць! А не ўдалося!

Праз два тыдні гістарычнае рашэньне па сымболіцы прыняў Вярхоўны Савет: *Бел-Чырвона-Белы сьцяг* і гэрб *Пагоня* сталі дзяржаўнымі і залуналі па ўсім нашым краі. Памятаю гэты дзень 19 верасьня 1991 года. Ня гледзячы на сьвята, З. Пазьняк, В. Голубеў і некаторыя іншыя дэпутаты Апазыцыі яшчэ доўга знаходзіліся ў Вярхоўным Савеце – былі неадкладныя франтаўскія справы. Валянцін трохі нэрваваўся, ён сьпяшаўся дадому на сямейнае сьвята. Мы былі блізкімі сябрамі, і Валянцін запрасіў З. Пазьняка, Анатоля Трыпуціна і мяне дадому, каб пабыць разам, адзначыць сьвята Беларускага Сьцяга, парадвацца.

Каля 21-й гадзіны мы ўтраіх выйшлі зь Вярхоўнага Савета, па дарозе наперабой абмяркоўваючы, як назаўтра ва ўрачыстай абстаноўцы будзе ганарова ўзьняты над Домам Ураду наш Сьцяг і гэта стане сапраўднай нацыянальнай падзеяй. Але на вуліцы мы проста аслупянелі ад нечаканасьці: над будынкам Вярхоўнага Савета замест

савецкага чырвона-зялёнага ўжо разьвіваўся *Бел-Чырвона-Белы Сьцяг,* які ціхенька быў павешаны позна вечарам, у цемры, як высьветлілася назаўтра, па распараджэньні С. Шушкевіча. Мы глядзелі ўгару, і нас перапаўнялі супярэчлівыя пачуцьці. З аднаго боку – шчасьце нарэшце ўбачыць наш сьвяты Сьцяг над Домам Ураду. Зь іншага – ўрачыстае агульнанацыянальнае сьвята было сапсаванае. Усё было зроблена ціха, каб не надаваць гістарычнай падзеі належны розгалас. Не разумець значэньня падзеі Старшыня Вярхоўнага Савету С. Шушкевіч ня мог. Дык што ж гэта за ўчынак?..

5-га верасьня 1991 года сэсія Менгарсавета прыняла яшчэ адно важнае рашэньне:

1. *Пацьвердзіць гэрб, нададзены гораду 12.01.1591г. у выніку атрыманьня Магдэбурскага права ў 1499г.*
2. *Зьвярнуцца ў Вярхоўны Савет БССР з прапановай адмяніць рашэньне 2-й сесіі Вярхоўнага Савета 1-га скліканьня ад 29 ліпеня 1939г., згодна зь якім горад Менск быў перайменаваны ў Мінск.*

У выніку прынятага рашэньня ў зале паседжаньняў Менгарсавета неўзабаве была ўсталяваная выява гістарычнага герба Менска ўзору 1591 года.

6 верасьня, зыходзячы з Дэкларацыі аб суверэнітэце, прынятай Вярхоўным Саветам, дэпутаты горада прынялі яшчэ адно рашэньне. Камісіі па культуры было даручана "...на працягу верасьня 1991г. рашыць пытаньне аб перайменаваньні плошчы Леніна і Ленінскага праспэкта". Гэтае рашэньне было пасьпяхова выканана: галоўная плошча сталіцы атрымала назоў плошчы Незалежнасьці, а яе галоўны праспэкт – імя славутага беларуса Францыска Скарыны.

Менгарвыканкаму даручалася распрацаваць і да 1.03.1993 г. ажыцьцявіць комплекс мерапрыемстваў па добраўпарадкваньню галоўнай плошчы сталіцы, зыходзячы з наступнага:

– *замяніць помнік Леніну на архітэктурна-мастацкую кампазіцыю, якая б сымвалізавала суверэнітэт і незалежнасьць Беларусі, нацыянальнае адраджэньне народа.*

Для распрацоўкі праекта вырашана было абʼявіць рэспубліканскі конкурс. Але завяршыць гэтую работу не ўдалося...

## „МЕДНЫЯ ТРУБЫ" ГАРСАВЕТА

У пачатку 90-х ніякіх іншых палітычных арганізацыяў, акрамя Фронту, не было. Таму ўсе, хто жадаў пераменаў, лічыліся „нефармаламі" (што ў грамадзтве атаесамлівалася з Фронтам), хоць на справе фронтаўцамі былі далёка ня ўсе „дэмакраты". Некаторыя дбалі пра будучыню Беларусі толькі пасьля таго, як вырашацца іхныя ўласныя інтарэсы. А калі трэба было выбіраць паміж першым і другім, то, не вагаючыся, выбіралі асабісты камфорт. (Пазьней гэтыя „дэмакраты" адкрыта будуць езьдзіць да нашых непрыяцеляў у Маскву і прасіць іхнай „дапамогі" „утаймаваць" Лукашэнку.) Гэты падзел на адраджэнцаў і псэўдаадраджэнцаў („дэмакратаў") пачаўся ўжо тады і ў Гарсавеце.

Пасьля таго, як некаторыя „дэмакраты" былі абраныя дэпутатамі, шмат для каго прышоў час выпрабаваньня „меднымі трубамі", якога яны ня вытрымалі.

У „вышэйшы эшалон" улады былая намэнклятура „чужых" не пускала, але дэпутатцтва ўсё ж нейкія „лазанкі" ва ўласны дабрабыт адчыняла, і некаторыя, зʼарыентаваўшыся, пачалі асабістае ўладкаваньне, выкарыстоўваючы дэпутацкі білет. Такія „аматары" скрозь былі сярод намэнклятуры, але гэта быў іхны „сьвет", іхняя „норма". Яны й пры саветах выкарыстоўвалі службовае становішча, стаўшы дэпутатамі – выкарыстоўвалі „дэпутацтва". Гэта было ў іх правілам, яны былі там свае сярод сваіх.

Іншая справа – „новенькія", „дэмакраты", якія казалі пра „народныя інтарэсы". На „дэмакратаў" глядзелі як праз павелічальнае шкло і заўважалі ўсе хібы. Быў адзін такі дэпутат (П.), які гучна крычэў супраць „прывілеяў", а як стаў старшынём адной з камісіяў, дык пачаў набываць для сябе ўсялякія дэфіцытныя на тыя часы тавары, што проста так купіць было немагчыма. Пра гэта (і іншае) мне расказвалі супрацоўнікі Гарвыканкама, якія адносіліся да мяне з павагай. Яны расказвалі пра „чужых" з асуджэньнем (праўда, калі „свой" рабіў нешта незаконна – гэта было як бы нормай і пра гэта маўчалі).

Было, канешне ж, прыкра, што „дэмакраты" купляюцца на нейкую матэрыяльшчыну. На той

агульнадэмакратычнай хвалі людзі неяк спадзяваліся, што „новыя” – значыць усе падрад сумленныя, „чыстыя” на руку.

Быў сярод нас такі дэпутат (К.), які напачатку ўдаваў барацьбіта за нацыянальныя інтарэсы ў Гарсавеце. Але паступова „ўцяміў”, што прыдбаць асабіста са сваёй „беларускасьці” нічога ня зможа, неяк спахмурнеў і ўсюды пачаў падкрэсьліваць, што ён быццам бы „паляк” (выглядала, што „беларускія” справы ўжо як бы і „не ягоныя”). Яго дэпутацкая актыўнасьць зьмянілася пасыўнасьцю, ён часта прапускаў паседжаньні і займаўся асабістымі праблемамі.

Здаецца, у 1993 годзе ў яго узьніклі праблемы з працай, і ён стараўся ўладкавацца ў эканамічным аддзеле Гарвыканкама. Тым ня менш А. М. Герасіменка яму катэгарычна адмовіў і сказаў аб гэтым В. Кузьміч. „Я не вазьму яго на працу ў Гарвыканкам, і не таму, што К. з дэмакратаў. А вось Галіну Фёдараўну вазьму на пасаду інспэктара Гарвыканкама па выкананьні Закона аб мовах”, – так вырашыў Аляксандар Міхайлавіч, ня гледзячы на тое, што я была ня проста „з дэмакратаў”, а прадстаўніком БНФ.

* * *

Дэпутацкія камісіі ў будынку Гарсавета-Гарвыканкама разьмяшчаліся, у асноўным, на 4-м паверсе. Адзін даволі вялікі пакой афіцыйна належыў камісіям па адукацыі і па культуры (гэта на часы сэсіі і калі адбываліся паседжаньні камісіяў). Гэты пакой быў і афіцыйным месцам працы Вольгі Кузьміч (як вызваленага старшыні дэпутацкай камісіі) і маім (як інспэктара Гарвыканкама). Але кожны дэпутат з камісіяў мог узяць ключ ад кабінету, калі нас не было, і займацца дэпутацкімі справамі.

Аднаго разу да нас з Вольгай Кузьміч прышлі з бухгалтэрыі і паказалі нам проста астранамічныя рахункі за тэлефонныя размовы. „Дзяўчаты, вы надта шмат размаўляеце з замежжам”, – сказала нам супрацоўніца бухгалтэрыі.

У нас акругліліся вочы: „Зь якім замежжам?” Мы разам паглядзелі рахункі. Арабскія Эміраты, Ізраіль і г.д.

Гэта быў сапраўдны ўдар, бо мы, безумоўна, ні зь якой замежнай краінай ніякіх перамоваў не вялі, тым больш без дазволу кіраўніцтва. Потым высьветлілася, што адзін дэпутат Ш. браў на вахце ключ і тэлефанаваў па сваіх прыватных бізнэсовых патрэбах за дзяржаўны кошт, ведаючы, што адказнасьці на ім ня будзе. (Пасьля прыходу да ўлады Лукашэнкі гэты „дэмакрат” адмовіцца ад беларускасьці і прыстасуецца да лукашызма.)

Грошы за рахунак аплаціў Гарвыканкам, але па нашай просьбе ключ ад пакою больш не давалі нікому, акрамя нас з Вольгай.

* * *

Паколькі я заўсёды падкрэсьлівала, што зьяўляюся прадстаўніком Фронта, мяне ня раз спрабавалі спакусіць на „прывілеі”. Успамінаецца адзін выпадак.

Неяк выклікае мяне да сябе першы намесьнік старшыні Гарвыканкама спадар У. Ярмошын і паведамляе, што ён быў у камандзіроўцы на Кіпры („якая краіна!”). Там вельмі шчыра адгукнуліся на нашую чарнобыльскую бяду і прапанавалі за свой кошт прыняць беларускіх дзяцей на аздараўленьне. „Я б хацеў, каб вы, Галіна Фёдараўна, і заняліся фармаваньнем гэтай групы дзяцей ( 40 дзетак) і суправаджалі іх на адпачынак на Кіпр, бо трэба, каб ад Гарвыканкама была сабраная група не „блатных” дзяцей, а якім сапраўды патрэбнае такое аздараўленьне”, – прапанаваў мне спадар Ярмошын.

Паколькі я займалася гэтымі пытаньнямі ў Фронце і мне дапамагалі лекары-эндакрынолагі, я пагадзілася і заверыла, што ў групу ўвойдуць толькі тыя дзеці, каму гэта неабходна з мэдычных паказчыкаў.

На наступны дзень спадар Ярмошын пазнаёміў мяне з двума кіпрскімі прадстаўнікамі, якія былі ў Менску па запрашэньні Гарвыканкама. Мы гаварылі пра чарнобыльскія праблемы, пра беларускіх дзяцей і дамовіліся, што група будзе сабраная і па іхным запрашэньні мы прыедзем да іх на Кіпр.

Праз пару дзён спадар Ярмошын паведамляе мне, што дае мне ў дапамогу нейкага спадара Высоцкага, каб мы разам займаліся гэтай працай.

Прышоў той Высоцкі. Мы паразмаўлялі, і я сказала, што галоўнае слова будзе за лекарамі. „Так, так, Галина Фёдоровна, – адразу пагадзіўся ён. Але пазьней вырашыў пагаварыць са мной

„доверительно." – Вы всё говорите правильно. Но вы же понимаете, что есть люди, которым город обязан, которые помогут нашей группе, чтобы было всё комфортно, ну, вы сами всё понимаете. Одним словом, в эту группу надо взять 8-9 детей этих нужных людей. С начальством всё урегулировано."

Я сказала цьвёрда і катэгарычна: „Не, так ня будзе. У групу ўвойдуць толькі тыя дзеці, якім гэта будзе неабходна па стану здароўя. Калі дзеці „нужных людей" хворыя – калі ласка. Калі не, то яны ня зоймуць месца хворых.

Спадар Высоцкі пачаў нешта даказваць, але потым перайшоў на пагрозы. Я сказала, што групу ўзначальваю я, і ўсё будзе толькі сумленна, ніякага вашага „блату". Спадар Высоцкі бразнуў дзявярыма, і пасьля гэтага „справа" неяк заціхла і зусім зглохла, усе мае высілкі натыкаліся на чыноўніцкую сьцяну, на нежаданьне нешта рабіць.

А зараз я думаю, што мяне проста хацелі спакусіць экзатычным бясплатным адпачынкам на Кіпры ўзамен за „згоду" на іхныя махінацыі, а потым маніпуляваць мной як прадстаўніцай Фронту. Ня выйшла – і група на Кіпр не паехала, ці, можа, паехала, ды толькі без мяне. Але мяне гэта ўжо ня тычылася.

## УСЕБЕЛАРУСКІ СТРАЙК 1991 ГОДА

У красавіку 91-га (а гэта яшчэ існаваў СССР і кіруючая КПСС) ўся Беларусь была ахопленая стыхійнымі страйкамі рабочых, якія пратэставалі супраць гвалтоўнага павышэньня цэнаў і нізкага ўзроўню жыцьця. Гэта быў гістарычны момант і шанец, які мы, беларусы, тады, на жаль, на поўніцу не скарысталі.

Якраз у гэты час лідэры Народнага Фронту Зянон Пазьняк, Лявон Баршчэўскі і Мікалай Заблоцкі знаходзіліся ў Злучаных Штатах з важнай місіяй: прарыў інфармацыйнай блякады Беларусі, зацьвярджэньне яе суверэнітэту у міжнароднай палітыцы, прыцягненьне ўвагі да малавядомай у сьвеце дзяржавы Беларусь. Справу яны рабілі важную і пасьпяхова. Пазьняк тэлефанаваў і размаўляў з сябрамі дэпутацкай Апазыцыі БНФ, з В. Голубевым і іншымі, раіў, падказваў, што трэба рабіць. На той час імгненна вярнуцца з-за акіяна (прытым тады можна было толькі праз Маскву ці Ленінград ды з перасадкамі ў аэрапартах) лідэры не змаглі б. Пазьняк падлічыў, што страцілі б на ўсю валакіту вяртаньня да Менска, мінімум чатыры дні. Стыхія актыўна трымылася б, на яго думку, ня больш двух дзён. Жалеза трэба каваць напачатку, калі гарачае. Прыехаць позна па пажары „на галавешкі" – было бяссэнсоўна. Падзеі паказалі, што кіраўнікі Фронту не памыліліся ў сваіх меркаваньнях. Але як жа нехапала іх тады на Беларусі...

Страйк імгненна ахапіў многія буйныя гарады Беларусі. У першы дзень страйку адбывалася сэсія Менгарсавета. Мы выбеглі з залі паседжаньняў у калідор, каб праз вокны ўбачыць рух калёнаў рабочых на плошчу Незалежнасьці.

Памятаю, як перапужаліся камуністы і чыноўнікі ў Гарвыканкаме. З розных канцоў Менска, з розных заводаў ішлі велізарныя калёны рабочых. Відовішча ўражвала. Да Дому Ўраду рухаліся тры велізарныя калёны: адна – з вуліцы Сьвярдлова; як шырокая рака, плыў людзкі вал па мосьце з вуліцы Маскоўскай; і такая самая людзкая рака рашуча набліжалася да плошчы Незалежнасьці (тады плошчы Леніна) з праспэкта Скарыны (тады праспэкта Леніна). Рабочыя былі настроеныя вельмі рашуча. Уся велізарная плошча ў цэнтры Менска запоўнілася людзьмі (а гэта тысяч трыста, ня менш).

Я адразу вырашыла пакінуць сэсю і йсьці на плошчу. Са мной разам спачатку з гарсавета не пайшоў ніхто, толькі праз нейкі час некалькі дэпутатаў таксама зьявілася на плошчы. Мяне ж спрабавалі спыніць: „Галіна Фёдараўна, ідзе сэсія, і ваш абавязак быць на ёй"; „Мы здымем з вас „дэпутацкія грошы". На што я адказвала: „Мой абавязак зараз быць там, на плошчы, са сваімі выбаршчыкамі. А грошы – пры чым тут грошы, калі вырашаецца лёс Бацькаўшчыны!"

Народу было вельмі шмат. Практычна, уся плошча была запоўненая (такой колькасьці, як у той дзень, на плошчы Незалежнасьці я больш ня бачыла ніколі). Людзі стаялі, некаторыя сядзелі на асфальце, падаслаўшы газэту.

Многія сябры Страйкаму і Рабочага Саюзу ведалі мяне як фронтаўку і як дэпутата, таму,



*19. Красавік 1991 г. Шматсоттысячны пратэст рабочых Менска супраць дзеяньняў камуністычных уладаў.*

убачыўшы, прапанавалі „ўзначаліць” рабочую дэлегацыю на сэсію Гарсавета. Я пагадзілася. Стыхійна вылучылі чалавек пяць (у асноўным – жанчын, якія былі больш сьмелыя), і мы імкліва ськіваваліся да будынку Гарвыканкама. На 4-м паверсе, дзе ў вялікай залі ішла сэсія, рабочых прыпынілі працаўнікі Выканкама, якія заўсёды сталялі каля ўваходу ў залю падчас сэсіі. Я рашуча сказала, што гэтая дэлегацыя са мной, і мне ніхто не адважыўся запярэчыць.

Мы ўвайшлі ў залю. Я падняла руку і зьвярнулася да вядучага А. С. Герасіменкі і дэпутатаў: „Шаноўнае спадарства! Вы ведаеце, што пачаўся ўсебеларускі страйк. Рабочыя на плошчы (якіх сотні тысячаў) накіроўваюць на нашу сэсію сваіх прадстаўнікоў са зваротам да нас, дэпутатаў. Гэта нашыя выбаршчыкі, і мы, іхныя абраньнікі, ня можам ігнараваць іхны зварот да нас. Патрабую прыпыніць сэсію і даць слова дэлегатам”.

Вочы Аляксандра Міхайлавіча акругліліся ад жаху, але ня выканаць патрабаваньня ён ня змог – настолькі рашуча мы выглядалі. Ён „здрыгануўся”, калі не сказаць спужаўся. Вялікі сполах чытаўся на твары ня толькі Старшыні Гарсавета – твары ўсяго начальства і намэнклятуры выканкама, якой у залі было поўна, проста „перакасіла”.

Ужо прадстаўнікі дэлегацыі выступаюць з дэпутацкай трыбуны, але выступы, на жаль, былі непадрыхтаваныя. Рабочыя выказвалі сваё абурэньне неверагодным ростам цэнаў, ростам беспрацоўя і г.д. – словам, патрабавалі палепшыць матэрыяльнае жыцьцё. Выступілі, выказалі абурэньне – і ўсё. Што рабіць далей – ніхто (ў тым ліку і я) ня ведалі. І мы з высока паднятымі галовамі праз усю залю годна пайшлі назад, на плошчу. (Дарэчы, гэты выпадак так моцна напужаў кіраўніцтва Выканкама і Гарсавета, што на працягу амаль пяці гадоў сэсія ніколі не прызначалася на „ненадзейныя” дні-месяцы, у пэрыяд нейкай, зь іх пункту гледжаньня, народнай ці фронтаўскай „нестабільнасьці”, калі высьпявалі ці адбываліся мітынгі ці страйкі.)

Тым часам пачаўся мітынг. Выступалі разгневаныя рабочыя. Плошча патрабавала кіраўнікоў дзяржавы. Зьявіўся прэм’ер-міністар Кебіч. І тут ён адразу пачуў усё, што думалі пра яго і ягоны ўрад простыя людзі, якія выказвалі сваё абурэньне і нянавісьць да камуністычнай улады.

На пачатку рабочага страйку не было ні палітычных патрабаваньняў, ні нацыянальнай сымболікі. Пачыналася ўсё з патрабаваньняў эканамічных. Але паступова па ініцыятыве Народнага Фронту на плошчы зьявіліся *Бел-Чырвона-Белыя*

*сьцягі*, рабочыя пачалі выстаўляць і палітычныя патрабаваньні. Трэба адзначыць што ў той час арганізацыі Беларускага Народнага Фронту былі ўжо амаль на ўсіх буйных прадпрыемствах Менска. Ля вытокаў і ў аснове арганізацыі Рабочага Саюзу стаялі таксама рабочыя-франтаўцы сябры Сойму БНФ Сяргей Антончык, Алесь Галькевіч, Міхаіл Мухін, Міхась Собаль і іншыя рабочыя лідары. Гэта яны якраз упарадкавалі рабочы пратэст і сьціравалі (практычна прывялі) людзей на плошчу Незалежнасьці да Дому Ураду.

Людзей было шмат, не хапала толькі лідэра ці „лідэрскага кулака", які б дзейнічаў рашуча, хутка і пераканана. Здавалася, такія людзі былі, яны стаялі тут, на плошчы. Гэта і Валянцін Голубеў, і Віктар Івашкевіч, і шмат хто яшчэ, хто мог бы ў той сытуацыі ўзяць на сябе адказнасьць і павесьці народ на дзеяньні. Але ніхто не рашыўся. Мне здаецца, што (асабліва ў першы дзень) людзі гатовыя былі дзейнічаць востра і актыўна. Трэба было скарыстаць момант.

Усе былі надзвычай ўзбуджаныя. Многія лічылі, што камуністы ўжо пераможаныя. З асаблівай надзеяй я паглядала на свайго сябра Валянціна Голубева. Актыўны дэпутат Апазыцыі, паплечнік Пазьняка, хто, калі ня ён, зараз павядзе за сабой. Але нічога не атрымалася. („Амбіцыі" спрацуюць потым, значна пазьней).

Страшэнна балюча было назіраць, як зьнікае шанец, сыходзіць з-пад самых рук... Страйк паказаў усім (хоць „ўсе", магчыма, гэтага і „ня ўбачылі"), што адной толькі масай, нават вельмі вялікай, яшчэ нічога ня зробіш. Патрэбная вялікая змагарная ідэя, якая яднае ўсіх, і чалавек, які павядзе, дакладней, – які возьме на сябе адказнасьць і якога прызнаюць (бо павесьці часта імкнуцца і дурні, прытым ў тупік). Памятаю, як да вечара людзі стаялі на плошчы. Пачаліся прамовы, але „прамоўцаў" не хапала. Выступалі многія дэпутаты Вярхоўнага Савета, гарадзкога Савета – выступалі ўсе, хто ўмеў гаварыць прамовы, і хто ня ўмеў.

Тым часам ішлі паведамленьні, што наш страйк падтрымалі рабочыя Воршы і іншых гарадоў Беларусі. Людзі бурна рэагавалі апладысментамі. Пакідаць плошчу рабочыя не зьбіраліся, яны як бы чакалі закліку, па якому б пайшла ўся плошча, але ніякага закліку ні ад каго не было. Здавалася, час цягнуўся вельмі марудна ці зусім спыніўся. Што рабіць далей – ня ведаў ніхто.

А потым вырашылі ісьці да тэлебачаньня і патрабаваць простага эфіру. І людзі рушылі велізарнай калёнай.

Уся плошча Перамогі запоўнілася людзьмі. Але дакладнага пляну дзеяньняў не было. Тут таксама не знайшлося арганізатараў, якія б дакладна акрэсьлілі мэты і задачы. У вачох многіх людзей было пытаньне: „Што далей?" А што рабіць – ніхто ня ведаў.

Сябры прапанавалі: „Галя, чытай вершы!" Я чытала, нешта гаварыла. Але ня тое трэ' было рабіць, і ня вершы чытаць.

Тым часам дэлегацыя накіравалася ў будынак тэлецэнтру з патрабаваньнямі эфіру. Але гэтае „патрабаваньне" хутчэй можна было назваць просьбай. Натуральна, ніхто ня кінуўся даваць ім эфір, а ў дэлегацыі настойлівасьці не было, яны тут жа і абвялі. Незнаёмая мне жанчына з рабочых раптам зьвярнулася да мяне: „Трэба сёньня дамагацца ад ураду ўсяго, бо сёньня мы, рабочыя, пойдзем за вамі і, калі трэба, разьнясём гэты тэлецэнтар па цагліне. Заўтра можа быць позна, няўжо ж вы гэтага не разумееце?"

Але ў першы дзень мы нічога не дамагліся: катастрафічна не хапала лідэра. Назаўтра рабочыя зноў прыйшлі на плошчу, але іх ужо было крыху меней. На трэці дзень быў дождж, людзі стаялі на плошчы, але міліцыя ўжо адгарадзіла жалезнымі штакецінамі будынак ураду ад плошчы. Прамоўцы нешта патрабавалі, пісалі звароты, пасылалі дэлегацыі ва ўрад. Але час быў страчаны, улады „апамяталіся", страйк пайшоў на спад.

## КАМІСІЯ ПА АДУКАЦЫІ

Жыцьцё працягвалася, і мы прадаўжалі сваё змаганьне. Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце патрабавала ад Савета Міністраў новых падручнікаў, каб выкладаньне ў школах, ВНУ пераходзіла на дзяржаўную мову. Савет Міністраў (на чале з В. Кебічам) рабіў выгляд, што зьбіраецца ўводзіць Закон „Аб мовах" у жыцьцё. Але было відавочна, што ўлада сабатуе Закон.

За беларускую школу, беларускі дзіцячы садок у Менску змагаліся і мы ў Гарсавеце. Гэтым зай-

малася дэпутацкая *Камісія па адукацыі* на чале з заслужанай настаўніцай Беларусі ***Вольгай Кузьміч***. Па прыродзе чалавек дабразычлівы, чулы, памяркоўны, яна ўмела знайсьці паразуменьне і схіліць на свой бок людзей розных характараў і поглядаў.

Камісія была адной з найбольш шматлікіх, а ў яе складзе – дырэктары школаў, кіраўнікі навучальных установаў, настаўнікі, пэдагогі. Людзі (ў асноўным) – падпарадкаваныя ўладзе, залежныя, якія (у большасьці) трымаліся ідэалягічнага накірунку кампартыі ў савецкія часы. Кіраваць такімі людзьмі надзвычай цяжка. Таму не перастаю зьдзіўляцца майстэрству Вольгі Кузьміч, якая змагла аб'яднаць дэпутатаў з супрацьлеглымі поглядамі, часам надзвычай амбіцыйных „кіраўнікоў" (у асноўным – адданых уладзе), іськіраваць працу Камісіі на тое, каб гэты працэс беларусізацыі сталічных школаў і дашкольных дзіцячых ўстановаў рухаўся, і даволі хутка.

Не хапала падручнікаў, не хапала метадычнай літаратуры, але ад Камісіі зыходзіла такая перакананасьць і пасьлядоўнасьць дзеяньняў, што школы Менска хутка пачалі пераходзіць на беларускую мову і набываць статус беларускамоўных. Ня ўсё задавальняла ў гэтым працэсе, але і ня ўсё залежыла ад нас.

У самым пачатку нашай дэпутацкай дзейнасьці (1990 г., калі яшчэ быў СССР і „ўсяўладная" КПСС) у Камісію па адукацыі Менгарсавета зьвярнуўся за дапамогай атрымаць памяшканьне адзін з ініцыятараў стварэньня беларускага ліцэю з фізіка-матэматычным ухілам пры БДУ А. І. Жук. Мы актыўна іх падтрымалі. Без партыйнага кіраўніцтва вырашыць гэтае пытаньне (як і ўсё астатняе) тады было немагчыма. Усё вырашала „партыя", і мы зьвярнуліся туды. Памятаю наш (трох дэпутатаў) візыт у ЦК КПБ з патрабаваньнем дапамагчы ў выдзяленьні будынка для ліцэя. Нас прыняў адзін з сакратароў ЦК КПБ камуністычны артадокс Камай, які з-за вялікага стала вынес свой вердыкт: „Я ліцэяў не канчаў, кароў і авечак пасьвіў, а бачыце, чаго дасягнуў".

З памяшканьнем ён не дапамог, нават наступная сустрэча, пра якую мы дамовіліся, не адбылася. Сакратарка нам паведаміла, што „таварыш Камай заняты і прыняць нас ня можа" (тыповы стыль камуністаў), але і перашкодзіць ня здолеў: ня тыя часы. Пад націскам дэпутатаў Камісіі па адукацыі Менгарсавета Беларускі ліцэй пры БДУ з фізіка-матэматычным ухілам атрымаў памяшканьне. Але прайшоў час, і тыя, хто ўзначаліў ліцэй (асабіста А. І. Жук) і біў сябе ў грудзі, што ён будзе беларускамоўнай навучальнай установай (толькі, маўляў, дапамажыце з памяшканьнем), здрадзілі нашаму змаганьню і перайшлі на чужую, на расейскую мову... Была і, на жаль, не пераводзіцца цяпер такая зьява ў нашым жыцьці.

Крыху пазьней быў адчынены яшчэ адзін ліцэй – Гуманітарны. Пра гэта піша ў сваёй кнізе *„Сем гадоў Адраджэньня..."* ***Сяргей Навумчык***: „Дзякуючы намаганьням Камісіі па культуры і захаваньні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета, у лістападзе 1991-га Міністэрствам адукацыі на базе ранейшага нядзельнага ліцэю ствараецца Беларускі гуманітарны ліцэй. А 15 студзеня 1992 г. распараджэньнем Савета Міністраў яму перадаецца будынак на Кірава, 21". *(С. Навумчык. Сем гадоў Адраджэньня...", – Варшава-Прага, 2006, стар. 75).*

Усё так. Дадам толькі, што так званую „падрыхтоўчую" работу мы рабілі ўсе разам: і дэпутаты, і асабіста Н. Гілевіч, і А. Трусаў, і В. Кузьміч, і У. Колас, і ліцэісты. Разам з ліцэістамі мы выходзілі з плякатамі да Вярхоўнага Савету. Ліцэісты размаўлялі з дэпутатамі, калі тыя ў перапынку выходзілі на намэнклятурны „перакур", зьвярталіся да іх, пераконвалі, каб яны паспрыялі стварэньню Ліцэя. А каб дзяцей не адштурхнула міліцыя, зь імі былі мы, дэпутаты Гарсавета.

Распараджэньне аб стварэньні Ліцэю было прынята. Аднак не было памяшканьня, і знайсьці яго маглі толькі гарадзкія ўлады, на якія нам, дэпутатам, трэба было ціснуць і ціснуць. У. Колас ня раз прыходзіў у Гарвыканкам да Вольгі Кузьміч за падтрымкай, і тут яна асабіста зрабіла вельмі шмат: бясконца „дзяўбла" старшыню Гарвыканкама, пераконвала, прасіла, настойвала, нагадвала пра ліцэй.

Трэба сказаць, што там, дзе спрыяньне ня йшло ў разрэз з Саўмінам, А. М. Герасіменка спрыяў беларускай справе. Таму, дзякуючы моцнай падтрымцы В. Кузьміч, удалося дамагчыся таго, што горад гэтай праблемай заняўся шчыльна. У гэтым пытаньні А. М. Герасіменка сапраўды пастараўся.

Канчатковая ідэя пра будынак на Кірава, 21 была яго, і рашэньне было прынята Саўмінам ня проста „зь неба", а дзякуючы вялікай сумеснай беларускай працы. (Так бы заўсёды!)

З Лукашэнкам прыйшоў новы тып чыноўніка-разбуральніка, і сёньня Беларуская мова распараджэньнем Міністэрства адукацыі (дзе міністар Бурачкоў) да пачатку новага (2007/2008) навучальнага года ўжо выводзіцца з ужытку ў тэхнічных ВНУ. Прынята адпаведная пастанова, ня гледзячы нават на тое, што лукашэнкава „палата" прызнала гэта незаконным. Злачынная акцыя выклікала абурэньне грамадзкасьці, ТБМ зьвярнулася да Міністэрства з запытам – яно не адказвае, яно мовай беларускага народа расплочваецца з Масквой (называе гэтую здраду – „у рамках „саюзных" стандартаў"). А беларусы ўсё ня бачаць, што гэта і ёсьць разбурэньне суверэнітэту без ужываньня зброі...

Шмат намаганьняў прыклала Камісія па адукацыі для арганізацыі тэлемарафону (1991 г.) у падтрымку беларускай школы, сродкі ад якога потым былі накіраваныя на разьвіцьцё беларускага навучаньня. Мы ўсяляк прапагандавалі школы, якія шчыра дзейнічалі ў рэчышчы Адраджэньня. Актыўным ініцыятарам усёй нашай дзейнасьці была, безумоўна, Вольга Кузьміч, у яе было 2-3 (усяго!) надзейныя памочнікі – і справа рухалася.

Калі нам было неабходна прыняць важнае рашэньне, Вользе дастаткова было папярэдзіць: „Заўтра на Камісіі быць неабходна", – і мы адкладалі ўсе іншыя справы.

Дзейнічала Камісія праз Гарадзкое Упраўленьне адукацыі (якое было нам як бы падпарадкавана і на якое мы мелі пэўны ўплыў). Падчас наведваньня школаў мы сустракалі шмат настаўнікаў-энтузіястаў, усяляк падтрымлівалі іх.

Па ініцыятыве Камісіі (а дакладней, Вольгі Кузьміч) у Фрунзенскім раёне Менска праводзіўся аналітычны зрэз па навучаньні фізікі і матэматыкі па-беларуску. Былі падабраныя клясы з аднолькавым „узроўнем пасьпяховасьці", але адны зь іх пачалі вучыцца па-беларуску, іншыя – працягвалі па-расейску. Вынікі далі нам вельмі істотны аргумант: дзеці, якія навучаліся па-беларуску, значна лепш авалодвалі прадметам.

На кожным паседжаньні Камісіі мы абмяркоўвалі пытаньні мовы, аналізавалі работу беларускамоўных (і рускамоўных) школаў горада. Каб выявіць, як уводзіцца Закон аб мовах, правяралі, ці пасьпяхова школы пераходзяць на родную мову, на якой мове афармляецца дакумэнтацыя ў школах і г.д. Нас, некалькі ініцыятыўных чалавек, ня трэба было ні прымушаць езьдзіць па школах горада, ні напамінаць – гэта сталася „асабістай справай".

Час „бег", і мы „беглі" за ім. Рабочы дзень быў перапоўнены. Пасада старшыні камісіі была „вызваленай", астатнія дэпутаты мусілі працаваць на сваёй асноўнай працы, але мы мелі права вызваляцца на дэпутацкія справы, і калі было неабходна, выкарыстоўвалі яго (ня кажучы пра „адпачынак"). Спраў было столькі, што пасьля першага году працы Вольга Кузьміч увесь свой адпачынак заставалася ў Гарсавеце. (Калі потым пра гэта даведаўся А. М. Герасіменка – старшыня Гарсавета, то падобраму сварыўся на Вольгу. Але нярэдка такое паўтаралася, і з Вольгай, і са мной, і з тымі, для каго справа Адраджэньня была найважнейшай.)

З мэтай пашырэньня і спрыяньня беларускай адукацыі мы сустракаліся з кіраўнікамі школаў, настаўнікамі. Каго агітавалі – ад каго патрабавалі. Удзельнічалі ў канфэрэнцыях, зьездах, выступалі ў СМІ. Гэта давала плён. Выявілася, што і бацькі, і настаўнікі ставіліся да працэсу адраджэньня беларускай школы з разуменьнем, успаміналі свае карані.

Камісія па адукацыі Менгарсавета пастаянна вывучала навучальна-выхаваўчы працэс у дзіцячых установах Менска. Ня раз наведвалі мы і школы-інтэрнаты, асабліва, дзе навучаюцца і жывуць дзеці-сіроты. У дзіцячым інтэрнаце Заводзкага раёна (здаецца, №5) мы з Вольгай Кузьміч убачылі шматлікія іхныя нястачы, бедную матэрыяльную базу. Трэба было зьвярнуць увагу дзяржавы да праблемаў дзяцей-сірот. Мы зьвярнуліся да Зянона Пазьняка як да дэпутата Вярхоўнага Савета дапамагчы нам у гэтым, і на сустрэчу з супрацоўнікамі і выхаванцамі інтэрнату мы ўжо паехалі разам зь ім. Фронт якраз атрымаў гуманітарную дапамогу з-за мяжы, зь якой мы і прыехалі ў інтэрнат. Памятаю, дзеці спэцыяльна для гэтай сустрэчы падрыхтавалі канцэрт.

Зянон Пазьняк размаўляў з настаўнікамі і дзецьмі, хадзіў па клясах, знаёміўся з так званым „спальным корпусам", абсталяваньнем і ў цэлым матэрыяльнай базай, нешта сабе занатоўваў. Сус-



*20. 1992 г. Галіна Пазьняк і Вольга Кузьміч.*

трэча была вельмі цёплая. Тады Зянон Пазьняк паабяцаў дзецям, што калі яны будуць старацца добра скончыць навучальны год, то (як скончацца заняткі) ён наладзіць для іх вандроўку па Беларусі. Ня ведаю, ці спадзяваліся на гэтае абяцаньне занятага справамі дэпутата Вярхоўнага Савета дзеці, але ён стрымаў сваё слова. Фронт аплаціў аўтобус, і мы з дзецьмі-сіротамі адправіліся ў вандроўку па Беларусі (з запасам харчаваньня на дзень, пра што Старшыня Фронту таксама паклапаціўся загадзя). Гідам у гэтай вандроўцы быў таксама Зянон Пазьняк, расказваў дзецям пра помнікі гісторыі і культуры, пра знакамітых беларусаў. Нясьвіж, Мірскі замак, Заслаўе і па дарозе яшчэ шмат дзе пабывалі дзеці ў той памятны дзень. Такая вандроўка была для тых дзетак упершыню, яны былі вельмі ўражаныя і шчасьлівыя. Упэўнена, што гэты дзень ім запомніўся надоўга.

Ініцыятарам „камісійных" справаў на карысьць незалежнай Беларусі была старшыня Камісіі. Я старалася ўсімі сіламі дапамагаць ёй, тым больш, што была сакратаром Камісіі. Актыўна дапамагалі нам у гэтай справе дэпутаты ***Валянціна Ерашэнка*** (загадчыца дзіцячага садка №56 Менска) і дацэнт Эканамічнага ўнівэрсітэту ***Рыгор Ермашкевіч***. Зь іншымі сябрамі Камісіі старшыня ўмела пабудаваць такія дачыненьні, што нават тыя, хто ў душы быў супраць беларускай мовы, адкрыта не рашаліся галасаваць па нейкім пытаньні „супраць".

Неўзабаве беларускіх школаў і дзіцячых дашкольных установаў у Менску сталася большасьць. Часам, ня ўсе зь іх адпавядалі свайму статусу „беларускамоўная школа", бо Закон ўводзіўся ў жыцьцё, фактычна, дзякуючы энтузіязму пэўных канкрэтных людзей. Тут вельмі не хапала падтрымкі дзяржаўнай улады (Саўміну), якая моцна

супрацiўлялася любым праявам беларускасьцi, зьнешне дэкляруючы падтрымку беларускай школы. Тым ня менш наша Камiсiя па адукацыi (адзiная) засталася вернай iдэi Адраджэньня да канца дэпутацкага тэрмiну.

Неяк да нас у Камiсiю па адукацыi прыйшло некалькi чалавек рускамоўных настаўнiкаў i „бацькоў" з патрабаваньнем: „Уберите этот ваш белорусский язык. Что за насилие. Мы граждане Беларуси, имеем все гражданские права и не собираемся говорить на вашем языке. У нас есть свой, русский!" – гiстэрычна крычэлi актывiсты „пятай калёны".

Здавалася, у кабiнеце (дзе было працоўнае месца Вольгi Кузьмiч i маё) шыбы лопнуць ад ляманту i крыку. Але лямантам нас спужаць было немагчыма. Мы добра ведалi Закон i змаглi так „адбiць" атаку, што тыя пайшлi, як кол праглынуўшы.

## КАМIСIЯ ПА КУЛЬТУРЫ I АДРАДЖЭНЬНI ГIСТАРЫЧНАЙ СПАДЧЫНЫ

Камiсiя па культуры Менгарсавета напачатку нашай кадэнцыi была цалкам адраджэнцкая i пачынала таксама з энтузiязмам адраджаць беларускую культуру ў Менску.

Яе старшыня **Iгар Чарняўскi** меў вялiкi аўтарытэт сярод дэпутатаў. Добра выхаваны, разумны i стрыманы, ён выклiкаў павагу нават ў нашых працiўнiкаў. Яго слова мела вагу i таму шмат якiя прапановы Камiсii, якiя на сэсii прадстаўляў Iгар, пры галасаваньнi „праходзiлi". Першыя 2-3 гады мы (яе сябры) гэтаксама, як i Камiсiя па адукацыi, дружна i плённа працавалi i змаглi разам дамагчыся шмат чаго.

У адрозьненьне ад Камiсii па адукацыi (дзе было шмат працiўнiкаў адраджэньня), у склад Камiсii па культуры ўвайшлi ў асноўным прыхiльнiкi беларускага Адраджэньня. Тут былi аднадумцы, якiя актыўна адгукалiся на праблемы разьвiцьця беларускай культуры. Дэпутат Андрэй Завадзкi, напрыклад, падрыхтаваў сэрыю прапановаў па зьмене ўсiх камунiстычных назваў вулiц Менска, i мы, сябры камiсii, адзiнадушна падтрымлiвалi ягоныя праекты, каб, як кажуць, ўвасобiць яго прапановы ў жыцьцё. Але рашэньне па перайменаваньню вулiц Менска прымала выканаўчая ўлада (Выканкам). Курыраваў гэтыя пытаньнi А. Сасноўскi, дэпутаты маглi толькi ўнесьцi прапановы.

Каб ня даць ходу дэпутацкай iнiцыятыве, спадар Сасноўскi ўтворыў сваю адмысловую грамадзкую „камiсiю" з „прафэсiяналаў" (яе назвы ня памятаю), а на справе са „сваiх" людзей, прыхiльнiкаў камунiстаў, якiя блякавалi прапановы дэпутацкай Камiсii па культуры. Яны вырашалi, прадстаўляць праект рашэньня па зьмене назвы вулiц (прапановы дэпутацкай Камiсii) на зацьвярджэньне Гарвыканкаму, цi не. Справа па перайменаваньню вулiц пачыналася з таго, што сп. Сасноўскi зьбiраў сваю адмысловую камiсiю, на якой дэпутатат зачытваў прапанову. Яе абмяркоўвалi i... не зацьвярджалi. За ўсiм гэтым стаяў сам сп. Сасноўскi, якi i не даваў разьвiвацца працэсу перайменаваньня вулiцаў Менска. Адыёзныя назвы вулiц з iмёнамi сьвярдловых, валадарскiх, урыцкiх i г.д. засталiся. Кебiчаўская „дырэктыва" „вiсела" перад iхнымi слабымi душамi i зачыняла ад iх усе самыя вялiкiя аргуманты. Нiчога зрабiць тут было немагчыма.

Перайменаваць удалося толькi праспэкт Ленiна на праспэкт Скарыны i вулiцу Горкага на вулiцу Максiма Багдановiча, але за гэта было вельмi вялiкае змаганьне.

У 1992 годзе ўвесь сьвет адзначаў 500-годдзе славутага беларуса Скарыны. Ужо пачалася ўрачыстая вечарына з гэтай нагоды ў Менскай фiлярмонii, а ў Гарвыканкаме iшло „сваё" паседжаньне, на якiм чыноўнiкi нiяк не згаджалiся перайменаваць цэнтральны Менскi праспэкт i надаць яму славутае iмя. Мы, дэпутаты, прысутнiчалi на iм, i цiснулi, цiснулi ўпартых чыноўнiкаў. Тут моцна пастаралiся дэпутаты А. Завадзкi, А. Гурыновiч, В. Кузьмiч, i ўсе дэпутаты камiсii па Культуры. Мы гаварылi, што гэта вялiкi сорам не ўшанаваць такое славутае iмя, якое ўзьнiмае ўсiх нас, беларусаў, у сьвеце, тым больш у юбiлейны год. Урэшце рэшт рашэньне было прынята, але зь вялiкiм боем. Дэпутат Андрэй Завадзкi проста з паседжаньня паехаў у фiлярмонiю, каб паведамiць пра прынятае рашэньне.

Вулiцу Максiма Багдановiча ўдалося адваяваць таксама толькi таму, што гэта быў юбiлейны год




***21. Фронтаўскія лёзунгі. 1991 г.***

Паэта, і мы склікалі на паседжаньне ўсіх, каго маглі. Перайменаваць вуліцу расейскага камуністычнага пісьменьніка Горкага (адну з самых доўгіх вуліцаў Менска) камуністы не хацелі, таму вялікая вуліца была падзелена. Імя беларускага генія ўдалося надаць тады, фактычна, толькі палове вуліцы, астатняя частка засталася „горкай".

Тым ня менш і надалей дэпутаты працавалі актыўна, вынесьлі на сэсію і дамагліся прыняцьця вельмі важных рашэньняў, пра якія я казала раней (гэрб *Пагоня, Бел-Чырвона-Белы сьцяг* і інш.). Але потым пад уплывам неспрыяльных для беларускага Адраджэньня падзеяў, сябры гэтай камісіі неяк аслаблі, абвялі, некаторыя здаліся, некаторыя зусім „зышлі ў цень" і да змаганьня за Бацькаўшчыну, за беларускую культуру сталіся няздатнымі. Першым ідэі Адраджэньня здрадзіў дэпутат У. Шаранда. Пачынаў ён як актыўны прыхільнік беларусізацыі, падтрымліваў вяртаньне беларускай мовы ва ўстановы беларускай культуры, але, адчуўшы перавагу Лукашэнкі, рэзка і цынічна перайшоў да ворагаў Адраджэньня Беларусі і ўжо гэтаксама актыўна падтрымліваў антыбеларускі рэжым, выступаў супраць беларускіх школаў і ўжо казаў адваротнае, што беларускія школы непатрэбныя, бо „непэрспэктыўныя" і г.д. (сваіх дзяцей, як я чула, перавёў у рускую школу).

Але вялікія правы і магчымасьці ўсё яшчэ заставаліся ў старшыні Камісіі па культуры Ігара Чарняўскага, і па сваёй уласнай ініцыятыве ён шмат што мог зрабіць. На жаль, Ігар Чарняўскі да пасьлядоўнага змаганьня аказаўся непадрыхтаваным. Яго неактыўнасьць абурала. Магчымасьці працаваць на карысьць беларускай культуры ў Камісіі па культуры былі немалыя і пасьля выбараў Лукашэнкі ў 1994 годзе, бо рашэньні Гарсавета ў гэтым накірунку ніхто не адмяняў. Але трэба было ставіць прынцыпова і востра пытаньні перад чынавенствам, перад установамі культуры горада. Як старшыня Камісіі Ігар Чарняўскі на гэта не пайшоў, дбаючы, відаць, пра памяркоўныя дачыненьні з існуючым чынавенствам. Ён клапаціўся гэтак пра „заўтрашні дзень". Калі Камісія па культуры зусім падпарадкавалася антыбеларускай уладзе і, фактычна, адмовілася дзейнічаць на карысьць Адраджэньня, тады я, у знак пратэсту, выйшла са складу гэтай Камісіі і засталася сябрам толькі адной камісіі (па адукацыі).

## ГАРВЫКАНКАМ

Мая пасада сакратара дэпутацкай Камісіі па адукацыі не была „вызваленай" і не пазбаўляла ад „асноўнай" працы. З 1993 года, калі я стала *інспэктарам Гарвыканкама па выкананьні Закона аб мовах,* я думала, што пасада дасьць мне магчымасьць шмат што зрабіць у справе адраджэньня беларускай мовы ва ўладных структурах.

Але гэтую пасаду ўвялі, як я цяпер разумею, фармальна, па распараджэньні Саўміна, каб для грамадзкасьці была толькі відочнасьць выкананьня Закону аб мовах. Бо не было прынята ніводнага рашэньня, пастановы ці загада пра санкцыі да чыноўнікаў-парушальнікаў Закона.

Калі я прыступіла да працы, высьветлілася, што я ня маю ніякіх правоў на самыя мінімальныя санкцыі ўзьдзеяньня, і функцыі мае (па задумцы Саўміна) зводзіліся толькі да „ўгаворваньня" чыноўнікаў пераходзіць на дзяржаўную мову. Каб ня мой дэпутацкі статус (тут я ўжо патрабавала, не баючыся), то нічога істотнага ўвогуле зрабіць

на гэтай пасадзе было б нельга. Таму ў такой бяспраўнай сітуацыі я старалася высіцнуць усё магчымае і з „пасады", і з „дэпутацтва", каб справа вяртаньня беларускай мовы ў дзяржаўны ўжытак рухалася. Мая праца ў дэпутацкай Камісіі па адукацыі якраз спалучалася з новай пасадай.

У Гарвыканкаме былі наладжаны курсы беларускай мовы, пасьля сканчэньня якіх чыноўнікі ўжо ня мелі адгаворкі, што ня ўмеюць чытаць-пісаць па-беларуску.

Ніякага вопыту інспэктарскай работы па пераводу чынавенства на дзяржаўную мову ў мяне не было, я пачынала, абапіраючыся на свае пэдагагічныя навыкі і ўяўленьні, і разьлічвала на падтрымку свайго непасрэднага начальніка намесьніка старшыні Гарвыканкама А. Сасноўскага.

Ён выклікаў мяне да сябе з папярэднім плянам работы. Мы яго абмеркавалі, і спадар Сасноўскі даў мне заданьне ісьці ў Гарадзкое ўпраўленьне, дзе распрацоўваюцца пляны-мапы горада, раёна і г.д. (назву Упраўленьня ня памятаю). „Пачніце з (тут называецца прозьвішча чыноўніка) і пастарайцеся яго пераканаць, што ўся дакументацыя павінна быць па-беларуску", – сур'ёзна сказаў А. Сасноўскі.

Я таксама з усёй адказнасьцю накіравалася выконваць такое трохі дзіўнае дaручэньне. Зайшоўшы ў кабінет, я ўбачыла сытага маскоўца, які глядзеў на мяне сальнымі вачыма з вышыні свайго „крэсла".

Пачалася гаворка, і я адразу адчула моцны супраціў і нежаданьне сур'ёзна абмяркоўваць моўнае пытаньне. Але гэта было маё першае заданьне і пачынаць з патрабаваньняў, з рэзкай гаворкі не хацелася. Я вырашыла яго пераканаць. Мы прагаварылі гадзіны дзьве-тры, але пераходзіць на дзяржаўную мову і весьці справаводзтва па-беларуску ён усяроўна не згадзіўся. Я вярнулася ў кабінет А. Сасноўскага расчараваная, але ён мяне супакоіў, падбадзёрыў і сказаў, каб я не растрайвалася, што ўсё наперадзе.

Толькі праз нейкі час, разабраўшыся ў сістэме адносінаў Гарвыканкама (ад якой раней я была вельмі далёкая), мне стала зразумела, што Сасноўскі паслаў мяне да свайго падначаленага, якога трэба было не ўгаворваць, а перадаць загад і тэрміны выкананьня. Са мной спадар Сасноўскі праста згуляў злы жарт, карыстаючыся маім няведаньнем структуры Гарвыканкаму і сістэмы службовага падпарадкаваньня.

Другое маё службовае заданьне таксама мела пад сабой пэўную каверзу. Спадар Сасноўскі выклікаў мяне да сябе і паведаміў, што ў горадзе нядаўна ўтвораны Анімацыйны цэнтар. „Чым яны там толькі займаюцца! Яны распаўсюджваюць парнаграфію ў выглядзе мультфільмаў!" – абураўся спадар Сасноўскі і даручыў мне як інспэктару Гарвыканкама добра праверыць іхную працу, зрабіць выразныя высновы, „каб не распаўсюджвалася усялякая непрыстойшчына" (такім чынам ён стараўся сфармаваць маё нэгатыўнае стаўленьне да беларускіх аніматараў).

Я патэлефанавала ў Цэнтар аб сваім візіце. Мяне сустрэлі вельмі насцярожана, як чарговага душыцеля. Я іх не пераконвала, сказала толькі, што хачу пазнаёміцца з усёй іхняй прадукцыяй, каб зрабіць аб'ектыўныя высновы.

Мне паказалі ўсе фільмы, якія былі на іхнай студыі, у тым ліку і паўнамэтражны фільм па матывах Дэкамэрону. Уражаньні мае былі вельмі вялікія. Ніякай пошласьці я ня ўбачыла. Гэта было таленавіта і з бліскучым гумарам. А іхныя казкі-мультфільмы, на маю думку, перамаглі б (і перамагалі!) на любых міжнародных конкурсах. Я ўбачыла, што тут працуюць сапраўдныя мастакі найвышэйшага прафэсійнага ўзроўню, што іхныя фільмы маюць сусьветны мастацкі ўзровень. Чаму ж мяне скіроўваюць на тое, каб маімі рукамі (рукамі БНФ) задушыць гэтую крыніцу анімацыйнага мастацтва на Беларусі – задавала я сабе пытаньне.

Я стала разьбірацца ў гісторыі Цэнтра, і спадар Алег Белавусаў, кіраўнік (дарэчы, у 1989-1990 гг. сябра Сойму БНФ і адзін з заснавальнікаў „Мартыралогу Беларусі"), расказаў мне, што будынак (былы дзіцячы садок за „плячыма" крамы „1000 дробязяў") яны атрымалі таму, што ён быў прызнаны непадлягаючым аднаўленьню – у такой ступені ён быў зруйнаваны. Горад мусіў бы яго толькі зьнесьці. Толькі таму будынак аддалі аніматарам, паставіўшы ўмову адбудовы памяшканьня ў пэўныя тэрміны.

Дзеячы Цэнтру выканалі ўмову. Грошы на аднаўленьне былі патрачаныя імі велізарныя, але

цяпер Цэнтр выглядаў, як цудоўная сядзіба-маёнтак, ды яшчэ ў цэнтры Менска.

Неўзабаве нейкі чыноўнік праязджаў уздоўж адноўленай сядзібы беларускай анімацыі, якая зрабіла на яго незвычайнае ўражаньне. Пасьледваў адпаведны зварот у Гарвыканкам. Ня ведаю, аб чым там размаўлялася, што каму абяцалася, але ў Гарвыканкаме было вырашана сядзібу ў аніматараў адабраць.

„Наперадзе вялікая праца, нас ужо ведаюць у ЗША, нам дапамогуць стаць на ногі, мы выжывем, калі вы нас не „зарэжэце”, – сказаў мне спадар Белавусаў.

Я паабяцала яму абавязкова прывезьці сваю дакладную запіску (вынік „праверкі”) на імя сп. Сасноўскага (абяцаньне сваё я, безумоўна, выканала).

Што ж, я добра разумела, што пастаўлена на вагі існаваньне беларускай анімацыі, якая была вышэй за расейскую і прафэсіяналізмам, і мастацкім узроўнем, і высокім густам, разумела сваю адказнасьць у гэтым, таму да напісаньня справаздачы сваёй праверкі аднеслася сур’ёзна і зрабіла вельмі разгорнутую дакладную запіску (аб’ёмам каля дзесяці друкаваных старонак), падрабязна спыніўшыся і на так занепакоіўшым сп. Сасноўскага Дэкамэроне, абгрунтавала яшчэ і неабходнасьць падтрымкі Цэнтру анімацыі ад дзяржавы.

Напэўна, гэта выглядала пераканаўча, бо праз нейкі час, прачытаўшы маю справаздачу, намесьнік старшыні Гарвыканкама сп. Сасноўскі ня выклікаў мяне да сябе (што звычайна прынята), а сам прышоў у наш з В. Кузьміч кабінет са свайго трэцяга паверху на наш чацьвёрты. Ён быў пад такім уражаньнем, што я нават разгубілася. „Галіна Фёдараўна, мне яшчэ ніколі падобных дакладных запісак, такіх вялікіх і абгрунтаваных, ніхто не пісаў. Вы мяне пераканалі, вы малайчына”, – хваліў ён мяне. Мне было трохі дзіўна, бо нічога „звыш” я там не напісала, проста пастаралася абгрунтаваць свае думкі як навуковец, выкарыстоўваючы пэўныя аргуманты і спасылкі, чым, напэўна, і абяззброіла свайго начальніка. Звычайна ж такія дакуманты пісаліся сухой канцылярскай мовай і насілі фармальны характар, тым больш ведаючы „ўстаноўку” начальства.

З іншага боку, гэта сьведчыла пра тое, што спадар Сасноўскі ня быў злосным душыцелем усяго нацыянальнага. Ён быў звычайным савецкім чыноўнікам, які выконваў загады зьверху, але ўплываць на яго калі-нікалі на тыя часы было магчыма. Гэта ж быў чыноўнік-выканаўца. (Пройдзе час, і спадар Сасноўскі будзе выконваць зусім



***22. Галіна Пазьняк дэпутат Менгарсавета ад БНФ. 1993 г.***

іншыя распараджэньні зьверху. Я тады буду ўжо ў эміграцыі ў Варшаве, і буду цяжка перажываць ягоныя крокі (і ўсяго чынавенства) супраць беларушчыны. Праз нейкі час, як мне казалі, беларускі Анімацыйны цэнтар рэжым „задушыў” і сядзібу адабраў.)

* * *

Інфляцыя 90-х гадоў цяжка перажывалася нашымі грамадзянамі. Расло беспрацоўе, у крамах не было прадуктаў і іншых тавараў, на асноўныя прадукты (масла, цукар, грэчка, макароны і іншыя) Саўмін увёў талоны. Гэтыя тавары прада-

валіся лімітавана і па талонах на кожны месяц, што спараджала ў людзей няўпэўненасьць у заўтрашнім дні, і яны скуплялі ўсё, што „можна”, нават калі нешта было і непатрэбнае. (Напрыклад, талоны на гарэлку „атаварвалі” і тыя, хто яе й не ўжываў – дзейнічаў агульны псіхоз).

І толькі чыноўнікі выкарыстоўвалі сваё службовае становішча для ўласнага („дзікага”) абагачэньня. Знаходзячыся на дзяржаўнай пасадзе, яны бралі велізарныя крэдыты „на ўсё жыцьцё” і, дзякуючы страшэннай інфляцыі, маглі іх цалкам выплаціць за некалькі месяцаў. (Такія крэдыты просты чалавек узяць, зразумела, ня мог.) Вакол беларускіх гарадоў, як грыбы, пачалі вырастаць гмахі намэнклятуры. Разбудоўваюцца так званыя „царскія вёскі”. Але ж не дарэмна гаворыцца: калі Бог хоча каго пакараць, то пазбаўляе розуму.

Неяк да нас у кабінет зайшла загадчыца аднаго з аддзелаў Гарвыканкама і падзялілася сваёй „бядой”. Яна, як і ўсе „разумныя людзі”, ўзяла крэдыт на пабудову чатырохпавярховага „катэджу” пад Менскам. (Маўляў, усе кругом будуюць катэджы, дык што ж я горай за іншых?). Яна прадала дзьве свае дачы – два цудоўныя драўляныя дамы на беразе рэчкі ў цудоўным месцы. (Думала: „Навошта мне тая старамодная „старызна”, калі будзе катэдж”). Катэдж-маёнтак пабудавала, але ён аказаўся нерэнтабельным, бо толькі ацяпленьне цаглянага гмаху выцягвала б усе грошы. Падумаць пра гэта заранёў у чыноўніцы не хапіла кемлівасьці. Так і стаяў гэты пусты і нікому не патрэбны гмах, як і сотні іншых – жудасны помнік закапаных народных грошай, вынік так званай „гайдараўскай” рэформы. І прадаць немагчыма, і грошы ня вернеш (і два цудоўныя дамы страчаны). Так сквапнасьць за кошт народа абярнулася ўпадкам для нашай чыноўніцы.

## ЧЫНОЎНІКІ

Чыноўнікі Гарвыканкама як быццам баяліся гаварыць на роднай мове, і сп. Сасноўскі таксама прадаўжаў гаварыць па-расейску. Аднаго разу на нейкай гарадзкой імпрэзе яму далі слова. Я была прыемна ўражана, што ён гаворыць на добрай беларускай мове. Цікава, што і гаварыў якраз разумна, талкова, не параўнаць зь ягонымі прамовамі па-расейску. Дык вось жа – трэба выслужыцца перад рэжымам.

У цэлым у нас склаліся паважлівыя адносіны. Аб гэтым гаварыў нават такі „сьмешны” для нас факт. У Філярмоніі адбывалася нейкая дзяржаўная ўрачыстасьць, і мы з Вольгай Кузьміч як супрацоўнікі Гарвыканкаму павінны былі прысутнічаць. Мы зьбіраліся даехаць ў Філярмонію на мэтро, але калі выйшлі з Гарвыканкаму, то сутыкнуліся са спадаром Сасноўскім, і ён запрасіў нас паехаць разам зь ім у службовым аўтамабілі. Гэта было вынікам якраз асабліва паважных адносінаў, бо (аказваецца) было не прынята, каб падначаленыя на імпрэзу ехалі ў машыне з начальнікам.

Аднаго разу сп. Сасноўскі рашыў пахваліцца і паказаў мне некалькі фатаграфіяў. Відаць было, што ён імі вельмі ганарыцца: „Паглядзіце, Галіна Фёдараўна, зь якімі людзьмі я спадобіўся сфатаграфавацца!” – з захапленьнем казаў ён. Я падумала, што, ну, ня менш, як зь нейкім Народным пісьменьнікам Беларусі ці заслужаным беларускім дзеячом, вучоным, вядомым гісторыкам, мастаком, артыстам – ну, ужо й не прыдумаю, з кім.

Я глянула на фатаграфіі і ўбачыла рускага намэнклятурнага прэм’ера Чарнамырдзіна і К., а побач зь імі – нашага Сасноўскага. Гэта быў здымак з тых часоў калі п’яны Кебіч цалаваўся з п’яным Чарнамырдзіным (а газэта Свабода зьмясьціла той гідкі пацалунак п’яных). Расчараваная, я толькі ўздыхнула. Ворагі, якія пазьней, у 1996-м, каб уратавааць прарасейскі рэжым Лукашэнкі нахабна прыпхнуцца ў Менск, каб нашкодзіць беларусам, а беларускі чыноўнік ледзь ня страціў прытомнасьць ад „ахапіўшых пачуцьцяў” быць прыстаўленым да акупанцкай нагі... „Эх, спадар Сасноўскі, спадар Сасноўскі, – падумала я. – І калі ж вы выцісьніце з сябе раба!”

Мы з Вольгай Кузьміч пачалі патроху прыносіць яму дзеля інтэлектуальнага разьвіцьця розныя беларускія кнігі, у тым ліку і кнігі М. Ермаловіча. Цікава, што ён іх чытаў, гэта было відавочна.

Калі ж Гарвыканкам вырашаў пытаньне аб выдзяленьні кватэры нашаму вядомаму гісторыку Міколу Ермаловічу, спадар Сасноўскі стараўся, каб яно было вырашана на карысьць славутага беларуса. Калі рашэньне было ўжо прынята, ён зноў сам прышоў у наш кабінет (што было, як я ўжо

казала, пэўным знакам) і з радасьцю паведаміў: „Удалося!”

Але напярэдадні майскага сьвяткаваньня (здаецца, у 94-м г.) Менск, як звычайна, упрыгожваўся (за кошт гарадзкога бюджэту). Я прапанавала „начальніку”, каб усялякія транспаранты, расьцяжкі і сьцягі мелі колеры дзяржаўнай сымволікі. Сасноўскі быў ня супраць. Але на сьвята я ўбачыла на вуліцах чырвона-зялёныя кветкі, сьцяжкі і інш. І абурылася: „Мы ж дамовіліся, і вы абяцалі?!” „Белага матэрыялу не знайшлі”, – адказаў мне эластычны чыноўнік.

Вось так, нават на ўзроўні афармленьня горада ішоў велізарны супраціў усяму нацыянальнаму, бо нацыянальныя колеры дэманстравалі незалежнасьць Беларускай дзяржавы. Спадар Сасноўскі быў ня здольны на ўчынак сваім распараджэньнем упрыгожыць горад у нацыянальныя колеры. Зноў перашкодзіў рабскі дух, бо ён быў простым выканаўцам і баяўся парушыць волю вышэйшага кіраўніцтава – В. Кебіча, кіраўніка Саўміну, які з вышыні сваёй пасады перашкаджаў станаўленьню нацыянальнай Беларускай дзяржаўнасьці. Беларус па паходжаньню, Кебіч стаўся сапраўдным манкуртам і як старшыня беларускага ўраду дзейнічаў па ўказцы Масквы на шкоду свайму народу. (Неўзабаве А. Сасноўскі ўзначаліць ініцыятыўную групу В. Кебіча як кандыдата ў прэзыдэнты, а пры Лукашэнку ён стане нават Міністрам культуры, і паціху пачне душыць беларускую культуру. Але гэта ўжо будзе, калі мы апынемся ў эміграцыі.)

У сістэме постсавецкай улады мне даводзілася бачыць шмат такіх людзей, як Сасноўскі: прыстойных і неблагіх ў адных абставінах, і зусім непадобных у іншых. Гэта тыпаж, вобраз сэрвільнай беларускай савецкай намэнклятуры. Уласна дзеля разуменьня гэтага вобразу я пра яго і пішу. Мне здаецца, што такі тыпаж чыноўніка мне добра вядомы. Аднак стопрацэнтова не магу ўсё ж адказаць сабе на адно пытаньне: ці ёсьць у беларускага чыноўніка пад рэжымам штосьці святое, няхай бы сабе схаванае далёка й глыбока, хоць дзе ў калене, ў пяце, ці ў селязёнцы, праз якое ён ніколі ні пры якіх абставінах ня мог бы пераступіць, ня змог бы адмовіцца?! Ці ёсьць такое ў людзях, што здольныя пераступаць праз Бацькаўшчыну, праз мову, праз сымвал, праз самога сябе?! Вось дзе пытаньне. Ведаю добра, што польскі чыноўнік не пераступіць нават праз літару, ня тое што мову, не пераступіць чэх, араб – ніхто з цывілізаваных. Хто дасьць адказ за беларускага бюракрата? Мне часам здаецца, што ад адказу на гэтае пытаньне будзе залежыць лёс Беларускаў нацыі.

Хоць, вядома ж, гэта перабольшаньне. Бо нацыю мацуюць і ўзьвялічваюць не малыя, а вялікія людзі, і не бюракраты-чыноўнікі. Але тое што чыноўнікі могуць яе панізіць і проста угробіць, тут ужо і сумнявацца не прыходзіцца. Гісторыя, рэчаіснасьць і практыка тое, на жаль, пацьвярджаюць.

## ЗА РЭФЭРЭНДУМ

Дзікая намэнклятурная прыватызацыя з кожным днём пагаршала становішча беларусаў, расло беспрацоўе. Недзеяздольны Вярхоўны Савет станавіўся моцным тормазам ў прыняцьці новых эканамічных законаў для ўзмацненьня Беларускай дзяржавы, і Народны Фронт выстаўляе патрабаваньне аб неабходнасьці новых выбараў. Аднак старая канстытуцыя БССР, за якую трымалася намэнклятура, фармальна не давала магчымасьці правесьці нечарговыя выбары. Пасьля прыняцьця Закону аб рэфэрэндуме ў канцы 1991 г. гэта становіцца рэальна магчымым. Фронт аб’яўляе збор подпісаў за рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах. А сабраць іх трэба было неверагодна шмат (300 тысячаў) і ў месячны тэрмін.

Кіраўніцтвам Фронту прадумана было ўсё да дробязяў і адлюстравана ў агульнавыпрацаваных і падрабязных інструкцыях для зборшчыкаў подпісаў за рэфэрэндум. А сабраць подпісаў трэба было, зразумела, значна больш, чым вызначана ў Законе. Усе разумелі, што потым „правяральшчыкі” з ЦВК будуць вельмі пільна ўглядацца і прыдзірацца да нашых падпісных лістоў. Калі ж у падпісным лісьце адзін подпіс будзе прызнаны неадпаведным (несапраўдным), будзе выкідвацца ўвесь ліст (такую адмысловую нам прыдумалі інструкцыю). Таму Фронтам было вырашана, што падпісныя лісты ня могуць быць вялікімі (здаецца, 4-5 подпісаў). Гэтае рашэньне мела і адмоўны бок: страшэнна павялічвалася колькасьць самых падпісных лістоў.

Перад пачаткам кампаніі па збору подпісаў у суполкі Фронту былі разасланыя інструкцыі, у якіх асаблівая ўвага зьвярталася на тое, што подпісы за рэфэрэндум могуць быць толькі ўласнаручныя. Ніякія мужы-жонкі ці сваякі падпісвацца за некага не павінны.

І пачалася праца. З пад'езда ў пад'езд, з кватэры ў кватэру. Кожны вечар на працягу месяца, у любую непагадзь пасьля працы фронтаўцы ішлі на другую, вельмі цяжкую „працу".

Вынікі адсочваліся кожны дзень, кіраўніцтва нас падштурхоўвала: можам ня ўкласьціся ў графік. І мы зноў і зноў, нават калі амаль сканчаліся сілы, сьціснуўшы зубы, ішлі па дамах. Цяжкі гэты быў месяц, надзвычай – але подпісы былі сабраныя ў тэрмін (сабралі 411 тысячаў).

І тут мы сутыкнуліся зь яшчэ адной рагаткай, якую нам паставілі былыя камуністы. Кожны падпісны ліст з усёй Беларусі павінен быў быць асабіста падпісаны толькі старшынёй Ініцыятыўнай групы па збору подпісаў за рэфэрэндум. Ад сканчэньня збору подпісаў і да іх здачы ў ЦВК быў вельмі малы тэрмін (2-3 дні), а лістоў было сотні тысячаў. Падлічылі, і атрымалася, што каб іх падпісаць, старшыня Ініцыятыўнай групы павінен быў бы ня спаць і ня есьці, працаваць без перапынку 24 гадзіны ў суткі і толькі ставіць подпісы, як робат, і на гэта пайшло б мінімум два тыдні. А ў рэальнасьці спатрэбілася б часу значна больш – некалькі месяцаў.

Але і тут было прыдумана выйсьце: зрабіць факсіміле подпісу старшыні Ініцыятыўнай групы. І тады пячаткі з факсіміле на падпісныя лісты магла ставіць цэлая група фронтаўцаў.

Але гэта былі такія аб'ёмы, што трэба было вялікае памяшканьне, дзе б можна было зрабіць гэтую працу. Сядзібы ў Фронта яшчэ не было. Зноў перашкода.

Аднак выйсьце знаходзіцца тады, калі яго шукаць. І мы яго знайшлі. Папярэдне сакрэтна дамовіўшыся з дырэктарам адной менскай школы, мы зьвезьлі туды сотні скрыняў з падпіснымі лістамі – якраз былі выхадныя, школа не працавала і гэта можна было зрабіць канспіратыўна. (Каб пра гэта даведаліся ўлады, то адразу б забаранілі.) Таму і на „кругласутачную" працу адбіралі толькі надзейных фронтаўцаў, якія разьмясьціліся ў не-




***23. Менск 18.Х.1992. Мітынг за рэфэрэндум аб новых выбарах.***

калькіх клясах і працавалі увесь дзень і ўсю ноч. І пасьпелі. Да панядзелка (калі пачыналіся заняткі) школа была пустая. Каля двухсот тысячаў падпісных лістоў былі „праштампаваныя" факсіміле і іх можна было здаваць у ЦВК.

Але падвоху і правакацыі мы чакалі ў любы момант, таму машыны (пасажырскія аўтобусы) з падпіснымі лістамі рушылі ў ЦВК у суправаджэньні дэпутатаў і шматлікай ўзброенай у аўтаматы міліцэйскай аховы (Пазьняк пастараўся праз Вярхоўны Савет і Міністэрства Ўнутраных Справаў).

Пасьля праверкі, ЦВК прызнаў подпісы сапраўднымі, і па Закону заставалася толькі прызначыць дату рэфэрэндуму на сэсіі Вярхоўнага Савету, якая якраз адбывалася. Але гэта па Закону. Старшыня Вярхоўнага Савета С. Шушкевіч нечакана распускае сэсію і не зьбірае яе паўгода. Гэта была вялікая здрада інтарэсам Беларусі, якая ня мае ніякіх апраўданьняў і дараваньня. Быў пастаўлены пад удар рэальны шанец пераламаць сытуацыю ў краіне, правесьці дэмакратычныя выбары парляманту ў той час, калі Народны Фронт баў у зэніце папулярнасьці, і пачаць новую вольную нацыянальную гісторыю Беларусі.

За гэтыя паўгады перапынку намэнклятура „падрыхтавалася". Тым, хто ўласнымі нагамі „выхадзіў па кватэрах" сотні тысячаў подпісаў за рэфэрэндум, немагчыма было спакойна глядзець сэсію ВС, дзе вырашалася гэтае пытаньне. Закіпала кроў ад здрады усіх гэтых яшчэ камуністычных дэпутатаў, якім так „утульна" было ў дэпутацкіх крэслах. Лёс Беларусі іх не абходзіў.

Здавалася, што ярыя выступы намэнклятурных артадоксаў супраць рэфэрэндуму дасягнулі эпагею подласьці. Але ў параўнаньні з паводзінамі дэпутата Д. Булахава нават артадоксы здаваліся „хлопчыкамі". Як страсна, як карцінна, як „чэсна" ён хлусіў са сьлязьмі у вачах і дрыгоцьцем у голасе (пераплюнуў Лукашэнку). Булахаў (які напярэдадні сэсіі незаконна сеў за руль і наехаў, забіў на дарозе жанчыну) ратаваў сваю скуру ад турмы і служыў намэнклятуры бессаромна з цынізмам Юды, „абгрунтоўваючы" скасаваньне рэфэрэндуму, перакручваючы Закон і парушаючы ўсялякую чалавечую лёгіку. Ходам сэсіі кіраваў Шушкевіч, які ад пачатку тармазіў усю справу з рэфэрэндумам. Ён ўмела скарыстоўваў паўнамоцтвы вядучага сэсіі, каб ня даць належнага слова Апазыцыі БНФ і падвесьці пытаньне пад забарону. Яго пазыцыя адыграла вельмі адмоўную ролю. І тое, што рэфэрэндум не адбыўся – на сумленьні найперш гэтых двух людзей, і, мне здаецца, асабліва Шушкевіча.

Пасьля незаконнай забароны рэфэрэндума Кебіч пусціў агентуру і функцыянераў КГБ ў Савет Міністраў, на Беларусі стала адкрыта праводзіцца прамаскоўская палітыка, пачалі ўмацоўвацца антыбеларускія сілы, беларускія адраджэнцы засталіся па за ўладай.

## КАМІТЭТ „ДЗЕЦІ ЧАРНОБЫЛЯ БНФ"

Ня гледзячы на тое, што Народны Фронт утварыўся ў 1988 годзе, даволі доўгі час камуністычныя ўлады адмаўляліся яго афіцыйна рэгістраваць. Час ішоў, а справа ня рухалася. Масавая і адзіная адраджэнская арганізацыя ня мела юрыдычнага статусу. Ужо адбыўся першы шматтысячны ***Чарнобыльскі Шлях***, была адкрыта праўда пра Чарнобыль. Фронт жыў і дзейнічаў. Працавала фронтаўская Камісія па праблемах Чарнобыля. Быў ўтвораны Чарнобыльскі Камітэт Беларускага Народнага Фронту *„Дзеці Чарнобыля*", які спачатку ўзначаліў Мікола Купава, а потым Генадзь Грушавы. Камітэт займаўся аздараўленьнем дзяцей

Міжнародны аўтарытэт і вядомасьць Фронта ўзрасталі. Чарнобыльская Камісія і Камітэт Фронту пасьпяхова дзейнічалі. Беларускіх дзяцей запрашалі на аздараўленьне ў розныя заходнія краіны. Савецкай дзяржаве ніякага даверу з боку гэтых краінаў не было. Давяралі толькі Фронту. А Фронт на гэты час усё яшчэ ня быў зарэгістраваны і юрыдычнага статусу ня меў.

Раптам мы даведаліся, што Генадзь Грушавы зарэгістраваў сваю арганізацыю, узяўшы фронтаўскі назоў *„Дзеці Чарнобыля"*. Скарыстаўшы аўтарытэт Фронта і сваю дзейнасьць у Фронце, ён пастунова адыйшоў ад БНФ і пачаў самастойную дзейнасьць.

Але Фронт, які пачынаўся з Курапатаў і з праўды пра Чарнобыль, ня мог застацца без Камітэту, які б займаўся чарнобыльскімі праблемамі беларускіх дзяцей. Кіраўніцтва Фронту шукала асобу, якая б узначаліла гэтую фронтаўскую дзейнасьць. Як я ведаю, было некалькі спробаў вырашыць гэтае пытаньне, але праца неяк не наладжвалася.

Аднаго разу пасьля Сойму Старшыня Фронту папрасіў мяне застацца і прапанаваў ўзначаліць гэтую працу ў Фронце. „Вы дэпутат, у вас большыя магчымасьці дапамагаць беларускім дзецям", – сур'ёзна разважаў Пазьняк. „Але ж я ня ведаю, з чаго пачаць і што рабіць", – разгубілася я. „Гэта ня страшна, мы дапаможам", – падбадзёрыў мяне Старшыня.

Ня гледзячы на сваю дэпутацкую занятасьць, Фронт для мяне заставаўся галоўным і важнейшым, ды і ў Гарсавеце я дзейнічала як прадстаўнік БНФ, ў яго інтарэсах. І я пагадзілася.

Новы Фронтаўскі Чарнобыльскі Камітэт (які мы назвалі *Камітэт „Дзеці Чарнобыля БНФ")* трэба было „сабраць", бо гэта дабрачынная грамадзкая арганізацыя. Ахвярна дапамагаць хворым ад Чарнобыля дзецям здольныя толькі людзі з добрымі і цёплымі сэрцамі.

Зь вялікай павагай успамінаю нашу агульную дзейнасьць з сябрамі *Камітэту* Валянцінам Асташынскім, Юзікам Такушэвічам, прыхільніцай Фронту Вольгай Кузьміч, дэпутатамі Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Сяргеям Антончыкам, Аляксандрам Шутом, Уладзімерам Холадам, Галінай Акаловіч і іншымі фронтаўцамі. Некаторыя працавалі ўвесь час, некаторых дастаткова было папрасіць дапамагчы – ні ад каго мы ніколі ня чулі адмовы і спасылак на занятасьць. Людзі ад-




*24. 26 красавіка 1990 г. Чарнобыльскі мітынг БНФ на плошчы Свабоды ў Менску.*

прошваліся з працы, бралі адгулы, ахвяраваліся сваімі выхаднымі і нават адпачынкамі, калі была неабходна іхняя дапамога чарнобыльскім дзецям.

Пачаць мы вырашылі з арганізацыі аздараўленчага летніка для дзяцей на цудоўнай спартыўнай базе па падрыхтоўцы алімпійскага рэзэрву ў Плешчаніцах. Патрэбны былі грошы. Грошы знайшла (што было зусім ня проста) мая калега-дэпутат Вольга Кузьміч. Ня раз мы зь ёй езьдзілі да спонсараў, запрашалі іх да сябе ў Гарсавет, вялі перамовы. Цяжкасьць для іх была ў тым, што летнік арганізоўваў Народны Фронт, і на тыя часы для бізнэсу было вельмі небясьпечна (яны так лічылі) пералічваць грошы ў летнік з грыфам „фронтаўскі”. Але жыцьцё нас пераканала ня раз, што немагчымага не існуе, бо – калі кіравацца высокай і сьветлай ідэяй – „вырастаюць крылы”. І выйсьце мы знайшлі.

Калі грошы ў Плешчаніцы былі пералічаны, мы сабралі групу дзяцей на адпачынак, і летнік *Камітэту Дзеці Чарнобыля Беларускага Народнага Фронту* быў адчынены. Праўда, грошай хапіла толькі на месяц, але мы былі вельмі радыя, што здолелі зрабіць першыя крокі.

Нашая задума была ў тым, каб арганізаваць аздараўленчы і менавіта беларускі летнік для беларускіх дзяцей (на тыя часы беларускамоўных летнікаў не было, бадай, нідзе). Сабраўшы ў большасьці рускамоўных дзяцей, мы плянавалі ахінуць нашых дяцей цеплынёй і ўвагай, каб яны пражылі ў летніку ў атмасфэры беларускай культуры, мастацтва, нашай гісторыі, векавой беларускай традыцыі, у вандроўках па нашай найпрыгажэйшай Лагойшчыне (такая ўстаноўка была для выхавацеляў).

Напэўна, мы ня ўсё прадугледзелі, ня ўсё змаглі, ня ўсё атрымалася гладка. Гэта быў наш першы самастойны, як мне здаецца, „блін комам”. Але мы вельмі стараліся, і пазьней чулі ад дзяцей добрыя словы.

Ня раз са старшынёй Фронта мы абмяркоўвалі канцэпцыю Чарнобыльскага камітэту, і праблему Чарнобыльскай бяды мы разглядалі ў двух аспэктах: фізічнага і духоўнага Чарнобылю. Фізічнае




*25. 26 красавіка 1990 г. Чарнобыльскі мітынг БНФ на плошчы Свабоды ў Менску. Малітва.*

ратаваньне ад Чарнобылю мела на ўвазе працяг ратаваньня ад духоўнага зьнішчэньня нашай нацыі. Сваю задачу мы бачылі ня ў тым, каб падмяняць працу лекараў (што немагчыма) ці займацца выключна аздараўленьнем хворых дзяцей за мяжой (як гэта рабіў Г. Грушавы і іншыя). Мы разумелі, што трэба ратаваць беларускіх дзяцей духоўна, бо без духоўнага беларускага адраджэньня нашай моладзі мы страцім Бацькаўшчыну, а без яе нашымі беларускімі праблемамі праймацца ня будзе ніхто.

Каб выпрацаваць нашу франтаўскую (чарнобыльскую) канцэпцыю, мы вырашылі напачатку увайсьці ў сутнасьць дзіцячых праблемаў, зьвязаных з Чарнобылем і тады шукаць свае шляхі ў гэтай беларускай бядзе. Зянон Пазьняк параіў мне зьвярнуцца да людзей, якія займаліся гэтымі праблемамі прафэсійна. Я пазнаёмілася з цудоўнымі лекарамі Рэспубліканскага Навукова-Дасьледчага Інстытута Радыяцыйнай Медыцыны ў Менску.

У гэтым НДІ працавалі выключныя спэцыялісты. Яны выязджалі непасрэдна ў забруджаныя вёскі, выяўлялі там хворых дзяцей і везьлі іх ці выклікалі ў Менск на дасьледваньні і лячэньне. Пры гэтым рабіліся ўнікальныя мэдычныя навуковыя высновы, якіх ня мела ні адна краіна сьвету. Тут, у Беларускім НДІ радыяцыйнай медыцыны, я вельмі блізка сутыкнулася з нашай нацыянальнай бядой, даведалася пра вялікі пласт дзіцячых праблемаў забруджаных радыяцыяй раёнаў Беларусі.

Каб абмеркаваць праблемы здароўя беларускіх дзяцей, Зянон Пазьняк як Старшыня БНФ і дэпутат Вярхоўнага Савету, ня раз сустракаўся з кіраўніцтвам НДІ радыяцыйнай медыцыны, з лекарамі дзіцячых шпіталёў, разам з чарнобыльскім Камітэтам Фронту наведваў дзіцячыя дамы ў Салігорску, Менску, у Дулебах і інш., ад імя Фронту прапаноўваў супрацоўніцтва, дапамагаў асабіста ў вырашэньні шмат якіх праблемаў на ўзроўні Вярхоўнага Савета.

Так ішло нашае франтаўскае супрацоўніцтва з медыкамі Беларусі, з НДІ радыяцыйнай медыцыны, з Цэнтрам шчытападобнай залозы пры клінічным шпіталі №1 Менска пад кіраўніцтвам




*26. У шпіталі пасьля Чарнобыля.*

прафэсара Я. Дзямідчыка і іншымі медычнымі ўстановамі, якое доўжылася, пакуль антыбеларускі рэжым не скасаваў усю нашую дзейнасьць і дзейнасьць НДІ ў Менску.

Асабліва запомнілася нашая паездка ў Салігорскі дзіцячы дом, дзе знаходзіліся дзеткі дашкольнага ўзросту. Выхавацелькі гэтага Дому вельмі прыхільна і з вялікай павагай сустрэлі кандыдата ў прэзыдэнты Зянона Пазьняка і ўсіх, хто прыехаў разам зь ім (гэта дэпутаты Вярхоўнага Савета, Ул. Заблоцкі і С. Антончык, сябры Ўправы Фронту і фронтаўцы Салігорска), дзякавалі за пачастункі і цацкі, якія мы прывезьлі. Яны паказалі нам, як жывуць дзеткі, пазбаўленыя ўласнага дому. Усё было чыста, прыгожа, з густам і па-сямейнаму ўтульна. Прыемна ўразілі нас і самі выхавацелькі. Ад іх зыходзіла вялікая цеплыня і дабрыня да гэтых маленькіх грамадзянаў Беларусі, якім яны замянялі сям'ю. Жанчыны задавалі шмат пытаньняў пра пляны Пазьняка як кандыдата ў прэзыдэнты наконт дзіцячых установаў для дзяцей-сірот, Зянон Пазьняк пытаўся пра патрэбы такіх дзіцячых установаў. Размова была цікавая і карысная.

Потым мы вышлі ў садок, дзе гулялі дзеткі з выхавацелькамі. Дзеці літаральна абляпілі ўсіх нас, і кожны зь іх прасіўся „на ручкі". „Тата-тата, мама-мама",– жаласна прасіліся яны. І калі мы бралі дзяцей на рукі, яны аж дрыжэлі, прыціскаючыся і ўчапіўшыся за нас ручкамі, так не ставала ім бацькоўскай і матчынай ласкі.

Успамінаючы гэтую сустрэчу, шчыміць душа ад вялікага жалю і любові да тых абяздоленых дзяцей. Па дарозе назад у Менск Пазьняк гаварыў пра тое, як шмат трэба зрабіць для гэтых дзетак у новай вольнай Беларусі, каб яны расьлі годнымі і спакойнымі, каб безбацькоўшчына іх не зламала.

Менскі Дом дзіцяці №1 (на вуліцы Разінскай, у раёне Грушаўкі) таксама пакінуў вялікі і балючы сьлед у нашых душах. Зянон Пазьняк прыехаў туды, каб пазнаёміцца з праблемамі „чарнобыльскіх дзяцей" у літаральным значэньні гэтага слова, бо тут знаходзіліся дзеткі ад некалькіх месяцаў жыцьця, і ўсе яны былі калекамі, інвалідамі з нараджэньня. Была там дзяўчынка з „ластамі" замест ножак, дзяўчынка, якая нарадзілася з паталёгіяй слыху (слыхавы апарат у яе адсутнічаў), хлопчык, які нарадзіўся з адной ручкай (таму яна была вельмі вялікая) і непрапарцыянальна малымі ножкамі, але вельмі не па гадах разумова разьвіты і г.д. Былі дзеткі, дагляд за якімі быў немагчымы ў дамашніх умовах (калецтва вымагала спэцыяльнага дагляду і медычнага абсталяваньня). Адна такая дзяўчынка трапіла сюды, але кожны дзень да яе прыходзіла яе маці і знаходзілася тут са сваёй няшчаснай дачушкай.

Тут, у гэтым Доме дзіцяці – прытулку страшнай дзіцячай паталёгіі – мы ўбачылі шмат бяды і гора, што прынёс людзям Чарнобыль.

Дзякуючы аўтарытэту Фронта і міжнароднаму аўтарытэту Зянона Пазьняка, мы пазнаёмілі са сваёй дзейнасьцю некаторых дзеячоў за мяжой, якія аднесьліся да нас з вялікай прыхільнасьцю. Яны высылалі розную медычную дапамогу. Уся дапамога была мэтавая. Папярэдне мы наведвалі дзіцячыя шпіталі, высьвятлялі іхныя цяжкасьці і вострыя праблемы, а потым пад гэтыя канкрэтныя запатрабаваньні зьвярталіся за дапамогай да замежных спонсараў. Нам даяралі і дапамагалі рознай медычнай апаратурай, дарагімі лякарствамі і абсталяваньнем. Найбольш дапамогі на імя *Камітэту Дзеці Чарнобыля БНФ* мы атрымлівалі

зь Нямеччыны, была дапамога і з Аўстрыі, зь Вялікабрытаніі, ад беларускай эміграцыі ЗША.

Наведаўшы аднаго разу Дом дзіцяці №1, мы даведаліся, што выхавацелі Дому марылі набыць іхным дзецям дарагі апарат для дыханьня. Ён патрэбен быў дзеткам-астматыкам з аслабленым імунітэтам. Але супрацоўнікі казалі нам, што гэта толькі іхныя мары, бо ў „Мінздрава” няма сродкаў, і гэта нерэальная раскоша. Праз нейкі час мы прывезьлі да іх чалавека зь вялікім сэрцам, бізнэсмэна зь Нямеччыны ***Вернера Лянгенбана***. Убачыўшы хворых дзяцей-інвалідаў немаўлят, ён тут жа выпісаў чэк на набыцьцё гэтага апарата. Выхавацелі і медработнікі незвычайна абрадваліся, але, папрасіўшы прабачэньня, прыняць чэк адмовіліся. Яны патлумачылі, што прыняць вось так наўпрост чэк, мінуючы „кіруючыя інстанцыі”, яны ня маюць права, што за гэта іх могуць абвінаваціць у чым заўгодна, а калі гэты чэк перадаць у Мінздраў, то ён да іх наўрад ці дойдзе. Спадар Лянгенбан ніяк ня мог зразумець гэтыя савецкія парадоксы. Ён усё пытаўся і перапытваў:

– Вам сапраўды патрэбны такі апарат?

– Так, – адказвалі яму супрацоўнікі Дому дзіцяці.

– Дык бярыце чэк і набывайце яго! – настойваў заходні бізнэсмэн.

– Ня можам, бо ня ведаем, як яго „апрыходваць”, баімся быць несправядліва абвінавачанымі і папасьці ў турму, – адказвала загадчыца Дому.

Тады зьдзіўлены немец разварочваецца да мяне і пытае: „А вы не баіцёся ўзяць адказнасьць на сябе, каб аформіць набыцьцё апарата на ваш Камітэт і перадаць яго сюды?”

Я не вагаючыся згадзілася. Так мы „разам” набылі тое, пра што так марылі супрацоўнікі Дому дзіцяці. Усё аформілі, як сьлед, хоць я і дагэтуль не ўпэўнена, што мая рашучасьць адпавядала савецкім законам.

Пазьней такія дабрачынныя акцыі паўтараліся шмат разоў. Але спадар Лянгенбан цяпер ужо заранёў высьвятляў патрэбы дзіцячых шпіталёў і прывозіў неабходнае сам. Ён дапамагаў ня толькі медапаратурай, а і харчаваньнем, вітамінамі, лекамі і г.д. Вернер Лянгенбан некалькі год запар рэгулярна прыязджаў разам з Ларысай Верас у Менск і ўвесь час дапамагаў хворым беларускім дзецям, аддаючы для гэтага ня толькі ўласныя сродкі. Ён арганізаваў у Нямеччыне Чарнобыльскі фонд і зьбіраў грошы для нашых хворых дзяцей па ўсёй краіне. Акрамя таго ён ськіроўваў некаторыя добрыя сэрцы сваіх сяброў за мяжой на беларускія праблемы дзіцячага здароўя, і тыя таксама прысылалі сваю дапамогу ў Беларусь праз Народны Фронт.

Шмат разоў БТ рабіла рэпартажы пра дабрачынную дзейнасьць Вернера Лянгенбана, і ён заўсёды падкрэсьліваў, што на Беларусі ён дзейнічае выключна праз Народны Фронт. У адносінах супрацоўніцтва з Народным Фронтам ягоная пазыцыя была пасьлядоўная. Пазнаёміўшыся з Зянонам Пазьняком, ён быў моцна ўражаны асобай старшыні Народнага Фронту і ня раз казаў аб сваёй упэўненасьці, што Зянон Пазьняк будзе сапраўдным прэзыдэнтам Беларусі. „Інакш у вашай краіне ня можа быць, вам патрэбен толькі Пазьняк і ніхто іншы”, – ня раз казаў спадар Лянгенбан, калі мы з сябрамі Камітэту размаўлялі зь ім. Аўтарытэт Пазьняка ў вачах заходняга бізнэсмэна аўтаматычна перадаваўся і на Фронт, які ён ўзначальваў, і на франтаўскі Камітэт „Дзеці Чарнобыля БНФ”.

Але сустракаць заходняга госьця для Фронта было на тыя часы ня так проста. У нас не было ніякага транспарту, і кожны раз прыходзілася проста „вылузгівацца са скуры”, каб здабыць на 2-3 дні аўтамабіль. Аднаго разу я зьвярнулася да начальніка аўтабазы ў Менску, дзе працаваў адзін наш дэпутат, прыхільнік Фронту. Разам зь ім я і прышла ў кабінэт начальніка з дэпутацкім запытам-просьбай выдзеліць Чарнобыльскаму камітэту які-небудзь транспарт, патлумачыла, што прыязджае госьць зь Нямеччыны з мэтай дапамогі беларускім дзіцячым шпіталям. Не вазіць жа яго па шпіталях на таксі. „Мы заплацім, колькі трэба”, – заверыла я. Ніякіх грошай Камітэт ня меў, але мы з сябрамі вырашылі „ськінуцца” на гэтую справу. Начальнік пачасаў патыліцу – і выдзеліў нам ў арэнду мікрааўтобус савецкай вытворчасьці бясплатна (Чарнобыль жа).

Тады замежныя камфартабельныя машыны для нас былі ўвогуле недаступныя, на Беларусі іх было няшмат, таму мы нават і ня надта задумваліся, што заходнія мільянеры на такіх машынах ня



*27. З дзецьмі Чарнобыля ў гасьцях у Папы Рымскага Яна Паўла II.*

езьдзяць. Наадварот, мы вельмі ўзрадваліся таму „ўазіку”.

Як выхаваныя заходнія людзі, ні спадар Лянгенбан, ні Ларыса (якая суправаджала яго як перакладчыца) і вокам не міргнулі, што для іх гэта папросту экзатычны транспарт. Так і вазілі мы нашага госьця на кандовай савецкай „Лорэн-дзітрых” ад шпіталя да шпіталя, якім спадар Лянгенбан ахвяраваў вялікія сродкі на медычнае абсталяваньне для лячэньня беларускіх дзетак. Назаўтра нараніцы мы сустракаліся, каб прадоўжыць нашую працу, але часам прыходзілася разам з гасьцямі гадзіну-паўтары чакаць наш „транспарт”. Зараз ужо мы і ня памятаем, якія тады былі вялікія праблемы з палівам, і наш Юзік Такушэвіч траціў шмат намаганьняў, каб „заправіць” машы-

ну для нашых паездак. Ён езьдзіў ад „запраўкі" да „запраўкі" ў пошуках паліва, (знайсьці якое было вельмі цяжка), выстойваў вялічэзныя чэргі (дзе яно, нарэшце, знаходзілася ў невялікіх колькасьцях), пакуль, прыязджаў па нас. Але ні спадар Лянгенбан, ні спадарыня Ларыса ня крыўдзіліся за такія затрымкі. Яны ведалі нашу цяжкую беларускую сітуацыю, бачылі, як усе мы стараемся, але пазьбегнуць некаторых праблемаў тады часамі было немагчыма.

Аднаго разу па рэкамэндацыі спадара Лянгенбана ад ягонага сябра (якога мы ніколі ня бачылі) на імя *Камітэту Дзеці Чарнобыля БНФ* прышоў вялікі канвой з Аўстрыі. Але ўлады (магчыма, спэцыяльна, каб не аддаваць яго Народнаму Фронту) сьціравалі гэтую мэдычную дапамогу да кіраўніцы чарнобыльскага фонду лекара Т. Белаокай. Яна атрымала гэты канвой, ня гледзячы на тое, што там стаяла назва нашага Камітэту і маё імя атрымальніка. Лекары, зь якімі мы папярэдне дамовіліся, гэтую дапамогу не атрымалі, а спонсар, даведаўшыся, што яго дапамога не дайшла да адрасата, быў абураны і больш яе не высылаў.

Адказнасьць за такую недарэчнасьць была на дзяржаўных структурах, якія аддалі дапамогу ня ў тыя рукі, і на тым, хто яе атрымаў. Няма сумніву, што лекі былі выкарыстаны спадарыняй Белаокай па прызначэньні, але гэта ў нас „няма сумненьняў". Нашы дабрадзеі на Захадзе маглі думаць інакш.

Праз *Камітэт Дзеці Чарнобыля БНФ* было ахвяравана шмат усялякай неабходнай і дарагой апаратуры розным медычным дзіцячым установам: Анкалягічнаму цэнтру пад кіраўніцтвам лекара Вольгі Алейнікавай, Цэнтру па лячэньню шчытападобнай залозы пад кіраўніцтвам доктара навук прафэсара Я. Дзямідчыка і Цэнтру у Аксакаўшчыне, аддзяленьню дзіцячай паталёгіі 1-га клінічнага шпіталя і дзіцячаму аддзяленьню 3-га шпіталя г. Менска, спэцыялізаванаму Дому дзіцяці №1, 4-му клінічнаму шпіталю Менска і шмат каму яшчэ, (усе назвы зараз мне цяжка і ўспомніць).

Трэба сказаць, што ўвесь цывілізаваны сьвет адгукнуўся на нашую бяду. Шмат краінаў запрашалі беларускіх дзяцей на аздараўленьне, і пачалося гэта праз Чарнобыльскі Камітэт Народнага Фронта *„Дзеці Чарнобыля"* на чале з Г. Грушавым. Камуністычнай уладзе, якая панавала ў СССР над усім, у сьвеце не давяралі. Наш Камітэт потым таксама займаўся вывазам дзяцей на аздараўленьне за мяжу.

Але паступова замежным аздараўленьнем беларускіх дзяцей пачалі займацца многія спэцыяльна ўтвораныя арганізацыі. Абсалютна недаступнае замежжа пры камуністычнай уладзе, дзе (як здавалася многім абывацелям) „даляры растуць проста на дрэвах", праз магчымасьць аздараўленьня чарнобыльскіх дзяцей адразу прывабіла ўвагу розных людзей, у тым ліку і несумленных. Вакол замежных дзіцячых паездак хадзілі ўсялякія нядобрыя чуткі, узьнікла шмат спэкуляцыяў, бруду і ўсялякага падману.

Для нас было прынцыпова важна захаваць чысьціню нашых мэтаў: дапамагаць сапраўды хворым беларускім дзецям паправіць іхнае здароўе. Таму было дамоўлена з кіраўніцтвам НДІ Радыяцыйнай Медыцыны, што арганізацыяй такіх паездак (візы, білеты, зборы і г.д.) будзе займацца фронтаўскі Чарнобыльскі Камітэт, а хворых дзяцей на аздараўленьне будуць падбіраць і рэкамендаваць лекары. У кожную групу суправаджэньня (чатыры чалавекі) павінен увайсьці лекар, перакладчык, два педагогі. Мы адчувалі, што такая нашая пазыцыя ( у той час, калі вакол такіх паездак за мяжу нярэдка рабіліся спэкуляцыі і нядобрыя справы) выклікала павагу ў лекараў НДІ, і мы пасьпяхова супрацоўнічалі.

Супрацьлеглы (італьянскі) бок, які прымаў беларускіх дзяцей, прасіў ад нас, каб кожны раз мы прысылалі хворых дзяцей з розных беларускіх раёнаў і паведамлялі нам, адкуль павінны быць хворыя дзеці. Гэта было ня цяжка, бо лекары НДІ Радыцыйнай Медыцыны добра ведалі ўсе забруджаныя радыяцыяй беларускія раёны, усе мястэчкі і вёсачкі, ведалі тых дзетак. Фронтаўцы, якія суправаджалі дзяцей у Італіі, казалі, што італьянцы надзвычай любяць дзяцей і ставяцца да іх вельмі сардэчна.

Калі італьянцы пачалі медычныя дасьледваньні беларускіх дзяцей, у нашых лекараў, якія былі там з дзецьмі, гэта выклікала занепакоенасьць. Высокаадукаваны лекар Інстытута спадарыня Людзьміла Васілевіч казала нам, што там, у Італіі, яна пыталася ў іхных лекараў, якія дасьледваньні яны

хочуць праводзіць, што гэтага нельга рабіць без дазволу бацькоў і дзяржавы, што мы (беларускія лекары) можам прапанаваць сваё супрацоўніцтва, і тады ўсё гэта будзе насіць адкрыты характар. Урэшце рэшт, гэта ёсьць інтэлектуальная медыцынская каштоўнасьць Беларускай дзяржавы, і нельга рабіць дасьледваньні за сьпіной гэтай дзяржавы. З.Пазьняк абмяркаваў гэтую праблему з кіраўніцтвам НДІ радыяцыйнай медыцыны. Было дамоўлена прапанаваць італьянскаму боку супрацоўніцтва з нашым НДІ і вырашана, што з гэтай прапановай да іх зьвернецца кіраўнік Чарнобыльскага камітэту. Таму суправаджаць наступную групу дзяцей (зь мястэчка Альманы Столінскага раёну) павінна была я.

Італьянцы аднесьліся да нашых дзяцей сапраўды вельмі сардэчна, вазілі іх на мора, на экскурсіі і г.д. Але самае вялікае ўражаньне зрабіла сустрэча з Папам Рымскім Янам Паўлам 2-м у Ватыкане. Зь незвычайнай дабрынёй Папа багаславіў нашых дзетак, пажадаў усім нам здароўя, сказаў некалькі цёплых слоў па-беларуску. Мы былі ўзрушаныя.

Пазьней у мяне адбыліся перамовы з кіраўнікамі італьянскага праекту, дзе я выказала занепакоенасьць „ананімнымі" медычнымі дасьледваньнямі нашых дзяцей італьянскім бокам і прапанавала ім адкрытаее супрацоўніцтва з НДІ радыяцыйнай медыцыны. Да прапановы італьянцы аднесьліся з энтузіязмам, але потым праект быў зачынены. (Пазьней я даведалася, што тут умяшаліся зацікаўленыя асобы з МАГАТЭ. Відаць МАГАТЭ якраз і прыклала „лапу" што да „ананімнасьці" праекта.)

Паступова дзіцячыя паездкі за мяжу ў „капіталістычныя краіны" паказалі, што яны неадназначна ўплываюць на духоўны сьвет нашых дзяцей і іхных бацькоў. Заходнія людзі бачылі, што да іх прыязджаюць дзеці з небагатых ці проста бедных беларускіх сем'яў і, спачуваючы дзецям, якія сталі ахвярамі камуністычнага рэжыму, усяляк стараліся парадваць іх рознымі падарункамі ім, і нават іхным бацькам. Дамоў дзеці вярталіся з валізкамі адзеньня, ласункаў, часам нават нейкай апаратурай, скажам, магнітафонам, што на тыя часы ў нас каштавала дорага і простым грамадзянам было недаступна. У выніку для некаторых асобаў паездкі сталі набываць мэту спажывецтва і нажывы, ў іншых спараджалі псіхалёгію давальства і ўтрыманства. Кіраўніцтва Фронту было занепакоена такім станам рэчаў. Намэнклятурная ўлада нічым не дапамагала ў гэтай справе, толькі перашкаджала. Урэшце мы адышлі ад заходніх дзіцячых паездак за мяжу і прадаўжалі займацца дапамогай шпіталям і дзіцячым установам.

Неяк перад Калядамі з намі зьвязаліся грамадзкія дзеячы зь Нямеччыны. Немцы, у сем'ях якіх гасьцявалі хворыя беларускія дзеці, вырашылі пераслаць для іх калядныя падарункі, але перадаць іх давяралі толькі праз Народны Фронт. Ці дойдуць іхныя падарункі да адрасатаў не раскрадзенымі праз іншыя арганізацыі, яны сумняваліся.

Суправаджалі канвой чалавек дванаццаць немцаў, якія для гэтага ўзялі адпачынкі за ўласны кошт. (Адкуль жа было ведаць немцам, што Фронт – грамадзкая арганізацыя, якая ня мае ніякіх „складоў" для іхных падарункаў.)

Тым ня менш высакародны парыў простых нямецкіх грамадзянаў адштурхнуць мы не маглі і пагадзіліся прыняць падарункі і перадаць іх дакладна па адрасах, хоць разумелі, што сітуацыя ня простая. Суправаджаўшых канвой немцаў мы вырашылі разьмеркаваць на ноч па 2-3 асобы па ўласных кватэрах і заранёў падрыхтаваліся. А вось як быць з самым канвоем, куды выгружаць гэтыя скрыні – мы ня ведалі. І тады мы з Вольгай Кузьміч вырашылі ўзяць гэта на сваю дэпутацкую адказнасьць і выгрузіць скрыні з падарункамі ў свой кабінет ў Гарсавеце. Варыянтаў проста больш не было. Які будзе аб'ём гэтага канвою – мы не ўяўлялі.

Пад'ехаўшы да беларускай мяжы, нямецкія сябры патэлефанавалі нам, але разьлічыць іхны прыезд у Менск дакладна было немагчыма. Прачакалі мы іх увесь дзень і дачакаліся толькі ўвечары, каля 21-й гадзіны.

Калі мы з Вольгай Кузьміч убачылі машыну-„фуру" – ледзь ня страцілі прытомнасьць (такая яна была вялікая). Што рабіць? Вечар, начальства ў Гарсавеце няма, нікога няма, толькі паставы міліцыянт. Мы як дэпутаты і паведамілі яму, што будзем зараз грузіць скрыні канвою ў Гарсавет.

Міліцыянт толькі лыпаў вачыма, як мы цягалі скрыні ў два ліфты і бясконца вазілі іх на чацьверты паверх. Працавалі мы (ад страху) вельмі хутка – усе былі мокрыя: і немцы, і фронтаўцы. У вы-



*28. Разьмеркаваньне чарнобыльскай дапамогі (лякарстваў) Лагойскаму шпіталю. 1994 г.*

ку ўвесь наш вялікі пакой Камісіі па адукацыі быў застаўлены цалкам ад падлогі да столі (засталася невялічкая шчыліна каля стала).

У канцы „разгрузкі", калі ўжо заставалася некалькі скрыняў, нечакана аднекуль зьявіўся старшыня Гарсавету А. М. Герасіменка. Вочы яго акругліліся: „Што гэта вы робіце? Гарсавет – гэта ж ня склад," – разгублена зьвярнуўся ён да нас з Вольгай.

„Нам зь Нямеччыны перадалі падарункі для дзяцей. Заўтра мы іх будзем раздаваць. Не хвалюйцеся, Аляксандар Міхайлавіч, усё будзе ў парадку", – адказалі мы, хаваючы свой страх.

Аляксандар Міхайлавіч узяўся за галаву. „Заканчвайце хутчэй, заўтра пагаворым", – неяк разгублена вымавіў ён. (Гаворка назаўтра была. А.М. Герасіменка гаварыў з намі мякка, але цьвёрда: „Дзяўчаты, вы разумееце, што так рабіць нельга..." – і ўзяў з нас слова больш ніколі так не рабіць. Мы шчыра глядзелі ў вочы старшыні Гарсавета і ва ўсім пагаджаліся зь ім, тлумачылі, што толькі вострая неабходнасьць прымусіла нас...)

Але сапраўдныя пакуты пачаліся назаўтра. Пакой быў цалкам загрувашчаны скрынямі. Фронтаўцы працавалі некалькі дзён, каб неяк перапісаць адрасы і тэлефоны на скрынях, потым каб абзваніць адрасатаў, а потым каб раздаць пасылкі бацькам, якія па нашым выкліку прыязджалі ў Гарсавет на працягу некалькіх тыдняў. Так скончылася гэтая авантурная гісторыя, якая запомнілася нам гэтакім пагранічным станам душы: ад страху да жаху. Але ўрэшце – мы справіліся.

Памятаю аднаго разу, у 1994 г., на дзейнасьць *Камітэту Дзеці Чарнобыля БНФ* дабрадзеі падарылі 2 тысячы даляраў. Мы з сябрамі Камітэту закупілі на гэтыя грошы розныя пачастункі, цацкі для дзяцей і пад час нашых фронтаўскіх паездак па Беларусі разам з кіраўніком Фронту наведвалі дзіцячыя шпіталі і развозілі гэтыя падарункі дзецям.

Ведаючы нашую бескарысную дзейнасьць, на нашыя патрэбы адгукаліся і беларускія прадпрыймальнікі. Нам прысылалі і харчаваньне, і адзеньне, і цацкі-цукеркі да сьвятаў для дзяцей. Усё гэта развозілася і раздавалася тым, хто адчуваў патрэбу ў такой падтрымцы. Аднойчы адзін прадпрыймальнік (на жаль, ня памятаю ягонае імя)

прапанаваў нам мёд для дзяцей, шмат мёду. Мы прывезьлі гэты мёд у НДІ Радыяцыйнай Медыцыны і разам з галоўным лекарам Інстытута раздалі гэты мёд хворым дзецям з забруджаных раёнаў, якія знаходзіліся там на абсьледваньні.

Выжываньне беларусаў забруджаных тэрыторыяў было надзвычай цяжкое. Вядома, што камуністычныя ўлады на Беларусі адмовіліся ад міжнароднай дапамогі (Магатэ), заявіўшы Маскве, што „бяду мы адолеем самі". Такая заява прамаскоўскіх халуёў зь Беларусі была ўнікальная, бо ні адна дзяржава не зрабіла нічога падобнага, а велізарныя грошы міжнароднай дапамогі, якія выдзяляліся для ратаваньня Беларускай нацыі, былі прыўлашчаны Масквой. Такая была злачынная ўлада на Беларусі тагачасных сьлюнькових і *К*. Чарнобыльская трагедыя таксама выразна паказала подлы імпэрскі твар Масквы, якая расстраляла і апусьціла на галовы беларусаў радыяцыйныя воблакі над Магілёўскай вобласьцю, каб не пусьціць хмары далей ў Расею. Цяпер там радыяцыя як ў Чарнобыльскай зоне.

Здавалася, усё было так відавочна, але праўду камуністы старанна хавалі. Народны Фронт расплюшчыў грамадзтву вочы на гэтую нашу бяду. Але нацыя ўжо была ў нейкім літаргічным сьне, хоць і моцна цярпела. Мы бачылі гэта ў кожным мястэчку, у кожнай вёсцы, куды адвозілі сваю дапамогу.

Бадай што ніводнага разу мы гэта не зрабілі без Зянона Пазьняка. Як ён жыў, калі адпачываў – напэўна, ніколі, бо пачынаючы з 1988 года на сваіх плячах нёс велізарны клопат і Старшыні БНФ, і потым Старшыні Апазыцыі Вярхоўнага Савету. Але калі мы атрымоўвалі дапамогу з-за мяжы ці ад беларусаў і зьбіраліся яе развозіць у месцы вострай патрэбы, разам з намі амаль заўсёды быў Зянон Пазьняк, ахвяруючы ўсімі сваімі „выхаднымі" днямі і адмаўляючыся ад самага малога адпачынку. У выніку гэтых наведваньняў ён на свае вочы бачыў шмат беларускага гора і, як дэпутат Вярхоўнага Савета, рабіў усё магчымае, каб дапамагчы канкрэтным людзям у іхняй бядзе.

А людзям не хапала элемэнтарнага. Не было лекаў, не хапала лекараў, харчаваліся з забруджаных радыяцыяй агародаў, і беларусы ціха паміралі. Асабліва шчыміць сэрца, калі ўспамінаю адну сям'ю з-пад Хвойнікаў. Пра яе мне паведаміла прыхільніца Народнага Фронту, расказала пра бядотны і трагічны стан гэтай сям'і.

Разам з З. Пазьняком мы наведалі гэты сьціплы беларускі дом, убачылі маладую жанчыну, якая памірала (цень сьмерці быў бачны на яе твары), яе двух дзетак і яе бацькоў. Маці паміраючай моўчкі плакала па дачцы, бацька стрымана расказваў пра тое, што лячыцца няма дзе і за што. „Атруцілі нас і кінулі, вось і паміраем мы на сваёй зямельцы", – ціха нясьпешна казаў бацька, быццам гэта быў расповяд пра нешта звычайнае... Незвычайны жаль ахапіў маю душу, хацелася аддаць усё сваё сэрца, каб дапамагчы гэтым сьціплым беларусам. А яны яшчэ дзячылі нас за калядныя пачастункі і нейкія прадукты...

Калі мы вярталіся, Пазьняк маўчаў, твар ягоны стаў шэрым ад болю за нашых людзей, выратаваць якіх, дапамагчы было мажліва толькі маючы дзяржаўныя магчымасьці і паўнамоцтвы.

Колькі людзкога гора давялося ўбачыць у гэтых нашых франтаўскіх паездках па Беларусі, наведваючы беларускія сем'і! Але для іхнага сапраўднага ратаваньня патрэбны быў нацыянальны парлямант і нацыянальны ўрад, якія б па-дзяржаўнаму вырашалі гэтую праблему. Пасьля такіх паездак (я разумела) Зянон Пазьняк не шкадаваў сябе ў змаганьні за свой народ. Хоць куды ж было „больш", калі ўсё сваё жыцьцё ён паклаў на гэтае змаганьне.

Рэжым Лукашэнкі, як кажуць, убіраўся ў пер'е, і атакі на беларушчыну йшлі адна за адной. Т ы м часам нам дапамагалі зусім чужыя і невядомыя людзі з замежжа, якія па ўласнай ініцыятыве зьбіралі грошы на канвой у Беларусь, набывалі медыкаменты, медычнае абсталяваньне, нават харчаваньне для дзяцей з забруджаных раёнаў Беларусі, бралі адпачынкі за свой кошт, каб адвезьці ўсё набытае на Беларусь.

Аднаго разу мне прышлося дапамагчы „растаможыць" такі канвой у Мытным камітэце (што на вул. Славінскага) адной дабрачыннай арганізацыі, здаецца, зь Вялікабрытаніі ці Даніі, каб яны маглі адвезьці сваю дапамогу ў Чарнобыльскі раён Беларусі. Гэта была раніца, нядзеля. У таго, хто павінен быў сустрэць канвой у Менску, нешта не спрацавала, таму патэлефанавалі мне і папрасілі тэрмінова прыехаць у Мытны камітэт.



*29. Зянон Пазьняк ў мястэчку Дулебы (Бярэзінскі р-н).*

Так я пазнаёмілася зь дзіўнымі заходнімі людзьмі, якім не было абыякавым гора беларускіх дзяцей. Мы разгаварыліся, і яны пачалі мне дзячыць, што я (як яны казалі, ня гледзячы на выхадны дзень) прыехала ім дапамагчы. Я перапыніла гаворку: „Вы прыехалі дапамагаць нашым дзецям, якія ў бядзе, гэта я вам дзякую ад усяго сэрца за вашую дабрыню".

У нас склалася поўнае ўзаемаразуменьне, і тады кіраўніца канвою расказала мне, што гэта ня першы іхны візіт на Беларусь. „Мы бачым, што часы мяняюцца, мяняюцца і вашыя прадстаўнікі ўлады. Вось, напрыклад, у нашай краіне быў з візітам ваш кіраўнік дзяржавы С. Шушкевіч. У яго быў афіцыйны „пратакол" візіту, а ягонай жонкай апекаваліся мы. Яна не хадзіла па крамах за „дэфіцытамі", трымалася годна. Яна нам спадабалася, таму на разьвітаньне мы падрыхтавалі ёй розныя падарункі (для яе і яе дзетак), бо добра ведаем, што звычайна кіраўнікі з Савецкага Саюзу заўсёды нешта везьлі дадому. Але спадарыня Шушкевіч катэгарычна адмовілася ад усялякіх падарункаў і ветліва адхіліла ўсё, што мы ёй прапанавалі. Гэта нас усіх прыемна ўразіла як прыклад годных паводзінаў вашай першай ледзі".

Мне было надзвычай прыемна гэта пачуць, бо спадарыня Шушкевіч пакінула добрыя думкі ня толькі пра сябе, а і ўвогуле пра беларускіх жанчын.

* * *

Аднаго разу ў Гарвыканкам, дзе я тады працавала, да мяне прышла строгая маладая кабета з падаткавай інспэкцыі, каб праверыць дзейнасьць нашага Камітэту. Я падрабязна расказала ёй пра нашыя справы, падцьвярджаючы свае словы шматлікімі дакумантамі і фатаграфіямі. Субяседніца слухала мяне, не перапыняючы, а потым сказала: „Я думаю, што ваш Камітэт трэба не правяраць, а ўзнагароджваць".

Было вельмі прыемна пачуць такія словы, але жыцьцё паказала, што гэтая адзнака зусім не супадала з пазыцыяй правячага рэжыму на дабрачынную грамадзкую дзейнасьць, які ацэньваў такую людзкую працу зусім інакш.

Здаецца ў 1995 годзе я прыехала „растаможваць" чарговы канвой зь лекамі ў Мытны камітэт на

вул. Славінскага (канвой ішоў праз нашу арганізацыю ў адзін зь менскіх дзіцячых шпіталёў). Працэдура была знаёмая, я разьлічвала прайсьці яе хутка, каб пасьпець адвезьці лекі туды, дзе іх ужо чакалі. Раптам мытнікі мне кажуць, што па новаму распараджэньню за „растаможку" трэба плаціць.

– Гэта дабрачынныя лекі, і ідуць яны мэтава, мы іх ня будзем нават разгортваць. Усё, як ёсьць, перададзім у шпіталь для беларускіх дзяцей, гэта падарунак з Аўстрыі. Якая можа быць „аплата"?

– Зьвяжыцеся з тымі, хто прыслаў канвой, няхай аплочваюць, у іх грошай шмат, – пачула я ў адказ.

– Людзі з-за мяжы бясплатна для нашых дзяцей прыслалі дарагія лекі, і яны павінны, па-вашаму, за сваю дабрачыннасьць яшчэ плаціць у бюджэт? У нас што, дабрачыннасьць караецца? – не магла ўцяміць я гэтую лёгіку.

– Калі ў іх ёсьць грошы на такія падарункі, знойдуцца і на растаможку, – суха падсумаваў чыноўнік. Такі цынізм уражваў.

Перамовы нічога не далі. Нам паказалі новыя інструкцыі лукашэнкавага рэжыму, якія мытнікі не маглі парушаць.

Што ж, я аддала сваю зарплату Мытнаму камітэту, але атрымоўваць дапамогу з-за мяжы болей мы не маглі. Так рэжым скасаваў вялікую бескарысную медычную дапамогу, якая ішла ад нашых сяброў з-за мяжы, так жыцьцё пацьвердзіла фронтаўскую канцэпцыю Чарнобыльскага камітэту: нашая бяда не вычэрпваецца фізічным ратаваньнем дзяцей. Духоўны Чарнобыль страшней, бо зьнішчае ўсю нацыю. І каб ратаваць дзяцей Чарнобыля, беларускіх дзяцей, трэба мець нацыянальную дзяржаву, бо нашае агульнае выратаваньне немагчымае без нацыянальнага ўраду, нацыянальнай палітыкі і нацыянальнага прэзыдэнта. Прамаскоўскі рэжым адкрыта хоча нас зьнішчыць, не дапусьціць выратаваньня. Каб выжыць – трэба змагацца за сваё, за беларускае, за народнае, за нацыянальнае.

## НАШ СТАРШЫНЯ

Камітэт Дзеці Чарнобыля БНФ забіраў шмат часу, ды мы ведалі, што нашая праца патрэбна беларускім дзецям, і моцна стараліся. Але што б я ні рабіла як старшыня Камітэту (гэтаксама як і старшыня Койданаўскай Рады), я заўсёды раілася з Зянонам Пазьняком. Я адчувала ў ім ня толькі падтрымку, але маральную апору, сяброўскае плячо. Тысячы разоў я пераконвалася, што гэты высакародны чысты чалавек заўсёды кажа праўду, усё разумее і, дзякуючы свайму сьветламу розуму, не памыляецца. Я верыла яму абсалютна, прымала ўсё, што ён казаў, на веру і ніколі не пашкадавала аб гэтым. Зянон Пазьняк умеў кіраваць. Зь ім хацелася раіцца, ведаць ягоную думку.

Калі Пазьняк стаў Старшынёй Апазыцыі БНФ у Вярхоным Савеце, бывала, што паседжаньне ў Апазыцыі зацягвалася і ён ненадоўга пазьніўся на Ўправу БНФ. І пакуль ён не прыходзіў, Управа ішла неяк вяла, як быццам бы абмяркоўваліся пытаньні ня вельмі важныя. Як толькі ў залю Управы імкліва ўваходзіў Зянон Пазьняк – усё мянялася: і рытм паседжаньня, і нашая актыўнасьць, і праблемы абмеркаваньня станавіліся нейкімі „цікавейшымі", і Ўправа пачынала працаваць, як трэба. Моц і прыцягальнасьць асобы Зянона Пазьняка адчувалі ўсе. Як кіраўнік ён – чалавек унікальны. Ён умеў ня толькі „бачыць наперад", прапанаваць аптымальную стратэгію, але ўмеў (калі таго вымагала сітуацыя) рашуча сказаць „НЕ". І разам з тым – быў вельмі чулым да сваіх калегаў.

Фронт мусіў кожны месяц аплочваць рахункі за сядзібу. Грошай ня толькі не хапала, іх проста не было. Тады я прапанавала Пазьняку „перакрыць" у сядзібе гарачую ваду, якая „цягнула" шмат грошай. Пазьняк не раздумваючы катэгарычна адмовіўся: „Тут працуюць В. Івашкевіч, Д. Мікульская, прыходзяць людзі. Яны могуць застудзіць рукі. Будзем шукаць іншы шлях, як знайсьці грошы, а не эканоміць на здороўі людзей".

Паколькі ў мяне ў Фронце было шмат даручэньняў, я даволі часта бывала ў Вярхоўным Савеце (ў Апазыцыі), ведала асабіста яе сябраў. Гэта былі асобы, разумныя і ахвярныя людзі. Каб кіраваць такімі людзьмі, трэба было мець талент. Да гонару кіраўніка, Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце ня толькі не распалася да канца існаваньня (чаго не пазьбегла ні адна „фракцыя"), але і скончыла сваю кадэнцыю надзвычай годна.

Уся дзейнасьць Апазыцыі БНФ – унікальная. Аднавіць малымі сіламі незалежную дзяржаву Беларусь тады, калі кіруючыя ўлады і ў Маскве,

і ў Менску плянавалі зьнішчыць яе канчаткова, – гэта сапраўдны подзьвіг. Але і працы ў такім неверагодна цяжкім змаганьні ў кожнага адраджэнца было незвычайна шмат. Яшчэ больш яе было ў кіраўніка Апазыцыі: увесь час трэба было быць наперадзе, хутка ацаніць сітуацыю, прадбачыць заранёў, валодаць усёй інфармацыяй, каб кіраваць і Апазыцыяй, і Фронтам, бо толькі агульныя, сінхронныя дзеяньні дэпутацкай Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце і ўсяго Фронта маглі даць плён.

Як дэпутату – трэба было рыхтаваць ня толькі законапраекты, але і кожны дзень рыхтавацца да выступаў на сэсіі, прадумваючы кожнае слова. Як кіраўніку Фронта – трэба было памятаць пра ўсе падзеі, задачы, мерапрыемствы, паседжаньні і іх падрыхтоўку ў Фронце.

А яшчэ – рэгулярныя выступы ў друку. Трансьляцыя сэсіі Вярхоўнага Савета ішла ноччу, і далёка ня кожны меў магчымасьць сачыць за яе ходам. А ў пракамуністычным друку назаўтра можна было прачытаць што заўгодна – самую бессаромную хлусьню. І ўвесь час неабходна было праз шматлікія інтэрв'ю даваць камэнтары, выступаць з артыкуламі. Колькі ж іх напісана! Калі прасачыць за выступамі З. Пазьняка ў друку, можна скласьці падрабязную амаль штодзённаю гісторыю беларускага адраджэнцкага змаганьня за незалежную Беларусь.

А яшчэ – рэгулярная дэпутацкая праца на выбарчай акрузе, прыём выбаршчыкаў. А яшчэ – сустрэчы з выбаршчыкамі па ўсёй Беларусі. І так усе будзённыя і „выхадныя" дні без перадыху...

У пачатку 90-х Народны Фронт утварыў Ценевы Кабінет, у які па запрашэньні Зянона Пазьняка пайшлі працаваць самыя моцныя, самыя знакамітыя беларусы: Народныя пісьменьнікі Беларусі Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін, акадэмікі Радзім Гарэцкі і Іван Нікітчанка, доктар эканамічных навук Уладзімер Тарасаў, Віталь Масквіч і іншыя буйныя вучоныя, палітыкі, бліскучыя вытворцы, эканамісты, гісторыкі, спэцыялісты ядзернай энэргетыкі – магутныя асобы. Сабраць такі „калектыў" на грамадзкіх пачатках, ды каб ён яшчэ плённа працаваў на Беларускую ідэю ў сытуацыі антыбеларускага антыдэмакратычнага рэжыму, магла толькі такая асоба, якой давяралі, якая б адпавядала ўсім гэтым розным людзям і прыцягвала б вышынёй і сьветам сваёй пазыцыі.

Нейкі час Ценевы Кабінет існаваў і пасьля таго, як Зянон Пазьняк апынуўся ў эміграцыі, бо Пазьняк як кіраўнік Кабінету вельмі клапаціўся, каб ён працаваў надалей. Да нас у Варшаву прыязджаў Іван Саверчанка, які ўдаваўся за адданага барацьбіта. Зянон прасіў яго ўзначаліць працу Кабінета, падрабязна расказваў, як і што трэба зрабіць. Саверчанка актыўна абяцаў (гэтаму я была сьведка). Але ня выканаў свае абяцаньні, зрабіў, фактычна, усё з дакладнасьцю наадварот.

## ЛАРЫСА

Зь вялікім цяплом і ўдзячнасьцю ўспамінаю дарагую спадарыню Ларысу Урбан (Верас). Этнічная беларуска, яна жыла ў Мюнхене, працавала на радыё „Свабода" і ўсяляк спрыяла Беларусі. Пазнаёмілася я зь ёй выпадкова. Летам 1991 года яна прыляцела ў Менск у якасьці перакладчыцы бізнэсмэна зь Мюнхена ***Вернэра Лянгенбана*** па запрашэньні Менгарвыканкама. Спадар Лянгенбан цікавіўся Беларусьсю і хацеў дапамагчы нашым чарнобыльскім дзецям.

Гэта быў час летніх адпачынкаў, і шмат хто з кіруючых гарадзкіх чыноўнікаў на працы адсутнічаў. Старшыня Менгарвыканкаму і Менгарсавету А. М. Герасіменка таксама некуды ад'язджаў з візітам, і ўзьнікла праблема, каму ж сустракаць госьця і заапекавацца ім на некалькі дзён.

Мы сустрэліся з Аляксандрам Міхайлавічам у Гарсавеце, і ён прапанаваў мне гэтую справу, сказаўшы, што мне будуць дадзеныя поўныя правы для бесперашкоднай арганізацыі візіта замежнага госьця: дзьве машыны (мікра-аўтобус і гарвыканкамаўская „Волга"), вызначаныя дзіцячыя шпіталі, якія мы павінны наведаць, з гатэлем і харчаваньнем таксама праблемаў ня будзе. Але я была ўсё ж дэпутатам ад БНФ, таму ў „дапамогу" мне ён прапанаваў дэпутата пракамуністычных поглядаў. Імгненна зарыентаваўшыся ў сітуацыі, я пагадзілася.

Вернер Лянгенбан прыляцеў з дэлегацыяй журналістаў 12-13 чалавек на тры дні. Я старалася ўсё прадугледзіць, каб падчас візіту не было ніякіх нечаканасьцяў. Пакуль дэлегацыя аглядала

шпіталь, я тэлефанавала ў наступны, каб нас сустрэлі, ці ў рэстаран, каб мы не чакалі абеду. Іншая дэпутат-памочніца ўбачыла, што гасьцямі трэба займацца ўвесь час, у яе былі свае клопаты, і я з задавальненьнем яе „адпусьціла”.

Усё ішло пасьпяхова, тым больш, што я адразу адчула спрыяньне Ларысы. Мне было важна прыцягнуць увагу Вернера Лянгенбана да Народнага Фронту, да нашых нацыянальных праблемаў. Ларыса ўсё разумела, дапамагала і перакладала з сімпатыяй да таго, пра што я гаварыла. У апошні дзень мы паехалі ў Раўбічы. Тут я ціха спытала ў Ларысы, ці застаўся наш госьць задаволены. Яна сказала: „Так, але добра было б паказаць яму яшчэ што-небудзь, нешта нечаканае”. Тады я імгненна прымаю рашэньне і кажу шафёру: „Едзем у маю родную вёску Стайкі Лагойскага раёну (ў трох кілёмэтрах ад Янушкавіч).

Мы паехалі. Як толькі скончыўся асфальт, шафёр захваляваўся. Я сказала, што ўсю адказнасьць бяру на сябе. А калі мы паехалі па дрэннай вясковай вуліцы, паўз „расхрыстанага” клюбу, дзе ў разьбітае вакно ўскочыў певень, шафёр мне і кажа: „Яшчэ год таму за такі незаплянавалы візіт у „непаказальную” вёску мяне б звольнілі з працы, а вас, таварыш дэпутат, пасадзілі б, і надоўга. Вам ня страшна?”

„Мне ня страшна, бо я хачу, каб пра маю вёску даведаліся і пабудавалі б дарогу для людзей. Усе гэтыя „карцінкі” – дробязі, зараз убачыце, якія тут жывуць людзі!”

Калі мы пад’ехалі да дому майго дзядзькі Антося, на вуліцы стаялі цётка Анюта і сёстры, Таня і Ніна. Мы ня бачыліся можа з год. Я выбегла з машыны, трыма словамі патлумачыла, што трэба, і усё пайшло, як па маслу. Цётка Анюта павяла гасьцей паказаць агарод, сёстры накрывалі стол, бегалі пазычаць кілішкі, відэльцы, але праз паўгадзіны стол „ламіўся”. Госьці толькі раскрывалі раты ад зьдзіўленьня. Было відаць, што яны, бадай, ўпершыню ўбачылі такую савецкую беларускую вёску і такіх добрых і неверагодна гасьцінных людзей. Яны з задавальненьнем пілі збажовую самагонку (называлі яго „шнапс гут!”), елі свойскую кілбасу і вяндліны, агуркі з градкі, грыбы, скваркі, сала. Чаго толькі ні было на тым нашым стале!

Мы ехалі назад, і Ларыса казала мне, што гэта проста шок, што такой дзівоснай гасьціннасьці яны нават не маглі ўявіць.

Пасьля гэтага немец Вернер Лянгенбан прыязджаў у Менск з Ларысай шмат разоў, але ўжо выключна як госьць Камітэту „Дзеці Чарнобыля БНФ”. Ларыса ўвесь час перакладала, сьціроўваючы ўвагу спадара Лянгенбана на тое, што менавіта Фронт – гэта адзіная арганізацыя, якой можна давяраць і праз яе дапамагаць беларускім дзіцячым шпіталям. Кожны свой прыезд ён абавязкова сустракаўся з Зянонам Пазьняком, каб паразмаўляць пра беларускую сітуацыю, бываў у нашай франтаўскай сядзібе. Убачыўшы, што ў Фронце няма кампутараў, ён дапамог нам набыць іх. Ён лічыў, што пэрспэктывы Народнага Фронту і асабіста Пазьняка вялікія, і ўсяляк спрыяў нашай арганізацыі і яе лідэру.

Вернер Лянгенбан шмат дапамагаў і дарагім абсталяваньнем, і медыкаментамі, і кожны ягоны візыт я старалася добра прадумаць і ўсё прадугледзіць. Усё, што ён прывозіў, ён перадаваў у шпіталі сам, але суправаджаў яго Народны Фронт, і гэта вельмі дапамагала і падвышала аўтарытэт Фронту, бо інфармацыя ішла ў друк, на радыё і Беларускае тэлебачаньне. Дзякуючы падтрымцы дарагой Ларысы, усё складвалася вельмі спрыяльна для Фронта.

Жывучы ў Нямеччыне, Ларыса старалася ствараць усялякую пратэкцыю для Беларусі, каб нашыя беларускія праблемы былі чуваць на Захадзе, каб дапамагчы ў нашых вялікіх чарнобыльскіх праблемах. Яна паспрыяла і таму, каб Вернер Лянгенбан падараваў „Камітэту Дзеці Чарнобыля БНФ” мікра-аўтобус „Фольксваген”.

Як карэспандэнт радыё „Свабода” Ларыса была сапраўдным прадстаўніком беларускіх інтарэсаў. Вялікае змаганьне Апазыцыі ў Вярхоўным Савеце яна імгненна адлюстроўвала ў сваіх рэпартажах, даючы ў эфір інтэрв’ю дэпутатаў Апазыцыі БНФ, а найчасьцей старалася, каб камэнтар даў менавіта Зянон Пазьняк. Калі яна не магла датэлефанавацца да яго, то званіла мне, і я бегла з Гарсавету ў Апазыцыю адшукаць Старшыню Апазыцыі БНФ. Разумная, апэратыўная ў журналісцкіх дзеяньнях, яна магла б стаць прыкладам для шмат якіх сучасных карэспандэнтаў „Свабоды”.

# ПАЛІЎНЫ КРЫЗІС

Адраджэнскі незалежніцкі рух 90-х ускалыхнуў усю нашу краіну. Гэтага надзвычай баялася Масква і яе маскоўскія прыслужнікі на Беларусі (ў асноўным рэшткі камуністаў, расейская агентура і намэнклятурнае начальства), таму інтэнсіўна працавалі супраць Адраджэньня і антынезалежніцкія сілы. На нас, фронтаўцаў 90-х, абваліўся цэлы акіян хлусьні і паклёпу. Газэты, радыё, тэлебачаньне, безадрасныя ўлёткі – ўсе ў адзін голас мэтадычна ілгалі пра Фронт і яе дзеячоў. У крамах, у чэргах, у пад'ездах кожнага дома працавала шматтысячная агентура паклёпшчыкаў, якія „самі відзелі"–„самі слышалі" і распаўсюджвалі ўсялякія небыліцы пра Фронт.

Як было расплюшчыць вочы ўсяму грамадзтву, калі няма ніякіх сродкаў масавай інфармацыі, а дзяржаўныя – недаступныя?

Сустрэчы „дэпутатаў з выбаршчыкамі" на мітынгах і ў гарадзкіх залях, у сельскіх клюбах і кінатэатрах аказаліся для нас на тыя часы самым эфэктыўным сродкам інфармацыі насельніцтва і стварэньня шырокай сеткі фронтаўскіх суполак. Кожны тыдзень ад сядзібы Фронта ад'язджаллі дзьве каманды на суботу-нядзелю начале з дэпутатамі Апазыцыі БНФ Вярхоўнага Савета для сустрэч з выбаршчыкамі па ўсёй Беларусі, каб расказваць пра мэты-задачы Фронта і ствараць фронтаўскія суполкі „на месцах". Ня думаючы ні пра які „адпачынак" пасьля тыднёвай працы, кожны выхадны фронтаўцы па чарзе кідалі свае сем'і і адпраўляліся на два дні ў нашыя прапагандысцкія „камандзіроўкі".

Узьнікла вострая патрэба бесперабойнай працы двух нашых мікра-аўтобусаў. У краіне на той час стаўся вялікі паліўны крызіс, і здабыць паліва станавілася ўсё цяжэй. Нашыя „шафёры" Юзік Такушэвіч і Ўладзімер Ляпарскі проста вылузгіваліся са скуры, каб раздабыць патрэбнае паліва. Але з кожным разам зрабіць гэта станавілася ўсё больш праблематычна.

Як дэпутат Гарсавета я спрабавала таксама дапамагчы ў вырашэньні праблемы. Але кожны раз гэта займала шмат часу, сіл, і было нерацыянальна, бо праз некалькі дзён трэба было зноў ісьці па тым самым „крузе". Старшыня Фронту выказаў думку, што добра б было зрабіць хоць нейкі запас паліва, каб не займацца адным і тым жа кожны тыдзень. Я вырашыла паспрабаваць зрабіць гэта. Мы набылі 10 вялізных (па 200 літраў) бочак для паліва, паліўныя каністры. Заставалася – іх запоўніць.

Высьветліўшы, што ў Дзяржынску (Койданаве) ёсьць нафтабаза, мы з Юзікам Такушэвічам паехалі „ў разьведку". Сустрэўшыся з дырэктарам, я спрабавала падыйсьці да нашай праблемы з усіх бакоў, казала пра нашую дзейнасьць на карысьць Беларусі, пра патрэбы – словам, старалася выкарыстаць усе магчымыя аргуманты. Дырэктар, здавалася, мяне зразумеў і паабяцаў „пайсьці насустрач", маўляў, праз пару тыдняў база атрымае паліва, і тады ён падпіша нашую „заяўку".

Праз пэўны час мы прыехалі зноў, але дырэктар аказаўся „моцна заняты". Прышлося прачакаць у прыёмнай з гадзіну-дзьве, каб да яго „прабіцца". „Пакуль няма, можа, будзе заўтра", – разьвёў ён рукамі.

Так мы праезьдзілі зь Юзікам цэлы месяц (амаль кожны дзень), пакуль мне ні расплюшчыла вочы адна жанчына ў прыёмнай, якая паведаміла па сакрэту, што паліва ёсьць, прывезьлі, але яго ў дырэктара трэба „выбіваць". „Інакш будзеце езьдзіць бясконца. Хіба вы ня бачыце – у прыёмнай кожны дзень вялізныя чэргі? Усе просяць, і толькі ён, дырэктар, вырашае, каму падпісаць, каму не. „Сваім" ён падпісвае", – сказала па-сяброўску мне фронтаўская прыхільніца, маючы на ўвазе заяўкі на паліва з подпісам дырэктара, без чаго паліва не атрымаць. Я зразумела, што дырэктар проста водзіць мяне, „за нос" сваімі абяцанкамі пра „заўтра", і вырашыла дзейнічаць рашуча.

Размова з дырэктарам прыняла востры характар. Урэшце рэшт на мае „жалезныя" аргуманты з выбарачнымі „подпісамі" заявак (а я ўжо ведала, каму ён тыя заяўкі падпісаў) ён выпаліў: „Добра, я падпісваю вашу заяўку, але умова: забірайце свае дзьве тоны сёньня, бо заўтра яна будзе несапраўднай".

– Згодна, падпісвайце, я сёньня ж і забяру, – адказала я гэтак жа рашуча.

Выйшаўшы з кабінета з патрэбнай паперай, я паказала яе Юзіку, які чакаў мяне ў машыне. І што далей? Як забраць і вывезьці тыя дзьве тоны сёньня да канца рабочага дня і куды?

Па нявопытнасьці я наіўна думала, што мы будзем „выбіраць” свае літры ў нашыя бочкі і патроху звозіць іх у Менск у нашым „фольку” (праўда, ня надта ўяўляла, куды).

Аказалася, што мае пляны зусім нерэальныя, бо выдаць паліва нам пагадзіліся толькі „цалкам” і ў спэцыяльна прыстасаваны бензавоз (з малой цыстэрнай). Перавозіць паліва таксама можна было толькі бензавозам, і ўжо „на месцы” пераліваць гэта ўсё ў свае ёмкасьці. А як пераліваць – гэта ўжо нашыя праблемы.

Зразумела, што ў такой сітуацыі без дапамогі сяброў не абыйсьціся. Трэба было тэрмінова знайсьці, адкуль у гэтым вясковым Дзяржынску патэлефанаваць у Менск, да Валянціна Асташынскага. (Прагрэс „бяжыць” імкліва. Гэта зараз зьвязацца вельмі проста – узяў і патэлефанаваў па мабільным тэлефоне. Тады ж гэтага цуду не было і ва ўяўленьні.) Нарэшце, мы датэлефанаваліся да Валянціна.

Дзівосны быў час, і дзівосныя людзі. Ніхто нікому не даваў ніякіх „заданьняў”, не „прасіў-упрошваў”. Мы толькі паведамілі спадару Валянціну, што паліва ёсьць і што трэба знайсьці, дзе і як пераліць яго з бензавозу ў бочкі, пакуль мы зь Юзікам яго прывязём у Менск (і дзе схаваць хаця б на ноч). Валянцін не „застагнаў” (маўляў, дзе я ўсё гэта знайду, бо гэта ж „узрыўны” матэрыял, і месца знайсьці – ня так проста), а абрадваўся, што паліва ўдалося здабыць – і кожны пачаў хутка вырашаць „сваю” задачу. Мы зь Юзікам пачалі шукаць па Дзяржынску бензавоз. Ну і што ж вы думаеце – знайшлі. Харошы, свой беларус з бензавоза пагадзіўся перавезьці нам паліва амаль бясплатна, і калі мы „залілі” той бензавоз і ськіраваліся на Менск, я села ў кабіну разам з тым прыхільным незнаёмым чалавекам, а Юзік ехаў за намі на машыне.

У кабіне сьмярдзела бензінам, было няўтульна, але як мне было радасна! Усю дарогу мы размаўлялі з тым нашым беларусам пра Фронт – і даехалі вельмі хутка.

„Разгружалі” бензавоз, калі ўжо амаль сьцямнела. Валянцін (такі малайчына!) да нашага прыезду знайшоў нейкіх сваіх знаёмых, прыхільнікаў Фронту, і астатнюю частку працы (пераліваньне ў бочкі, „складзіраваньне”) цалкам узяў на сябе. Так скончыўся яшчэ адзін шчасьлівы дзень.

А між іншым, усе гэтыя нашыя сябры (Асташынскі, Ляпарскі, Такушэвіч) не „кіроўцы”, не „шафёры” і не забесьпячэнцы, а кандыдаты навук, супрацоўнікі Акадэміі Навук (Асташынскі – доктар). На Захадзе – гэта белыя каўнерыкі, якія ня ведаюць як зварыць яйко. Гледзячы адсюль здалёку, зь іншага сьвету, жыцьцёвы дэмакратызм нашага народа, унівэрсальнасьць і кемлівасьць нашых людзей-беларусаў – уражваюць. Як я люблю гэтых людзей. Я бачыла, як вялікая сьветлая ідэя агульнага дабра і вера ў яе рабіла зь іх цудатворцаў.

Неяк мы сталі заўважаць, што Валянцін Асташынскі стаў дрэнна выглядаць і пастаянна кашляць. Чалавек вельмі адказны, ён быў шмат загружаны навуковай працай ў Інстытуце Фізікі Акадэміі Навук Беларусі, а пасьля працы прыходзіў ў сядзібу Фронта, бо тут таксама было шмат справаў, і затрымліваўся дапазна. У выніку –ператаміўся, потым, відаць, прастыў і арганізм даў збой. Але, як лічыў сам Валянцін, можна было пацярпець, і ён цярпеў. На тыя часы ён адзін з нямногіх добра ведаў кампутар, і шмат якія заданьні ў Фронце мог выканаць толькі ён. Лячыцца ж – не хапала часу, і мы бачылі, што такі яго аслаблены фізічны стан небясьпечна зацягваецца.

Пазьняк сказаў яму неадкладна зьвярнуцца да лекара і лячыцца. Асташынскі паабяцаў, але ніяк не мог сабрацца. Тады Пазьняк нагадаў яму яшчэ разы са два. Валянцін абяцаў, але ізноў не мог сабрацца. „Усё з табой зразумела, – кажа тады Пазьняк, – заўтра паедзеш да лекара”. „Паеду, абавязкова паеду, Зянон Станіслававіч”, – з гатоўнасьцю паддакнуў Валянцін, не адрываючыся ад кампутара.

Вечарам мне пазваніў Зянон Пазьнак і сказаў, каб я папярэдзіла Юзіка Такушэвіча і забясьпечыла Фольксваген назаўтра на 6.45 – паедзем да Асташынскага (я была адказная за машыны). А 7-й раніцы мы ў трох пад’ехалі да яго дома. Пазьняк пайшоў у хату і з сур’ёзным выглядам кажа: „Імем Народнага Фронту – зьбірайся!” „Куды?” – пытае Валянцін. „Да лекара”, – быў адказ. Чалавек сьціплы і інтэлігентны, Валянцін разгубіўся і пачаў прасіць не турбавацца. Але тут ужо размова была кароткай. Пазьняк проста валявым рашэньнем завёз Валянціна ў паліклініку Акадэміі Навук і прымусіў абсьледвацца (і аказалася, што вельмі своечасова).

Вось так пачынаўся наш адраджэнскі рух. Шмат хто (у тым ліку і Валянцін Асташынскі) не шкадаваў сілаў і здароўя, каб наблізіць вольную будучыню Беларусі.

## РЭГІСТРАЦЫЯ ФРОНТУ І СЯБРОЎСКІЯ БІЛЕТЫ

За рэгістрацыю Фронта ўзяўся адзін з намесьнікаў старшыні БНФ Юры Хадыка. Час ішоў, але справа не кранаалася зь месца. Гэтае пытаньне ўзьнімалася на кожным паседжаньні Ўправы Фронта, але ўсяроўна зь месца ня рушылася нічога. А потым спадар Хадыка зрабіў заяву, што, маўляў, у сучасных умовах зарэгістраваць Фронт немагчыма.

Пазьняк пачаў падбіраць іншых людзей, якія б выканалі задачу. Аднойчы да мяне зьвярнулася дэпутат Вярхоўнага Савета Галіна Сямдзянава з прапановай разам узяцца за гэтую справу. Я пагадзілася.

Справа была няпростая. Сфармавалася група, у якую ўвайшлі яшчэ Вера Чуйко і Уладзімер Анцулевіч.

Найперш мы зрабілі візіт у Мін'юст, каб разабрацца ў прычынах адмовы ў рэгістрацыі Фронта. І тут высьветлілася, што супрацоўнікі Мін'юста, аказваецца, „вельмі хацелі б нас зарэгістраваць". Але ж, паглядзіце, маўляў, самы. Ці ж можна такія дакументы разглядаць і вынесьці станоўчае рашэньне. Па-першае, яны былі зроблены надзвычай неахайна, па-другое, не былі выпраўленыя заўвагі Мін'юста. Да таго ж (як паведаміў нам адзін супрацоўнік Мін'юста) спадар Ю. Хадыка падчас перамоваў паводзіў сябе надзвычай груба, нават замахваўся крэслам на супрацоўнікаў.

Мы пераглянуліся: верыць яму мы не зьбіраліся. Але прагледзеўшы дакументы, якія спадар Хадыка прадставіў у Мін'юст, пераканаліся, што сапраўды, зарэгістраваць арганізацыю па гэтых дакументах было немагчыма. Гэта быў набор нейкіх чарнавых папераў, надзвычай неахайна сабраных, часткова напісаных ад рукі з перапраўленымі памылкамі, закрэсьленьнямі і г.д. Разабрацца ў гэтых чарнавіках бало немагчыма. Выглядала гэта ўсё вельмі дзіўна.

Не абмяркоўваючы доўга гэтае пытаньне, мы распачалі працу. Хутка ўсе дакументы, патрэбныя для рэгістрацыі, былі дапрацаваныя, упарадкаваныя і аддрукаваныя.

Тады Мін'юст выставіў патрабаваньне прадставіць Праграму Фронта. Закон гэтага не прадугледжваў. Было зразумела, што прадстаўляць Праграму бессэнсоўна, гэта пацягне бясконцыя „папраўкі" Мін'юста, які прадстаўляў інтарэсы ўладных камуністаў. Справа з тупіку ня выйдзе. Мы запярэчылі: Праграма апублікаваная ў друку, і па закону – гэтага дастаткова.

Ведаючы, што апублікаваць Праграму было на той час немагчыма, чыноўнік з радасьцю ўчапіўся за гэты аргумант: „Вельмі добра. Прынясіце мне хоць адзін экзэмпляр газэты, дзе была надрукавана вашая Праграма. Гэтага тады сапраўды будзе дастаткова."



***30. На канфэрэнцыі БНФ, 1996 г.; зьлева Лявон Баршчэўскі.***

– Добра, – пагадзіліся мы, – заўтра нараніцы вы атрымаеце газэту, – і абмяняўшыся нацягнутымі ўсьмешкамі, выйшлі з кабінету.

Мы былі ў жаху: дзе ж узяць гэты „хоць адзін экзэмпляр" газэты з Праграмай Фронта, калі яго не існуе ў прыродзе?

Але нічога ня зробіш: зарэгістраваць Фронт трэба, ня гледзячы ні на якія перашкоды. Кропка. Трэба дзейнічаць. Але як?

Заставалася адзінае спадзяваньне на зарэгістраваную газэту *„Навіны БНФ",* заснавальнікам якой быў Зянон Пазьняк. Яна друкавалася за межамі Менска. Гэта значыць, трэба было тэрмінова зьбірацца і за ноч зрабіць гэты „хоць адзіны экзэмпляр".

Мая задача заключалася ў тым, каб назаўтра, не сьпяшаючыся, спакойна прыйсьці ў Мінюст і раўнадушна пакласьці газэту на стол чыноўніка.

Астатнія павінны былі займацца самой газэтай, ня спаць ноч, але прывезьці яе нараніцы ў Менск.

Менавіта так і здарылася. (Як удалося за ноч набраць, зрабіць, звярстаць, аддрукаваць і прывезьці ў Менск газэту – друкарская тэхніка ж тады была вядома якая – гэта асобнае фантастычнае апавяданьне, але ўдалося!)

На раніцы я аднесла ў Мін'юст газэту, паказваючы відам: „Ну, бачыце, мы выконваем свае словы. Цяпер выконвайце свае і вы." У Мін'юста не засталося выйсьця.

Праз нейкі час мы атрымалі Пасьведчаньне аб рэгістрацыі Фронта.

* * *

Пасьля 2-га Зьезду БНФ (калі было уведзена сяброўства і сяброўскія білеты Фронту) паўстала канкрэтнае пытаньне рабленьня сяброўскіх білетаў, эскіз якіх быў выдатна зроблены нашымі мастакамі. Але ў тыя часы адлегласьць паміж прыняцьцем рашэньня і яго ўвасабленьнем была вельмі вялікая, бо ўлады перашкаджалі Фронту ўсюды і ва ўсім, ствараючы ўражаньне неперадольнасьці вырашэньня некаторых практычных фронтаўскіх пытаньняў. Так сталася і зь білетамі. Сябры Фронту займаліся гэтым пытаньнем, але яно знаходзілася ў чынавенскім тупіку і зь месца ня рухалася.

Аднойчы на Ўправе Зянон Пазьняк зьвярнуўся да мяне як да фронтаўскага дэпутата з просьбай заняцца пытаньнем пасьведчаньняў БНФ. Ён пазнаёміў мяне з мастакамі і з тымі, хто спрабаваў вырабіць білеты ў Дзяржаўнай друкарні, дзе праца і замарозілася, і я занялася гэтай справай.

Наведаўшы Дзяржаўную друкарню (на вул. Якуба Коласа), я пачула ад начальства пра перапоўнены „плян" іхняй друкарні і пра тое, што нашу замову пакуль што выканаць няма магчымасьці.

– Што ж, – адказала я, – а ці можна мне як дэпутату хаця б пазнаёміцца з вашай вытворчасьцю, проста для „агульнага разьвіцьця".

Пачуўшы, што я не настойваю на сваім пытаньні, начальнік (прозьвішча яго я ня памятаю) з задавальненьнем пагадзіўся паказаць мне іхныя цэхі, даручыўшы гэта нейкаму памочніку, той у сваю чаргу – наступнаму. Так я аказалася ў асяроддзі простых беларусаў, якія мне ўсё паказвалі і расказвалі з задавальненьнем, бо ўпершыню на сваім прадпрыемстве бачылі жанчыну-фронтаўку „жыўём" (і чаго ж яны толькі ня чулі пра „экстрэмістаў-фронтаўцаў" ад савецкай прапаганды, а тут глядзяць – звычайная жанчына – без „гранатаў" і „аўтамата").

Пакуль я там хадзіла і „знаёмілася", з боку рабочых я адчула добрыя адносіны да Фронта (а менавіта так мяне ўспрымалі, а не як нейкую там „экскурсантку"). Зь імі я і высьвятляла магчымасьці друкарні выканаць наш заказ. Аказалася, што ён для маштабаў друкарні такі малы, што яго можна выканаць за дзень без аніякіх „збояў" вытворчасьці. Трэба толькі „хаценьне" начальства. Гэта было ўсё, што мне патрэбна было даведацца.

І тут пачаліся „афіцыйныя перамовы" з начальствам. Нікога не „падстаўляючы", я паведаміла яму, што „экскурсія" дала мне мажлівасьць разабрацца ў вялікіх магчымасьцях прадпрыемства, якое спадар кіраўнік ўзначальвае. І прапанавала шляхі выкананьня нашай замовы (як падказалі мне рабочыя). Пару гадзінаў размовы, валоданьне Законам аб статусе народнага дэпутата (чаго на дух ня ведаў начальнік) – і справа была зроблена, заказ прыняты з выкананьнем у кароткі тэрмін. Камуністычнае вытворчае начальства хоць і было палахлівае, але ж ня скрозь варожае – ня ўсе выракаліся свайго.

## СЯДЗІБА

Але набыўшы юрыдычны статус, нашыя фронтаўскія праблемы ня скончыліся. У нас не было памяшканьня, не было сядзібы, і гэта вельмі абцяжарвала працу арганізацыі. Таму задача здабыць сядзібу для БНФ паўстала вельмі востра.

Займаліся гэтым некалькі чалавек. Беспасьпяхова (толькі змарнавалі час). Тады за справу ўзяўся зноў спадар Хадыка, патлумачыўшы гэта сваімі прыхільнымі сувязямі ў Гарвыканкаме. Час ішоў – сядзібы не было. Скончылася ўсё заявай спадара Хадыкі, што сядзібу здабыць у цяперашняй улады немагчыма. Ён нават пажартаваў: „Калі хто-небудзь гэта зробіць, я зьем свой капялюш".

Так трывала нейкі час. Патрэбна была новая ініцыятыва сяброў Фронту. Але, пасьля такой „рэкламы", жадаючых узяцца за „безнадзейную" справу не знаходзілася.

За працу трэба было брацца таму, хто меў магчымасьць уплываць на ўладу (гэта значыць – дэпутату).

Параіўшыся з Пазьняком, я рашыла ўзяцца за гэтую справу, спадзеючыся, што дапамогуць свае дэпутаты Гарсавета. І памылілася. Займацца гэтым пытаньнем ня выявіў жаданьне ніхто з дэпутатаў, якія лічылі сябе на той час франтаўцамі ці прыхільнікамі. Паспрабавала я зьвярнуцца і да Анатоля Гурыновіча. „Ты што, – адказаў Анатоль, – не разумееш, што гэта немагчыма?” Далей нашыя справы яго не абходзілі.

З чаго ж пачаць? Да каго зьвяртацца? Бадай – да старшыні Гарвыканкаму спадара А. Герасіменкі. Спадар Герасіменка чалавек мяккі, выхаваны, разумны. Павінен зразумець.

Размаўляла, пераконвала, патрабавала. Шмат разоў. Адразу ён быццам і не адмовіў. Але ўрэшце рэшт адказаў: „З радасьцю б, але ўсе прыдатныя для арганізацыі памяшканьні занятыя, вольных – няма.”

Справа ня рухалася. Ад бяссільля я нават паўжартам прыгразіла, што распачну галадоўку і памру ў ягоным кабінеце. У адказ Аляксандар Міхайлавіч разьвёў рукамі: ваша справа, маўляў. Паміраць, вядома, я не зьбіралася, але зразумела, што тут – глухая сьцяна.

Наступным, да каго я зьвярнулася, быў Першы намесьнік старшыні Гарвыканкама спадар Уладзімер Ярмошын. Тут размова пайшла інакш. Спадар Ярмошын, здавалася, выказаў нават спачуваньне, казаў, што разумее праблему і нават тое, што Беларускі Народны Фронт – гэта ня тая арганізацыя, якую можна адправіць куды-небудзь у Чыжоўку. Зразумела, патрэбен цэнтар горада. Але – у цэнтры ўсё занята.

– Але ж ёсьць шмат памяшканьняў з былой уласнасьці КПСС (КПБ), – кажу.

– Так, – пагаджаецца сп. Ярмошын, – добра, паспрабуем пашукаць. – І накіроўвае мяне ў Гарадзкое ўпраўленьне нежылых памяшканьняў (здаецца, так называлася), назваўшы прозьвішча чыноўніка. Маўляў, калі што і ёсьць, то гэта ў яго „гаспадарцы”. (Трэба сказаць, што ўсе дачыненьні ўлады, уся яе сістэма на той час мне была невядомая, я ніколі не сутыкалася з гэтай сфэрай дзейнасьці, таму шчыра паверыла ў тое, што пачула. Толькі потым, блукаючы па ўладных калідорах, я зразумела, што ўсе гарадзкія чыноўнікі падначаленыя Гарвыканкаму. Існаваў загад „вырашыць” ці „адмовіць”, і ён выконваўся заўсёды, калі загад існаваў. І не выконваўся – калі „загаду” не было.)

Тым ня менш я паверыла, што справа зрушылася. Цяпер я „маю” падтрымку высокага гарадзкога чыноўніка і прымушу ніжэйшага выканаць тое, што трэба, думала я.

Ня памятаю хто, але нейкі супрацоўнік Гарвыканкама (выключна „з павагі да мяне”, зразумела) па сакрэту (і „па-сяброўску”) паведаміў, што той, да каго я мушу ісьці – бярэ хабар. Знайсьці, маўляў, памяшканьне ён, канешне ж, зможа, але трэба яму даць хабар. Калі ж я пайду, маўляў, напралом, буду патрабаваць, – нічога ня выйдзе. Ды і, урэшце рэшт, што, Народны Фронт ня знойдзе нейкіх там пару сотняў?..

Але я сабе падумала: каб я хабар плаціла – ніколі!

Прыйшла ў кабінет. Пачаліся цяжкія перамовы.

– Разумею, што справа нялёгкая, – кажу. – Але ж трэба знайсьці выйсьце.

– Добра, – адказвае. – Будзем думаць.

– Колькі будзем думаць, – пытаю.

Дамовіліся, што прыду праз тыдзень. Праз тыдзень ён захварэў, потым – быў у камандзіроўцы, а потым, як толькі я прыходзіла, аказвалася, што ён толькі што выйшаў „на аб’ект”.

Што рабіць? Вырашыла так: буду хадзіць ва Ўпраўленьне за паўгадзіны да пачатку рабочага дня (на працу ж ён калі-небудзь зьявіцца). Так і спаймала. І тут ужо адгаворкі „зараз заняты” у яго не прайшлі: я скарыстала свой дэпутацкі статус і прымусіла заняцца маім пытаньнем.

Сталі разьбірацца ў так званай „нежылой” маёмасьці. Нарэшце, мне прапаноўваецца памяшканьне з былой маёмасьці КПБ насупраць менскага цырку. Месца цудоўнае. Я вельмі ўзрадвалася. На крылах паляцела паглядзець і пераканалася, што і месца, і плошча памяшканьня – тое, што нам трэба.

Пачалося афармленьне папераў. Патрэбна была згода Гарвыканкама, якую, урэшце рэшт, я здабыла. Але... Як мне патлумачылі, „нежылая” маёмасьць у Менску (у тым ліку і тая, якая засталася пасьля забароны КПСС-КПБ) знаходзіцца ў ведамстве горада прыкладна напалову, а напалову

– у Саўміна. Трэба згода Кебіча. Горад, маўляў, напіша запыт у Саўмін з просьбай выдаткаваць плошчы гораду, Саўмін пагодзіцца, і тады горад аддасьць памяшканьне нам.

Пачалося доўгае чаканьне, у выніку якога, нарэшце, прышоў адказ, што названыя плошчы выдаткаваныя гораду быць ня могуць, бо гэта ёсьць маёмасьць Саўміна.

Зразумела, што гарадзкі чыноўнік з самага пачатку ведаў гэта, але вырашыў так мяне павадзіць па крузе.

– Добра, – вырашыла я, – табе гэта так ня пройдзе. Цяпер ты ў мяне закруцішся, як ваўчок. І пачалося адкрытае змаганьне дэпутата з чыноўнікам.

Я вырашыла пракантраляваць яго асабістую працу, і неўзабаве высьветлілася, што неяк дзіўна працуе гэты чыноўнік. У свой рабочы час знаходзіцца невядома дзе і невядома чым займаецца. Я пачала зьвяртацца з дэпутацкімі запытамі, патрабаваць адказу. Нешта тут было нячыста, але паспрабуй, схапі яго за палец. З другога боку, і яму ўвесь час быць „пад кантролем" народнага дэпутата нязручна. На гэта, зразумела, у мяне ішло шмат асабістага часу, але нічога ня зробіш.

Чыноўнік ужо ня ведаў, як ад мяне адчапіцца. Нарэшце, ён паведаміў мне, што знайшоў варыянт – на *Варвашэні, 8*. Але праблема ў тым, што памяшканьне занятае арганізацыяй (зараз ня памятаю назву), якую трэба адтуль яшчэ высяліць, бо яна займае гарадзкія плошчы на *Варвашэні, 8* незаконна, пабудаваўшы сабе два ці тры паверхі ў высачэзным будынку на Юбілейнай плошчы ( у доме з „караблём" наверсе). Новыя плошчы, маўляў, здае, мае прыбытак, мае моцную падтрымку ў Саўміне, таму „горад" на іх уплыву ня мае. „Калі жадаеце і калі варыянт вам падыходзіць – спрабуйце, – прапанаваў мне чыноўнік, – толькі напачатку паглядзіце, ці яно вам падыйдзе," – параіў ён. Але гэта рабіць трэба было асьцярожна, бо жадаючых паглядзець памяшканьні ўжо было ня мала, і „гаспадары" вока трымалі пільна.

На *Варвашэні, 8* два ўваходы: з вуліцы і з двара. Напачатку я абсьледвала яго з вуліцы, але дзьверы тут былі наглуха забітыя і „ўваход" такім чынам адсутнічаў. Вокны былі нечым застаўленыя – ня надта і разгледзіш. Відаць толькі, што плошчы, быццам, нядрэнныя. Каб не прыцягваць увагі, спрабую зайсьці ў будынак з двара ў абедзены перапынак (калі народу няшмат). І тут жа натыкаюся на чалавека, які зьнешне нагадвае тыповага партыйнага работніка: „Вам чего?"

– Ды так, – кажу, – хачу як дэпутат паглядзець, што гэта за „ваенны аб'ект".

Той насьцярожваецца, а я ўпэўнена іду па пакоі. Усюды брудна, валяюцца паперы. Вока трапляе на дзіру ў падлозе, пакрытай амаль згніўшым леноліўмам. І як тут могуць працаваць людзі?

Заходжу ў вялікую залю. „Пільнае вока" – за мной. „Што вы тут аглядаеце?" – пытаецца ён тонам „гаспадара жыцьця".

Я таксама задаю пытаньні. „Партыйны работнік" не адказвае, а пачынае раптам крычаць і выганяць мяне. Я прад'яўляю дэпутацкае пасьведчаньне і ўжо сур'ёзна пытаюся, што гэта за арганізацыя, чаму не пераязджае ў новы будынак.

Тады ён злосна ашчэрыўся:

– Вам этого помещения никогда не видать, как своих ушей! Мы, камунисты, здесь были и будем, а с вами – разберемся. (Вочы яго глядзяць са злобай і нянавісьцю.)

– Хто з кім разьбярэцца, пабачым, – кажу яму, – а памяшканьне гэтае вы хутка вызваліце. І не дапаможа вам ваш Саўмін. Ня тыя часы.

Выйшаўшы з будынка, я сьціравалася ў Гарсавет. Галоўнае, я цяпер ведаю, што гэта памяшканьне нам падыходзіць і па плошчы *(160 м²)*, і па месцы знаходжаньня. Засталося – адваяваць яго, ня маючы ні аднаго прыхільніка ва ўладзе, а толькі адзінае невялічкае дэпутацкае пасьведчаньне.

Але права на маім баку, і праз нейкі час, зь вялікімі цяжкасьцямі, але памяшканьне было вызваленае.

Цяпер трэба было заключаць умову са ЖРЭА. З адпведнымі паперамі Гарвыканкама іду да кіраўніка. Той паведамляе, што частка памяшканьня (маленькі пакой, уваход у які са двара) яны забяруць і паставяць перагародку, бо той пакой патрэбен ЖРЭА. „Нам таксама патрэбен гэты пакой для працы Чарнобыльскага Камітэту", – адказваю.

Спрабую знайсьці дапамогу сярод дэпутатаў, у Гарвыканкаме, раюся з сябрам Сойму Верай Чуйко (на тыя часы маёй прыяцелькай). Вера раіць пагаджацца з тым, што мне прапануюць (бо, маўляў, ня будзем мець нічога). Я не пагаджаюся і раюся з Пазьняком, разам мы размаўляем зь юрыс-

тамі, шукаем выйсце. Я ніяк не хачу пагаджацца на зьмяншэньне плошчы, але ёсьць пэўная рызыка. Пазьняк падтрымлівае мяне: „Трэба змагацца!”. І я зноў сьціроўваюся да начальніка ЖРЭА: патрабую, знаходжу аргуманты, іду ў наступ, для большай вагі прыходжу ў кабінет зь юрыстам – і ён адступае. Неўзабаве – паперы падпісаныя на ўвесь будынак у 160 м$^2$.

Гэтае маё змаганьне яшчэ раз пераканала, што ніколі нельга здавацца, трэба выкарыстоўваць усе магчымасьці, каб дамагчыся перамогі, а калі барацьба справядлівая – дапаможа Бог.

Цяпер застаецца падпісаць умову з домакіраўніцтвам. Але, нарэшце, і гэта зроблена. Адзіная цяжкасьць: рамонт будзем рабіць самі, бо, як высьветлілася, у домакіраўніцтва грошай на рамонт няма.

Іду да Пазьняка ў Вярхоўны Савет. Ён ведае пра шматлікія перашкоды, таму гатовы і на няўдачу. А тут такая радасная нечаканасьць: ключ ад нашага памяшканьня! Едзем глядзець. Па дарозе хвалююся: пакоі пакінутыя непрыбранымі, там суцэльная разруха. Адчыняем, уключаем сьвятло. Неверагодная колькасьць прусакоў разьбягаюцца ў розныя бакі (за сьцяной быў прадуктовы магазін дый „камуністы” тут, відаць, абедалі не адыходзячы ад вытворчасьці, вось і разьвялі).

– Нічога, – кажа Пазьняк, – вытурылі камуністаў, вытравім і прусакоў. Усё гэта мы прыбяром, вычысьцім і адрамантуем. Галоўнае – ёсьць сядзіба.

Пасьля доўгіх пакутаў без свайго фронтаўскага „дому” нам хацелася як найхутчэй „засяліцца” на *Варвашэні,8*. Але Пазьняк катэгарычна паставіў задачу хораша адрамантаваць будынак, і не абы як, а на добрым узроўні: „Па нашай сядзібе людзі будуць успрымаць і нас, і яна павінна быць прыстойнай, чыстай і сьветлай”.

Як канцэптуальна будзе выглядаць нашая сядзіба (унутраны плян памяшканьня, інтэр’ер, сьвятло і спалучэньне колераў, праекты дзьвярэй, ваконных кратаў, карнізаў, шпалеры, плітка, праекты мэблі – усё да дробязяў) Зянон Пазьняк абмяркоўваў з нашымі лепшымі беларускімі мастакамі – Хведарам Ладуцькам, Міколам Купавам і іншымі. А работы там было – як кажуць, пачаць – і скончыць. І мы ўзяліся за рамонт.

Спачатку патрэбна было набыць будматэрыялы, кошты на якія ўзрасталі кожны дзень і вельмі значна. Гэта быў час інфляцыі а на справе – час дэфіцыту (і „блату”), час штодзённага росту цэнаў.

У крамах і на базах-складах раскуплівалася ўсё імгненна – і ўсё падрад. Такая сітуацыя выкарыстоўвалася дзялкамі ў гандлі „на ўласную кішэнь”. Купіць патрэбнае па прыймальных цэнах без званка высокага начальніка (без „блату”) ці без даваньня „на лапу” гандляру (ці хоць бы грузчыку) было немагчыма, бо ў крамах, як правіла, прадавалася самае горшае, бракованае, так званая „некандыцыя”, старога выпуску, непрыгожае – адным словам, кандовай савецкай вытворчасьці. Але над усім панаваў яго вялікасьць дэфіцыт і савецкая хранічная хвароба – „блат”.

А нам патрэбна было, як кажуць, усё і адразу. Да таго ж, мастакі патрабавалі пэўнай якасьці, колеру, малюнку, структуры, гатунку. Хадзіць па розных профільных крамах у пошуках неабходнага азначала папросту губляньне часу: нічога патрэбнага ў свабодным продажы не было.

Каб не губляць час, я зноў пайшла да старшыні Гарвыканкаму А.М. Герасіменкі. „Горад выдзяліў нам памяшканьне, якое патрабуе капітальнага рамонту. Патрэбна мяняць ня толькі падлогу, а нават лагі, ня кажучы пра іншае. У ЖРЭА „няма грошай” на рамонт, і мы павінны рамантаваць яго сваімі сіламі, за свой кошт. Мы – арганізацыя грамадзкая (не камэрцыйная). Якія ў нас грошы? Таму дапамажыце нам найхутчэй набыць будматэрыялы, бо цэны растуць кожны дзень”, – зьвярнулася я да спадара Герасіменкі.

Мне было лёгка патрабаваць, бо за часы дэпутацтва я ніколі не карысталася сваімі паўнамоцтвамі на ўласную карысьць. Чыноўнікі заўсёды ведалі, хто з дэпутатаў „чым дыхае”, і тых, якія дбалі не пра сваё уласнае, а пра грамадзкае, – паважалі і нават нярэдка дапамагалі, няледзячы на тое, што гэта былі асобы „з супрацьлеглага лягеру”. І гэтая павага адчувалася паўсюдна і на ўсіх узроўнях (ад старшыні Гарвыканкама да самага простага інспэктара якога-небудзь „упраўленьня”).

Тыя ж дэпутаты, якія пачалі скарыстоўваць свой мандат на ўласную карысьць, не карысталіся аніякай павагай. Да іх чыноўнікі ставіліся грэбліва (што зусім не азначала, быццам яны самы не карысталіся службовым становішчам на ўласную карысьць).

Трэба сказаць, спадар Герасіменка тут жа ў маёй прысутнасьці па тэлефоне аддаў загад чыноўніку з Гарвыканкама „дапамагчы дэпутату ў яе просьбах”. Згаданы чыноўнік аддаў загад на гарадзкую базу будматэрыялаў „выпісаць дэпутату тое, што яна запатрабуе”.

Мне вельмі хацелася зрабіць усё хутчэй. А трэба было найхутчэй набыць дошкі і лагі для падлогі, фарбы-лакі, цьвікі, шпалеры, карнізы, вагонку, плітку для санітарнага пакою і сантэхніку, люстэркі, шторы, дыдэрон, фіранкі, дывановыя дарожкі, клей, іншыя дробязі, розныя будаўнічыя інструмэнты і прывезьці ўсё ў сядзібу.

З боку кіраўніцтва Фронта да мяне быў вялікі давер, таму мы з Хведарам Ладуцькам езьдзілі па розных філіялах базы будматэрыялаў, дамаўляліся і набывалі ўсё неабходнае. Ён выбіраў патрэбнае, я як дэпутат „забясьпечвала” бесперашкоднае набыцьцё неабходнага, сачыла, каб не было ніякіх перашкодаў „на месцы” (дэпутацкі статус і ўсьведамленьне, што я стараюся не дзеля сябе асабіста надавалі мне неверагодную ўпэўненасьць і „адчынялі” дзьверы ўсюды). У нас усё атрымалася. Мы набылі дакладна ўсё тое, што плянавалі мастакі.

Цяпер трэба было ўсё набытае са складаў і базаў прывезьці ў сядзібу. Асаблівыя цяжкасьці былі з дастаўкай доўгіх дошак і лагаў з далёкай базы. Каб іх не пілаваць, патрэбна была доўгая машына (мэтраў шэсьць). Але раз такая машына была патрэбная, я яе знайшла. Гэтаксама я замаўляла краты для сядзібы і ўваходныя дзьверы, як зараз кажуць, антыўламанёвыя. Праект дзьвярэй і кратаў таксама рабіў спадар Хведар, і нам іх зрабілі дакладна такія, як было замоўлена.

Калі патрэбны былі людзі на пагрузку-разгрузку, кіраўніку Фронта дастаткова было толькі назваць, колькі патрабуецца чалавек. Усё рабілася без затрымкі, і неўзабаве будматэрыялы былі набытыя па самых лепшых для нас цэнах і прывезеныя ў сядзібу.

## ФРОНТАЎСКАЯ ТАЛАКА

Наступны этап – рамонт сядзібы. Гэта была вельмі вялікая праца, якая патрабавала ўдзелу ўсяго Фронту, але яе трэба было некаму каардынаваць. Ведаючы, што ўсе вельмі занятыя, я прапанавала Пазьняку, што сама давяду рамонт да канца. Ён пагадзіўся, але калі мы абмяркоўвалі некаторыя дэталі, Пазьняк між іншым адзначыў, што неабходна набыць яшчэ і шпон для карнізаў.

– А што такое шпон? – спытала я. Пазьняк неяк разгубіўся.

– Вы ня ведаеце, што такое шпон, і зьбіраецеся каардынаваць рамонтныя працы?

– Не хвалюйцеся, Зянон Станіслававіч, – рашуча адказала я, – ня ведаю, дык даведаюся. Галоўнае – жаданьне зрабіць усё найлепш і найхутчэй. А ня буду нечага ведаць, дык спытаю ў Вас, – усьміхнулася я, бязбожна камплімэнтуючы Старшыню. – І хто яшчэ мае час гэтым займацца?

Пазьняк адчуў іронію, але вымушаны быў пагадзіцца. Кіраваць рамонтам сядзібы быў запрошаны спадар Мікульскі, якому Фронт некалькі месяцаў плаціў заробак.

Рамантавалі, праўда, не адзін месяц. Талака па стварэньні сядзібы была ўспрынята зь вялікім энтузіязмам і шмат хто з франтаўцаў працаваў ахвярна і шчыра. Але працы было вельмі шмат. Яна патрабавала спэцыялістаў. Спэцыялісты ў Фронце былі, але кожны дзесьці працаваў, людзі былі вельмі занятыя ўвесь сьветавы дзень. Прыйшлося браць адгулы, невялікі адпачынак за свой кошт. Адначасна рабіўся і поўны рамонт санвузла з выкладаньнем керамічнай пліткі.

А яшчэ трэба было зчысьціць старую фарбу з ваконных рамаў і падваконьнікаў, якія былі ў страшэнна запушчаным стане, прывесьці ў парадак дзьверы (зьняць шматслойную старую фарбу і пакрыць шпонам), пафарбаваць-паклеіць – і шмат-шмат чаго яшчэ. Фактычна, мы атрымалі толькі сьцены, усё астатняе – вымушаныя былі рабіць самы.

Вырашылі, што раённыя Рады будуць прысылаць па некалькі чалавек кожны дзень. На справе адбывалася па-рознаму (людзі былі занятыя на працы), і толькі ў выхадныя дні работа кіпела.

Прайшло некалькі месяцаў. На Ўправу мы паранейшаму зьбіраліся ў розных месцах: нашае памяшканьне для працы прыгатаванае не было. На кожным паседжаньні Управы мне прыходзілася зьвяртацца да кіраўнікоў Радаў з адным і тым жа: каб на рамонт сядзібы людзі прыходзілі кожны дзень, каб рамонт ішоў бесперапынна. Я патра-



*31. Фронтаўская талака з музыкамі.*

бавала ад кожнага сябра Управы таксама адпрацаваць на агульную карысьць. Але ад некаторых дамагчыся працы было цяжка. (Як ня дзіўна, але гэта былі ў асноўным якраз тыя людзі з кіраўніцтва Фронту, якія потым, у 1999-м, адыдуць ад адзінага БНФ у „аб'яднаную апазыцыю".)

Асабіста мне вельмі шкода, што сядзібу Фронта потым, пасьля расколу руху, захапілі тыя, хто амаль не прыклаў ніякіх намаганьняў да яе набыцьця і аднаўленьня. У час расколу, у 1999-м, усе фронтаўцы былі занятыя тады клопатам пра захаваньне адраджэнскай арганізацыі і ня думалі пра сядзібу. Гэта было ўпушчэньне, бо ўсё робіцца ў сваім часе.

Старшыня Фронту вельмі клапаціўся, каб наша сядзіба была прыкладам высокага беларускага густу. Таму ўнутраны дызайн памяшканьня шмат разоў абмяркоўваўся, удакладняўся з мастакамі-адраджэнцамі: вышыня сцэны, унутраныя колеры (сьцены і падлога), форма і спалучэньне розных керамічнай пліткі, шпалеры, карнізы, фіранкі, праекты мэблі, дзьвярэй, кратаў. Хведар Ладуцька зноў езьдзіў са мной па базах і крамах і выбіраў усё сам, я ж толькі забясьпечвала магчымасьць „выбару".

Наступны клопат быў – мэбля. Яе трэба было спэцыяльна замаўляць. Паспрабавала дамовіцца на мэблевай фабрыцы – не атрымалася (маўляў, у іх шмат заказаў і нашу замову абяцалі выканаць няхутка). А нам жа трэба было найхутчэй.

Але калі ёсьць жаданьне нешта зрабіць для агульнай справы – вырастаюць крылы. І мэблю мы зрабілі, такую, як трэба (патрэбнага колеру і малюнку) і хутка. Дапамог прыватны кааператыў, у якім працаваў наш фронтавец Мікола Пратасаў.

Заставаліся карнізы. Па задуме мастакоў, яны павінны былі быць драўляныя, сьветлыя і цэльныя (гэта больш двух мэтраў). Замаўляла на фабрыцы ў Дзяржынску (гэта значыць Койданаве). Абяцалі зрабіць хутка, а потым пачалі зацягваць час. Прышлося і на іх націснуць.

Пакуль ішоў рамонт, заставалася яшчэ шмат клопату. Напрыклад, тэлефонныя нумары, якія ў савецкія і постсавецкія часы „здабыць" было надзвычай цяжка (тэлефонныя падстанцыі мелі скрозь вельмі старое абсталяваньне, якое ніяк не забясьпечвала патрэбы насельніцтва).

Папярэдняя арганізацыя мела тут два нумары. Нам паспрабавалі ўвогуле адмовіць у тэлефоне (нумары хацелі зьняць і перавесьці ў іншую арганізацыю). Прыйшлося таксама пазмагацца, бо чыноўнік-камуніст глядзеў на мяне (Фронт жа) зь нянавісьцю. Але дэпутацкі статус і „метал" у голасе пераламіў сітуацыю, і ён прапанаваў „апошні" варыянт: пакінуць іздзін нумар. Я не пагаджалася, але Вера Чуйко параіла згаджацца, бо, маўляў, ня будзе ніводнага нумару. Я ж саступіць нахабнаму камуністу ніяк не хацела. Параілася з Пазьняком, і ён пагадзіўся са мной, што трэба змагацца за два нумары. І пакуль чыноўнік ня здаўся і не пакінуў абодва нумары, я не адступілася.

Да пачатку І-га Зьезду беларусаў сьвету (1993 г.) сядзіба была адрамантаваная і абсталяваная – прыгожая, густоўная, сьветлая, вялікая і ўтульная. Разам зь беларусамі розных краінаў Эўропы і Амэрыкі мы адсьвяткавалі яе „адкрыцьцё".

Для найбольш актыўных сяброў на нашай „будоўлі" па прапанове З. Пазьняка была арганi-

заваная аўтобусная вандроўка па культурніцкіх мясьцінах Беларусі. Зянон Пазьняк, ня гледзячы на занятасьць, ніколі не забываўся адзначыць ахвярнасьць нашых людзей дзеля Фронта, стараўся, каб іхняя праца была ўсімі заўважаная. Фронт замовіў аўтобус, і мы зрабілі сьвяточную вандроўку для самых актыўных працаўнікоў ў нашым агульным фронтаўскім доме.

Пасьля і надалей я шмат займалася праблемамі функцыянаваньня сядзібы. У ёй жа пачалі стала працаваць сакратар Управы В. Івашкевіч і сакратарка канцылярыі Д. Мікульская (у штаце былі яшчэ прыбіральшчыца і бухгальтар).

Галоўнае патрабаваньне Пазьняка да працаўнікоў сядзібы было ў тым, каб тут было заўсёды чыста і ўтульна, каб нашыя паперы, дакуманты і г.д. нідзе не валяліся, каб усё было на сваіх месцах, каб людзям усьміхаліся. Атмасфэра ў сядзібе павінна была быць дабразычлівая, адказы на тэлефонныя званкі – ветлівымі і па справе, каб усім, хто прыходзіў у Фронт, быў відаць наш высокі культурны ўзровень. Павінны быць кветкі, гарбата і кава.

Здавалася б, рэчы элемэнтарныя. Але, на жаль, усялякія дробязі трэба было кантраляваць (каб працаўнікі не спазьняліся на працу, каб не грубілі надакучлівым наведвальнікам і г.д.). Ня раз я была сьведкам, як Пазьняк цярпліва вучыў сакратарку правільна размаўляць па тэлефоне (так і не навучыў, потым звольніў). Тады гэта мне здавалася крыху дзіўным і толькі потым, трапіўшы за мяжу, і, маючы магчымасьць параўнаць, я зразумела тую „максіму" Пазьняка, што ў Беларусі (як ён казаў) ніхто ня ўмее размаўляць па тэлефоне. Гэта праўда. Над гэтым раней неяк ня думалася, так прывучыліся да чужога хамства і бескультур'я.

Спачатку ў сядзібе было так, як хацелася, хораша і прыстойна. Але пазьней, калі я апынулася ў эміграцыі ў Варшаве (муж тады быў Нью-Ёрку) Галя Навумчык як карэспандэнт радыё „Свабода" разы са два была на Беларусі. Прыехаўшы ў Варшаву, яна мне расказала, што сядзіба стала ўяўляць сабой зусім іншае: бруд, у будынку кураць, гавораць па-расейску, яна нават бачыла ў сядзібе нецьвярозых і чула ненарматыўную лексіку. Гэта моцна рэзанула па сэрцы, перажыць такое пераўтварэньне мне было вельмі балюча. Муж па гэтаму поваду жартаваў, што кансэрватары імкнуцца падцягнуць нізы да нормы і схільныя да дыктатуры, а дэмакраты самы апускаюцца да нізоў, каб адлюстраваць іхныя інтарэсы, і схільныя да маразму. Жарцік жарцікам, але нешта ў гэтым ёсьць.

## ПЕРШАЯ ЗДРАДА

Яшчэ ў студэнцтве ў адным з часопісаў я натыкнулася на ангельскі ўспамін пра 2-ю Сусьветную вайну. Вось яго сутнасьць. У тыя ваенныя часы ў Вялікабрытаніі былі „цяжкія" часы, амаль што голад. (Хоць, зразумела, мяркуючы па нашай рэчаіснасьці, які ў іх там быў „голад"!)

„Сапраўднае" мяса не прадавалася, і „галадаючыя" ангельскія грамадзяне ўжывалі ў асноўным курынае (што ў сьвеце лічыцца самым танным мясным прадуктам). Жонка аднаго вельмі высокапастаўленага ангельца кожны дзень атрымоўвала прадукты (здаецца, па картках), выглядала змучанай і стомленай. Тады, пашкадаваўшы яе, з пачуцьця вялікай павагі да яе і яе мужа, гандляр падмяніў ёй кавалак курынага мяса на дэфіцытны кавалак ялавічыны. Жанчына ўбачыла гэтую падмену толькі дома, але абураная, прынесла яго назад, сказаўшы, што калі ўвесь народ „галадуе", гэты кавалак яны з мужам ніколі ня змогуць зьесьці. Асоба „вышэйшага" сьвету, прывыкшая да ўсяго „лепшага", была надзвычай годнай асобай і вышэй за ўсё ставіла свой гонар, які не падлягаў ніякаму „гандлю".

Гэты „просты" ўспамін тады вельмі моцна мяне ўразіў і ўспамінаецца заўсёды, калі прыходзіцца сутыкацца з тым, як утоптваецца чалавечы гонар у гразь. Асабліва цяжка бывае назіраць такую зьяву сярод блізкіх людзей адраджэнскага асяроддзя, бо аснову, стрыжань нашага народнага руху і нашага сяброўства з самага пачатку складалі прынцыпы высокай маралі. І Фронт пасьлядоўна ўвасабляў наш незалежніцкі ідэал у жыцьцё. Але адкуль тады „узялася" здрада ў тым сьветлым часе, дзе і калі яна „зарадзілася"?

Вострае чаканьне каардынальных зьменаў у канцы 80-х ахапіла усё нашае грамадзтва. І ў гэтай агульнай хвалі грамадзкага рушэньня апынуліся людзі з рознымі ўяўленьнямі пра будучыню Беларусі і з розным уласным маральным багажом.

У тыя посткамуністычныя часы ўсе мы разам змагаліся за незалежнасьць. Паступова падыход-

зіў новы час і новае жыццё, якое выставіла для некаторых іншыя „ідэалы”. Так інфляцыя 90-х дала магчымасьць чыноўнікам скарыстацца агульнай бядой і нажыцца за народны кошт, у той час, калі астатнія гублялі ўсё, што нажылі за жыццё.

У 1992 годзе, праз месяц-два пасьля майго вяртаньня з Італіі, дзе я суправаджала на аздараўленьне групу „чарнобыльскіх” дзяцей зь мястэчка Альманы, мне дадому патэлефанавала італьянка, якая там, у Італіі, разам зь іншымі апекавалася нашымі беларускімі дзецьмі. Яна паведаміла, што праз некалькі дзён прылятае з Рыму у Маскву і адразу цягніком едзе ў Менск на тыдзень-два (як атрымаецца).

Умовы майго жыльля мала адпавядалі для прыёму заходняй госьці (2-пакаёвая „хрушчоўка”), але найбольш мяне ўводзіла ў клопат тое, што ў мяне няма аўтамабіля, каб сустрэць і заапекавацца ёю на гэтыя дні.

На сэсіі Гарсавета я падзялілася сваёй „бядой” з калегам-дэпутатам, які быў кіраўніком аднаго буйнога прадпрыемства. Паколькі сітуацыя была зьвязаная з дабрачыннай дзейнасьцю, гэты дэпутат (нечакана для мяне) вырашае даць мне на два тыдні аўтамабіль з гаражу свайго прадпрыемства для сустрэчы замежнай госьці (на сваю адказнасьць і бясплатна). А паколькі я ня маю „правоў” на ваджэньне аўтамабіля, мы дамовіліся, што яго атрымае мой сябра Сяргей Міхноў, які ўсе гэтыя дні і будзе выступаць у ролі кіроўцы. „Даверанасьць” аформілі на маё імя і неяк пераафармілі на Сяргея.

Потым пляны ў госьці падкарэктаваліся, і яна вырашыла да адлёту з Масквы ў Італію паглядзець яшчэ і Маскву і выехала зь Менску раней. У гэты ж дзень мы з Сяргеем дамовіліся, што ён адразу вяртае аўтамабіль. Вечарам на паседжаньні Ўправы БНФ Сяргей запэўніў мяне, каб я не хвалявалася, што машына ўжо там, дзе была ўзятая. Назаўтра на сэсіі я падзячыла свайго калегу і паведаміла пра зварот машыны ў гараж яго прадпрыемства датэрмінова.

Прайшло каля тыдня. Раптам мне патэлефанавалі з ДАІ, што затрымалі службовы аўтамабіль і кіроўцу С. Міхнова, калі ён парушыў дарожныя правілы, а па дакумантах тэрміны эксплуатацыі зышлі ўжо некалькі дзён. Аказалася, што Сяргей прадаўжаў езьдзіць на машыне ў сваіх прыватных мэтах (рабіў нейкі свой бізнэс, ці што), а мяне проста падмануў. Уся інфармацыя пра затрыманую машыну, зразумела, адразу была паведамлена і майму калегу-дэпутату.

Цяжка перадаць, які жудасны сорам я перажыла ў тыя часы. Нават і зараз, калі я ўспамінаю пра гэта, мне становіцца сорамна, дрэнна і цяжка.

Мы з сябрамі імгненна забралі машыну і аддалі яе ў гараж. Назаўтра мне прышлося глядзець у вочы свайго калегі... Ён дараваў мне, але мой аўтарытэт „чалавека слова” ў ягоных вачах быў страчаны.

У любой сітуацыі і ў любым часе ўсё залежыць ад маральнага стрыжня кожнай канкрэтнай асобы. Для моцных людзей паняцьці патрыятызму, дружбы, сяброўскага пляча не падлягаюць пераглядy ні пры якіх умовах, для слабых і нікчэмных – гэтыя паняцьці існуюць да пары, пакуль яны не сутыкнуцца з уласнымі (асабістымі) інтарэсамі, і калі ў гэтым сутыкненьні „маё” перамагае – тут чакай бяды.

Цяжкімі мукамі сумленьня „расплацілася” я за свой давер. Але гэта былі мае, уласныя перажываньні. Зусім хутка я даведалася пра яшчэ большую здраду.

* * *

Ня гледзячы на тое, што з 1991-га года Беларусь была незалежнай дзяржавай, шмат якія дзяржаўныя ўстановы працавалі ў рэжыме Савецкага Саюзу. Вялікія чэргі прышлося адстойваць людзям, каб, напрыклад, аформіць замежны пашпарт, які даваў магчымасьць выехаць за мяжу. У Менску ўжо дзейнічаў Беларускі Незалежны прафсаюз, і калі пэўнай асобе трэба было вырашаць некія пытаньні прафсаюзнага руху за мяжой, аформіць замежны пашпарт можна было праз прафсаюз і значна хутчэй, чым праз органы ўнутраных справаў.

Койданаўскай Радай Маскоўскага раёну Менска кіраваў нязьменны на той час Сяргей Міхноў. Чалавек энэргічны, дзелавы, ён умеў арганізаваць людзей і напачатку добра і шмат працаваў у Фронце. Але з цягам часу зь ягонай сьведамасьцю адбыліся моцныя перамены.

На той час Фронт шчыльна супрацоўнічаў з Незалежным прафсаюзам, і Сяргей Міхноў (як прадстаўнік Фронта) быў там сваім чалавекам. Ён

ня быў сябрам Свабоднага прафсаюзу, тым больш – у яго кіраўніцтве. Але з боку Свабоднага прафсаюзу быў вялікі давер да Народнага Фронта, таму давяралі і Сяргею.

Нечакана высьветлілася, што Сяргей Міхноў (бяз ведама кіраўніцтва Свабоднага прафсаюза) узяў (а папросту скраў) пячатку арганізацыі і афармляў замежныя пашпарты грамадзянам ад імя Свабоднага прафсаюза за грошы, якія браў ва ўласную кішэнь. Па ягонай абвестцы да яго прыйшлі „аформіць пашпарт" і супрацоўнікі міліцыі, якія яго і „ўзялі". Справа ганебная і крымінальная, якая прадугледжвала меру пакараньня ў некалькі гадоў турмы. І гэта быў старшыня самай вялікай фронтаўскай Рады! Пад удар ставіўся аўтарытэт ўсёй арганізацыі Беларускага Народнага Фронту.

Цяпер я ведаю, што Міхноў найперш паляцеў да Пазьняка, усё расказаў, назваў сябе нягоднікам, які зганьбіў Фронт і што за гэта яму няма дараваньня. Пазьняк растлумачыў яму, што мы ня „пачка" і не камуністы, і абараняць „свайго" за крымінальнае злачынства ня будзем, параіў падаць заяву на выхад з Фронту, бо ўсяроўна выключым.

Мы тэрмінова склікалі Раду, дзе Сяргей Міхноў публічна прызнаўся, што скраў пячатку, падрабляў дакуманты і браў за гэта грошы. Некаторых сяброў Рады гэтае прызнаньне кранула і падалося за „мужны ўчынак" (хоць гэтае „прызнаньне" было фактам міліцэйскага пратаколу). Пачуліся галасы: трэба дараваць. Сітуацыя падважылася з перавагай у бок дараваньня. (Што зробіш – „мэнтальнасьць", тэма антыбеларускіх анекдотаў.) Сяргей, апусьціўшы галаву, маўчаў.

Ён быў маім сябрам, мне асабліва цяжка было пачуць яго „споведзь". Але я разумела, што ён паставіў пад удар ня толькі сябе (за асабістыя ўчынкі кожны адказвае сам), а ўвесь Фронт, чысьціню яго сьветлай адраджэнскай ідэі. Ці сумяшчальныя з гэтым былі шкурніцкія інтарэсы Сяргея – пытаньне рытарычнае. Але Рада (пад уплывам асабістага жалю да Сяргея) маўчала. Стала злавесна ціха, і ў гэтай цішы, перамагаючы супярэчлівыя асабістыя пачуцьці, з цяжкім сэрцам я прапанавала Сяргею выйсьці з Фронта па ўласнаму жаданьню і вярнуць фронтаўскі білет.

Вярнуць білет Сяргей катэгарычна адмовіўся. Напруга ўзрастала, а паўза зацягвалася. Трэба было прымаць рашэньне. У гэтай жудаснай цішыні марудзіць было нельга. Тады я ўстала і дрыжачым голасам, але цьвёрда прапанавала выключыць Сяргея з Фронту.

Рашэньне было прынята. Але паколькі справа Сяргея Міхнова была крымінальнай, яна кідала вялікі цень на Фронт, і гэты прыватны выпадак пракамуністычныя ўлады выкарысталі б, каб абліць гразёй увесь рух. Таму мы пастанавілі даць абвестку ў „Вячэрнім Менску" аб выключэньні С. Міхнова з Фронту. Вырашыць пытаньне з абвесткай рашуча вызваўся намесьнік старшыні Рады Сяргей Альфер.

Ішлі дні, а аб'ява надрукаваная не была. Сяргей Альфер спасылаўся на цяжкасьці, але я бачыла, што ён проста хітрыць. І тады мне ізноў прыйшлося браць на сябе пытаньне з аб'явай, і неўзабаве газэта „Добры вечар" надрукавала абвестку пра рашэньне Койданаўскай Рады БНФ аб выключэньні Сяргея Міхнова з арганізацыі.

Потым С. Міхнову дзіўным чынам нейк удалося пазьбегнуць пакараньня. Ніхто з фронтаўцаў гэтым выпадкам (пазьбяганьня пакараньня) не пацікавіўся. Нейкі час пра яго не было чуваць. Але пройдзе некалькі гадоў, і ён спрычыніцца да развалу Фронта ў 1999 годзе, а потым зноў стане актыўным удзельнікам той часткі падзеленага Фронту, якая пойдзе на супрацоўніцтва з Масквой, на падтрымку кандыдата ў прэзыдэнты У. Ганчарыка (зь ліку былой камуністычнай намэнклятуры, зь якой Фронт змагаўся ў пачатку 90-х).

Так мы перажылі першую здраду і страту ў Койданаўскай Радзе Народнага Фронту. Гэта быў вельмі цяжкі удар. Аказалася, што ў нашых шэрагах, сярод усіх нашых ахвяраў на карысьць будучыні незалежнай Беларусі, узьнікла такая нізкая зьява – хцівасьць, зладзейства, мана.

Калі сказана „першая здрада", так хочацца верыць, што апошняя. Зьнешне выглядала менавіта так. Ды і каму б прышло ў галаву думаць пра нечую здраду. Але яна насьпявала. Відаць мяняўся час – і зьмяняліся паводзіны людзей.

А пакуль самая моцная менская Койданаўская рада засталася без кіраўніка. І толькі тут я адчула, што былога маналіту ў нашых шэрагах ужо няма: у Радзе „раптам" зьявілася шмат раскольнікаў, тых, хто пра ідэю Адраджэньня і Незалежнасьці пачаў мець нейкую „сваю думку".




***32. Выступ на канфэрэнцыі БНФ; чэрвень 1996 г.***

На пасаду старшыні неяк рэзка стаў прэтэндаваць Сяргей Альфер. Да гэтага часу ўжо сталі відавочнымі яго стараньні, накіраваныя на раскол Рады. Ён паводзіў сябе так, што мы з сябрамі сталі задумвацца, ці не працуе С. Альфер на спэцслужбы па разбурэньні Койданаўскай рады. Як намесьнік старшыні Рады, ён прысутнічаў на Соймах, а пасьля рабіў паведамленьні на паседжаньнях Рады і заўсёды „забываўся” паведаміць пра галоўнае, часам перакручваў факты, гаварыў няпраўду, інтэрпрэтаваў Соймы так, каб настроіць Раду супраць кіраўніцтва Фронта, і асабліва супраць Пазьняка. Я была сябрам Сойму, ведала парадак дня кожнага паседжаньня, таму не давала магчымасьці Альферу „разгарнуцца”, зьвяртала ўвагу сяброў на ўсе скажэньні ў паведамленьнях Альфера.

Што ён „чужы”, было зразумела, але праца Альфера па развале Койданаўскай Рады была прадуманай, і яго ня так проста было „схапіць за грыву”. Некаторыя сябры рады былі ў разгубленасьці і лёгка „блыталіся”, які бок „мае рацыю”.

Мы з сябрамі разумелі: калі Альфер стане кіраўніком самай вялікай фронтаўскай арганізацыі Менска, ён яе хутка разваліць. Патрэбна была асоба, якая б ня блыталася ў сітуацыі і была б на цьвёрдых адраджэнцкіх пазыцыях. Мы з сябрамі пагадзіліся, што такой асобай зьяўляецца Сяргей Антончык, шмат гаварылі зь ім, пераконвалі, і ён пагадзіўся ўзначаліць Раду. Але на перавыбарчы сход ён спазьніўся. Зрабілі перапынак. Сяргей зьявіўся і, адклікаўшы ў бок некалькі чалавек, стаў аб нечым размаўляць. Перагаварыўшы з сябрамі, ён зьняў сваю кандыдатуру і нечакана для мяне прапанаваў маю.

Я была ашаломленая і не магла паверыць, што гэта сур’ёзна, бо на той час зьяўлялася і сябрам Сойму, і старшынёй Камітэту *„Дзеці Чарнобыля БНФ”,* і дэпутатам. Кіраваць яшчэ і Радай было мне не па сілах, бо ўсім займацца проста не хапала часу. Але тады заставаўся толькі Сяргей Альфер. Другіх прапаноў не было. Ну і што тут рабіць?

Са сьлязьмі ў душы я пагадзілася. Год ці паўтара ішло цяжкае змаганьне ў Койданаўскай Радзе. Альфер не драмаў. Ён здолеў утварыць апазыцыйную групу кіраўніцтву Фронта, якая вельмі перашкаджала нам працаваць. Кожнае рашэньне Сойму аспрэчвалася, Альфер спрабаваў не згаджацца, падбухторваў даверлівых людзей і плёў інтрыгу прафэсійна. Я ведала цану расколу Рады і трымала ўдар.

У Радзе ў мяне была моцная падтрымка, але гэтыя мае добрыя сябры патрабавалі згуртаваньня вакол старшыні, і я ні па якой (хоць самай уважлівай прычыне) не магла прапускаць ніводнай серады і быць „на Радзе", каб утрымліваць сытуацыю. Гэта быў самы цяжкі мой час, бо вакол Альфера згрупавалася (як мы лічылі) агентура спэцслужбаў, якая актыўна працавала на зьнішчэньне нашай арганізацыі.

Апазыцыйная сытуацыя (утварэньне апазыцыйнай групы) ў адраджэнцкай Койданаўскай Радзе сталася магчымай, бо Фронт уяўляў сабой адкрытаую грамадзкаую арганізацыю, адкрыты грамадзкі рух (ён істотна адрозьніваўся ад партыі). Мы запрашалі на паседжаньні Рады ўсіх: і сяброў Фронту, і прыхільнікаў. Мы нікому не забаранялі прысутнічаць на Радзе, адкрыта абмяркоўвалі палітычную сытуацыю і радваліся, калі да нас прыходзілі новыя людзі. Гэта і дало магчымасьць ворагам Фронту адкрыта „дзейнічаць" унутры арганізацыі пад эгідай „прыхільнікаў".

Але з гэтай цяжкай барацьбы я вынесла цьвёрдае перакананьне: ніколі ворагі не дамогуцца свайго, калі стаяць моцна, быць вернымі сябрамі, любіць Беларусь, ведаць „сваіх" (тых, хто любіць Бога і Беларусь) і ніколі не спакушацца на падман „чужых".

Нашыя ворагі нічога не дамагліся (хоць і вельмі стараліся), праўда, не малой цаной для мяне асабіста. У гэтай барацьбе я была проста зьнясіленая. Але ахвяра была вартая таго, і сёньня я не шкадую тых страчаных сілаў, якія пайшлі на карысьць Бацькаўшчыны. А тады некалькі разоў я ледзь ня плакала перад старшынёй Фронта, што ня маю сілы і навыкаў на такую вырабленую барацьбу з „гэбэ" (я была ўпэўненая, што гэта менавіта „гэбэ"). Старшыня разумеў мае цяжкасьці, ён размаўляў з Валянцінам Голубевым (які жыў на Паўднёвым Захадзе, дзе мы зьбіраліся) і прасіў



***33. Пятая гадавіна БНФ. 1993 г. Зьлева направа: А. Радкевіч, С. Альфер, Г. Пазьняк, А. Бяляцкі.***

падтрымаць мяне, але Валянцін раз ці два паявіўся, як месячык з-за хмар, і зьнік, так і не знайшоў часу для Койданаўскай Рады. Ён быў каардынатарам Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, і гэта вымагала ў яго поўнай аддачы.

Выйсьця не было, я заставалася старшынёй Рады, і кожную сераду (калі мы зьбіраліся) праводзіла вельмі напружаныя паседжаньні Койданаўскай Рады, адбіваючы ўдары варожай групоўкі і не даючы ёй завалодаць сытуацыяй. Гэта мне ўдавалася, але антаганісты ад злосьці і нянавісьці скрыпелі зубамі, часам яны ўжо не кантралявалі лексіку: „Какая-то баба будзет тут командовать!" – казаў за маёй сьпіной дэпутат Гарсавета М. Пугачоў. Ён ня быў сябрам Фронта, але раптам стаў рэгулярна наведваць нашыя паседжаньні і спрабаваць разам з Альферам іх сарваць. Аднак ён быў заслабы і інтэлектуальна, і маральна, каб перамагчы крэпкую дружбу верных адраджэнцаў, якія былі са мной і разам трымалі пазыцыю. Толькі праз год-паўтара знайшлі кандыдата на старшыню Койданаўскай Рады, і мне палягчэла.

* * *

Людзям заўсёды хочацца ідэальнага. Часам мне казалі, што дык вось жа, маўляў, у вас у Фронце ёсьць такі чалавек „ікс". А ён жа проста вельмі дрэнны чалавек, такі-сякі. Дык калі ў вас у Фронце гэты „ікс", дык я да вас ніколі не пайду.

Чуць гэта было вельмі крыўдна. Мы змагаліся, не шкадуючы сілаў, асабістага часу, здароўя, адпачынкаў, уласных грошай і г.д. І ўсё – для Беларусі. І наша дзейнасьць (як і ўсялякай грамадзкай арганізацыі) павінна ацэньвацца па яе мэтах, задачах, дзеяньнях і выніках. А некаторыя простыя беларусы не разумелі, што імпэрскія спэцслужбы ўсяляк стараліся нашкодзіць Фронту, скампраметаваць яго, заслаць сваіх разбуральнікаў, падкупіць слабейшых. Аднак вырашалі лёс нашай арганізацыі ня здраднікі, а фронтаўцы-адраджэнцы. На рахунку Фронта (Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце) самыя галоўныя дасягненьні – аднаўленьне незалежнасьці Беларусі, праўда пра Чарнобыль, праўда пра генацыд (Курапаты), вяртаньне беларусаў-вайскоўцаў з расейскіх войнаў і канфліктаў („гарачых кропак"), Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і гэрб Пагоня, угрунтаваньне дэмакратычнага заканадаўства, адраджэньне беларускай гісторыі, мовы, школы, культуры, беларускіх традыцыяў.

Так, здраднікі і адступнікі, на жаль, не пераводзяцца. Але трэба змагацца, бо з кім жа тады застанецца нашая Беларусь, наш Купала, наш Скарына і наш Васіль Быкаў? Я цьвёрда ведаю, што ад кожнага з нас залежыць, каб здраднікаў, рэнегатаў, адступнікаў і абыякавых было меней.

## ДЗІЎНЫЯ ПАВОДЗІНЫ

Рэфэрэндум 1992 года і новыя выбары былі жыцьцёва неабходныя. Стары Вярхоўны Савет, выбраны па савецкім законе, быў ня толькі не дзеяздольным у новых умовах, але й тармазіў усялякае разьвіцьцё Беларусі наперад. Адным з тормазаў быў Закон аб выбарах, згодна якога Вярхоўны Савет даабіраўся амаль пяць годоў. Прызначаліся выбары, але юрыдычна „адбыцца" яны маглі толькі пры ўмове ўдзелу ў іх 50 адсоткаў выбаршчыкаў. Людзі стаміліся бясконца зноў і зноў праз некалькі месяцаў выбіраць дэпутатаў і на давыбары не хадзілі. Выбары, як правіла, „не адбываліся".

Пасьля трэцяга разу (трэціх нерэалізаваных давыбараў) нам ўсё стала зразумелым. Удзельнічаць у давыбарах ужо ня мела сэнсу. Можна было не марнаваць час. Пазьней нават Вярхоўны Савет спыніць бяссэнсоўныя бясконцыя выбары, бо выхаду з заканадаўчага тупіка ня было. У Фронце толькі адзін спадар Юры Хадыка не пагадзіўся з тупіком. Ён усё кандыдаваў у дэпутаты, разоў дзевяць, ці болей, у Вярхоўны, потым – у мясцовыя саветы. Спачатку мы вельмі змагаліся за кожнага фронтаўца, тым больш за намесьніка старшыні Фронта. Як толькі былі аб'яўлены першыя „давыбары", Сяргей Міхноў сабраў койданаўцаў і паставіў задачу дапамагчы Ю. Хадыку. Тады ніхто з нас не пытаўся, хочаш ці не. Мы цьвёрда верылі ў слова „трэба", таму кожны дзень прыязджалі са свайго Маскоўскага раёну ў Акадэмічную акругу (што вельмі далёка, асабліва з раёну Паўднёвага Захаду) і групамі па два-тры чалавекі хадзілі па кватэрах агітаваць. У выніку Акадэмічную акругу я ведала, бадай, лепш, чым сваю, у якой абіралася сама.

Болей, чым мы зрабілі тады, зрабіць было немагчыма – кожны дзень цяжкой працы. І назіраньне за выбарамі мы наладзілі пільнае. Але спадар

Хадыка ўсё ніяк не выбіраўся – раз, другі, трэці, восьмы, дзявяты... Пачуўшы прозьвішча „Хадыка”, агітатараў ўжо часта не пускалі ў дзьверы, ці сустракалі іранічна, ці моўчкі слухалі, а Юры Віктаравіч упарта зноў і зноў працягваў бяссэнсавы выбарчы марафон. Гэта была нейкая паталогія, і потым я ужо ў гэтай кампаніі ня ўдзельнічала.

На выбарах, здаецца, у 1995 годзе сп. Хадыка абіраўся ў Вярхоўны Савет па акрузе майго Маскоўскага раёну. Па ёй камуністы выставілі свайго прадстаўніка, і трэба было (як звычайна на тыя часы) калі не перамагчы, то хоць не прапусьціць у Вярхоўны Савет камуніста. У выніку галасаваньня (і падліку) той камуніст набраў большасьць галасоў. Разыходжаньне было невялікае, прытым былі парушэньні. Паўстала пытаньне аб пераліку галасоў, але спадар Хадыка сам зьвярнуўся да выбарчай камісіі з прапановай залічыць дэпутатам камуніста. Усе ў Фронце ацанілі гэта чамусьці як нейкі кур’ёз, і ніхто не засяроджваўся на такіх паводзінах, але мяне гэта абурала.

Як толькі Лукашэнку абралі прэзыдэнтам, у першы ж месяц ягонай улады Сойм БНФ абмяркоўваў шляхі далейшай сваёй дзейнасьці. І тут спадар Хадыка прапаноўвае Фронту супрацоўнічаць з Лукашэнкам, даючы пры гэтым шматслоўнае абгрунтаваньне сваёй прапановы „на карысьць Бацькаўшчыне”. Ужо пачаліся нават спрэчкі, але Пазьняк іх спыніў, прапанаваўшы не сьпяшацца і пачакаць, як прынята ў сьвеце, 100 дзён, паглядзець на першыя крокі Лукашэнкі, якія, дарэчы, потым выразна паказалі ўсім (каму яшчэ было не зразумела), што такое Лукашэнка і ягоная крамлёўская манія. Пра абсурдную прапанову Ю. Хадыкі потым неяк забылася. Але пройдзе час, і ўжо ў 2005 г. Ю. Хадыка зноў вернецца да ідэі супрацоўніцтва з Лукашэнкам: маўляў, мы ня будзем перашкаджаць яму „стаць прэзыдэнтам” (гэта значыць незаконна і ў трэці раз) за абяцаньне дэмакратычных рэформаў.

І гэта пасьля ўсяго перажытага! Якія патрэбны яшчэ доказы, каб зразумець, што абазначаюць такія заявы?! Цяпер, праўда зьявілася шмат „змагароў”, што наперабой жадаюць супрацоўнічаць з Лукашэнкам. Але гэтыя людзі ніколі ня былі ў Фронце і ва ўсе часы былі супроць БНФ.

Аднак самае шокавае ўражаньне на мяне зрабіла заява спадара Хадыкі пра канец Беларускай Нацыянальнай Ідэі, выказаная ім у 1999 годзе ў інтэрв’ю рускамоўнаму часопісу „Избиратель”. Мы нават перадрукавалі гэтае кашчунства ў „Беларускіх Ведамасьцях”. Працытую: „Нацыянальна-вызвольная ідэя, якая была стрыжнем у дзейнасьці БНФ з канца 80-х гадоў, у значнай ступені вычарпала сябе...

Аптымальна было б не падзяліць Фронт, а аб’яднаць яго з Аб’яднанай грамадзянскай партыяй і іншымі партыямі гэтага накірунку.” *(Бюлетэнь „Избиратель”, № 9, чэрвень, 1999 г. ; „Беларускія Ведамасьці”,– 2001, № 2(32), стар. 13.)*

Гэта пісалася якраз перад расколам Фронту. Аказваецца ўжо існаваў нават плян ліквідацыі БНФ. Для мяне абсалютна відавочна: такія рэчы можна гаварыць толькі пры поўнай адсутнасьці трывогі за Бацькаўшчыну. Пытаньне ня ў тым, разумее чалавек, што адбываецца на Беларусі, ці не разумее, хай сабе нічога не разумее, але трывожачыся, любячы, так не гавораць.

Шчыра кажучы, мяне зьдзіўляла абыякавасьць Пазьняка да выхадак Хадыкі. Адносіны ў іх былі зьнешне дружалюбныя. Хіба ён ня бачыць – думала я тады. Пазьней, ўжо за мяжой, ён мне патлумачыў, што ніякага рэальнага ўплыву на палітыку Фронта і ўвогуле на палітыку Хадыка ня меў і ня мог мець, бо палітыка не яго планіда, ён проста не туды ўскочыў і своечасова не вышаў з-за эгацэнтрычнага характару. Таму надаваць шмат увагі і спрачацца зь яго схаластычнымі разважаньнямі – гэта значыць самаму займацца схаластыкай і марнаваць час. (Тым больш, што ў дыскусіях ён ніколі не мяняе сваіх меркаваньняў.)

– Як гэта не ўплываў на палітаку Фронту? – кажу, – але ж Фронт развалілі.

– Развалілі б і без Хадыкі. Калі на раскол *структурна адкрытай* арганізацыі з двух бакоў выдаюць вялікія грошы, то ў нашых умовах яе рана ці позна расколюць, – кажа Пазьняк.—Але калі б магчыма было застацца на Беларусі, то раскол можна б было прадухіліць.

„Формай яднаньня ўсіх беларускіх змагарных сілаў супраць рэжыму і імпэрыялізму, – казаў далей Пазьняк, – павінен быў стаць Беларускі Вызвольны Рух, дзе Фронт быў бы галоўнай аб’яднаўчай сілай. У 1997 годзе, летам, ужо калі я быў за мяжой, гэта ўдалося аформіць на 5-м Зьезьдзе БНФ. Вось тут і пачалася масіраваная ата-

ка з двух бакоў – зьяўляецца Ганс Вік, Хартыя-97, потым „перамоўны працэс”, выцягнулі Чыгіра, Ганчара, кідаюцца вялікія чужыя грошы на развал і зьнішчэньне нацыянальнай апазыцыі (БНФ) і г. д. Дарэчы, я наперад пісаў пра ўсе гэтыя задумы і контрпляны супраць нас, але пераламаць усё з-за мяжы, было цяжка. Хаця шмат што ўсё ж ўдалося прадухіліць і шмат што захаваць.”

## АФІЦЫЙНЫ ВІЗЫТ ПРЭЗЫДЭНТА ЗША БІЛА КЛІНТАНА Ў МЕНСК



(Фота А. Кушнера)

***34. Візіт прэзыдэнта ЗША Уільяма Клінтана ў Курапаты 15.01.1994.***

У студзені 1994 года сталіцу незалежнай Рэспублікі Беларусь наведаў Прэзыдэнт Злучаных Штатаў Амэрыкі Біл (Уільям) Клінтан. Гэта была падзея ў гісторыі Беларусі, бо візіт засьведчыў і падкрэсьліў падтрымку вялікай дзяржавы ЗША для нашай незалежнасьці. З боку праімпэрскіх сілаў на Беларусі было прыкладзена шмат намаганьняў, каб гэты візіт не адбыўся. Кебічаўскі прамаскоўскі ўрад асабліва намагаўся, каб Біл Клінтан не наведаў Курапаты (што было афіцыйна заплянавана). Прыдумалі нават вэрсію, што Курапаты замініраваныя, і спэцслужбы Амэрыкі вымушаны былі пільна абсьледваць ўвесь маршрут ў Курапатах.

Амэрыканскі Прэзыдэнт Курапаты наведаў, і перашкодзіць гэтаму ўладам не ўдалося. Там, у Курапатах, сустрэліся Біл Клінтан і Зянон Пазьняк, і амэрыканскі Прэзыдэнт распытваў пра Курапаты.



***35. Спатканьне прэзыдэнта ЗША У. Клінтана і Зянона Пазьняка ў Курапатах. Знаёмства зь месцам.***

Памятаю, як прыгожа і ўрачыста пад *Бел-Чырвона-Белым сьцягам* прайшлі беларускія ваенныя ў афіцыйным маршы перад высокім госьцем. Але афіцыйныя СМІ асьвячалі гэтую падзею надзвычай сьціпла і аднабакова: кароткі сюжэт у „Навінах", і ні слова пра Курапаты (праўда, увесь сьвет трансляваў гэты візіт).

Тым ня менш аматарская здымка зафіксавала гэтую падзею: як сьпявалі ў нашым сьвятым месцы беларускія школьнікі *„Магутны Божа"*, як Біл Клінтан моўчкі падыйшоў да Крыжа пакутаў і прачытаў малітву, як падараваў мэмарыяльную „лавачку" – сымвал памяці і падтрымкі амэрыканскага народа, як аглядаў Прэзыдэнт вялікай дзяржавы месца пакутаў і этнацыду беларусаў, як уважліва і са скрухай слухаў Зянона Пазьняка.

## IV ЗЬЕЗД БНФ

1995 год. Летнім сонечным днём з такім жа сонечным настроем я ішла ў Дом літаратара на Зьезд. Раптам насустрач мне кідаецца (цяпер нябожчыца) Натальля Рослава, старшыня Чарнобыльскай арганізацыі Магілёва:

– Галя, што ў вас тут у Менску адбываецца, я нічога не разумею. Сустрэла Веру Чуйко, яна нейкая ўзбуджаная, усхваляваная. Кажа мне: „Дрэнныя справы, Пазьняк выйшаў з-пад кантролю!"

– Што? Пазьняк? З-пад якога „кантролю"? Чыйго? Чуйко? Што за абсурд? – пытаюся.

– Я таксама нічога не разумею, але ўсё гэта вельмі дрэнна, – адказвае Натальля і бяжыць некуды далей.

Аказваецца на Зьезьдзе спадар Хадыка і яго „група" вырашылі „зьняць" Пазьняка з пасады старшыні Фронта. Было сказанае нэрвовае і несправядлівае слова ў адрас старшыні Фронта, гэтаксама нэрвова выступілі Вера Чуйко, чамусьці Сяргей Антончык, нешта незразумелае мямліў Вінцук Вячорка. „Што за авантура"? — думаю. Рыхтаваўся Валянцін Голубеў. Ён сядзеў у прэзыдыюме і сачыў за рэакцыяй залі. Адчуўшы, што заля не ўспрымае авантуру, ён у апошні момант выступаць адмовіўся. Пазьняк назіраў і ні на што не рэагаваў. Паставілі на галасаваньне кандыдатуру старшыні Фронту. Падлік галасоў паказаў, што абсалютная бальшыня падтрымала Зянона Пазьняка. За сп. Ю. Хадыку прагаласавала вельмі невялікая групка.

Пасьля абраньня З. Пазьняка старшынёй Фронта ён прапанаваў кандыдатуры сваіх намесьнікаў, сярод якіх назваў і Ю. Хадыку. Зянон Пазьняк сказаў, што трэба думаць пра Беларусь, а не пра асабістыя непаразуменьні, што ён спадзяецца на супольную працу дзеля будучыні Беларусі. Заля была ўзрушана такім рашэньнем старшыні. Некаторыя чакалі, што Хадыка адмовіцца. Але ён сядзеў і ціхенька маўчаў. Маральная перамога Пазьняка была абсалютная.

## НА ЖАЛЬ

У Фронце працы заўсёды было шмат. Паседжаньні Ўправы і Ценевага кабінету зацягваліся да паўночы. Адчувалася агульнае перажываньне за лёс Беларусі. І толькі адзіны з намесьнікаў старшыні Фронта спадар Хадыка пазьней дзесяці гадзінаў вечара ніколі не затрымліваўся. Якое б цяжкое пытаньне ні абмяркоўвалася, у пэўны час ён пунктуальна ўставаў і сыходзіў дадому. Рэжым ёсьць рэжым.

Пасьля паседжаньня каго маглі, мы развозілі па дамах на нашым „фольку". Стаянка была побач з маім домам, таму апошнімі вярталіся мы з Юзікам Такушэвічам.

Аднаго разу праязджаем сядзібу БНФ і бачым, што ў вокнах, якія выходзяць на вуліцу Варвашэні, адбіваецца сьвятло з калідора сядзібы. Мы ўстрывожыліся: хто там можа быць у такі час? Мы ж усе разам зачынялі дзьверы пасьля паседжаньня? Падыходзім да дзьвярэй – дзьверы з вуліцы Варвашэні зачыненыя. Ідзем у двор (дзе другі ўваход) і ня верым сваім вачам: у сядзібе, якую мы гадзіны паўтары таму зачынілі і ўсе разам пайшлі дадому – звычайная п'янка. Якія ідэі, якая Бацькаўшчына! На стале ў пакоі Чарнобыльскага камітэту віно, гарэлка, недаедзеныя агрызкі ежы. Памятаю перапалоханыя твары працаўнікоў сядзібы, нецьвярозыя апраўданьні, зьбянтэжанасьць. Але найбольш мяне зьдзівіў адзін з тых, каго я тут убачыла. Ён заўсёды ўдаваў сябе за чалавека, так бы мовіць, стэрыльна „чыстага", выхаванага і нейкага не такога, як астатнія „звычайныя" сябры Фронту. Пры нагодзе ў размове ён падкрэсьліваў, што „не аматар"

ні віна, ні гарэлкі (і гэта праўда). А тут сядзеў за сталом сярод бутэлек, недаедзеных кавалкаў ежы (якія не перашкаджалі яго „стэрыльнасьці ”) і зь некім ажыўлена размаўляў. І гэта – ноччу, тайком, у нашай дарагой сядзібе, якую мы так любоўна будавалі, якая „дыхала” барацьбой за Беларусь, за яе будучыню, якая аб’ядноўвала нас пад сваім дахам высокімі думкамі і змаганьнем...

Для мяне гэта быў проста шок, я страціла дар мовы. (У нашай сядзібе сьвяточныя імпрэзы мы праводзілі. І кожны раз гэта было сапраўднае сьвята, да якога мы ўсе разам рыхтаваліся заранёў. Заўсёды было шмат народу, колькі магло зьмясьціцца ў памяшканьні (гэта ж наш агульны дом!), было ўрачыста, утульна, цікава і вельмі прыемна. Было дзівоснае адчуваньне агульнай еднасьці. Гаварыліся цікавыя прамовы, мы жартавалі, марылі, сьпявалі. Памятаю, як мы разам адзначалі юбілеі Рыгора Барадуліна, Васіля Быкава і іншыя сьвяты. Разыходзіліся заўсёды з узьнятым настроем, з адчуваньнем дзівоснай чысьціні і радасьці, што мы ўсе разам, што ў нашых шэрагах – лепшыя, вялікія людзі нашай Бацькаўшчыны. Нейкіх патаемных п’янак пэўнай групы раней проста быць не магло. І вось жа, вось жа яно!)

Старшыні Фронту пра гэтае здарэньне я нічога не сказала. Было непрыена і брыдка. Але пра тое, што гэта была зборка „палацавага перавароту” – у галаву не прыйшло. Я пастаралася забыцца пра ўбачанае. Толькі потым, нашмат пазьней, я зразумела больш.

## ВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ ПРЭЗЫДЭНТА БЕЛАРУСІ 1994 ГОДА. ПЕРШЫ ТУР

Напярэдадні выбараў прэзыдэнта Беларусі ў 1994 годзе я напісала заяву намесьніку старшыні Гарвыканкама А. Сасноўскаму аб адпачынку за свой кошт у сувязі з працай у камандзе кандыдата ў прэзыдэнты Беларусі З. Пазьняка. Мой начальнік Сасноўскі – кіраўнік групы падтрымкі кандыдата ў прэзыдэнты прэм’ера В. Кебіча – быў крыху зьдзіўлены, што я прашу адпачынак для палітычнай працы. Сам ён, як і ўвесь апарат Гарвыканкама (які быў задзейнічаны на выбарчую кампанію Кебіча) працаваў на свайго „боса” менавіта ў рабочы час і ніякіх „адпачынкаў” (ні Сасноўскі, ні работнікі Гарвыканкама) ніхто ня браў. Гэтаксама магла зрабіць і я. Думаю, ніхто б мяне за гэта не караў, але ў Гарвыканкаме я адзіная адкрыта прадстаўляла Народны Фронт і не магла даць шанс праціўнікам для якіх-небудзь сумніўных размоў пра Фронт.

Мой начальнік падпісаў маю заяву. „Мы з вамі на супроцьлеглых баках барыкад, але я заўсёды працягну вам руку, каб пацісnуць яе, – з павагай сказаў ён. Пра кандыдата Лукашэнку ён адазваўся вельмі дрэнна, засьведчыўшы сваю абсалютную непавагу. – З Лукашэнкам я б ніколі ня быў у адной камандзе.” (А праз нядоўгі час пайшоў яму служыць.)

Мы, франтаўцы, паўсюдна зьбіралі подпісы на вылучэньне нашага кандыдата. Аднаго разу каля Дома быту на вул. Маскоўскай я сустрэла Міхася Чарняўскага, калегу і сябра Зянона Пазьняка, які зьбіраў подпісы за С. Шушкевіча. Так і стаялі амаль побач: мы з сябрамі зьбіралі подпісы за Пазьняка, спадар Чарняўскі – за Шушкевіча. Я толькі падумала тады: як жа гэта магчыма разрываць галасы і так заблытваць выбаршчыкаў, калі выбраць павінны аднаго, а ня дваіх? Тым больш, што я памятала спадара М. Чарняўскага адным з першых франтаўцаў... Пазьняк на гэта ніяк не рэагаваў, толькі жартаваў і пасьмейваўся ў стылі Дземянцея: „Кто как хаціт, тот так і гаварыт...” і г. д. Але відаць было, што ён ведае больш, толькі не хацеў казаць, бо аднойчы змрочна пажартаваў, што беларуса ня вучыць нішто: ні гісторыя, ні вопыт, ні сьмерць, ні камунізм, таму ён робіць заўсёды не як трэба, а як хочацца, і, відаць, няма такой сілы, якая б зьмяніла яго паняцьці.

Мы з сябрамі найчасьцей зьбіралі подпісы каля Галоўпаштамта. Народу шмат, наша каманда ледзь пасьпявала запаўняць бланкі, выпісваць нумары пашпартоў і адрасы падпісантаў. Побач з намі прымасьціліся двое зборшчыкаў подпісаў за Лукашэнку. Яны самы адчувалі сябе няўпэўнена, прыніжана ўсьміхаліся. Нам было проста сьмешна назіраць за імі. Зьбіраць подпісы за Лукашэнку, нам здавалася, могуць толькі недаразьвітыя людзі, якія ня ў стане зразумець, што падтрымліваюць прымітыўнага чалавека. І гэта нам здавалася так відавочна, што выклікала адну толькі іронію...

блíжэй стаяў да пазыцыі незалежнай дзяржавы Беларусь, хоць і працаваў у апараце „былых". Гэта адчувала ня толькі я, хоць спадар Нікіценка ніякіх выразных крокаў насустрач нам не рабіў.

Прывітаўшыся, я з уздымам сказала: „Вось хутка пераможа Зянон Пазьняк, і тады будзем будаваць вольную Беларусь!"

Ён паглядзеў на мяне і сказаў са спачуваньнем і нават нейкім (як мне падалося) трагізмам: „Галіна Фёдараўна, паверце мне, гэтага не адбудзецца ні за што, – і паўтарыў шматзначна і катэгарычна, – паверце мне, гэта абсалютна немагчыма!"

Ён сказаў гэта настолькі сур'ёзна, як быццам ведаў нейкі страшны сакрэт... У гэтай недасказанасьці я адчула шчырасьць, якая мяне ўразіла. Але на разьвітаньне я сур'ёзна дадала: „Вось пройдуць выбары, мы пераможам, тады й пагаворым."

Ужо за мяжой Пазьняк мне расказаў, якія устаноўкі былі дадзеныя ўладнай намэнклятуры і што гаварылася на іхных зачыненых нарадах. Напалоханы Нікіценка выказваўся ў стылі, якім яго напалохалі.

Антыфронтаўская прапаганда была страшэнная. Але і яна бляднела перад тымі велізарнымі высілкамі хлусьні, падману, фальсіфікацыі, якія ўлада скіравала на асобу кандыдата ад Фронта Зянона Пазьняка. Сотні тысяч ілжывых і гнюсных ананімных лістовак, артыкулаў у СМІ і г.д. раськідваліся кожны дзень па ўсёй Беларусі і ў друку. Было відавочна, што такой масіраванай атакай на Пазьняка


(Фота С. Панізоўцава)

*36. Зянон Пазьняк у Крычаве, 1994 г.*

Аднаго разу я сустрэла на вуліцы (побач з Гарвыканкамам) намесьніка старшыні Гарвыканкама спадара Нікіценку. Чалавек навукі, кандыдат эканамічных навук, сярод 5-ці намесьнікаў ён быў, бадай, самых дэмакратычных поглядаў. Я адносілася да яго з павагай. Выглядала, што ён най-

кіравалі моцныя варожыя сілы, бо праца вялася сістэмна, бесперапынна і бязьлітасна. Чаго толькі ні пісалі... Ня ведаю кім, але быў нават прыдуманы такі дурнаваты анекдот „пра Пазьняка", які быццам бы выступае на сэсіі Вярхоўнага Савета і абураецца „вынікамі" панаваньня саветаў: „Лясы

павырубалі, балоты павысушвалі! Камуністаў – няма дзе ні павешаць, ні ўтапіць!"

Уся варожая, праімпэрская прапагандысцкая машына „працавала" на тое, каб зрабіць з нашага кандыдата – ворага (!) для беларусаў. Быў распрацаваны і такі гэбоўскі трук: маўляў, грамадзкая арганізацыя Фронта добрая, мы падтрымліваем яе, толькі вось Пазьняк... ня тое, ня той лідэр, дрэнны, вядзе Фронт ня туды, трэба выбраць другога лідэра. (Для нас гэта быў тэст на агента. Як толькі мы такое чулі – ужо ведалі з кім маем справу.) Ворагам незалежнай Беларусі вельмі хацелася намаляваць выдатнага адраджэнца „вінаватым" (у чым – ня важна. Ва „ўсім") І „вінаватым" (пад усялякімі „соўсамі") яны з усіх сілаў яго „ляпілі." Гэта вядомая схемка спэцслужбаў. (Па гэтай жа схемцы пазьней „вінаватым" стануць называць Пазьняка некаторыя даляралюбівыя „паплечнікі", бо Пазьняк жа, маўляў, не даваў ім „делать бабки"). І некаторыя падхоплівалі гэтую нажыўку, як рыбка чарвяка.

Дарэчы, характэрнае назіраньне. Цяпер, калі Пазьняк далёка, чуткі распускаюцца з дакладнасьцю наадварот. Цяпер Кансэрватыўна Хрысьціянская Партыя – БНФ „дрэнная" і, маўляў, толькі кампрамэтуе Пазьняка. Такія вось зьявіліся „прыхільнікі" пазьнякоўскай чысьціні і змагальнікі з Партыяй БНФ.

Нам, усім беларусам, жыцьцёва важна разумець нашыя нацыянальныя інтарэсы, усьведамляць, што адныя і тыя ж зьявы зь беларускага і расейскага бакоў выглядаюць па-рознаму (як Іван Грозны для рускіх – і Іван Жахлівы для беларусаў, Пётр „велікій" для расейцаў і Пётр Шалёны для беларусаў і г.д.). І гэта „рознасьць" – на ўсе часы, у тым ліку і на сёньня, пакуль існуе іхная імпэрыя зь яе плянамі заглынуць Беларусь. Усе іхныя жырыноўскія-зюганавы-касьянавы-нямцовы-хакамады-яўлінскія – стараюцца для расейскага інтарэсу, а нам, беларусам, яны ўсе разам узятыя – непрыхільнікі, нават на словах, і ніколі ня будуць за нас.

Нашая, фронтаўская, агітацыйная кампанія хоць і была законнай, але ішла зусім ня ў роўных умовах, у параўнаньні з Кебічам ці з Лукашэнкам. Нам усюды ствараліся страшэнныя перашкоды, нашыя лістоўкі, плякаты і г.д. зьнішчаліся, зрываліся скрупулёзна і метадычна, артыкулам Пазьняка і яго прыхільнікам не давалі ходу, і мы шмат трацілі сілаў, каб нешта надрукаваць. У той жа час Кебічу ці, скажам, Лукашэнку не было ніякіх перашкодаў. Трэба таксама разумець, што прапагандысцкая кампанія супраць Пазьняка была на карысьць Лукашэнкі. Лукашэнка йшоў практычна бяз крытыкі, у той жа час уся дзяржаўна-намэнклятурная машына працавала супраць кандыдата Народнага Фронту. Мы з сябрамі Койданаўскай Рады часам дамаўляліся расклейваць лістоўкі ноччу, спадзеючыся, што людзі хоць нараніцы змогуць іх прачытаць, пакуль міліцыя і агентура іх не пазрываюць.

Памятаю, як мы ўтраіх з сябрамі вырашылі клеіць нашыя ўлёткі па Грушаўцы ў дзьве гадзіны ночы. Мы хадзілі ад пад'езда да пад'езда, ад слупа да слупа. Адзін з нас хутка намазваў паверхню клеем („ліпучак" тады яшчэ не было), другі хуценька ляпіў улётку, трэці назіраў, каб не было „сьведкаў", і шпарка йшлі далей. І якое ж было нашае зьдзіўленьне, калі мы, йдучы назад, ўбачылі, што ні адной нашай улёткі, якія мы расклеілі літаральна паўгадзіны таму, няма: яны ўсе былі старанна пазрываныя, калі клей і высахнуць не пасьпеў. Гэта ноччу, калі ніхто ня ведаў пра нашу працу і намеры! Мы клеілі, а за намі, значыцца, ішлі нашыя ворагі і мэтадычна іх зьдзіралі. Вось што такое гэбэ.

Пазьняк потым папярэджваў нас, што літаральна ў кожным пад'езьдзе кожнага дома павінен быў быць сексод КГБ (гэта руцінная праца савецкіх спэцслужбаў). У час выбараў „сексоды" былі на „боевом дежурстве", кожную гадзіну, днём і ноччу сексод спускаўся з свайго паверху і правяраў пад'езд. Пры неабходнасьці дакладваў „оперативную обстановку" куды трэба. Неўзабаве мы неаднаразова пераканаліся ў гэтым.

Каб увесьці беларусаў у зман, афіцыйныя СМІ не стамляліся друкаваць усялякі бруд і хлусьню на Народны Фронт. Адраджэнская на тыя часы газэта „Свабода", фактычна, была адзінай, дзе можна было прачытаць праўдзівую інфармацыю. Але па колькасьці тыражу яна ніяк не „перакрывала" афіцыйны друк. БТ таксама для нас было зачыненае. Таму фронтаўцы ўвесь час езьдзілі па Беларусі, сустракаліся з грамадзянамі гарадоў, мястэчкаў і вёсак. Кожны з нас удзельнічаў у такіх фронтаўскіх паездках. У выхадныя дні ўсе

мы езьдзілі па чарзе, і толькі старшыня Фронту езьдзіў кожную суботу і нядзелю, а ў працоўныя дні зраньня да ночы працаваў у Менску. І так усе гады Адраджэньня, без перапынку, без адпачынку і перадыху.

Калі пачалася выбарчая кампанія, прыходзілася таксама хадзіць па дварах і сустракацца з выбаршчыкамі. Безумоўна, гэта было мала рацыянальна, але мы ня скардзіліся на цяжкасьць, бо ніколі ня чулі ніякага стогну і ад Пазьняка, хоць яму прыходзілася найцяжэй і нагрузка ягоная была найбольшая. Кожны раз за намі па дварах хадзілі „людзі-невідзімкі" (як яны самы думалі пра сябе). Але правакатар ніколі не схавае свае гэбоўскія вушы, яны вылазяць на сьвет у спробах гістэрычным крыкам сарваць гаворку, ці (як ім здаецца) „каверзнымі" пытаньнямі, ці несправядлівымі абвінавачваньнямі і г.д. Мы не пераставалі зьдзіўляцца, як умеў Зянон Пазьняк узяць сітуацыю ў свае рукі, і у самых цяжкіх умовах дамагацца, каб яго слухалі. А калі Пазьняка слухалі, то ў перамозе сумнявацца не прыходзілася.

Тады гэбэ „арганізавала" псіхічна неўраўнаважаных (людзей хворых на розныя формы шызафрэніі, яны былі на асобым уліку ў савецкім КГБ). Спыніць лямант гэтых людзей было немагчыма, яны былі неўсьведамляльныя. Тады мы арганізавалі свае „групы выратаваньня", якія адводзілі такіх лямантоўшчыкаў у бок, каб выслухаць іхныя праблемы і разам падумаць як іх вырашыць (а „праблемы" часам былі вельмі экзатычнымі). Зь лямантоўшчыкамі, адышоўшы побач, вялі спакоўную гаворку „выратавальшчыкі", а кандыдат у гэты час выступаў перад людзьмі.

Тады гэбэ напусьціла на нас „артыстаў" – гэбістаў, якія імітавалі розныя формы гістэрыкі (напрыклад, „я кровь проливал"...), разыгрывалі „справедливый гнев", „обиду", „возмущение", часам ледзь ня рвалі на сябе адзеньне. Гэтых ў бок адвесьці было немагчыма. Але з талентамі ў КДБ было, відаць, тугавата. Звычайна Пазьняк зь імі распраўляўся „адной левай" сам, пад сьмех прысутных. Быў выпадак, што на сустрэчу выбаршчыкаў з Пазьняком (у двары мікрараёна) спэцыяльна з турмы выпусьцілі злачынцу-рэцыдывіста. Ён (са шклянымі вачыма, відаць наеўся наркаты) падышоў з тылу, калі Пазьняк выступаў, і падняў над яго галавой кулак, дэманструючы, што зараз будзе біць. Пазьняк, які ніколі не баяўся ў ахову і ня меў яе, паглядзеў абыякава на рэцыдывіста і спакойна прадаўжаў гаварыць. Па крымінальнай звычцы тып, відаць, чакаў нейкага нэрвовага руху ці слова з боку кандыдата і ўсё імітаваў, што будзе біць. Але Пазьняк – поўная апатыя і нуль увагі – гаварыў да людзей спакойна, быццам побач зьявіўся не бандзюга, а расло дрэва. Ну і сцэна. Пасля мужчыны зь ліку выбаршчыкаў скруцілі тыпа і здалі ў міліцыю. Там і даведаліся падаплёку яго зьяўленьня.

Аднаго разу, заранёў дамовіўшыся, мы прыехалі на сустрэчу ў шпіталь для ветэранаў 2-й Сусьветнай вайны ў Бараўлянах. Але галоўны лекар шпіталю некуды „раптоўна" зьнік, забраўшы з сабой ключы ад актавай залі. У фае сабраўся вялікі натоўп страшэнна азлобленых ветэранаў (было відаць, што гэбэ моцна папрацавала, каб адпаведна настроіць іх на „ворага-Пазьняка"). Хто стаяў, хто – ў інваліднай калясцы, і ўсе крычалі, раўлі, пырскалі сьлінай (словы „фашыст", „паліцай" былі самымі мяккімі ў іхным лексіконе). Тут патлумачу маладзейшам чытачам, што на тыя часы самай яра-пракамуністычнай, самай прасавецкай і антыбеларускай, самай ў гэтым сэнсе агрэсіўнай, рэакцыйнай і бэтоннай ў беларускім грамадзтве была праслойка савецкіх ветэранаў 2-й Сусьветнай вайны.

Мы стаялі ў фае разгубленыя. Сярод гэтага лямангу не было нічога чуваць, а мікрафона, зразумела, няма. Каб неяк суцішыць гэты разьюшаны натоўп, мы з дзяўчатамі пачалі сьпяваць беларускую песьню. Але натоўп роў так моцна, што нас не было чуваць. Сітуацыя была абсалютна пройгрышная – так думалі ўсе, але толькі не Пазьняк. Ён пачаў гаварыць, падышоўшы блізка да людзей (мы падумалі, што зараз на яго накінуцца). Але неўзабаве, хвілін праз 15-20, адбыўся цуд: разьюшаны натоўп паступовa сьцішыўся, а потым і зусім змоўк. Слухалі. Падбухторшчыкі ўбачылі, што ім не ўдалося сарваць сустрэчу, дэмантсратыўна пайшлі, а ўсе прадаўжалі слухаць і ўжо спакойна задаваць пытаньні.

Калі сустрэча скончылася, мы (ініцыятыўная група) раздалі некалькі кніг Пазьняка. І што ўжо мяне канчаткова „дабіла", дык тое, што самыя

ярыя „ворагі-крыкуны” пачалі прасіць аўтограф Пазьняка і ціснуліся з кнігамі да яго. Я спытала ў аднаго такога: „Нашто вам аўтограф, вы ж супраць?” „Надо! – гаркнуў мне ў вуха цяпер ужо яры прыхільнік Пазьняка. – Уйди, ты ничего не понимаешь.” Прызнацца, усяго прыходзілася бачыць, але тут я была ашаломленая – дзьве гадзіны ад жаху да трыюмфу.

Але на гэтым ня скончылася. Пасьля першага туру галасаваньня выявілася, што амаль увесь шпіталь для ветэранаў прагаласаваў за Прэзыдэнта-Пазьняка.

Вось у такіх умовах прыходзілася змагацца. Але энтузіязм нас не пакідаў, мы рабілі нашую справу, не зважаючы на перашкоды, і адчувалі яе станоўчыя вынікі. Ня гледзячы на магутную антыфронтаўскую прапаганду, хлусьню пра Фронт і Пазьняка, рэйтынг кандыдата ад Фронта быў моцны, ды і нашае змаганьне давала плён. Адчувалі гэта і нашыя ворагі.

Падчас прэзыдэнцкай кампаніі час быў расьпісаны па хвілінах. Пазьняк з групай падтрымкі езьдзіў па Беларусі, выступаў перад людзьмі. Сустрэчы адбываліся адна за другой, на якіх Пазьняка ніяк не адпускалі, закідвалі пытаньнямі, і на наступную сустрэчу ён, як правіла, катастрафічна пазьніўся. Тады на чарговую сустрэчу тэрмінова выязджалі давераныя асобы і пачыналі гаворку зь людзьмі, што сабраліся, а Пазьняк пад’язджаў пазьней.

Аднаго разу мы прыехалі ў Горкі на сустрэчу з выбаршчыкамі, і тады ж нечакана сюды (таксама на сустрэчу з выбаршчыкамі) прыехаў Лукашэнка з камандай на некалькіх легкавіках. Зянон Пазьняк асабіста прапанаваў Лукашэнку правесьці сумесную сустрэчу. Лукашэнка зьбянтэжыўся, але пагадзіўся („давай, я не супраць”). Выбаршчыкі сабраліся ў розных залях. Тады наша ініцыятыўная група пайшла ў залю да групы Лукашэнкі каб па дамоўленасьці аб’яднаць сход. Аднак з Лукашэнкам ужо пагаварыць не ўдалося. Наперад выбег лейтэнант (ці хто ён тады быў) Кучынскі і цьвёрда „адчэканіў”: „Нет” Нет! Мы решілі – нет. Не будем. Нецелесообразно.”

Вярнуліся зь нічым. Сходы пачаліся – кожны ў сваёй залі, кожны са сваімі выбаршчыкамі. Тады Пазьняк спытаў у людзей, ці хацелі б яны аб’яднацца з суседнім сходам, каб паслухаць абодвух кандыдатаў. „Хочам”, – кажуць. „Тады прагаласуем за гэта і пашлем дэлегатаў у суседнюю залю, каб і яны прагаласавалі за агульны сход”, – сказаў Пазьняк. Але дэлегатаў нашай залі прыняла ў штыкі ініцыятыўная група Лукашэнкі і ўсчалі спрэчку, даводзячы сваім выбаршчыкам, што аб’ядноўвацца „нецелесообразно”. У выніку такой агітацыі бальшыня прагаласавала супраць аб’яднанага сходу. Так Лукашэнка вылузнуўся з гэтай сітуацыі. Ён баяўся выступаць у адной залі з Пазьняком, бо ведаў, што ягоныя танныя трукі (якія ён ужываў на тэледэбатах з Кебічам) тут ня пройдуць, а змагацца з Пазьняком яму было не па зубах.

Затое потым, калі Лукашэнка „ўвабраўся ў пер’е” і не сыходзіў з экрану БТ, тут у яго хапала „сьмеласьці” хлусіць і паклёпнічаць на Пазьняка, тут ён быў „сьмелы” і не саромеўся.

Перад першым турам прэзыдэнцкіх выбараў кандыдаты мелі магчымасьць чатыры разы выступіць у СМІ (2 разы на БТ і два – па радыё). Першы выступ Зянона Пазьняка па БТ зь ягонай прэзыдэнцкай праграмай быў вельмі пасьпяховым. Прэзыдэнцкая праграма Пазьняка была відавочна сьціраваная на ўзмацненьне нашай незалежнай дзяржавы і на карысьць усім беларусам і грамадзянам Беларусі.

Фронт рыхтаваўся да другога эфіру на тэлебачаньні. Вырашана было выступіць не аднаму Пазьняку, а цэлай ягонай камандзе, ў склад якой увайшлі Ценевы Кабінет і лепшыя прадстаўнікі беларускай эліты – буйныя вучоныя, акадэмікі, вынаходнікі, эканамісты, гісторыкі. Такой моцнай каманды не было ні ў каго, бо лепшыя беларусы былі ў асяроддзі Зянона Пазьняка. Калі яны ўсёй камандай сьціравалася з сядзібы Фронта на тэлебачаньне (дарэчы, на тэлебачаньні ўмясьцілася толькі частка, усіх жа інтэлектуалаў было больш 50-ці асобаў), мы засталіся ў сядзібе глядзець іхную перадачу.

Літаральна за некалькі хвілінаў да выступу каманды Пазьняка спэцслужба зрабіла надзвычай подлы ход, не пашкадаваўшы „спаліць” дзеля гэтага свайго засакрэчанага агента – дэпутата, які на працягу некалькіх гадоў усюды падкрэсьлена дэманстраваў сваю павагу і любоў да Пазьняка і нават езьдзіў у яго групе разам з дэпутатамі БНФ

у Воршу на сустрэчы з выбаршчыкамі. Гэта быў дэпутат Вярхоўнага Савета Віктар Радамысьленскі. Праваслаўны сьвятар РПЦ, ён удаваў веруючага чалавека, езьдзіў па запрашэньні да беларусаў Аўстраліі (тыя падаравалі яму залаты крыж) і ўсюды дэмантраваў сваю падтрымку лідэру Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, нястомна, востра і з пафасам крытыкаваў камуністычную ўладу і намэнклятуру, меў апінію праўдалюбца і аўтарытэт, быў добрым прамоўцам. Яго тады ў Беларусі ведалі калі ня ўсе, то бальшыня.

І вось ён на экране паблїскавае аўстралійскім крыжам на жываце і кажа, што яму няпроста цяпер гаварыць, бо ў Вярхоўным Савеце ён увесь час быў побач з Пазьняком, але менавіта пагэтаму „совесть свяшченніка" і „совесть человека" не дазваляе яму маўчаць і вымушае сказаць праўду. Далей ён паведаміў, што ён убачыў і зразумеў, што Пазьняк „фашыст", што гэтыя людзі „рвутся к власті", што галасаваць за Пазьняка – значыць „обречь всех" на вялікае няшчасьце, і Беларускі народ павінен зрабіць правільны выбар.

Мы з Валянцінам Асташынскім імгненна з'арыентаваліся, і, не чакаючы канца прапагандыскай хлусьні, імгненна селі ў аўтамабіль і паімчалі на БТ, разьлічваючы, што мяне прапусьцяць у студыю як дэпутата. Так і здарылася, і мы пасьпелі. Да эфіру Пазьняка заставаліся лічаныя хвіліны, але мы з Валянцінам Асташынскім пасьпелі папярэдзіць Пазьняка. Валянцін параіў, каб наша вядучая Алена Радкевіч, якая будзе задаваць пытаньні Пазьняку, у канцы перадачы абавязкова пакінула некалькі хвілінаў на апошняе пытаньне пра эфір з Радамысьленскім. Гэта было вельмі важна. Пазьняк імгненна зразумеў небясьпеку подлага гэбісцкага ходу і пагадзіўся з Валянцінам Асташынскім. Часу, каб асабіста паразмаўляць з Аленай Радкевіч ужо не было, але Пазьняк напісаў ёй запіску і перадаў. Алена яе прачытала і згодна кіўнула галавой.

Перадача ішла бліскуча. Каманда фронтаўскага кандыдата ў прэзыдэнты выглядала магутна. І вось – завяршэньне праграмы. Мы з заміраньнем чакаем, калі ж вядучая Алена Радкевіч зьвернецца да Пазьняка з пытаньнем пра выступ правакатара. Але Алена задае іншыя пытаньні... Перадача заканчваецца, і яна „не пасьпявае" задаць самае галоўнае! Гэта быў шок. Чаму, як магло такое здарыцца, гэта ж не дзіцячыя гульні? Тым ня менш, пытаньне зададзена не было.

Калі цяпер ўспамінаеш выбарчую кампанію, то відавочна прасьледжваецца накіроўваючая рука КГБ, які напярэдадні галасаваньня выпусьціў на экран ня толькі свайго агента-камікадзэ (Радамысьленскага). Быў зроблены яшчэ адзін трук – тэлевыступ сцюардэсы, якая год ці два таму суправаджала чартарны рэйс з Кітаю кебічаўскай намэнклятуры, якім ляцеў і дэпутат Вярхоўнага Савету А. Лукашэнка. Сцюардэса паведаміла, што Лукашэнка – злодзей, што ён скраў яе асабістыя „імпартныя" рэчы і быў злоўлены, што называецца, „за руку".

Яна гаварыла праўду. Пра паводзіны Лукашэнкі ў самалёце тады адразу даведаліся ў Вярхоўным Савеце. Ведалі ўсе. Зь яго грэбліва сьмяяліся, але інфармацыя за межы Вярхоўнага Савета і кулуараў намэнклятуры ня выйшла. І гэта зразумела. Лукашэнка тады быў шэраговым дэпутатам зь вёскі, якога лічылі нікчэмнасьцю за ягоныя сумбурныя і крыклівыя выступы ў Вярхоўным Савеце. Ён нікога асабліва не цікавіў. Ці мала чаго вытваралі такія дэпутаты. Адзін дэпутат, напрыклад, палкоўнік П., паехаў у складзе афіцыйнай дэлегацыі ў ЗША. Калі прышлося разьлічвацца за гатэль, аказалася, што за некалькі дзён народны абраньнік наглядзеўся парнаграфічных тэлепраграмаў на тры тысячы даляраў (думаў што за дарма). Амэрыканцы не хацелі аплочваць рахунак. Быў скандал. Але хто там яго тое потым памятаў, нават празьвішча порна-героя забыліся. Праўда, калі б ён потым балатаваўся на прэзыдэнта, то хуценька б успомнілі.

Гэтак і з Лукашэнкам Кебіч „выпусьціў" сьцюардэсу за два дні да галасаваньня (так параіў палкоўнік Замяталін). Натуральна народ абурыўся гнюсным кебічаўскім „паклёпам."

Падчас сюжэту са сцюардэсай па БТ мы на той момант знаходзіліся ў сядзібе і бачылі яго. І тут Пазьняк рашуча сказаў: „Ну, усё, яны зрабілі зь яго прэзыдэнта."

Акрамя „сцюардэсы" напярэдадні выбараў быў інсцыніраваны быццам бы ўзброены замах на Лукашэнку (каманда страляла у сваю машыну). Нараніцы зьявіліся нават чуткі (гэбэ ж і распускала),



*37. 1996 г. Фронтаўцы глядзяць выступ па тэлебачаньні.*

што беднага Лукашэнку забілі. Так спэцслужбы рабілі з кандыдата ў прэзыдэнты „мучаніка”, а з Лукашэнкі прэзыдэнта.

(Дарэчы, нечаканы выступ на тэлебачаньні праваслаўнага сьвятара Радамысьленскага вельмі моцна ўзрушыў людзей, бо перад гэтым яго ўсе ведалі як змагара за праўду і справядлівасьць, абвінаваўцу камуністычнай сістэмы. Гэты імідж ён стварыў сабе прамовамі на мітынгах і ў Вярхоўным Савеце, дзе выступаў па-руску, але энэргічна і пранікнёна. Цяпер жа людзі на вуліцах, спаткаўшы, плявалі на яго, выказвалі сваё абурэньне, казалі ў твар моцныя абвінаваўчыя словы, называлі Юдам. Людзі пісалі ў газэты і там выказвалі абурэньне ягоным учынкам, якім ён зганьбіў і свой сан, і сваё імя.

Аднаго разу я бачыла, калі ён шпарка ішоў зь Вярхоўнага Савета, апусьціўшы вочы, ні на каго не глядзеў, каб не сутыкнуцца з людзкой грэблівасьцю да сябе, а прахожыя проста плявалі яму ўсьлед. І гэта пасьля таго, як зусім яшчэ нядаўна яго таксама ўсюды і заўсёды пазнавалі, прыветна віталіся, ціснулі руку. Вельмі павучальная гісторыя.)

## САКРЭТНЫ СХОД

Як кандыдат у прэзыдэнты Беларусі 1994 года В. Кебіч на той час настолькі ўжо моцна „залез пад скуру” беларусам, што ягоныя шансы на перамогу былі нерэальнымі, як ні намагаўся ўвесь кебічаўскі апарат. І ўсё ж старая намэнклятура старалася. Чаго толькі яна ні рабіла, усімі няпраўдамі імкнулася, каб перамог Кебіч. У ход ішлі ўсе савецкія мэтады, галоўны прынцып якіх – уціск на падначаленых любымі сродкамі „обеспечить выборы”.

У гэтыя змагарныя часы першага туру галасаваньня прыбягае неяк да нас ў кабінет намесьнік старшыні Гарсавету А. Гурыновіч і кажа: „Праз хвілінаў 20 у Палацы піянераў (на Старажоўцы) намэнклятура абсалютна сакрэтна зьбірае кіраўнікоў адукацыі Менска (ад загадчыкаў РАНА

да дырэктароў школаў) на „інструктаж” па забесьпячэньні перамогі Кебічу ў Менску. Вашу Камісію па адукацыі ня толькі не папярэдзілі, але арганізавалі ўсё так, каб вы не даведаліся. Сход сакрэтны. Запрошаны толькі „свае” ды ўслужлівыя выканаўцы. Калі хочаш, тэрмінова едзь туды, машыну я дам, але глядзі, асьцярожна. Заўважаць – не прапусьцяць. Не глядзі, што ты сакратар Камісіі па адукацыі Гарсавета” (якая, дарэчы, кіравала працай ГАРАНА).

Я адразу паехала. Усюды на ўваходах стаялі „назіральнікі”, каб не прайшоў „чужы”. Зьмяшаўшыся з натоўпам, я ўвайшла ў будынак і ўбачыла назіральнікаў унутры. „Вылічыць” мяне маглі ў любую мінуту, таму я імгненна зайшла ў жаночую прыбіральню. „Намэнклятура ад адукацыі” фарбавала губы, прычосвалася і аж раздзьмувалася ад важнасьці. Яны маглі зьвярнуць на мяне ўвагу, таму я пастаралася ні з кім не сутыкнуцца позіркам і, адвярнуўшыся, рабіла выгляд, што прычосваюся.

Неўзабаве ў калідорах стала ціха – значыць паседжаньне пачалося. Я сьлізнула ў залю, якая была поўная народу, і ціхенька села на ледзь ні адзінае вольнае месца.

На сцэне засядаў Прэзыдыюм. Сход вёў старшыня Гарвыканкаму А. М. Герасіменка. Адзін за другім прамаўлялі выступоўцы, усе ў адно: толькі Кебіч, іншага нельга дапусьціць.

Я глядзела і ня верыла сваім вушам. Сабраліся і дамаўляюцца: падман – дык падман, уціск – дык уціск, угаворы, запужваньне „фашиствующими элементами БНФ” і г.д.— адкрыта. Гаварылі больш аб „стратэгіі”: правесьці бацькоўскія сходы ў школах і „разъяснить, как необходимо голосовать”, правесьці сходы сярод вучняў (бо гэта таксама ёсьць пэўны ўплыў на іхных бацькоў і г.д.), пра пацу выбарчых камісіяў.

Заля слухала і моўчкі пагаджалася. Толькі дзенідзе я бачыла іранічныя усьмешкі.

Калі ўжо пэўная колькасьць выступоўцаў „за” скончылі (усе выступы былі, зразумела, на расейскай мове), старшыня сходу устаў для падсумаваньня і скарагаворкай вымавіў: „Кто хочет выступить еще? Если желающих нет, подведем итог.”

У гэты момант я з залі прашу слова. Усе погляды імгненна ськіроўваюцца на мяне. Выразна памятаю погляд Аляксандра Міхайлавіча Герасіменкі. У ім была і просьба не выступаць, і страх, і немагчымасьць адмовіць дэпутату Гарсавета і сакратара дэпутацкай Камісіі па адукацыі (без якой не абходзіліся аніякія сходы-зборы работнікаў асьветы). Жэстамі і ўголас ён просіць мяне не выступаць. Я настойваю. Герасіменка дае мне слова, і выгляд у яго пры гэтым – быццам ён сам сабе падпісаў прысуд. Сітуацыя выглядае трагікамічнай.

Я вышла на сцэну. На мяне глядзелі вочы-выканаўцы, вочы-змоўшчыкі. Я разумела, што нікога пераканаць тут мне ня ўдасца, а калі і ўдасца, ніхто гэтага ня выкажа: у патыліцу кожнаму глядзела вышэйшае кіраўніцтва. Таму я вышла да трыбуны не пераконваць дзейнічаць у рамках закону, а засьведчыць, што гэты „збор” – антыканстытуцыйная змова і вядзецца ў парушэньне Закона аб выбарах Прэзыдэнта Беларусі (бо гарадзкія кіраўнікі адукацыі дамовіліся выкарыстаць сваё службовае становішча на карысьць аднаго кандыдата). У пацьвярджэньне я прыгадала некаторыя артыкулы Закона.

Для мяне было важна засьведчыць, што гэтая змова ўжо ня ёсьць сакрэтная і што незаконныя намаганьні гарадзкога кіраўніцтва ня пройдуць. Мой выступ на роднай (дзяржаўнай) мове быў адзіным выступам па-беларуску. Пасьля першай фразы пачуліся выкрыкі беларусафобаў: „Говорите по-русски, мы не понимаем”.

Я ведала, што ў гэтай вялікай залі я адна, і была да ўсяго гатовая. Ні адзін мой нэрв не здрыгануўся, наадварот, я адказала спакойна, павольна, з усьмешкай, як хвораму кажа лекар, патлумачыла „непонимающим”, што ў Беларусі дзейнічае Закон аб мовах, які абавязвае работнакаў адукацыі „валодаць” дзяржаўнай мовай, і прадаўжала: „На працягу амаль дзьвух гадзінаў вы слухалі прамовы, якія тычыліся толькі аднаго кандыдата ў Прэзыдэнты. Закон прадугледжвае роўныя правы ўсіх кандыдатаў і дае мне права столькі ж часу гаварыць пра другога кандыдата ў Прэзыдэнты Рэспублікі Беларусь Зянона Пазьняка. Але я ня буду злоўжываць вашай увагай. Скажу коратка пра тое, пра што вы ня ведаеце, бо гарадзкое і рэспубліканскае кіраўніцтва ўсімі сваімі адміністрацыйнымі сіламі не дае вам даведацца праўду.

Дык вось, самы лепшы і адзіны кандыдат – гэта Зянон Пазьняк, бо зь ім Беларусь стане сапраўды незалежнай дзяржавай, а мы, беларусы, роўныя ў эўрапейскай сям'і. Вы ўсе гэта ўбачыце самы, калі мы пераможам, і Беларусь адродзіцца як магутная дзяржава."

Пачуўшы гэтыя словы, твары некаторых перакасіліся, здавалася, яны зараз трэснуць ад нянавісьці, гатовыя былі разарваць мяне на кавалкі. Я гаварыла, гаварыла спакойна, і гэта было, відаць, для некаторых, як зьдзек. Я выказала ўпэўненасьць, што далёка ня ўсе ўдзельнікі прымусовага збору (паспрабаваў бы хто з запрошаных не прыехаць!) падзяляюць мэту гэтага незаконнага сходу. „Трымайцеся, хлусьня ня пройдзе! Жыве Беларусь!" – скончыла я свой выступ і не спыняючыся, з паднятай галавой павольна пайшла праз усю залю да выхаду.

У залі быў шок нянавісьці. І ўсё ж некалькі цёплых поглядаў і ціхіх рэплік падтрымкі я пачула.

Я ішла да трамвая і мяне разьдзіраў сьмех. „Бедны Аляксандар Міхайлавіч, – думала я, – яму было так страшна за свой лёс і толькі з-за таго, што я прышла і сказала праўду".

## ДРУГІ ТУР

У дзень выбараў (1-ы тур) на кожным участку ў Менску былі нашыя назіральнікі за ходам галасаваньня і падліку галасоў. Я была назіральнікам у райвыканкаме Маскоўскага раёну, куды сьцякалася ўся інфармацыя з участкаў усяго раёна. Калі ішоў падлік галасоў, некаторыя ўчасткі скончалі працу раней. І тады мне адтуль тэлефанавалі нашыя назіральнікі і я рабіла свой зборны ліст па раёну. Магу засьведчыць, што ў другі тур па нашым раёне (як потым высьветлілася, і па ўсёй Беларусі) выходзілі Пазьняк і Лукашэнка. Па колькасьці галасоў Маскоўскага раёну Менска Лукашэнка выходзіў на 1-е месца, на 2-е – Пазьняк, але на некаторых ўчастках на першае месца выходзіў Пазьняк. Гэты свой „зборны" сьпіс у мяне нават захаваўся.

Як чалавек, які шчыльна займаўся выбарамі прэзыдэнта і быў назіральнікам за ходам галасаваньня, я сьведчу, што першы тур выбараў быў сфальсіфікаваны. У Фронт ішлі зьвесткі з усёй Беларусі, і яны пацьвярджалі страшэнную фальсіфікацыю. Пасьля выбараў былі знойдзены тысячы выкінутых „некім" бюлетэняў з галасамі за Кебіча... Выходзіць, улады рабілі, што хацелі, і ня выбаршчыкі вырашылі далейшы лёс Беларусі, а злачынная посткамуністычная намэнклятура і тыя, хто за ёю стаяў (упершую чаргу спэцслужбы КДБ).

Сфальсіфікаваўшы першы тур прэзыдэнцкіх выбараў, ЦВК аб'явіла, што на другі тур застаюцца Кебіч і Лукашэнка, у распараджэньні якіх – два тыдні да выбараў.

На тэледэбаты з Кебічам у другім туры Лукашэнка рваўся з усіх сілаў. Тут ён паводзіў сябе нахабна, перабіваў субяседніка, не даваў яму дагаварыць, задаваў яму рытарычныя пытаньні і сам на іх адказваў. Спыніць ягонае нахабства магла толькі моцная асоба, Кебіч жа паказаў сябе на тэледэбатах як асоба ніякая і бязвольная, яго нават па-чалавечы было шкода.

Здаецца, 3-га ліпеня, у Палацы спорту адбывалася гарадзкая ўрачыстая імпрэза, на якой мы з Вольгай Кузьміч мусілі прысутнічаць як супрацоўнікі Гарвыканкаму.

Мы пад'ехалі да Палацу і ненадоўга прыпыніліся на прыступках каля ўваходу, бо пачалася нейкая незразумелая мітусьня, людзей неяк дзіўна штурхалі ўбакі. Мы не разумелі, у чым справа. І раптам убачылі Лукашэнку ў акружэньні аховы. Было відаць, што гэта сапраўдныя „мардавароты", якія ня бачылі перад сабой людзей, ішлі, як танкі, адштурхоўваючы ўсіх, хто пападаўся ім на шляху. Нахабна і як злы пахан выглядаў і сам „ніхто".

Я тады сказала Вользе: „Паглядзі, яшчэ выбары не адбыліся, ён яшчэ ніхто, а паводзіць сябе, як гітлераўцы сярод ваеннапалонных, жорстка і самаўпэўнена". Так за нейкія секунды я ўбачыла будучага грубага дыктатара, начальніка Беларусі, які гатовы быў ісьці па галовах і зносіць усё на сваім шляху. Нічога добрага гэта не прадказвала.

У гэтыя два тыдні да выбараў перад выбаршчыкамі Беларусі паўстала пытаньне: што рабіць і за каго галасаваць? Было відавочна, што ні Кебіч, ні Лукашэнка не зьяўляюцца прадстаўнікамі беларускіх інтарэсаў, таму Фронт заклікаў галасаваць супраць абодвух кандыдатаў. У такім выпадку (у

выпадку правалу абодвух) былі б прызначаны новыя выбары, і быў бы шанс выбраць Беларускага, а не прамаскоўскага прэзыдэнта. Наколькі мне вядома, Фронт нават прапаноўваў Кебічу ў гэтай сітуацыі зьняць сваю кандыдытуру (каб выклікаць новыя выбары). Кебіч павагаўся, але нічога ня зрушыў. Яго запэўнілі свае, што зробяць яго прэзыдэнтам, ён верыў Маскве і, відаць, да апошняга ня ведаў, што Масква, КДБ і мафія ўжо паставілі на Лукашэнку.

Гэбоўская прапаганда рабіла ўсё, каб заблытаць людзей. Яна распускала „чуткі" пра „харошага" Лукашэнку, што ён „за просты народ" і за яго трэба галасаваць. Агенты гэбэ „працавалі" ўсюды: у чэргах, у крамах, у аптэках, у шпіталях... У Кебіча ўжо не было ніякіх шансаў, але сам ён гэта не разумеў.

У двары майго дома жыла адна жанчынка, яна працавала медсястрой у шпіталі, была супраць камуністаў, чытала нашыя ўлёткі і паступова стала прыхільніцай Фронту і асабіста Пазьняка. Відаць таму і да мяне як да „Народнага Фронту" ставілася надзвычай прыязна, заўсёды прыпыняла, распытвала, падтрымлівала.

Але раптам яе погляды зьмяніліся. „Што такое?" – пытаюся.

– У нас у шпіталі ўсе шкадуюць Лукашэнку, якога ледзь ні забілі. А ён жа за народ, таму і хацелі забіць гэтыя кебічы. Усе кажуць, што трэба галасаваць за яго. Пазьняк, канешне, добры, але Лукашэнка за народ пацярпеў, буду галасаваць за яго.

– Хто так кажа? – пытаюся я.

– Ды неяк усе, – кажа мне бясхітрасная кабетка.

Мае тлумачэньні сітуацыі, што гэта работа спэцслужбаў – яна тады, на жаль, не ўспрыняла. Пройдзе зусім мала часу, і Лукашэнка ў адным са сваіх выступаў сам прызнаецца, што яго прэзыдэнтам зрабіў КГБ...

Памятаю яшчэ адну размову ў вёсцы Ліпск Бягомельскага раёну з прыхільніцай Пазьняка. Яе дзеці тэлефанавалі зь Менску і казалі маці, што ў другім туры трэба галасаваць супраць абодвух кандыдатаў. Але мне яна казала так: „Канешне, лепш было б, каб быў Пазьняк, але ж калі яго няма ў другім туры, то пайду за Лукашэнку. А то яшчэ сена калгас ня дасьць. У нас тут кажуць, што трэба ўсім галасаваць за яго".

– Хто кажа? – пытаюся.

– Начальства нашае, усе.

– Адкуль жа вы так добра „пазналі" Лукашэнку?

– Ну, неяк усе так кажуць, дык я ўжо буду, як усе, – адказала мне субяседніца.

Праз год-два я зноў была ў Ліпску, і тая самая жанчынка сказала мне: „Відаць, ты правільна казала, трэба было галасаваць супраць абодвух".

## 12 КРАСАВІКА 1995 ГОДА – ГАЛАДОЎКА І ЗЬБІЦЬЦЁ ДЭПУТАТАЎ АПАЗЫЦЫІ БНФ

Вечарам 11 красавіка 1995 года мне патэлефанаваў Зянон Пазьняк і сказаў, што заедзе пасьля паседжаньня Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. Па ягоным тоне я зразумела, што ёсьць нейкая сур'ёзная справа.

Ён прыехаў позна, пасьля 12-й ночы, і адразу працягнуў мне паперы, сказаўшы: „Гэта трэба тэрмінова надрукаваць". Сам сеў на канапу і заплюшчыў вочы. (Ён пастаянна не дасыпаў, а часам ня спаў зусім, таму быў вельмі стомлены.)

Гэта была заява Апазыцыі БНФ аб абвяшчэньні галадоўкі. Прачытаўшы тэкст, усё ўнутры ў мяне пахаладзела. Калі я скончыла друкаваць, Зянон імгненна расплюшчыў вочы, устаў і, ўзяўшы надрукаваны тэкст, падаў мне канверт зь лістом і сказаў, каб раніцай я прышла ў Вярхоўны Савет у вестыбюль перад уваходам у Авальную залю паседжаньняў, адкуль будзе чуваць, пра што гаворыцца ў залі. Калі я пачую заяву пра абвяшчэньне галадоўкі, я павінна адразу ж паехаць у Інстытут Фізікі АН Беларусі і аддаць гэты ліст Ю. Хадыку. „У лісьце, – патлумачыў Пазьняк, – паведамленьне пра галадоўку і пра далейшыя дзеяньні Фронта."

Будучую галадоўку мы не абмяркоўвалі. Зянону трэба было ехаць дахаты і хоць гадзіну адпачыць перад заўтрашнім днём. А ўжо было каля двух ночы.

(Значна пазьней я даведалася, што ў лісьце было распараджэньне старшыні Фронта Зянона

Пазьняка свайму намесьніку Ю. Хадыку пра дзеяньні БНФ, утым ліку зьбіраць фронтаўцаў на плошчу Незалежнасьці ў падтрымку галадуючым дэпутатам і ў знак пратэсту супраць незаконных дзеяньняў выканаўчай улады.

Адбылося ўсё з дакладнасьцю наадварот. Калі потым людзі самы стыхійна сабраліся на плошчы Незалежнасьці, менавіта Ю.Хадыка заклікаў усіх разыйсьціся па хатах.

Адыходзячы, Зянон яшчэ папрасіў мяне назаўтра вечарам зьезьдзіць да ягонай маці Ганны Яўхімаўны, перадаць ёй ліст і (калі я змагу) нават заначаваць у яе, каб як-небудзь зьменшыць ёй удар ад зьвесткі пра галадоўку.

Нараніцы, як і было дамоўлена, здаецца, а 9-й гадзіне, я падыйшла да правага крыла Дома ўраду і нечакана сустрэла Генадзя Грушавога, які хуткім крокам выходзіў з будынку. Ведаючы, якія падзеі насьпяваюць, я вельмі зьдзівілася (бо Генадзь быў сябрам Апазыцыі БНФ) і спытала: „Як там?"

–Зьбіраюцца зачытваць заяву, – скарагаворкай вымавіў Генадзь і, не прыпыняючыся, шпарка пайшоў ад Вярхоўнага Савета.

Я ўвайшла ў будынак, прад'явіла білет дэпутата Менгарсавета, і дзяжурныя міліцыянты прапусьцілі мяне без перашкодаў. У вестыбюлі перад Авальнай заляй было пуста, толькі раз пораз праходзілі дэпутаты. Зь некаторымі я перамовілася пра сітуацыю ў залі. Пачуўшы заяву пра абвяшчэньне галадоўкі, я хутка накіравалася зь лістом у Інстытут Фізікі.

Спадар Хадыка прачытаў ліст, які (як мне падалося) яго ніяк не ўсхваляваў. Ён толькі сказаў, што трэба зьбіраць Управу (я была сябрам Управы БНФ), і я паехала ў сядзібу. Там мы арганізавалі збор коўдраў, спальных мяшкоў (каб ноччу дэпутатам было чым накрыцца ў Авальнай залі), купілі мінеральную ваду, я ўзяла маленькі пераносны тэлевізар і мы зь Юзікам Такушэвічам павезьлі ўсё гэта ў Вярхоўны Савет.

„Зьвязуючым" Апазыцыі і Фронта была ў гэтай сытуацыі дэпутат Апазыцыі БНФ Галіна Сямдзянава. Ёй мы перадалі ўсё, што прывезьлі, зь ёй перамовіўся Ю. Хадыка, яна ж перадала мне запіску ад Зянона.

Тым часам на плошчы Незалежнасьці стыхійна зьбіраліся людзі. Яны чакалі каманды, чакалі зьвестак. Там я доўга не затрымлівалася (сьпяшалася выканаць просьбу З. Пазьняка), але памятаю, што Ю. Хадыка і В. Івашкевіч кіравалі на плошчы і скіроўвалі людзей дадому.

Я паехала да Ганны Яўхімаўны. Мы доўга зь ёй размаўлялі (яна яшчэ ня ведала сітуацыі ў Вярхоўным Савеце). На душы ў мяне было вельмі трывожна. Вечарам, а 21-22-й гадзіне, патэлефанаваў Зянон, сказаў, каб мы не хваляваліся, што ўсё будзе добра.

Але трывога не зьмяншалася і, як потым стала вядома, не дарэмна. Ноччу адбыліся падзеі, якія ўзрушылі ўвесь сьвет – зьбіцьцё дэпутатаў у будынку Вярхоўнага Савета. Дэпутатаў, якія па закону зьяўляліся асобамі недатыкальнымі! Гэта падзея ўскалыхнула многіх. Тэлебачаньне, радыё шмат якіх краінаў сьвету перадавалі пра небывалае парушэньне права і закону рэжымам Лукашэнкі. Лукашэнка ня проста парушыў Закон. Гэтай ноччу ён увёў войскі ў парлямант, пайшоў на злачынства, бо ўсе страшныя падзеі ў Авальнай гэтай ноччу рабіліся зь яго загаду.

Нараніцы я ад Ганны Яўхімаўны прыехала ў Гарсавет на працу і даведалася (здаецца, ад Вольгі Кузьміч), што ноччу дэпутатаў зьбілі ваенныя і вывезьлі невядома куды. Потым прышлі весткі, што дэпутаты Апазыцыі даюць прэс-канфэрэнцыю ў Вярхоўным Савеце. Разам з Вольгай Кузьміч мы бягом пабеглі туды, дзе і даведаліся пра страшныя начныя падзеі. Зьбітыя і змучаныя дэпутаты распавялі пра тое, што адбылося.

Мы з Вольгай вярталіся ў Гарсавет і ўсю дарогу плакалі. Каля прыступак Гарвыканкама стаялі людзі. Яны прышлі даведацца, што здарылася з дэпутатамі (пра прэс-канфэрэнцыю ведалі, зразумела, ня многія). Людзі хваляваліся. Нехта з чыноўнікаў Гарвыканкама хлусіў, што ўсё спакойна, нічога, маўляў, ня здарылася і прасіў разыходзіцца.

Пачуўшы гэтую хлусьню, я пачала з тых прыступак без мегафона гаварыць тое, пра што даведалася сама. Прахожыя прыпыняліся, слухалі. Сабраўся даволі вялікі натоўп. Раптам зьявіліся міліцыянты і пачалі выцясьняць нас ад уваходу ў Гарвыканкам. Яны не чапалі людзей, ня білі (хоць такія паводзіны міліцыі былі ўжо не за гарой), але



*38. Галадоўка дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце (1995 г.).*

сілай адпіхвалі людзей да вугла праспекта Скарыны і вуліцы Сьвярдлова (рог будынку Гарвыканкама).

Тут да нас далучыўся дэпутат М. Кобаса. Мы разам спрабавалі спыніць міліцэйскае самаупраўства (бо людзі нічога не парушалі, не крычалі і нікому не перашкаджалі, а толькі маўкліва слухалі). Твары міліцыянтаў не былі агрэсіўнымі, але нейкія каменныя. Ні на што не зважаючы, яны рабілі, што ім, відаць, было загадана: адпіхвалі людзей.

Вечарам, гадзінаў у шэсьць, мы сабраліся ў сядзібе БНФ. Запомніліся стомленыя і няголеныя твары дэпутатаў Апазыцыі БНФ С. Антончыка, Ул. Заблоцкага, С. Гермянчука, якія шмат перажылі за апошнія суткі. Пазьняка не было.

Што мяне вельмі ўразіла ў тыя хвіліны, гэта нейкае раўнадушша „сядзібнай рэшты" кіраўніцтва Фронта, асабліва В. Івашкевіча і В. Вячоркі (так мне запомнілася), некаторых сяброў Управы. Абсалютна выразна памятаю, што спачуваньня дэпутатам і абурэньня начным нападам на Вярхоўны Савет не было. У галаве круцілася думка: „Няўжо ніхто не разумее, што адбылося?"

Гэта выглядала вельмі дзіўна. Я падыйшла да дэпутата Апазыцыі БНФ Ігара Гермянчука, спытала пра Зянона. Ігар сказаў, што Пазьняку дасталася ад „гарылаў" найбольш, што яго білі моцна і што зараз ён у Вярхоўным Савеце (па вул. К. Маркса).

Я бягом паімчалася ў Вярхоўны Савет. Пазьняк быў у сваім дэпутацкім пакоі. Тут у кабінет заходзіць Ігар Лучанок. Ён быў (я не магла паверыць) на добрым падпітку, і ўсё гаварыў, што яны з Зянонам напісалі геніяльны раманс (на верш Зянона „Гучаньне анельскага голасу"). „Я тут ні пры чым, – кажа Пазьняк, – гэта ваша музыка геніяльная". „Мы напісалі геніяльны раманс", – зноў паўтараў вясёлы Лучанок. „Гэта таму што вы – геній", – кажа Пазьняк. „Зянон Станіслававіч, я – за вас. Быў і буду заўсёды,– кажа на гэта Лучанок, – гэта вы геній". „Я не Яўгеній, я Зянон",– кажа Пазьняк і г. д.

Вясёлая сцэнка вярнула мяне да раўнавагі і, калі Лучанок пайшоў, я стала раіць Пазьняку зьвярнуцца да лекара. Але ў той сітуацыі займацца асабістым здароўем Пазьняк ня стаў. Ён казаў, што нічога страшнага. Прайшоў час, і толькі тады я даведалася, што гэта былі ўсяго толькі словы адгаворкі, што на самой справе ўсё было зусім інакш. Некалькі гадоў балела рука і плячо, і гэты боль часам схаваць было немагчыма.

# ВЫБАРЫ 1995 ГОДА

Пра іх успамінаць, бадай, найцяжэй. Памятаю нашыя паседжаньні, абмеркаваньні фронтаўскіх кандыдатураў у Вярхоўны і мясцовыя саветы. Усё ішло як быцацам, па-ранейшаму. Але ў хуткім часе стала відаць, што тут ужо зусім іншая сітуацыя. Гэта ўжо былі іншыя выбары, чым у 90-м годзе, калі мы ўсе былі як адна адзіная каманда.

Для мяне сітуацыю „праясьніла" супрацоўніца Управы БНФ, якая з радасьцю расказала, называючы паіменна цэлую групу фронтаўцаў (кандыдатаў ад Фронту!), якія атрымалі добрыя грошы на „сваю" выбарчую кампанію (адкуль – не сказала). Таму ў іх асабіста было шмат агітацыйных матэрыялаў, плякатаў, лістовак, мастацкіх кніжак (якія яны бясплатна раздавалі на сваіх пікетах, каб „прывабіць" да сябе выбаршчыкаў) і шмат чаго яшчэ. Супрацоўніца не хавала таго, як „добра стала" усёй іхняй камандзе, што яны езьдзяць у асноўным на таксі, добра харчуюцца і г.д. „Вось гэта ўжо і ёсьць падстава карупцыі, – падумала я. – Гэтых нельга пускаць ва ўладу."

Ці маглі мы перамагчы ў выбарах 1995 года? Мы мелі вялікую падтрымку выбаршчыкаў. Машына фальсіфікацыяў працавала, але супроцьстаяць ёй тады было яшчэ магчыма. Патрэбна была згуртаванасьць, скаардынаванасьць, адчуваньне адзінага фронтаўскага пляча. Хцівасьць асобных людзей, памножаная на амбіцыі і індывідуалізм аутсайдараў, аслабілі наш адзіны кулак. Як паказалі нашыя назіраньні за выбарамі (нашыя падлікі галасоў, кантроль за выбарамі), шмат каго з кандыдатаў ад Фронта выбаршчыкі падтрымалі. Але рэжымам незаконна было зроблена ўсё, каб ніхто з фронтаўскіх кандыдатаў ні ў Вярхоўны, ні ў мясцовыя саветы ня трапіў.

Рэжым не шкадаваў нічога, каб не дапусьціць да прадстаўнічай улады адраджэнцаў. Смаргонская ж акруга Зянона Пазьняка кантралявалася рэжымам татальна, лукашэнкаўскія памагатыя працавалі дзень і ноч, каб увесьці ў зман выбаршчыкаў. І „альтэрнатыву" Пазьняку падшукалі адпаведную – мясцовага лекара, бо пралічылі, што рэйтынг лекараў на выбарах, павінен быць найбольшы.

Калі-нікалі, сапраўды, можна было пачуць „аргумэнтаваныя" разважаньні некаторых наіўных смаргонцаў: „Я буду галасаваць за лекара, бо ён лечыць нашых дзетак", – як быццам у Вярхоўным Савеце той лекар павінен быў бы не законы прымаць, а лячыць сваіх смаргонцаў у Авальнай залі. Дзівакі. Але сьведамых выбаршчыкаў было ўсяроўна больш, і рэжым гэта ведаў.

Тады вечарам апошняга агітацыйнага дня перад выбарамі па БТ рэжым дэманструе спэцыяльна адзьняты фільм-фальшыўку, паклёп на Фронт і Пазьняка. Самым гнюсным і подлым чынам (лукашысты іншых мэтадаў проста ня ведаюць) быў зроблены мантаж. На экране паказвалі выступы і прамовы гітлерскіх фашыстаў (кадры ваеннай кінахронікі), а за кадрам гучэў голас Зянона Пазьняка. Выходзіла, што гітлерцы прамаўлялі голасам Пазьняка, кадры мітынгаў БНФ былі змантаваныя з фашысцкай кінахронікай з адпаведным камэнтаром аўтараў фільма і г.д.

Калі я глядзела гэтую гнюснасьць, у мяне ня ўзьнікла ніякай трывогі, бо фальш была настолькі відавочнай, што я ўнутранна сьмяялася над прымітыўнасьцю „аўтараў". Толькі я, аказваецца, памылялася і пазьней пераканалася ня раз, што ў жыцьці, на жаль, заўсёды знаходзяцца наіўныя людзі, гатовыя паверыць любой небыліцы. На гэтым якраз і будавалася гёбельсаўская і гэбоўская прапаганда.

Але, ня гледзячы на такі сканцэнтраваны паклёп, у 1995 годзе З. Пазьняк зноў быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета, аб чым сьведчылі фронтаўскія апытаньні, назіраньні на выбарчых участках за ходам галасаваньня і падлікам галасоў. Тады рэжым уключыў у „справу" фальсіфікацыйную машыну і абвесьціў, што выбары па акрузе Зянона Пазьняка не адбыліся, не хапіла, маўляў, да кворуму некалькі сот галасоў. Тады, Пазьняк знайшоў 500 ня ўлічаных галасоў. Праверка ЦВК пацьвердзіла гэта. І тады старшыня ЦВК Абрамовіч (ськіваваўшы вочы ў кут) наадрэз адмовіўся прымаць рашэньне. Пракуратура адмовілася разглядаць пытаньне. На двары ўжо быў лукашызм. Не клапаціліся нават пра фармальнасьці. Аналягічным чынам выкідвалі з выбараў іншых фронтаўцаў (быў загад Лукашэнкі: „Ни одного бэнээфовца").

Такім чынам на гэты раз дэпутамі ад Фронту ня стаў ніхто: і сапраўдныя ахвярныя змагары за

Беларусь, і, нешматлікія яшчэ тады, імітатары, якім проста вельмі хацелася называцца дэпутатамі (якія потым, дарэчы, скарыстаўшы новую сітуацыю, пачалі „рабіць грошы” на сьвятой справе змаганьня).

## „ВЫБАРЫ” „ВЕРТЫКАЛІ”

Стала вядома, што А. Лукашэнка зьбіраецца будаваць „вертыкаль”. У Гарсавеце паведамілі, што на бліжэйшай сэсіі дэпутатаў мы павінны будзем зацьвердзіць прапанову Лукашэнкі на пасаду старшыні Гарвыканкама (якую дагэтуль займаў выбраны дэпутатамі А. М. Герасіменка). Кандыдатура трымалася ў сакрэце да самай апошняй хвіліны, і ніхто з дэпутатаў ня ведаў, застанецца А. Герасіменка ці будзе прапанаваны хтось іншы. Сярод дэпутатаў быў рашучы настрой пакінуць Герасіменку, бо ў існуючай палітычнай сітуацыі ён задавальняў большасьць дэпутатаў. Чалавек інтэлігентны, выхаваны, ён умеў сябе паводзіць зь людзьмі, у ім не было савецкага кіраўнічага хамства, характэрнага стылю кіраўнікоў былой намэнклятуры. (У астатнім ён, як і іншыя, служыў рэжыму.)

На паседжаньне сэсіі Лукашэнка пазьніўся. Усе чакалі. Калі ён зьявіўся ў суправаджэньні сваёй аховы (яны ішлі хутка, не зважаючы ні на каго), іх вельмі ветліва сустрэў А. Герасіменка каля свайго кабінета і запрасіў да сябе. (У той момант я якраз была на трэцім паверсе і магла назіраць, як да Лукашэнкі кінуўся Герасіменка, і як Лукашэнка, амаль не зважаючы на яго, як гаспадар, рэзка прайшоў у прыёмную (відаць, каб распрануцца).

Ці паведаміў ён А. М. Герасіменку пра ягоны лёс як старшыні Гарвыканкама, мне невядома. Аляксандар Міхайлавіч прышоў у залю паседжаньняў Гарсавета напужаны, бледны, у прыгнечаным настроі.

Вялікая заля сэсіі Гарсавета была напоўненая біткам. Усе праходы былі запоўненыя журналістамі. Яблыку ўпасьці не было куды. У Прэзыдыюме сядзелі А. Герасіменка (вядучы сэсіі), Лукашэнка і, здаецца, яшчэ нехта. Працэдуры запрашэньня госьця сэсіі Менгарсавета А. Лукашэнкі не было: прышоў і сеў сабе.

Пачалося паседжаньне. Лукашэнка аб’явіў кандыдатуру Ярмошына. Заля охнула (усё ж чакалі, што Герасіменка застанецца). Падчас свайго выступу Лукашэнка вёў сябе нахабна, гаварыў, самаўпэўнена і грэбліва да думкі дэпутатаў. (Па Закону – старшыня Гарвыканкама выбіраецца дэпутатамі на Сэсіі. Лукашэнка зламаў права і Закон і пастанавіў асабіста прызначаць кіраўнікоў. Фармальна мы павінны былі прагаласаваць, але ніякай перашкоды ўзурпацыі ўжо зрабіць было немагчыма.)

Яго расейская мова была малапісьменная, выяўляла думаньне прымітыўнага чалавека. Ён самаўпэўнена давёў да нашага ведама, што мы прагаласуем за яго кандыдатуру. Калі ж не – нашае дэпутацкае рашэньне для яго значэньня ня мае, бо тады ён „вертыкальнага” прызначыць, а Гарсавет распусьціць.

Гэта быў нахабны выклік законнасьці. І каб дэпутацкі склад быў іншым, можна было б змагацца з узурпатарам. Але дэпутаты маўчалі, як маўчала грамадзтва, калі Лукашэнка зьневажаў нашу родную мову, зьневажаў беларускі народ, наш Сьцяг і Гэрб, нашу Канстытуцыю...

Калі пачаліся пытаньні да Лукашэнкі, я падыйшла да мікрафона і падняла руку. І зноў, як і на незаконным сходзе работнікаў адукацыі, на мяне з маленьнем паглядзеў вядучы А. Герасіменка. Жэсты і міміка яго выказвалі вялікую просьбу да мяне не выступаць. Я настойвала. І Аляксандар Міхайлавіч, як і тады, на сходзе, даў мне слова. І зноў выгляд яго быў такі, як бы ён у другі раз падпісаў сабе прысуд.

Я зьвярнулася да Лукашэнкі і нагадала яму, што тут, на сэсіі Гарсавета, ён госьць, а не гаспадар у сваёй хаце, таму мы патрабуем ад яго весьці сябе паважліва да дэпутатаў. Заля зноў охнула, зашчоўкалі фотаапараты, відэакамэры. Я прадаўжала: „Вашыя зьняважлівыя выказваньні супраць беларускай мовы характэрызуюць вас, а не беларускую мову. Як грамадзянка Беларусі выказваю вам свой пратэст і абурэньне. Як бы вы ні стараліся зьнішчыць беларускую мову, гэтага вам ня ўдасца. Беларуская мова жыве тысячу гадоў, яна перажыла ні адну навалу, перажыве і сёньняшнюю. А вам я скажу як спэцыяліст, як настаўніца рускай мовы: вы размаўляеце па-расейску вельмі дрэнна. Гэта не да твару асобе на такой пасадзе. Таму параю вам узяць рэпэцітара і добра павучыцца, і

па-беларуску, і па-расейску. Я гатова даць вам некалькі лекцыяў, калі ў вас будуць цяжкасьці.”

Я разумела, што гавару недапушчальна рэзка, што гэта ня той стыль і тон, якім размаўляюць з прэзідэнтам, але ў дадзеным выпадку трэба было гаварыць менавіта так жорстка і ледзяным голасам, з калгаснай просталінейнасьцю, каб зьбіць зь яго гэтую плебейскую спесь. Іншай мовы ён проста не ўспрыняў бы.

Відаць я не памылілася. У Лукашэнкі, здаецца, быў шок. Ён неяк крыва ўсьміхнуўся і няўдала стараўся перавесьці ўсё ў жарт: „Ну ничэво, мы ещо с вами паработаем в одной камандзе”. Я з упэўненасьцю адказала: „З вамі, спадар Лукашэнка, у адной камандзе я ня буду ніколі”.

Заля назірала, адкрыўшы раты. Тым часам нехта ўслужліва падбег да вуха Лукашэнкі і „доложил обстановку”. Тады той разгублена прамычэў (бо ніякага адпору на сэсіі ён ня толькі не чакаў, але і ўявіць сабе ня мог): „Ну, да, конечна, у вас есть свой презідзент...”

Зьнявага з боку Лукашэнкі ўсіх нас, дэпутатаў, была настолькі хамаватай, што трэба было абараняць годнасьць, спыніць зьневажальніка. Так не павінна было заставацца. Сэсія Гарсавета давала магчымасьць выказаць публічна Лукашэнку маё абурэньне ягонай палітыкай зьнішчэньня Беларусі.

Калі У. Ярмошын (як кандыдат-„вертыкальшчык”) пачаў адказваць на пытаньні дэпутатаў, да мікрафона падышоў дэпутат Камісіі па адукацыі Сяргей Гошка. Настаўнік матэматыкі, ён толькі вучыўся гаварыць па-беларуску і публічна выступаў па-руску. Ён ня быў у Народным Фронце, але відавочна быў прыхільнікам беларускага Адраджэньня. Ён заўсёды абараняў беларускую мову і заўсёды патрабаваў выкананьня Закона аб мове ад чыноўнікаў Гарвыканкама.

Дэпутат С. Гошка задае пытаньне сп. Ярмошыну: „Вы зьбіраецеся кіраваць сталіцай Рэспублікі Беларусь. Як кіраўнік Менска, як бы вы аднесьліся да наступнага выказваньня?” І ён зачытаў цытату з газэты, сэнс якой, прыкладна, такі: „Белорусский язык, язык ограниченных возможностей. Существует только два языка, на которых можно выразить абсолютно всё. Это русский и английский”.

Заля прыціхла. Ярмошын зьдзіўлена паглядзеў на дэпутата (відаць, рашыў, што зь ім нешта ня так), паціснуў плячамі і сказаў: „Это какая-то глупость, и сказаць ее мог какой-то дурак”.

Здавалася, што ў залі ўзарвалася бомба – рагаталі ўсе, нават Лукашэнка выціснуў з сябе ўсьмешку, бо калі хто ў Беларусі і ня ведаў, што гэта была цытата з выказваньняў Лукашэнкі, то, відаць, толькі адзін Ярмошын, які стаяў разгублены і не разумеў, што адбываецца, чаму такая рэакцыя на ягоны абсалютна нармальны адказ.

Калі заля крыху супакоілася, Ярмошын сур’ёзна адказаў, што беларуская мова дзяржаўная, і ён будзе яе падтрымліваць. І трэба сказаць, што адкрыта супраць беларускай мовы ў тыя часы сп. Ярмошын не выступаў. Дапамагаць Лукашэнку разбураць незалежную Беларусь ён стараўся з іншага боку. Напрыклад, 24 Сакавіка 1996 г. ён быў адзін з кіраўнікоў нападу спэцсілаў на дэманстрантаў (што пратэставалі супраць падпісаньня „саюзнай” дамовы Ельцына-Лукашэнкі) у Менску каля будынку тэлебачаньня.

## ШЧАСЬЛІВЫЯ ЗЬМЕНЫ Ў АСАБІСТЫМ ЖЫЦЬЦІ

У ліпені 1995 года ў нашым асабістым жыцьці адбылася шчасьлівая падзея: у касьцёле Сьвятога Станіслава ў Магілёве мы з Зянонам узялі шлюб. Калі ксёндз абвясьціў, што будзе адбывацца шлюб Зянона Пазьняка і мы пайшлі поруч праз увесь касьцёл, вернікі (якіх было поўная сьвятыня) стоячы віталі нас апладысментамі.

На той час я яшчэ знаходзілася на шляху станаўленьня сваёй веры і пад уплывам Зянона яшчэ толькі „ішла да Бога”, але сьвяточны абрад Боскай Таямніцы закрануў маю душу і Боскую Далонь над нашымі галовамі буду памятаць да канца. У тыя імгненьні я адчувала прысутнасьць Бога, які злучаў нашы лёсы назаўсёды.

З намі былі блізкія сябры: Анатоль Трыпуцін, Вольга Кузьміч і яе (сьветлай памяці) муж Васіль, Валянціна і Юзік Такушэвічы і наша Надзейка.

Мы выехалі зь Менску а 6-й раніцы і паехалі ў Магілёў у старажытны і прыгожы касьцёл. Ля касьцёла мы прыпыніліся, каб выйсьці з машыны, як з 5-га ці 4-га паверху дома побач з касьцёлам

пачуўся дзікі лямант. Злосна з перакошаным ад нянавісьці тварам і вар'яцкімі вачыма крычэла на нас і апантана размахвала рукамі ў расчыненым насьцеж вакне нейкая невядомая нам жанчына, паносячы нас на чым сьвет стаіць. Яна беснавалася. Гэта было дзіўна, бо ніяк не было абгрунтавана, пра наш прыезд ня ведаў ніхто, а лямант пачаўся, калі мы яшчэ былі ў машыне і нас ніхто не пасьпеў убачыць.

Зянон неяк доўга задумліва паглядзеў на яе. Потам на мяне. Мы накіраваліся да касьцёла і Зянон пытае:

– Ты не спалохалася?

– Не. А што, гэта дрэнна?

– Што?

– Гэтая баба.

– Ды не, добра.

– А чаму добра?

– Сатана шалее ад злосьці, што мы спаткаліся, – сказаў Зянон, – на дарозе ў храм, – і ўсьміхнуўся.

Я думала, ён жартуе. А ў Касьцёле на каленях побач прад алтаром я адчула над сабой прысутнасьць Духа. Мая душа сталася як частка Нечага і трымцела.



(Фота С. Навумчыка)

*39. 27 ліпеня 1995 года*

Гадоў праз дзесяць цяжкага жыцьця і змаганьня на чужыне, калі самым ня верылася, як гэта мы вытрымалі і трываем, Зянон аднойчы спытаў мяне:

– Ці адчуваеш ты Боскую далонь над нашым лёсам?

– О так, адчуваю,– кажу я,– ўвесь гэты час, усе гэтыя пакутныя гады...

Пасьля шлюбнага абраду ксёндз Блін запрасіў нас з сябрамі на абед, і мы з удзячнасьцю прынялі такое ганаровае запрашэньне.

Перад ад'ездам з Магілёву мы патэлефанавалі старшыні Магілёўскай фронтаўскай арганізацыі Анатолю Фёдараву, і ён імгненна зьявіўся. Пра шлюб ён нічога ня ведаў. Анатоль глядзеў на нас і нічога не разумеў.

– А чаго гэта вы такія ўрачыстыя? І ты, Галя, у блакітнай сукенцы, як нявеста.

– Я і ёсьць нявеста, – кажу.

– Гы-гы-гы, – пасьмяяўся разгублены Анатоль.

– А хто жаніх? – паварочваецца ён да Пазьняка, недаверліва ўсьміхаючыся.

– Ён перад табой, – кажа Пазьняк.

– Гы-гы-гы, – толькі і вымавіў Анатоль і, памаўчаўшы, дадаў: – Ну хопіць, праўда, ну хто?

– Табе ж кажуць, Зянон, – сьмяецца Вольга.

– Ну, кіньце вы мяне разыгрываць, – кажа, нібы пытаецца, Анатоль.

Мы ўсе пачалі рагатаць, бо, гледзячы на Анатоля, стрымацца было немагчыма. Ён вельмі баяўся сьмешна выглядаць, „купіўшыся” на жарт, і ад гэтага выглядаў яшчэ больш сьмешна. Анатоль глядзеў на нас, часаў патыліцу і не здаваўся. Ён ніяк ня мог паверыць, што мы не жартуем і вельмі не хацеў аказацца „ў дурнях”.

Усе доўга сьмяяліся. Калі, нарэшце, да Анатоля дайшло, што гэта ня розыгрыш, ён толькі сказаў „а-а-а” і, не разьвітваючыся, пабег да тэлефона, бо пра гэтую навіну яшчэ ніхто ў Фронце ня ведаў.

А мы тым часам паехалі па нашай Магілёўшчыне і потым – Меншчыне зь яе найпрыгажэйшымі краявідамі на высокі бераг Беразіны, і там, у цудоўным нашым месцы, на гары, у сьветлым сасновым лесе, каля ракі адсьвяткавалі Наш дзень. Надвячоркам Зянон сказаў ехаць у нейкім накірунку аднаму яму вядомымі дарогамі. Ехалі доўга асфальтам потым прасёлачнымі, заехалі ў нейкія таямнічыя мясьціны (у чыё гэта княства?). Неўзабаве і зусім з дарогі зьехалі. Зянон сказаў спыніцца, усім пачакаць ў машыне, а мне выходзіць разам зь ім, узяў мяне за руку і павёў. Неўзабаве я ўбачыла велізарны, мэтры са два ў вышыню, конусаподобны, як егіпецкая параміда, камень зь неглыбока выдзеўбленым вялікім крыжам на гладкім баку. Зянон паклаў на камень ля крыжа руку і кажа: „Гэта Барысаў камень, пра які мала хто ведае. Цяпер будзеш ведаць ты. Датыкайся і думай, што хочаш.” Я паклала на камень далонь і падумала, што хацела.

Такое шчасьлівае і незвычайнае вясельле сталася для мяне найлепшым падарункам лёсу. Само сьвята прыдумаў Зянон, і яно найбольш адпавядала нашым душам: касьцёл, сябры, беларуская прырода.

Але пазьней нашая Койданаўская рада вырашыла зрабіць „сваё” вясельле. Нам з Зянонам паведамілі, што мы на гэтай імпрэзе будзем „дзеючымі асобамі”. Так у вялікім крузе сяброў мы адсьвяткавалі нашае сьвята яшчэ раз. Былі песьні і жарты, пад агульны сьмех нехта паставіў Пазьняка перад праблемай, што цяпер ён павінен „напісаць заяву” ў Койданаўскую раду. Усе былі вясёлыя, казалі нам цёплыя словы і шчыра радваліся за нас.

У Гарвыканкаме, дзе я тады працавала, падзея нашага асабістага жыцьця не прайшла без увагі. Мяне віншавалі на працы супрацоўнікі, старшыня Выканкама і Гарсавета А. М. Герасіменка і яго намесьнікі. Віншавалі шчыра, радуючыся за нас з мужам. Вельмі прыхільна напісалі пра навіну амаль усе газэты, сардэчна павіншавалі нас. Не абышлося і бяз гумару. Дыктар Тэлебачаньня, напрыклад, у манеры Левітана „ад савецкага Інфармбюро”, чаканна паведамляў, нагнятаючы інтанацыю: „Сёньня, 23-га ліпеня 1995 года, у горадзе Магілёве, у касьцёле сьвятога Станіслава...” і г. д. Можна было падумаць, што пачалася вайна ці яшчэ што неверагоднае.

Цяпер, калі я ўспамінаю, мне часам здаецца, што гэта быў сон, які некалі можна ўбачыць ізноў.

## СЯБРА СЯРГЕЙ НАВУМЧЫК

Неўзабаве пасьля нашага шлюбу Зянон выехаў у камандзіроўку, а назаўтра Беларусь даведалася, што ня стала Максіма Танка. Людзі ішлі ў Дом літаратара разьвітацца з Народным паэтам. Там былі ўсе: і хто любіў Беларусь, і хто яе ненавідзеў. Зянона ў Менску не было, але ніхто пра гэта ня ведаў. Я зьбіралася з Гарсавета пайсьці на разьвітаньне адна, але гэта выглядала ня надта добра. І тут раптам мне патэлефанаваў Сяргей Навумчык і сказаў скарагаворкай: „Галя, я зараз пад'еду ў Гарсавет і мы разам паедзем у Дом літаратара”.

Гэта быў рух сяброўскай душы, якая ўсё разумее і якой ня трэба нічога тлумачыць. Увогуле, Сяргей заўсёды ўмеў з'арыентавацца, каб падставіць плячо. Так адбывалася ня раз і на прыёмах замежных амбасадараў. Калі сітуацыя вымагала нейкія перамовы мужа, Сяргей заўсёды ўмеў „апынуцца побач”, каб я (жонка вядомага палітыка) не заставалася стаяць адна сярод чужых людзей. Ён быў і надалей застаецца нашым сябрам, які ніколі ня здраджвае. Ён можа на нейкі час „зьнікнуць” з поля зроку, але мы заўсёды ведаем, што Сяргей – сапраўдны сябра.

Неяк аднаго разу мы зь ім размаўлялі па тэлефоне, і Сяргей, каб перапыніць нейкую нашую спрэчку, лаканічна сказаў: „Ведаеш, я добра ўсьведамляю, што такое Пазьняк для Беларусі”. І гэта праўда, як праўда і тое, што Сяргей добра разумее значэньне кожнай асобы, якая ахвяруецца дзеля Бацькаўшчыны.

Мне вядома таксама, што гэткай жа добрай думкі пра Сяргея Навумчыка быў і Васіль Уладзімеравіч Быкаў. Сяргей быў адзін зь нямногіх, хто вельмі падтрымліваў нашага дарагога Васіля Ўладзімеравіча ў апошнія гады яго жыцьця, і асабліва ў апошнія ягоныя дні.

Сяброўства – гэта Боскі дар, які жыве на Беларусі і дае нам сілы жыць і змагацца.

## САКАВІК 96

24 сакавіка 1996 г. на плошчы каля Опэрнага тэатру адбыўся вялікі мітынг БНФ. Пасьля прамоваў была прынятая рэзалюцыя: ісьці ўсёй грамадой да тэлецэнтра (Круглая плошча) і патрабаваць непасрэдны эфір. Калі вялікая дэманстрацыя падыйшла да тэлецэнтру, у будынак ТБ для перамоваў пайшлі дэлегаваныя Зянон Пазьняк і Павел Знавец (дэпутат Вярхоўнага Савета). Поўная плошча перад тэлецэнтрам і ўся прастора была запоўнена людзьмі. Мы чакалі.

Раптам зьявіліся амапаўцы ў касках-шлемах, са шчытамі і пачалі груба рассякаць людзей. Людзі супраціўляліся і шчыльней сталі адзін да другога. Многія шчапіліся пад рукі. Утварылася нейкае агульнае „цела" натоўпу, якое ў выніку жорсткіх дзеяньняў амапаўцаў загойдалася спачатку ў адзін, затым у другі бок, потым пачало разгойдвацца.

Я стаяла ў самай гушчы перад прыступкамі ТВ. Раптам мяне сьціснула так, што я ледзь ня страціла прытомнасьць. Здалося, што ўжо ня выберуся з гэтага вялікага „цела". Стала страшна, як перад сьмерцю. І раптам нечая моцная рука пацягнула мяне і вырвала з таго месца, дзе я ўжо ледзь ні асела пад ногі шчыльна стаяўшых людзей. Нечыя добрыя рукі цягнулі мяне, і людзі стараліся даць мне магчымасьць праціснуцца. Мяне ведалі і пазнавалі як жонку Зянона Пазьняка і прапіхвалі на край, ратавалі.

Я так і ня ведаю, хто вырваў мяне зь людзкой гушчы. Дужыя рукі выштурхнулі мяне зь небясьпечнага месца і зьніклі.

Мы з Галяй Дзягілевай праціснуліся на прыступкі ТБ. Вакол тварылася злачынства: людзей груба штурхалі, білі, піхалі з плошчы, жорстка „расьсякалі". Але людзі не здаваліся. Нас з Галяй таксама пачалі выцясьняць. Тут я ўбачыла У. Ярмошына. Ён быў у чорнай скураной курткі. Побач зь ім былі яшчэ людзі, але тут кіраваў Ярмошын. Ён аддаваў загады рубленымі фразамі. Выгляд у яго быў жорсткі, злосны і рашучы. Я добра запомніла яго бязьлітасны твар, калі сутыкнулася зь ім. На імгненьне мне падалося, што ён прышоў з таго страшнага часу, з Губчэка. Уся ягоная постаць нагадвала клясычнага энкэвэдзіста, які гатовы катаваць і страляць людзей.

У гэтай суматосе я зьвярталася да амапаўцаў, абураная іхным зьверствам, ізноў жа да Ярмошына, які ў Гарсавеце заўсёды быў са мной ветлівым, але тут – нават галаву адвярнуў, быццам ня бачыў. Да мяне ж нечакана падышоў начальнік Гарадзкога ўпраўленьня ўнутраных справаў спадар Тарлецкі і сказаў ветліва і неяк па-чалавечы зацікаўлена: „Галіна Фёдараўна, вам тут быць непатрэбна, сыходзьце, прашу вас".

Людзей жорстка штурхалі, імкнуліся разагнаць. Дзе мой муж, я ня ведала. Усе ішлі да плошчы Незалежнасьці, але ўжо не арганізаванай калёнай, а групамі. На перакрыжаваньні праспэкта Скарыны і вул. Камсамольскай раптам спыняецца аўтобус, зь яго выбягаюць спэцназаўцы і набягу пачынаюць біць людзей гумовымі кіямі. Гэта было абсалютна нечакана і неабгрунтавана (людзі ішлі мірна і спакойна).

Мы з Галяй убачылі, як насустрач бяжыць спэцназавец з шалёнымі вачыма і набягу лупіць людзей дубінкай направа і налева. Мы адскочылі ў сквер і ўбачылі зьбітага прафэсара Савіцкага. Яго ўжо трымалі людзі і спрабавалі дапамагчы. Вакол беглі людзі, за імі амапаўцы з дубінкамі. Мы з Галяй схаваліся на нейкі час у гарадзкім туалеце.

Наўкол было нейкае вар'яцтва. Налёт, які пачаўся так нечакана, гэтаксама раптоўна скончыўся. Вакол панавала суматоха. Гэтую новую тыпова акупацыйную мэтоду нематываванага нападу на людзей і зьбіцьця ўсіх увёў лукашэнкаўскі Міністар унутранных справаў Захаранка. Памятаю яго грубы выступ па-руску на тэлебачаньні напярэдадні Дня Вайсковай славы, калі ён паграsevera жаў усім расправай. Гэта пры ім амапаўцы пачалі зьбіваць людзей на вуліцах за Бел-Чырвона-Белы сьцяг яшчэ тады, калі ён быў дзяржаўным (1995



*40. Дэманстрацыя БНФ 24 сакавіка 1996 г. у Менску.*

г.). (Пазьней Лукашэнка свайго міністра звольніў і той стаў гаварыць супраць Лукашэнкі, пасьля чаго бяссьледна зьнік. Лічыцца, што ён не жыве. Вінавайцам ў зьнікненьні і магчымай сьмерці міністра падазраюць Лукашэнку.) Вось тады на вуліцы я назірала практычнае ўвасабленьне новай рэжымнай палітыкі, якую потым ўдасканаляць наступныя пераемнікі першага лукашэнкаўскага міністра.



*41. 24 сакавіка 1996 г. у Менску.*

Вечарам мы з мужам былі ў Доме мастацтваў на адкрыцьці выставы мастацкай суполкі *„Пагоня”* ў сувязі са сьвятам 25 Сакавіка, а потым пайшлі ў Дом дружбы народаў на імпрэзу Беларускага Пэн-цэнтру. Журналісты з БТ зьвярнуліся па інтэрв’ю адначасна і да Васіля Быкава, і да Зянона Пазьняка, якія на той момант знаходзіліся на адлегласьці некалькіх мэтраў адзін ад другога. Васіль Уладзімеравіч даваць інтэрв’ю ніяк не хацеў, яго ўгаворвалі, і тады ён сказаў, што пагодзіцца толькі пры ўмове, калі ім не адмовіць Зянон Пазьняк. Пасьля адбыўшыхся падзеяў ён ня верыў, што запіс на БТ калі-небудзь зьявіцца ў эфіры.

Трэба сказаць, што калі праз месяц З. Пазьняк быў за мяжой (якая потым абярнулася эміграцыяй), а я яшчэ знаходзілася ў Менску, я нечакана і неспадзявана ўбачыла гэтае інтэрв’ю Быкава і Пазьняка па БТ, чым была вельмі ўзрушана – знайшліся сьмелыя людзі і прапусьцілі яго ў эфір.

Пасьля імпрэзы Пэн-цэнтру мы з мужам зьбіраліся паехаць на Паўднёвы Захад да Галі Дзягілевай, у якой сабраліся сябры Койданаўскай рады з нагоды 25 Сакавіка. Па дарозе сябра мужа, які вёў аўтамабіль, заўважыў, што за намі ідзе сачэньне. Рознымі прыёмамі кіроўцы ён некалькі разоў „правяраў” свае падазрэньні. Сачэньне ад нас не адстала нідзе. На адным з перакрыжаваньняў (на якім машын на той момант не было) мы зьвярнулі ў бок, парушаючы правілы – „назіраль-

нікі” за намі. Тады мы заехалі ў незнаёмы двор і разьвярнулі машыну. „Сачэньне” ледзь ні наехала на нас. Муж імгненна выйшаў з машыны, падышоў да разгубленых гэбістаў і нешта ім рэзка сказаў. Потым запісаў іхныя аўтамабільныя нумары і мы паехалі назад, у пракуратуру. На вуліцы Уманскага зноў заўважылі сачэньне, але ўжо з іншай машыны.

У Генпракуратуры муж напісаў заяву на дзеяньні сачэньня (з указаньнем аўтамабільных нумароў), і перадаў дзяжурнаму пракурору. Да сяброў мы прыехалі са спазьненьнем на дзьве гадзіны.

## СТРАХ

Назаўтра, 25 сакавіка 1996 г., раніцай я разьвіталася з мужам да вечара і пайшла на працу. Вечарам (як я зразумела, па накіраваньні Зянона) прыехаў на машыне наш нязьменны франтаўскі кіроўца Юзік Такушэвіч і прывёз ліст ад мужа, дзе ён пісаў, што дадому ня прыйдзе, бо рэжым наладзіў за ім паляваньне. Прасіў, каб я не хвалявалася, супакойваў. Але які тут спакой...

Я сьпешна сабрала неабходныя рэчы мужа, і мы паехалі да Ганны Яўхімаўны, маці Зянона, адвезьці ліст для яе. Па дарозе мы заўважылі сачэньне. Машына-сачэньне чакала нас, пакуль мы былі ў Ганны Яўхімаўны. Цяпер нам трэба было адвезьці рэчы мужу. Мы езьдзілі па вуліцах Заводзкага раёну, спрабавалі адарвацца ад „хваста”, але той быў вельмі спрытны. Сітуацыя нагадвала фільм-дэтэктыў, толькі гэта было рэальнае жыцьцё.

Мы зь Юзікам разумелі, што ад нашых дзеяньняў залежыць свобода Зянона Пазьняка, майго мужа. Але адарвацца ад сачэньня ніяк не маглі. Нарэшце, паезьдзіўшы па нейкіх дварах, мы трапілі ў незнаёмы мне тупік. Сачэньня не было відаць, але ўжо было цёмна. Зьлева быў нейкі сад, перад намі быў пустыр, велізарны мокры ад дажджу роў (відаць пракладвалі трубы), справа нейкая мёртвая будыніна, на якой вісела лямпачка і ад ветру гойдалася і скрыпела. Неба ў хмарах, цёмна – і жудасная цішыня.

– Ты пасядзі, пачакай, я аднясу рэчы. Разам мы ня пройдзем. Я хутка, – сказаў Юзік і імгненна растварыўся ў цемры.

Ніколі ў жыцьці мне не было так страшна застацца адной. Там, ноччу, каля невядомага сада і пустыра, перад велізарным ровам, мне хацелася крычаць ад жудасьці і страху, і я толькі мацней уціскалася ў крэсла аўтамабіля.

Раптам ззаду на хуткасьці пад’ехала машына і, асьвяціўшы мяне ў абсалютнай цемры фарамі, рэзка затармазіла. Сьвятло фараў пагасла.

Я ўрасла ў крэсла і (каб ззаду не было відаць маёй галавы) ціха спаўзла ўніз. Неверагодныя карціны жаху мільгалі ў галаве, і самая жудасная – я ляжу на дне рова, дзе ніхто мяне ня знойдзе. А перад вачыма быў жудасны роў...

Ня ведаю, ці хутка прышоў Юзік, мне падалося, што прайшла вечнасьць. Калі ён адчыніў дзьверы аўтамабіля, я была амаль беспрытомная ад страху. Як мы выехалі, дзе дзелася машына, што стаяла ззаду, як мы даехалі да дому – ня памятаю. Калі Юзік адчыніў дзьверы аўтамабіля, я не магла ўстаць з крэсла. Ён неяк выдраў мяне з машыны, але я не магла выпрастацца. Так сагнуўшыся я і дацягнулася да кватэры. Юзік паехаў, а я так і засталася сядзець у крэсьле да раніцы.

Затым пачаліся доўгія дні чаканьня. Дзе мой муж, я ня ведала, ведала толькі, што ён у сяброў, што ўсё ў парадку.

Праз нейкі час Зянон патэлефанаваў мне з Кіева, потым з Варшавы, Прагі. Сустрэліся мы толькі праз некалькі месяцаў.

Напярэдадні гадавіны Чарнобыльскай катастрофы ў маёй сяброўкі Вольгі Кузьміч памёр бацька, і 25 красавіка мы паехалі яго хаваць на Віцебшчыну. 26 красавіка па радыё „Свабода” я пачула, што Зянон у Менску. Я зразумела, што гэта ненадоўга і я ўжо не пасьпею даехаць, каб пабачыцца. Ад вялікага болю я ня тое, што плакала, я выла, як вые воўк ці сабака – так выходзіў зь мяне боль раставаньня і невядомасьці.

* * *

Калі Зянон Пазьняк апынуўся ў эміграцыі, а я яшчэ заставалася ў Менску, мае сябры сачылі, каб са мной і дачкой чаго ня сталася. І вось аднойчы амаль а 12-й гадзіне ночы ў дзьверы маёй кватэры пазванілі.

– Хто там? – зьдзіўлена спытала я.

– Адкрывайце, міліцыя.



*42. Менск, 26 красавіка 1996 г. Нечаканае вяртаньне З. Пазьняка з-за мяжы на Чарнобыльскі Шлях – 96.*

– Так позна? Зь якой нагоды? – пытаюся.

– У нас сведенія, что вы скрываете чеченцев, открывайте.

– Што за глупства, нікога я не хаваю і адчыняць вам не зьбіраюся.

– Открывайте, а то хуже будет, – пачула я пагрозу за дьвярыма.

Гэта былі ня жарты, асабліва, калі пачалі грукатаць ботамі ў дзьверы, а я ў хаце ўдваіх з дачкой. І ноч – хоць вока выкалі.

Я пасьпела патэлефанаваць сябру Сяргею Антончыку, і, як мне падалося, праз хвілінаў дзесяць Сяргей, Валік Голубеў і яшчэ некалькі сяброў Койданаўскай Рады ўжо былі ў нашай кватэры. Потым пад'ехалі Галя Навумчык і Аляксандар Лукашук.

Усе яны прыехалі абараніць нас з дачкой неяк імгненна, быццам у іх былі крылы. І я супакоілася, бо са мной былі мае сябры. Для мяне гэты сяброўскі клапат, як кажуць, быў дарагога варты.

## ГАЛАДОЎКА СІЎЧЫКА-ХАДЫКІ

Вячаслава Сіўчыка (сярод іншых) схапілі пасьля Чарнобыльскага Шляху-96. Схапілі, моцна закруцілі рукі, зьбілі. Ю. Хадыка ж быў „на волі". Зянон Пазьняк папярэдзіў яго пра небясьпеку арышту і аб небясьпецы начаваць дома. Тым ня менш, Ю. Хадыка пайшоў дахаты, дзе яго раніцай спакойна (без зьбіцьця) і „ўзялі", калі ён выходзіў з дому.

У знак пратэсту супраць незаконнага арышту В. Сіўчык і Ю. Хадыка абвесьцілі галадоўку. Але галадоўка для іх мела і рознае значэньне, і розныя вынікі.

Прайшло 3-4 дні галадоўкі, і на паседжаньні Ўправы жонка спадара Хадыкі з абурэньнем расказала мне, што яе „бясхітрасны" муж сказаў сьледчаму ў пастарунку, што для яго галодоўка ня старашная, што ён, наадварот, паправіць здароўе, ачысьціць арганізм ад шлакаў і што ён робіць гэта пэрыядычна (потым ён выказаў гэта ў адным інтэрв'ю газэце пасьля выхаду з-пад арышту). Хадычыха абуралася, навошта муж расказаў пра гэта (маўляў, гэта непрадбачліва). „Як галадаць – ён ведае, прасіў прынесьці клізму", – дадала яна. (Пра „клізму" я таксама чытала і ў інтэрв'ю самога спадара Хадыкі, здаецца ў газэце „Имя", пасьля таго, як ён ужо быў дома). У камэры спадара Хадыкі былі газэты і нават тэлевізар, аб чым сьведчыў здымак у газэце.

Зусім па-іншаму вяглядала галадоўка для Вячаслава Сіўчыка. Ён галадаў зацята, ня ведаючы мэдыцынскіх умоваў галадоўкі, ня піў ваду, не рабіў клізмаў (проста галадаў). Праз нейкі час пачалося самаатручваньне яго арганізма і паўстала небясьпека жыцьцю. У дадатак В. Сіўчык аб'явіў „сухую" галадоўку (якая доўжылася 16-17 дзён!). Ён рэальна мог загінуць. Рэжым жа да галадуючых ставіўся абсалютна абыякава (маўляў, памруць, дык памруць, самы вінаватыя).

З просьбай прыпыніць галадоўку да галадуючых зьвярнуліся Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык, якія на той час былі за мяжой. Але В. Сіўчык, як кажуць, „упёрся рогам" і саступаць рэжыму не зьбіраўся. Ён проста паміраў.

Усе дні галадоўкі ішла сур'ёзная барацьба за жыцьці нашых сяброў. Актыўна змагаліся за жыцьці галадуючых Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык у замежжы. Імі былі напісаны звароты ў розныя міжнародныя арганізацыі, пасланыя лісты, дзе абмалёўвалася сітуацыя і просьба дапамагчы беларускім вязьням. Выступы на радыё, тэлебачаньні, у друку – ўсё для прыцягненьня ўвагі міжнароднай супольнасьці. Нарэшце, па ініцыятыве Сяргея Навумчыка, ім удалося праз С. Кавалёва і Г. Яўлінскага выйсьці на Ельцына, і гэта вырашыла справу. Хадыку і Сіўчыка выпусьцілі з-пад арышту

Без усіх гэтых захадаў баюся, што канец гісторыі рэальна мог стацца трагічным для Сіўчыка, ня гледзячы на тое, што Фронт на Беларусі таксама шмат рабіў для ўратаваньня галадуючых. Фронт выстаўляў пікеты пратэсту, былі накіраваныя звароты да дэпутатаў, зьбіраліся тысячы подпісаў грамадзянаў з патрабаваньнем вызваліць галадуючых. Сваякі спадара Хадыкі (жонка, сёстры) ўсюды хадзілі-езьдзілі з плякатамі, напісанымі друкаванымі літарамі на адзежы, з патрабаваньнем вызваліць прафэсара Ю. Хадыку (і не здымалі іх аж пакуль іх брат-муж ня быў вызвалены), яны станавіліся ня толькі ў фронтаўскія пікеты, але рабілі яшчэ і свае, асабістыя і г.д. Але на ўсе шматлікія пратэсты рэжым не зважаў.

У В. Сіўчыка якраз нядаўна нарадзіўся сын (яму было ўсяго некалькі месяцаў). Трэба было імгнення прымаць меры для выратаваньня гэтай сям'і. Таму на Ўправе БНФ я прапанавала зьбіраць сродкі для рэпрэсаваных (якіх было шмат) і на падтрымку іхных сем'яў. „Асабліва шкода маленькага 6-месячнага сына Сіўчыка і жонку Ганну, якая ня мае сродкаў да існаваньня," – зьвярнулася я да калегаў і прапанавала кандыдатуру Алеся Бяляцкага, які б узначаліў гэтую дапамаговую акцыю.

А. Бяляцкі катэгарычна адмовіўся і прапанаваў, каб я і „ўзначаліла" гэтую працу. Адмаўляцца яшчэ і мне ў такой сітуацыі не выпадала, Управа прагаласавала – і я ўзялася. Але з чаго пачаць? Я вырашыла – з дэпутатаў.

Назаўтра ж я выступіла на сэсіі Гарсавета (ў „розным") са зваротам: „Я зьвяртаюся зараз да вас, спадары дэпутаты, не як да прадстаўнікоў пэўных партыяў ці плыняў. Я зьвяртаюся да вашага сэрца. Ня гледзячы на вашую прыналежнасьць да любога іншага (ня згоднага з маім) палітычнага накірунку, прашу вас дапамагчы маленькаму 6-месячнаму чалавеку выжыць у сітуацыі, калі ягоны бацька, сябра Беларускага Народнага Фронту, ахвяруе ўласным жыцьцём за ідэю незалежнасьці нашай Беларусі".

У перапынку да стала, дзе я сядзела, падыходзілі дэпутаты і ахвяравалі ўласныя грошы. Сярод іх былі і камуністы, якія былі супраць Народнага Фронту і ідэі незалежнасьці.

Я адразу ж аддала ўсё сабранае Ганьне. Памятаю, да мяне ва Ўправе падышла жанчына і сказала, што яе сын-прадпрымальнік ня можа асабіста перадаць грошы Ганьне Сіўчык, але прасіў перадаць ёй грошы праз мяне. І яна працягнула мне

100 даляраў ЗША. Я падзяквала і таксама аддала іх Ганьне.

На падтрымку ўсіх затрыманых і іх сем'яў грошы ў Фронце зьбіраліся актыўна. Ужо была ўтворана Камісія па збору сродкаў у падтрымку рэпрэсаваным зь некалькіх чалавек. На ўсе ахвяраваньні складаліся справаздачы (колькі грошай і хто здаў, каму былі разьмеркаваныя). Найчасьцей я старалася выдаткаваць Ганьне Сіўчык, памятаю, Алесь Бяляцкі мяне нават стрымліваў: „Дастаткова, ты ўжо занадта шмат ёй выдзяляеш". Потым, калі я паехала ў эміграцыю, ён узначаліў гэтую камісію і яна ўвайшла ў „Вясну-96".

Выпусьцілі галадуючых Сіўчыка і Хадыку толькі на 17-я суткі. Калі мы прыехалі з кветкамі, каб у належны час забраць нашых герояў (менавіта так мы ўспрымалі іхную галадоўку), у пастарунку іх ужо не было: нас проста падманулі і паведамілі іншую гадзіну. Мы адразу патэлефанавалі спадару Хадыку дадому і даведаліся, што дома ў яго было поўна радні, што ўсе яны радыя вызваленьню, ніякіх вострых праблемаў няма, усё ў парадку, што назаўтра спадар Хадыка абавязкова ляжа ў шпіталь на рэабілітацыю. Нас запэўнілі, што ўсё будзе добра, каб мы не хваляваліся і ад прапанаванай дапамогі ветліва адмівіліся.

Мы паехалі да Вячаслава Сіўчыка. Калі я ўбачыла Славу, ляжачым на ложку, худога да немагчымага, які зусім ня мог ні рухацца, ні гаварыць, а толькі слаба ўсьміхаўся, сэрца маё сьціснулася. Выглядаў ён вельмі дрэнна, ня мог ня толькі стаяць, але нават сядзець. Хворы і зьнясілены, ён ляжаў на ложку, і ўсе мы вельмі непакоіліся за ягонае жыцьцё.

І жонка Славы Ганна, і ягоная маці, і ўсе мы разумелі, што Славу неабходна тэрмінова везьці ў шпіталь на рэабілітацыю. Але на просьбы сваіх родных зрабіць гэта ён наадрэз адмовіўся, сказаўшы, што ў „казённым доме" ён ужо наляжаўся дастаткова.

Зь вялікім спачуваньнем я глядзела ў трывожныя вочы жонкі і маці Славы, якія прасілі дапамагчы ўгаварыць яго паехаць у шпіталь (бо іхныя ўгаворы не прывялі ні да чаго). І пачалася гаворка. Я паведаміла, што зь лекарамі ўсё ўжо дамоўлена. (Гэта была праўда, бо мы з Юзікам Такушэвічам заранёў зьезьдзілі ў 3-ці клінічны шпіталь. Я гаварыла зь лекарамі як дэпутат, заручылася іхнай падтрымкай і згодай прыняць нашага героя неадкладна. Увогуле, мы зь Юзікам пераканаліся, што лекары прыхільныя да Фронта і ўсё будзе, як належыць.) „Калі табе ў шпіталі што-небудзь не спадабаецца, мы адразу забярэм цябе дадому па першым тваім патрабаваньні, абяцаю", – заверыла я Славу, каб ён быў спакойны і не хваляваўся. Так агульнымі намаганьнямі нам неяк удалося ўгаварыць яго легчы ў шпіталь, і мы зрабілі гэта неадкладна. У шпіталі ўсё атрымалася так, як мы і спадзяваліся. Лекары аднесьліся да свайго новага пацыента вельмі ўважліва і са спачуваньнем.

Здаецца, назаўтра мы наведалі спадара Хадыку ў 2-м „Савецкім" шпіталі. Ён выглядаў зусім інакш: сам выйшаў да нас на калідор. Твар ягоны быў схуднелы, але гаварыў ён бадзёра і ўпэўнена, весела і аптымістычна ўсьміхаўся.

У тыя дні ў падтрымку вязьняў Ларыса Урбан прывезла грошы і ад Рады БНР. Гэта дапамога была мэтанакіраваная, ішла не праз фронтаўскую Камісію і я ня ўмешвалася. Ларыса проста паведаміла мне пра гэта і што перадаў ёй гэтыя грошы (па 200 даляраў кожнаму) Сяржук Сокалаў-Воюш для пяці чалавек. Ларыса папрасіла мяне разам зь ёй зьезьдзіць у шпіталь да Сіўчыка і Хадыкі (дзе яны знаходзіліся на той час), каб аддаць матэрыяльную падтрымку ад Рады БНР. Першым у двары шпіталя мы ўбачылі В. Сіўчыка, які паўляжаў на лавачцы (побач сядзела Ганна), ён быў, як і раней, худы і зьнясілены і здавалася, зусім ня меў сілы. Ларыса перадала яму капэрту з грашыма, але Слава нават не глянуў на яе і сказаў, каб аддалі жонцы.

Потым бачыліся з Хадыкам, і Ларыса перадала яму дапамогу, каротка пагаварылі пра самаадчуваньне. Ён казаў што ў цэлым адчувае сябе нядрэнна.

Пасьля курса рэабілітацыі спадар Хадыка паехаў на аздараўленьне ў Ізраіль – нейкім цудам яму ўдалося дамагчыся візы і выехаць. На тыя часы атрымаць замежны пашпарт і візу, каб выехаць за мяжу, было вельмі складана. АВІРы адмыслова працавалі марудна, і чэргі там былі „на гады". Але і рэжым тады яшчэ ня быў такім ўсемагутным, як цяпер, людзі яшчэ знаходзілі магчымасьці нешта рабіць.

Слава Сіўчык цяжка і доўга аднаўляў свае сілы ў Менску. Памятаю, у яго былі сурёзныя праблемы са здароўем, нейкі час была небясьпека страты працаздольнасьці рукі, якую моцна перабілі ці „закруцілі" гарылы рэжыму і яна, як казалі, „усыхала".

## СУСТРЭЧА-ВЫРАТАВАНЬНЕ

З мужам убачыліся мы толькі ў канцы траўня ў Варшаве. Я ехала да яго, як на крылах ляцела. Муж сустрэў мяне з кветкамі. Я плакала ад пераўжытага і ад шчасьця. Але той страшны выпадак, той страх, не прайшоў для мяне бяссьледна. Я ўздрыгвала ад самага слабага скрыпу дзьвярэй, ад усялякага гука, плакала без прычыны. Муж усё зразумеў. Цэлы месяц мы былі разам. Ён ня проста мяне аберагаў, ён ахінуў мяне сваёй цеплынёй і трымаў датуль, пакуль я ўнутрана не супакоілася. Мы гулялі па Варшаве, муж быў надзвычай уважлівым. Ён прадугледжваў любую дробязь, каб я не захвалявалася, каб мне было ўтульна і камфортна. Калі аднаго разу ён выходзіў на балкон, то ад скразьняку стукнулі дзьверы. Муж імгненна ўскочыў у пакой да мяне, каб пераканацца, ці не спужалася я. Ён перажываў за мяне так, як быццам я была шкляная і магла „разьбіцца" ад самага маленькага ветру.

Тады, у 1996 годзе, Зянон часта выступаў у заходнім друку (розныя інтэрв'ю), па тэлебачаньні. Таму дзе б мы ня йшлі, яго ўвесь час пазнавалі палякі, ціснулі яму руку, выказвалі сваю салідарнасьць і падтрымку. І гэта было амаль на кожным кроку.

Месяц праляцеў, і я ад'ехала ў Менск, дзе мяне чакала дачка і мама. Праз нейкі час я прыехала зноў. І вось у пачатку ліпеня Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык ад'ехалі з Варшавы ў Лёндан і потым у ЗША па запрашэньні амэрыканскай ўрадавай арганізацыі. Мы дамовіліся, што, як яны вернуцца ў Варшаву, я прыеду да іх ізноў.

## ЭМІГРАЦЫЯ. ВАРШАВА

25 ліпеня 1996 г. Зянон патэлефанаваў мне зь Нью-Ёрку і сказаў, каб мы з дачкой тэрмінова прыехалі ў Варшаву. Мы дамовіліся, што праз два



***43. Фота разам па дарозе на Гомельшчыну.***

дні мы прыедзем (так прасіў і настойваў муж), а ён прыляціць і сустрэне нас у Варшаве. Размова падалася мне нейкай дзіўнай, але я ня стала задаваць ніякіх пытаньняў, бо разумела, што нашу размову слухае КГБ. Ад радасьці, што мы спаткаемся, я не раздумваючы стала зьбірацца.

Назаўтра патэлефанавала Галя Навумчык. Мы сустрэліся ў скверы каля Купалаўскага тэатра. І тут яна мне сказала, што таксама размаўляла з Зянонам, што размова была „эзопава", але напэўна мы ад'едзем у эміграцыю. Я толькі спытала: „Як ты думаеш, на які час?"

– Думаю, на год, а мо' і на 5, – сказала Галя.

Трэба сказаць, я гэта ўспрыняла спакойна. Слова „эміграцыя" тады для мяне ня значыла нічога, я адчула ў ім нейкую рамантыку, магчымасьць пабачыць сьвет (а езьдзіць я любіла). Паняцьці „рамантыка", „вандроўка" наклаліся на паняцьце

„эміграцыя”, засланіўшы на той час зьмест гэтага жахлівага страшнага слова, і я як бы забылася пра сэнс нашага ад’езду. З дачкой Надзеяй мы дамовіліся, што ў жніўні вернемся. Я сама ў гэта шчыра верыла.

Мы хутка сабраліся, узялі толькі летняе адзеньне. Перад ад’ездам я накансэрвавала шмат кампотаў зь ягад, наварыла чарнічнага варэньня і папрасіла маму разьліць па банках, калі яно астыне (вядома ж, зімой як знойдзем).

28 ліпеня 1996 года мы з дачкой прыехалі ў Варшаву, але сустрэў нас знаёмы мужа, адвёз на кватэру, даў ключы і зьехаў. Мы з дачкой апынуліся адны ў чужой кватэры, у чужым горадзе, у чужой краіне. Патэлефанаваў муж і сказаў, што пляны зьмяніліся, і хутка мы паедзем у Нью-Ёрк.

Тым часам стала вядома, што Лукашэнка прызначыў у беларускай амбасадзе ў Варшаве спэцыяльную „адзінку” для выяўленьня і „вяртаньня” „ворагаў народа” – грамадзянаў Беларусі за мяжой. Да таго часу рэжым ужо назваў Пазьняка і Навумчыка „ворагамі народа” (хоць пасьля адкрыцьця страшнай праўды пра Курапаты здавалася, што гэтая тэрміналёгія ня вернецца ніколі). Таму для мяне было зразумела, чым зьбіраліся займацца спэцслужбы рэжыму Лукашэнкі ў Варшаве і пад каго канкрэтна была ўведзена тая „адзінка”. Вяртацца ў Варшаву Зянону Пазьняку і Сяргею Навумчыку стала небясьпечна. У гэты ж час ім стала вядома пра рашэньне лукашэнкаўскіх спэцслужбаў аб „нэўтралізацыі” (г.зн. забойстве) Зянона Пазьняка на тэрыторыі Польшчы і (пад пытаньнем) Сяргея Навумчыка. Неўзабаве яны папрасілі палітычны азыль у ЗША і атрымалі яго вельмі хутка, за два тыдні (звычайная працэдура цягнецца значна даўжэй). Муж патэлефанаваў і сказаў, што цяпер мы хутка прыедзем у ЗША, бо па законах гэтай краіны ўзьяднаньне сям’і павінна адбывацца на працягу 2-4 тыдняў.

Мы з дачкой чакалі, што хутка паедзем у Амэрыку, але што за гэтым стаіць (што трэба будзе застацца там) – мы пра гэта ня думалі. Паедзем – потым вернемся (уяўлялася так). Ні вопыту, ні ведаў пра эміграцыю у нас не было. Прайшоў жнівень, а дазволу на ўезд у ЗША не было. Мы пайшлі высьветліць гэтае пытаньне ў амэрыканскую амбасаду. Там нам паведамілі, што пра нас з дачкой ведаюць, нашыя прозьвішчы ў кампутары, але з Амэрыкі не прыйшоў яшчэ нейкі жоўты блянк і, верагодна, нам прыдзецца пачакаць месяцы тры.

Я не паверыла сваім вушам. Тры месяцы?! Яны, відаць, жартуюць. Такога ня можа быць, гэта вытрымаць немагчыма – роіліся думкі.

Але прайшлі тры месяцы, чатыры, пяць – папераў не было. І паступова пачала падступаць настальгія. Хто яе не перажыў, таму цяжка патлумачыць значэньне гэтага слова, бо гэта ня проста „знаходжаньне ўдалечыні ад Беларусі” – гэта немагчымасьць вярнуцца. Неверагодная туга не адпускае ні ўдзень, ні ўначы. Баліць душа. І гэта нельга нават параўнаць з баленьнем цела (хоць боль фізічны вельмі пакутлівы).

Мы жылі паміж Амэрыкай, Польшчай і Беларусяй. Мужу не выдавалі выяздных дакумантаў, нас не пускалі туды. У Амэрыцы муж, у Беларусі мама, дом, Радзіма. Мы з дачкой – ў Варшаве, дзе адчувалі сябе адзінока і няўтульна. Кожны дзень размаўлялі па тэлефоне з Нью-Ёркам, Менскам – і не маглі нагаварыцца. Тут, у чужой краіне, усё было няміла. (Краіна, канешне, тут ні пры чым. Гэтаксама горка нам бы было ў любой іншай краіне Эўропы.) Мы адчувалі сябе абсалютна адны, як у вакууме.

Асабліва цяжка было вечарам, калі адзінота і жах падпаўзалі блізка, проста ў пакой. Боязна было выключыць сьвятло, і мы з дачкой уключалі тэлевізар, які не разумелі. Але ён нешта гаварыў, і было ня так жудасна.

А яшчэ мяне мучылі мацярынскія думкі-пачуцьці. Пачаўся навучальны год, дачка павінна была пачаць вучобу на другім курсе юрыдычнага аддзяленьня Гандлёвага тэхнікуму, а яна заставалася ў Варшаве і замест вучобы сядзела са мной ў чужой краіне. Дачушка таксама вельмі мучылася, бо ў 18 год апынуцца, фактычна, у затачэньні і без усялякага веданьня „пэрспэктывы” нашага цярпеньня, без сяброў у гэтым узросьце, сапраўды, нялёгка. І разумеючы, што гэтыя яе мукі праз мяне, я не знаходзіла сабе месца. Надзя рвалася ў Менск, я жудасна баялася за яе, ведаючы зьвярыныя павадкі рэжыму, і ніяк адпусьціць яе не магла. Але дачцы было так кепска і дрэнна, яна мучылася неверагодна і ўвесь час прасіла адпусьціць яе з

гэтай „турмы” без „прысуду”. Ступень небясьпекі ад рэжыму для сябе яна не ўсьведамляла.

Гэтымі ўсімі мукамі я была даведзеная да мяжы. І тады я сказала дачцы, што адпускаю яе, але гэтую разлуку і яе вяртаньне ў абцугі рэжыму перажыць ня ў стане, бо ведаю, што адпускаю яе на пагібель.

Маё гора было настолькі сапраўдным, што, перамагаючы сваё цярпеньне, дачка вырашыла за-



*44. Жыве Беларусь!*

стацца з маці, якая праста памірала ад гора. І мы разам і плакалі, і суцяшалі адна адну.

Ішлі дні, падобныя адзін на другі. Туга падступала шчыльней. Мне было вельмі цяжка, але, думаю, яшчэ цяжэй было дачушцы Надзеі, якая была адарваная ад сяброў-аднагодкаў і ўсе дні падрад сядзела ў хаце са мной (у чужым горадзе нікуды ісьці не хацелася, ды мы і ня ведалі тут нічога).

Аднаго разу, едучы ў трамваі, я задумалася і заехала далёка. Так выпадкова я апынулася ў варшаўскім парку, што ў раёне „Прагі”. Я ішла па ім і казала сабе: „Глядзі, тут такая самая трава, канюшына, кветкі, рэчка цячэ, як у нас, на Беларусі, дрэвы... Ну ўсё-ўсё амаль такое самае, як у нас!”

Але і сярод гэтага цудоўнага кутка прыроды не магла забыцца і ўявіць, што я дома. Усё навокал было прыгожае – і чужое.

„Чаго ж табе трэба? – пыталася я сама ў сябе. – Ты любіш прыроду, лес, рэчкі, лугі – вось яны, перад табой. І яны такія ж, як на Беларусі. Дык што? Што ж так цягне душу?” А душа ў такія моманты адчуваецца проста фізічна, бо яна баліць і цягне на Ўсход. І гэта вельмі цяжкая мука.

Каб неяк ратавацца, мы з дачкой спрабавалі розныя спосабы. Спрабавалі чытаць – не чыталася. Я спрабавала шыць сукенкі-касьцюмы ўручную (машыны не было). Пашыла некалькі рэчаў – але ўсё гэта ня радвала. Хадзілі ў крамы, разглядалі розныя тавары, куплялі нешта смачнае. Але ўсё гэта не дапамагала – хоць золата насып у талерку. Нічога было ня міла і нічога ня трэба, акрамя Беларусі. Дадому – хоць на ваду і хлеб, хоць апранутай у дзяругу, хоць у турму. А дадому было нельга...

Калі душа цягне на Радзіму, Бацькаўшчыну не заменяць і залатыя горы. Гэтую ісьціну мы моцна выпакутавалі.

* * *

Жыцьцё ў чужой краіне без усялякага „статусу” – цяжкае жыцьцё. Здавалася б, такое простае слова – „правы”, але калі іх няма – дрэнныя справы.

Трэба было неяк брацца за польскую мову і мне, бо бяз мовы ў Польшчы (як і ва ўсім сьвеце, акрамя Беларусі) – зусім дрэнна. Ну, вось напрыклад, спатрэбілася нам неяк аптэчная рамонка. Пытаемся з дачкой у аптэцы рамонак, кажам „рамонак” – і чуем у адказ: „Не розумем пані”. Мы спрабуем па-руску – „ромашка”. І зноў чуем тое ж „не розумем”. Спрабуем намаляваць кветку – зноў у адказ адчэпнае „не розумем”. Як высьветлілася пазьней, „рамонак” па-польску – „румянэк”, чаго мы на той момант, на жаль, ня ведалі. Словы вельмі падобныя, і, пры жаданьні дапамагчы, здагадацца, на наш погляд, было б ня цяжка (так думаецца звы-




(Фота У. Кармілкіна)

*45. „Жыве Беларусь” у Івянцы.*

чайнаму беларусу, які імгненна адгукаецца на чужую просьбу). Але спадарыня ў аптэцы ўпарта не разумела нас ў чужой мове. (Гэта зусім ня тое, як у нас – „зачем этот белорусский язык”.)

Некалькі разоў мы натыкаліся на раўнадушнае „не розумем” у вельмі простых сітуацыях, што дало нам падставы ўспрымаць гэтыя словы як „адчапіцеся”, „нам да вас, чужынцаў „зэ всходу”, няма ніякай справы”. Стала зразумела: проста так, бяз польскай мовы, нам дапамагаць ніхто не зьбіраецца, нават у простых сітуацыях. Выснова такая: трэба вучыць польскую мову.

У Варшаўскім ўнівэрсітэце былі адчынены бясплатныя курсы па вывучэньні польскай мовы, але для людзей са статусам „уцекача” ці палітычным азылем. Мы ж ніякага статусу ня мелі, як і права наведваць гэтыя курсы таксама.

Такая „бясправўная” сітуацыя прывяла мяне ў Варшаўскі Гэльсінскі камітэт. Мы з дачкой вырашылі зьвярнуцца туды, каб атрымаць ад яго хадайніцтва да ўнівэрсітэту па наведваньні курсаў польскай мовы.

Пакуль мы чакалі сваёй чаргі, супрацоўніца ГК некалькі разоў зьвярталася да нас (каб мы пачакалі), і назвала неяк маё прозьвішча (пані Пазьняк). Гэты зварот да мяне пачуў невядомы мне чалавек, які таксама чакаў сваёй чаргі. Ён аказаўся з Самалі, і (што мяне надзвычай зьдзівіла), ён зьвярнуўся да мяне на ламанай расейскай мове так:

– Извините пожалуйста, но ваша фамилия такая знаменитая, это фамилия известного белорусского лидера Позняка. Вы случайно не имеете к нему отношения?

Супрацоўніца ГК заўсьміхалася, і я ціха адказала, што гэта мой муж. Рэакцыя таго самалійца была нечаканай. Ён узрадваўся, пачаў расказваць пра сябе і пра тое, што ён ведае, хто такі Пазьняк, што „это очень известный человек во всём мире” і што ён „очень рад познакомиться с женой такого большого человека”.

Тут мяне паклікалі ў кабінет, і больш я ня бачыла гэтага самалійца. Але потым, асабліва калі пачалі расколваць Фронт, я ня раз успамінала гэты выпадак, бо зламаць жудасны прамаскоўскі рэжым на Беларусі ў тыя часы было магчыма, але дзейнічаць трэба было зладжана, выкарыстоўваючы імёны і асобы вядомых беларусаў, і ў першую чаргу – вядомае ў сьвеце палітычнае імя Пазьняка. Замест гэтага – разбурылі вялікія магчымасьці палітычнай сітуацыі другой палавіны 90-х гадоў, калі імя Пазьняка было сьцягам барацьбы. У тыя гады Пазьняк меў падтрымку і ў Эўропе, і ў Амэрыцы. Яму трэба было толькі абаперціся на сяброў. А сябры, шмат якая сябры, ў той час (у той час, калі Пазьняк апынуўся ў бядзе) займаліся „палацавымі пераваротамі”... Так паўтараецца наша гісторыя і наша мэнтальнасьць. І калі яна гэтак будзе паўтарацца далей – Беларусь не падымецца.

## ПАЧАТАК ВЫДАНЬНЯ „БЕЛАРУСКІХ ВЕДАМАСЬЦЯЎ”

Перад ад’ездам у Амэрыку рэдакцыя тыднёвіка *„Nowe Państwo”* у якасьці салідарнай дапамогі Беларусі прапанавала Пазьняку выдаваць дадатак да сваёй газэты *„Wiadomości Białoruskie”* на польскай мове, рыхтаваць які павінны былі С. Навумчык і З. Пазьняк. Рэдакцыя зьняла кватэру пад офіс для *„Беларускіх Ведамасьцяў”*. Кватэра была – перарobленая аднапакаёўка. З кухні быў зроблены маленькі пакойчык, газавую пліту перанесьлі ў пакой (атрымаўся „пакой-кухня”). Гэта было нязручна, бо новасьпечаная „кухня” была без вакна, у невялічкім алькове на супрацьлеглым баку ад вакна, так што там заўсёды было цёмна, не хапала сьвятла і сьвежага паветра, пахла газам. Пастаянна нешта здаралася і з вадаправодам, бо зроблена ўсё было недасканала. Але мы не зважалі на цяжкасьці і заўсёды, калі да нас прыязджалі сябры зь Беларусі, у нас знаходзілася месца (праўда, на падлозе), і мы былі радыя ўсім нашым гасьцям. У гэтай кватэры мы жылі і працавалі над стварэньнем нашага часопіса.

Да ад’езду ў Амэрыку Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык выпусьцілі адзін нумар і меркавалі, што праца прадоўжыцца. На той час да Пазьняка зьвярнулася сям’я Зянковічаў. Іх сын Юрась вучыўся на 1-м курсе ўнівэрсітэта ў Любліне. Яны хацелі перавесьці сына ў Варшаву, але ім адмовілі. Тады яны праз мяне зьвярнуліся за дапамогай да Пазьняка (які быў у Нью-Ёрку). Зянон прыслаў факс з Нью-Ёрку на імя рэктара Варшаўскага ўнівэрсітэту з просьбай дапамагчы. Гэтага сталася дастатковым (аўтарытэт Пазьняка сярод польскай эліты быў вельмі высокі), і Ю. Зянковіч тут жа быў пераведзены ў Варшаўскі ўнівэрсітэт. Ён ўзяўся тэхнічна дапамагчы ў нашай працы. З. Пазьняк прысылаў па факсу матэрыялы з Нью-Ёрка ў рэдакцыю (С. Навумчык восеньню 96-га пераехаў у Прагу). Задача Ю. Зянковіча была ў тым, каб сярод вялікай колькасьці рэдакцыйных факсавых матэрыялаў нашыя не згубіліся і былі перададзены для перакладу на польскую мову. Вёрстку польскага нумара рабіла рэдакцыя „Новэго Паньства”. Так выйшла яшчэ 2 польскамоўныя нумары з тыражом у 400 экзэмпляраў. (Пасьля гэтага Ю. Зянковіч адышоў ад грамадзкай працы, патлумачыўшы адыход занятасьцю ва ўнівэрсітэце.)

Калі мы размаўлялі з мужам па тэлефоне, ён часта казаў мне, каб я вучылася працаваць на кампутары, да якога я дагэтуль ніколі ня мела ніякага дачыненьня і не ўяўляла, як да яго падступіцца. А тут – вучыцца працаваць! У чужой краіне? У каго я магла вучыцца? (Гэта быў 1996 год і масава кампутар на Беларусі яшчэ толькі пачынаў укараняцца).

Паступова я пачала асвойваць кампутарны набор. У рэдакцыі ўсе людзі занятыя, польскай мовы я ня ведала, кампутара, зразумела, дома ня мела. У каго пытацца, як?

Але галоўны рэдактар газэты спадар Адам Ліпінскі дазволіў мне асвойваць кампутар у рэдакцыі пасьля таго, як скончыцца працоўны дзень

і кампутары будуць вольныя. Мне паказалі элемэнтарныя прыёмы, і я пачала вучыцца. Справа неяк пайшла, праўда, марудна, са скрыпам, але я пачала набіраць першыя тэксты.

* * *

Праз некалькі месяцаў спадар Адам Ліпінскі прапанаваў унесьці зьмены ў нашыя выдавецкія справы: выдаваць *„Беларускія Ведамасьці”* ня толькі на польскай, але і на беларускай мове. Так выйшла яшчэ два нумары ўжо на 2-х мовах. Але ўзьнікалі фінансавыя і арганізацыйныя праблемы. Польскім нумарам трэба было займацца прафэсійна, на гэта сілаў не хапала. Таму ўрэшце ў рэдакцыі вырашылі выдаваць толькі беларускамоўны варыянт, але тыражом у 1000 экзэмпляраў.

Часопісам займаўся толькі Зянон Пазьняк. Кожны нумар, ад зьместу да вокладкі, выбару шрыфта, кампазыцыі нумара, падбора ілюстрацыяў, макета і г.д. – усё распрацоўваў Зянон. Я дапамагала набіраць матэрыялы, вычытваць тэксты. Мы працавалі зранку да глыбокай ночы. І калі я ўжо не магла працаваць ноччу і клалася спаць, муж яшчэ доўга сядзеў над часопісам, над артыкуламі, кнігамі, партыйнымі праектамі і дакумантамі.

## НАШЫЯ СЯБРЫ Ў ВАРШАВЕ

Нечакана апынуцца ў эміграцыі, адарвацца ад усяго свайго, роднага – вялікае няшчасьце. У такія жыцьцёвыя моманты вельмі выразна пачынаеш разумець яшчэ і ролю свайго, роднага грамадзтва, і акружэньня сваіх людзей. На Радзіме – ты ў сябе дома, усё табе знаёмае, усё – сваё. У эміграцыі ўсё наадварот. Ты ня дома, і гэта разумееш на кожным кроку: калі едзеш у трамваі (і пачуюць тваю не мясцовую мову ці акцэнт), пераходзіш вуліцу, у краме. Пра наведваньне ж усялякіх дзяржаўных установаў я ўвогуле не кажу. Усюды табе дадуць зразумець, што ты „не ў сваёй хаце”. Гэта надзвычай цяжка, ня гледзячы на тое, што лёс ня быў да нас цалкам бязьлітасным.

Дзякуючы вялікай папулярнасьці мужа ў Польшчы, нам з дачкой спачатку далі дзе жыць і магчымасьць чакаць Зянона, а потым – і змагацца. І першая, самая вялікая падзяка Богу, што ён паслаў нам падтрымку з боку галоўнага рэдактара *„Nowego Państwa”* ***пана Адама Ліпінскага***. Рэдкі чалавек рэдкай душы. Высакародны, сьціплы і салідарны. Гэта ён прапанаваў мужу дапамогу найперш з жыльлём.

Калі мы з дачкой прыехалі ў Варшаву, то часта хадзілі ў рэдакцыю. Спадар Адам гаварыў са мной і кожны раз падкрэсьліваў, каб я тэлефанавала яму, калі спатрэбіцца якая дапамога. Ён добра разумеў наш разгублены стан, быццам сам прайшоў прымусовую эміграцыю.

Ведаючы наш цяжкі матэрыяльны стан, спадар Адам зьвярнуўся да нас з дачкой з просьбай дапамагчы прывесьці ў сістэму рэдакцыйныя паперы. Мы з ахвотаю ўзяліся за працу, зрабілі пэўны парадак і рассартавалі рэдакцыйныя завалы, пасьля чаго пан Адам прапанаваў нам аплату за нашу працу – грошы. „Гэта вам не перашкодзіць перад сьвятам Божага Нараджэньня, вы зарабілі”, – сказаў ён.

Ад нялоўкасьці я ледзь ні праваліласяя скрозь зямлю: „Дзякуем, але мы не за грошы, мы вельмі ўдзячныя вам за падтрымку, і нам зусім ня цяжка было гэта зрабіць”, – рашуча адказала я. Але пан Адам катэгарычна запярэчыў і прымусіў нас узяць гэтую зарплату (фактычна, дапамогу нам ў цяжкім становішчы). Паўгода мы з дачкой жылі ў Варшаве і чакалі Зянона. І ўвесь гэты час спадар Адам падстаўляў нам сваё сяброўскае плячо.

Між тым было невыносна адзінока і цяжка. Гэты стан браў у палон і не адпускаў. Тады я набірала Менскі нумар і гаварыла з мамай, з сябрамі... Гаварыла па паўгадзіны, часам – і болей. Плакала. І вось прышоў першы рахунак – 2000 злотых. З усьведамленьнем страшэннага сораму я аднесла рахунак у рэдакцыю, прасіла прабачэньня за суму. У рэдакцыі сказалі: „Нічога, не перажывайце”. Але калі праз месяц я прынесла такі ж самы, мяне паклікаў пан Адам. Ён гаварыў са мной ветліва і з павагай, з разуменьнем майго стану, але папрасіў скараціць тэлефонныя размовы.

А боль не адступаў. Катастрафічна не хапала беларускай мовы і хоць каго-небудзь, з кім можна было б пагаварыць па-беларуску.

Наступныя, хто працягнуў нам руку, была сям’я ***Юры*** і ***Зіны Туронкаў***, якія жывуць у Варшаве. Час ад часу тэлефанавала спадарыня Зіна (яна асабліва па-жаночаму цёпла нас падтрымлівала) і запраша-

ла нас з дачкой да сябе. Мы не маглі нагаварыцца са спадарствам Туронкаў. Спадар Юры – вядомы гісторык – шмат што расказваў нам. Ён і яго жонка спадарыня Зіна разумелі наш стан, спачувалі і дапамагалі добрым словам. 24 сьнежня яны запрасілі нас на Куцьцю (Вігілію) – сьвята дамашняе і сямейнае. У Дзень Божага нараджэньня ў іх дома было асабліва ўтульна і цёпла, мы з дачкой Надзяй нават атрымалі сьвяточныя падарункі...

На працягу наступных доўгіх 8-мі гадоў у Варшаве спадарства Туронкаў заўсёды падтрымлівала нас. Гэта харошыя людзі, шчырыя хрысьціяне і добрыя сябры.

* * *

Ішоў час. Падступала ня толькі настальгія. Трэба было неяк жыць. Муж прысылаў грошы, але матэрыяльныя магчымасьці нашыя былі вельмі абмежаваныя. Мы стараліся жыць эканомна. Я ўвесь час думала пра працу, але ня маючы ніякага статусу ў Польшчы, уладкавацца не было чаго і думаць. Ды і мова, якую я ніколі не вучыла, ды і ня чула, не дазваляла. Быў толькі адзін варыянт – працаваць прыватна. І тут дапамагла добрая Зіна.

Спачатку па яе пратэкцыі я папала ў дом да спадарыні Ханкі прыбіраць яе кватэру. Праўда, гэта ўсяго адзін раз на тыдзень, і з гэтай працы я мела толькі 40 злотых. Але пазьней знаёмая спадарыні Зіны Туронак Біята Кубэк, у якой нарадзілася дзіця, патрабавала няню на 3-4 гадзіны 4 дні на тыдзень. Зіна прапанавала мяне. Так я стала ў яе працаваць, даглядаць яе паўгадавалага Мацейку і атрымоўвала 7 злотых за гадзіну. Праз два гады нарадзіўся Коба. Я даглядала абодвух, а плацілі мне за догляд дваіх дзетак 8 злотых. Працавала 4 гады, пакуль іх сям'я ня выехала ў ЗША.

Мае заробкі былі мізэрнымі, але я сэрцам прывязалася да гэтых чужых дзяцей і старалася аддаць ім цяпло сваёй душы.

* * *

Туга па радзіме – цяжкі стан. Яна ўплывае ня толькі на сьведамасьць. Напэўна, пачаліся і нейкія працэсы ў арганізме, якія падштурхнулі некаторыя захворваньні. Я дрэнна стала бачыць, зьявілася слабасьць, болі, некаторыя часткі цела страцілі адчувальнасьць. У Польшчы ў нас не было ніякага статусу, таму да лекара зьвяртацца можна было толькі прыватна. Адзін візіт – 60-80 злотых. Пра кошт лекаў і не кажу. Усё гэта было для нас непад'ёмна.

Нешта адбывалася і са слыхам. Я ня чула польскіх слоў, а толькі суцэльнае ш-ш-ш... Слухала радыё. Нямецкія, ангельскія, чэшскія і г.д. словы чула, разьдзяляла (хоць і не разумела), а польскія не – суцэльны шум. Так працягвалася нейкі час.

* * *

Нашым добрым сябрам у Варшаве адразу стаў ***пан Чэслаў Сэнюх***. Вядомы чалавек, журналіст, пісьменьнік і паэт-перакладчык, ён назаўсёды ўвайшоў у гісторыю беларускай культуры сваімі перакладамі Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа і іншых беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў на польскую мову.

Чэслаў Сэнюх – шчыры прапагандыст беларускай культуры ў Польшчы. На працягу ўсіх гадоў эміграцыі ён заўсёды заставаўся і застаецца сябрам і прыхільнікам Зянона Пазьняка. Лёс Беларусі, яе культуры, незалежнасьці – заўсёдная тэма журналісцкіх артыкулаў пана Чэслава.

За гады эміграцыі ў Варшаве ня раз сутыкаў нас лёс з ***пані Эльжбэтай Смулковай***. Пані Эльжбэта, прафэсар, вядомая навуковец, дасьледчыца беларушчыны, шмат зрабіла для прапаганды беларускай культуры ў Польшчы. Гэта першы польскі замежны амбасадар у незалежнай Беларусі 90-х гадоў. Яна была знаёмая з маім мужам, вельмі добра да яго ставілася. Мяне ж яна ня ведала. Але да нас з дачкой пані Эльжбэта аднеслася так, як быццам ведала нас даўно.

Я зьвярталася да яе за парадай і заўсёды яе знаходзіла. Ведаючы нашае цяжкае матэрыяльнае становішча, пані Эльжбэта стала дапамагаць мне неяк уладкавацца на працу ў Варшаўскі ўнівэрсітэт. Яна сама працавала на факультэце паланістыкі на пасадзе прафэсара і паспрыяла ў арганізацыі факультатыва для польскіх студэнтаў па вывучэньні беларускай мовы.

Спачатку я вельмі хвалявалася і баялася (я ж ня ведала польскай мовы). Пані Эльжбэта настойліва падштурхоўвала мяне, бо трэба было ісьці да загадчыка кафедры і г.д. Я сабе думала: „Хай бы нічога не атрымалася!" – так мне было страшна

пераступіць гэты рубікон. Але з дапамогай пані Эльжбэты мяне прынялі на працу. (Увогуле ў эміграцыі неяк зьнікае упэўненасьць у сабе, бо штохвіліны разумееш сваё бяспраўе, адзіноту і бездапаможнасьць. Тут і потым у Амэрыцы мне здавалася, што я не пазнаю сама сябе.)

І вось я прышла на першыя заняткі. Студэнты сядзелі і ўважліва слухалі. Я гаварыла без перапынку: чытала вершы, расказвала пра сучаснае і мінулае беларускай мовы, пра нашыя праблемы і сьветлую будучыню Беларусі і беларускай мовы. Ня ведаю, ці зразумелі мяне польскія студэнты на той першай лекцыі, але заняткі працягваліся адзін, затым другі семэстр. І так чатыры гады. Па некалькі месяцаў у год я мела працу, што адпавядала маім інтарэсам і адукацыі. У пачатку кожнага навучальнага году я ня ведала, ці буду выкладаць, бо гэта залежыла ад таго, ці запішуцца студэнты на мае заняткі зноў. Але кожны год знаходзіліся маладыя людзі, якім было цікава вывучаць беларускую мову.

На Беларусі ў гэты час рэжым Лукашэнкі зьнішчаў беларускую школу, беларускую культуру, а тут, у Варшаве, знаходзіліся студэнты-палякі, якія палюбілі нашую мову. (Менавіта палюбілі, бо хадзіць на мае заняткі іх ніхто не прымушаў.) Таму кожны год я пыталася ў новых студэнтаў, чаму яны выбралі мой факультатыў (а выбіраць можна было ледзь ні любую мову сьвету). Іх адказы мяне зацікавілі, бо паўтараліся з году ў год. Сутнасьць іх зводзілася да наступнага. Польскія студэнты езьдзілі на практыку ў Беларусь. Яны вывучалі памежныя дыялекты на Палесьсі. І беларускія людзі іх уражвалі настолькі, што яны палюбілі іх, іхную мову, культуру і ўсё беларускае. Некаторыя спрабавалі купляць нашыя прыгожыя беларускія строі, але добрыя беларускія кабеты, расчуліўшыся, часьцяком аддавалі задарма гэты бясцэнны скарб – вышываныя і тканыя кашулі, фартушкі, андаракі... А яшчэ польскі дзяўчаты расказвалі:

– Ведаеце, я была ў Беларусі на Палесьсі ў мінулым годзе, а ў гэтым паехала ўжо да знаёмых у госьці. Ідзем мы гэтак па вёсцы з маёй гаспадыняй, насустрач другая кабета. Павіталіся, разгаварыліся. Даведаўшыся, што я госьць з Польшчы, тая кабета і кажа: „А мая ж ты дачушка, то ты цяперака прыяжджай да мяне. У мяне хата лепшая, цяплейшая. Прыяжджай. Я цябе малачком



(Фота З. Пазьняка)

***46. У Варшаве. 1998 г.***

буду частаваць, тваражком, сьмятанкай. Усё сваё, сьвежанькае."

Уяўляеце, яна мяне ня ведае, першы раз убачыла – і адразу запрасіла, ды так шчыра, што я аж разгубілася. Паверце, такой гасьціннасьці, такой дабрыні нідзе ў сьвеце няма, як на Беларусі, – з захапленьнем апавядала мне адна студэнтка. Іншая дадавала:

– Я прыехала на Беларусь, на Палесьсе, у сьвята. Мне трэба было пахадзіць па хатах і пагаварыць зь людзьмі. Пытаньні мае былі мэтанакіраваныя, тычыліся памежнага беларуска-польскага дыялекту. Ні з адной хаты ня выпусьцілі, не пасадзіўшы за стол, не накарміўшы-напаіўшы. Я ўжо і адмаўлялася, маўляў, мы ўжо паелі ў першай-другой хатах. „Не, хоць трошку, але зьеш", – чула я ў адказ. Гэта дзівосныя людзі.

Вельмі цікавіліся польскія студэнты нашай беларускай традыцыяй, абрадамі, сьвятамі і г.д. Яны казалі мне, што на Беларусі захаваліся такія культурныя скарбы, якія даўно ўжо зьніклі ў Эўропе (у тым ліку і ў Польшчы). Яны расказвалі мне пра

Беларусь і беларусаў з захапленьнем. Я слухала, і душа мая разрывалася ад тугі. Такі наш вялікі народ, і гэта ўсім відаць, акрамя яго самога.

Зь вялікім жалем і смуткам успамінаю яшчэ аднаго нашага сябра ў Варшаве. Гэта сьветлай памяці нябожчык ***Мікола Стома***. Вельмі інтэлігентны, адукаваны чалавек (ён валодаў 5-цю замежнымі мовамі), таленавіты беларускі кампазітар і шчыры наш прыяцель, лёс якога закінуў у Варшаву. Зянон быў уражаны яго незвычайнай наватарскай музыкай, пабуджаў яго творча працаваць, казаў каб ён выдаваў свае творы ў кружэлках.

Мікола Стома шмат разоў прыходзіў да нас у Варшаве. Зь ім было вельмі цікава размаўляць. Ён быў вельмі добразычлівым чалавекам. Калі ў 2004 годзе я даведалася, што Міколы няма, што яго знайшлі мёртвым каля дарогі, вялікі смутак і жаль рэзка і балюча параніў душу.

Загінуў беларускі кампазітар... у цішыні... і як быццам ня жыў. Сябра, дакладней, ягоны знаёмец, ангелец Марк Бэнс выдаў прыватна кружэлку СД зь ягонымі творамі мізэрным накладам. Дзякуй яму за гэта.

* * *

У нашым змагарным жыцьці сябры маюць выключнае значэньне. Бяз іхняй падтрымкі, іхняга сяброўства не ўяўляю нашага няпростага жыцьця і дзейнасьці. Гэта людзі сапраўднай беларускай душы, якім *„ баліць мая Літва”.*

Так у Варшаве ў нас зьявіўся яшчэ адзін сябра-беларус, чалавек, прыхільны да Зянона Пазьняка і верны Беларусі. Гэта спадар ***Анатоль Грышчук***, які вымушаны жыць у Варшаве, але душа якога (як усялякага сапраўднага беларуса) належыць нашай сьвятой Бацькаўшчыне.

Сапраўднае сяброўства ніколі не вымяраецца паняцьцямі „хто-каму-колькі”. Сяброўства – катэгорыя духоўная. І калі ты ўпэўнены ў надзейнасьці сяброўскага чыну, гэта моцна падтрымлівае, і асабліва – ў цяжкія часы.

## „ ЗГУБЛЕНАЯ” ПРЭМІЯ

У 1997 годзе Дацкі Гэльсінскі Камітэт вырашыў узнагародзіць Зянона Пазьняка прэміяй змагара за правы чалавека. Зянон прыклаў вельмі шмат працы на Захадзе па вызваленьні з турмы беларускай моладзі – Шыдлоўскага, Лабковіча, паэта Славаміра Адамовіча; каб уратаваць Юрыя Мароза (якога перасьледваў рэжым Лукашэнкі) ад дэпартацыі з Чэхіі Зянон Пазьняк пісаў асабіста прэзыдэнту Гавэлу (і ўратаваў беларуса), у „Беларускіх Ведамасьцях” мы вялі хроніку парушэньняў правоў чалавека на Беларусі, у Фронце па патрабаваньні ягонага старшыні былі створаныя спэцыяльныя камісіі і г. д., рабілася велізарная праца ім асабіста.

У Капэнгаген патрабавалася фармальная бюракратычная папера ад БНФ, але там ня ведалі, як зьвязацца з кіраўніцтвам БНФ. Пазьняку нічога пра гэта не паведамілі (рашылі зрабіць сюрпрыз). Пра гэта неяк даведаўся Мікола Стома і ўзяўся зьвязаць Дацкі Камітэт з кіраўніцтвам БНФ. Ведаў ён толькі В. Вячорку, і яму здавалася, што гэтага дастаткова (Фронт жа быў яшчэ адзіны). Ну хто ж з намесьнікаў Пазьняка ў Фронце не адгукнецца на такую справу імгненна?!

Але Мікола моцна памыліўся. Ён тэлефанаваў В. Вячорку шмат разоў. З супроцьлеглага боку тэлефоннай сувязі яму казалі, што, безумоўна, такую паперу-хадайніцтва ад Партыі БНФ ён арганізуе і вышле, куды трэба. Між тым паперы не было. Мікола сам цікавіўся, як рухаецца справа, і калі чуў, што ніяк, то зноў і зноў тэлефанаваў Вячорку. І чуў тыя ж запэўніваньні. Час ішоў, і ўрэшце рэшт праз некалькі месяцаў было ўжо позна. Тэрміны прайшлі. Прэмію прысвоілі нейкаму афрыканцу.

Тады ўзнагароду Пазьняку перанесьлі на наступны год. Папера ад БНФ была атрыманая (паслаў, здаецца, Л. Баршчэўскі). Але „прэмія” ўсяроўна зьнікла. Неўзабаве пра „сюрпрыз” даведаўся і Зянон і распытаў Стому, які кантактаваў з Дацкім Камітэтам. Аказалася ў Дацкі Камітэт прышоў зь Менску калектыўны ліст з кляўзамі на Пазьняка і просьбай не выдаваць яму прэмію. Стому паказалі гэты ліст. Першым падпісантам была адна актыўная менская асоба па правах чалавека, за ёй ішоў цэлы шэраг вельмі цікавых „змагароў.” Некалі Сяргей Навумчык (яшчэ ў 1996 годзе) нечакана заходзіць у кабінет старшыні Варшаўскай Гэльсінскай Фундацыі (Марэка Навіцкага) і бачыць, як сьпіной да яго сядзіць

там гэтая менская актыўная дама і на чым сьвет „нагаворвае" на Пазьняка перад гэтым Марэкам Навіцкім. За гэтым жа заняткам актыўную асобу застукалі і ў Вашыгтоне. Дарэчы, ў „ціхенькай" антыпазьнякоўскай „палітыцы" за мяжой ( асабліва ў Вашынгтоне і ў Варшаве) выяўлена амаль ўся цяперашняя „апазыцыя" (яны ж думаюць, што іхныя міжнародныя „даносы" на Пазьняка Пазьняку ніхто не перадасьць).

Відаць мае рацыю наш выдатны публіцыст Валеры Буйвал, што гэтыя людзі ненавідзяць Пазьняка больш чым Лукашэнку, толькі ціхенька, подленька, у адкрытую – сьмеласьці і думак не хапае. Збылася мара шэрых – няма Пазьняка ў Беларусі.

Матэрыяльнае напаўненьне прэміі па заходніх мерках было зусім малым, каля шасьці тысячаў даляраў. І, зразумела, што ня ў гэтым тут была справа. Хаця жыцьцё наша было вядомае шмат каму. Ня маючы медыцынскага забесьпячэньня ў Варшаве і сродкаў на медыцыну, Зянон перахадзіў на нагах, месяцамі млеючы ад слабасьці і не падаючы выгляду, запаленьне лёгкіх і выздаравеў, Бог дапамог, засталіся на лёгкіх толькі рубцы.

Калі я ўспамінаю гэтую тыповую (ды што „тыповую" – тыпалягічную) гісторыйку з „прэміяй", мне адразу становіцца зразумелым, што робіцца цяпер ў Беларусі і чаго можна яшчэ спадзявацца. Але спадзявацца трэба, усё ж, і рэакцыі на нізкасьць, што ўсплыла на паверхню. Зьявяцца новыя сьветлыя людзі і новыя беларускія змагары. Толькі трэба дапамагаць, набліжаць гэты час.

## ЦЯЖКАСЬЦІ

Аднаго разу (здаецца ў жніўні) днём я ішла па „алеях Ерузалімскіх" з сумкамі з рынку. Раптам на мяне набягу наскокваюць ззаду двое, штурхаюць у плечы. Я лячу ў бок, сеткі падаюць, маю сумку імгненна вырываюць і ўцякаюць.

Калі ты за мяжой і ня маеш ніякага статусу, самае страшнае згубіць-страціць дакументы. Таму першая думка ў мяне была пра гэта. Я бегла за нападнікамі, крычала, кругом стаялі людзі і назіралі. Нікога я не дагнала і ў страшным адчаі прышла дадому. Мы з дачкой пачалі правяраць дакументы (якія я звычайна насіла з сабой). Яны аказаліся на гэты раз дома. Скралі толькі сумку і грошы.



*47. Сустрэча з мужам ў Варшаве. 1996 г.*

## ШЧАСЬЛІВЫЯ ІМГНЕНЬНІ

Ішоў час. Мінуў кастрычнік, лістапад, пачаўся сьнежань. Муж прыехаць ня мог. Куды ён толькі ні зьвяртаўся, што толькі ні рабіў. Але нашая справа стаяла на месцы, а ён таксама ня меў выязных дакумантаў. Толькі ў апошнія дні 1996 года ён атрымаў дакуманты. У польскай амбасадзе ён прасіў шматразовую візу, але яму чамусьці выдалі аднаразовую на адзін месяц (вядомасьць вядомасьцю, а бюракратыя бюракратыяй).

Цяпер, літаральна за пару дзён да новага 1997 года, трэба было набыць білет зь Нью-Ёрку да Варшавы. Муж патэлефанаваў, што будзе вельмі старацца, але (каб у нас з дачкой не было страшэннага расчараваньня) папярэдзіў, што гэта вельмі складана, бо білетаў няма.

І ўсё ж мы з дачушкай спадзяваліся. Бачачы мой трывожны стан, яна ўгаворвала мяне, што ўсё атрымаецца, што трэба верыць. І гэтым вельмі мяне падтрымлівала.

Мы сталі рыхтавацца да Новага году. Трэба было купіць невялічкую елачку ці (калі будзе вельмі дарага) хоць бы некалькі галінак елкі і пасыпаць ватай-сьнегам і „дожджыкам" для ўрачыстасьці.

Гэтаксама мы стараліся хоць неяк па-сьвяточнаму ўпрыгожыць і „нашу"- чужую хату... А потым я пайшла на рынак, што непадалёк ад „алеі"



***48. Разам у Варшаве. 2000 г.***

Ерузалімскай (дзе мы жылі), на пляц Завішы, каб купіць нешта на навагодні стол. Было вельмі холадна, ветрана і марозна.

Калі чужына і нічога няма, і трывожна, тады самыя нязначныя падзеі могуць запасьці ў памяць і ўзрушыць сэрца. Памятаю Зянон (яшчэ ў Менску) чытаў мне штосьці, здаецца з Басё, як паэт забыўся каробачку на рынку. Назаўтра пйшоў – аж ляжыць. *„Нікому, відаць, не патрэбна была"*, – усклікаў японец. Зянон называў гэты верш шэдэўрам.

Купіўшы таго-сяго, як звычайна вельмі простага і таннага, я прыпынілася ля прыгожых чырвоных перцаў. Я глядзела на гэтую неверагоднаую для нас раскошу і ўзважвала, колькі ж „злотых" пацягне адна. „Відаць, шмат," – мільгала ў думках. Мой прывабны перчык заважыў аж 6 злотых (для нас тады – цэлы скарб). Гэта была, так бы мовіць, „лішняя трата", якая не ўваходзіла ў наш сьціплы рацыён. Але я ўсё ж рашылася, бо Новы год, бо, магчыма, прыедзе Зянон.

Дадому я бегла вельмі хутка, бо быў моцны мароз, і мае пальцы ў слабенькіх асеньніх пальчатках зьмерзьлі так, што я ўжо іх і не адчувала. І ў кішэнь не схаваеш – у руках торбачкі з бульбай, хлебам ды капустай.

Дома дачка хуценька пачала расьціраць мне мае скручаныя ад холаду рукі, „грэлі" ў халоднай вадзе, перамагаючы боль „іголак".

Калі я трохі адагрэлася, мы з дачкой глянулі ў торбу – аж мой перчык зьмерз і ўжо пачаў адтайваць... Чамусьці запомнілася гэтае „простае" перажываньне, і тое, што я ледзь ня плакала ад жалю з-за таго змарнаванага перцу...

* * *

Тым часам мужу нейкім цудам удалося купіць білет да Варшавы, і 31 сьнежня, за некалькі гадзінаў да Новага году, мы сустрэліся ў варшаўскім аэрапорце пасьля пяці месяцаў чаканьня і адзіноты.

Зараз прайшлі гады, і я з упэўненасьцю магу сказаць: гэты дзень быў такі шчасьлівы, гэты Новы год такі радасны, як ніякі іншы. Мы сядзелі за сьвяточным сталом, і я думала сабе: „Ніхто ў сьвеце зараз не адчувае шчасьце так востра, як я". Мае самыя дарагія людзі – мой муж і мая дачушка – былі са мной, і мне было незвычайна добра. Праўда, мы былі ў выгнаньні, але вастрыня шчасьця, радасьці і спакою была незвычайная.

## АЗЫЛЬ

Дні ляцелі хутка. Ніякіх прыкметаў дазволу на ўезд у ЗША для нас з дачкой не было, і, каб набыць законны статус у Польшчы, 3-га студзеня 1997 года мы падалі заяву і дакументы (мае і дачкі) на прадстаўленьне нам палітычнага азылю ў Польшчы.

Праз некаторы час нас выклікалі, сфатаграфавалі і выдалі пэрсанальныя карткі. Цяпер мы павінны былі часта зьяўляцца на праверку. Гэтая працэдура абярнулася для нас пакутай на многія месяцы.

Адзначацца ў аддзел для „уходцаў" (уцекачоў) мы з Надзеяй прыходзілі рана, але чэргі былі вялікія, і пасьпець да $14^{00}$ адзначыцца ўдавалася не заўсёды. Мы стаялі ў чарзе. Прыходзіў чыноўнік, забіраў дакументы ў 2-3 чалавек і зьнікаў хвілін на 10. Вярнуўшыся з адзначанымі карткамі, ён іх вяртаў уладальнікам і забіраў для праверкі наступныя. Прастаяўшы ў душным пакоі 3-4 гадзіны, мы падыходзілі да вакенца і былі ў ліку першых для здачы картак. Але як толькі чыноўнік вяртаўся, перад намі, як грыбы, вырасталі 10-15 цёмнаскурых бежанцаў, якія нас адцясьнялі і падавалі свае дакументы. Парадку не было ніякага. Ня раз мы сыходзілі дадому, так і не адзначыўшыся. Назаўтра ўсё паўтаралася.

Знаходзячыся 6 гадзінаў у памяшканьні, дзе амаль усе 40-50 чалавек былі цёмнаскурыя, ў пакоі „настойвалася" такое паветра, якое эўрапейцам цяжка вытрымаць. Я ішла дадому ў сьлязах, бо мы з дачкой ужо спазналі мясцовую бюракратыю. Не адзначыцца ў канкрэтны дзень было рызыкоўна. Ніякія аб'ектыўныя прычыны назаўтра маглі не прымацца і выклікаць вялікія праблемы. Гэтая мука доўжылася 11 месяцаў.

Падставай для атрыманьня азылю павінна было стаць „інтэрв'ю", на якое павінны былі выклікаць польскія чыноўнікі. Увесь гэты час мы чакалі запрашэньня на тое інтэрв'ю, пыталіся, калі ж яно адбудзецца, і на ўсе нашыя звароты ніхто нам нават прыблізна не казаў, калі нашая справа зрушыцца зь месца.

І тут зноў дапамог спадар Адам Ліпінскі. Зь яго падачы да нас прыехала тэлебачаньне і зьняло сюжэт. Гэзэты напісалі, што жонцы Пазьняка не даюць палітычны прытулак. З артыкула ў „Вячэрняй Варшаве" я даведалася, што наша справа ляжыць „на гары" – у Міністра. Да нашай заявы не было прэцэдэнта, і даваць азыль беларусам у Польшчы баяліся.

Рэзананс у СМІ дапамог. Польскія журналісты званілі ў Міністэрства, да Міністра і неяк разварушылі нашую справу, і праз месяцы тры нам паведамілі, што рашэньне аб прадстаўленьні нам палітычнага прытулку прынята. У лістападзе 1997 года мы атрымалі адпаведную пастанову Міністэрства ўнутраных справаў. Акрамя таго, мы, фактычна, адчынілі дарогу ўсім беларусам, якія пасьля нас пачалі атрымліваць палітычны прытулак у Польшчы без тых велізарных перашкодаў, праз якія прайшлі мы з дачкой.

Што гэта азначала для нас? Вельмі шмат, бо з набыцьцём статусу мы набывалі і пэўныя правы. Цяпер мы ўжо знаходзіліся ў Варшаве законна, юрыдычна я мела права працаваць. Пастаяннай працы, зь якой можна было б жыць, не было, але за мяжой юрыдычны статус мае вялікае значэньне. З гэтага дня мы сталі жыць спакайней, хоць тое, што мы тут чужыя, што мы не ў сябе дома, – гэта я адчувала пастаянна.

## ТУГА

У радасных сямейных і грамадзкіх клопатах прайшоў месяц, і муж павінен быў ад'ехаць у ЗША, бо ня мог парушаць візавы рэжым. Наперадзе зноў былі шэрыя дні адчаю і чаканьня.

Нашае асабістае жыцьцё было (і ёсьць) неаддзельным ад жыцьця Беларусі, яно цалкам падпарадкавана працы на вызваленьне Беларусі ад рэжыму прамаскоўскай палітыкі. Але чалавечае, асабістае заўсёды з чалавекам. І калі муж выехаў у Амэрыку, мяне зноў ахапіла туга і страшэнная настальгія. Здавалася, Беларусь вось там, недалёка – толькі працягнуць руку. Але ад немагчымасьці вярнуцца ці зьезьдзіць хоць на хвіліну і ступіць на сваю зямлю сьціскала ўсю маю істоту ў абцугі. Зноў стала сьніцца Беларусь, Менск, быццам я хаджу па вуліцах нашага раёну і ніяк не магу дайсьці да свайго дому. Гэтыя сны паўтараліся. Часам на маім шляху дадаму узьнікалі нейкія глыбокія ангары-падзямельлі, і па вертыкальнай сьцяне я неяк паўзу на паверхню. Цяжка, я ледзь ні зрываюся ўніз, але нехта падае мне руку – і я на вуліцы амаль каля дому. І яркі сонечны дзень. Стан неверагоднага шчасьця перажываю я ў сьне і – прачынаюся. Нейкі час не магу зразумець, дзе я.

Аднаго разу бацька Юрася спадар Зянковіч ехаў з Варшавы на Беларусь і павінен быў праз дзень вярнуцца назад. Ён прапанаваў мне зьезьдзіць у Менск: „Я на аўтамабілі, ціхенька праскочым і праз дзень – назад".

Я ўзрадвалася, загарэлася, сьлёзы радасьці каціліся па маіх шчоках. Я апранула паліто і ў адну хвіліну была гатовая ехаць, як стаю. Мне ж і трэба было толькі ступіць нагой на родную зямлю і абняць маму...

Упэўненая, што гэта шчасьлівы выпадак, я патэлефанавала Зянону ў Нью-Ёрк і радасна пачала раіцца. Але ён адразу прывёў мяне ў рэальны стан: калі я паеду, мы больш можам ніколі ня ўбачыцца, бо рэжым „ціхенька праскочыць" мне ня дасьць. І, ня гледзячы на далейшыя ўгаворы спадара Зянковіча, – я адмовілася.

## АГУЛЬНАЯ ПРАЦА

У 1997 годзе мой муж прыязджаў, здаецца, разоў 6-7, бо яму давалі аднаразовыя візы ў Польшчу тэрмінам усяго на месяц, і яму прыходзілася езьдзіць туды-назад. Але ўвесь час, незалежна ад месца знаходжаньня, ён працаваў для Беларусі. Нават шматгадзінныя пералёты Нью-Ёрк-Варшава ён „прыстасаваў" для працы, і шмат якія яго артыкулы нараджаліся „ў небе".

Як умела, як магла, я старалася яму дапамагаць. У яго адсутнасьць гэта тычылася, у асноўным, выданьня *„Беларускіх Ведамасьцяў"*. Муж прысылаў мне матэрыялы для чарговага нумару па факсу (пазьней – па э-по), я іх набірала, адсылала назад, ён іх вычытваў, рабіў заўвагі, я зноў папраўляла. Калі нумар быў гатовы, муж прысылаў мне па факсу намаляваны макет нумара, і я тады ўжо ішла да пана Анджэя, які рабіў вёрстку нумара, якую яшчэ некалькі разоў трэба было вывяраць, чытаць карэктуру. Звычайна было тры карэктуры зьвёрстанага нумара, пакуль мы ўсё не даводзілі разам (праз факс-тэлефон) да ладу.

Калі муж быў у Варшаве, асноўную працу па стварэньні нумара рабіў ён. Я толькі набірала тэксты і дапамагала вычытваць.

І тады, і зараз я не перастаю зьдзіўляцца, як магчыма столькі зрабіць аднаму чалавеку. Вялікія аб'ёмы працы (інтэлектуальнай і тэхнічнай) пры гэтым заўсёды выконваліся зь вялікай адказнасьцю, акуратна і таленавіта, быў гэта часопіс ці артыкул, кніга ці партыйны дакумант... Усё ня раз вычытвалася, зноў і зноў прадумвалася і пільна вывяралася.

Разам з Зянонам я зразумела: каб прыносіць сьветлую карысьць людзям, таленавіты чалавек проста абавязаны быць яшчэ абавязкавым, дакладным, з чыстымі думкамі і – акуратным. Бо хаос разбурае талент.

* * *

Цяжкія выпрабаваньні лёсу чужыной мы перажывалі разам: Зянон, дачка Надзейка і я. Асабліва цяжка было першыя два гады, бо Зянон мог прыязджаць толькі на месяц. А потым – мы зноў заставаліся з дачкой удваіх...

Калі прыязджаў Зянон, мы хадзілі разам у Варшаўскі парк „Лазенкі", у Батанічны сад, у „Шчэньсьлівецкі" парк. Так мы разам шукалі палёгкі нашага нялёгкага стану ў прыродзе, у кветках, у птушках і цьвітучых дрэвах. Зянон шмат фатаграфаваў нас з дачкой.

У нядзелю мы разам хадзілі ў касьцёл на імшу, слухалі казаньні ксяндза, супольныя сьпевы палякаў. Гэтыя агульныя касьцёльныя сьпевы нас моцна ўражвалі. Калі вялікі касьцёл, поўны людзей, і ў ім сьпявае кожны прысутны паляк – гэта надзвычай прыгожа і ўрачыста. Здаецца, што тут уся нацыя, адзіная, зьядналая, моцная, і яна размаўляе з Богам. (Так, дарэчы, адбываецца ў кожным польскім касьцёле, і ўсюды сьпяваюць усе прысутныя палякі. Пра „веданьне слоў" усіх касьцельных сьпеваў нідзе не ўзьнікае ніякага пытаньня. Тут гэта абсалютна натуральна.)

Пасьля імшы мы вярталіся „дадому". Чужая невялічкая кватэра на Ерузалімскім праспэкце ў Варшаве, у якой мы пражылі шэсьць гадоў, памятае ўсе нашыя і пакуты, і цяжкасьці, і радасьці – малыя і большыя. А радасьць прыходзіла ў наш дом, калі прыязджалі сябры зь Беларусі. Тады ў нас сьвяціліся твары, было амаль, як на Беларусі...

Мне надзвычай блізкі і дарагі верш Зянона, які ён прысьвяціў дачцы, бо ў ім столькі цеплыні, дабрыні і шчырасьці. Праявы бацькоўскай любові мяне асабіста заўсёды моцна кранаюць, бо я гадоў з сямі жыла бяз бацькі і вельмі моцна па ім сумавала. У дзяцінстве мне, як паветра, не хапала бацькоўскай ласкі.

У вершы глыбокае цяпло. І толькі адным штрыхом *(„дом часовы")* – пра цяжкі агульны сямейны лёс.



(Фота З. Пазьняка)

***49. З дачкой у Лазенках. Варшава 1998 г.***

*У Дзень Хрыстовы*
*Верабейка*
*Хай табе ў ваконца гляне,*
*Хай салоўка прасьпявае*
*У сьвяточным добрым сьне.*

*Сьнег пушысты атуляе*
*Сьвет калядны, дом часовы,*
*Гольле, клёны за вакном.*

*Потым, некалі, далёка*
*У краіне нашай сьветлай*
*Мы ўспомнім усё, што лепей:*
*Сьнег Калядны, Дзень Хрыстовы*
*(Пан Жураўскі, мёд Букальскі),*
*Клёны, вокны, наш балькон.*

*Уся наперадзе дарога.*
*Хто сумуе, а мы – не.*
*Зорка ясна Бэтлеемска*
*Хай нам сьвеціць у вакне.*

*(„Дачцы")*

Увогуле мы ў сям'і часта размаўлялі пра мастацтва паэзію, нам з дачкой вельмі падабалася Зянонава „Глёрыя...", мы чыталі, абмяркоўвалі. Аднойчы Надзя пасьля ўсіх развагаў нават напісала сваё хоку і прачытала нам да вялікай радасьці Зянона. Яму вельмі падабалася, што дачка цікавіцца мастацтвам. Я нават запомніла гэтыя радкі:

*Жоўтае сьвятло ліхтароў*
*Адбівае брук чужога горада.*
*Пахне цёплым дажджом.*

Мы з мужам разумелі, што ў нашай сітуацыі для дачкі вельмі важна ня страціць гады і вучыцца. Але найперш – мова краіны, у якой мы апынуліся. І яна пачала наведваць курсы польскай мовы. Маладым гэта заўсёды лягчэй. Праз месяцы тры яна ўжо нядрэнна разумела і патроху пачала гаварыць па-польску. Гэта быў канец навучальнага году, і слухачы курсаў, якія мелі намер вучыцца ў Польшчы, павінны былі здаць экзамен

па польскай мове, без станоўчага выніку якога ў навучальныя ВНУ Польшчы паступіць было немагчыма, ды і ня мела сэнсу: вучыцца ж трэба было па-польску.

Гэты экзамен дачка здала, патрэбную паперу атрымала і неўзабаве была залічана на першы курс юрыдычнага факультэта Варшаўскага ўнівэрсітэту. Польскія ўлады спрыялі, каб рэпрэсаваныя рэжымам Лукашэнкі беларускія студэнты прадаўжалі сваё навучаньне ў Польшчы.

дакладна вызначыў адносіны да Расеі. М. Чыгір падпісаць Мэмарандум адмовіўся. (Пройдзе час, і М. Чыгір схлусіць, што быццам гэта ён падрыхтаваў праект Мэмарандуму і што Пазьняк не захацеў яго падпісаць.) Цікава, што, калі Пазьняк спытаў пра прычыну непадпісаньня мэмарандуму, Чыгір прастадушна сказаў, што калі ён падпіша, то пасьля гэтага Масква не дасьць яму ніякіх грошай. Ведаючы Зянона, я ўбачыла ў яго стан ашаломленнага аняменьня. Але ён не падаў выгляду і толькі сказаў кшталтам: што ж прадоўжым гаворку, як вы гэта ўсё ўяўляеце сабе без мэмарандуму.

## 1999-Ы

Вельмі цяжкі для нас быў 1999 год, год альтэрнатыўных прэзыдэнцкіх выбараў і расколу Фронта.

Перад пачаткам выбарчай кампаніі да нас у Варшаву прыязджаў старшыня ЦВК Віктар Ганчар з прапановай, каб З. Пазьняк даў згоду балатавацца на Прэзыдэнта Беларусі. В. Ганчар хваляваўся, шмат гаварыў, расказваў пра сваю працу ў Латвіі (здаецца, паўгады як юрыст), дзе ён меў астранамічны заробак: 20 тысяч даляраў у месяц – лічба незвычайна вялікая нават для ЗША, але пра гэта я чула сама. Ён гаварыў мужу ўсялякія кампліменты (і толькі па-беларуску).



***50. З дачкой Надзяй. 1998 г., Канопіштэ.***

Пазьняк разумеў, што гэта афёра і ведаў, хто і дзеля чаго ўсё робіць. Але менавіта таму трэба было трымаць сітуацыю пад кантролем, і ён пагадзіўся ўдзельнічаць у „альтэрнатыўных" выбарах пры адной умове: усё павінна быць толькі ў межах законнасьці. В. Ганчар з гатоўнасьцю пагадзіўся: „Так, толькі ў рамках закона", – ён быў усхваляваны надзвычай. Калі ад'язджаў, то ў калідоры сказаў мне па-сяброўску: „Галіна, гэта для мяне самы шчасьлівы дзень у жыцьці!" Яго ўсхваляванасьць і пафас здавалася торохі дзіўнымі, нейкімі неадэкватнымі, але я ня ўмешвалася.

Наступны раз В. Ганчар прыехаў да нас разам з М. Чыгіром, другім кандыдатам у Прэзыдэнты. Яны абмяркоўвалі пытаньні з мужам, я старалася ім не перашкаджаць і займалася абедам. Муж папрасіў мяне толькі яшчэ перад прыездам гасьцей набраць на кампутары праект напісанага ім сумеснага Мэмарандуму (Пазьняк-Чыгір), дзе З. Пазьняк

Калі ішла прэзыдэнцкая кампанія альтэрнатыўных выбараў на Беларусі, збор подпісаў і пачатак 10-дзённага галасаваньня, наш тэлефон у Варшаве „працаваў" амаль кругласутачна і без перапынку. Зянон Пазьняк з ранку да позьняга вечара размаўляў са старшынямі фронтаўскіх ініцыятыўных групаў. Таму уся сітуацыя была нам вядомая „з першых вуснаў". Калі пачаліся фальсіфікацыі і падробкі подпісаў, махлярства з падпіснымі лістамі і пратаколамі галасаваньня, пра гэта Пазьняку сталі паведамляць сумленныя сябры Фронту. Усе зьвесткі Зянон пераправяраў сам па некалькі разоў, дазваньваўся ў самыя далёкія суполкі Фронту, супастаўляў усе факты-лічбы. У тыя дні ён суткамі амаль ня спаў. Напруга была неверагодная.

В. Ганчар вырашыў, што выбары (галасаваньне) будуць ісьці не адзін дзень (як па закону), а 10 дзён, і пачалася агульная фальсіфікацыя.

Здольнасьць Ганчара да шулерства Пазьняк добра ведаў яшчэ па адносінах яго з Генадзем Карпенкам, таму быў падрыхтаваны да ўсялякіх ягоных фокусаў. Стварыць умовы для сапраўднага народнага галасаваньня ЦВК на чале з В. Ганчаром не змагла. А радыё „Свабода" актыўна ўключылася ў падман і кожны дзень паведамляла пра сотні тысячаў быццам бы прагаласаваўшых (такія зьвесткі падавала ганчароўская ЦВК), што ва ўмовах існуючага рэжыма выглядала надзвычай цынічна (бо на справе шмат дзе не былі завезеныя на месцы нават бюлетэні для галасаваньня).

Старшыня ЦВК В. Ганчар адкрыта пайшоў на фальсіфікацыю, маючы намер потым аб'явіць Пазьняка пераможцам у такіх „выбарах" (і, адпаведна, зганьбіць яго). І тады З. Пазьняк прымае адказнае і мужнае рашэньне аб зьняцьці сваёй кандыдатуры і выходзе БНФ з псэўда-выбараў. Рашэньне было няпростае, бо за ім стаяла цяжкая і ахвярныя праца ўсяго Фронта. Людзі зьбіралі подпісы, хадзілі ад кватэры да кватэры, цярпелі рэпрэсіі ад рэжыму. Але пайсьці ўсьлед за падманшчыкамі было таксама немагчыма, бо яго і ўвесь Фронт утапілі б у гэтым балоце (на што і разьлічвалі архітэктары выбарчай афёры, прытым рэжым усе неабходныя факты фальсіфікацыі ўжо меў у руках). Пазьняк уратаваў і сваё добрае імя, і Фронт ад разгрому, але ўратаваць рух ад расколу ўжо не ўдалося. У Фронце на той час ужо выявіліся дзьве пазыцыі і тая, што паставіла на грошы, не магла доўга чакаць. Гэтыя людзі (у тым ліку агентура), ня здолеўшы захапіць усю арганізацыю, пайшлі на раскол.

## СЯБРЫ

Вельмі запомніўся мне варшаўскі Сойм Беларускага Народнага Фронту і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ 29 студзеня 2000 года. Тады ў Варшаву прыехала на Сойм 40 чалавек зь Беларусі, Сяргей Навумчык з Прагі. Да гэтага дня мы з мужам вельмі рыхтаваліся. Муж – па палітычных пытаньнях, я – каб зрабіць усе неабходныя закупы на пачастунак, каб усяго хапіла і каб нашыя сябры не засталіся галоднымі.

Спадар Адам Ліпінскі даў у нашае распараджэньне сядзібу партыі „Права і справядлівасьць" – добрае памяшканьне ў цэнтры Варшавы (недалёка ад Цэнтральнага вакзала) для паседжаньня Сойму. Туды мы заранёў завезьлі прадукты, посуд і г. д.

Калі прыехалі нашыя дарагія сябры, гэта быў дзень шчасьця. Сойм прайшоў сур'ёзна, арганізавана, як на Беларусі. Душа мая сьпявала. Але на вакзале, калі ўсе ад'язджалі, акрамя нас, было нясьцерпна цяжка і балюча.

Тут, за мяжой Беларусі, пачуцьцё сяброўства абвострылася. Калі да нас прыязджалі сябры, наступаў сьвяточны стан, і чым больш чалавек умяшчалася ў нашай невялікай кватэры, тым шчасьлівей было на душы. Я старанна выбірала ў краме і на рынку ўсялякія прадукты і зь вялікай любоўю гатавала абеды-сьняданьні, стараючыся ўкласьці ў кожную страву сваю душу. Нам з мужам нічога не было шкада для сяброў, а мне хацелася прыгатаваць для іх як найсмачней. Добра паесьці – гэта было, для ўсіх нас, безумоўна, не галоўнае, але мая душа мітусьлівa шукала, што б зрабіць добрага, харошага і – смачнага.

Усіх, хто прыязджаў да нас, я любіла, як родных. Яны і былі і ёсьць свае, родныя, амаль што ўсе... І толькі праз нейкі час я даведалася, што некаторыя сябрамі быць перасталі, і нават ператварыліся ў непрыяцеляў, хоць ім асабіста мы з мужам нічога дрэннага не зрабілі. Мы прадаўжалі ім давяраць, а яны затаіліся, і ішлі ў наш шчыра адкрыты дом.

Сябры прыязджалі, у асноўным, калі ў Варшаве быў Зянон. Так для мяне „палітыка" перапляталася з дарагім сяброўствам, якое напаўняла жыцьцё радасьцю. Здавалася, што сябры прывозяць да нас частачку нашай дарагой Радзімы, і часам я, паціскаючы іхныя рукі, адчувала на далонях сяброў дыханьне Беларусі... Колькі было такіх сустрэч, якія сагравалі і дапамагалі трымацца!

Пажыўшы на чужыне, я ўпэўнілася, што самае высокае сяброўства сапраўды нараджаецца на Беларусі. Гэты Боскі дар тут перадаецца ад душы да душы.

За гады нашага выгнаньня сяброўства выпрабавалася і стала наймацнейшым – з тымі, хто ня здрадзіў Беларусі дзеля ўласнага дабрабыту... Хто ня здрадзіў Беларусі – былі і застаюцца з Адраджэньнем.



*51. Сойм БНФ 29.01.2000 у Варшаве.*

* * *

Тут, на чужыне, сустрэлі мы і вялікую страту. Ня стала дарагога Васіля Ўладзімеравіча Быкава – магутнага таленту сусьветнага значэньня, моцнага грамадзяніна і вялікага беларуса. Як быццам страцілася вялікая апора ў нашым беларускім жыцьці...

Памёр наш слаўны сябра Ўладзімер Плешчанка. Адышлі ў нябыт некаторыя змагары парляманцкай Апазыцыі БНФ...

Кожны слаўны беларус, які жыў з думкай пра Беларусь і каго няма з намі, у маёй душы выклікае вялікі смутак. Але застаецца надзея, што такіх моцных і магутных людзей Бог нам даў нездарма. Гэта ёсьць апора нашай нацыянальнай сьведамасьці, наш гонар, наша нацыянальнае заплечча. Гэта тыя асобы, пра якія мы будзем расказваць наступным пакаленьням беларусаў і сілай іхнага прыкладу мацаваць маральны дух маладых нашчадкаў. Бо не было б у нас Скарыны, Быкава, Купалы, Коласа, Багдановіча, не было б Мірона – і Беларусі ня стала б.

Беларусь жыве! Сьветлую будучыню нашай Бацькаўшчыны я пераканана бачу ў чыстых змагарных сэрцах. Яны ёсьць і вырастаюць разам з ахвярнымі маладымі беларусамі.

Беларусь жыве – бо ёсьць нашая вялікая культура, наш Беларускі Дух.

Нядаўна па радыё „Свабода" я пачула шаноўнага Рыгора Барадуліна, ягоны верш-шэдэўр „Малітва", і была моцна ўзрушана. І радасна стала ў душы ад таго, што наша сьвятая зямля Беларусь мае такога магутнага майстра беларускага слова – Паэта сусьветнага маштабу. Я радуюся, што зьяўляюся яго сучасьніцай.

## НЕ ЗАСЯРОДЖВАЦЦА НА ДРЭННЫМ – ІСЬЦІ НАПЕРАД

Калі я ўспамінаю часы беларускага Адраджэньня 90-х гг., я знаходжуся ў стане шчасьця, хоць там былі і цяжкасьці, і расчараваньні, і сьлёзы.

Гэтае адчуваньне я тлумачу тым, што ў тыя часы далучылася да самага галоўнага ў жыцьці ўсёй нашай нацыі, да яе выратаваньня ад векавой акупацыі з усходу – імпэрскай Расеі. Мы шмат пасьпелі, але шмат нам ня далі пасьпець. Руская імпэрская машына жудасная. Але зь ёй трэба змагацца. З глыбіні вякоў нам трэба вяртаць памяць аб прыналежнасьці да вялікай нацыі, да каранёў Вялікага Княства, да нашай былой моцы і сілы. Гэта магчыма, і я ў гэта веру. Толькі трэба быць салідарнымі і заставацца сябрамі.

У межах Расеі знаходзіцца столькі народаў, разьвіцьцё якіх затарможана на стагоддзі, і гэта ёсьць палітыка страшнай імпэрыі. Багаты алмазны Якуцкі край і жабрацкі стан яго жыхароў – адзін з мноства прыкладаў, які мяне ўражвае найбольш.

А забарона татарскай мовы як мовы дзяржаўных зносінаў (забарона, калі ўжо быў прыняты Закон Татарстану) – такі дзяржаўны цынізм уласьцівы ў сучасным сьвеце, напэўна, толькі адной Расеі. Страшная дзяржава, дзе жабракі сядзяць на золаце, але пазбаўлены нацыянальнай волі.

Неяк па тэлебачаньні пачула выказваньне аднаго расейскага „бацюшкі”, які апякуецца салдатамі ў Чачэніі. Ён расказаў пра расейскага салдата, якога ён пахрысьціў у Ічкерыі, а праз тры дні яго забілі „бандыты”. „Я знаю, што за тры дні ён не пасьпеў нарабіць грахоў, і яго забілі. Мы пакланяемся яму як сьвятому. Думаю, што праз нейкі час мы зможам яго кананізаваць”, – пачула я з вуснаў таго „сьвятара” і не паверыла сваім вушам. Кананізаваць салдата-акупанта, які прышоў на чужую зямлю забіваць! Ну што яшчэ можна дадаць, каб усім стала, нарэшце, зразумела фальш рускай (а, фактычна, гэбоўскай) царквы і імпэрскай Расеі?!



***52. Васіль Быкаў на мітынгу ў Курапатах.***

Нам, беларусам, не хапае беларускага патрыятызму. Гэтаму нам трэба вучыцца, і найперш ў палякаў. Палякі ганарацца ўсім польскім, нават калі „польскага” – палова, ці чвэрць, ці дзясятая частка, ці кропелька. Ды што ў палякаў – нам вучыцца гэтаму трэба ва ўсіх, нават у цыганоў, якія ня маюць ні сваіх школаў, ні сваёй пісьмовасьці, ні літаратуры, але шануюць цыганскую мову. Нават у кашмарным сьне ня мог, напэўна, углядзець, уявіць вялікі наш канцлер Сапега, што аж гэтак калісь упадзе Вялікае нашае Княства.

* * *

Цяжкае ў нас змаганьне. Іржавыя абцугі імпэрскай Расеі яшчэ існуюць. Але мне вельмі дапамагаюць думкі Зянона: нельга засяроджвацца на дрэнным і дробным. У нас наперадзе вялікія сьветлыя справы. Трэба мець станоўчы ідэал. Ствараць пазытаўныя вобразы. Рабіць добрыя дзеяньні. Ісьці толькі наперад. Спакойна і годна рабіць нашу справу. І мы – пераможам.

***Галіна ПАЗЬНЯК***

*1998-2007 гг.*
*Варшава–Нью Ёрк*



***53. Гэта я, Божа.***

# УСПАМІНАЮЦЬ СЯБРЫ АПАЗЫЦЫІ БНФ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА 12-ГА СКЛІКАНЬНЯ

*(7 сьнежня 2003 г.)*

***Зянон Пазьняк:*** – Мы абмяркоўваем наступныя тэмы: прыняцьцё Дэклярацыі аб сувэрэнітэце, галадоўка Апазыцыі, увядзеньне войскаў у парлямант і зьбіцьцё дэпутатаў у красавіку 1995 г. і як Дзямянцея мянялі на Ціхіню.

***Юры Беленькі:*** – Я гэтую гісторыю зь Дзямянцеем добра памятаю, бо мне прыходзілася некалькі разоў расказваць і калегам, і розным людзям, як гэта адбывалася. Гісторыя наступная.

Калегі дэпутаты-фронтаўцы даведаліся, што камуністы зьбіраюцца замяніць М. Дзямянцея на В. Ціхіню. Ціхіня – гэта быў такі артадаксальны камуніст, вельмі жорсткі, цынічны (як мы тады ацэньвалі), доктар юрыдычных навук, ён быў тады Міністрам юстыцыі. Гэта быў чалавек, які па сваіх поглядах, скажам так, быў наш зацяты апанент. Калі камуністы змовіліся, то на кожнага з нас, сяброў Апазыцыі БНФ, на Пазьняка, выходзілі нейкія людзі (ці то дэпутаты ад камуністаў, якія мелі адносіны з сябрамі Апазыцыі, ці то работнікі Сакратарыяту) і казалі прыблізна так, што вось, маўляў, Дзямянцей нам надакучыў і трэба яго памяняць, гэта ж ганьба для краіны, і трэба паставіць прыстойнага адпаведнага чалавека, бо гэта ж сорам, што такі кіраўнік.

Са мной гэта было так. У калідоры мяне прыпыняе супрацоўнік Сакратарыяту і з вельмі падкрэсьленай прыхільнасьцю і павагай кажа: „Юры Адамавіч, ведаеце, прышоў час шчыра сказаць, што гэты Дзямянцей, ён жа такую ганьбу нясе для нашай краіны. Думаеце, толькі вы, Апазыцыя БНФ, супраць яго выступаеце? І мы ж супраць яго выступаем, і мы ж супраць яго. Трэба тэрмінова яго замяніць.”

Але калі мы атрымалі інфармацыю, што камуністы зьбіраюцца рабіць такую замену, мы дамовіліся (інфармацыю мы перадавалі адзін аднаму на вуліцы, нават не ў памяшканьні), што ня будзем галасаваць супраць Дзямянцея, бо Ціхіня – гэта быў бы значна, значна горшы варыянт для Беларусі.

І вось калі работнік Сакратарыяту мне гэтак сказаў, я ўжо гэтай інфармацыяй валодаў, я толькі пагадзіўся зь ім: „Так, так, канешне.”

Далей падзеі разгортваліся наступным чынам. Я ўпершыню бачыў такі спэктакль і як яны могуць спэктаклі такія ставіць ды разыгрываць. На Сэсіі Вярхоўнага Савета вырашалі адно такое кадравае пытаньне (я думаю, гэта таксама быў элемэнт спэктаклю), зьвязанае з тым, што адзін з дэпутатаў займаў пасаду ў выканаўчай структуры і быў дэпутатам, што супярэчыла Канстытуцыі. (На той час ужо былі прынятыя такія нормы, што асоба, якая займае пасаду, скажам, міністра, ня можа займаць пасаду дэпутата. Яму трэба было выбіраць адну з дзьвюх. У парадак дня ўносіцца такое пытаньне, і па гэтым чалавеку ўсё гладзенька вырашаюць, усё добра. І тут падымаецца дэпутат ад камуністычнай намэнклятуры і гаворыць: „Таварышы дэпутаты, бачаце, як добра мы вырашылі гэтае пытаньне. Ну раз ужо так добра пайшло, давайце вырашым йшчэ адно пытаньне, пра якое мы ўсе гаворым, але прышоў час ужо вырашыць. Колькі можна цярпець гэты сорам ад нашага Старшыні Вярхоўнага Савета таварыша Дзямянцея, гэта ганьба для краіны.”

Заля загула: „Так, так!” Мы (Апазыцыя Народнага Фронту) згодна падтрымліваем, ківаем галовамі, яны тут жа ўключаюць пытаньне ў парадак дня і ставяць на галасаваньне. Пануе адзінадушша, яшчэ нехта з месцаў падскоквае, такі пафас, узьнёсласьць, зьнешне глядзіцца ўсё „ў адзіным парыве” (як яны гаварылі). Так гэта ўсё выглядала ў залі – поўнае адзінства (Апазыцыя ж таксама ўвесь час казала, што Дзямянцей – гэта сорам). І тут яны ўжо гатовенькія: усё, ставім на галасаваньне, галасуем!

***Зянон Пазьняк:*** – А трэба ж было дзьве трэці галасоў.

***Юры Беленькі:*** – Так, так, дзьве трэці, Канстытуцыйная норма (чаму ж яны нас прыцягвалі: бяз нас яны не маглі вырашыць гэтае пытаньне). Вось галасуюць – і... няма дзьвюх трацінаў. Правал.

А перад гэтым было вырашанае пытаньне з Ціхінем так. Паднялі, значыцца, „вапрос”. Ціхіня – Міністар юстыцыі і дэпутат Вярхоўнага Савету – непасрэднае супярэчаньне Канстытуцыі. Трэба вырашыць! „Валеры Гур’евіч, прымайце рашэньне, ці вы так, ці гэтак (альбо дэпутат, альбо міністар).”

Ён выходзіць на трыбуну: „Товарищи депутаты!” Я сам юрыст, я цалкам з вамі згодны, канешне, гэта недапушчальна, я гэта ўсё прымаю, і таму я складаю з сябе паўнамоцтвы міністра.”

Тут у залі апладысмэнты: мужны ўчынак, маўляў, чалавек дзеля інтарэсаў і „торжества” закона зрабіў такі крок.

Пасьля гэтага (раз так добра пайшло), маўляў, – „мы і па Дземянцею вырашым”. Галасаваньне прайшло – і адбываецца канфуз.

А здарылася так таму, што Апазыцыя не галасавала.

***Зянон Пазьняк:*** – Мы дамовіліся, што ня будзем галасаваць, але ня сталі зь імі спрачацца.

***Юры Беленькі:*** – Так, мы дамовіліся, бо ведалі іхны плян. Дземянцей быў дрэнны, але ж Ціхіня быў бы на пасадзе шмат горшы. Дземянцей час ад часу прагаворваўся пра рэальныя іхнія задумы, гэта дазваляла нам знаходзіць нейкія шчыліны, ён ня так добра арыентаваўся ў заканадаўстве.

***Зянон Пазьняк:*** – Ён ня быў канцэптуальны непрыяцель. А Ціхіня быў падрыхтаваны, канцэптуальны вораг, зь юрыдычным апаратам у галаве. Ён бы абгрунтоўваў сваё цемрашальства са спасылкамі на пэўныя „нормы”. Гэта быў чалавек больш небясьпечны для Беларусі, для дэмакратыі.

***Юры Беленькі:*** – Так, так. Гэта быў (скажам так) ідэйны вораг з юрыдычнай падрыхтоўкай.

***Зянон Пазьняк:*** – Ён жа адзіны, хто галасаваў супраць Белавежскіх пагадненьняў, адзіны ва ўсім Парляманце. Уся камуністычная намэнклятура, як кажуць, здалася, зразумела, а ён адзіны тупа і прынцыпова галасаваў супраць.

***Юры Беленькі:*** – І гэта паказьнік, што гэта за асоба. І вось калі адбылося гэтае такое галасаваньне і Дземянцей (які, дарэчы, ужо сябе пахаваў) застаўся на пасадзе, у зале спачатку запанавала цішыня такая, незразумелая, імгненна такая вось доўгая паўза, усе камуністы былі ашаломленыя і не разумелі што сталася, і толькі раптам – бабах – выскоквае з трэскам і бягом па прыступках уніз Ціхіня: бубух-бубух-бубух. А намэнклятура разгубленая, яна не разумее, у чым справа. А ён – у мікрафон: „А нашто мне вашае дэпутацтва!” Дастае дэпутацкае пасьведчаньне (як мы называлі, мандат) і з грукатам аб трыбуну як ляпне (чаго трыбуну не разваліў).

І вось яно адразу ўсё раскрылася, на кантрасьце. Перад гэтым чалавек так кляўся ў любові да Радзімы, да Закону, а аказалася – гэта шкурнік самы сапраўдны. І гэта настолькі было прадэманстравана (тут жа разьбежка была – ні гады, ні месяцы, а нейкія там хвіліны! І гэта ўсё было настолькі відавочна, што нават намэнклятура ўжо...ёкнула.

***Зянон Пазьняк:*** – Трэба растлумачыць, што яны гэтага Ціхіню ўгаварылі, што ты, маўляў, складзі з сябе паўнамоцтвы міністра, і мы табе гарантуем, што ты будзеш Старшынёй Вярхоўнага Савета, мы цябе выбярэм. Вось ён вышаў на трыбуну, зрабіў спэктакль патрыёта, што ён адмаўляецца, што ён законапаслухмяны, сеў на месца, ужо гатовы стаць Старшынёй Вярхоўнага Савета**.** Тут галасуюць, і бэмц – не праходзіць. І ён па сваёй някемлівасьці не зразумеў (у галоўку не прышло), што гэта Апазыцыя яго завяліла, ён падумаў, што яны яго падманулі і таму ён пляснуў гэтым мандатам. Вось што атрымалася: ён раскрыў усю гэтую „кухню”. Ну, і галоўнае, захацеў міністрам застацца.

***Юры Беленькі:*** – Я, па праўдзе сказаць, думаю, што яго найбольш уразіў фінал, вынік спэктакля: ён пазбаўляецца пасады міністра і не становіцца Старшынёй Вярхоўнага Савета – і ён ашалеў.

***Зянон Пазьняк:*** – Становіцца „ніхто”. Але неўзабаве яго зрабілі кіраўніком „коммунистической группы депутатов”, а потым сакратаром ЦК КПБ.

***Юры Беленькі:*** – Вечарам быў рэпартаж па тэлебачаньні аб гэтай сэсіі, і тэлебачаньне паказала ўсё. Гэта ўсё было настолькі відавочна, што не патрабавала ніякіх дадатковых камэнтароў і тлумачэньняў. І людзі, нашы грамадзяне, хто паглядзеў, усё зразумелі, убачылі, як гэта брыдка.

***Зянон Пазьняк:*** – У жніўні 1991 года пасьля путчу, калі незалежнасьць здабывалі, гэтага Ціхіню народ абпляваў.

***Юры Беленькі:*** – Памятаю, што калі яго абплявалі, то намэнклятура кінулася яго абараняць на Сэсіі: вось тут, кажуць, Народны Фронт „физическое насилие совершил над Тихиней”. Тады падымаецца Сяргей Навумчык і кажа: „Ніякага „насільля” не было, яго, – кажа, – проста абплявалі”.

А Народны Фронт якраз (Дружына Фронту), калі людзі кінуліся на Ціхіню, абараніў яго. Інакш пашкамуталі б, – мала не здалося б.

***Зянон Пазьняк:*** – Так, ратавалі.

***Юры Беленькі:*** – Абаранілі яго, бо Народны Фронт – гэта была палітычна арганізаваная сіла і зразумела, што нельга, каб нават быў прэцэдэнт расправы. Сябры Фронта, узяўшыся за рукі, не дапусьцілі сутычкі. Тады людзі, ня ведаючы, што рабіць, абплявалі Ціхіню.

Але вернемся да спэктакля. Што ў мяне ў памяці застолося асабліва, дык гэта цішыня ў залі і потым гэтае ляпаньне дэпутацкім мандатам, з грукатам такім, а перад гэтым – ліслівае: „Юры Адамавіч, ведаеце, как он нам надоел Дементей, как он, это вот...” Я паглядзеў, як быў цалкам спэктакль гэты пастаўлены! Псэўда-эмоцыі, псэўда-пафас, фальшывасьць. Я падумаў: „Наколькі ж гэта фальшывыя людзі, напэўна, яны гатовыя на ўсё, калі здольныя рабіць такія рэчы.”

***Зянон Пазьняк:*** – Выканаюць любую каманду. Але бездары, бяздарныя акторы пагарэлага тэатра. Яны думалі гэтак нас ашукаць. Ня зь іхнымі здольнасьцямі з намі цягацца.

Цяпер пагаворым пра нашую галадоўку. Юры, успомні: як мы прышлі да такога рашэньня, як ішло далей, і эпізоды, якія ты запомніў.

***Юры Беленькі:*** – Я памятаю так. 1995 год. Пачаўся цынічны, шалёны наступ на ўсё беларускае. Лукашэнка як прышоў да ўлады, ужо набраў вакол сябе людзей, палітычныя арыентацыі якіх я б пазначыў так: рускія фашысты. Маё бачаньне такое. І тое, што Лукашэнка стаў Гітлера хваліць, гэта не была нейкая выпадковасьць-дурнота. У ягоным асяродку гэта была распаўсюджаная тэза, і ён проста выдаў гэтую тэзу. Сказаў, што думаў. Потым, калі нас зьбілі ў парляманце, адзін зь іх (такі Каралёў зайшоў)



***54. Сяргей Навумчык і Юры Беленькі. 1991 г. Хвіліна маўчаньня.***

– нават ягоны антураж, ягоныя паводзіны былі такія, як у фільмах паказваюць пра Гестапа. Нагледзеўшыся гэтых фільмаў, ён паводзіў сябе так падсьвядома. Антураж такі нават быў. І пра мову зьдзекліва, і „разьберемся с вами”. Ну, гэта было потым, уначы. А перад гэтым мы даведаліся пра сакрэтную дамову, якая была заключана ўрадам Кебіча з урадам Расеі пра тое, што за бясплатна аддаюць газавы транзіт, пра які і зараз ідзе гаворка. Бясплатна! Яны заключылі гэтае пагадненьне на ўзроўні ўрадаў, а не дзяржаваў (бо калі б „міждзяржаўнае” – трэба было б ратыфікаваць і выносіць на парлямант). І па гэтым пагадненьні, паўтараю, бясплатна аддавалі „Газпраму” ніткі газаправоду і землі адводу. Там было так і напісана: „Перадаюцца ў валоданьне карыстаньне і распараджэньне” (тры элемэнты ўласнасьці) – за нішто! А беларускі бок атрымліваў тое, што „будуць зьдзяйсьняцца пастаўкі газу” на тэрыторыю Беларусі. Не агаворвалася ні цана, нічога.

***Зянон Пазьняк:*** – Тут тыповая карупцыйная сітуацыя. За такую справу нехта атрымаў мільённы хабар.

***Юры Беленькі:*** – Гэта злачынства каласальных памераў супраць Беларусі. Карупцыя можна




*55. 1991. Пасьля мітынгу.*

ўявіць якая. І адначасна яны пачалі кампанію наступу на зьнішчэньне беларускай сымволікі, беларускай мовы. Гэта рабілася ў парушэньне ўсяго існуючага заканадаўства.

***Зянон Пазьняк:*** – Рыхтавалі рэфэрэндум.

***Юры Беленькі:*** – Так, пачалі рыхтаваць, парушалі і працэдуру, і самы пытаньні былі антыканстытуцыйныя. Значыць, поўны набор парушэньняў заканадаўства. Цынічны наступ. Стала відавочна, што няма механізмаў спыніць гэта, бо на той час камуністычная бальшыня Вярхоўнага Савета працавала ў структурах Саўміна Кебіча, яна, фактычна, была ўжо зьвязаная і пад кантролем выканаўчай улады. Вельмі гэта красамоўна было паказана, як здымалі Шушкевіча. Некаторыя нават да мяне падыходзілі (адзін старшыня калгаса, напрыклад), калі вывесілі сьпісы галасаваньня. (Здымалі Шушкевіча паіменнымі бюлетэнямі, але мы ў гэтым ня ўдзельнічалі. Мы ведалі, што калі б мы ўзялі ўдзел, нам потым скажуць, што „і вы Шушкевіча здымалі”.) Мы не пашлі галасаваць. Вельмі правільны крок быў. Зянон Станіслававіч тады прапанаваў такое рашэньне, падзеі паказалі, што мы мелі рацыю. Бо нас ужо спрабавалі на заўтрашні дзень абвінаваціць.

Тады падышоў старшыня калгаса (дэпутат) і кажа: „Юры Адамавіч, я разумею, што вы бачаце мяне ў сьпісе, што я галасаваў за зьняцьцё, але ж мне сказалі, што твой калгас не атрымае ні ўгнаеньняў, ні паліва – нічога. Людзей шкада.”

Была вось такая аргумэнтацыя. Можа гэта праўда, можа не зусім, а паўпраўда. Але нават на такім узроўні кожнага дэпутата, які працаваў у структурах і на якога можна было неяк уплываць, яны ўжо, як кажуць, прыхапілі.

Значыць, на той час гэты парлямант (ягоная большасьць) ужо цалкам кіраваўся выканаўчай структурай.

***Зянон Пазьняк:*** – А „выканаўчая структура” (Саўмін) цалкам кіравалася КГБ. Кебіч упусьціў іх у Саўмін. Там быў цэлы аддзел створаны на чале з Г. Данілавым такім (куратарам КГБ па Менскай вобласьці ў сістэме Аблвыканкама),



*56. Галадоўка дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. 1995 г.*

быў Дзяржсакратар прызначаны, Дзяржсакратарыят створаны і іншыя неканстытуцыйныя структуры.

***Юры Беленькі:*** – Так, так. Гайдукевіч там працаваў і іншая агентура КГБ.

***Зянон Пазьняк:*** – А КГБ кіравала Масква.

***Юры Беленькі:*** – Вось такі мэханізм быў створаны пры Кебічы. Пры Лукашэнку зьмянілі кадры, але ўсе тэндэнцыі засталіся. Было зразумела, што ў такой сітуацыі зрабіць законна нічога немагчыма, бо яны ўжо нават не зважалі на закон. Тады было прынята рашэньне. Мы вышлі на вуліцу, бо нашае памяшканьне, дзе мы зьбіраліся, цалкам праслухоўвалася. Гаварылі: „Ўсё, далей трэба ратаваць краіну". Бо відавочна, што мафія і лукашысты гатовыя былі йсьці на пралом. І тады было прынята рашэньне пра ўдзел у галадоўцы пратэсту, калі я не памыляюся, на гэты крок нас пайшло 19 чалавек дэпутатаў.

Назаўтра гэтая большасьць уключае ўсё ў парадак дня, прагаласавалі і гатовыя ўсё прымаць (увесь абсурд па рэферэндуму). Але мы такім вось крокам (калі аб'явілі пра галадоўку пратэсту і выйшлі на залю) – мы сарвалі іхныя пляны. Ім не ўдалося набраць галасоў, каб уключыць абсурдныя пытаньні ў рэфэрэндум. Ім не ўдаецца. Пытаньні завальваюцца. Такі наш крок палітычна моцны быў.

***Галіна Пазьняк:*** – Вы вышлі, селі перад імі, глядзелі ім „твар у твар". Якія былі вашыя назіраньні?

***Юры Беленькі:*** – Тут трэба сказаць пра кантраст адчуваньняў. Калі нас тады выкінулі з залі і калі яны засталіся адны, без Апазыцыі БНФ, то яны сябе паводзілі, як трусы перад удавамі: напалоханыя страшна былі. Аказываецца, мы давалі ім нейкую сьмеласьць. Вось я заўжды адчуваў гэта. Потым, калі мы вярнуліся, яны нават трошачку ажывалі. А так, адзін на адзін з гэтай сістэмай, яны як бы былі паралізаваныя ад страху. І калі мы селі насупраць, сапраўды, „вочы ў вочы" глядзім у залю, то нешта ў іх там, пэўна, зварушылася, нейкая сьмеласьць зьявілася ў некаторых дэпутатаў. І вынік мы дасягнулі адразу: рашэньні па

рэфэрэндуму (мова, сымволіка і г. д.) не былі прынятыя (не прайшлі, не набралі галасоў).

У залі мы знаходзіліся да канца, нікуды не выходзілі. Мы абвесьцілі галадоўку пратэсту, і гэтая падзея адразу стала інфармацыйна вядомая ў сьвеце.

Асноўныя драматычныя падзеі разгортваліся ўначы. Мы мелі інфармацыю, што яны гатовыя на самыя гнюсныя правакацыі. Спачатку гэта была вядомая гісторыя пра тое, што быццам бы будынак замінаваны. Зьявіліся вайскоўцы, дастаткова шмат. Яны былі не агрэсіўныя. Здаецца, там імі кіравалі ці ні два палкоўнікі (гэта так, па памяці), былі яшчэ там афіцэры, але ў асноўным – салдаты. Урэшце рэшт там былі перамовы з намі. Бо яны патрабавалі, каб мы вызвалілі залю, бо, маўляў, атрымана інфармацыя, што закладзена нейкае выбуховае рэчыва, і яны павінны гэта ўсё абшукаць.

Усе разумелі, для чаго гэта робіцца, што ніякага выбуховага рэчыва тут няма, што гэта прыдумалі наўмысна, каб проста выкінуць нас з залі, а потым не пусьціць. Мы прынялі рашэньне: ні пры якіх абставінах не пакідаць залю.

З вайскоўцамі гэтымі было так дамоўлена: што, калі яны адзін сэктар праверацць, мы пяройдзем у іншы, а яны далей правяраюць. Яны пагадзіліся. Відавочна было, што яны не заангажаваныя, што іх прымусілі гэта рабіць, і яны робяць. Яны праверылі ўсю залю – ніякай бомбы, натуральна, не знайшлі.

Пасьля гэтага ўвесь час на нас ішоў такі псыхалягічны прэсінг. Нас да гадзін трох ночы мучылі, не давалі спаць. Мы маглі б легчы спаць (калегі прынесьлі нам спальныя мяшкі), а лукашысты не давалі, усё прыходзілі з пагрозамі. Яны псіхалягічна ціснулі, пагражалі, нейкія прапановы і г. д.. Мы ні на што не пагаджаліся і цьвёрда стаялі на сваім.

Быў такі наш калега па Вярхоўным Савеце Міхаіл Цесавец, палкоўнік міліцыі. Ён тады працаваў, здаецца, намесьнікам начальніка Фрунзенскага РАУС Менску. Нічым сябе не выяўляў на паседжаньнях Вярхоўнага Савета, больш займаўся тым, што прыносіў паперы свае міліцэйскія, розныя пратаколы, праглядаў іх, падпісваў, ставіў свае візы. Ён сядзеў у нашым сэктары, то гэта было на віду. І тут ён выступае ў ролі начальніка гэтай банды, якая павінна выкінуць нас, дэпутатаў, зь Вярхоўнага Савета. Я думаю, спэцыяльна быў выбраны менавіта дэпутат, каб гэта неяк ураўнаважыць.

***Зянон Пазьняк:*** – Каб меў бы фармальнае права там знаходзіцца і адаваць каманды.

***Юры Беленькі:*** – Так, бо па законе, мы – дэпутаты, былі асобамі недатыкальнымі, ніхто ня меў права нас крануць. А гэта – як бы таксама дэпутат, нейкая раўнавага. Але ён быў не адзін. Усьлед за ім такі Каралёў заходзіў, рукі ў кішэні, і я памятаю ягоныя словы, зьдзеклівыя, цынічныя, вымаўленьне такое цынічнае: „Ну, пачакайце, пачакайце, пасьля чатырнаццатага мы з вамі ўсімі разбярэмся.” З акцэнтам так казаў расейскім, падкрэсьліна: „з усімі разбярэмся”. Пагрозьлівым тонам.

***Зянон Пазьняк:*** – Гэта быў кіраўнік аховы Лукашэнкі.

***Юры Беленькі:*** – Так. Ён быў у цывільным. Я памятаю, калегі казалі: „Што вы робіце ў будынку парлямента? Пакіньце залю, хто вас сюды пусьціў?” А ён усяроўна нахабна трымаў рукі ў кішэнях, дэманстраваў, што яму напляваць на законы, што справа часу, калі ён з намі ўсімі разбярэцца.

***Галіна Пазьняк:*** – Чаму пасьля 14-га?

***Зянон Пазьняк:*** – 14-га мая яны хацелі рэфэрэндум правесьці.

***Юры Беленькі:*** – Усе іхныя спробы псіхалягічнага прэсінгу на нас выніку не далі. Ні адзін з нас не сышоў, ні адзін чалавек не пакінуў залю. Не было ні ў каго ніякіх ваганьняў, абсалютна. Была еднасьць, была ўпэўненасьць, цьвёрдасьць. Я не заўважыў, каб хто з сябраў праявіў слабіну, такога не было. Наадварот: яшчэ большая згуртаванасьць. Мы між сабой гаварылі: усяроўна яны нейкія дзеяньні будуць рабіць. І гэта было відаць па паводзінах Каралёва гэтага, Цесаўца, а мы Цесаўцу гаварылі ў твар: „Міша, ты за гэта будзеш несьці адказнасьць крымінальную! Бо ты ведаеш, што ты парушаеш закон, цынічным чынам, тым больш, што ты юрыст-міліцыянер.”

Па праўдзе сказаць, ён калаціўся. І урэшце рэшт яны раптам кажуць: „Ну ўсё, кладзіцеся спаць, спакойна, мы вас ня будзем турбаваць”. Была, прыблізна, трэцяя гадзіна ночы.

Але верыць гэтым людзям, канешне, ніяк нельга было. Было прынята рашэньне пакінуць двух дзяжурных (адзін быў В. Голубеў, а хто другі – не памятаю). Я быў выматаны гэтым усім, такім цяжкім днём, ды яшчэ й бяз ежы. І як толькі я лёг, то адразу ў сон і праваліўся. І здаецца, толькі я заснуў, раздаецца крык. І я ня тое, што падскочыў, а, здаецца, ўстаў, як Ванька-ўстанька, такое было ўражаньне. І – сну няма. Голубеў потым казаў, што закрычаў: „Аўтаматчыкі!". А я пачуў толькі крык. І тут запальваецца сьвятло, мы бачым: на бальконах два апэратары зь відэа-камэрамі, ўжо здымаюць (яны ціхенька неяк прайшлі). І зноў заходзіць Цесавец з Каралёвым, у Цесаўца ўжо дрыжыць голас, ён, як быццам нюні пускае там, і гаворыць: „Ультыматум вам: калі вы праз тры хвіліны, даю вам тры хвіліны. Калі вы праз тры хвіліны не пакініце залю, мы ўжываем сілу."

Мы тут жа сядаем на тым сэктары, дзе сядзіць звычайна кіраўніцтва Вярхоўнага Савету (у прэзыдыюм), бярэмся за рукі. А перад гэтым трошкі раней, тады калі запалілася сьвятло, сталі адчыняцца дзьверы, і мы пабачылі салдат у рэсьпіратарах і са зброяй. Я тады адразу вызначыў, што хацелі пусьціць газ, труціць нас газам. У мяне абсалютная была тады ўпэўненасьць, і цяпер таксама.

***Зянон Пазьняк:*** – Атруціць і вынесьці сьпячымі.

***Юры Беленькі:*** – Сьпячымі, даць бутэлькі з гарэлкай, зьдзеквацца, ня ведаю, што. Але тое, што хацелі пусьціць і атруціць нас газам – гэта відавочна, няма сумненьня.

***Зянон Пазьняк:*** – „Вось, – маўляў, глядзіце – „они мертвецки пьяны". Зрэшты, яны маглі вынесьці нас і мёртвымі. Апраўдаліся б. Вопыт маюць.

***Юры Беленькі:*** – Так. Дарэчы, калі Лукашэнка сказаў пра Норд-Ост („Спытайце ў мяне, я ведаю, што рабіць"), у мяне тады ўжо ўзьнікла думка, што могуць патруціць іх газам, там, у тэатры. Разумееце, якія асацыяцыі моцныя, вельмі выразныя: нават тыя крэслы чырвоныя, што там у залі Вярхоўнага Савета, што ў Норд-Осьце – аднолькавыя. Гэты Норд-Ост – правакацыя КГБ, зараз гэта ўсё вылезла наверх, усё відавочна. Але ў мяне адразу асацыяцыя-ўзгадка гэтых салдат у рэсьпіратарах, у гэтых шлемах-сфэрах вялікіх, „спэцназы" з аўтаматамі.

Потым дзьверы зачыніліся і ўжо ўвайшлі Цесавец і Каралёў з ультыматумам. Мы ўжо сядзім, сашчапіўшыся рукамі, раптам усе дзьверы адчыняюцца і ляцяць нейкія ў чорных трыко (спартовых штанах, майках), у чорных масках (усё чорнае, відавочна, што гэта быў такі эфэкт застрашваньня). Ляцяць з крыкамі, і адразу кідаюцца на спадара Пазьняка. Адразу, гэта быў іх першы ўдар, яны кінуліся, схапілі і сталі шкамутаць, круціць рукі, ціснуць на вочы і г.д. – вось такія бандыцкія, садысцкія прыёмы сталі прымяняць. Потым я ўжо ня памятаю, бо наляцелі ўжо і на мяне.

Яшчэ быў эпізод, я забыўся расказаць. Перад тым, як яны сказалі, што „можаце спаць". Гэта калі мы сядзелі ў прэзыдыюме. Зайшло некалькі чалавек. Кіраваў імі той жа Цесавец. Так атрымалася, што крайні сядзеў Гюнтар, ён па целаскладу чалавек невялікі, а я сядзеў перад ім. Яны сталі спрабаваць (Цесавец сам) цягнуць Гюнтэра, а я яго трымаў. Цесавец даў каманду гэтым людзям, якія былі ў цывільным, рабіць тое самае. А тыя ня выканалі ягоны загад, яны адвярнуліся.

***Зянон Пазьняк:*** – Трэба сказаць, што мы зь імі, гэтымі людзьмі, перагаварылі, пераказвалі ім нормы права, чаго яны не павінны рабіць, за што будуць несьці адказнасьць і г. д.

***Юры Беленькі:*** – Так, усё было сказана пра парушэньне Канстытуцыі, закона, што мы маем дэпутацкую недатыкальнасьць, што за гэтыя дзеяньні ёсьць вельмі сур'ёзная адказнасьць, у адпаведнасьці з Крымінальным Кодэксам. Усё тым людзям было сказана. І адзіны, хто на фізічныя дзеяньні рашыўся, гэта быў Цесавец. Але ён быў у такім нэрвовым стане, што мы проста сядзелі і не адказвалі яму на ягоныя патрабаваньні. Так Цесавец і ня вырваў гэтага маленькага Гюнтара. Мы не далі вырваць, хаця Цесавец (у параўнаньні з Гюнтарам) – такая бычыная шыя, такі здаровы лом.

***Зянон Пазьняк:*** – Ну, дык ён жа самбіст.

***Юры Беленькі:*** – Ага, прафэсіянал. Але ён псіхалягічна, відаць, ня быў падрыхтаваны. Страх быў. Ён рабіў гэта зь вялікім страхам. Вочы былі ў страху, цягне, а сам баіцца. А гэтыя адвярнуліся і ня сталі яму дапамагаць.

Значыцца, усьлед за гэтымі чорнымі ў масках наляцелі ў цывільным (у скураных куртках, у звычайных штанах людзі) і сталі ўжо нас вырываць. Да мяне падскочылі ззаду і так вось узялі за горла рукой і сталі цісនуць на горла. І не адзін, гэта ўдваёх сьціснулі горла, потым наляцелі ззаду, скруцілі рукі за сьпіной настолькі моцна, што проста галава знаходзілася недзе на ўзроўні каленяў (настолькі моцна было закручана). І ў гэты момант (я зьвярнуў увагу) у залю нагналі салдат спэцназа, які (такое было ўражаньне) прыціснуў міліцыю, якая была ў форме, да сьценкі, уздоўж па перыметру. Такое было ўражаньне. Салдаты гэтыя былі з дубінкамі. Гэтыя нас валакуць, а тыя (час ад часу) дубінкамі па нас. І мне дасталася дубінкай. Працягнулі нас праз файе і праз „чорны ход” у дворык Вярхоўнага Савета.

Там таксама „калідор” салдат спэцназа быў, і там мне ўжо дубінкай некалькі разоў ударылі. Далей стаялі ўжо „крумкачы” ў глыбіні. І там камандваў нейкі чалавек у цывільным, і ён кулаком у патыліцу мне ўдарыў і гэтым двум, што мяне валаклі, загадаў: „С разьбегу его кидайте”.

Ну, там калі б з разбегу кінулі ў гэты „крумкач”, то там наступствы былі б. Але мяне яны чамусьці ня кінулі, па праўдзе сказаць. Потым яшчэ некага закінулі.

***Зянон Пазьняк:*** – Там жа жалезная падлога.

***Юры Беленькі:*** – Так, і краты жалезныя. Калі б яны аб краты гэта ўдарылі з разьбегу, як той загадваў, то калецтва было б.

***Зянон Пазьняк:*** – Некаторых кідалі.

***Юры Беленькі:*** – Кідалі. Відаць, каму як траплялiся: каму садысты, каму не. Мне вось у гэтым пашэньціла, што не садысты. А вось Алеся Шута дык зьбілі дубінкамі вельмі моцна ў гэтым „крумкачы”. Вось у яго трэба запытацца.

Потым вывезьлі, недзе выкінулі мяне ў раёне вуліцы Захарава. Было цёмна, ноч. Мы пайшлі адразу ў сядзібу Фронта, ўсе інстынктыўна там сабраліся.

***Зянон Пазьняк:*** – Яны разьвезьлі ў розныя канцы горада.

***Юры Беленькі:*** – Добра было, што (як я ведаю) спадар Буйвал дзяжурыў ва Ўправе. Ён, як чалавек з вострым розумам, адчуваў, што ў гэтую ноч можа штосьці адбыцца і проста паппрасіў многіх фронтаўцаў застацца ва Ўправе Фронта. І калі нас выкінулі, мы думаем: ну куды, уначы? Ва Ўправу. І там было прынята рашэньне – адразу ў Пракуратуру. Гэта было важнае рашэньне (потым я ацэньваў). Цяпер інтэрв’ю дае сьледчы пракуратуры, які потым вёў справы, Язэп Бролішс. Калі б мы не зрабілі гэта ўначы, наступствы былі б іншыя. Паднялі ноччу Генэральнага пракурора Шаладонава (ён быў дэпутатам Вярхоўнага Савета таксама).

А па сцэнару, па пляну, павінны былі нас абвінаваціць, абылгаць. Таму найперш меліся нас атруціць газам. Лукашэнка назаўтра ня ведаў, што сабралася Калегія пракуратуры, што яна ўзбудзіла крымінальную справу па факту нашага зьбіцьця. Лукашэнка быў упэўнены, што ўзбудзілі крымінальную справу па нас (так як імі было задумана). Таму ён так упэўнена гаварыў, што вось, маўляў, так і гэтак, узбуджана на іх крымінальная справа, яны там з жанчынамі былі, п’яныя былі. Відавочна, што такі сцэнарны ў іх быў плян. І потым Язэп Бролішс сказаў, што калі б адразу, уначы, мы не паехалі б у пракуратуру і калі б пракуратура тут жа не ўзбудзіла справу (фактычна супраць Лукашэнкі), то потым даказаць, што адбылося, было б немагчыма. Усё б гэта схавалі.

***Зянон Пазьняк:*** – І тады б Шаладонаў атрымаў указаньне не заводзіць справу па факту. Далі б іншае ўказаньне і ён па савецкай звычцы, хутчэй бы за ўсё, паслухаў. А так прыехалі дэпутаты, ён пачуў – такая справа – і давай – узбудзіў справу, ўсё па закону, усё, як належыць. Ён ня быў яшчэ зьверху інфармаваны, выконваў закон. Тут жа справа пайшла на Прэзідыум Вярхоўнага Савета. Паседжаньне Прэзыдыюма пачалосяся ў 9 гадзінаў раніцы. Прэзідыюм заслухаў нас, дэпутатаў, Генэральнага пракурора і прыняў рашэньне згодна з законам паставіць на Вярхоўным Савеце пытаньне аб прыпыненьні прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў і дзейнасьці Лукашэнкі на пэрыяд праходжаньня крымінальнай справы. Мы зьбіраліся выступіць і выкласьці ўсё.

***Сяргей Папкоў:*** – Між іншым, паехалі падаваць заяву ў Пракуратуру тады некалькі чалавек. Сярод іх быў Алег Трусаў, Алесь Шут, здаецца, і яшчэ нехта. Мы ўсе былі ў розных канцах горада. Тыя што апынуліся бліжэй (недзе ў скверы Янкі

Купалы) – сабраліся і пайшлі ў Генэральную Пракуратуру пешкі, бо ноч была.

***Зянон Пазьняк:*** – Там дзяжурны пракурор цэлую ноч дзяжурыць.

***Юры Беленькі:*** – Дарэчы, нават у гэтым годзе было інтэрв'ю, і Бролішс яшчэ раз падкрэсьліў: калі б мы дачакаліся раніцы, то наступствы былі б вельмі трагічныя для нас. Бо была закручана вельмі брудная фальсіфікацыя. Але зраніцы, калі мы прышлі на паседжаньне Вярхоўнага Савета, ён быў блякіраваны, міліцыя нас не пускала.

***Галіна Пазьняк :*** – А чаму яны ўсё ж не скарысталі супраць вас газ, калі была задумка?

***Юры Беленькі:*** – Задумка то была, пэўна была, але яны самы сябе выдалі па неасьцярожнасьці.

***Зянон Пазьняк:*** – Там іх цэлае файе стаяла.

***Юры Беленькі:*** – Я думаю, каля батальёна было там.

***Зянон Пазьняк:*** – Якраз так, 600 чалавек было. Гэта потым пацьвердзіў старшыня КГБ генэрал Кез, калі выступаў у Вярхоўным Савеце перад дэпутатамі 13-га скліканьня.

***Юры Беленькі:*** – Тады ў іх, відаць, усё расстроілася. Яны былі ў рэсьпіратарах. Яны павінны былі дзейнічаць у пэўнай пасьлядоўнасьці. Задача ў спэцназа была – блакіраваць цалкам, а спэцслужбы (у рэсьпіратарах) павінны былі, напэўна, ўсё здзейсьніць з газам. Голубеў падняў трывогу. А гэтыя, наверсе, якія павінны былі ўсё здымаць, падумалі, відаць, што гэта ўжо каманда



(Фота Лявона Дзейкі.)

***57. Галадоўка дэпутатаў Апазыцыі БНФ. Ноч на 12.04.95 у Вярхоўным Савеце. М. Цесавец і В. Каралёў хапаюць і спрабуюць цягнуць дэпутата Барыса Гюнтара.***

***Зянон Пазьняк:*** – Голубеў звон мэталу пачуў у файе.

***Юры Беленькі:*** – Калі чалавек служыў у войску, ён ведае гукі, калі дастатковая колькасьць узброеных людзей перасоўваецца. Знаёмыя такія спэцыфічныя гукі. Ён адчыніў дзьверы і ўбачыў гэтых людзей.

і запалілі сьвятло. З-за чаго гэта адбылося. Адразу рэзкі шум – і яны адразу запальваюць сьвятло, і мы тут ужо ўсё бачым.

***Зянон Пазьняк:*** – Яны не разьлічылі, што мы выставім дзяжурных, што мы іх заўважым і што падымем трывогу. Таму была замінка. Потым ўльтыматум (гэта ўжо быў іхны другі варыянт). І

тады ўжо кінуліся фізічна зьбіваць. Але вернемся да падзеяў пасьля паседжаньня Прэзыдыюма.

***Юры Беленькі:*** – Раніцай усе мы падышлі да Вярхоўнага Савета, аж нас не пускаюць. І тут зьяўляецца Шаладонаў. Я памятаю, Шаладонаў хоча ісьці, а на яго шляху стаіць маёр міліцыі і не пускае Шаладонава(!), Генэральнага пракурора ў Вярхоўны Савет, дэпутата. І Шаладонаў (ён проста вельмі буйнога пляну чалавек) ён проста корпусам на яго пайшоў і зьмёў з дарогі. Той проста стаяў упоперак, але супраць Генэральнага пракурора сілу не прымяніў. І мы ўсьлед за Шаладонавым – у залю. І калі мы прышлі ў залю, то ўбачылі, што ўсе яны былі ў страху, гэтыя астатнія дэпутаты, нават у паралізаваным страху.

У нас страху не было. Мы прайшлі. Шут стаў паказваць ўразы на целе: глядзіце, маўляў, што зрабілі. Тут паяўляецца раптам Цесавец (не адзін, за ім сьледам ішло чалавек сем у цывільным, прыблізна). І, я памятаю, Зданевіч пабачыў яго (а ягонае дэпутацкае месца было недалёка ад Цесаўца, яны так добра кантактавалі) і кажа: „Ідзі вон адсюль, пайшоў адсюль!” А Мікола Маркевіч (сам калісьці міліцыянер і самбіст) кінуўся на Цесаўца, схапіў за грудзі і з крыкам: „Прэч пайшоў, прэч, ты здрада, ты нягоднік! – пачаў яго выштурхіваць з залі. Ашарашаны Цесавец пачаў упірацца і аглядваецца на гэтых людзей, на сваіх, каб атрымаць падтрымку, а яны – не, у тыл, у тыл. І ён з такім страхам – у тыл. Зданевіч з Маркевічам проста прагналі іх.

***Зянон Пазьняк:*** – Як Маркевіч кінуўся, я добра памятаю. Там нас шмат было. Добра зрабілі, што прагналі.

***Юры Беленькі:*** – І потым адбываецца паседжаньне. І я бачу твары гэтых ветэранаў. Яны ўсе калаціліся, усе ў страху былі.

І потым, пасьля гэтага, пазыцыя Грыба, які быў старшынёй Вярхоўнага Савета. Трэба было адразу прыняць рашэньне аб прыпыненьні паўнамоцтваў і пачаць працэдуру імпічманту Лукашэнкі, адразу. А ён быў у страху, трусіўся – „міліцэйскі” генэрал. Уся гэтая публіка, увесь гэты Прэзыдыюм, усе гэтыя сядзельцы ў залі праявілася як баязьліўцы, гэтая баязьлівасьць іхняя вылезла і паказала, што гэта людзі проста нікчэмныя. Проста нікчэмнасьці. Мы зрабілі ўсё, што магчама было ў той сытуацыі – завалілі рашэньне аб незаконным рэфэрэндуме, з’арыентаваліся ў час нападу войска на парлямант (не даліся атруціць газам), неадкладна паінфармавалі Генпракуратуру і ўзбудзілі справу, паінфармавалі Прэзыдыюм і Прэзыдыюм прыняў адпаведнае рашэньне, нарэшце, прабіліся ў акружаны ўнутраным войскам парлямант. Ім толькі засталося пачаць – а яны – не. Не асьмеліліся, прамямлілі, задрыжэлі, не пайшлі па закону і справядлівасьці. Гэта быў пераломны момант.

Пераломны момант быў яшчэ ў тым, што грамадзтва змаўчала. З пункту гледжаньня нармальнай лёгікі, людзі павінны былі нас падтрымаць. У першую чаргу, журналісты. Адпаведная інфармацыя павінна была быць. Бо зьбілі дэпутатаў Парляманту ў Парляманце! Увялі узброеных людзей, увялі войска ў Парлямант! Калі б такое адбылося ў іншай краіне – была б адпаведная рэакцыя ва ўсім сьвеце. А тут... Нейкае асьвятленьне такое было, кшталту „мала далі”. Не было разуменьня. Мы ім гаварылі (журналістам гэтым ды дэпутатам): „гэта ня толькі нас пабілі, гэта ўсіх вас, усё грамадзтва, пачакайце, яшчэ будуць вас біць палкамі на вуліцах і ў сваёй хаце”.

Калі потым (у гэты ж дзень) быў мітынг, здаецца, у скверы каля рэзідэнцыі Лукашэнкавай сёньняшняй, я казаў: „Яны хацелі нас запалохаць, але мы не пабаяліся. І я пабачыў, што яны трасуцца. А калі паднялі руку на нас, на дэпутатаў, людзі павінны зразумець: калі так з дэпутатамі, то з астатнімі будзе нашмат горай”. І яно потым так і сталася. Гэтыя людзі (кіраўнікі Парляманту), іхняя баязьлівасьць, здрадніцкая пазыцыя – прывялі да сёньняшняй сітуацыі. Сёньня яны там у гэтай квазі-„апазыцыі”, даюць яшчэ нейкія інтэрв’ю. А што тады было? Калі закончылася кадэнцыя гэтага Вярхоўнага Савета, Лукашэнка ўчыніў банкет для іх (для іх, якіх адкрыта ў грош ня ставіў, ёрнічаў, называў „грыбамі” і г.д.) і ўсе гэтыя сёньняшнія „апазыцыянеры”, кшталту Лябедзькі, Грыба, Булахава і т.п. – пайшлі зь ім за адзін стол, пілі гарэлку з Лукашэнкам і потым яшчэ сфатаграфаваліся. У газэце гэты здымак быў. Вось гэта была здрада. Вось быў паказьнік нікчэмнасьці.

Адразу тады я даў інтэрв’ю малатыражнай газэце „Сэнсацыя”, даў свае ацэнкі, расказаў усё,

што было. Валеры Сядоў браў інтэрв'ю. Я тады і ў Амэрыку выслаў яго. Хаця не ўпэўнены, што яны там у дыяспары, зразумелі што адбылося.

***Зянон Пазьняк:* –** Калі што і зразумелі, то адзін-два чалавекі.

***Галіна Пазьняк:*** – Дык і ў „сядзібным" Фронце некаторыя не разумелі што сталася. Я ж памятаю іхныя насупленыя твары, гэтых цяперашніх кааліцыянтаў з камуністамі.

***Зянон Пазьняк:*** – Парлямант стаў вялікай палітычнай школай для фронтаўцаў. Я бачыў, што той, хто празь яе прайшоў, той вырас на цэлы парадак. Ну, а хто не прайшоў, той не прайшоў. Некаторыя ўспрымалі ўсё гэта даволі хваравіта.

***Галіна Пазьняк:*** – Хіба ж гэта магло рабіцца прычынай у ацэнках, калі важыцца Беларусь?

***Зянон Пазьняк:*** – Агульная прычана ў эгалітарнай псыхалёгіі. На жаль. Але вернемся ў Вярхоўны Савет.

***Юры Беленькі:*** – Цяпер некаторыя ўзгадваюць, кажуць, што сапраўды, пералом адбыўся тады, калі ў Вяхоўным Савеце Грыб струсіў. Калі прайшло ўжо шмат гадоў, (калі адбылося тое, што мы маем), тады ўжо зразумелі (і журналісты, і палітыкі, якія тады так па-тупому адрэагавалі), што да чаго. Але позна – жырафа ваўкі зьелі.

***Зянон Пазьняк:*** – Гэта людзі без чалавечай годнасьці.

***Юры Беленькі:*** – Не зразумець, што мы сталі на рубяжы абароны, у тым ліку і іхнай. Што калі мы ў такой сітуацыі, то ім будзе яшчэ горш.

***Зянон Пазьняк:*** – А якія табе запомніліся дэталі, ці што цябе зьдзівіла, што запомнілася?

***Юры Беленькі:*** – З дэталяў запомніўся страх Цесаўца, калі ён ня мог стрымацца, калі калаціліся ягоныя рукі, цынізм Каралёва, нахабнасьць, нянавісьць да ўсіх нас, і страх Вярхоўнага Савета. Я помню выразы твараў гэтых дэпутатаў. Яны сядзелі, як паралізаваныя гэтым страхам. Гэта мне запомнілася. А нашы людзі – ніхто не баяўся, не было страху. Усе прышлі рашучыя, з патрабаваньнем. Гэта запала.

***Галіна Пазьняк:*** – Юры, ты быў яшчэ і дэпутатам Менскага Гарадзкога Савета. Я памятаю, што наранiцы пасьля вашага зьбіцьця, у нас там было прызначана сумеснае фатаграфаваньне і нейкі фуршэт з шампанскім, бо канчалася наша кадэнцыя. Я гаварыла Гурыновічу, што нельга зь імі разам, што адбылася трагедыя. Але ён гэтага не разумеў, і дэпутаты пайшлі (на чале з Гурыновічам). Засталіся толькі мы з Вольгай Кузьміч. Астатнія „дэмакраты" – пайшлі, нават з задавальненьнем.

***Юры Беленькі:*** – Я там ня быў, таму ня памятаю. У Вярхоўным Савеце таксама рабілі гэтую п'янку (у сувязі з заканчэньнем кадэнцыі). Мне некалькі разоў званілі дахаты: „Прыдзіце, забярыце імянны гадзіньнік дэпутата Вярхоўнага Савета ад Лукашэнкі. Я, натуральна, не пайшоў. Гэта зьнявага такая: зьбілі, выкінулі, парушылі ўсё заканадаўства, зьняважылі народ, краіну, а ты ідзі і з рук гэтага нягодніка атрымлівай гадзіньнік. І, канешне, я быў вельмі абураны, што дэпутаты (акрамя дэпутатаў-фронтаўцаў, вядома) пайшлі на гэты фуршэт, пасьля таго, што адбылося. (Гэта ж было праз некалькі дзён.) У такія моманты ўсё праяўляецца, усё становіцца на свае месцы. Гэта, як кажуць, моманты ісьціны.

***Зянон Пазьняк:*** – Сяргей Пятровіч, а якія Вы памятаеце дэталі, карціны?

***Сяргей Папкоў:*** – Я памятаю, што першая спроба выдаліць нас з залі была такая, як бы больш цывілізаваная, падманная, калі прыслалі сапёраў і пажарных (што трэба вызваліць залю, якая (па пажарных умовах) павінна зачыняцца, правярацца. Пажарныя прышлі прыкладна а 20-й ці 21-й гадзіне. Калі мы не пагадзіліся, зьявіліся гэтыя сапёры правяраць залю.

Перамовы, якія йшлі з пажарным і сапёрамі, проста паказалі, што гэта была першая спроба. Яна была такая спантанная і непадрыхтаваная. Ім жорсткіх заданьняў не далі, і ўдалося іх угаварыць на кампраміс, што мы перасядзем, а яны будуць правяраць па частках залю. Праверылі і сышлі.

Другая спроба выдаліць нас была, калі зьявіліся Каралёў і Цесавец (гэта каля 24-х гадзінаў, як я памятаю). Яны зьявіліся з камандай, чалавек 20-25. Яны былі ў цывільным. Мы селі ў Прэзыдыюм, счапіліся рукамі. Я з Гюнтарам сядзеў. Гюнтар з краю, а я побач зь ім. Юры Адамавіч на папярэднім радзе. А мы – чацьвёрты ці пяты шэраг крэслаў. Яны кінуліся нас, крайніх, выцягваць. І тут усе, у адзін голас: „Вы ня маеце права, вы парушаеце Канстытуцыю, недатыкальнасьць дэпутатаў". І гэта падзейнічала. Цесавец памкнуў-

ся, пачаў хапаць Гюнтэра. Цесавец пачаў, а яму не дапамагаюць (бо быў маральны ўціск наш). І яму прышлось спыніць гэтае „вырываньне". Яны сышлі. Другі раз (гэта як я памятаю) ужо не было Цесаўца і Каралёва. Быў гэты крык Голубева, што „аўтаматчыкі". Мы ўсе ўсхапіліся, загарэлася сьвятло, мы хутка пачалі садзіцца на гэтыя месцы, зноў усе счапіліся. І тут адчыняюцца дзьверы, выскокваюць аўтаматчыкі і па пэрымэтру становяцца са зброяй у шэраг. Як яны выстраіліся, ляцяць праз праходы зьверху ў чорных масках і ў чорным. Ніякага Цесаўца ўжо не было, гэта ўжо была тая апэрацыя, сілавая.

***Зянон Пазьняк:*** – Перад гэтым увайшоў генэрал і сказаў, што дае тры мінуты.

***Сяргей Папкоў:*** – Гэта было, тры мінуты дае. Значыцца, ляцяць у масках гэтыя. Мы зноў з Гюнтарам сядзім, я так яго трымаю ўсёй сілай. Яго спрабуюць вырываць – не атрымліваецца. Яны тады мне з сілай па руках – бац. Адбілі маю руку (людзі спрактыкаваныя). Гюнтара ўжо няма. Я крайні. Я ўчапіўся ў крэслы, і нагамі, і рукамі. „Што ты зь ім возішся, давай, бі па руках, за ногі хапай,"— чую. Адзін зь іх бярэ мяне за ногі, другі за рукі і валакуць мяне, лежачы. Праз чорны ход выносілі. Там па лесьвіцы па гэтай стаіць кардон з двух бакоў (каля сьцяны і каля поручняў) стаяць міліцыянты, ужо ў зялёнай форме, ці шэра-сіняй. Яны стварылі „калідор", і па гэтаму „калідору" міліцэйскаму нас выносілі.

Мяне ўкінулі ў „крумкач", ня білі, але я аказаўся без чаравіка. Мяне кінулі зь Юрам. Нас аказалася чалавек пяць. На Захарава нас і вывезьлі. Я ў адным чаравіку. Адзін ёсьць, а другога няма. Юра з Крыжаноўскім, здаецца, пашлі, узялі таксі (яшчэ халады, мокра, мокры сьнег). Мяне адвезьлі дамоў.

Што зьдзівіла, гэта тое, што мы галадалі ў залі, а на плошчы нікога няма. Нас не падтрымалі. Людзі ня вышлі, не было дапамогі.

***Зянон Пазьняк:*** – І гэта пры нашай перамозе. Рэфэрэндум жа мы завалілі. А плошча была пустой не выпадкова. Знайшліся мудрацы ў Фронце, што рабілі ўсё наадварот. І выгнаць тады іх немагчыма было.

***Сяргей Папкоў:*** – Пры нашай перамозе! Гэта такі момант. Калі б была масавая падтрымка, ход падзеяў пайшоў бы зусім па-іншаму. Тады ўсё ў запале такім было, была рашучасьць, упэўненасьць, што трэба так рабіць, не было ніякіх супярэчлівых думак, ці правільна гэта. Усё гэта правільна рабілася, так і трэба было рабіць.

***Галіна Пазьняк:*** – Яшчэ ўдакладненьне: гэта ня Голубеў, а яны ўключылі сьвятло?

***Сяргей Папкоў:*** – Яны.

***Юры Беленькі:*** – Яшчэ цікавы момант. Калі выклікаў сьледчы пракуратуры Бролішс, ён пытаўся, ці пашкодзілі адзеньне. Я ўзгадаў, што ў мяне было сьветлае паліто з плашчовай тканіны. Дык там адзін пагончык адарвалі, гузікі павырывалі. І тады ён паказвае стужку. І сапраўды я гляджу, мы сядзім – гэта ўсё зазьнята. Частка стужкі была ў сьледчага пракуратуры. Яму яе прадставілі гэтыя ўлады. Гэта паказьнік таго, што стужка ў іх ёсьць (раз яны частку прадставілі).

***Сяргей Папкоў:*** – Мы потым пайшлі ў лечкамісію і зьнялі пабоі (мы ж дэпутаты былі, яны не маглі нам адмовіць).

***Зянон Пазьняк:*** – А потым, калі ўжо сьледства было, пабоі здымалі паўторна, па накіраваньні Пракуратуры (праз некалькі дзён).

***Юры Беленькі:*** – А я зрабіў памылку, не пайшоў. Сьледчы казаў, што дарэмна не зрабіў гэта. Я яму сказаў, што ў мяне былі толькі ўразы мяккіх тканак, на маю думку, нічога сур'ёзнага. Але ён казаў, што ўсяроўна гэта трэба было зрабіць. І сказаў, што факт устаноўлены вашага зьбіцьця, але не ўстаноўлены падразьдзяленьні, якія гэта зьдзейсьнілі. На што я засьмяяўся і пайшоў з гэтай пракуратуры.

* * *

***Зянон Пазьняк:*** – Давайце цяпер пагаворым пра прыняцьце Дэкларацыі аб суверэнітэце.

***Юры Беленькі:*** – Па Дэкларацыі я магу сказаць, што была прынята праграма Фронту, якая вызначала накірунак працы, каб дамагчыся незалежнасьці для Беларусі. І вакол Беларусі разьвіваліся такія ж падзеі. Ўсе рэспублікі Савецкага Саюза імкнуліся да незалежнасьці. Зразумела было, што ідзе працэс разбурэньня Савецкага Саюзу. Тады мы паставілі пытаньне ў Вярхоўным Савеце аб прыняцьці Дэкларацыі аб незалежнасьці. (Памятаю як Вы, Зянон Станіслававіч, на сэсіі Вярхоў-

нага Савета зачытвалі гэтую фронтаўскую дэкларацыю аб незалежнасьці, а намэнклятура сядзела і лыпала вачыма. Гэта было ў самым пачатку дзейнасьці парляманту). Магу адзначыць, што калі мы прышлі ў Вярхоўны Савет, ў нас ужо быў шэраг напрацаваных праектаў, якія скіраваныя былі на тое, каб дамагчыся незалежнасьці і суверэннага статусу Рэспублікі Беларусь. У прыватнасьці, законапраект *Аб грамадзянстве* і шэраг іншых.

Па Дэкларацыі падзеі разьвіваліся наступным чынам. Намэнклятура ў абсалютнай сваёй большасьці была супраць нават уключэньня гэтага пытаньня ў парадак дня. Ня памятаю, колькі дакладна чалавек галасавала за тое, каб уключыць пытаньне аб прыняцьці Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі ў парадак дня сэсіі, але гэта, здаецца, было ня больш ста чалавек.

***Зянон Пазьняк:*** – Гэта была першая наша спроба паставіць у Вярхоўным Савеце пытаньне пра незалежнасьць. Трэба было прымусіць іхныя намэнклятурныя галовы працаваць у зададзеным накірунку. Некаторыя ўпершыню пачулі слова „суверэнітэт”.

***Юры Беленькі:*** – Так. Тады намэнклятура ўсё адкінула. І раптам, праз месяц-два у адзін цудоўны дзень (летам) мы даведваемся, што Гарбачоў спускае зьверху ўказаньне прыняць Дэкларацыю аб суверэнітэце і ўтакімварыянце, які б прадугледжваў бы ліквідацыю нашага суверэнітэту іператварэньне Беларусі ў чарговую правінцыю „абноўленага саюзу” (ідэйка Гарбачова) ці абноўленай імпэрыі.

***Зянон Пазьняк:*** – Камуністы, дарэчы, адмахваліся ад гэтай дырэктывы Гарбачова і нічога не хацелі рабіць. Пры слове „суверэнітэт” у іх, як ад дзікіх яблыкаў, пашчэмкі зводзіла. Было відавочна, што іх задаволіць фармальная „фількіна грамата”. Ніхто не хацеў працаваць у камісіі над праектам дэкларацыі. Памятаю, падходзіць да мяне разгублены Л. Козік, тады старшыня (ці сакратар, не памятаю) Камісіі па дзяржаўным будаўніцтве, і кажа, што ўсе разьбягаюцца, „дапамажыце хоць вы”, маўляў, вы ж зацікаўленыя. „Добра”,– кажу, – дапаможам.” Мы прышлі працаваць ў камісію ледзь ні палова Апазыцыі (такі быў дзіўны той савецкі „парлямант” у той пераломны час). Неўзабаве праект быў гатовы на 90 адсоткаў такі, які нам патрэбны. У дадатак Козік (па дамоўленасьці) прапанаваў на сэсіі, каб побач з Камісіяй праект ад Апазыцыі БНФ прадстаўляў я. Ўсё пайшло так, як мы хацелі. Прымаўся артыкул за артыкулам (дыскусія, якой мне ўдалося тады часткова дырыгаваць, быў наш канёк і наша зброя, камуністы ніколі не выігрывалі ў нас дыскусіяў). Памятаю „здравомысляшчый” твар дэпутата-камуніста Селівончыка (намесьнік дырэктара Аўтазавода). „Да что жэ эта дзелается? – махаў ён рукамі, – да куда ані смотрат? – Пазьняк павёл за сабой Верховный Савет!”

***Юры Беленькі:*** – Камуністы хацелі б такую Дэкларацыю, каб там не было ніякага рэальнага суверэнітэта. Памятаю, што я (як эканаміст) рабіў свае прапановы па Дэкларацыі, якія тычыліся, у першую чаргу, пэўных эканамічных момантаў (па стварэньні сваёй банкаўскай сістэмы і г.д.). Тут як бы камуністы ішлі на пэўныя кампрамісы, яны пагаджаліся. Але абсалютна ўпёрліся ў той артыкул, які тычыўся стварэньня новага Саюзу. Яны настойвалі, каб гэтая норма прысутнічала.

Тут варта адзначыць яшчэ адзін момант, што гэта як бы была тая частка камуністаў, якіх нельга назваць абсалютна артадаксальнымі, якія не падлаюцца ніякай рэфармацыі. Але была частка абсалютна артадаксальных камуністаў, якія проста на дух не пераносілі самога факта прыняцьця Дэкларацыі аб незалежнасьці Беларусі. І гэтая частка была дастаткова вялікая. Калі б яны прынялі рашэньне не галасаваць, то зрывалі б галасаваньне. Аналіз падзеяў паказваў, што так магло стацца, што галасоў гэтых „мяккіх” камуністаў разам з намі ня хопіць, каб прыняць Дэкларацыю. Галасы артадаксальных камуністаў усё часьцей гучалі, каб увогуле не прымаць Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце. Яны убачылі, што прайгралі нам амаль што па ўсіх пунктах, і пачалі злавацца. Узьнікла дастаткова сур’ёзная небясьпека. Асабліва гэта стала выразна адчувацца на другі дзень абмеркаваньня, калі яны ўперліся ў перадапошні пункт аб заключэньні новага саюзу. Было відавочна, што Дэкларацыю могуць заваліць. Тады, па прапанове Зянона Станіслававіча Пазьняка, быў прыняты такі плян (прыняты ён быў канфідэнцыйна) – стварыць такую сітуацыю, каб артадоксы галасавалі супраць нас (бо яны заўсёды гала-

савалі насуперак нашым прапановам), каб гэты эфэкт быў выкарыстаны пры галасаваньні за Дэклярацыю. Гэта была дастаткова рызыкоўная рэч, і, дзякаваць Богу, што ўсё ж удалося гэта зрабіць. Мы сталі дружна і ў лоб (без дыпляматыі) выступаць супраць артыкула пра стварэньне „новага саюзу" і прыгразілі, што калі камуністы будуць настойваць на тым, каб уключыць гэты пункт, то мы ня будзем прымаць удзел у галасаваньні. Магу сказаць: адразу стала назірацца нейкае такое ўзбуджэньне ў стане артадаксальных камуністаў (гэта ў асноўным так званыя „ветэраны"). Яны, на псіхалягічным непрыняцьці таго, што прапануе Апазыцыя БНФ, сталі абурацца (маўлаў абыдземся бяз вас). Яшчэ трохі разагрэўшы гэты бэтон, мы па знаку Пазьняка пакінулі залю.

***Зянон Пазьняк:*** – Я перад выйсьцем, здаецца, сказаў яшчэ аблічальную прамову для перакананаўчасьці. Відаць не пашкодзіла, бо калі выходзілі, з боку артадоксаў чуліся абураныя выкрыкі і рычэньне.

***Юры Беленькі:*** – І калі мы вышлі з залі – выступаў тых дэпутатаў, што засталіся, было няшмат, але само абмеркаваньне пайшло ў патрэбным для нас рэчышчы.

***Зянон Пазьняк:*** – Тут нагадаю, што выйшлі мы ня ўсе, некалькі дэпутатаў спэцыяльна пакінулі ў залі, каб назіралі і, як выказваліся артадоксы – „подбрасывалі". (Калі камуністы чаго не разумелі, то ўставаў які-небудзь завадзіла і папярэджваў: „товарішчі, нам подбрасывают".)

***Юры Беленькі:*** – Я памятаю, што, калі мы вышлі, яны ўз'ерапеніліся на нас.

***Зянон Пазьняк:*** – Калі мы выходзілі, адзін ветэран партыі крычаў: „Вот оно істінное ліцо БНФ!" Камэдыя. Але нашы хваляваліся. Памятаю ў файе падыходзіць да мяне Аляксандар Сасноў, усхваляваны і прыгнечаны, і ціха так кажа: „заваляць, сволачы, заваляць! Ня трэба было выходзіць." „Цяпер ўжо не заваляць, – кажу, – мы добра вышлі. Калі б засталіся, то прайгралі б, іх жа бальшыня". Так яно і атрымалася, артадоксы павялі сябе па прынцыпу „супраць БНФ" і прынялі Дэклярацыю, з артыкулам пра будучы „саюз", вядома (за него то оні і сражались). Але ва ўмовах, калі СССР ўжо развальваўся, гэты артыкул нічога ня значыў. (Гарбачоў вунь нават



***58. 1995 г. Зянон Пазьняк і Станіслаў Шушкевіч.***

рэфэрэндум змайстраваў пра захаваньне СССР – і што з таго, наіўныя людзі). Мы ўсё разумелі і скарысталі нашае непрыняцьце гэтага палажэньня ў Дэклярацыі як тактычную зброю супраць артадоксаў. І выйгралі. Бо ў выніку прынялі добрую Дэклярацыю, якая дапамагла нам праз год рэальна аднавіць незалежнасьць.

***Юры Беленькі:*** – Калі ў залі прагаласавалі за дэклярацыю, гэта выклікала ў нас уздых аблягчэньня. Я памятаю, йшчэ яны пагадзіліся (па прапанове Анатоля Вярцінскага) 27 ліпеня зрабіць дзяржаўным сьвятам. І толькі, напэўна, калі мы вярнуліся ў залю, для іх відавочна была наша рэакцыя, што мы задаволеныя вынікам таго, што адбылося. Тут іхны псыхалягічны настрой стаў мяняцца. Мы і не хавалі, што задаволеныя тым, што парлямант беларускі прыняў гэты этапны дакумант (які мы падрыхтавалі, прадыскутавалі і іхнымі галасамі правялі). Тады (я памятаю) пачаліся рэплікі, захады з боку артадаксальных камуністаў, пытаньні „ў паветра": што, маўляў,

трэба зрабіць, каб адмяніць гэтае галасаваньне. Трэба сказаць, што Дэклярацыя прымалася канстытуцыйнай большасьцю (двумя трацінамі), і тут атрымлівалася такая сітуацыя, што, каб перагаласаваць, ім таксама трэба было набраць дзьве траціны. А тут, разам з Дэмклюбам, мы б блякавалі такое галасаваньне. Значыць, калі мы галасавалі „супраць”, то яны нічога не маглі зрабіць. Гэта стала зразумела, і ім нічога не заставалася, як кідаць толькі злосныя рэплікі.

***Сяргей Папкоў:*** – У мяне ніякіх сумненьняў тады ў тым, што так трэба рабіць (імітаваць абурэньне і выходзіць з залі), не было. Я тады жорстка падначальваўся дысцыпліне, якая тады была ў нас у фракцыі БНФ. Сказана было выходзіць з залі (а для мяне было зразумела, чаму гэта трэба рабіць) – і я выконваў. Дэталь такая: калі мы ўсе вышлі ў файе за прэзыдыюмам, там жа тэлевізар паставілі. Мы глядзелі ўсе тэлевізар, як яны з намі „змагаюцца”.

***Юры Беленькі:*** – І эмацыйна гэта абмяркоўвалі.

***Сяргей Папкоў:*** – І калі яны прагаласавалі, то ў нас было бурнае задавальненьне, там, у файе.

***Юры Беленькі:*** – Так, мы проста там скакалі.

***Сяргей Папкоў:*** – Некаторыя пацікавіліся: што ж там такое ў файе?

***Юры Беленькі:*** – Бо шум падняўся.

***Сяргей Папкоў:*** – Так, шум быў. І яны ўбачылі, што мы задаволеныя, што мы глядзім тэлевізар.

***Зянон Пазьняк:*** – Яны былі ашарашаныя.

***Юры Беленькі:*** – Эмацыйныя нашы калегі, якія не змаглі стрымаць эмоцыі, голасна радаваліся.

***Зянон Пазьняк:*** – Ну так, бо і напружаньне з душы звалілася. Некаторыя, што трывожыліся, адчувалі, відаць сябе, як на краі бездані, і раптам – у-ух! Пранесла! Чаму ж не паскакаць.

***Сяргей Папкоў:*** – Зараз некаторыя гавораць, што вось, маўляў, яны не спэцыяльна гэта рабілі, што ў нас не было такога пляну (Шушкевіч гэта зараз гаворыць).

***Зянон Пазьняк:*** – Шмат ёсьць такіх, што ня ведаюць, за якое месца ўкусіць Народны Фронт. Але Незалежнасьць ёсьць! Дзьвесьце гадоў змагаліся! Беларуская Дзяржава ёсьць. Жыве Беларусь і будзе жыць.

***Запісала і да друку падрыхтавала***
***Галіна Пазьняк***

*(Запіс 7 сьнежня 2003 г.)*

# БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯЦІНСТВА ПАД САВЕТАМІ

*(З цыклу „Беларусь пад акупацыяй”)*

Лагойшчына – радзіма майго нябожчыка бацькі, мая Радзіма, маё маленства. Люблю прамаўляць гэтыя назовы вёсак, дзе жылі і працавалі бацькі-настаўнікі: Корань, Слабада, Янушкавічы, Стайкі.

У першы кляс я пайшла ў Крамянцы, а трэці скончыла ў вёсцы Моладзі. Школа, зразумела, усюды была беларуская.

Вучыцца вельмі любіла, і нават калі хварэла, уцякала на заняткі, калі бацькі сыходзілі на працу.

А потым склалася так, што мы з мамай пераехалі жыць у Менск, і я пайшла ў 4-ы кляс 1-й менскай школы, побач зь якой мы тады жылі. Школа (як і ўсе тады ў Менску) была руская.

Адразу пачаліся праблемы, бо раней я ўсе прадметы вывучала па-беларуску. Родная ж мова была беларуская, па-расейску ў нас на вёсцы ніхто не гаварыў. І я, зразумела, гаварыла па-беларуску. А тут трэба было гаварыць па-расейску.

Спачатку ў мяне не атрымлівалася. Аднаклясьнікі (беларусы, дарэчы) зь мяне сьмяяліся, гаварылі „деревня”. А ў настаўніцы-расейкі мая мова выклікала страшэнны гнеў. Як цяпер памятаю яе сьціснутыя тонкія губы, порысты твар, як звараная груша, і голас, заўсёды злосны, незадаволены, грубы. Яна высьмейвала мяне перад усім клясам, гаварыла, што „пара забыць свої деревенскіе прівычкі”. І я адчувала сябе абсалютна безабароннай і няшчаснай.

З жудасьцю ўспамінаю, як яна прымушала ўсіх зьбіраць макулатуру па кватэрах, металалом – па гарадзкіх дварах. А чаго былі вартыя палітычныя піянерскія зборы, палітінфармацыі і іншыя недзіцячыя „мерапрыемствы”... Для мяне гэта была сапраўдная пакута, і аднаго разу ў нядзелю я не пайшла на нейкае піянерскае „мерапрыемства”.

Назаўтра, страшна лаючыся, яна загадала клясу абʼявіць мне байкот: усім клясам не размаўляць са мной. Але і гэтага падалося мала, і яна падбухторыла дзяцей „проучіць деревню”. Пасьля ўрокаў, памятаю, на мяне накінулі паліто і білі...

Самыя вялікія непрыемнасьці былі на ўроках рускай мовы, якая ў раскладзе была кожны дзень. Я была як зацкаваная і клясам, і настаўніцай. І ці то ад страху, ці то ад разгубленасьці, але як толькі мяне выклікалі да дошкі, я зноў і зноў гаварыла „назоўнік”, „прыметнік”, „дзеяслоў”, замест „существительное”, „прилагательное”, „глагол”. І сама ўжо ведала, і мама дома сотні разоў мяне вучыла (яна была настаўніцай беларускай і рускай моваў), але як толькі я чула „Палачаніна, к доске”, то там, на гэтым „лобным месцы” я, як заварожаная, паўтарала зноў усё па-беларуску. „Цярпеньне” ў маёй настаўніцы скончылася хутка. Яна называла мяне дурніцай, іншымі абразьлівымі словамі. І кожны дзень я чула ад яе зьнявагі і пагрозы, што мяне перасадзяць у трэці кляс.

На перапынках я звычайна хадзіла адна, бо з „деревней” ніхто не хацеў дружыць: адносіны настаўніцы ўплывалі на 10-гадовых маіх аднагодкаў. Школа, якую я так любіла раней, ператварылася для мяне ў сапраўдную пакуту, я ўзьненавідзела яе ўсёй сваёй перапужанай дзіцячай душой.

Аднаго разу гэта „руская” настаўніца выклікала ў школу маму і паведаміла ёй пра свой намер перавесьці мяне ў трэці кляс, бо я, як яна амаль крычэла, „ня ў стане засвоіць праграму рускай мовы для 4-га кляса”.

Мама была ў жаху. Гэта выглядала вельмі абразьліва для яе дачкі, якая была лепшай вучаніцай у вясковай школе. Яна адмовілася ад паў-стаўкі выхавацелькі ў інтэрнаце, дзе працавала, і стала займацца са мной рускай мовай. Я пісала бясконцыя „дыктоўкі”, якія мама правярала і выпраўляла мае „дз” і „дж” на „д” і „ж”, маё „і” на рускае „и”. А як жа ўеліся мне тыя рускія прыстаўкі „пре-при”, корні „гор-гар”, суфіксы „чик-щик” і бясконцыя „прыклады” на гэтыя правілы. Мама трэніравала мяне ўсюды: і дома, і ў парку, і на

вуліцы. Ёй гэта было проста, бо ўсе гэтыя „правілы” і шматлікія „прыклады” яна ведала напамяць, як бы перад ёй быў разгорнуты падручнік.

Праз нейкі час, я засвоіла чужую мову і стала, – як усе...

Прайшоў час. Я скончыла школу, філялягічны факультэт Пэдінстытута, асьпірантуру. Адным словам, была ні ад каго не залежным чалавекам, дэпутатам Менгарсавета.

І вось неяк ў 1994-м годзе я кудысьці ехала. Зайшла ў тралейбус. І раптам мяне як варам акаціла, я застыла на месцы, стаяла як спаралізаваная і не магла паварушыцца. У некалькіх кроках ад сябе я ўбачыла яе, гэтую рускую настаўніцу. І хоць мінула больш трыццаці гадоў, яна амаль не зьмянілася, толькі пастарэла. Такі ж злосны недабразычлівы порысты твар, такія ж сьціснутыя губы, тая ж каса праз усю галаву... Страх і жудасьць, як і ў тыя дзіцячыя гады, ахінулі ўсю маю істоту. На імгненьне мне стала дрэнна.

Праз хвіліну, выдыхнуўшы паветра, я расьсьмяялася сама сабе: якое глупства. Толькі падумалася: „Як гэта страшна, ня быць у сваім доме – гаспадаром.”

А зараз, пад уплывам сёньняшніх страшных падзеяў ды людабойства, якое зьдзяйсьняюць расейскія бандыты ў Чачэніі, думаецца: „Вось ён, зьмест гэтай палітыкі: „существительное” ды „глагол”.

***Галіна Пазьняк***

*2000 г., Варшава*

*Надрукавана: („ Беларускія Ведамасьці”,–2001, №2(32), стар.8)*

# АПАВЯДАНЬНІ СЯБРОЎ

***Галіна Пазьняк:*** – *Верасень-кастрычнік 1995 года. Да намесьніка Старшыні БНФ Юры Адамавіча Беленькага праз рэкамендацыю прадпрыймальніка П. прышоў палкоўнік КГБ спадар В.** *(так ён сябе назваў, што ён палкоўнік КГБ). Пра тое што ён паведаміў – расказвае Ю. А. Беленькі.*

**Юры Беленькі:** – Гэты спадар В., па паводзінах дастаткова стрыманы, але відно было, што мае нейкую сур'ёзную і важную навіну (такія паводзіны яго былі), якая вымагае такога кантакту. Сказаў ён наступнае: што ў іх ёсьць інфармацыя, што ў грамадзтве пэўныя структуры (адразу падкрэсьліў – ня іхныя структуры, не з КДБ) сталі распаўсюджваць такую інфармацыю, што Зянона Пазьняка хочуць забіць свае калегі зь Беларускага Народнага Фронту. І, як ён сказаў, па іхнай інфармацыі, гэтыя чуткі распаўсюджваюць людзі Шэймана. Відавочна, што гэта вельмі сур'ёзна, што ў Шэймана створана нейкая структура (тады яшчэ не было ва ўжытку паняцьця „эскадрон сьмерці"). Сэнс быў такі: створана нейкая баявая структура, якая, па іхняй інфармацыі, якраз вось і створана для таго, каб такую справу зрабіць, г. зн. фізічнае зьнішчэньне Зянона Пазьняка, і потым гэта зваліць менавіта на саміх фронтаўцаў, на нібыта ўнутрыфронтаўскія „разборкі". Такім чынам плянавалася ня толькі забіць Пазьняка, але і надаць гэтай сьмерці подлую афарбоўку: чалавек, маўляў, загінуў ад рукі „сваіх". Палкоўнік, улічваючы, што гэта ўсё вельмі сур'ёзна, яшчэ раз падкрэсьліў, што яны, КГБ, ня маюць да гэтай апэрацыі ніякага дачыненьня. Потым ізноў падкрэсьліў, што ўсё ідзе зь ведамства Шэймана, значыцца, што гэта – ад людзей Шэймана.

Я тады яшчэ ня ведаў, што гэта за „ведамства". І ўжыта было адразу ня слова „ведамства", а слова „людзі" Шэймана. Я выслухаў гэтую інфармацыю, і ён як бы падштурхоўваў мяне, каб я ўсё ж такі сур'ёзна да яе паставіўся (двойчы падкрэсьліў, што „мы" (КГБ) да гэтага... „ня маем дачыненьня". Ён як бы дыстанцаваўся ад „гэтага".

Я тады адразу паведаміў Лявону Баршчэўскаму (ён быў таксама намесьнікам старшыні Фронта – 1995 год). Сітуацыя была тады складаная. Рэжым убіраўся ў сілу, якой рэальна супроцьстаяў толькі Народны Фронт. (Я памятаю свае адчуваньні.) Была верагоднасьць, што КГБ спэцыяльна падкінула інфармацыю. Але цьвярозы разьлік паказваў, па-першае, калі КГБ „закідвала" такую інфармацыю, ня трэба было прадстаўляцца, хто ён, што ён, прычым праз чалавека, якога я раней ведаў (прадпрыймальніка) і што (па вялікім рахунку) сэнсу (калі гэта правакацыя) скажам, каб выштурхнуць Зянона Пазьняка за межы Беларусі – сэнсу ў такой акцыі не было. Тым больш, што былі названыя Шэйман і структура, якая створана Шэйманам.

Паводзіны гэтага чалавека гаварылі, што адбываецца нешта вельмі сур'ёзнае. Таму мы з Баршчэўскім так перамовіліся, ну, што, як, прыйсьці і сказаць старшыні – гэта значыць псіхалягічна чалавеку стварыць дыскамфорт. Таму было вырашана знайсьці магчымасьць, каб паведаміць у больш мяккай форме, але вельмі сур'ёзна паставіцца да гэтага, адсачыць іншую інфармацыю.

Сёньня ўжо мінула амаль восем з паловай гадоў, ведаючы пра гэтыя „эскадроны сьмерці", пра тое, што інфармацыя пра Шэймана ўжо вядомая, то з пазыцыі сёньняшняга дня я ацэньваю, што мы ўсё ж такі правільна і сур'ёзна падыйшлі да гэтага пытаньня. Зянон Пазьняк быў выратаваны (зь вялікай верагоднасьцю я кажу) ад магчымага самага страшнага, што магло адбыцца. Я думаю, тут можна па-рознаму меркаваць, але тое, што ў грамадзтве былі людзі, якія разумелі: ёсьць рэчы, праз якія нельга пераступаць нават ворагам (скажам так), то гэта факт. Людзі былі. Ёсьць рэчы, якія можна асэнсаваць з хрысьціянскага пункту гледжаньня, але істотна, што ў грамадзтве былі асобы, якія павялі сябе адэкватна. Бо калі гаворка ідзе пра жыцьцё, якая б яна ні была, палітычная „мэтазгоднасьць",– жыцьцё чалавека ёсьць самае галоўнае.

І канешне, калі была такая сур'ёзная інфармацыя, то захады былі зробленыя.

***Зянон Пазьняк:*** – Каму вы пра гэта яшчэ казалі з Баршчэўскім?

* Рэальныя прозьвішчы не падаюцца (рэд.).

***Ю. Беленькі:*** – Гаворка была пра тое, каб па магчымасьці гэта абмеркаваць з кіраўніцтвам і палітактывам Фронту. Але мая просьба была такая, каб Баршчэўскі спачатку пагаварыў з Зянонам Пазьняком, ну, як бы ў мяккай форме.

***З. Пазьняк:*** – І што, Баршчэўскі гаварыў тады?

***Ю. Беленькі:*** – Ён пагадзіўся з такой пастаноўкай і сказаў, што пагаворыць з Пазьняком і перакажа яму гэтую інфармацыю.

***З. Пазьняк:*** – Ну і ці гаварыў ён?

***Ю. Беленькі:*** – Гэтага я ня ведаю.

***З. Пазьняк:*** – Я ведаю: ён са мной не гаварыў. Са мной гаварыў другі чалавек, і ведаеш хто? Вінцук Вячорка.

***Ю. Беленькі:*** – На гэтую тэму?

***З. Пазьняк:*** – На гэтую тэму. Магчыма, Баршчэўскі яму перадаручыў. Вячорка мне сказаў канкрэтна, гэтую інфармацыю, пра якую ты гаворыш (толькі не называючы прозьвішчаў). Ён паведаміў, што рыхтуецца забойства, і хочуць сьпіхнуць на Фронт. Я яшчэ ад іншых чуў нейкія засьцярогі, але нічога канкрэтнага – меркаваньні і эмоцыі. Акрамя таго, пачынаючы з канца 1991-га года, на працягу ўсіх наступных гадоў на мітынгах, у натоўпе за маімі плячыма часта ўзьнікаў нейкі тып і пачынаў гаварыць розныя пагрозы, але амаль што шэптам (каб ня чулі з бакоў), пагражаючы забіць. Узьнікаў і зьнікаў так, што я ніколі не пасьпяваў яго схапіць, што называецца, цёпленькім. У 1994 годзе, 8 верасьня, на сьвяткаваньні ў Дзень Беларускай Вайсковай славы, калі было шмат людзей, гэты тып зноў апынуўся ў мяне за плячыма ў натоўпе. Аднак тут ўжо было ўсё падрыхтавана. Я толькі падняў руку, даў знак Дружыне БНФ. Але той зразумеў імгненна і тут жа кінуўся ўцякаць (відаць, што вывучка). Нашыя дружыньнікі яго схапілі і перадалі міліцыі. Я падышоў, папрасіў скласьці пратакол затрыманьня і высьветліць асобу, кіраўніку дружыны сказаў заўтра ўзяць зьвесткі і паведаміць мне.

Аднак назаўтра ў міліцыі высьветліць было немагчыма. Ніхто толкам нічога ня ведаў, мычэлі, адводзілі вочы ў кут і г. д. Гэта ўжо быў час калі на пасаду заступіў першы ланцуговы Міністар Унутраных Справаў новага рэжыму Захаранка. Пачаў ён з таго, што перад Днём Беларускай Вайсковай Славы выступіў па тэлебачаньні з грубымі пагрозамі ў бок Народнага Фронту і абяцаньнямі ўжыцьця сілы і расправы з тымі, хто „незаконна" будзе мітынгаваць у гэты Дзень, 8-га верасьня. Памятаю, што гэты выступ абурыў увесь Народны Фронт. Людзей сабралася шмат, прышлі фронтаўскія дэпутаты, павялічылі і падрыхтавалі фронтаўскую Дружыну (была нават шляхта на конях). АМАП, праўда, па загаду Міністра спрабаваў штурхацца (прытым цалкам неадэкватна), але потым пакінуў гэты занятак ( бо ў разе чаго, яшчэ невядома хто каго разагнаў бы). Тады Міністар адыграўся на Сьцягу. Пасьля мітынгу міліцыя стала нападаць на адзінокіх людзей, якія вярталіся са сьвята і неслі дзяржаўны Бел-Чырвона-Белы Сьцяг. Дзяржаўны сьцяг у людзей адбіралі і нават рвалі. Стала добра відаць, што да ўлады прышла антыбеларуская хунта. Мы, дэпутаты, зьвярталіся тады ў пракуратуру аб зьнявазе Дзяржаўнага Сьцяга. Але пракуратура ўжо маўчала.

Цяпер, калі я супастаўляю і аналізую мноства фактаў і падзеяў, усе яны неяк выстройваюцца ў адзін ланцужок і „людзі Шэймана", і людзі Захаранкі, і людзі КГБ, і людзі ФСБ. Па горкай іроніі лёсу першы сілавы міністар і саўдзельнік Лукашэнкі неўзабаве апынуўся за бартом новай улады і, пагуляўшы ў апазыцыю (клясычная дарожка пакрыўджаных хаўрусьнікаў), бясcьледна зьнік. Якія тут былі задзейнічаныя „людзі", ніхто ня ведае.

Што да мяне, то я манеры гэтых „людзей" і паўлюдзей ведаю, таму адразу сказаў сабе – са мной гэты нумар ня пройдзе. І не прайшоў.

Што датычыць інфармацыі пра падрыхтоўку забойства, то выглядае праўдападобна, што стараліся б зваліць на КГБ, бо гэты ворган мае вялікі вопыт забойстваў, тэрору і зьнішчэньня людзей. У іхныя гэбоўскія перажываньні за сваю цнатлівасьць я ня веру, бо яе не існуе. Але тое, што яны маглі папярэдзіць – цалкам дапускаю, бо такое нечаканае спрыяньне рэальна было для мяне ў красавіку 1996-га, калі я раптам вярнуўся ў Беларусь (памятаеце, тады арганізавалі на мяне цэлае паляваньне). Пра гэта я неаднаразова пісаў.

***Ю. Беленькі:*** – У размове са мной палкоўнік В. ужываў нейкае слова тыпу „падразьдзяленьне", казаў, што створана спэцыяльнае падразьдзяленьне, што рэальна створана такая структура,

якая павінна будзе рабіць такія страшэнныя рэчы (ліквідаваць палітыкаў). Гэта 1995 год. Фактычна прагучэла тады, што „пад Пазьняка", але потым у гаворцы казалася, што ўвогуле створана, хоць, ізноў жа, намякалася, што менавіта пад Пазьняка.

***З. Пазьняк:*** – Ну, дык гэта зразумела: ад Масквы іншага чакаць не прыходзіцца. Быў бы, аднак, недаравальны абсурд, калі б чалывек, які (за часы СССР) займаўся Курапатамі, потым – вызваленьнем з-пад імпэрыі, і даў бы ім сябе застрэліць, як качку.

Калі адбываліся прэзыдэнцкія выбары ў 1994 годзе, я ведаў (меў інфармацыю), што ў іх на карту было пастаўлена ўсё, каб Пазьняка ня выбралі. Была праведзена па ўсіх нізавых структурах усёй улады, у вобласьцях і раёнах работа, – зрабіць усё, каб не прапусьціць Пазьняка. Бо калі Пазьняк, маўляў, стане прэзыдэнтам, „тады – ўсё, нам канец, тады ўсім канец". Яны былі настрашаныя ўсе павальна і гатовыя былі ў гэтым страху сьцярпець усё, абы застацца. Ужо тады Масква рыхтавала такім чынам у кіроўнай частцы грамадзтва псіхалёгію беспакаранай расправы. (Цяпер гэтыя баязьліўцы атрымалі рэжым, якога яны вартыя).

***Ю. Беленькі:*** – Сапраўды, галовы прастрэльваюць ў сябе ўжо там, у Расеі. Іосіф Сярэдзіч надрукаваў передрук са Смаленскай вобласьці, дзе генэрал-лейтэнант КГБ стаў губернатарам. Дык гэта ж мафія, страшнейшая за самых страшных баньдзюганаў. Што там робіцца! Там ужо адстрэл ідзе, намесьнікаў папярэдняга губернатара пастралялі, увесь крымінал пад „дахам" гэтага генэрала ФСБ. Адбываюцца страшнейшыя рэчы. І ўсяроўна інфармацыя ж даходзіць. Тое, што забіваюць беларусаў нашых (туды едуць на працу). Усе тое як бы разумеюць...

***З. Пазьняк:*** – Але едуць. Бо ў Расею паехаць лягчэй, чым на Захад, асабліва ў Эўропу. Едуць туды, куды прасьцей паехаць, куды адчыненыя дзьверы. Цяжка пра гэта казаць і нават думаць. Усё яшчэ можна паправіць. Усё яшчэ можна палепшыць Толькі працаўнікоў мала.

***Галіна Пазьняк: –*** Сябры, некалькі словаў пра Канстытуцыю.

***Ю. Беленькі:*** – Пра Канстытуцыю я мушу сказаць. Спачатку была фронтаўская ідэя аб незалежнасьці, яна ўвасобілася ў Дэклярацыю аб суверэнітэце. Потым Дэклярацыя становіцца канстытуцыйным законам (пасьля жнівеньскага путчу). Потым на базе гэтага канстытуцыйнага закона ствараецца новае дзяржаўнае заканадаўства (гэта значыць: мы ёсьць незалежная дзяржава, маем сваю грашова-крэдытную сістэму, свае банкі, войска, амбасады, грамадзянства і г.д.). На гэтай базе ўжо робіцца новая Канстытуцыя, якая ўтрымлівае гэтыя нормы.

***З. Пазьняк:*** – Я хацеў бы дадаць: калі мы рыхтавалі гэтыя ўсе нормы пад незалежную дзяржаву і пад Канстытуцыю, то прадугледжвалася парляманцкая рэспубліка, прадугледжвалася тая структура дзяржавы, якая забясьпечвала б у Беларусі дэмакратычны шлях. У той нашай сытуацыі прэзыдэнцкая сістэма з моцнай канцэнтрацыяй выканаўчай улады прывяла б да дыктатуры, да небясьпечнага ўмяшаньня Расеі ў беларускі дзяржаватворчы працэс. Бо заставалася намэнклятурная сістэма выканаўчай улады і заставаўся, фактычна, расейскі КГБ, які мог ўплываць, падрыхтаваць і падкупіць адну асобу, але наўрад ці цэлы вялікі парлямант. Посткамуністычная практыка дачыненьняў у палітыцы наглядна потым тыя нашыя развагі праілюстравала. Чаго вартыя такія прыклады гэбоўскіх крэатураў ва ўладзе, як прэзыдэнт Летувы Паксас ці канцлер Нямеччыны Шродэр (ня кажам ўжо пра Каўказ, Сярэднюю Азію і Лукашэнку). Мы былі супраць прэзыдэнцтва ў пасьлясавецкай Беларусі і абгрунтавалі, чаму гэта ня можна прымаць (бо будзе дыктатура). Пазыцыя засьведчана ў нашых дакумантах і дакумантах сэсіяў Вярхоўнага Савета.

Што атрымалася? Намэнклятурна-камуністычная бальшыня Вярхоўнага Савета ў гатовы Праект Канстытуцыі, які быў зроблены пад парляманцкую рэспубліку, увялі разьдзел аб прэзыдэнцтве. Ён не стыкаваўся ніяк, але ім важна было, каб гэты разьдзел быў, каб выбраць прэзыдэнта свайго (камуніста ці гэбіста) і зрабіць сваю моцную выканаўчую ўладу. Ім пляваць было на ўсю Канстытуцыю, важна, каб правесьці сваю асобу (Кебіча), што сканцэнтруе ўсю ўладу. Мы іхныя пляны ведалі, і гаварылі, што за прэзыдэнцкую сістэму ня можна галасаваць, бо ў нас такая ўлада прывядзе да дыктатуры. А, з другога боку, мы ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы парляманцкага тэксту Канстытуцыі, і

Беларусі патрэбна была Канстытуцыя незалежнай дзяржавы, бо канстытуцыя БССР не была канстытуцыяй незалежнай дзяржавы. І вось мы змагаліся за Канстытуцыю, і супраць разьдзелу аб прэзыдэнцтве. Але разьдзяліць гэтыя падыходы пры галасаваньні было ўжо немагчыма. Становішча склалася цяжкае. Нам трэба было прыняць адзінае (прытым правільнае) рашэньне.

выступілі супраць дыктатуры. Потым некаторыя з гэтых камуністаў, якія галасавалі, сустракалі мяне (ў 95-м годзе) і казалі: „Ох, Зянон Станіслававіч, дуракі мы былі, дуракі! А пачаму мы вас не паслушалі!"

Мне прыемна ўсьведамляць, што наша палітыка была прадбачлівай, разумнай і рацыянальнай, што нават у безнадзенай сытуацыі мы ніколі ня



***59. 8–га верасьня 1994 г., Менск. Пачатак новага прамаскоўскага рэжыму: АМАП па загаду Міністра МУС Ю. Захаранкі спрабуе перашкодзіць сьвяткаваньню Дня Беларускай Вайсковай славы. На пярэднім плане В. Голубеў, З. Пазьняк і дружыньнік БНФ.***

Мы – ня ўдзельнічалі ў галасаваньні. І гэта быў палітычна выверaны ход. Ім патрэбна была ўлада, нам – гарантыя незалежнай дзяржавы. Мы разумелі, што канстытуцыю з прэзыдэнтурай прымуць, бо ім трэба і іх большасьць, і што незалежная дзяржава – будзе жыць, але мы не хацелі мець ніякага, нават мінімальна-фармальнага дачыненьня да магчымасьці зьяўленьня будучай дыктатуры (у верагоднасьці якой ўжо ніхто з нас не сумняваўся). І таму мы адышлі ў бок, каб потым сказаць: так, Канстытуцыю мы рыхтавалі, але мы страцілі твар. Мы здабылі новую Канстытуцыю, але ня ўлезьлі ў чужую (а на справе ў варожую) маніпуляцыю, калі ў нашае гняздо падкінула сарока сваё „яйко.

***Ю. Беленькі:*** – Наконт сарокі. Гэтая ўлада, лукашэнкаўская, ненатуральная, неадпаведная беларускаму менталітэту. Ці заўважылі вы такое? Яна чужая ўлада. Чужы стыль паводзінаў ягоны, ня наш, чужая нейкая функцыянальная сфэра. Беларус – ён не такі па прыродзе.

***З. Пазьняк:*** – Ацэнкі, рэакцыі.

***Ю. Беленькі:*** – Так-так, ацэнкі, рэакцыі – ўсё чужое. Яно ненатуральнае, і ўсё грамадзтва (асабліва, хто працуе ў сістэме ўлады) сутыкаецца з гэтай чужасьцю, людзі адчуваюць, яны гэта бачаць. Сапраўды, пісалася ж у друку, што пэўнае атачэньне Лукашэнкі больш яго ненавідзіць, чым нават тая апазыцыя, бо яны мусяць з усім гэтым побач быць і выжываць.

***З. Пазьняк:*** – З ненатуральным усім для нас і чужым.

***Ю. Беленькі:*** – З ненатуральным усім, і мусяць неяк суіснаваць з гэтым. А ўсё яно прынесена Расеяй і з Расеі. Каштоўнасьці чужыя, разуменьне, паняцьці – ўсё-ўсё чужое. Таму, як зьнікне гэты зьнешні фактар, – ўсё вернецца на свае месцы.

***З. Пазьняк:*** – Канчаецца акупацыя – і вяртаецца сваё. Тут менавіта такія дачыненьні. Проста ў нашых людзей іншыя стэрэатыпы адчуваньня і разуменьня акупацыі. Тым часам улада ў Беларусі захоплена ня звонку, а знутры, праз крэатуры расейскіх спэцслужбаў. Таму шмат хто не разумее, што адбываецца, і дае неадэкватныя тлумачэньні.

***Запісала і да друку падрыхтавала***
***Галіна Пазьняк***

*(Запіс 6 сакавіка 2004 г.)*



**«Пазьняка, Навумчыка – затрымаць...»**

**Улады заяўляюць, нібыта зусім не маюць намеру арыштоўваць Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка, якія знаходзяцца цяпер у Варшаве. У сапраўднасці ж усё выглядае якраз наадварот: лідэраў Народнага Фронту вельмі чакаюць на мяжы.**

З некалькіх крыніцаў рэдакцыя СВАБОДЫ атрымала інфармацыю, што на ўсіх памежных пастах Беларусі ў кнізе дзяжурнага КПП запісана наступнае ўказанне: "*Грамадзянаў РБ Пазьняка З.С. і Навумчыка С.І. пры выездзе-ўездзе — затрымаць*". Распараджэнне датавана 27 красавіка 1996 г.

Дарэчы, прыехаўшы ў Мінск 26 красавіка, Зянон Пазьняк выехаў нелегальна з Беларусі ў польскую сталіцу толькі 8 траўня.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

***60. „Свабода”, -- 1996, 21 траўня, (№ 36)***

# ВАСІЛЬ УЛАДЗІМЕРАВІЧ – НАЗАЎСЁДЫ Ў СЭРЦЫ

У мінулым годзе назаўсёды адышоў ад нас Васіль Ўладзімеравіч Быкаў – народны пісьменьнік Беларусі і вялікі беларус. Вестка пра сьмерць балюча ўдарыла, моцна сьціснула сэрца. Цяжка было паверыць у страту, думалася-спадзявалася: „А можа памылка, а можа памылка...”

Бяжыць час, патроху адступае першы востры боль, але яго месца заступае вялікая туга і любоў, і пачуцьцё горычы, што не пасьпелася выказаць яму сваё вялікае шанаваньне і павагу...

* * *

З Васілём Уладзімеравічам Быкавым упершыню я спаткалася ў 1982 годзе. Тады аддзелу літаратуры Навукова-Дасьледчага Інстытуту пэдагогікі (куды я толькі што прышла працаваць пасьля сканчэньня асьпірантуры) было даручана зрабіць дыяфільмы для сярэдняй школы пра жыцьцё і творчасьць народных пісьменьнікаў Беларусі (як дапаможны відэа-матэрыял для настаўніка беларускай літаратуры). Паміж навуковымі супрацоўнікамі былі разьмеркаваныя імёны нашых беларускіх пісьменьнікаў. Мне было даручана зрабіць сцэнар дыяфільма пра жыцьцё і творчасьць Васіля Ўладзімеравіча Быкава.

Некатрыя нашыя супрацоўнікі пачалі мне спачуваць: „Табе выпала самая цяжкая праца, бо Васіль Быкаў ня любіць самарэклямы, журналістам заўсёды цяжка дамовіцца зь ім аб інтэрв’ю, і ўвогуле – ён чалавек замкнуты, пра сябе гаварыць ня любіць, цяжка ідзе на кантакт. Адным словам – табе не пашанцавала.”

Як і іншыя мае калегі, я пачала зьбіраць з розных крыніцаў відэа-матэрыялы (фотаздымкі, рэпрадукцыі ілюстрацыяў да розных твораў пісьменьніка і г.д.). Але асабістых фотаздымкаў было няшмат, ды і ўсе яны былі надрукаваныя ў газэтах-часопісах). Мне ж патрэбны былі арыгіналы здымкаў ці нэгатывы. Трэба было зьвярнуцца да самога Васіля Ўладзімеравіча (зь якім я, зразумела, знаёмая не была), папрасіць пагледзець ягоны асабісты фота-архіў і скарыстаць тое, што ён дазволіць. Акрамя таго, патрэбна было зрабіць ягоныя сучасныя здымкі.

Ішоў час, а я ўсё адцягвала і адцягвала гэтую сустрэчу, бо, шчыра сказаць, – баялася. Баялася, што ня здолею добра сказаць. (Прыехаўшы ў Менск зь беларускай вёскі ў 10-гадовым узросьце, я пайшла ў рускую школу, бо ў 1960-я гады беларускіх школаў у Менску ўжо не было. Гаварыла па-беларуску, чым выклікала страшэнны перасьлед з боку настаўнікаў і дзяцей, і была вымушаная „перавучвацца” на „гарадзкую” (расейскую) мову. „Перавучылася” і па-беларуску ўжо й не гаварыла. Атрымаўшы беларуска-рускую філялягічную адукацыю, я выкладала рускую літаратуру, і гаварыла на той час толькі па-руску.)

Аднаго разу ў Доме літэратара праходзіла літаратурная вечарына, на якой прысутнічаў Васіль Быкаў. Як кажуць, адступаць не было куды, і я рашылася. Пасьля ягонага выступу, калі ўжо ўсё амаль скончылася, я набралася духу і ледзь ні з заплюшчанымі вачыма (ад хваляваньня і страху) кінулася да яго. Я гаварыла ня вельмі складна, пераадольваючы хваляваньне, неяк здолела патлумачыць, хто я, і выказала сваю просьбу, чакаючы (усё ж), што вялікі пісьменьнік наўрад ці мяне ўспрыме.

Васіль Уладзімеравіч уважліва паглядзеў на мяне і сказаў: „Добра, вось вам мой хатні тэлефон, тэлефануйце.” Ад нечаканасьці я нейкі час не магла прыйсьці ў сябе. Ня верылася, што ўсё „страшнае” скончылася. І я з палёгкай уздыхнула: перасьцярогі маіх калегаў аказаліся абсалютна памылковымі.

Калі я ўпершыню прышла да Васіля Ўладзімеравіча Быкава дадому, то ён проста паказаў мне ўсе свае фатаграфіі, якія меў, і сказаў: „Выбірайце.”

Я выбрала цэлы стос і пачала тлумачыць, што калі ён дазволіць, то прасіла б яго даць мне гэтыя фатаграфіі на нейкі час, што пастараюся вярнуць іх як найхутчэй. Ён адказаў: „Калі ласка, бярыце.”

Я хацела ўсё пералічыць, скласьці сьпіс здымкаў, але Васіль Уладзіміеравіч спыніў мяне: „Не-не, ня трэба, потым верніце.”



*61. У гасьцях ў Васіля Быкава ў Менску. 1996 г.*

Я шчыра падзяквала і была вельмі ўражаная такім даверам. „Ён жа зусім мяне ня ведае – і дакумантаў ніякіх не спытаў, – думала я сабе, – і ня толькі дазволіў праглядзець усе свае сямейныя фота, нічога не хаваючы, не баючыся, што, можа, ня ўсё варта мне паказваць, але й дазволіў узяць з сабой тое, што я папрасіла."

Я ішла дадому і думала: калі б вось зараз тут, на вуліцы, на мяне напалі б якія бандыты, то я б хутчэй памерла, але фатаграфіі не аддала б, бо я несла ня проста скарб, я несла нешта большае: вялікі давер вялікага пісьменьніка.

Потым мы дамовіліся, што я прыду да яго з фотакарэспандэнтам з БЕЛта (гэта быў Яўген Кокташ), каб зрабіць некалькі здымкаў у яго дома. І зноў, як і першы раз, усё было вельмі проста – ніякай „дыстанцыі". Мы размаўлялі, Васіль Уладзімеравіч цярпліва выконваў просьбы фотакарэспандэнта, які яго фатаграфаваў.

Была восень, лістапад, ішоў дождж, лісты на дрэвах ужо асыпаліся і краявід з вакна быў ня надта прывабны. І я вазьмі ды й скажы такую недарэчнасьць: „Вось так няўтульна за вакном, і непрыгожа, а Пушкін пісаў: „Очей очарованье". Васіль Уладзімеравіч не рассьмяяўся, не зьдзівіўся маёй наіўнасьці, а проста адказаў: „Я думаю, што ён меў на ўвазе іншы стан прыроды."

Я імгненна зразумела сваю недарэчнасьць, мне стала няёмка, але Васіль Уладзімеравіч заставаўся сур'ёзны – ні ценю іроніі я не заўважыла на ягоным твары.

...Цяжка перадаць словам глыбіню позірка разумнага чалавека, ад якога сыходзіла і дабрыня, і цеплыня, і, разам з тым, сьціплая стрыманасьць.

Што я выразна запомніла з маіх сустрэчаў з Васілём Быкавым у тых, 1980-х гадах, дык гэта тое, што пасьля кожнай сустрэчы зь ім яшчэ доўгі час я знаходзілася ня проста пад „ўплывам", але пад нейкім духоўным узьдзеяньнем ягонага душэўнага сьвятла, і гэтае „сьвятло" як бы агортвала мяне. І яшчэ доўгі час я жыла пад уплывам гэтага сьвятла, якое шмат у чым вызначала мае ўчынкі і спосаб жыцьця. Упершыню лёс сутыкнуў мяне з такім чалавекам, высакародным, пасапраўднаму інтэлігентным, вельмі ўважлівым, сьціплым і – простым. І гэта быў вялікі пісьменьнік, вядомы ўсяму сьвету.

* * *

1990-я гады. Васіль Уладзімеравіч як сябра Сойму Беларускага Народнага Фронта ніколі не пазьніўся на нашыя паседжаньні. Ён прыходзіў, як правіла, разам з Рыгорам Барадуліным, сядалі наперадзе, зьлева, бліжэй да вакна і вельмі ўважліва слухалі. Васіль Ўладзімеравіч не прапускаў ніводнага паседжаньня. Ён быў заўсёды ня тое, што сур'ёзны – ён быў вельмі сканцэнтраваны. Калі ішло паседжаньне, я час ад часу паглядвала на яго. Сам ён амаль не выступаў, але уважліва слухаў выступоўцаў – стараўся нічога не прапусьціць, ніводнага сказанага слова. Здавалася, што нічога важнейшага на той момант для яго не існавала.

Мы, сябры Сойму БНФ, вельмі яго шанавалі і заўсёды стараліся зрабіць яму хоць што-небудзь прыемнае. Пасьля паседжаньня Сойму мы заўсёды стараліся адвезьці яго дадому, але Быкаў сьціпла адмаўляўся, каб не рабіць клопату іншым (ён быў надзвычай сьціплым і непатрабавальным чалавекам). Тады мы проста ўгаворвалі яго, ці прыдумвалі, што нам па дарозе і г. д. Аднаго разу ён адчуваў сябе дрэнна (гэта было відаць), яму цяжка было дыхаць, але на паседжаньне Сойму ён прышоў, не зважаючы на цяжкі фізічны стан.

Пасьля заканчэньня я прапанавала адвезьці яго на машыне дадому. Ён, як заўсёды, адразу адмовіўся, прасіў, каб мы не клапаціліся: „Усё добра, я дабяруся грамадзкім транспартам, не турбуйцеся, тут недалёка". Мы ўсё ж настаялі і былі вельмі шчасьлівыя, што хоць чым-небудзь можам быць яму карыснымі. Адвезьці дадому вялікага нашага пісьменьніка – гэта быў для нас вялікі гонар. Але Васіль Уладзімеравіч быў чалавек надзвычай удзячны. Ён абсалютна не адчуваў сваёй вялікасьці, быў з намі простым, не пераставаў дзячыць нас, як быццам мы зрабілі сапраўды нешта значнае.

Васіль Уладзімеравіч быў вельмі сардэчным чалавекам.

19 чэрвеня 1996 года, у ягоны Дзень нараджэньня, некалькі чалавек з Народнага Фронту зьбіраліся павіншаваць яго і з самай раніцы тэлефанавалі яму дадому, каб дамовіцца аб сустрэчы. З Амэрыкі мне патэлефанаваў муж, Зянон Пазьняк, сказаў, што размаўляў з Васілём Уладзімеравічам па тэлефоне, павіншаваў яго, спытаў, як мы зьбіраемся віншаваць Васіля Ўладзімеравіча. Я сказала, што падару кветкі Васілю Ўладзімеравічу і ад яго імя.

Неўзабаве мне патэлефанаваў намесьнік старшыні Народнага Фронту Лявон Баршчэўскі і паведаміў, што Васіля Ўладзімеравіча няма ў Менску, і візіт адмяняецца. Але пазьней (каля 17-й гадзіны вечара) Васіль Уладзімеравіч адазваўся і запрасіў нас з Валянцінам Асташынскім дадому. Зь вялікім урачыстым бела-чырвона-белым букетам прышлі мы ў дом вялікага пісьменьніка. Васіль Уладзімеравіч сам адчыніў дзьверы. Твар яго сьвяціўся радасьцю. Было надзвычай добра і ўтульна ў ягоным менскім доме... Гэта быў дом, дзе любілі сяброў, любілі ўсё наша, беларускае. Памятаю, ён сказаў, што кожны дзень слухае радыё „Свабоду", бо вельмі чакае зьвестак, як ён сказаў, „пра нашых дарагіх пілігрымаў" (гэта ён казаў так пра Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка, якія тады былі ў ЗША).

Калі мы апынуліся ў эміграцыі, Васіль Уладзімеравіч некалькі разоў віншаваў нас са сьвятамі, падтрымліваў, прысылаў паштоўкі. Ён сам вымушаны быў жыць за мяжой, і добра разумеў, як цяжка быць удалечыні ад роднага дому. Я некалькі разоў чула ягоны голас па тэлефоне, калі ён



*62. Зянон Пазьняк і Васіль Быкаў. 1993 г.*

тэлефанаваў мужу. Гэта быў вельмі цёплы голас, голас блізкага чалавека... Нас раздзялялі межы розных краінаў, але ён заўсёды быў у полі маіх думак, добрых і сьветлых.

Да Васіля Ўладзімеравіча ў мяне заўсёды быў вялікі давер. І калі да горла падступаў камяк ад настальгічнай тугі па Беларусі, я ў думках зьвярталася да Васіля Ўладзімеравіча, расказваючы яму пра ўсё-ўсё. Я ведала, што ён абавязкова падтрымае. Калі-небудзь (думалася мне) я насамрэч ўсё раскажу яму, – а ён зразумее і пашкадуе.

І вось Васьля Ўладзімеравіча ня стала. І я ўжо ніколі не раскажу яму пра тое, пра што так шмат расказвала яму ў сваіх думках...

* * *

Васіль Быкаў лічыцца „пісьменьнікам ваеннай тэматыкі". Шмат хто любіць яго менавіта за гэта, бо любіць літаратуру „пра вайну". Тыя ж, хто не зьяўляецца прыхільнікам такой літаратуры, магчыма, ня надта сьпяшаюць раскрыць ягоныя творы і заглыбіцца ў мастацкія сюжэты. На мой погляд, недакладна ўспрымаюць творчасьць пісьменьніка і адны, і другія. Васіль Быкаў ня ёсьць пісьменьнікам толькі „ваенным". Васіль Быкаў – вялікі беларускі пісьменьнік. Гэта пісьменьнік беларускага характару і беларускай душы. Тыя сюжэты, калізіі, якія ён апісвае ў сваіх творах, толькі нагода, каб расказаць пра нас, беларусаў. У вобразах Васіля Быкава я бачу ўсю Беларусь, якую ведаю зь дзяцінства. Учынкі ягоных герояў, спосаб думаньня, паводзіны – усё-усё нашае, беларускае, і добрае, і ня вельмі. І разам з тым – агульначалавечае. Бо беларус – і падобны, і непадобны ні на каго іншага. Характар быкаўскага Беларуса – унікальны, як унікальная нашая шматпакутная нацыя.

Разгарнем і перачытайма сёньня ягоныя творы, угледзімся ў ягоныя вобразы – і мы пераканаемся ў гэтым. Пачнём хаця б з аповесьці „Мертвым не баліць", ці адкрыем першую старонку аповесьці Васіля Быкава „Сьцюжа" зноў – і цяжка адарвацца, пакуль не перагорнем апошнюю.

* * *

# „СЬЦЮЖА"

Падзеі аповесьці „Сьцюжа" разгортваюцца ў цяжкім часе нашай гісторыі. Тут адлюстравана беларускае жыцьцё, прыстасаваньне да яго і выжываньне простага чалавека ў сітуацыі бальшавіцкага гвалту даваеннай калектывізацыі і пачатку 2-й Сусьветнай вайны. Галоўны герой аповесьці – Ягор Азевіч. Тонка і пасьлядоўна раскрывае аўтар характар героя. Усё ягоныя ўчынкі і матывы гэтых учынкаў, псіхалёгія яго думаньня: імкненьне сумясьціць несумяшчальнае – вынікаюць з самога сюжэта. Перагорнем разам старонкі аповесьці.

У пачатаку вайны раённыя работнікі, раённае начальства (у тым ліку і Ягор Азевіч, які да вайны працаваў у выканкаме, потым у райкаме партыі) арганізоўвае атрад, каб распачаць барацьбу супраць немцаў. Немцы пачалі іх лавіць і ганяць па лесе, і яны вырашылі зашыцца ў непраходны лясны куток, далей ад вёсак, за балотамі. Тым часам на фронце рабілася, як кажа аўтар, „няведама што", і аднойчы адзін зь іх уцёк і данёс у паліцыю. „Партызаны" ледзь уцяклі з месца стаянкі, а прадукты прапалі.

Праз нядоўгі час адны загінулі, іншыя здрадзілі. Невялікая група апынулася ў балоце. І ўрэшце **„Азевіч**, – піша аўтар, – **застаўся адзін, нібыта ўжо не партызан, а згаладнелы няўдака-чалавек, і яму патрэбны былі людзі, харч, жытло. Без таго, адчуваў ён, нядоўга стрывае. На носе зіма. Зімою ж аднаму ў лесе – пагібель."**

Куды ісьці? І ён ідзе шукаць вёску. Холадна, хочацца есьці, у намоклых ботах ацежалелі ногі. На ўскрайку лугавіны ён паварочвае да стажка, крыху адпачывае і ідзе далей. Змучаны і згаладаўшы Азевіч нарэшце трапляе на хутар і просіцца пераначаваць. Але ноччу некуды зьнікае гаспадар. „Мабыць, у паліцыю", – прамільганула ў галаве Азевіча. І ён выскоквае на двор і бяжыць у ноч.

Далей аўтар знаёміць нас з даваенным жыцьцём Ягора Азевіча. Гэта сьціплы сялянскі хлапец з працавітай сялянскай сям'і, якому ўсё гэтае гаспадарства блізкае і дарагое зь дзяцінства (і сама гаспадарка, і конік, якога ён з любоўю даглядае). Раённы начальнік Заруба прапаноўвае Ягору працаваць возчыкам у райвыканкаме, і для яго пачынаецца новае (ужо не сялянскае) жыцьцё ў раёне.

Чым болей ён працуе, тым болей яму падабаецца ягоны начальнік. **„Заруба быў шчыры працаўнік,** – чытаем мы, – **большасьць дзён матляўся ў паездках па раёне, усё на людзях, на сходах. І пра возчыка свайго клапаціўся, як бацька. Калі дзе частавалі старшыню РВК, дык ён клікаў і возчыка, калі начавалі, дык прасіў уладкаваць і Ягора..."**

Тым часам у раёне пачынаюцца арышты „ворагаў народа". У Ягора няма нянавісьці да „ворагаў народу", аднак аўтар так апісвае стан ягоных дум: **„Нікога з арыштаваных ён ня ведаў. Але калі ворагі народа, дык што ж? Тады нават добра, што арыштавалі. Тых ужо арыштоўвалі ня першых, увосень узялі аж шэсьць чалавек, пра тое пісала раённая газэта, ды менскія газэты пісалі, як выкрывалі ворагаў народа нават ва ўрадзе рэспублікі. А перад тым раскулачвалі. Нават у іхняй вёсцы дзьве сям'і раскулачылі і выслалі кудысьці на Поўнач. Ягор нават памагаў адвозіць."**

Надзвычай цікава раскрыта ў аповесьці праблема калектывізацыі. Народнае непрыняцьцё калектывізацыі – гэтага гвалту над людзьмі – як бы не закранае сьвядомасьць Ягора. Сялянскі хлапец, ён слухае бацьку і маці, для якіх калектывізацыя – страшэнная бяда, якае руйнуе іхнае жыцьцё, – і як бы іх ня чуе... Маючы добрае сэрца, ён уверыўся, што іншага шляху, якім ідуць саветы, няма, і прыстасоўваецца.

Размаўляючы з сынам пра калгасы, пра тое, як сялян заганяюць у іх сілай, бацька просіць яго неяк заступіцца за іх супраць гэтага гвалту. Але сын адказвае, што палёгкі не дадуць нідзе, ні ў Менску, ні ў Маскве. **„Тая вашая праўда скончылася. Іншая пачынаецца"**, – кажа ён бацьку.

Ягора прымаюць кандыдатам у члены партыі. Разам з іншымі партыйнымі кіраўнікамі выязджае ў аднаасобніцкія вёскі выбіраць плян збожжанарыхтовак. У асабліва ўпартых, „сабатажніцкіх" (як казалі бальшавікі) вёсках Ягор (як і іншыя) ходзіць па хатах і разьбівае жорны, каб сяляне не малолі збожжа, а здавалі яго дзяржаве. Плачуць жанчыны, просяць, каб жорнаў не разьбівалі, паказваюць на малых дзетак, кажуць, што ўсё здалі. Але камуністы іх ня чуюць. Вось адзін фрагмэнт такой сцэны.

**„Якраз у той момант з хаты выскачыла кабета з растрэпанымі валасамі, узьняла крыку на ўсю вёску. Яна так бэсьціла і кляла іх, што стала няёмка, нават боязна стала. Старшыня сельсавета кінуўся яе ўгаворваць, але тая ўсё крычала і плакала. З нізкага акенца цікаўна пазіралі на падворак некалькі мурзатых дзіцячых тварыкаў. Дашэўскі, аднак, нічога, здаецца, ня чуў і не заўважаў, адно ведаў – камандаваць: „Поехалі дальше!” За якіх пару гадзін яны пабілі, можа, з дзясятак жорнаў, наслухаліся крыку, праклёнаў і лаянкі, асабліва ад жанок.”**

Нельга сказаць, што Ягору падабаецца гэтая „місія”, яму нават няёмка і шкода людзей, але пад жорсткім позіркам кіраўніка групы Дашэўскага ён выконвае ўсе загады, нават разьбівае жорны ў доме сваіх бацькоў, хоць гэта прыносіць яму немалыя пакуты. І гэта істотнае ў характары Азевіча: ня хоча, але начальства кажа, што трэба, і ён робіць усё, што гэтаму начальству трэба.

Ягор рэгулярна чытае раённую газэту „Шлях камунізму”, дзе тлумачыцца лінія партыі ў сувязі з калектывізацыяй, і як бы прымае на веру гэтую „лінію партыі”. Але жыцьцё ставіць перад ім новыя выпрабаваньні.

* * *

Нечакана Ягора выклікаюць у райаддзел ГПУ да „таварыша Мілавана”, які вучыць яго: **„камсамолец, дык абавязаны шчыра супрацоўнічаць з органамі”**. Ён распытвае Ягора пра Зарубу (куды той найчасьцей езьдзіць, з кім сустракаецца). Але Ягор не даносіць на свайго начальніка і думае расказаць усё Зарубу. Яму загадваюць пра гэта маўчаць. Ягор пужаецца і маўчыць.

Праз нейкі час Мілаван выклікае яго ізноў. Ягор злуецца на энкавэдзіста (маўляў, чаго прычапіўся?), і на подлыя ўчынкі ня йдзе, не становіцца даносчыкам. Такім чынам ён хоць і выбірае бок новай улады, але хоча застацца на пазыцыях народнай маралі. І „новая ўлада” падбіраецца да яго з іншага боку.

Ягор наведвае камсамольскія палітзаняткі, якія праводзіць маладая камуністка Паліна Пташкіна, пачынае сам выступаць на сходах местачковай камсамольскай ячэйкі, уцягваецца ў камсамольскую працу. Раённае начальства раз’язджаецца па раёну агітаваць за калгасы (у тым ліку і Заруба, якога вязе Ягор). Зь імі у воз садзіцца і Паліна. І калі яны заначавалі ў старшыні сельсавета ў вёсцы Трыкуны, Паліна сама прыходзіць ноччу да зьбянтэжанага Ягора ў камору (трысьцень).

Раніцай Ягор адчувае сябе няёмка, мучаецца з сваім каханьнем, Паліна ж, наадварот, робіць выгляд, што нічога ня здарылася. Але праз 2-3 дні яна зноў прыходзіць да яго і паміж пацалункамі пытаецца пра Зарубу:

**„Слухай, ён даўно ў Кандыбічах быў? Ну, у таго настаўніка?” – „На тым тыдні быў”, – сказаў Ягор. „І начавалі?” – „І начавалі”. – „А яшчэ хто там быў?” – „Ну гэты, што зь Менска прыязджаў. Упаўнаважаны”. Яна зноў прыціхла, прыслухалася. „А пра што гаварылі, ня чуў?” – „Ня слухаў”, – проста сказаў Ягор. „А ты паслухай. Паслухай калі. Добра?” – „А нашто?” – „Нашто? На тое! Твой Заруба ведаеш хто?” – „Хто?” – „Скрыты белагвардзеец, паняў?” – „Як белагвардзеец? Ён жа бальшавік. З рабочых. На грамадзянскай быў камісарам ваенных курсаў”. –„Залівае! Нікім ён ня быў. Ён скрыты вораг. Паняў? І ты за ім пацікуй. З кім ён і што? Недарма ён да таго настаўніка ў Кандыбічы зачасьціў. Родная кроў. Той жа таксама контра. Пстыга. Папоўскі сынок”. –„Во як!” – зьдзівіўся зусім зьбянтэжаны Ягор. „А я думаў...”**

Потым Паліна зноў зьнікае на тыдзень, а Ягор сумуе і пакутуе. Праз нейкі час яна прыходзіць, але яе цікавіць не Ягор, а тое, ці былі яны з Зарубам у вёсцы Кандыбічы, пра што гаварылі і ўрэшце – загадвае напісаць на Зарубу данос. Ягор, перапоўнены каханьнем і пяшчотай да Паліны, ён разгублены, і усё ж данос пісаць адмаўляецца. Тады Паліна піша сама і просіць Ягора падпісаць... Ён вагаецца, разумеючы, што „гэта нядобра”. **„Нядобра? Затое па-бальшавіцку”**, – адразае Паліна.

Пачуўшы ад яе **„Ягорка, ну! Зрабі тое для мяне! Ну, для нашага каханьня”**, ён адступае і – падпісвае данос. (Інтэрас Паліны пасьля гэтага да Ягора раптоўна прападае і яна кідае яго.)

„Па-Быкаву”, атрымоўваецца так: Ягор добры вясковы хлапец, працавіты, спрытны і г.д.

Але быць проста добрым чалавекам – гэтага аказваецца зусім не дастаткова. Проста „добры чалавек” без цьвёрдай пазыцыі можа пайсьці на ўчынак, які зруйнуе жыцьцё іншаму. Ягор спрабуе сумясьціць прыстойнасьць і служэньне бальшавікам. Гэтыя яго імкненьні абрынуліся, бо яны не сумяшчальныя. І гэта агульны лёс тых, хто прыстасоўваецца.

Ён перажывае, пакутуе, што падпісаў данос, стараецца не глядзець у вочы Зарубу. Вось як аўтар перадае псіхалягічны стан героя, падпісаўшага данос на невінаватага чалавека: **„Ягор таропка ўвайшоў у кабінет, Заруба сядзеў, цяжка аблегшыся на стол, неяк уважліва паглядзеў на возчыка. Той аж абмёр пад гэтым ягоным позіркам...”**

Зарубу (і яшчэ некалькі чалавек) арыштоўваюць. Ягор ўсюды чуе пра „выкрываньні ворагаў” і як за „паратунак” хапаецца за прапаганду (ў газэтах, маўляў пішуць, што гэта ворагі). Ён супакойвае сябе, разважаючы: **„Хай сабе Заруба і быў вораг народа і выкрыты белагвпардзеец, але Ягор у яго сяму-таму навучыўся. Ну хоць бы выступаць”.**

Пастулова „добры чалавек” Азевіч, уступіўшы ў дачыненьні з бальшавіцкім злом, прывыкае да яго, як да нармальнасьці.

Так Быкаў падводзіць чытача да высновы: калі са злом не змагацца – яно становіцца нормай. І гэтая філясофская выснова Быкава пераканаўча раскрываецца далей.

**„Органы між тым рэгулярна прарэджвалі раённае кіраўніцтва, хапалі ўвесну, хапалі ўлетку. Азевіч даўно ўжо не ламаў галаву над пытаньнем: завошта або каго ўзялі? І ён, і ўсе навокал ведалі, што могуць узяць кожнага, абы знайшлася якая прыдзірка. Зрэшты, і без прыдзіркі бралі таксама. Тое было як лёс, як зьнянацкая благая хвароба.”**

Пасьля сканчэньня камсамольскіх курсаў ў Менску Ягора накіроўваюць кіраўніком камсамольскай ячэйкі на лесапільню. Ягоная сьвядомасьць усё болей становіцца партыйнай.

Ён знаёміцца з суседкай Анэляй. Яны падружыліся, але „хапун” забраў бацьку Анэлі (як „ворага народа”), і Ягор адразу кідае дзяўчыну, а сустрэўшы яе, пераходзіць на другі бок вуліцы.

Незаўважна для сябе, Ягор становіцца іншым чалавекам. Ён ужо гатовы жыць не па сэрцу, не па сумленьню, а па партыйных інтарэсах. Гэта ўжо выраблены чалавек, які ведае, з кім яму можна дружыць, з кім не.

І ўсё ж далейшыя падзеі паказваюць, што гэты працэс яшчэ не канчаткова узяў у абцугі Ягора. Прыгадаем яшчэ адзін важны эпізод у разьвіцьці яго характара.

* * *

У сувязі з падпіскай на пазыку, у вёску выязджае увесь актыў (і райкамаўскі інструктар Азевіч).

Калгас, арганізаваны ў роднай вёсцы Ягора Ліпаўцы ледзьве ліпіць, не хапае насеньня на сяўбу. Ягоная маці хворая, бацька памёр. Есьці няма чаго, хлеб скончыўся. Пракурор Гарадзілаў, які бачыць галечу ў доме Ягора, пытае: **„Каго ж мы тады падпішам? Ці гэта толькі ў вас так? Мабыць, ваша дзярэўня – выключэньне? Як вы лічыце?” – „Выключэньне! – злосна кінуў Ягор і зь яшчэ большай злосьцю дадаў: – І раён выключэньне! І ўся Беларусь выключэньне!” Сказаў і спалохаўся, убачыўшы ў вачах пракурора такі ж самы спалох. Абодва, заціяўшы ў сабе страх, замоўклі.”**

Вось, нарэшце, і намацаўся характар Азевіча: сказаў і спалохаўся. Цярпеньне яго лопнула і ён уголас абураецца, але гэтае „абурэньне” ў Ягора на вельмі кароткіх ножках... Волі і характару не хапае. Аўтар зноў прыводзіць нас да думкі: гэта тыповы лёс тых, хто прыстасоўваецца.

І яшчэ адзін прыклад. На лесапільню прыслалі на так званае „працоўнае перавыхаваньне” настаўніка зь мястэчка – „нацдэма” Дарошку (бо праяўляў вялікую актыўнасьць у грамадзкім жыцьці, ставіў п’есы на беларускай мове). Ягор шмат размаўляе з Дарошкам, абмяркоўвае розныя пытаньні, з цікавасьцю чытае „Новую зямлю”, якую яму дае настаўнік. Гэты чалавек (як і Заруба) выклікае сімпатыю ў Ягора. Вось яго нясьпелыя думкі: **”...быццам і нішто чалавек, разумны і адукаваны, а во стаў нацдэмам”.** (Хоць ён ня надта што разумее у сутнасьці палітыкі „нацдэмаў”, заўважае аўтар).

Разважаньні Ягора выяўляюць несупадзеньне ягонай чалавечай прыроды з патрабаваньнямі

новай улады: душой ён цягнецца да „нацдэма”, а партыйны голас нашэптвае, што „нацдэм” – гэта дрэнна. Прыроднае, чалавечае поўнасцю разыходзіцца з рэальнасьцю, і Ягор усё часьцей згінаецца перад ёю.

З райкама загадалі правесьці сход і абмеркаваць працэс „перавыхаваньня” настаўніка. Усё ідзе добра, Дарошка на ўсе пытаньні адказаў правільна. Ягор вельмі хвалюецца, ён хоча, каб справа так званага „перавыхаваньня” скончылася пасьпяхова. Але раптам нехта задае настаўніку пытаньне, якое перакрэслівае лёс Дарошкі: **”...вось ты і вучыцель, і граматны, а чаму ты, браце мой, па-беларуску гаворыш?”** У залі становіцца ціха, рашэньне аб „перавыхаваньні” адкладаецца.

Ягора выклікаюць ў НКВД і загадваюць напісаць данос на Дарошку (у нацыянальстычнай агітацыі). Ягор адмаўляецца, бо падсьведама адчувае праўду Дарошкі. Ён ня згодны з тым, што Дарошка вораг – але сваю нязгоду ён глыбока хавае і надалей застаецца верным камуністам. (Дарошку тым часам арыштоўваюць за „падрыхтоўку дыверсіі на лесапільні, называюць яго польскім шпіёнам”.)

І зноў пісьменьнік вяртае нас „у рэчаіснасьць”, у хвойнік, дзе начаваў змучаны Азевіч. Тое, што кампазыцыйна аўтар не „падпарадкоўваецца” храналёгіі і апавяданьне ідзе ад умоўна „цяперашняга” часу, калі галодны і халодны Азевіч шукае „сваіх” і толькі час ад часу ўспамінае сваё даваеннае жыцьцё, „мінулае”, гэта дае магчымасьць пісьменьніку паказаць свайго героя ў працэсе асэнсаваньня ўласнага жыцьця. Ці ўзьнімецца ён да раскаяньня, ці стане на іншы шлях? Здаецца, павінен, бо ёсьць сьведкам столькіх пакутаў і няшчасьця людзей, цэлага народа. Ягонае расчараваньне і прасьвятленьне здаецца вось-вось наступіць.

Холадна. Азевіч ідзе далей, у Завішша, да былога сябра Вайцяшонка, бацька якога, відавочна, ня любіць саветаў. **„Савецкай уладзе служылі. Што заслужылі во? – сказаў і прымоўк стары.**

З разважаньняў Ягора відаць, што ён згодны з бацькам Вайцяшонка, але далей „згоды” ня йдзе.

**„Заслужылі няшмат, – пагадзіўся ў думках Азевіч. – І яшчэ што заслужаць – невядома.. Хто – каня, а хто, можа, і кулю. Як многія...”**

Ягор Азевіч просіць Вайцяшонка пажыць у яго, але той адмаўляе. Зноў паўстае пытаньне: куды ісьці далей?

У гэты цяжкі момант Азевічу хочацца толькі дадому, у родныя мясьціны, куды яму дарогі і няма. Раптам да яго слыху далятае тупат капытоў – гэта мясцовая кабета з дзецьмі едзе ў вёску. Азевіч просіцца пад’ехаць і даведваецца пра іхную трагічную гісторыю. Бацькоў гэтых дзяцей (яны былі вясковымі настаўнікамі) забілі партызаны. Прышлі ноччу да іх, каб забіць немца, які пасяліўся ў доме настаўнікаў. Бацька стаў прасіць, каб таго не забівалі, бо тады немцы заб’юць усіх. **„Ах ты халуй нямецкі, фашыстаў зашчышчаеш!”** – закрычалі партызаны. Яны застрэлілі і немца, і настаўнікаў. І вось дзяцей цётка вязе да сябе.

Сутыкнуўшыся ў чарговы раз з людзкім горам, Ягор Азевіч разважае: **„Ды і што ён мог зрабіць, чым суцешыць людзей. Можа так было і трэба, а можа, і не. Як зразумець цяпер, хто вінаваты. Вінаватыя вайна і людзкая жорсткасьць, нянавісьць і непрымірымасьць, што разьдзірала людзкія душы. Стралялі, нішчылі, білі – ня дужа разьбіраючыся, ня надта мяркуючы-судзячы – абы больш крыві – і сваёй і варожай. Але ці гэта пачалося толькі з вайной і ці да вайны было ня тое ж самае... Цэлыя горы трупаў. Цяпер, пачуўшы тую размову на начной дарозе, ён увогуле разумеў тых местачковых настаўнікаў і іхні клопат пра гэтых во дзяцей. Мабыць любоў да іх, а не прыслужніцтва да немцаў змусіла іх пярэчыць партызанам. Але ці захацелі тое разумець партызаны? Апантаныя сваёй мэтай, можа, падагрэтыя загадам камандзіра, пабілі і тых, і гэтых.”**

Здавалася б, выснова вось-вось адкрыецца Азевічу, бо ўсё відавочна. Але ён нясьмелы нават ў думках і далей гэтых горкіх думак Азевіч ня йдзе.

Зсеўшы з каня, Ягор ідзе прэч ад дарогі, у абход вёскі, шукае якую-небудзь будыніну, гушчар, хойнік, каб схавацца, але трапляе на роў, паросшы кустоўем, які пралёг упоперак шляху. Ён палез у гэтую шэрую прорву. Упаў, хацелася паляжаць, але небясьпека заснуць і замерзнуць прымусілі падняцца. Выбрацца адсюль аказалася вельмі цяжка. А сьнег усё сыпаў.

Апісаньні стану прыроды ў аповесьці маюць вялікае значэньне. Чытаючы Быкава, пераконваешся, што кожнае слова, кожнае такое апісаньне – на месцы, вельмі адпаведнае і дапамагае зразумець унутраны сьвет героя. Быкаўскія апісаньні настолькі рэальныя, словы падабраныя настолькі дакладна, што чытач лёгка ўяўляе гэтыя мастацкія вобразы-карціны і востра перажывае разам з аўтарам стан ягонага героя.

Учытаемся ў адно з апісаньняў. **„Дужа моцна дзьмуў вецер, часам проста рваў на ім полы шыняля, выдзьмуваючы рэшту небагатага яго цяпла. Рукі Азевіч трымаў у кішэнях, так яны менш зяблі, ішоў марудна, клыпаў кудысьці па касагорыне ўніз...** (сьнег) **пасыпаў, бы з торбы. Вецер гнаў сьнегавую драбнату, асыпаў ёю травяністы дол, сек па сьпіне, плячах, па яго злубянелым картузе і асабліва балюча – па голых вушах. Начную далеч ураз заслала белай імглістай мітусьнёй, дол высьвеціўся, на вачах стаў незвычайна бялець уначы, і тады Азевіч з трывогай падумаў, куды ж ён выйдзе?” „У полі побач не было нават дрэва, адно ваўсю лютаваў вецер і сьнег.”**

Чытаючы гэтыя радкі, мы амаль фізычна адчуваем холад. (*Вецер „дзьмуў”, „рваў, выдзьмуваючы”, „гнаў сьнегавую драбнату”, „асыпаў”, „сек”; сьнег „пасыпаў бы з торбы”; Азевіч „ішоў марудна, ён проста клыпаў”.)* Ствараецца ўражаньне, што усё кругом, увесь сьвет удзельнічае ў суцэльным хаасе.

З цяжкасьцю выбраўшыся, Азевіч „брыдзе, як п’яны”, ідзе „з угнутай галавой” (так было зручней на ветры) і натрапляе на плот. Гэта было гумно – ток ці павець. (Як высьветлілася пазьней, гэта была вёска Заброддзе, дзе яны да вайны білі жорны па хатах.)

Ён зайшоў у пустую будыніну і закапаўся як мага глыбей у сухую кучу гарохавіньня. **„Ягонае цела здрыжэлася на ветравым сьнегавеі, і карцела суняцца, сабрацца ў камяк, каб як-небудзь сагрэцца”**, – піша аўтар.

Азевіч доўга ляжыць хворы ў забыцьці. Жанчына, якая прышла па салому, і пачула ягоны стогн, выхажвае яго. А калі ён прыходзіць у сьвядомасьць, то разважае над сваім жыцьцём. Ён трапіў у абставіны, зь якіх ня ведае, як выбрацца. Апісаньне разважаньняў героя – гэта быкаўскі мастацкі вобраз Бяды. Учытаемся:

**„Чаму ж ён і каго можа навучыць, той яго куртаценькі вопыт? Ня скажаш, што шмат чаму добраму. Але ўжо благому, таму, як ня трэба, – гэтага ў ягоным вопыце было процьма. Але чаму так? Ці ён калі ленаваўся, шкадаваў сябе, ці рабіў што ня так? Ён гатовы быў вылузнуцца са скуры, каб зрабіць усё выдатна, як тое патрабавалася ад бальшавіка. Але што выходзіла з тае рупнасьці, на чыю яна ішла карысьць?.. Ён жыў па чужым сумленьні, па чужых звычаях, чужых законах. Жыцьцё і людзі распараджаліся ім, як хацелі. І як было ў тых умовах зрабіць што інакш?.. Як бы яму тое ўдалося, ён не разумеў і цяпер. Яго б за некалькі дзён сьцерлі на парахню. Таму круціўся, як мог, пакутваў і саромеўся. Толькі каму была справа да яго пачуцьцяў, калі ад яго патрабаваліся вынікі.”**

Лежачы ў гумне, Азевіч успамінае мінулае, разважае пра сэнс іхнага „сацыялістычнага змаганьня” і прыгадвае, што да вайны, ён **„сьцяўшы сэрца, тады намагаўся думаць: тое патрэбна дзеля вышэйшай мэты. Хоць бы дзеля краіны, сацыялізму, дзеля будучыні. Мабыць, так думалі-лічылі многія, калі ня ўсе, хоць бы і зь іх, раённага кіраўніцтва, ды ішлі гады, і ўсё выразьней рабілася разуменьне: калі тое на шкоду тым, хто тое рабіў, дык, мусіць, і не на карысьць будучым пакаленьням. На згубу і тым, і гэтым.”**

Як бачым, зразумець – зразумеў, але што рабіць – ня ведае.

Калі ён папраўляецца, размаўляе са сваёй выратавальніцай: **„А хлеб у вас ёсьць? – Хлеб ёсьць. Намалола на тым тыдні, дык сьпякла тры боханы. Ня тое, што ў калгасе.”**

І аказалася, хлеб намалола яна на жорнах, якія пабіла тады на тры кускі каманда, у якой удзельнічаў і Ягор Азевіч. Муж зрабіў абручы і, саставіўшы камяні, малоў ўначы. (Пазьней яго забралі энкавэдзісты.) І цяпер вось гэтая сялянка корміць сваім хлебам таго, хто бурыў жорны, біў камяні.

У канцы аповесьці Азевіч ідзе змагацца далей. Азірнуўшыся на сваю ўратавальніцу, Азевіч

першы раз перахрысьціўся, бо не хрысьціўся зь дзяцінства. Быкаў піша: **„Але адчуў, што цяпер было самы раз – прынамсі, не зашкодзіць. А то і паможа. Яму і той цётцы, і ўсім, хто апынуўся ў бядзе. Бо хто ж яшчэ паможа..."** Стан душы Азевіча тут выяўлены псіхалягічна дакладна.

* * *

Па-майстэрску, ня змушана дае пісьменьнік характар Ягора Азевіча ў разьвіцьці, праз яго ўчынкі і дзеяньні паказвае характар беларуса, дзе ён вытрымлівае, дзе не. Station Станоўчы ці адмоўны гэты быкаўскі персанаж? Напэўна, і ня тое, і не другое. Мы, чытачы, асуджаем Ягора за некаторыя ягоныя ўчынкі, але ўрэшце рэшт спачуваем ягонаму цяжкаму лёсу, у якім мы бачым народны лёс, беларускі лёс пад бальшавіцкай акупацыяй. Герой жыве і дзейнічае ў цяжкіх абставінах, у якіх ён, фактычна, павінен выжываць. Спачатку Азевіч гэта не ўсьведамляе, але паступова пачынае ўсьведамляць. У канцы аповесьці ён ужо іншы чалавек. Ён ужо зусім не перакананы ў справядлівасьці тае „барацьбы", у якую ён паверыў спачатку. Але да чаго прывядзе гэтае ўсьведамленьне?

Наперадзе вайна, перамога і пасьляваенны сталінізм. Быкаў не дае нам адказу. Ён дае чалавека ў пагранічнай сітуацыі і пакідае яго, раскрыўшы ягоны характар у абставінах, якія былі характэрныя для цэлага пакаленьня. Высновы – за чытачом.

***Галіна Пазьняк***

*2004 г., Варшава*

*Надрукавана: („ Беларускія Ведамасьці",–2005-2006, №1(55), стар.6-10).*

# ПАХАВАНЬНЕ ВАСІЛЯ БЫКАВА

***(Успамінаюць сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ)***

***Юры Беленькі.*** – Як памёр Васіль Уладзімеравіч, мне патэлефанаваў Уладзімер Раманцоў і кажа: „Свабода" перадала. Трэба рабіць адпаведныя захады." Потым тэлефанаваў Зянон Пазьняк. Адразу сябрамі Фронту было прынята рашэньне стварыць Камісію па пахаваньні. Рашылі зьвязвацца з Рыгорам Барадуліным і Генадзем Бураўкіным.

Я патэлефанаваў Рыгору Барадуліну. Ён кажа: „Зьвязвайся з Бураўкіным". Я назаўтра зьвязаўся зь ім і кажу: „Трэба ствараць Аргкамітэт."

Бураўкін адказвае: „Нашто ствараць Аргкамітэт паралельна, я баюся. Мы павінны далучыцца да агульнага Нацыянальнага Аргкамітэту, улады ўжо стварылі такі камітэт. Мы сабраліся і далі свае прапановы, хто ўвойдзе ў гэты Аргкамітэт."

Ён стаў пералічваць гэтых асобаў, якія (на яго меркаваньне) павінны ўвайсьці ў Аргкамітэт па пахаваньні. І потым (забягаючы наперад) скажу, што ўлады як бы фармальна пакінулі там з пісьменьнікаў толькі самаго Бураўкіна і старшыню пісьменьніцкай Рады Алеся Пашкевіча. А астатніх проста цынічна выкінулі, і, фактычна, ніякага „грамадзкага" Аргкамітэту не атрымалася. Узначаліў – генэрал КГБ Чаргінец (ён жа ўзначаліў пэўную камісію гэтай „палаткі") і ўся астатняя такая ж публіка. Там быў Міністар культуры Гуляка і ўсе астатнія. Але быў адзін такі момант (я думаю, ён вельмі важны, яго трэба адзначыць). Я патэлефанаваў да ўдавы Васіля Быкава, выказаў спачуваньні і кажу: „Васіль Уладзімеравіч – гэта і сябра руху, і Партыі БНФ, ён быў каля вытокаў Народнага Фронту."

Яна нават не дала мне сказаць і кажа: „Так, так, так."

Я кажу: „Мы хацелі б годна, дастойна праводзіць Васіля Ўладзімеравіча."

Яна кажа: „Воля нябожчыка была, каб былі нашыя сьцягі, і паболей. І каб труну несьлі сябры." Яна нават двойчы сказала, што труну павінны несьці сябры. Яна пераказала словы самога Быкава, яго жаданьне. Яна ізноў паўтарыла пра нашыя сьцягі: „Гэта была воля Васіля Ўладзімеравіча."

Верагодна, ён раней выказаў такія думкі. Г э т а мяне так натхніла, і я кажу: „Я даю вам абяцаньне, што сьцягоў будзе шмат."

Мне пазваніў Сяргей Навумчык з Прагі. Я яму сказаў, што мы рыхтуемся. Трэба, каб і вянкі адпаведныя былі, нацыянальная сымволіка, і што мы гэтым займаемся.

Ён кажа, што ёсьць інфармацыя, вельмі ня добрая, таму вянкі павінны быць завезеныя ў Дом літаратара. Хаця (я магу сказаць) я перамовы пэўныя вёў, потым яшчэ званіў да Бураўкіна, казаў: так і так. Ён нешта адмахваўся, і Пашкевіч адмахваўся. Урэшце рэшт мы з калегамі сабраліся (у прыватнасьці, прысутны тут Валеры Буйвал, спадарыня Кацянкова, яшчэ іншыя калегі), паехалі ў пахавальнае бюро на Альшэўскага, замовілі Бел-Чырвона-Белы вянок, замовілі іншыя вянкі, каб яны адпаведна выглядалі. (Таму што былі званкі ад Зянона Станіслававіча Пазьняка з просьбай, каб быў вянок ад ягонай сям'і, ад Сяргея Навумчыка, ад нашай Партыі і інш.)

Я зьвярнуў увагу, што мы былі першыя. Работніцы пахавальнага бюро ведалі, што памёр Васіль Быкаў, але мы першыя былі, хто прышоў туды заказваць вянкі. Калі наш вянок пад заказ быў ужо зроблены, туды сталі зьяўляцца людзі замаўляць вянкі. Мы пабачылі там і ад пісьменьніцкай Рады і ад палітычных партыяў. Гэта такая дэталь.

Я пагрузіў вянкі ў сваю машыну. Мы ўзялі йшчэ бел-чырвона-белыя стужкі (яшчэ фабрычнага вырабу, са старога запасу, калі нацыянальная сымволіка была дзяржаўнай) і, ведаючы папярэджаньне С. Навумчыка, паехалі ў Дом літаратара. Перад кабінэтам, дзе засядаў Пашкевіч, ужо вянкі стаялі. У іх была нейкая нарада. Я заходжу і кажу: „Шаноўнае спадарства, я размаўляў з удавой, і ўдава сказала, я паўтараю яе фразу, што было жаданьне нябожчыка, каб былі нашыя нацыянальныя сьцягі і труну каб несьлі толькі сябы."

Яны так прамаўчалі. Я кажу: „Мы паедзем з калегамі забіраць труну."

Тут жа – тэлефон (можа яны хацелі пераканацца ў гэтым). Я набіраю тэлефон Ірыны Міхайлаўны, прадстаўляюся. Яна мае словы падцьвярджае. Але кажа: „Званіце сыну Васіля Ўладзімеравіча, бо, – кажа, – я хацела сама ехаць забіраць цела нябожчыка, але мне пазванілі і сказалі, што гэта ня ёсьць нашая традыцыя, што ўдава не павінна забіраць цела з труной, хаця, – кажа, – я ў гэтым вельмі сумняваюся (яна дала зразумець, што ня верыць гэтаму). Таму зьвяртайцеся-званіце да сына і разам з сынам забірайце."

Я тут жа набраў нумар сына Васіля Ўладзімеравіча. Ён вельмі адэкватна гэта ўспрыняў, выслухаў нашыя спачуваньні і сказаў: „Добра, што вы так адгукнуліся." І дадаў: „Ужо ёсьць пэўная дамоўленасьць, з морга паеду забіраць я, мне даюць машыну. Там будзе машына Чаргінца і яшчэ нейкага. Вы можаце так не турбавацца, праблемы, як бы, не павінна быць."

Але я ведаю гэтыя ўлады. Таму я спытаў адрас сына Васіля Ўладзімеравіча (я ніколі ў яго ня быў) і спытаў, у колькі трэба быць, калі забіраць.

Папярэдне мы сабраліся на Ўправе БНФ і я перадаў волю нябожчыка. Я сказаў: „Шаноўныя сябры, памёр вялікі пісьменьнік, вялікі чалавек, наш калега, сябра Партыі, Сойму БНФ, які стаяў ля вытокаў Фронту. І таму мы павінны зрабіць усё годна. Павінна быць шмат нацыянальных сьцягоў, і каб нашыя людзі (а не чужыя) несьлі труну."

Назаўтра мы павінны былі ехаць да сына Быкава і ў морг. Я неяк адчуў, што гэтыя ўлады так справу не пакінуць, што яны захочуць перашкодзіць нацыянальнаму пахаваньню Быкава і зрабіць рэжымнае, маўляў, мала таго што ён „стіхі пісал" дык ён яшчэ – і з намі. Тым больш, што прышла ўжо інфармацыя (пасьля маіх званкоў), што ніякай „нацыянальнай" камісіі няма, што ўлады дапусьцілі ў гэтую камісію толькі двух пісьменьнікаў (Пашкевіча і Бураўкіна) і такім чынам бяруць пад свой кантроль пахаваньне чалавека, якога ненавідзелі, які іхны рэжым не ўспрымаў. Канешне, мы такога дапусьціць не маглі, тым больш сваякі (і сын, і жонка) выказалі жаданьні, каб былі свае людзі, а ня нейкія чужынцы, якія так нядобра зь ім паступалі.

Я папрасіў Сяргея Пятровіча Папкова паехаць разам (трэба было ехаць рана, сын Быкава сказаў, каб мы былі гадзінаў у 6 раніцы). Мы паехалі на машыне. Бачым, стаіць ужо „Волга" Чаргінца. Выйшаў сын Быкава і кажа: „Ведаеце, едзьце ў морг, бо ўжо ёсьць машына адна, другая, мне праблем даехаць ня будзе. Едзьце, там сустрэнемся."

Мы паехалі, бо папярэдне (яшчэ зь вечара) Віктар Рабушка высьветліў, дзе цела нябожчыка, у якім моргу. Яму далі інфармацыю, назвалі адрас (морг у Бараўлянах) і мы едзем. Праязджаем Лагойскі тракт, выехалі за „кальцавую", праехалі пост ДАІ і раптам бакавым зрокам я бачу знаёмую постаць. Я – па тармазах, уключыў заднюю перадачу (метраў 30 праскочыў), пад'язджаю. А гэта быў Язэп Янушкевіч.

– Язэп, а чаго ты тут стаіш? – пытаюся. Той узрадваўся і кажа:

– Ведаеш, як добра, што ты спыніўся. Зараз праехала машына, там паехаў Алесь Бяляцкі, яшчэ – іх чацьвёра чалавек – чамусьці мяне не ўзялі (машына можа пяць чалавек везьці). Паехалі ўжо ваенныя з гарнізона, салдаты, паехалі забіраць цела ў морг. Праехала таксама „даішная" машына ўжо, і ўсе ўжо паехалі.

Ён сеў і мы едзем у той морг, пра які нам паведамілі і пра які ведае і Язэп Янушкевіч. (У машыне ён усё абураўся, чаму яго тыя не маглі пасадзіць„пятым".)

Прыязджаем у морг. Каля шпіталя стаіць машына, на ёй – выява Пагоні і Бел-Чырвона-Белага сьцяга. Глядзім, зьяўляецца спадар Кешкурна. Ён садзіцца ў машыну: „О, хлопцы, паехалі." Вароты ўжо адчыненыя, заязджае ў вароты, мы за ім. Па нейкіх закавулках (ён ведае куды), даязджаем да морга. Тут разам з Кешкурнам Янукевіч, яшчэ некаторыя – таксама прыехалі забіраць цела. У мяне тут адразу пытаньне: „Гэта ж яны належаць да адной партыі (Бяляцкі і гэтыя), дык дзе Бяляцкі, і дзе вайскоўцы?" Мы зразумелі: адбываецца нешта ня тое. Перамовіліся з Сяргеем Пятровічам, Сяргей Пятровіч пайшоў да ахоўніка морга папытаць, ці знаходзіцца тут цела Васіля Быкава. Той адказаў: „Так. Труна знаходзіцца тут."

Тады пытаньне: а дзе вайскоўцы, дзе Бяляцкі, пра якіх нам расказаў Язэп? Тут Кешкурна кажа: „А, ужо вязуць, там, па дарозе. Уключы „запальваньне", паехалі."

Глядзім, сапраўды, ужо відаць: з суседняга морга (мы ведалі, што там два моргі) выязджае з уключанымі фарамі „даішная” машына. Я пасьпеў выскачыць. Сын Быкава мяне пабачыў, махнуў рукой (маўляў, далучайцеся) да эскорта. Я – у машыну, вырульваю, але ж яны ўжо праехалі. Спрабую прыстроіцца ў канец. Не зусім атрымалася. За рулём быў таксама наш калега Генадзь Пляшко, ён неяк так апярэдзіў мяне і стаў перада мной. (На мікра-аўтобусе, там, дзе нашыя людзі, якія павінны былі выносіць труну). Ужо труна вынесена, пастаўлена ў аўтобус і ўжо ёсьць гэтая працэсія (машын, напэўна, пяць). Мы едзем ў калёне. Я запаліў фары, каб абазначыць таксама рух калёны (бо сьпераду йдзе, а ззаду „даішнай” машыны не было). Мы рухаемся з хуткасьцю недзе 50 *км.* (Гэты Кешкурна едзе у гэтай калёне, перад намі). Выязджаем на Лагойскі тракт (дзе пункт ДАІ). Раптам выходзіць міліцыянт і з усёй калёны спыняе Кешкурну. Той бярэ ўправа, калёна рухаецца далей. Выехала на „кальцавую”, потым выехала на праспэкт Скарыны і там даішнікі перакрылі рух, дазваляючы калёне выехаць. Але як толькі праехалі гэтыя афіцыйныя машыны – тут жа пусьцілі рух. Аднак мы ўсяроўна пасьпелі праскочыць у асноўную калёну. Дарожны паток машын нас не адсёк, хаця відавочна, гэта рабілася сьвядома, каб нас адсекчы.

Мы рухаемся далей. Пад’язджаем да вуліцы Філімонава. Калёна ў суправаджэньні ДАІ. Перада мной спадар Генадзь Пляшко. Дарэчы, ён чамусьці не ўключыў „блізкае сьвятло”, каб абазначыць калёну (акрамя таго ён дапусьціў два незразумелыя манеўры: першы раз – адсек мяне, хоць не павінны быў адсякаць свайго кіраўніка на машыне, – і на Філімонава – ён спыняецца і калёна сыходзіць наперад. Я не магу ўжо рухацца: зьлева машына, справа і перада мной. Я блакаваны – не магу ехаць.

***Зянон Пазьняк***: – Ён што, не разумеў, што рабіў?

***Юры Беленькі:*** – Матывацыю яго паводзінаў я ня ведаю, я расказваю толькі фактуру.

Калі дазволенае сьвятло запалілася, едзем далей. Я тады максімальна (колькі толькі дазволена) еду на хуткасьці, колькі магчыма, бо ж – правілы і сьветлафоры. Фары ў мяне ўключаныя. Даязджаем да плошчы Перамогі і – перад паваротам налева стаіць „даішнік.” Я адчыняю шкло і кажу: „Мы адсталі ад калёны, мы – на пахаваньне Быкава.” Той стаў нешта пярэчыць, але потым махнуў: едзь! Мы толькі завярнулі – тут адразу другі пост. Я яму – тое самае. Той ужо неяк вяла зрэагаваў – мы і яго праехалі. А потым мы ўжо павярнулі направа (там вуліца Захарава) і адразу направа – туды, да Дома літаратара, дарожка. А там вісіць „цагліна” і стаіць трэці пост. Цікава, што трэці пост, калі я праехаў пад „цагліну”, нават мяне не спыніў. Відавочна, псіхалягічна падзейнічала тое, што калі мяне прапусьцілі два пасты, то чалавек, які „набраўся нахабства” і паехаў пад „цагліну” – як быццам ўжо не вымагаў пярэчаньняў, маўляў, так і належыць.

Толькі мы пад’язджаем, у гэты момант уся калёна – там. Яна ўжо спынілася, шыхтуюцца салдаты. Стаіць машына Кешкурны (як ні дзіўна, яго ж спынілі, відавочна – праверылі дакуманты, і ён пасьпеў прыехаць, ён апярэдзіў нас).

Калі мы абмяркоўвалі з калегамі нашыя дзеяньні, мы прадумалі і такія дэталі – як мы павінны адпаведна выглядаць. Гэта значыць, павінны быць жалобныя навязкі на руках (бел-чырвона-белыя з чорнай стужкай) і павінен быць сьцяг. Яшчэ мы запрасілі нашых калег, каб прышлі да Дома літаратара, каб яны прысутнічалі там з самага ранку (а ня толькі тады, калі была афіцыйна абвешчана грамадзянская паніхіда, а з самага пачатку). І вось мы прышлі і бачым: стаяць нашыя людзі. Мы з Сяргеем Пятровічам вышлі, вынесьлі сьцяг, надзелі навязкі (мы і яшчэ два нашыя калегі). Якраз салдаты, выносяць труну. Мы такім карэ ўзялі сьцяг (чатыры чалавекі, кожны ўзяў за рог сьцяга, і калі салдаты вынесьлі труну і панесьлі, мы (чатыры чалавекі) пайшлі са сьцягам сьледам за труной. На парозе нас сустрэў палкоўнік – камэндант Менскага гарнізону – (потым я ўвесь дзень зь ім кантактаваў). Мы прайшлі ў залю, падняліся наверх. Салдаты сталі ўстанаўліваць труну на пастамэнт. Мы накрылі труну сьцягам.

***Сяргей Папкоў:*** – Труна яшчэ накрыта крышкай. Як толькі яны паставілі труну, мы адразу ўрачыста накрылі яе сьцягам. Чатыры чалавекі: Юры Беленькі, Сяргей Папкоў, Уладзімер Юхо і Ўладзімер Плотнікаў. Прысутнічаў генэрал Чаргінец.

***Юры Беленькі:*** – Тут падыходзіць гэты Чаргінец, сьледам ідуць розныя спадары (Кешкурна, Янукевіч, іншыя людзі) без сьцяга, без навязак. І тут мы чуем лямант. Чаргінец робіць адпаведны жэст рукой і загадвае гэтак салдафоніста: „Уберите!"

Тады я яму кажу вельмі цьвёрда: „Гэта воля баявога афіцэра – накрыць нацыянальным сьцягам!"

А там, акрамя яго, прысутнічалі яшчэ іншыя афіцэры (падпалкоўнік, здаецца, капітан, ніжэйшыя званьні афіцэраў) і салдаты.

Сын Быкава (я яго разумею) маўчыць. Тады раптам спадар Чаргінец дае загад падначаленым (я як былы афіцэр, служыў у арміі, ведаю, што такое загад): „Уберите!" І тут жа да нас: „Освободите помещение!"

Я яму кажу так: „Мы выконваем волю нябожчыка, і ганаровая варта тут застанецца!"

Ён у адказ: „Мы не таму, што вы тут непажаданыя, а таму, што нам трэба упарадкаваць труну, усё паставіць на месца."

Я кажу: „Добра, выконвайце свае абавязкі, але ганаровая варта тут будзе (мінімум – два чалавекі застануцца).

Ён усяроўна: „Вызваліце памяшканьне!" І дае каманду: „Товарищи офицеры, выконвайце загад!"

Я тады зьвяртаюся да калег і кажу яму: „Нас дваіх пакіне памяшканьне, але два чалавекі тут будуць. Заставайцеся." І мы дваіх сыходзім. Засталіся Сяргей Пятровіч Папкоў і Віктар Рабушка. Але перад гэтым быў маленькі эпізод (я прапусьціў). Калі Чаргінец стаў так наступаць, тут раптам зьяўляецца Кешкурна і пачынае крычаць на сына Быкава, крычаць, літаральна: „А вы што маўчыце!"

Сын Быкава нeяк так... Я разумею, я свайго бацьку хаваў. Уяўляю, калі б на мяне хто крычаў на пахаваньні бацькі, каля ягонай труны, нехта збоку – гэта недапушчальна пры любых абставінах. Дзікунства. А ён стаў крычаць. Сын Быкава прамаўчаў. Я тады падыходжу і спакойна цьвёрда кажу Кешкурну: „Супакойцеся!"

***Сяргей Папкоў:*** – Так, так.

***Юры Беленькі:*** – „Супакойцеся, – кажу, – усё будзе так, як належыць, супакойцеся!"

Той, праўда, супакоіўся. Я кажу: „Усе выходзім, у залі застаюцца Сяргей Папкоў і Віктар Рабушка."

Мы вышлі з залі, вышаў і Кешкурна, і ён тут пачаў дэманстратыўна сваіх калег, якія зь ім прышлі, разносіць: „А вы чаму без сьцяга прышлі! А дзе вашыя павязкі! І г.д. (і гучна так). Гэта ўжо калі мы вышлі з залі ў фае.

***Сяргей Папкоў:*** – Калі калегі вышлі, нас таксама на сцэну ўжо не пусьцілі, там салдаты былі. Але мы зь Віктарам з павязкамі сталі пасьля першага раду і назіраем. Яны пачалі ўпарадкаваць і зьбіраюцца зьняць крышку. Зньць крышку – значыць зьняць і сьцяг. Сьцяг пачынаюць здымаць, я жорстка кажу: „Сьцяг не чапаць!"

Тады ў іх такая разгубленасьць, і яны кажуць: „Крышку трэба зьняць".

„Так, трэба зьняць, можаце зьняць", кажам мы. Тады падыходзіць Скобла бярэ і акуратна згортвае сьцяг: у адну рэдзь, другую, у чатыры рэдзі склаў яго і так трымае. Салдаты зьнялі крышку. Скобла тут у разгубленасьці, але на нас паглядзеў, бачыць, што мы назіраем і заявім пра ўсе дзеяньні, відаць, улічыў гэта і так павольна разгортвае і тады накрываюць. (Скобла накрываў, здаецца, з сынам Быкава. Яны разгарнулі і накрылі. Ў нас тут ужо палёгка такая ў душы. Аж тут уносяць лукашысцкі сьцяг і ставяць, за труной ля галавы, аддаюць варце, і кажуць: трэба ўжо малебен, трэба запрашаць сьвятароў. Прышлі сьвятары, хор уніяцкі зайшоў і там былі нашыя сябры (жанчыны).

***Зянон Пазьняк:*** – Вы яго арганізавалі?

***Сяргей Папкоў:*** – Не.

***Юры Беленькі:*** – Мы толькі далі інфармацыю. Прышлі былі сьвятары трох канфэсіяў і трох канфэсіяў служылі службу.

***Сяргей Папкоў:*** – Але ва ўніяцкай царкве там проста нашыя людзі, там шмат нашых сяброў партыі, і сярод іхнага хору былі нашыя жанчыны. Сьвятары рыхтуюцца (а тут ужо каля сьцяны стаяць вянкі (дзесьці 6-7 вянкоў, сярод іх тры нашыя). Сьвятары кажуць: „Трэба пакласьці вянкі." Мы бярэм нашы вянкі і там (хто яшчэ з пісьменьнікаў быў) бяруць астатнія, і мы ставім вянкі. Пасьля таго, як мы паставілі вянкі, пачалася служба. Вось служба адбылася, пасьля службы ўносяць вянок Лукашэнкі, ставяць, варта становіцца іхняя, салдаты. (На вянку напісана па-руску, што ад Лукашэнкі.) Тут ужо ўдава прышла, Ірына Міхайлаўна, і яна загадвае прыбраць гэты сьцяг, чырвона-зялё-

ны, савецкі. Гэта яе загад такі. Тут Чаргінцу нічога не застаецца – яна катэгарычна ставіць гэта пытаньне. І лукашысцкі сьцяг выдаляюць (воля ўдавы і воля нябошчыка).

І тады такая сітуацыя. Лукашысты бачаць, што сьцяг выдалены, Чаргінец пабег, відаць, кудысьці патэлефанаваў, і адчуваецца – зьмена становішча. Каравул здымаецца, толькі гэбісты, што ахоўвалі савецкі сьцяг, застаюцца яшчэ тут, каля труны. Мы з Рабушкам (калі выдалілі лукашысцкі сьцяг) зайшлі на сцэну і сталі каля труны як варта.

І пачалі заходзіць людзі. Зайшлі маладыя, здаецца, з партыі „Свабода" і таксама сталі. Людзі пачалі несьці вянкі, кветкі, і маладыя ўзялі адзін зь вянкоў і накрылі лукашысцкі вянок, каб яго было ня бачна. Але ён вялікі, а там такі праход для людзей – паміж краем сцэны і труной. І гэты вянок, паколькі ён наперадзе і вялікі, то ён перашкаджаў людзям ісьці. Тут падскочылі гэбісты і кажуць: трэба раскрыць. Мы гаворым (і я тут стаю): „Будзе нармальна так." Але яны: „Не, перашкаджае людзям". Тады я хлопцам кажу: „Давайце так, гэты вялікі перастаўце, а вазьміце меншы, ён усяроўна закрые, але ня будзе так перашкаджаць."

Бяруць – большы ўбок, а меншы ставяць і закрываюць таксама. Я адыходжу тады ўжо. Пашлі патроху людзі. Тут падыходзіць да мяне Бураўкін:

– Сяргей, трэба ж ісьці на кампраміс, адкрыйце вы, здыміце гэты вянок, адкрыйце лукашэнкаўскі, няхай ён будзе.

– Генадзь, – кажу я, – ну ты што, я такое буду рабіць? Ты што, не разумееш усяго? Вельмі ж добра ўсё зроблена.

– Ай, ты не разумееш, усё ж паламаецца, трэба йсьці на кампраміс!

– Нічога, – кажу я. – Я нічога рабіць ня буду. Хлопцы паставілі, і яны правільна зрабілі.

І тут людзі пайшлі, засыпалі ўсё кветкамі, заклалі, нічога не было й бачна. І як толькі людзі пайшлі, там стаяў Уладзімер Юхо. Ён кажа: „У мяне сьцяг вялікі, наш, франтаўскі."

Я кажу: „Давай, станавіся там, дзе быў гэты лукашысцкі, станавіся туды ля галавы і разгортвай сьцяг.

***Зянон Пазьняк:*** – Я бачыў фатаграфію, што ў галовах стаіць Уладзімер Юхо з нашым сьцягам.

***Сяргей Папкоў:*** – Так. Пачалася працэсія. Спакойна ўсё адбывалася, велічна, вельмі шмат людзей было.

***Юры Беленькі:*** – Я вяртаюся да таго моманту калі труну вынесьлі з катафалку (калі прывезьлі з моргу). Мы сталі ў карэ са сьцягам. На супрацьлеглым баку вуліцы стаяла вялікая група міліцыянтаў, відаць, і КГБ было, стаяў Бяляцкі, здымаў усё на відэа-камэру. Думаю, што гэты момант (як мы, сьледам за труной, нясем сьцяг) ён зьняў. Але потым падышоў да мяне Вераб'ёў Пётар Іванавіч (адзін зь міліцэйскіх начальнікаў Упраўленьня аховы грамадзкага парадку Менгарвыканкама) і сказаў:

– Давайце такім чынам супольна арганізуем тут ахову гэтага мерапрыемства.

– Вашая дапамога нам, практычна, непатрэбная, мінімум які, – кажу я.

– Не, усяроўна нашых два чалавекі ў цывільным будуць прысутнічаць, – адказвае ён.

– Добра, хай прысутнічаюць, а нашы будуць стаяць тут.

Акрамя таго, я пастаянна кантактаваў з палкоўнікам, начальнікам гарнізона. Ён таксама некалькі разоў (разы тры) да мяне зьвяртаўся і ўсё казаў, што „ну трэба ж дастаць лукашэнкаўскі гэты вянок", трэба ж, маўляў, паважаць як прэзыдэнта.

– Разумееце, такая сітуацыя зараз – ніхто не падыме, – кажу я. Тады ён:

– Ну тады калі пойдзе працэсія несьці вянкі, то хаця б тады.

– Добра, – кажу я, – калі людзі панясуць, але на першым месцы, яго канешне, ня выставяць. Дзесьці ўсярэдзіне хіба – то можа быць.

Але потым, як аказалася, людзі не захацелі яго несьці, ніхто не захацеў узяць яго ў рукі, гэты вянок. (А палкоўнік зноў некалькі разоў да мяне падыходзіў.) І яшчэ ён сказаў цікавую рэч, якая, сапраўды, вельмі паказальная. Мы дамовіліся, што вось ў столькі будзем адчыняць дзьверы для людзей, а ён і кажа:

– Ведаеце, у вас тут стаяць толькі два чалавекі, а ўжо людзей вельмі шмат сабралася. Жыцьцё ёсьць жыцьцё, шмат ужо пахаваньняў я правёў і не апошнія праводжу. Магу вам сказаць, што вы проста ня справіцеся, бо будуць людзі перці.

Вось тут я хачу сказаць, наколькі я быў уражаны. Незадоўга да гэтага (колькі там часу прайшло) я быў на пахаваньні Уладзімера Мулявіна. Сапраўды, перлі. І п'яныя былі, і спрабавалі наперад. Было вельмі шмат супрацоўнікаў міліцыі (і ў форме, і бяз формы), проста груба адштурхоўвалі, хто лез, як на відовішча.

Тут жа (магу засьведчыць) ніводнага чалавека не было, хто б нахабна штурхаўся і лез. Стаялі людзі спакойна і сьцішана ў чарзе, прычым вельмі паважаныя, я шмат каго пазнаваў. І ніхто не зрабіў спробы заскочыць наперад. Потым, калі ўжо стала зразумела, што такая колькасьць людзей ніколі ня пройдзе такую чаргу, падыйшлі да мяне людзі (у тым ліку і маладыя там былі) і казалі: „Ну што рабіць? Мы ўжо паведамляем."

Я кажу: „Вы правільна робіце." І людзям (гэтай велізарнай чарзе) сказалі, што разьвітаньне будзе да пэўнай гадзіны, потым будзе паніхіда, а затым будзем выносіць."

***Зянон Пазьняк:*** – Значыцца, на пахаваньне Быкава прышлі людзі іншай культуры. На пахаваньне Мулявіна йшлі людзі адной культуры, а тут – іншай.

***Юры Беленькі:*** – Цалкам іншай. На пахаваньні Мулявіна стаялі музыканты, нясло перагарам, слэнг паўблатны чуўся. Тут – зусім іншае. Увесь гэты вопыт, досьвед палкоўніка, – ён абваліўся, аказаўся непатрэбным. Мне нават расказвалі: тыя, „у цывільным", што былі ў залі, каля ўваходу, ёрнічалі, маўляў, усё сканчаецца, і ўсё надзвычай добра, можа, што-небудзь такое ім (гэта значыць нам) зрабіць. Гэта былі гэбісты ў цывільным, і ня толькі. Аднаго зь іх я пазнаў. Ён у званьні старшага лейтэнанта 25 жніўня 2002 года быў сярод тых, хто нас хапаў на плошчы Якуба Коласа, калі мы прышлі ўскладаць кветкі. Ён кіраўнік атраду АМОНа. Ён такога выгляду, падобны на азіяцкага чалавека, відаць, што не беларус. Я яго пазнаў. Ён жа прысутнічаў і на пахаваньні Мулявіна. Можа быць, гэта з асабістай аховы Лукашэнкі, бо калі я быў на пахаваньні Мулявіна, праходзіў Лукашэнка (так атрымалася) – то ён стаяў у гэтым калідоры. А Вераб'ёў і палкоўнік падышлі да мяне і пыталіся, як будзе, дакуль панясуць цела Быкава (маўляў, толькі да плошчы Якуба Коласа). Я адказаў, што ўсё будзе залежыць, колькі будзе людзей. Яны як бы з гэтым пагаджаліся.

Потым яны ж, прадстаўнікі рэжыму, і рабілі розныя правакацыі, цынічна і гнюсна. Кожны бачыў. З рацыяў іхных неслася: „Што вы, ня можаце арганізаваць паток машын, бярыце трошкі ўправа! Што вас вучыць?.." І гэты капітан заскочыў у катафалк і загадваў міліцыянту, калі нашыя людзі сталі перад катафалкам.

***Зянон Пазьняк:*** – А чаго ён ускочыў у катафалк?

***Юры Беленькі:*** – Ён ускочыў у катафалк і прымушаў кіроўцу вывернуць з натоўпу людзей, з калёны на сустрэчную паласу і ехаць, адарвацца ад людзей на пахаваньні. А людзі сталі ў карэ вакол і кіроўца сказаў: „Куды ж я на людзей паеду? Што вы?"

Я ўвесь час ішоў побач з труной, то я чуў, як зь міліцэйскіх рацыяў неслася цынічна, у павучальным тоне: „Ну что, мне вас учить, как вам делать? Сделайте вид, что вы перестраиваетесь, а потом резко уйдите, на Калинина, влево.»

Я калі такое пачуў, падышоў да людзей і кажу: „Тут вельмі шчыльна стойце, на Калініна будуць рабіць правакацыю." І людзі паслухаліся, сталі вельмі шчыльна вакол аўтобуса. Мы заўважылі таксама, што далей, калі падыйшлі да Валгаградзкай, яны ўсё спрабавалі неяк вывернуць катафалк і адарвацца ад гэтай велізарнай колькасьці людзей. Але ім не атрымалася гэта зрабіць, і людзі прайшлі да могілак. Ведаеце, Гасподзь Бог усё ўстроіў.

***Зянон Пазьняк:*** – Што значыць „вывернуць катафалк?" „Вывернуць" жа можа толькі чалавек, які сядзіць за рулём?

***Юры Беленькі:*** – Так, кіроўца так і сказаў: „Я што, на людзей паеду?" А вакол жа стаялі людзі.

***Зянон Пазьняк:*** – Гэта быў іхны кіроўца?

***Сяргей Папкоў:*** – Не, ня іхны.

***Зянон Пазьняк:*** – Дык яны яму загадвалі вывернуць?

***Юры Беленькі:*** – Сітуацыя такая: капітан міліцыі сядзеў у аўтобусе і ўвесь час псіхалягічна ціснуў на кіроўцу (той капітан, што ўскочыў у аўтобус). Дарэчы, цікавы момант. Яшчэ перад паніхідай мяне за руку спыніў нехта (ня памятаю, хто), можа Трусаў. І стаяла Ірына Міхайлаў-



*63. Беларусы разьвітваюцца з Васілём Быкавым. 2003 г.*

на, удава. Яна была ў вельмі нэрвовым стане. Ёй нехта даў такую інфармацыю, што, маўляў, раз выкінулі лукашэнкаўскі сьцяг, то зараз яны ўсё забіраюць, і нават катафалк, і пахаваньне ўвогуле зрываецца. Яна была вельмі ўсхваляваная. А перад гэтым была дэлегацыя Эўразьвязу, і мяне заранёў папярэдзіў прадстаўнік нямецкай амбасады (супрацоўнік, наш грамадзянін), ён перадаў такую просьбу, каб я (як адзін з арганізатараў пахаваньня) арганізаваў „калідор" праходу для іх. Яны, сапраўды, прайшлі тады. І да мяне зьвярнуўся Фойцік (часова паверааны, прадстаўнік Чэхіі ў Беларусі) ад імя гэтай дэлегацыі, папрасіў даць інфармацыю, што і як. Я сказаў, што ёсьць такая небясьпека з катафалкам і г.д. Ён сказаў: „Я даю вам гарантыю ад імя прысутных тут дыпляматаў, і пра гэта не хвалюйцеся. Мы ўсё зробім, каб усё было выканана, і катафалк быў, і ўсё астатняе."

Потым я назад вярнуўся і гэта сказаў Ірыне Міхайлаўне. І яшчэ зь нямецкай амбасады перадалі ліст спачуваньня ў капэрце. Я, як пацьверджаньне, дастаю гэтую капэрту і кажу: „Вось, я мушу Вам сказаць, што такое дыпляматы сказалі, Вы не павінны турбавацца, і вось спачуваньне ад нямецкага амбасадара."

Яна імгненна супакоілася, як ад чароўнай палачкі нейкай: то чалавек відавочна вельмі хваляваўся, а тут адразу супакоіўся.

І пасьля таго (я ўжо зноў вяртаюся да працэсіі) былі подлыя правакацыі. Напрыклад, выскоквалі на сустрэчную паласу, стваралі патокі сустрэчнага транспарту, каб людзі злаваліся. („Создавайте поток транспорта!", „Перегораживайте!" – чулася ў міліцэйскіх рацыях.) Яны не давалі машынам вывернуць, спэцыяльна стваралі патокі транспарту, корак, каб у людзей была злосьць, каб узьнікала агрэсія ў кіроўцаў. Адзін кагэбэшнік выскачыў на сустрэчную паласу перад транспартам і, як паяц нейкі, стаў скакаць (маўляў, давайце, сігнальце), у прыскокі пайшоў, як усяроўна на вясельлі. Я да яго падыйшоў і кажу: „Супакойцеся! Гэта ёсьць

пахаваньне.” Ён зразумеў імгненна і змоўк, відаць, адчуў, што тут жартаў ня будзе.

Вось такія правакацыі былі. Але й кіроўцы, я паглядзеў, многія адносіліся са спачуваньнем, сігналілі. Тое, што сказаў потым расейскі пісьменьнік Чараднічэнка: „Ведаеце, я адчуў ня столькі пахаваньне, я адчуў сьвята свабодных людзей.”

Але цікава, калі мы падышлі да брамы могілак, атрымалася так, што як бы Гасподзь спрыяў. У гэтай брамцы сталі людзі і засьпявалі „Магутны Божа”. Стварылася рэха, акустыка, і гэта так моцна загучала, калі працэсія прайшла, то сапраўды, праводзілі Васіля Ўладзімеравіча, як належыць.

***Зянон Пазьняк:*** – Растлумачце яшчэ выпадак у пачатку. Калі труна яшчэ стаяла ў Саюзе пісьменьнікаў і калі Чаргінец паляцеў там некаму званіць, на якім этапе адышла гэтая рэжымная каманда, якая хацела сама правесьці пахаваньне?

***Сяргей Папкоў:*** – Калі зьнялі лукашысцкі сьцяг, (калі Ірына Міхайлаўна загадала зьняць), калі мы паставілі свае вянкі, калі Беларускі Сьцяг паставілі, тут яны адразу пачалі зьнікаць.

***Зянон Пазьняк:*** – Як гэта адбылося, моўчкі завярнуліся і пайшлі?

***Сяргей Папкоў:*** – Не, сказалі пра гэта. Праўда, я ня чуў. Але адразу пайшла гаворка, што афіцыйная камісія зьняла з сябе паўнамоцтвы.

***Юры Беленькі:*** – Так. Але Чаргінец не пакінуў Дом літаратара, ён яшчэ прысутнічаў. Ён адышоўся, і там на сцэне, за кулісамі, знаходзіўся, ён там стаяў, я бачыў. Знэрваваны быў, псіхаваны такі, яго ажно калаціла, але ён там прысутнічаў.

Але яны ўсё ж нашкодзілі. Грамадзянская паніхіда павінна была трансьлявацца на вуліцу. Дык улады зьнялі і забралі радыё-апаратуру. Яны сказалі, што яе ўстанавіла Міністэрства сувязі, а паколькі камісія ўлады здымае з сябе абавязкі, то яны адключылі й гэтую апаратуру.

***Зянон Пазьняк:*** – Аддавайце мае цацкі я болей з вамі не гуляю...

***Юры Беленькі:*** – Так. І тады вельмі добра спрацавалі нашыя калегі, пэрсанальна Сяргей Пятровіч. Я яго тады папрасіў: „Сяргей Пятровіч, тут жа побач (мэтраў 200 ад Дома літаратара) Генадзь Быкаў.” І Сяргей Пятровіч бягом туды.

***Сяргей Папкоў:*** – Я Ўладзімера Юхо паслаў, але той не зарыентаваўся, мог ісьці доўга. Я бягом да Быкава (Свабодны прафсаюз Беларусі). Быкаў быў на месцы. Я кажу: „Давай, Генадзь, апаратуру, хуценька.”

Ён тут жа даў загад (там быў якраз адзін работнік, які гэтай апаратурай валодае і заўсёды ўключае). Але там шмат гэтай апаратуры, прышлося бегчы яшчэ, браць хлапцоў. Хуценька ўзялі, арганізавалі, прынесьлі, знайшлі, дзе падключыць, вынесьлі калонкі, усё падключылі, кабеляў хапіла – усё добра. Пачатак самы крышку толькі не зачапілі, а так усё астатняе трансьлявалі. Таму людзі ведалі, калі закончыцца гэтае разьвітаньне грамадзкае, спакойна стаялі.

***Зянон Пазьняк:*** – Цяпер раскажыце яшчэ аб самой паніхідзе. Хто выступаў, хто вёў гэтыя выступленьні, калі труна была ў зале.

***Юры Беленькі:*** – Я магу сказаць, што калі труна стаяла на сцэне і адбывалася разьвітаньне, Алесь Пашкевіч сабраў людзей, якія павінны былі па ходу як бы па ідэі стварыць грамадзкую камісію ці штосьці падобнае, ці проста нараду людзей, якія б маглі спрычыніцца ці параду даць. Я зайшоў у залю гэтую, і якраз там ішло абмеркаваньне, хто будзе казаць словы на гэтым разьвітаньні. Я адразу сходу сказаў: „Вы ведаеце, што Васіль Уладзімеравіч быў адным з заснавальнікаў Фронту, быў у Сойме, быў сябрам Партыі БНФ, вы ведаеце, якія былі адносіны, якое было стаўленьне нябожчыка да Зянона Пазьняка і наадварот. То канешна, трэба абавязкова, каб прагучаў спачувальны ліст ад Зянона Пазьняка.”

А ўжо перад гэтым было вызначана, што будзе весьці грамадзянскую паніхіду Алесь Пашкевіч. Алесь Пашкевіч неяк замоўк, але падняўся Рыгор Барадулін і сказаў: „Канешне, трэба, каб ліст ад Зянона быў абавязкова зачытаны.”

Тады Пашкевіч кажа: „Ну, тады я ня ведаю, тады, можа, вы, спадар Беленькі, і зачытайце.” Я кажу: „Добра, я зачытаю гэты ліст.”

Сцэнар быў пабудаваны так, што спачатку будуць зачытаныя спачувальныя тэлеграмы ад Лукашэнкі й Пуціна, потым ад пісьменьніцкай Рады Ўкраіны, Расеі, а потым будзе дадзена слова нашым беларусам, у тым ліку і мне. Калі пачалася паніхіда, я з лістом спадара Пазьняка падышоў бліжэй да сцэны, але адбылося ня так, як дамаўляліся. Пашкевіч сказаў, што паступілі тэлеграмы

ад вялікай колькасьці людзей з розных краінаў, ад прэзыдэнта Расеі, Беларусі, прышоў спачувальны ліст ад Зянона Пазьняка. І тады даў слова, па-мойму, прадстаўніку ўкраінскай дэлегацыі. Потым было яшчэ некалькі выступоўцаў. Мне слова ён ня даў.

Калі паніхіда скончылася, усё пайшло так, як павінна быць: вынесьлі труну і панесьлі (пра што я расказваў). Алесь Пашкевіч паступіў, я б сказаў...

***Зянон Пазьняк:*** – Прафэсійна. Як было на могілках, калі ўжо несьлі труну і загучэў гімн „Магутны Божа”?

***Юры Беленькі:*** – Словы Зянона Пазьняка яны так і не далі зачытаць. І на могілках таксама. Адзінае, што ў самым пачатку ўзгадалі, што прышлі тэлеграмы ад прэзыдэнта Пуціна, прэзыдэнта Лукашэнкі і Зянона Пазьняка. Яны нас падманулі, бо раней казалі, што слова Пазьняка будзе зачытана. Зразумела, што ад каго-ад каго, а ад Зянона Пазьняка, канешне, ліст павінен быў быць зачытаны. Перад магілай гэта зрабіць было немагчыма, таму што адразу яны (Пашкевіч) вызначылі кола выступоўцаў.

А ў мяне яшчэ былі такія функцыі: я быў пастаянна побач з сям’ёй Васіля Ўладзімеравіча. Калі мы прайшлі ўжо пэўны шлях, я спытаў у сына Быкава: „Сяргей Уладзімеравіч, як мы панясем, дакуль?” Ён кажа: „Катафалк будзе каля „Сталічнага” і данясём толькі туды. Бо, – кажа, – некаторыя проста фізічна ня пройдуць гэты шлях”.

Ён ў першую чаргу паказаў на сястру Васіля Ўладзімеравіча, спадарыню Валянціну, якая вельмі дрэнна сябе адчувала. Яна б не прайшла.

Калі паклалі труну ў катафалк, я некаторым нашым сябрам сказаў станавіцца ў рад, каб ніхто пад колы не патрапіў. Я агучыў тое, *каб ніхто не патрапіў пад колы.* Тут жа нейкія маладзёны (хлопцы, дзеўкі, я іх ня ведаю) узяліся ў гэтае карэ, сталі перад машынай. Прычым так дынамічна ўзяліся за рукі. Малайцы, схапілі на ляту. І потым яшчэ далучалі да сябе людзей, усё больш, больш абрастала гэтае карэ. Імгненна зразумелі, што да чаго, і не выпускалі гэты аўтобус. (Да нашых жа, як да жырафаў, ледзь даходзіць). Мяне аж калаціла. Адзін, напрыклад, яшчэ ў спартыўных штанах прышоў. Былі такія выдаткі...

Я ўжо казаў, было некалькі спробаў „выруліць”, але гэтая моладзь – малайцы. Я ня ведаю, хто гэтыя людзі былі, ім вялікая падзяка.

***Зянон Пазьняк:*** – Галоўнае, што хуценька зразумелі. Бо яны сэрцам жывуць. Тыя, што разумеюць з паўслова, гэта, як у той прымаўцы: разумныя шмат не гавораць. Людзі, якія ведаюць, што яны любяць, – разумеюць, што трэба рабіць.

***Юры Беленькі:*** – Ад Дома літаратараў труну данесьлі да сярэдзіны плошчы Якуба Коласа, там паклалі ў катафалк, і далей катафалк ехаў павольна, як людзі ідуць.

***Сяргей Папкоў:*** – Ехаў сярод людзей. Людзі йшлі, а катафалк ехаў паволі. Наперадзе несьлі вянкі, кветкі, потым „карэ”, катафалк, а ззаду таксама людзі. А ўжо сястра Васіля Ўладзімеравіча, жонка ехалі ў катафалку.

***Юры Беленькі:*** – Дарэчы, тым сьцягам, што я прынёс з сабой, мы накрылі Васіля Ўладзімеравіча, паклалі ў труну, а другі сьцяг (які быў зьверху, на крышцы труны) – я забраў як пэўны рарытэт. Там яшчэ гучэлі малітвы, кароткія словы разьвітаньня. Сястры Васіля Ўладзімеравіча, Валянціне, стала кепска. Тут жа была хуткая, аказалі ёй дапамогу. (Потым мы ад лекараў даведаліся, што ў яе ціск, практычна, быў ледзь ні на нулі, нейкі рэзкі спад. Яе, фактычна, ратавалі ад сьмерці там, на могілках.)

Потым я пасадзіў яе ў машыну і адвёз у Дом літаратара. Па дарозе яна расказвала, як ён ваяваў, як быў паранены. Дарэчы, я зьвярнуў увагу, Васіль Уладзімеравіч у сваёй кнізе больш неяк спакойна так расказвае. А вось як яна расказвала (як ён ужо ёй распавядаў) – наколькі гэта ўсё ж страх быў, тады, калі яго паранілі. Я думаю, зараз (калі б была магчымасьць) усё ж такі ўзяць, і запісаць яе ўспаміны, як Васіль Уладзімеравіч ёй расказваў.

Яна скардзілася яшчэ пра адно. У яе, па-мойму, катаракта на вачах. Вось кажа: „Трэба апэрацыю рабіць. Калі брат быў жывы, то ён абяцаў. Цяпер хто ж мне дапаможа?”

Жанчына вельмі-вельмі сьціпла была апранута. І сапраўды варта было б, каб хтосьці з нашых людзей дапамог гэтай жанчыне. Мы павінны пра гэта паклапаціцца.

***Зянон Пазьняк:*** – Колькі было людзей на пахаваньні?



*64. Пахаваньне Быкава на Ўсходніх могілках у Менску.*

***Юры Беленькі:*** – Я магу сказаць так: хвост гэтай чаргі ад Дома літаратара ішоў да плошчы Перамогі і закручваўся на Захарава. І гэта ня тое, што людзі стаялі, яны ж рухаліся. Мы яшчэ на гадзіну падоўжылі разьвітаньне (можа Пашкевіч таму і псіхаваў) – я ўжо на сябе адказнасьць гэтую ўзяў і сказаў гэтаму начальству, што мы на гадзіну пераносім усё (хаця я зь імі ні з кім не ўзгадняў) – на гадзіну пазьней будзе разьвітаньне. І ўсё, і яно як пайшло, то й пайшло, усё на гадзіну пазьней. Амбасадарам сам сказаў, што на гадзіну зьмясьцілі. Вынас труны падоўжылі на гадзіну, і разьвітаньне людзей было на гадзіну падоўжана. І ніхто ня змог адмяніць. Яно як бы ўжо было прынята, усе загаварылі: так, так, так.

***Зянон Пазьняк:*** – Ну дык раз да цябе ўжо міліцыя падыходзіла і ўзгадняла, і гэбэ, то яны прызналі, хто кіруе.

***Юры Беленькі:*** – Але яшчэ быў момант, Тацьцяна Цяцёркіна і Шылава расказвалі. Яны наперадзе несьлі вянок ад Зянона Пазьняка. Дык з гэтай партыі вінцуковай падскоквалі мужчыны, спрабавалі локцямі выштурхнуць іх. Ім бакі намялі добра гэтыя „мужчыны", але ня выштурхнулі (здаецца „мужчын" прагналі). Некаму не хацелася каб наперадзе гэтай працэсіі несьлі вянок Зянона Пазьняка.

***Сяргей Папкоў:*** – Аднаго з гэтых тыпаў мы ведаем дакладна, ён калісьці быў у Фронце ў Каліноўскай Радзе.

***Зянон Пазьняк:*** – На праезжую частку яны не выскоквалі?

***Юры Беленькі:*** – Не, гэта там іншы скакаў.

***Валеры Буйвал:*** – Трэба сказаць таксама, што тыя, хто стаяў падчас паніхіды разьвітаньня там, на могілках, каля магілы, заўважылі нейкую мітусьню (не сярод тых грамадзянаў, што прышлі разьвітацца, а сярод дзяжурнага гэб'я). Яны там бегалі ў сваіх касьцюмах, штосьці мітусіліся і нешта лётала паміж соснамі. Аказалася, што людзі, якія стаялі бліжэй да труны, да месца, дзе выступалі асобы, што разьвітваліся, падхапілі лукашэн-

каўскі вянок і шпурнулі яго праз галовы. І далей наступныя таксама падхапілі і пачалі буцаць яго, куляць, і ён палацеў недзе далёка прэч. Гэта тое гэб'ё бегала там, лавіла яго.

***Зянон Пазьняк:*** – Але, бач ты, інстынкт службістаў спрацоўвае.

***Сяргей Папкоў:*** – Справа ў тым, што ў калёне гэты вянок ня несьлі. Яго ніхто ня ўзяў, па-першае, а па-другое, гэбісты яго там, ў Доме літаратара, падабралі і прывезьлі. Але яны спазьніліся, ужо стаяла шмат людзей, і яны ніяк не маглі прайсьці да магілы. Гэта нашы жанчыны расказвалі (Ангеліна Масюта), што яны прасіліся: „Ну вы ж прапусьціце, гэты ж вянок таксама трэба, бо нам будзе пакараньне." Што ім, маўляў, будзе „наганяй", дык каб іх прапусьцілі. Потым некаторыя зжаліліся, і тыя паставілі. А затым яго ўжо шпурнулі.

***Зянон Пазьняк:*** – Гэтая гісторыя зь вянком чамусьці нагадала мне знакаміты фільм Абуладзэ – „Пакаяньне". Там грузінская зямля не прымала памерлага здрадніка і мярзотніка, выкідвала яго з свайго ўлоньня. Тут фальшывы вянок няшчырага чалавека, які пры жыцьці вялікага пісьменьніка зьдзекваўся, зьневажаў яго, гэты вянок стыхійна не прыняў народ, а, значыцца, не прыняў Быкаў. Вянок узурпатара ў гэтай гісторыі выступае як вобраз, як сымвалізацыя ягонага даўцы у дачыненьнях з народным сумленьнем.

Пахаваньне Быкава выразна паказала, што такое антыбеларускі рэжым. Нічога сьвятога. Нічога ня цэніцца, што ёсьць нам дарагое, што ёсьць зьместам нашага беларускага існаваньня. Чужасьць, нянавісьць, і фальш. Вось так яны ваююць зь Беларусяй. Вайна да магілы. І нават апошні шлях Быкава – гэта быў для яго апошні бой, прарыў з боем да вечнага супачынку праз варожыя сілы.

Дзякую вам, сябры, што вы ўратавалі аблічча нацыі, гонар і памяць нашага генія, што адагналі цемру нішчыцеляў, што гэтак па-людзку адбылося народнае пахаваньне вялікага сына Беларусі.

***Запісала і да друку падрыхтавала***
***Галіна Пазьняк***

*(Запіс 6 сьнежня 2003 г.)*

# ЖЫЦЬЦЁ Ў СССР

*(З цыклу „Беларусь пад акупацыяй”)*

## БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯЦІНСТВА

Дзівосная пара майго дзяцінства прайшла на Лагойшчыне. Майго бацьку, Палачаніна Фёдара Сьцяпанавіча, кожныя год-два перакідвалі зь вёскі ў вёску дырэктарам школы – пасьля вайны доўга яшчэ не хапала „кадраў”.

Найлепш памятаю вёску Крэмянец, дзе ў 1959 годзе я пайшла ў школу, і вёску Моладзі, якая знаходзілася ўсяго за 10 кілёмэтраў ад Лагойску, але электрычнасьці ў вёсцы яшчэ не было (1960-62 гг.), і я рыхтавалася да заняткаў пры сьвятле керасінавай лямпы.

Мне было ўжо гадоў дзесяць, і мы з мамай у нядзелю калі-нікалі хадзілі ў Лагойск на кірмаш. Аўтобусы тады ніякія не хадзілі, „папуткі” у нядзелю здараліся рэдка, і мы ішлі пехатой 10 *км* туды і 10 *км* назад, несучы яшчэ і „куплёнае”.

У маім дзяцінстве вялікую ролю адыгрывала радыё. Некаторыя радыё-казкі, радыё-пастаноўкі памятаю дагэтуль. Тэлебачаньня на вёсцы яшчэ не было, але мы не былі абдзеленыя. Радыё было зьмястоўным і цікавым, і мы з задавальненьнем слухалі любімыя перадачы. Радыё ўплывала на нас, дзяцей, і сапраўды выхоўвала.

* * *

Заняткі ў пачатковай вясковай школе праходзілі не асобна для кожнага кляса, а былі спараныя. У адным пакоі адначасна вучыліся дзеці 1-га і 3-га клясаў, у другім за чорнымі партамі сядзелі вучні 2-га і 4-га клясаў. Дзяцей рассаджвалі па два бакі пакоя. З аднаго боку сядзелі першаклясьнікі, з другога – трэцьцяклясьнікі; зьлева другі кляс, справа – чацьверты.

Лекцыя дзялілася на дзьве часткі. Спачатку настаўніца працавала з адной паловай вучняў (напрыклад, 4-ы кляс, матэматыка): правярала хатняе заданьне, тлумачыла. Другая ж частка (2-гі кляс) выконвала пісьмовыя заданьні (родная мова, маляваньне і г.д.). З паловы лекцыі „дэкарацыі” мяняліся. Настаўніца працавала ўжо з 2-м клясам, а 4-клясьнікі выконвалі пісьмовыя заданьні.



65. 1956 год.



66. Школьны ўзрост.

Сёньня здаецца, што ў такіх умовах ніякага „працэсу адукацыі” быць ня можа. А вось жа было! І дзеці слухаліся настаўнікаў, і вучыліся. Ня памятаю, каб былі нейкія вялікія праблемы з „паводзінамі” вучняў на занятках. Ды і сама пасада настаўніка на вёсцы была ў вялікай пашане. „Вучоны чалавек” – казалі пра яго. Слова настаўніка было для бацькоў законам. Ды і самы вясковыя настаўнікі былі добрымі і сардэчнымі. Засталася ў памяці з тых далёкіх вясковых часоў нейкая агульная настаўніцкая дабрыня, чаго ўжо не магу сказаць пра гарадзкую (менскую) школу і яе настаўнікаў, дзе я вучылася з 1962 года.

Мілая сэрцу беларуская вёска. І Моладзі, што на Лагойшчыне, і Ліпск на

Бягомельшчыне. Гэта ўсё маё, роднае, беларускае. Мая памяць захоўвае басаногае дзяцінства і сьцюдзёную мякаць роднай верасьнёўскай зямлі, чырвонае сонца над зімовымі вечаровымі хатамі, хваёвы лес, сон-траву, грыбы (смарчкі, рыжыкі, баравікі), суніцы, чарніцы ды брусьніцы, якіх так шмат было ў нашых багатых беларускіх лясах.

Усім лепшым, што ёсьць у маёй душы, я абавязана маме і табе, беларуская прырода. Люблю нашыя лясы, палі, сенажаці, сады і агароды, усю вясковую жыўнасьць (коней, каровак, гусей, курэй ды качак). Усё гэта любіла мама і перадавала мне гэтую сваю любоў, шкадуючы кожную зламаную галінку, радуючыся вясёлцы і дажджу, краскам у полі і знойдзенаму баравіку ў лесе.

Увогуле, мне здаецца, што добрае сэрца можна ўзгадаваць толькі на вёсцы, сярод усяго нашага прыроднага багацьця, хараства і людзкой дабрыні. Добры, гарманічны, не разбэшчаны чалавек можа ўзрасьці толькі сярод прыроды, на вёсцы. Горад абавязкова чаго-небудзь не дадасьць.

Мая мама (Маргарыта Ермалаеўна), настаўніца старэйшых клясаў, выкладала беларускую, рускую і нават нямецкую мовы (не хапала спэцыялістаў). Бацька быў дырэктарам школы, але выкладаў яшчэ матэматыку, гісторыю, геаграфію і нават маляваньне.

На сьвяты ў клюбе адбываліся канцэрты настаўніцкай (і вясковай) мастацкай самадзейнасьці. Сьпявалі беларускія песьні, чыталі вершы, ставіліся спэктаклі. І хоць рэпэртуар быў у асноўным свой, беларускі (а як жа ж), відаць, нейкі працэнт „рускага” быў абавязковым. З гэтых канцэртаў памятаю, як мама чытала са сцэны „Рускі характар” А. Талстога.

Аднаго разу канцэрт вёў дырэктар школы і аб’явіў байку Крылова „Дзям’янава вуха” (бо хто там чуў калі рускае слова „уха” з націскам на „а”). Некалі гэта выклікала ў мяне сьмех. А зараз я думаю, што ніякай бяды, што дырэктар ня ведаў таго Крылова, не было. Ён добра ведаў сваё, беларускае, і шмат чаго яшчэ. А гэта, на маю думку, значна лепш, чым ведаць чужое, ня ведаючы свайго.

Так склалася, што ў 1962 годзе мы з мамай вырашылі пераехаць у Менск, і пачалося зусім іншае жыцьцё.

Каб пераехаць у горад, патрэбна была прапіска, атрымаць якую ў міліцыі было немагчыма. Мама мусіла знайсьці сям’ю „сваякоў”, у якой было б „лішніх” *12 м²* жыльля.

За савецкім часам мінімум квадратнай „карыснай” (значыць, „жылой”) плошчы жыльля на чалавека ў Менску быў *6 м²* (у некаторых раёнах яшчэ менш). Калі сям’я з трох чалавек жыла ў кватэры, скажам, *18,06 м²*, то *0,06 м²* былі „лішняй плошчай”, і стаць на кватэрную чаргу на „расшырэньне” было немагчыма. Толькі калі, скажам, нараджалася 2-е дзіця, сям’я ўпісвалася ў 10-15-гадовую чаргу чаканьня. Так і жылі-мучыліся бяспраўныя людзі. Рынку нерухомасьці ў СССР не існавала, і таму купіць ці пабудаваць кватэру ў горадзе было немагчыма.

Маме пашанцавала. Знайшлася сям’я (адна з тысячы) ў прыватным доме, у якой аказалася „лішняя плошча” і якая пагадзілася яе прапісаць. На гэта патрэбны былі грошы. І мама прадала сваё адзінае кітайскае паліто (новае, яшчэ з этыкеткай). Я моцна перажывала і плакала, бо паліто маме вельмі пасавала, яна ў ім была такая стройная і прыгожая.

Удваіх з мамай мы пераехалі ў Менск, знайшлі маленькую кватэру ў добрых людзей у прыватным доме на вуліцы Брылеўскай. Наш пакойчык быў вельмі малы. У ім стаяў аднаспальны жалезны ложак (на якім мы спалі з мамай удваіх, падставіўшы дзьве табурэткі) і стол. Але гаспадары былі вельмі добрыя. Мы сталі блізкімі сябрамі, і гэтае сяброўства доўжыцца ўжо 43 гады. Нават дачка носіць імя нашай добрай гаспадыні цёці Надзі (Нівядовіч), надзвычай сардэчнай і шчырай.

Бліжэйшая ад нас школа (№1) знаходзілася на вуліцы Чкалава. Туды я і пайшла вучыцца ў 4 кляс з пачатку навучальнага году. Мама ж ўладкавалася на працу выхавацельніцай ў „спэц” школу-інтэрнат №8 для дзяцей з запозьненым разумовым разьвіцьцём. Прыроджаны філёляг, яна ахвяравалася любімай працай (выкладаньня мовы і літаратуры) і пайшла працаваць выхавацелькай з „цяжкімі” дзецьмі. Трэба было выжываць, а ў такіх „спэц” навучальных установах зарплата на 25 адсоткаў была вышэй, чым у агульнаадукацыйных.

Увогуле, інтэрнаты-васьмігодкі тады былі агульнаадукацыйныя (для дзяцей з малазабясьпечаных ці няпоўных сем'яў) і спэцыялізаваныя („спэц"), з пэўным ухілам (мастацкім, матэматычным і г.д.). Існавалі яшчэ „спэц" інтэрнаты для дзяцей з фізічнымі і разумовымі адхіленьнямі („разумова адсталыя" дзеці). У апошнія накіроўвала спэцыяльная педагагічная камісія.



*67. Мама Маргарыта Ермалаеўна настаўніца. 1953 г.*

Паколькі сярод педагагічных чыноўнікаў, якія „засядалі" ў такіх камісіях, часьцей траплялі раўнадушныя служкі камуністычнага рэжыму, разьмеркаваньне дзяцей у „спэц" інтэрнат нярэдка адбывалася па фармальных паказчыках. „Двоечнік", „другагоднік", „дрэнны па паводзінах" – значыць „недаразьвіты". Пад агульны грэбень пападалі і дзеці запушчаныя, недагледжаныя, з так званых „праблемных" сем'яў і г.д. (Бацькі алькаголікі, напрыклад, і не пратэставалі такому рашэньню „камісіі".)

Так недагледжаныя (але зусім „нармальныя") дзеці запісваліся дарослымі „пэдагогамі" ў „недаразьвітыя". Некаторыя зь іх былі так званымі „выхаванцамі вуліцы", бацькі якіх былі пазбаўленыя бацькоўскіх правоў.

У такія інтэрнаты нярэдка траплялі і дзеці, якія перахварэлі поліэмілітам і ў выніку хваробы – з рознымі фізічнымі недахопамі.

Усе гэтыя дзеці (разам з сапраўды разумова адсталымі) вучыліся па вельмі спрошчанай праграме (некаторыя прадметы, як алгебра, фізіка, хімія, замежная мова і т.п.) не выкладаліся. Асноўная ўвага – працоўнае выхаваньне. А такая спрошчаная праграма патрэбна была толькі частцы дзяцей. Інтэлектуальна дзеці тут амаль не разьвіваліся.

Мама заўсёды, калі ў яе інтэрнат па недагляду псэўдапедагогаў траплялі „нармальныя" дзеці, вельмі шкадавала іх, цяжка перажывала і актыўна супраціўлялася на ўсялякую несправядлівасьць, ня раз спрабавала дамагчыся перагляду „справы" некаторых сваіх выхаванцаў, якія трапілі ў інтэрнат для „адсталых" дзяцей. Але яе перажываньні школьную адміністрацыю звычайна не цікавілі. (На педагагічныя пасады, як правіла, траплялі людзі паслухмяныя начальству зьверху.) Якая магла быць крытыка школьнага кіраўніцтва ў савецкія часы?! Пры саветах начальства „не памылялася" – так было ўсюды, тым больш у закасьцянелай савецкімі догмамі школе. І калі дзіця па недагляду трапляла ў такую ўстанову, вырваць яго адтуль, практычна, было немагчыма: „начальнікі" свае рашэньні не адмянялі. Пры камуністах усё ў школе (ды і ва ўсёй адукацыі) было падпарадкавана выхаваньню „сапраўднага будаўніка камунізму" (а зусім не „гарманічнага чалавека", як дэклявалася).

Шэрасьць, раўнадушша і падпарадкаваньне „агульнай статэгіі" – асноўныя рысы савецкай школы. Выключэньні былі, але яны не адмянялі „правілы". Трапляліся і добрыя настаўнікі, але начальнікі адукацыі, прайшоўшы сіта на адданасьць „кампартыі" – не.

Мама і была такім выключэньнем. Яна старалася разьвіваць эстэтычна сваіх выхаванцаў: вазіла іх на экскурсіі, ці ў парк (на прыроду), бясконца прыдумвала і расказвала ім розныя „гісторыі", уплываючы на ўяўленьні дзяцей. Яна казала мне, што гэтыя дзеці, якія б яны ні былі, вырастуць і пойдуць у жыцьцё. Яны будуць жыць побач з намі, і зараз ад нас залежыць, каб будучае нашае агульнае (грамадзкае) жыцьцё было добрым, каб злых людзей было як мага меней.

Жылося цяжка. Мама з раніцы да позьняга вечара была на працы, бывалі і начныя дзяжурствы. Пасьля школы я ішла да яе ў інтэрнат, і мама дзяліла свой „службовы" абед са мной, аддаючы большую частку мне.

Калі-нікалі я абедала ў рабочай сталоўцы (на вуліцы Чкалава, побач з мастом). Там у 60-я гады на сталах заўсёды стаяў хлеб, соль і гарчы-

ца – ужо з голаду не памрэш. Суп каштаваў 6-11 капеек, катлета з гарнірам 33 капейкі і кампот 5 капеек. Вось я і камбінавала з тых 50-ці капеек, што давала мама на абед, каб „выкраіць" на якія-небудзь прысмакі (цукеркі „падушачкі" – 10 капеек за 100 грам і г.д.).

Каб купіць нейкую адзежу, існавалі ня толькі крамы з новым адзеньнем, а яшчэ камісійныя і так званыя „скупкі". У камісійных былі рэчы лепшыя, але даражэйшыя. Таму доўгі час мы апраналіся ў самай таннай краме – „скупцы". Мама пазнаёмілася з прадаўшчыцай, і яна пакідала нам больш-менш добрыя рэчы коштам да 10 рублёў (некаторыя з тых рэчаў я памятаю дагэтуль).

Жылі бедна. Але не ад гэтага шчыміць сэрца. Былі кнігі, вершы, сябры, былі мары пра лепшую (і багацейшую) будучыню, якія падтрымлівала і разьвівала ў маёй дзіцячай душы мама.

У канцы месяца (перад мамінай зарплатай) амаль ніколі не заставалася грошай. Тады мама казала мне: „Не сумуй, дачушка, у нас яшчэ мільёны незаробленых грошай!" I калі гэта была нядзеля, яна пазычала рублёў 10, мы ішлі ў тэатр, кіно, у парк. I нам было добра.

Зусім іншае – была менская школа. Успамінаючы яе, у мяне дагэтуль непрыемна сьціскаецца душа. Я хадзіла ў школу, як на пакуту. Пасьля маёй вясковай школы, да якой я мела давер і вучылася добра і з ахвотай, менская школа падалася мне нечым жудасным. Мой „деревенский акцент" (гэта значыць – беларуская мова) выклікаў раздражэньне гарадзкіх настаўнікаў, асабліва настаўніцы рускай мовы, якая мела найбольшы ўплыў і вагу, бо рускай мовы і літаратуры было 8 гадзінаў на тыдзень, беларускай жа – толькі тры. З гэтай настаўніцай прыходзілася сутыкацца кожны дзень. Я адчувала яе дрэнныя адносіны, нярэдка гублялася. Калі яна павышала голас, я наогул не магла вымавіць і слова. Таму ў школьным маім дзёньніку пачалі зьяўляцца тлустыя „двойкі".

Каб іх ня ўбачыла мама, пасьля школы я хавалася за бярвеньні і дровы, якія ляжалі ў двары прыватнага дома, дзе мы жылі (ў доме было пячное атапленьне) і чакала, пакуль мама пойдзе ў інтэрнат на працу. Потым я выдзірала з дзёньніка старонку з „двойкай" – і ўсё да пары было ціха.



***68. Сельская школа, дзе бацька быў дырэктарам. Зьлева сядзяць маці і бацька (50-я гг.).***

Праз паўтары гады за вёскай Пятроўшчына (што на поўдні ад Менску), у полі пабудавалі дзьве новыя школы-інтэрнаты (агульнаадукацыйную і „спэц") і дом для настаўнікаў. Маме выдзелілі службовую аднапакаёўку (значыць, жывеш, пакуль працуеш на гэтай працы). Туды пусьцілі гарадзкі аўтобус №41, які курсаваў адзін на маршруце, бо абслугоўваў, фактычна, адзіны трохпавярховы дом для настаўнікаў. Пераехалі мы зімой, і да канца навучальнага году я езьдзіла ў школу №1 на аўтобусе, каб скончыць 5-й кляс. Так я ака-

залася адарваная і ад горада, і ад роднай вёскі, дзе было шмат сяброў-аднагодкаў.

У сваёй новай „гарадзкой" кватэры мы з мамай спачатку спалі на падлозе на нашай вясковай пярыне. Але гэта быў наш дом, і мы былі шчасьлівыя. Паступова куплялася мэбля ў крэдыт (інакш нешта набыць у дом мы не маглі: „лішніх" самых мінімальных грошай, каб нешта купіць, не было ніколі).

Паўднёвая частка Менска (вул. Уманская) шчыльна падбіралася да вёскі Пятроўшчына, якая была ўжо менш за кілёмэтр ад горада. Зусім побач зь вялікім горадам беларусы жылі сялянскім жыцьцём, мелі сваю гаспадарку, кароў-сьвіньней. Яшчэ некалькі год мы куплялі ў іх каровіна малачко.

Вёска Пятроўшчына цягнулася ўпоперак вузкай старой „берасьцейскай" дарогі (ці „Дзяржынскай шашы"), якая перад Менскам „пераразала" Пятроўшчыну. Пазьней (да алімпіяды-80) пабудавалі новую дарогу, а старая (ўздоўж могілак) паступова зьнікла. (Сучаснай аўтазапраўкі таксама яшчэ не было.)

З аднаго боку дарогі за вёскай былі могілкі і поле. На другім баку ад шашы – была гарадзкая звалка (зараз на яе месцы стаіць мікра-раён „Паўднёвы Захад"). У полі (дзе зараз 9-ы гарадзкі шпіталь і прыбудовы), у паўкілёмэтры ад шашы – якраз і стаялі гэтыя тры дамы: інтэрнаты і настаўніцкі дом. Летам на полі каласілася жыта. Ад інтэрнатаў пад простым вуглом (адносна шашы) ішла дарожка на аўтобус. Удзень (каб не чакаць аўтобуса) ў горад ісьці можна было пешшу, напрасткі, па сьцежцы ў жыце, праз Пятроўшчыну. Ідучы па гэтай сьцежцы, я зноў адчувала сябе ўдома, на вёсцы, на Лагойшчыне...

Канцовы прыпынак 41-га гарадзкога аўтобуса знаходзіўся наўзбоч шашы. Аўтобус хадзіў вельмі рэдка, як папала, без раскладу. У „коле" ён звычайна стаяў хвілінаў 10.

Бывала, бяжыш ад інтэрната на прыпынак, каб пасьпець – і не пасьпееш. Аўтобус амаль перад самым носам „заводзіцца" і зьнікае. Тады ўжо трэба чакаць ня менш гадзіны, калі гэты аўтобус вернецца назад.

Як жа залез „у пячонкі" мне гэты „сорак першы" зь вечнымі чаканьнямі па 40-60 хвілінаў! Аднаго разу мне прысьніўся сон, што па нейкай новай дарозе (!) ідзе тралейбус, а на месцы звалкі – шматпавярховыя дамы. Я прачнулася з адчуваньнем шчасьця, але праз хвіліну-другую толькі хмыкнула, бо не магла паверыць, што такое калі-небудзь можа стацца, і я змагу дабірацца дамоў, не чакаючы на прыпынку адзінага „41-га" па гадзіне. Але праз нейкіх 5-8 гадоў тут пачалася будоўля, вырас вялікі раён, куды сталі хадзіць тралейбусы.

Зь дзяцей у нашым доме была толькі Вера і яе старэйшы брат Гена. Яны былі не тутэйшыя. Маці Веры, Тевризова Нина Григорьевна, была руская, з-пад Казані, але яе муж, зь якім яна пазнаёмілася на вайне, быў беларус зь Менску. У яго быў прыватны дом на Грушаўцы. І хоць маці Веры пасьля вайны разьвялася з мужам, пасьля яго сьмерці яна з двума дзецьмі з-пад Казані пераехала ў Менск. Пераехаць і прапісацца ў Менску для іх сталася магчымым, бо дзеці мелі правы на частку дома памерлага бацькі, а пераехалі яны (як потым расказвалі) ў Беларусь, бо сярод працавітых беларусаў жылося лепш і ніхто не галадаў (у параўнаньні Расеяй, зь яе „хранічнай галоднай хваробай").

Вера была старэйшая за мяне на два гады, і для яе гэтая розьніца была істотнай, таму лічыла сябе ў дружбе больш „важнай". Быць „меншай" мне было ня надта камфортна, а часам крыўдна, але, акрамя Веры, дружыць мне не было зь кім. Пасьля заняткаў у гарадзкой школе я ехала ў сваю „Пятроўшчыну" (хвілінаў 40 на аўтобусе).

Уставаць прыходзілася вельмі рана, каб за гадзіну да заняткаў ужо стаяць на прыпынку аўтобуса. Бывала выйдзем мы зь Верай з дому ў завею, пройдзем за агароджаную тэрыторыю інтэрнатаў у поле, і так ня хочацца ісьці на аўтобус у ненавісную школу. Глянем адна на другую і, не згаворваючыся, задаволеныя паварочваем бягом дадому. (Маўляў, мамы ўсяроўна ў інтэрнаце на дзяжурстве. Прыдуць – скажам, што з-за завеі аўтобус не хадзіў.)

У нас дома заўсёды былі кнігі. Аднаго разу я кажу Веры: „Давай вернемся дадому. У нас ёсьць кніжка нейкага Мапасана. Мама мне забараніла яе чытаць. Пакуль яе няма, давай пачытаем.

Ну чыталі мы, чыталі, і ніяк не маглі зразумець, чаму яе нельга чытаць. Так ішлі мае школьныя гады.

* * *

У шкльным вучэбным пляне савецкай школы была графа „паводзіны". Такім чынам кожны вучань быў ацэнены клясным кіраўніком. Як правіла, здольныя вучні былі альбо паслухмянымі (з „пяцёркай" па паводзінах) альбо „непаседы", „парушальнікі дысцыпліны". Настаўнікі такіх не любілі, бо яны прыносілі „клопаты". „Паслухмяных", як правіла, не любілі дзеці, сьмяяліся зь іх і былі радыя, калі ў „выдатнікаў" здараліся непрыемнасьці ў школе.

Ня лепшая сітуацыя была і з так званымі „цяжкімі" ці „дрэннымі" вучнямі (гэта значыць, менш здольнымі). Калі тыя ня слухалі, „круціліся" на занятках, нечага ня ведалі, настаўнікі нярэдка іх зьняважалі (называлі „дурак", „придурак", „идиот" і г.д.), крычалі, выганялі з кляса. Потым гэтыя „дуракі" выраслалі і, як узор, несьлі антыкультуру сваіх настаўнікаў у жыцьцё. Гэта было зачараванае кола. (Дарэчы, і ў інстытуце будучых настаўнікаў вычылі прафесіі. Што тычыцца самога „вобліку" настаўніка як чалавека, то гэтаму не вучылі. Праўда, быў прадмет „савецкая педагогіка" – які прадмет, такая і навука для студэнта-педагога.)

Сістэма выхаваньня і адукацыі была сьціраваная на тое, каб школьнікі адпавядалі нейкаму штучнаму агульнаму стандарту. Але ў школе, аднак, вельмі шмат залежыла ад індывідуальнасьці настаўніка. Акрамя таго, пасьля заняткаў школьнікі усё ж былі вольнымі. А вось тыя, што былі ў „інтэрнаце", гэтай волі ня мелі.

* * *

Наш „настаўніцкі" службовы дом стаяў якраз паміж двума інтэрнатамі. Наша кватэра была на трэцім паверсе і вокны выходзілі на стадыён мамінага інтэрната. У суботу пасьля заняткаў дзяцей забіралі дадому бацькі, у інтэрнаце ж заставаліся дзеці, у якіх бацькоў не было ці яны былі пазбаўлены бацькоўскіх правоў. Калі набліжаўся абед, з будынку інтэрната выбягаў дзяжурны „выхавацель" і крычаў: „Сіроты, абедаць!" Гэтае „сіроты, абедаць" уражвала мяне, 11-гадовую дзяўчынку, але не дарослых „пэдагогаў". Мама заўсёды абуралася такімі адносінамі і вельмі шкадавала гэтых абдзеленых дзяцей, але, зразумела, зьмяніць нічога не магла.

З „сіротамі" на выхадныя заўсёды заставаўся дзяжурны выхавацель. (Гэта была як бы дадатковая праца, па жаданьню.) У выхадныя плацілі, здаецца паўтары стаўкі. А вось у сьвяты плацілі двайны аклад. Мама заўсёды старалася запісацца працаваць на выхадныя, а вось на сьвяты ёй гэта не ўдавалася амаль ніколі. Памятаю, парторг Марыя Сямёнаўна гаварыла маме: „У сьвяты працуюць толькі камуністы. Ты, Маргарыта, не камуніст, дык і ня лезь." Мама спрабавала запярэчыць, але што можна было даказаць партогру – нічога.

Усё гэтае жыцьцё было для нас з мамай чужым. Але мы не засяроджваліся на цяжкасьцях. У мамы была мэта жыцьця – каб я скончыла школу, паступіла ў інстытут і скончыла яго, бо без адукацыі яна не ўяўляла майго нармальнага дарослага існаваньня. А радасьці жыцьця мы шукалі самы. У вольны час мама рэгулярна вадзіла мяне ў тэатр, асабліва любіла ў Опэрны. Так зь дзяцінства я палюбіла „храм мастацтва".

Летам мы з мамай езьдзілі на вёску, у лес. Мама вельмі любіла зьбіраць ягады-грыбы і заўсёды зьвяртала маю ўвагу на прыгажосьць лесу, узгорка, на прывабнасьць суніцаў у траве, на дзівосны „голас" леса, на ягоны шум і цішыню, на гойданьне дрэваў над нашымі галовамі, на сонечныя праменьні скрозь сосны – і я прыглядалася і прыслухоўвалася. Так паступова ў маю істоту ўваходзілі тыя каштоўнасьці, якія мне старанна прывівала мама. І потым, калі я ўжо стала дарослай, у які б іншы лес я ні трапляла – ці то на Лепельшчыне, ці то на Бягомельшчыне, ці Горадзеншчыне – у мяне заўсёды было адчуваньне свайго, лагойскага лесу і краявіду, і я са зьдзіўленнем думала: „Вось жа першы раз я тут, а як бы даўно ведаю гэтыя мясьціны, яны мне мілыя і – мае". І радвалася гэтым сваім думкам.

На Беларусі так было заўсёды ў любым „незнаёмым" „новым" месцы. А вось за мяжой маёй Беларусі такога адчуваньня ўжо не бывала ніколі. Наадворот, ловіш сябе на думцы: „Усё такое ж: і трава, і краскі, і сьцяжынка, і дрэвы,

Калі ж страцім незалежнасьць і гаспадарыць у нашым родным доме стане расеяц і кожны чужак, то што гэта будзе за жыцьцё? Так і будуць беларусы хадзіць з увогнутымі шыямі, пакуль ня вымруць. І гэта нашчадкі Вялікага Княства!?

Усё гэта я вельмі добра ўсьвядоміла за мяжой. У чужой краіне ты госьць. Ёю распараджаюцца яе гаспадары – і гэта справядліва. Але тут, за мяжой, я востра адчуваю сваю Бацькаўшчыну, якую вымушана была пакінуць, шчымліва разумею і ведаю, што ў мяне ёсьць мая зямля, народ, свой дом, свой лад жыцьця, свой вобраз думаньня і мэнтальнасьць. Гэтага нельга страціць. І каб гэта нам заўсёды было, я б магла (мне здаецца) ахвяравацца нават жыцьцём.



*69. Студэнцтва. Сьпяваньне песьні.*

а – не маё. Усё гэта прыгожа, а сэрца ня грэе. Душэўнага яднаньня з „чужой" прыродай чамусьці не адбываецца. Чужая прыгожая прырода як бы сама па сабе, а я – сама па сабе. Чаму так адбываецца? Ня ведаю. Пэўна, тут ёсьць нейкая Боская таямніца.

Здараліся і мінуты забыцьця. Глядзіш так на зялёную траву і кветкі і здаецца – ты на радзіме. А потым раптам пачуеш голас за вакном на чужой мове – і вяртаешся ў рэальнасьць.

І ўспамінаеш простых вясковых жанчын у гумовых ботах, якія ідуць па журавіны ў балоты, і зайздросьціш іхнаму шчасьцю зьбіраць сёньня свае ягады на вечнай сваёй зямлі. А потым думаеш, ці ж вечнай, бо голас рускага акупанта зноў скрыпіць недалёка. А мы, даверлівыя беларусы, нават не зьвяртаем увагі, як ён падбіраецца пад наша быцьцё.

У сваім вольным доме-радзіме мы зможам паправіць і палепшыць усё, што нас не задавальняе.

## СТУДЭНЦТВА ПАД САВЕТАМІ

Пасьля сканчэньня сярэдняй школы я вырашыла паступаць на філялягічны факультэт і падала дакуманты ў Менскі педагагічны інстытут. Конкурс на ўступных экзаменах на філфак ў 1969 годзе тут быў вялікі (10 ці болей чалавек на месца). Мы здавалі два пісьмовыя экзамены (2 сачыненьні па беларускай і рускай літаратурах), вусны экзамен па мове і літаратуры адначасна (абітурыенты выбіралі толькі, вусны „беларускі" ці „рускі" экзамен) і гісторыю БССР.

На першы курс было 50 месцаў (дзьве групы). Як жа „запаўняліся" гэтыя месцы?

У Савецкім Саюзе, быў распаўсюджаны так званы „блат". Ён існаваў усюды. Дамагчыся нейкіх посьпехаў тады ў кар'еры, у вучобе, у працы і г.д. можна было, ня маючы ніякіх здольнасьцяў: дастаткова было „мець блат" (так казалі) – гэта значыць дамагчыся нечага па знаёмству. („Блатнымі", як правіла, былі дзеці намэнклятуры і ўсялякага начальства). Яны і займалі пэўную частку студэнцкіх месцаў.

Была яшчэ квота на сельскую мясцовасьць, г. зн. студэнтаў з „сельскай мясцовасьці" (менаві-

та такі быў тэрмін). Іх набіралі па-за конкурсам, дастаткова было не атрымаць „2” на ўступных экзаменах. „Прахадны” бал для астатніх абітурыентаў такім чынам узрастаў (на той год на філфаку ён складаў 18 балаў: дзьве „пяцёркі” і дзьве „чацьвёркі”). За сачыненьне на ўступных экзаменах, звычайна, „пяцёрак” ня ставілі. Лічылася, што „ненавучаны” абітурыент (маўляў, ён жа не пісьменьнік) напісаць сачыненьне на „5” ня можа – такая была „устаноўка”.

Пасьля таго, як набор быў скончаны і групы былі набраныя, наступаў час так званага „пяціадсоткавага” набору, які дадаваўся да асноўнага, бо за пяць гадоў навучаньня ў інстытуце прыкладна 5 адсоткаў студэнтаў адлічвалі за непасьпяховасьць. „ У гэтыя „пяць адсоткаў” ўваходзілі тыя, каму да „прахаднога балу” трошкі не хапіла. (Я трапіла якраз у гэтыя „адсоткі”).

Шмат якія студэнты на філялягічным факультэце педінстытута мелі слабое „агульне разьвіцьцё”, асабліва так званыя „блатныя”. Тое ж можна сказаць і пра студэнтаў, якія скончылі савецкую вясковую школу, дзе настаўнікі ў тыя часы не заўсёды мелі вышэйшую адукацыю (а толькі спэцыяльную), кніг жа, мастацкай літаратуры і г.д. на вёсках не хапала.

Трэба сказаць, вясковыя студэнты нядрэнна здавалі экзамены, бо старанна зубрылі. Іхны ж агульны ўзровень (дзякуючы такой шкалярскай сістэме навучаньня) за 5 гадоў студэнцтва, на жаль, павысіўся ня шмат. „Блатныя” ж у працэсе экзаменацыйных сэсіяў нярэдка „адсейваліся” – выключаліся за няздачу экзаменаў. Так за 5 гадоў на нашым факультэце было адлічана 8 чалавк.

Маё студэнцтва пачалося з „бульбы.” У Савецкім саюзе студэнтаў ВНУ у верасьні пасылалі на месяц ў калгасы зьбіраць ураджай бульбы. Паколькі я стала студэнткай Педагагічнага інстытуту ямя Максіма Танка (тады – імя М. Горкага), то 1-га верасьня 1969 г. прышла не ў аўдыторыю, а на плошчу Незалежнасьці (тады пл. Леніна), куды з калгасаў прыслалі грузавікі з высокімі бартамі. Нас, студэнтаў, загрузілі ў кузаў і павезьлі ў вёску ў „падшэфны” Халопініцкі раён. Разьмеркавалі па сялянскіх хатах (за тое сялянам „калгас даваў” сена ці яшчэ што).

Паколькі ніякага пэдагога з намі не паслалі, брыгадзір глянуў на нас і чамусьці прызначыў мяне „старэйшай”. (Пазьней, як пачаліся заняткі, „старэйшай” у студэнцкай групе – г. зн. старасту групы – ужо прызначаў дэканат, і такое прызначэньне не магло стацца выпадковым: выбар старасты быў па пэўных (вядомых) крытэрыях, пад якія я не падыходзіла. Студэнцкая еднасьць, дружба, пачуцьцё сяброўскага пляча (што характэрна для студэнтаў у Беларусі) былі для мяне найважнейшымі, і таму маё разуменьне гонару было несумяшчальным з абавязкамі старасты, якія вельмі нагадвалі абавязкі даношчыка. Стараста, напрыклад, павінен быў весьці журнал наведваньня лекцый студэнтамі. За тры прапушчаныя лекцыі – за 6 акадэмічных гадзінаў – без даведкі ад лекара здымалі стыпендыю. Лекцыі нярэдка былі страшэнна не цікавымі, папросту тупымі, я ніяк не магла вытрымаць такі гвалт над сваёй асобай, і, каб не марнаваць час, папросту зьбягала з усялякага там „навуковага камунізму” і іншых „ізмаў” і неяк умудралася пры гэтым, каб стараста не заўважыла.)

На калгасную кватэру, куды нас разьмеркавалі з сяброўкай Тамарай Бондал, прывезьлі прадукты на ўсіх 25 студэнтаў і сказалі: „Дзялі”. Нейкі час мы з Томай стаялі перад тым паў-кабана, вялізным кавалкам масла (кілаграмаў 15-20) і іншымі прадуктамі ў разгубленасьці. Як разьдзяліць на роўных 25 частак таго паў-кабана і тое масла – праблема. Але ў маладосьці ўсё вырашаецца лягчэй. Намучыліся, але падзялілі тое мяса-масла, як і ўсё іншае.

Наша гаспадыня ўставала ў 4 гадзіны раніцы, паліла печ. Мы з Тамарай мусілі уставаць па чарзе разам зь ёй, бо іншага спосабу згатаваць што-небудзь для сябе не было (ніякага газу ў той вёсцы не было – толькі печ). Не было тут ні тэлевізара, ні кіно. Таму пасьля працы мы мыліся, вячэралі і ў 20 гадзінаў кладліся спаць.

У 4 раніцы па чарзе хадзілі па ваду да агульнага калодзежа. Неяк пагрозьліва шалясьцелі асіны над галавой, як бы папярэджваючы, што лета скончылася, хутка маразы, так што „ніякіх жартаў”. Чамусьці запомніліся менавіта гэтыя ранішнія „асінавыя папярэджаньні”. Тады я толькі прыслухоўвалася да гэтага „голасу лістоў” над



***70. Студэнцтва – 2. Сяброўства.***

галавой, назірала і любавалася. Ніякай трывогі, ня гледзячы на ўсё гэтае асінавае стараньне, не было. Але потым, амаль праз 30 год, на чужыне, калі я чула шэлест чужых „замежных” дрэў, ад якіх трывожна сьціскалася душа і хацелася плакаць, я заўсёды ўспамінала тыя нашыя халопініцкія асіны...

Працавалі мы на полі цэлы месяц. Станавіліся ў баразну і зьбіралі бульбу ўручную, вёдрамі. Поўнае вядро высыпалі ў кубел грузавіка. І так цэлы дзень з перапынкам на абед. Балелі сьпіны. Калі ж у канцы месяца з нас вылічылі за харчаваньне, то за працу мы атрымалі рублёў па 8-10 і невялікую торбу бульбы. Гэта (пры сярэдняй зарплаце 200-250 рублёў у БССР) быў надзвычай малы заробак, але такі быў „савецкі лад жыцьця”, і ў студэнтаў не пыталіся, згодныя мы на тое, ці не.

Так было кожны год, акрамя апошняга 5-га курса. (Але на „сельгасработы” ў СССР пасылалі ня толькі студэнтаў. Розныя НДІ, нават прадпрыемствы таксама ўключаліся ў „бітву за ўраджай”.)

У апошні дзень месяца нас зноў загружалі ў грузавік і адвозілі, адкуль прывезьлі.

У кастрычніку пачаліся заняткі. Наш філялагічны факультэт быў „шырокага профілю” – беларуска-рускі (у дакумантах, дарэчы, усюды пісалі „руска-беларускі). Але адукацыю па-беларуску ўсе 5 год мы атрымоўвалі толькі па спэцыяльнасьці (мова і літаратура). Усё астатняе выкладалася па-расейску.

Здавалася б, што „астатняе”? Другая палова прафэсіі – расейская мова і літаратура (якая ў інстытуце, дарэчы, лічылася „вышэйшай” у параўнаньні з роднай, беларускай). На справе было інакш. Па-першае, вучэбныя гадзіны на роднай мове займалі бадай ці ні адну дзясятую частку вучэбнага пляну. І гэта на філфаку! На іншых факультэтах (фізіка, матэматыка і г.д.) беларуская мова ўвогуле не гучэла. Антычная літаратура, лёгіка, тэорыя літаратуры, методыка выкладаньня літаратуры і мовы і г.д. – выкладаліся па-руску. Толькі „Уводзіны ў літаратуразнаўства” чытаў па-беларуску нябожчык прафэсар М. А. Лазарук. Гэта ўсё, што тычылася „прафэсіі”.

Акрамя таго, усе 5 гадоў вучобы нас проста „напампоўвалі” камуністычнай ідэалёгіяй. І якімі б ненавіснымі ні былі для нас гэтыя псэўданавукі, зда-

ваць экзамены трэба было. На першым курсе гэта была „гісторыя КПСС", на другім – „дыялектычны матэрыялізм", на 3-м – „гістарычны матэрыялізм", потым „навуковы камунізм", „атэізм", „марксісцка-ленінская (!) этыка" і „марксісцка-ленінская (!) эстэтыка" і г.д. Усяго і ня ўспомніш. Усё гэта чыталася 2 разы на тыдзень па дзьве акадэмічныя гадзіны (па столькі ж, як і лекцыяў па мове). Былі яшчэ і сэмінары. Да гэтых „сэмінараў" трэба было ня толькі чытаць усялякую камуністычную хлусьню (бо выклікалі „да дошкі", як у школе), але і канспэктаваць працы Маркса-Энгельса-Леніна. На 1-м курсе я ўзялася была прачытаць „Сьвятое сямейства" Маркса, дык гэты „твор" адразу адбіў у мяне ахвоту чытаць, і тым больш канспэктаваць „першакрыніцы марксісцка-ленінскай філязофіі". Але ж па наяўнасьці такіх канспэктаў ставіўся „залік", без якога не дапускалі да экзаменацыйнай сэсіі. Каб студэнты не выкарыстоўвалі чужыя канспэкты, выкладчыкі ставілі свой подпіс у канспэктах тых, хто здаваў залік.

Ну дык нездарма кажуць: беларусы – народ кемлівы. Мы з сяброўкай заўсёды ўмелі прыдумаць якія-небудзь спосабы і „залік" здавалі па чужому канспэкту (якія пісалі паслухмяныя „зубрылы").

У дадатак да прафэсійнай адукацыі, чатыры гады у нас выкладалася так званая „медыцына" з дзяржаўным экзаменам (!) у канцы 4-га курса. Усе студэнткі-гуманітары мусілі атрымаць найперш дыплём „медсястры запаса" (гэта значыць, на выпадак вайны). Потым нас ставілі на ваенны ўлік, выдавалі ваенны білет. (Праз некалькі год пасьля заканчэньня інстытута мяне выклікалі на так званыя „ваенныя зборы", якія праходзілі ў 9-м гарадзкім клінічным шпіталі.)

Самае сьмешнае, што гэты наш „дыплём" медсястры ў медыцынскай галіне права на працу не даваў (бо разьлічаны быў толькі на выпадак вайны). Так вось 4 гады па 2 лекцыі на тыдзень марнаваўся наш дарагі час (сюды ўваходзілі абавязковыя дзяжурствы ў шпіталях, за якія таксама трэба было атрымаць „залік").

Асабліва ненавісныя для мяне былі заняткі па „грамадзянскай абароне" (цэлы семестар!). Вёў заняткі стары і вельмі тупы генэрал савецкай арміі. Ён проста адурыў нам галовы сваімі „зарынамі", „заманамі", „супрацьгазамі" і ўсялякімі трэніроўкамі на выпадак „паветранай трывогі". Ён так „залез пад скуру", што я вырашыла „прынцыпова" не рыхтавацца да заліку. Ад тупога генэрала мяне ледзь ні ванітавала. Я гнеўна думала: „Ну навошта мне здаўся ягоны супрацьгаз з бомбасховішчам (на тэхнічным узроўні 1-й Сусьветнай вайны). Калі я хачу стаць добрай настаўніцай мовы і літаратуры, люблю гэтую прафэсію, вучуся пасьпяхова, ня выключаць жа мяне з інстытута за „грамадзянскую абарону!"

У выніку я разоў 5 ці нават болей „здавала" залік, і ўсё ж такі ўзяла генэрала „на змор". Урэшце рэшт ён паставіў мне залік (відаць, таксама, каб мяне болей ня бачыць, бо ніякай „віны" за „няведы" ў маіх вачах ён ня бачыў, а толькі нешта іншае, што яму было, відаць, ня надта прыемна).

## „За актыўнасьць у грамадзкім жыцьці"

Здаецца, у 1972-м (ці 73-м) годзе камітэт камсамола педінстытута сфармаваў групу студэнтаў, чалавек 20-25, для паездкі пасьля летняй сэсіі ў Польшчу ў пляне студэнцкага міжнароднага абмену. Паездка ў Польшчу на тыя часы – гэта была падзея. Мая школьная сяброўка Маісеева Наташа належыла да „прывілегіраванай" сям'і (яе бацька быў прафэсарам, доктарам навук і зарабляў на тыя часы шмат). Але калі я сказала ёй па тэлефоне, што была ў Варшаве, у Польшчы, яна, як бы не паверыўшы, са зьдзіўленьнем перапытала: „Дзе-дзе? Вось гэта спра-а-ва!"

Да нас у Беларусь таксама павінна была прыехаць гэткая ж група з Польшчы.

Чаму камітэт камсамола? Бо іншых легальных маладзёвых арганізацыяў у СССР не існавала, і „пытаньні моладзі" без камсамола ня мог вырашаць ніхто (акрамя КПСС), нават кіраўніцтва інстытута.

Студэнцкая група была ў асноўным дзявочая, бо педінстытут быў „дзявочай" ВНУ. Мужныя, інтэлектуальна і фізічна разьвітыя хлопцы, як правіла, у педінстытут ня йшлі. У Савецкім Саюзе настаўнік меў невялікі заробак, і гэта была асноўная прычына непапулярнасьці настаўніцкай прафэсіі



*71. Студэнцтва – 3. Чытаньне вершаў.*

сярод мужчын. Дзеці расьлі і вучыліся пад наглядам жанчын (ясьлі, садкі, школа) і атрымоўвалі аднабаковае негарманічнае выхаваньне. (Адсутнасьць „мужчынскага” выхаваньня – відаць, адна з прычынаў „жаноцкай” мэнтальнасьці шмат якіх беларусаў, што ў будучым трэба выпраўляць.)

Мяне ўключылі ў „польскую” групу не за посьпехі ў вучобе (хоць вучылася я добра), а за „актыўнасьць у грамадзкім жыцьці”. Гэта было галоўным, а я была актыўная і, як кажуць, на віdavоку. Што ж гэта была за „актыўнасьць”?

Аднастайнае пэдінстытуцкае жыцьцё мяне не задавальняла, мой энэргічны характар, любоў да літаратуры і мастацтва штурхалі мяне ўсюды „ўдзельнічаць”. На літаратурна-музычных вечарынах на факультэце я чытала вершы і прозу, сьпявала, арганізоўвала паэтычныя вечарыны ці літаратурныя чытаньні, „культпаходы” ў тэатры, музэі, шмат вандравалі з сяброўкай Тамарай Бондал. Білеты для студэнтаў былі ільготныя, і мы, атрымаўшы стыпендыю, часта ехалі куды-небудзь хоць на выхадныя дні. Аднаго разу, напрыклад, мы паляцелі ў Адэсу па „сонца”. Цэлы дзень гулялі па сонечным горадзе і радваліся вясьне, якая на Беларусі пазьнілася. Вечарам з букетамі паўднёвых руж вярталіся ў Менск. Калі ляцелі дадому, далёка-далёка ў небе бачылі маланку.

Такіх і іншых уражаньняў было шмат, асабліва летам, падчас канікулаў, калі атрымоўвалі „летнюю” стыпендыю за тры месяцы адразу (чарговую і за 2 месяцы канікулаў). Мы шмат езьдзілі і хадзілі ў турыстычныя паходы (і пешшу, і на плытах, і на лодках). Жылі ў намётах, гатавалі на кастрышчы, сьпявалі „пад гітару”. Нам вельмі хацелася пабачыць сьвет (які вымяраўся тады выключна межамі Савецкага Саюза), і я надта марыла хоць калі-небудзь пабачыць Парыж. Я разважала так: сваё, яно ж вось тут, побач. Сваё я потым аб’езджу і нагляджуся, а пакуль трэба езьдзіць і глядзець як надалей ад дому.

Як я памылялася! Зараз, закінутая лёсам далёка ад роднага дому, ад любай Беларусі, ні на якія парыжы не прамяняла б я нашу беларускую вёску Ліпск, што пад Бягомлем, хоць там у мяне і няма ніякай радні, а толькі добрыя знаёмыя. Гэта – радзіма, мілая, самая лепшая, з цёплай зямлёй, багатым лесам, шырокім полем і высокай травой. Як я зараз цаню ўсё гэта, нашы прасёлачныя дарогі і добрых нашых людзей, як шкадую, што мала ўглядалася ў свае родныя беларускія мясьціны і твары. Зараз прыходзіцца ўспамінаць бачанае, а няўбачанае – ўяўляць. Сваё, найдаражэйшае, беларускае.

Няўжо так і ня ўдасца дома пазнаць спакой душы? Мілая зямля, дарагія лясы, узгоркі і дарогі, беларускія дарогі. Як жа бяз вас цяжка...

У часы СССР існаваў і іншы род „актыўнасьці" – камсамольскі, у падтрымку ідэалёгіі кампартыі сярод студэнтаў. Але гэтага граху на мне няма, хоць аднакурсьнікі і выбралі мяне „камсоргам" групы. У студэнцкім калектыве існавалі толькі дзьве „грамадзкія" „пасады": стараста (прызначаў дэканат) і выбраньнік самых студэнтаў, які тады называўся „камсорг".

Ніякай „камсамольскай дзейнасьці" ў нашай групе не праводзілася (мне гэта было брыдка). Я арганізоўвала студэнтаў, як тады казалі, на „культурніцкія мерапрыемствы", у чым была вялікая патрэба для ўсіх нас – гэтым я займалася з задавальненьнем, і да мяне ніхто не чапляўся за „камсамольскія справы".

* * *

У студэнцкім жыцьці было шмат „абавязалак". Так мы абавязаны былі восеньню ехаць „на бульбу", потым – на „галінкі" (калі Машэраў загадаў пасылаць усіх падрад у калгасы секчы галінкі на корм жывёле), потым – „дэманстрацыі труддзяшчыхся" і г.д. Пазьней, працуючы навуковым супрацоўнікам у НДІ педагогікі, я амаль 10 гадоў езьдзіла ў „падшэфны" калгас летам і восеньню на летне-восеньскія сельскагаспадарчыя працы. Кожны навуковы супрацоўнік, калі ён ня быў сур'ёзна хворым, абавязаны быў адпрацаваць ў калгасе два-тры тыдні за сэзон.)

Існаваў і шэраг палітычных мерапрыемстваў, на якія студэнты былі абавязаны „зьяўляцца" (каб не зьнялі стыпендыю ці ня выгналі з інтэрнату, хто ў ім жыў). Вялікім цяжарам для нас заўсёды былі „сьвяточныя" савецкія дэманстрацыі. Дэканат называў старасьце квоту прысутных ад нашай групы (ня менш паловы ці болей). Каб забясьпечыць „яўку", гэтая колькасьць студэнтаў павінна была ахвяравацца паездкай дадому на сьвяты. Зь Менску на нашым курсе я была адна, мне ня трэба было ў сьвяты ехаць дадому, як іншым, і я абавязана была прысутнічаць на гэтых „мерапрыемствах" заўсёды. На дэманстрацыі стараста адзначала прысутных у сьпісе і потым падавала гэтыя сьпісы ў дэканат. (Не адзначаны – чакай рэпрэсіяў.)

Як жа мы ненавідзелі тыя дэманстрацыі (1-га мая ці 7 лістапада)! Усімі сіламі мы стараліся адкруціцца ад нашэньня цяжкіх і вялікіх транспарантаў, якія пасьля дэманстрацыі патрэбна было яшчэ і „здаць" адказнаму. (Але пасьля дэманстрацыі гэтыя зламаныя транспаранты валяліся паўсюдна.)

І як гэта не падобна было на нашыя мітынгі і дэманстрацыі 90-х гадоў, калі мы зь вялікім гонарам несьлі Бел-Чырвона-Белыя сьцягі і адраджэнцкія плякаты.

## БЫТ

У савецкія часы людзі жылі, у асноўным, на савецкую зарплату, якой хапала на сьціплае жыцьцё „ад зарплаты да зарплаты" (былі, праўда, і „прывілеяваныя" прафэсіі і пасады). Савецкія людзі былі „невыязныя" ды і грошай на ваяжы зарабіць не маглі: былі жорсткія абмежаваньні на заробак (так званая „мяжа заробку", якую перакрочыць было немагчыма).

Існавала юрыдычнае паняцьце „непрацоўныя даходы". Гэта значыць, што ніякага, нават мінімальнага, бізнэсу (напрыклад, нешта самаму пашыць і прадаць) ці „прыробку" не дапускалася (за гэта штраф альбо турма; быў артыкул у Крымінальным Кодэксе). Людзі часам нешта прадавалі-куплялі „з рук" (значыць, ня ў краме), але рабілася гэта асьцярожна, каб ня ўбачыла міліцыя.

На рынках сяляне і „дачнікі" прадавалі сваю прадукцыю, але іх грэбліва называлі „спэкулянтамі". Прадаваць на рынку ўласна вырашчаную садавіну-гародніну лічылася непрыстыжным, нізкім заняткам.

А як жа цяжка было апранацца! Беларускім жа дзяўчатам заўсёды хацелася выглядаць прыгожа (што традыцыйна на Беларусі). Гэта зараз на Захадзе імкненьне да прыгажосьці саступіла неахайнасьці, апушчанасьці, абыякавасьці, безгустоўшчыне. Але беларускія дзяўчаты-жанчыны і сёньня трымаюцца культуры і традыцыі быць прыгожымі.

Сваё айчыннае адзеньне, як правіла, было старамодным, новыя мадэлі па савецкай завядзёнцы зацьвярджаліся ў вытворчасьць доўга, пакуль не выходзілі з моды. А калі выпускалі нешта новае, то яго было столькі, што ўсе рызыкавалі хадзіць у адным і тым жа.

Абутак быў кандовы, без мазалёў не абыходзілася. Крамы былі перапоўненыя таварамі, але людзі „ганяліся” за імпартным, бо яно было лепшым. На працягу месяца крамы стараліся прадаць савецкія тавары. Іх куплялі слаба, і крамы паўсюдна не выконвалі плян па продажу тавару. І тады савецкая сістэма гандлю ў канцы месяца (квартала, года) звычайна „выкідала” ці „давала” „імпарт”, і плян забясьпечваўся. У канцы месяца ўсюды былі доўгія чэргі. Людзі спачатку займалі чаргу, а потым пыталіся: „Што даюць?” Імпартнае куплялі ўсё падрад: што „давалі”, тое й куплялі (ўсяроўна прыдасца). За саветамі быў нават такі жарт: „От жа тавараў будзе напярэдадні 2000 года, бо гэта ж канец месяца, канец квартала, канец года і канец тысячагоддзя!”

## ПОЛЬШЧА

Пра „замежжа” мы, дзяўчаты, мала што ведалі, маўляў, хто іх там ведае, можа, і ў іх такая ж камуністычная фальш і „прынудзілаўка”, як і ў нас.

Палякі, аднак, аказаліся іншымі, чым мы. Але найперш мяне ўразілі вэнгерскія студэнты, зь якімі мы сутыкнуліся ў гатэлі „Рыўера” ў Варшаве ў самым пачатку нашай вандроўкі.

Тое што мы паходзім з „Саюза”, было відаць і па адзеньні, і па скаванай манеры паводзінаў і, напэўна, яшчэ па нечым няўлоўным. І я памятаю, зь якой нянавісьцю глядзелі і нешта злосна казалі ў наш бок гэтыя вэнгерскія студэнты (свае адносіны да ненавіснага ім Савецкага Саюза яны сьціравалі на нас). Я раптам убачыла, што быць савецкім – гэта сорамна, ненармальна і старалася ў публічных месцах маўчаць, каб рускай мовай (усе ў групе гаварылі па-руску) не выдаваць „савецкасьць”. Палітычна мы былі нясьведамыя, гэтую нянавісьць прымалі на свой бок і былі ўражаныя, як нам здавалася, яе несправядлівымі праявамі.

У Варшаве мы былі тры дні і потым нас павезьлі ў невялічкі гарадок (назвы ня памятаю), дзе мы жылі ў нейкім інтэрнаце разам з польскімі студэнтамі.

Што кідалася ў вочы – яны былі больш свабодныя ў сваіх думках і словах. Яны таксама неяк грэбліва ненавідзелі Савецкі Саюз, казалі пра рускіх „акупанты”. Адарваўшыся ад савецкай прапаганды, мы ўпершыню пачулі шмат іроніі і „нелюбові” да Расеі. Але з намі палякі былі ветлівыя і зьнешне сяброўскія. Яны ахвотна размаўлялі з намі і казалі, што нас, беларусаў, яны шкадуюць, бо мы, як і яны, знаходзімся пад рускай акупацыяй. Так я ўпершыню пачула пра тое, што наша Беларусь знаходзіцца пад рускай савецкай акупацыяй.

Зьнешняя культура паводзінаў у польскіх студэнтаў была, бясспрэчна, вышэйшая, яны былі больш выхаваныя. Але мы ўбачылі, што ў сваіх традыцыях мы, беларусы, больш шчырыя і гасьцінныя. Так, напрыклад, нас уразіў іхны прыём. Нас вельмі гасьцінна сустракалі і праважалі. Але адносіны на працягу месяца былі для нас вельмі дзіўнымі. Жылі мы разам з польскімі студэнтамі ў летніку, разам харчаваліся ў сталоўцы, дзе па чарзе дзяжурылі палякі. І калі яны разносілі яду, то заўсёды спачатку – за „польскія” столікі, і толькі пасьля гэтага падыходзілі да нас. Для мяне гэта было неверагодна дзіўна (бо ў нас, на Беларусі, такое недапушчальна, усё якраз наадварот: лепшае – госьцю, сабе ж – што застанецца), але так было, і ня толькі ў сталоўцы. Тым ня менш разьвіталіся мы па-сяброўску і вярнуліся ў Беларусь, поўныя розных ўражаньняў.

У 1991 годзе з групай франтаўцаў я ўпершыню праз 20 год паехала ў Польшчу ў Беласток. Памятаю, запаўняючы нейкія паперы, я ўбачыла графу, якая пыталася, калі і дзе я была за мяжой, зь якой мэтай. Ня ведаю, ці запаўняюцца такія блянкі зараз, але яны існавалі яшчэ доўга.

## ЦЭНТРАЛІЗАЦЫЯ

У 1982 годзе я скончыла асьпірантуру пры Пэдагагічным Інстытуце імя М. Танка (тады – імя М. Горкага, цяпер Пэдагагічны ўнівэрсітэт) і была „разьмеркавана” на працу ў Навукова-Дасьледчы Інстытут Пэдагогікі. Гэта быў юбілейны год Янкі Купалы і Якуба Коласа. Круглую дату плянавалася адзначыць ва ўсіх сфэрах культурнага жыцьця Беларусі, і ў пэдагагічнай сфэры таксама. Але ў нас у Інстытуце чамусьці пра гэта ўспомнілі пазнавата, а трэба было да юбілею ў якасьці дапаможніка для сярэдняй школы выпусьціць два

дыяфільмы: „Якуб Колас. Жыцьцё і творчасьць” і „Янка Купала. Жыцьцё і творчасьць” (у двух частках кожны). Тэрміны ня тое што „падціскалі”, часу не засталося зусім.

Дырэктар Інстытуту, мой былы дэкан, нябожчык Міхаіл Арсеньевіч Лазарук, ведаў мяне па Інстытуту як актыўную студэнтку, і, пакуль мне яшчэ не зацьвердзілі навуковую „тэму”, вырашыў даручыць мне гэтае адказнае заданьне – арганізацыю вытворчасьці двух дыяфільмаў.

Ён выклікаў мяне да сябе ў кабінет і акрэсьліў задачу, сказаўшы, што трэба, па-першае, дамовіцца зь лепшымі фатографамі БЕЛТА на рабленьне здымкаў (па мясьцінах беларускіх геніяў) і выраб фатаграфіяў для дыяфільма і, па-другое, дамовіцца з кінастудыяй Беларусьфільм аб тэрміновай нашай замове на два дыяфільмы.

Магчымасьцяў зрабіць гэтыя дыяфільмы на Беларусьфільме, як аказалася, не было: гэта спэцыяльны вытворчы працэс, і ў нас на Беларусі ён наладжаны ня быў. Рабіць трэба было на Ўкраіне, у Кіеве, на кінастудыі імя А. Даўжэнкі.

Тады М. А. Лазарук і даручае мне зьезьдзіць у камандзіроўку на кінастудыю імя А. Даўжэнкі. Прыляцеўшы ў Кіеў, я адшукала кінастудыю. Тут добра ведалі імёны і творчасьць нашых вялікіх


Мілай
Галіне Фёдараўне,
высакароднай пакутніцы
за беларушчыну,
са спадзяваньнем на лепшую
(шчасьлівую!) долю.

Ад аўтара-[illegible]
Васіля Быкава

24 красавіка 1996 г.

*72. Надпіс (дэдыкацыя) Васіля Быкава для Галіны Пазьняк на шостым томе збору твораў пісьменьніка, дзе зьмешчана аповесьць „Сьцюжа”.*



Мілая Галя,

сардэчна віншую Вас з Днём нараджэньня і шчыра жадаю добрага здароўя і шчасьця на чужыне, але з роднымі сваімі людзьмі. Цяжкая то справа, па-сабе ведаю, але што зробіш — мусіш! Хаця яно, як паглядзець, і беспрасьветна, але гісторыя — надта вяртлівая кабета і ніколі не робіць так, як родныя мудрыя прадбачаць. У гэта свая, парадаксальная логіка. Хіба толькі часам даводзіцца доўга, іншым можна і не дачакацца. Але маладыя маюць спадзеў, і дай ім Бога!

Мы тут з І. М. другі месяц у Нямеччыне, жывём увогуле добра (сытна, цёпла), ну а правы, статус?.. Ніякага статуса і ніякіх правоў. Што будзе далей — таксама невядома.

Вельмі жадаю Вам добрага ў жыцьці. Вашай дачушцы — таксама. З. С. — маё шчырае вітаньне. Нягледзячы на ўсё, што адбылося, маё стаўленьне да яго, як і 10 год таму. Я яго вельмі паважаю і люблю.

Абдымаю вас, дарагенькія — Васіль Б.

*73. Ліст-віншаваньне Васіля Быкава Галіне Пазьняк (9–га сакавіка 2000 г.).*


Дарагія Галя і Зянон,
прыміце мае шчырыя віншаванні з нагоды
св. Калядаў а таксама — Новагодзьдзя, нова-
стагодзьдзя, новага тысячагодзьдзя ад нараджэньня
Ісуса Хрыста. Будзем спадзявацца, што з Бож-
ых магутных сілаў паслужаць найлепшае
справам Беларусі, нашай любай і адзінай.
Усьцешаны кнігай Зянона і той добрасьвіцю,
якую сказала пра яе (і яго) „Свабода" — Уладзя і
Рыгор. Шчасьця вам — на чужыне і ў сьвеце!
Жыве Беларусь!
Абдымаю — Васіль Быкаў

*74. Ліст-віншаваньне Васіля Быкава Галіне і Зянону Пазьнякам (18–га сьнежня 2000 г.).*



Шаноўны спадар Зянон,
шаноўная спадарыня Галя!

Найперш вітаю вас абодвух з наступам весны, з тым, што Бог даў перажыць зіму. У нас тут, у Нямеччыне, дык ужо зелянеюць на кустах пупышкі. Можа, дапоўзем і да лецечка...

Я перабраўся яшчэ далей на захад, і цяпер жыву у Франкфурце на Майне. Горад стары і прыгожы, кватэра нішто сабе, — лепшая, чым у Менску. Хоць і не свая і часовая. Працую, пішу і, ведама ж, трываю боль за нашую радзіму, якая... Але самі ведаеце, якая... Учора прачытаў гнюсныя артыкулы А. Фядуты пра беларускую апазіцыю і З. Пазьняка („Московские новости" № 9) і падумаў: а ці трэба зноў Зянону лезьці ў тое выбарчае балота? Яго ж цяпер проста заб'юць. Гэта ж не Украіна, дзе ўвесь свет падняўся супраць Кучмы. Супраць Лукашэнкі не падымецца, бо ў яго мобы для свету абаронца.

Калі што пішыце, званіце.

Мой тэл/fax 49.69.95.508.882.

Шчасьця вам, здароўя і поспеху!

Обдымаю — Васіль Быкаў

2 сакавіка 2001

*75. Ліст Васіля Быкава Галіне і Зянону Пазьнякам (2–га сакавіка 2001 г.).** (*Выдрук тэкстаў у спасылцы.)

паэтаў і пра неабходнасьць прапусьціць у вытворчасьць нашыя сцэнары без чаргі пагадзіліся. Аднак – невялікая, але рашаючая „загвоздка”. Згоды кіраўніцтва Украінскай кінастудыі (каб прыняць нашыя сцэнары без чаргі), аказваецца, недастаткова. На такое „парушэньне парадку” павінна быць згода Міністра кінематаграфіі СССР. „Калі такая згода будзе, мы з задавальненьнем возьмемся за вашыя дыяфільмы і пастараемся іх зрабіць як найхутчэй, у першую чаргу”, – са спачуваньнем сказаў мне дырэктар кінастудыі.



*76. У Жлобінскім дзіцячым шпіталі. 1994 г.*

Я вярнулася ў Менск. У той жа дзень мне выпісалі камандзіроўку ў Маскву. За гады асьпірантуры я ня раз езьдзіла туды ў навуковыя камандзіроўкі і мела „шчасьце” сутыкацца з маскоўскай бюракратыяй, ня раз назірала іхную пагарду, грубасьць і нецярпімасьць да „приезжих”. Але Міхаіл Арсеньевіч прасіў пастарацца. Урэшце, гэта трэба было для Беларусі – і я паехала.

Я прывезла згоду Міністра кінематаграфіі СССР на пазачарговую вытворчасьць дыяфільмаў на Ўкраінскай кінастудыі.

У інстытуце мяне лічылі амаль што „героем”, а мне было сумна і дзіўна, што каб зрабіць усяго толькі дыяфільм, прыйшлося прасіць дазволу там, дзе ніхто ня меў ніякага дачыненьня ні да Ўкраіны, ні да Беларусі.

Праца над дыяфільмамі, пры ўсёй яе савецкай адміністратарскай экзатычнасьці, дазволіла мне, аднак, неўзабаве пазнаёміцца з нашым вялікім пісьменьнікам Васілём Уладзімеравічам Быкавым. Гэтае знаёмства і добрыя адносіны захаваліся на ўсё жыцьцё.

## ПЭДАГОГІКА

Калі казаць, што дала мне 5-гадовая прафэсійная адукацыя ў пэдінстытуце, дык гэта пэўныя веды па мове, літаратуры і па мэтодыцы іхнага выкладаньня (веды маглі б быць вышэйшымі, каб большую палову студэнцкага часу не стлумілася на „камунізм”, на вывучэньне розных „ізмаў”). Як стаць добрым пэдагогам – гэтаму нас вучылі зусім недастаткова, хоць мы на „пяцёркі” здавалі „гісторыю пэдагогікі” і „савецкую пэдагогіку”. „Павага да асобы вучня”, „пэдагагічны падыход”, дабрыня да вучня – пра гэтыя прафэсійныя якасьці нам, студэнтам, гаварылася зусім не дастаткова. Казалі пра „эстэтычнае”, „маральнае” („нравственное”), „камуністычнае”, „працоўнае” і ўсялякае іншае выхаваньне. Мы чулі, што „настаўнік павінен любіць дзяцей”, але гэтыя гаворкі былі хутчэй абстрактнымі. Казалі пра настаўніцкую патрабавальнасьць да вучняў. Пра тое, што

настаўнік павінен дамагацца аўтарытэту ў вучняў і якім чынам – амаль не гаварылася.

Школе ж патрэбны настаўнік з добрым сэрцам. Толькі ён павінен вучыць і выхоўваць патрыётаў Бацькаўшчыны-Беларусі. Сёньня нашай краіне найперш неабходна так выхоўваць моладзь, каб яна любіла сваю зямлю, свой край, сваю родную беларускую мову, паважала людзей. Усё астатняе – прыродныя розум і кемлівасьць – закладзены ў нашым беларускім этнасе Богам.

***Галіна ПАЗЬНЯК***

*2005-2006 гг., Нью-Ёрк*

*Надрукавана: („ Беларускія Ведамасьці”,–2007, №1(60), стар.7-11);* („ *Беларускія Ведамасьці”*,– 2006, №5 (59), стар.5-7).

---

*

**№ 71.**

Мілай Галіне Фёдараўне, высакароднай пакутніцы за Бацькаўшчыну, са спадзяваньнем на лепшую (шчасьлівую!) долю. Ад аўтара-бэнээфаўца Васіля Быкава. 24 красавіка 1996 г.

**№ 72.**

Мілая Галя,

Сардэчна віншую Вас з Днём нараджэньня і шчыра жадаю добрага здароўя і шчасьця на чужыне, але з роднымі сваімі людзьмі! Цяжкая то справа, па сабе ведаю, але што зробіш – мусіш! Хаця яно, як паглядзець, і беспрасьветна, але гісторыя – надта вяртлявая кабета і ніколі ня робіць так, як розныя мудрыя прадбачаць. У яе свая, парадаксальная лёгіка. Але маладыя маюць спадзеў, і дай ім Божа!

Мы з І. М. Другі месяц у Нямеччыне, жывем увогуле добра (сытна, цёпла), ну а правы, статус?... Ніякага статуса і ніякіх правоў. Што будзе далей – таксама невядома.

Вельмі жадаю Вам добрага ў жыцьці. Вашай дачушцы – таксама. З. С. – маё шчырае вітаньне. Нягледзячы на ўсё, што адбылося, маё стаўленьне да яго, як і 10 год таму. Я яго вельмі паважаю і люблю.

Абдымаю Вас, даражэнькія – Васіль Б.

**№ 73.**

Дарагія Галя і Зянон,

Прыміце мае шчырыя віншаваньні з нагоды св. Калядаў а таксама – Новагодзьдзя, новастагодзьдзя, новага тысячагодзьдзя ад народзінаў Ісуса Хрыста. Будзем спадзявацца, што зьбег гэтакіх магутных сілаў паслужыць нарэшце справам Беларусі, нашай любай і адзінай. Усьцешаны кнігай Зянона і той добрасьцю, якую сказала пра яе (і яго) “Свабода” – Уладзя і Рыгор. Шчасьця вам – на чужыне і ў сьвеце! Жыве Беларусь! Абдымаю – Васіль Быкаў.

**№ 74.**

Шаноўны спадар Зянон,

Шаноўная спадарыня Галя!

Найперш віншую вас абодвух з наступам вясны, з тым, што Бог даў перажыць зіму. У нас тут, у Нямеччыне, дык ужо зелянеюць на кустах пупышкі. Можа дажывем і да Лецечка...

Я перабраўся яшчэ далей на захад, і цяпер жыву ў Франкфурце на Майне. Горад стары і прыгожы, кватэра нішто сабе, – лепшая чым у Менску. Хоць і не свая і часовая. Працую, пішу і, вядома ж, трываю боль за нашую радзіму, якая... Але самі ведаеце, якая... Учора прачытаў гнюсны артыкул А. Фядуты пра беларускую апазыцыю і З. Пазьняка (“Московские новости”, № 9) і падумаў: а ці трэба зноў Зянону лезьці ў тое выбарчае балота? Яны ж цяпер проста заб’юць. Гэта ж не Ўкраіна, дзе ўвесь сьвет падняўся супраць Кучмы. Супраць Лукаша не падымецца, бо ў яго любы для сьвету абаронца.* [*Так ў тэксце*]

Калі што пішыце, званіце. Мой тэл/fax 49-69-95-508-882. Шчасьця вам, здароўя і посьпехаў! Абдымаю – Васіль Быкаў.
2 сакавіка 2001.

# АПОВЯД ЧЫСТАГА СУМЛЕНЬНЯ

Кніга дэпутата Вярхоўнага Савета 12 – га скліканьня Сяргея Навумчыка ***„Сем гадоў Адраджэньня альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988-1995)"***, якая выйшла нядаўна ў Варшаве *(Варшава – „Беларускія Ведамасьці", Прага – „Člověk v tísni", 2006 г.),* захапляе з першай старонкі. Прачытаўшы яе, уражвае, з аднаго боку, як дакладна перададзена атмасфэра беларускага Адраджэньня, зь іншага – сам аповяд пра ахвярную працу Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце.

У тых, хто быў удзельнікам падзеяў ці падтрымліваў Апазыцыю БНФ у Вярхоўным Савеце на плошчы Незалежнасьці, кніга абуджае шмат асацыяцыяў- успамінаў і аднаўляе ў памяці ўздым і аптымізм 90-х.

Іншым, маладым, хто па ўзросту тады ня мог асэнсоўваць тыя гістарычныя перамены, кніга Сяргея Навумчыка раскрывае праўдзівыя падзеі нядаўняга часу. І гэта надзвычай важна, бо аднаўленьне незалежнасьці не „звалілася зь неба" (як хлусяць антыбеларускія прапагандысты), а было здабытае (ў выніку змаганьня пакаленьняў беларусаў і пры падтрымцы грамадзтва) неверагодна цяжкай, гераічнай і ахвярнай працай нешматлікай фракцыі фронтаўскіх дэпутатаў ў парляманце – авангардам сапраўднай беларускай эліты. Дзякуючы іх дзейнасьці, не абарвалася „нітка шчасьця", пераемнасьць адраджэньня Беларускага духа ў пакаленьнях, і беларусы як народ не сыйшлі ў небыццё. А гэта цалкам магло стацца, каб не адбыўся Акт Незалежнасьці і Беларусь засталася б часткай імпэрскай Расеі. Менавіта гэтага дамагалася сваёй коснасьцю і саветызмам большасьць прамаскоўскага Вярхоўнага Савета БССР 12-га скліканьня.

Я памятаю гэтыя часы і атмасфэру тае пары, бо разам з авангардам беларускага грамадзтва таксама вырастала з жыцьця і ўзмацнялася мая нацыянальная сьведамасьць.

Расказваючы, што папярэднічала парляманцкай дзейнасьці адраджэнцаў, Сяргей Навумчык піша пра разгон *„Дзядоў-88"*, „які меў шырокі розгалас" у грамадзтве. І я памятаю, як гэта было, як (нібы сабак спусьцілі з ланцуга) „клеймили позором" „неформалов" (гэта пра нас) ва ўсіх дзяржаўных СМІ (а іншых СМІ не было), як кожны дзень зьяўляўся шэраг артыкулаў-падманаў, як абзывалі нас „фашыстамі" ды іншымі абразьлівымі словамі за нашую прагу свабоды і незалежнасьці ад страшнай імпэрыі, як нас запалохвалі і як мы вучыліся не баяцца.

„Пашырыліся патрабаваньні аб беларусізацыі", – піша аўтар, які тады жыў у Віцебску. А я ўспамінаю пачатак 1990 года – тры дні мітынгаў у Менску, калі цалкам савецкі Вярхоўны Савет БССР 11-га скліканьня прымаў Закон аб мовах, як спрачаліся савецкія дэпутаты, як лямантаваў, ненавідзячы беларускую мову, лімітаваны „дэпутат БССР" артыст Менскага рускага тэатра Янкоўскі ды выступаў супраць адзінай дзяржаўнай беларускай мовы (фрагмэнты гэтага абмеркаваньня паказвалі ў „Навінах" на ТБ"), і як патрабаваў народ прыняцьця гэтага Закону.

У першы дзень абмеркаваньня Закону ў Вярхоўным Савеце ўся плошча Незалежнасьці (тады Леніна) па закліку Беларускага Народнага Фронту была запоўнена менчукамі. Мы патрабавалі, каб адзінай дзяржаўнай мовай стала беларуская мова.

Назаўтра дэпутацкія дэбаты працягваліся, і тысячы людзей зноў сабраліся ля Вярхоўнага Савета, выкрыквалі лёзунгі і патрабаваньні. Мы былі ўсе разам, знаёмыя і незнаёмыя беларусы, мы адчулі сябе народам.

На трэці дзень абмеркаваньня нам афіцыйна дазволілі мітынг каля Дому палітасьветы, і тысячы менчукоў хлынулі туды. Людзі былі настроеныя на перамогу. Гэта радвала і ўздымала. Упершыню ў БССР тысячы людзей узьняліся ў абарону беларускай мовы. Шмат хто зь іх гаварыў па-руску, але чыстая хваля Адраджэньня ўскалыхнула ў беларусах тое, што 70 гадоў спала ў душах за саветамі.

С. Навумчык успамінае вясну 1990-га – выбары ў Вярхоўны Савет БССР і якія неверагодныя перашкоды стваралі савецкія ўлады кандыдатам

ад Фронта. І я ўспамінаю, як у Менску Фронт аб'яднаў усіх вылучаных сваіх кандыдатаў у Вярхоўны і мясцовыя Саветы. У Фронце была наладжана вучоба кандыдатаў усіх узроўняў. Мы слухалі лекцыі спэцыялістаў розных галінаў аб будучай дэпутацкай дзейнасьці (эканоміка, гаспадарка, гісторыя, паліталёгія і г.д.). Такую ж „вучобу" правёў 2-3 разы і Райвыканкам Маскоўскага раёну Менска, на тэрыторыі якога я жыла і, як кандыдат у дэпутаты Гарсавета, прысутнічала на гэтых паседжаньнях.

Памятаю, як пасьля заканчэньня лекцыі мяне запрасіў у кабінет адзін чыноўнік райвыканкаму. „В доверительной беседе" ён паспрабаваў „расплюшчыць" мне вочы на некаторых дзеячоў у нашым адраджэнцкім руху. Ён гаварыў, што да нас „уліліся" гэбісты, называў вядомыя прозьвішчы. „Ці ж гэта ваша кампанія?" – скончыў ён сваю „проработку". Ды я не зьбіралася верыць ягонаму „шчыраму" голасу, хоць (час паказаў) КГБ, сапраўды, рабіў апэратыўныя крокі, каб ня даць узмацніцца Адраджэньню.

Але не гэбэ вырашаў тады лёс будучай незалежнай Беларусі. Яго вырашалі тады лепшыя беларускія дзеячы Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, Беларускі народ і Беларуская адраджэнцкая плошча. Высілкі КГБ маглі прынесьці пэўную канкрэтную шкоду, але паўплываць на народны ўздым яны не маглі.

Галоўная каштоўнасьць кнігі Сяргея Навумчыка – расказ пра парляманцкую дзейнасьць Апазыцыі БНФ. Гэты расповяд для нас вельмі істотны, бо зыходзіць з „першых вуснаў" сумленнага чалавека, які расказвае так, як было, абапіраючыся на стэнаграмы паседжаньняў Вярхоўнага Савету. Тут усё – праўда. Сяргей Навумчык раскрывае знутры характэрны працэс змаганьня з рэакцыйнай дэпутацкай большасьцю, іх няздольнасьць да нацыянальнай палітычнай дзейнасьці, неразуменьне паняцьцяў „суверэнітэт", „геапалітычная сітуацыя", „незалежнасьць", „нацыянальныя інтарэсы", паказвае іхнюю воўчую ўпартасьць супраць беларускага Адраджэньня і падтрымку рашэньняў у інтарэсах Масквы. Тыя, хто тады назіраў за дзейнасьцю Апазыцыі БНФ праз СМІ, не маглі ведаць пра ўсе цяжкасьці прыняцьця гістарычных рашэньняў.

Апазыцыя БНФ вынесла на 2-ю сэсію некалькі дзясяткаў заканадаўчых прапаноў і законапраектаў, піша аўтар. І зьнешне гэта ўспрымаецца як належнае. Але за гэтым сьціплым выказваньнем – бяссонныя ночы, абмеркаваньні, ахвяраваньне ўласным асабістым жыцьцём на карысьць Бацькаўшчыны. І такое цяжкае жыцьцё доўжылася амаль шэсьць гадоў. За гэты час сябры Апазыцыі БНФ паступова станавіліся прафэсійнымі палітыкамі-змагарамі.

А напачатку гэта была неверагодна цяжкая праца першапраходцаў. Некалькі разоў я прысутнічала на абмеркаваньнях палітычных пытаньняў у Апазыцыі БНФ (знаходзячыся ў Вярхоўным Савеце па агульнафронтаўскіх справах і як дэпутат Менгарсавета). Я насамрэч бачыла, як выпрацоўвалася палітычная тактыка ў працэсе абмеркаваньня пэўнай палітычнай праблемы. Дыскусія, аргумэнтаваныя спрэчкі давалі магчымасьць дэпутатам Апазыцыі БНФ разглядаць пытаньне з усіх бакоў і выпрацоўваць аптымальныя рашэньні. Прытым, што характэрна, усе шукалі правільнае дзеяньне і дыскутавалі без амбіцыяў, агульная справа была над усім. Гаварылі канкрэтна, коратка і па тэме (быў рэглямант і калі хто адыходзіў ў бочныя разважаньні, то старшыня тут жа выпраўляў становішча і ніхто ня крыўдзіўся) І ўжо калі прымалі рашэньне, яно абавязвала кожнага і ўсе яго трымаліся.

Але іхняя дэпутацкая праца тым не абмяжоўвалася. Гэта была яшчэ свайго роду і ў высокай ступені творчая дзейнасьць, дзе трэба было арыентавацца ў сітуацыі непасрэдна ў Авальнай залі. Іхныя калектыўныя „экспромты" былі бліскучыя. Чытаючы пра абмеркаваньне закона аб адкліканьні дэпутатаў, аб прыняцьці Дэклярацыі аб суверэнітэце і інш., зноў перажываеш цяжкія моманты змаганьня. І узьнікае пачуцьцё найвышэйшага захапленьня ад дасьціпнасьці і агульнага інтэлекту гераічнай Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, ад апэратыўнасьці іхняга мысьленьня, ад гнуткага валоданьня сітуацыяй.

Думаю, што парлямантарам нават самых магутных дзяржаваў сьвету можна б было павучыцца ў беларускіх герояў – Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. Настолькі яны былі актыўныя, наступальныя, самаахвярныя, зьяднаныя і разумныя.



*77. Дыскусія ў Вярхоўным Савеце. Справа ля мікрафона Сяргей Навумчык.*

Аўтар нагадвае нам, як цаной вялікіх намаганьняў ішоў працэс вяртаньня беларускасьці, і які страшэнны націск праімпэрскіх сілаў (у якіх была і ўлада, і СМІ) прышлося стрымліваць адраджэнцам, успамінае і публікацыю ліста групы бацькоў з Рагачова. І я цалкам пацьвярджаю праўду ягоных слоў.

У сталіцы Беларусі ўсе пытаньні адраджэньня беларускасьці дзіцячых установаў курыравала Камісія па адукацыі Менгарсавета, якая праводзіла пільны кантроль за гарадзкім Упраўленьнем адукацыі па бесперабойным пашырэньні беларускіх школаў у Менску. Нас (дэпутатаў Камісіі) цікавіла таксама, як да гэтага працэсу адносяцца бацькі навучэнцаў і настаўнікі. З усёй адказнасьцю канстатую: перавод садкоў і школаў у статус беларускамоўных з боку настаўнікаў і бацькоў успрымаўся прыхільна – мы правялі сотні перамоваў і сустрэчаў і пераканаліся ў гэтым. А гэтак званыя „калектыўныя лісты" бацькоў і іншая праца „пятай калёны" – гэта справа шалёнай антыбеларушчыны, кіруючы цэнтар якой, зразумела, быў у Крамлі (а дакладней – на Лубянцы).

Але адраджэнцы „трымалі ўдар". Сябры Камісіі Менгарсавета па адукацыі праводзілі сходы ва Упраўленьні транспарту Менска, у Маскоўскім РАУС, ва ўпраўленьні гандлю, у некаторых цэнтральных крамах. Мы выкарыстоўвалі любы шанец, каб увасобіць ідэі беларускай незалежнасьці. Беларускія школы-садкі расьлі, як грыбы. Але усё, як піша С. Навумчык, „даводзілася „выбіваць", бо кебічаўскае чынавенства моцна супраціўлялася адраджэньню беларускасьці.

Узгадваючы пра падзеі тых часоў, аўтар часам дае характарыстыку некаторым вядомым ў беларускім грамадзтве асобам з палітычнага пункту гледжаньня. Шмат добрых слоў сказана пра двух славутых беларусаў, якія адразу падтрымалі Фронт – Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна.

І яшчэ адна асоба, пра якую абсалютна праўдзіва гаворыць аўтар кнігі С. Навумчык – гэта Станіслаў Шушкевіч. Памятаю, як моцна, крок за крокам, ён расчароўваў усіх тых адраджэнцаў, хто на яго спачатку так спадзяваўся.

Калі ў 1989 г. пачалося вылучэньне кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР, увесь Фронт узмоцнена змагаўся за вылучэньне сваіх кандыдатаў. Але зарэгістраваць фронтаўцаў тады (па выбарчым законе СССР) не ўдалося, і Фронт заклікаў сваіх сяброў дапамагаць С.С. Шушкевічу (а Шушкевіч абавязаўся падтрымліваць беларускія адраджэнскія каштоўнасьці і фронтаўскія прынцыпы). Бяз гэтай нашай дапамогі С. Шушкевіч стаць двойчы дэпутатам (СССР і БССР) ня змог бы. Усю ягоную выбарчую кампанію падрыхтавалі і правялі фронтаўцы. Мы ж верылі яго словам аб адданасьці Беларусі. Я добра памятаю тыя змагарныя дні. Мы хадзілі па кватэрах, клеілі лістоўкі, агітавалі. Найбольш гэтыя выбарчыя кампаніі памятаюць мае ногі і ногі шматлікіх сяброў Фронту – колькі было выхаджана па раёнах, вуліцах, дварах і прыступках менскіх дамоў. Увесь Фронт агітаваў за Шушкевіча.

Потым, назіраючы сэсіі ВС па ТБ, я ня раз з горыччу шкадавала, што столькі сілаў аддала на змаганьне за С. Шушкевіча, так расчараваў нас гэты чалавек – шукальнік згоды (як ён сам вызначаў сваю пазыцыю), а на справе – ня моцны чалавек, высокая пасада якога аказалася яму не па плячу і прынесла так шмат прыкрасьцяў і нясправўджаных надзей адраджэнцам Беларусі. І зараз, чытаючы кнігу, гэтае пачуцьцё ўзьнікае зноў і зноў, ад старонкі да старонкі, бо у самыя крытычныя моманты, дзе патрэбна была актыўная пазыцыя С. Шушкевіча, ён часта маладушнічаў, марудзіў, угінаўся і марнаваў нацыянальныя магчымасьці Беларусі.

Чытаючы старонкі, прысьвечаныя барацьбе Апазыцыі БНФ за вяртаньне Незалежнасьці, мы бачым, як цяжка здабывалася Незалежнасьць, як шмат што залежыла ад палітычнай інтуіцыі, рашучасьці і інтэлекту дэпутатаў-фронтаўцаў. Абмежаванасьць, коснасьць і цынізм ворагаў беларушчыны ўражваюць, хоць расказ ідзе стрымана. Бачым і антынезалежніцкую пазыцыю тых, хто сёньня выступае ў ролі „апазыцыі" і барацьбітоў, з рэжымам.

Пацьвярджаецца старая праўда: прыгожа і востра здольны гаварыць шмат хто. Але за аднымі і тымі ж словамі можа стаяць супрацьлеглае: шчырасьць і хітрасьць. І каб адрозьніваць адно ад другога, у палітыцы, як нідзе, трэба ведаць, што гэта за чалавек, якая яго „гісторыя", за што ён змагаўся ўчора, 5-10 гадоў таму і ці падтрымліваў ён нацыянальныя беларускія інтарэсы адкрыта, не хаваючыся пад лаву. Інакш мы рызыкуем быць моцна падманутымі.

Здраднікі беларушчыны былі раней, на жаль, ёсьць яны і сёньня. Але каб учарашні непрыяцель беларускіх інтарэсаўператварыўся сёньня ў „змагара" за іх – гэта ўжо падазрона (хоць такое і здараецца ў гісторыі барацьбы). А менавіта дзейнасьць перакідчыкаў, пра якіх мы чытаем у кнізе С. Навумчыка, прывяла да сёньняшняга бездапаможнага стану. Памятаю трансьляцыі па ТБ сэсіяў Вярхоўнага Савету позна ноччу, а 1-й-2-й гадзіне. Тады думалася: ну, здаецца, пазабіваў бы гэтых рэтраградаў, гэтую прадажную дэпутацкую большасьць. А сёньня гэтыя лябедзькі-калякіны прафануюць змаганьне і тлумяць Адраджэньне, начапіўшы маскі „апазыцыі".

Кніга С. Навумчыка дапамагае аднавіць ў памяці шмат што. Напрыклад, як несур'ёзна ўспрымаўся тады дэпутат А. Лукашэнка ў Вярхоўным Савеце і ў адраджэнцкім грамадзтве. Калі мы зьбіралі подпісы ля Галоўпаштамта за фронтаўскага кандыдата ў прэзыдэнты, каля нас заўсёды быў тлум народу. Людзі шчыра падпісваліся. І да нас як правіла „прымазваліся" 2-3 зборшчыкі за Лукашэнку. Мы са зьдзіўленьнем глядзелі ў іх бок, (да іх падыходзілі людзі неахвотна і мала) і не маглі надзівіцца, як яны могуць сур'ёзна займацца гэткай беспэрспэктыўнай справай. Што Лукашэнка, мякка кажучы, „ня цягне" на прэзыдэнта – для нас было настолькі відавочна, што мы толькі ўсьміхаліся... І гісторыя навучыла нас, што ў адказныя часы барацьбы трэба ставіцца вельмі сур'ёзна да праціўнікаў, да ўсіх праяваў гэтай барацьбы і ня ськідваць з рахунку нават самыя на першы погляд бязглуздыя „праекты" супернікаў.

Кніга С. Навумчыка выдатна ілюструе, што палітыку можна і патрэбна рабіць чыстымі рукамі, і пісаць пра яе таксама – праўдзіва, так, як было. Для гэтага неабходна толькі мець чыстае сумленьне, шчырае сэрца беларуса і журналісцкі талент, як у Сяргея Навумчыка.

Добра відаць, што пераацаніць унікальны палітычны подзьвіг дэпутатаў парляманцкай Апазыцыі БНФ немагчыма. Яны сыгралі вызначальную ролю ў аднаўленьні незалежнасьці Беларусі. Мінае час, настала цяжкая пара, некаторыя зь іх адыйшлі ад актыўнага змаганьня, некаторыя ўжо адышлі з жыцьця... Але за тое, што яны рабілі і зрабілі тады, у 90-х, – за гэта ім усім нізкі паклон і пажаданьне быць годнымі самых сябе й надалей.

***Галіна Пазьняк***

*2006 г.*

*Надрукавана: („Беларускія Ведамасьці”, – 2006, № 4 (58), стар.11-13); („Беларус”, – 2007, ліпень, №534).*




**78. *Вокладка кнігі Сяргея Навумчыка пра новае Беларускае Адраджэньне.***

# РАСЕЙСКАЕ ТЭЛЕБАЧАНЬНЕ – ЛЮСТЭРКА РАСЕЙСКАГА ГРАМАДЗТВА

Становішча, якое існуе зараз у Расеі, паказвае, што паскараецца працэс маральнай дэградацыі расейскага грамадзтва. Яскравае пацьвярджэньне гэтаму – расейскае тэлебачаньне.

Яшчэ гадоў 15 таму нельга было нават ўявіць, што адбудзецца такая хуткая дэмаралізацыя, бо тады можна было ня толькі ўбачыць цікавыя і духоўна напоўненыя перадачы (у якіх асьвятляліся праблемы жыцьця з пункту гледжаньня агульных маральных каштоўнасьцяў), але і інфармацыйная канцэпцыя тэлебачаньня не была такой адкрыта цынічнай.

Сёньня ж – звычаёвая карціна дачыненьняў, паказаная на экране, настолькі маральна нікчэмная, што выклікае шок, здуменьне, абурэньне і проста агіду. Зрэшты, расейцы ўсё гэта глядзяць, і бальшыні, відаць, падабаецца такая „свабода". Яно б і ня надта нас, беларусаў, тычылася (ведаем мы Расею), калі б увесь гэты бруд ня йшоў на нашую Беларусь і не атручваў бы галовы людзям сталым і маладым. Тым больш, што вера ў аўтарытэт ТБ (як і ў друкаванае слова) ў нас па-ранейшаму застаецца. Так паступова беларусы (і галоўнае – маладыя) звыкаюцца з антынормай, з пошласьцю і ўжо не задумваюцца, што гэта дрэнь і глядзець яе – гэта азначае засьмечваць і атручваць сваю сьведамасьць і ўспрыняцьце жыцьця.

Касьцёл, царква, кніга – ў душах жывуць, але як бы самы па сабе. Людзі, якія зьвяртаюцца да Бога, да ідэала, да гармоніі і прыгажосьці, суіснуюць з „атрутным духам" і спажываюць яго як бы між іншым, для „шумавога эфекту" ў доме. А той „эфэкт" насамрэч не такі бяскрыўдны.

У пагоні за таннай папулярнасьцю расейцы на ТБ гатовыя прадаць усё і ўтаптаць у гразь самае сьвятое. Пра што ж іхныя перадачы?

Пра палігамныя „шлюбы", напрыклад. Гадзіна эфірнага часу прысьвечана некалькім „сем'ям", калі адзін мужчына жыве з дзьвума „жонкамі" ў адной кватэры. Бяруцца інтэрв'ю „мужа" і яго „жонак" адносна інтымнай сфэры іхнага існаваньня. І гэты бруд ухваляе (як заўсёды) іхны Жырыноўскі – прадстаўнік высокай расейскай улады у ролі блазна.

Нашто гэта „абмеркаваньне" людзям? У жыцьці кожнага народа ёсьць традыцыя, маральныя нормы, якіх прытрымліваецца хрысьціянскі (і ня толькі хрысьціянскі) сьвет тысячагоддзямі. Існуюць, на жаль, і збачэнцы. Але навошта пра збочанасьць – усім падрад, у тым ліку і дзецям? Навошта ўсхваляць ненармальнасьць? Каб хутчэй памножыць яе? Так ажыцьцяўляецца замбаваньне насельніцтва на зло.

Каб пераканаць гледачоў, што зло „ёсьць норма", расейцы спасылаюцца на „братоў"-мусульманаў. Прыводзіцца яшчэ й прыклад, як руская дзяўчына, закахаўшыся ў Махмуда, сьведама стала трэцяй ягонай жонкай, дзе жонкі – „сёстры" і ўсе дружаць.

Цікава, што калі тыя ж „браты"-мусульмане прыяжджаюць у іхную Маскву, іх там называюць ужо не „братамі", а зусім па-іншаму. Гэта ведаюць усе, таму ў „брацкія" адносіны Расеі да іншых наўрад ці хто верыць. Адсюль і фальш: кажуць адно, на справе іншае.

Эстрада, якая зараз запоўніла ўсе дзіры ў эфіры, вульгарна дэманструе самыя нізкія „пачуцьці", што іхныя песьні (тыпу *„я беременна, но это временно"*), што так званы гумар. Пра што ж жартуюць расейцы? Тут, на жаль, стаўка таксама на самыя нізкія чалавечыя праявы. І збачэнцаў не забываюць „укручваць" у кола абмеркаваньня расейскіх праблемаў. І ня рэдка гэткія „артысты" чапляюць на сябе хрысьціянскі крыж. Зьявіліся нават „зоркі"-збачэнцы, і ім – пляскаюць у далонькі, слухаюць іхныя публічныя пошла-юрлівыя і ненармальныя разважаньні. І забываюцца, што такія тэмы ў культурным хрысьціянскім сьвеце маюць табу, забарону. Бо гэта – маральнае дно. Гразь не павінна мець нічога агульнага з нармальным чалавечым жыцьцём.

Раней адной з функцыяў сьмеху была задача адмаўленьня і зьнішчэньня нэгатыўнай зьявы. Зараз наадварот: сьмех мае падтэкст апраўданьня зла, тое што брыдкае, тое, маўляў, – „добра”, „во даёт”, „малайчына” і г.д. Удумаемся толькі ў адны назвы іхных „ток-шоу”. Напрыклад, „Без комплексаў”. Пра што тут гавораць? Як пазбавіцца ад неадэкватных комплексаў? Бывае і такая гаворка, але часьцей іншая, галоўным чынам – як стаць бессаромнымі, як згубіць сумленьне і сорам, як здраджваць мужу (жонцы), каб усё было „ціха”; як дамагчыся посьпеху ў жыцьці (любым без выключэньня, спосабам, маўляў, „ня трэба саромецца, жывём адзін раз”); як дзяўчыне стаць разбэшчанай (па іхнай тэрміналёгіі, „сэксуальнай”); ці патрэбнае сумленьне жанчыне (!). У перадачы можна пачуць што заўгодна, нават што і сумленьне – рэч не абавязковая.

Вядучая (вульгарная „зорка” расейскай эстрады) стварае ў эфіры вобраз гэтакай багемна-паблажлівай кабеты, добрай да ўсіх. Прыходзіць прыстойны чалавек на перадачу – яна да яго добрая, ветлівая. Прыходзіць збачэнец ці проста дурань, які прапагандуе сваю неразьвітасьць, глупства ці вычварэнства – яна такая ж аб’ектыўная і прыветная да яго. Так званая „бесхрыбетная” дабрыня: да дабра і да зла. „Паліткарэктнасьць” да брыдоты. І што, гэта трэба глядзець і засьмечваць галаву ўсялякім глупствам і безгустоўшчынай?!

„Я всю жизнь хочу одного мужчину”, „мой четвертый муж такой... ”, „я изменяла мужьям”, – гэтыя цытаты з рэплік вядучай гавораць самы за сябе, павінны гаварыць! Яе мова – грубая і разьвязная (кшталту „плевать я хотела”). А між тым гэтая вядучая ў лютым 2006 г. заваявала нейкі прыз сімпатыяў расейскіх гледачоў, у яе вялікі „рэйтынг”.

Тут жа да паслугаў аўтара перадачы (і вядучай) – псіхолягі. Цытата з „псіхоляга”: „В жизни самое главное – секс”; „У меня было много жен”. І вядучая называе яго „інтэлегентным” і „выхаваным” чалавекам.

Яшчэ адна назва ток-шоу: „Пусть говорят”. І гавораць, пра што толькі ні гавораць... Пра цяжарнасьць у 11 год і ў абарону такой „сям’і” (добры прыклад для ўзору).

Гаданьні, чорная магія, Кашпіроўскі і г.д. – і ўсё гэта ў эфіры кожны дзень. А гэтага ж усяго лібэральнага бруду не павінна быць зусім, бо вядзе – ў цемру і зло. Іншых перадач (пра сьветлае, чыстае, пра чалавечае) – зусім няшмат.

Адзін прыклад, так званы „станоўчы”. Перадача-спаборніцтва старэйшых школьнікаў „Умники и умницы”, дзе пераможцу залічваюць на першы курс МГІМО. Вядучы пытае пераможцу (дарэчы, беларускага хлапца): „Вы человек упрямый?” Пераможца адказвае „так”.

Выглядае, што паняцьце „упрямый” – станоўчае. Так блытаюцца словы, паняцьці, а ў выніку – блытаюцца думкі і лад жыцьця.

А вось як „арыгінальна” падаецца інфармацыя пра сапраўды страшную хваробу „птушыны грып”. Каб зьберагчы чалавека ад віруса, зьнішчаюць сотні тысяч птушак (і жывёлу). Напэўна, у гэтым ёсьць лёгіка. Але чаму гэта ўсё зьнішчэньне дэманструецца на ТБ? Каб атруціць чалавека жорсткасьцю, каб на мёртвую жывёлу глядзець прывыклі як да нормы? І для „карцінкі” на расейскім ТБ ніякага табу не існуе? Паказваючы ўсё гэта па сваіх каналах, расейцы ўплываюць на сьвядомасьць усіх, хто іх глядзіць: і ў Расеі, і на Беларусі, і па ўсім сьвеце.

Пасьля ўсяго ўбачанага як ня выказацца ў абарону маральнай цэнзуры, якая б сталася хоць нейкай перашкодай для расейскай разбэшчанасьці і яе атруты на Беларусі.

Хочацца думаць і верыць, што чыстасьць-чысьціня, прыстойнасьць ня зьнікнуць з жыцьця. Але для гэтага трэба памятаць: нельга капацца ў брудзе і гразі, бо гразь абавязкова наліпне. Гразь трэба абыходзіць.

Дрэнь усталявалася найперш у заходнім тэлебачаньні. І адсюль якраз (са спэцыяльных праграмаў) перакінулася ў Расею, дзе запанавала паўсюдна. Расейцы пераўзышлі ў гэтым ўсё і ўсіх. Ня гледзячы на пранцыповую даступнасьць, беларусы, наколькі мне вядома, заходняе тэлебачаньне глядзяць ня часта, але затое расейскае – запаланіла эфір. У гэтым і небясьпека, і ненармальнасьць, калі тэлебачаньне і інфармацыя чужой краіны масава ўплывае на думкі і ўражаньні нашых беларускіх гледачоў.

Многія могуць сказаць, што беларускае тэлебачаньне яшчэ горшае. Так і ня так, бо яно не бела-

рускае, яно ў нас антыбеларускае, прамаскоўскае, па характару акупанцкае, і акупант зацікаўлены, каб у нас было яшчэ горай.

У гэтым годзе праходзіў саміт „вялікай васьмёркі” ў Санкт-Пецярбургу. Шмат было рэклямы пра „магутную” (не п’яную, не крымінальную, не кілерскую, не гэбоўскую, як на справе) Расею, і ўжо зусім сьмешна было слухаць, калі іхны кіраўнік гаварыў пра адвечную „талерантнасьць” Расеі ў адносінах да іншых народаў. (Гэта ж трэба дадумацца!) Расейскія прапагандысты, відаць, спадзяюцца на тое, што шмат людзей верыць таму, што кажуць у „тэлевізары”. (Няважна што кажуць, але калі ў тэлевізары, то праўда.) Аднак ніколі нельга забывацца, як тая Расея зьнішчала і зьнішчае іншыя народы, як высакамерна, грэбліва і непаважліва ставіцца да малалікіх народаў (напрыклад, да чукчаў, комі, калмыкаў), як яна зьнішчае Чачэнію, як азлоблена і нецярпіма ставіцца сёньня да незалежнай Украіны і Грузіі, якую агрэсіўную і анэксійную палітыку праводзіць у дачыненьні да нашай Беларусі.

Пра гэта трэба памятаць і не ўспрымаць чужую інфармацыйную агрэсію і хлусьню. Некалі эстонцы ў савецкай Эстоніі ніколі не глядзелі расейскае тэлебачаньне. Яны глядзелі толькі сваё – Талін ды яшчэ Гэльсінкі. Гэта засьцерагала іх ад савецкай атруты. У нас жа цяпер культуралячгічная бяда. Бо свайго нацыянальнага беларускага тэлебачаньня ўжо няма. Але прыйдзе час – стане вольная Беларусь і зьявіцца беларускае тэлебачаньне, дзе будуць паважаць сумленных людзей, беларускую мову, нацыянальную культуру і Беларускі народ.

***Галіна Пазьняк***

*2006 г., Нью-Ёрк*
*Надрукавана: („Беларус”,–2007, студзень, № 528)*

# ТВОР, ЯКІ ЎЗВЫШАЕ ДУХ

***(Уражаньні ад лірыкі і паэмы ЗЯНОНА „Вялікае Княства”)***



У самым канцы 2005 г. у Варшаве (выданьне *„Беларускіх Ведамасьцяў”* і *„Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве”)* выйшла ў сьвет кніга ЗЯНОНА ***„Вялікае Княства”*** *(паэма, фатаграфіі і вершы)*. Ёй папярэднічала сігнальнае выданьне паэмы ў Нью Ёрку. Паэма была надрукавана таксама ў часопісе *„Дзеяслоў”*. І вось зараз мы трымаем у руках асобнае выданьне паэмы, разам з паэтычным цыклам *„Вялікае Княства”,* ілюстраванае мастацкімі фатаграфіямі аўтара.

Пачынае паэму эпіграф з трох вершаў, тэмы якіх – „беларускі сьвет”, „цяжкі шлях” і „белы рыцар” – увасабленьне надзеі на сьветлую будучыню.

*– Не спыняйся. Ідзі, –*
*Сказаў мне белы рыцар. –*
*Тваё поле – шлях.*
*Як спынішся –*
*Вырасьце лес на шляху.*
*Сказаў – і прышпорыў каня.*

Падзеі паэмы ахопліваюць часы з XVII па XXI стагоддзі. Аб’ядноўвае такі вялікі гістарычны пэрыяд (300 год) вобраз галоўнага героя Зянона. Душа Зянона і там, у XVII стагоддзі, і ў XX-м, і нават ў XXI-м. Яна ахоплівае стагоддзі і ўвасабляе хрысьціянскую ідэю вечнасьці чалавечай душы. Чытач разам з героем як бы адначасна прысутнічае і ў мінулым, і ў сучасным. Аўтар паказвае беларускае жыцьцё і беларускі характар, раздумляе над зьместам яго існаваньня.

Паэма *„Вялікае Княства”* – ня проста пра падзеі часоў упадку ВКЛ і „сучаснасьць.” Гэта твор пра лёс нашай Літвы-Беларусі ў стагоддзях. Гэта мастацкае асэнсаваньне велічы Беларускага Духа і прычынаў яго заняпаду. Героі паэмы XVII-га стагоддзя – гэта, па сутнасьці, мы, сёньняшнія, бо мы лёгка пазнаём у Любчы – сучасную беларускую дзяўчыну (мастацкае пацьвярджэньне таму – знарочыстыя матывы лірыкі Янкі Купалы ў аўтарскіх лірычных клаўзулах); Мар’янна-Мальвіна – гэта шмат у чым сучасныя беларускія кабеты (зь іхняй адкрытасьцю і шчырасьцю, „шырокай душой”, дабрынёй, гасьціннасьцю, вясёлым норавам).

Тое ж можна сказаць і пра Шацілу, Патрэбу і г.д. Героі 2-й часткі *„Зямля”* Яўхім, Ян, Стаська, Фэля, Ганна – гэта іхны працяг у стагоддзях. Гэта „адна парода”, „адна костка”, адзіны Беларускі Дух у розны гістарычны пэрыяд. Ёсьць, на жаль, працяг у сучаснасьці і вобраза Пятрука, прадстаўніка нялепшага кшталту людзей.

Над усім творам і яго вобразамі ўзвышаецца **аўтар** паэмы ЗЯНОН. Гэта рэальны чалавек, пісьменьнік-паэт, які мае пэўны жыцьцёвы і мастацкі вопыт. Ён зьяўляецца аўтарам ня толькі *„Вялікага Княства”*, але і *„Глёрыі Патрыі”*, і іншых лірычных твораў.

Падзеі ў паэме падаюцца ад *„я”* героя паэмы Зянона і ад *„я”* **Аўтара-апавядальніка**, які зьяўляецца (як і іншыя героі) мастацкім лірычным вобразам паэмы. Аўтар-апавядальнік „дзейнічае” ўнутры паэмы, ў структуры мастацкага твора, ён зьяўляецца сьведкам падзеяў, разважае, выказвае свае думкі-пачуцьці (і гэтым ён адрозьніваецца ад аўтара-паэта, хоць, у пэўнай ступені, гэтыя разьмежаваньні даволі тонкія).

Герой паэмы Зянон – малады (*„ Агонь”* – XVII стагоддзе) і сталы чалавек-барацьбіт (*„ Трэці круг”* – XX і XXI стагоддзі). „Сталы” Зянон (дзякуючы несьмяротнай душы чалавечай) памятае ўсё, што адбывалася зь ім у XVII стагоддзі. Час (300 год) як бы сьціскаецца і ўспрымаецца як адно доўгае жыцьцё (тое, мінулае, так блізка, гэта нашае „ўчора”). Становіцца відавочна: мы, сёньняшнія беларусы, такія ж, як і 300 год таму. І, каб перайначыць нашае сёньняшняе цяжкое жыцьцё, мы павінны „разглядзець” крыніцу нашай сёньняшняй нацыянальнай бяды, якая бярэ пачатак там, у глыбіні стагоддзяў.

Імёны **аўтара-паэта**, **Аўтара-апавядальніка** (лірычнага вобраза паэмы), і галоўнага героя паэмы супадаюць. Той, хто напісаў паэму, яе **аўтар**, як і вобраз **Аўтара-апавядальніка** – Зянон. Герой паэмы таксама – Зянон, мастацкі вобраз, такі ж, як і Шаціла, Патрэба, Любча і г.д. Усе названыя героі „дзейнічаюць” унутры і ў межах канкрэтнага твора *„ Вялікае Княства”* і ў канкрэтнай эпосе, „разьвіваюцца” па законах літаратурнага роду і жанру эпічнай паэмы.

Мы разумеем, што гэта розныя „мастацкія аб’екты” (розныя Зяноны) і супадзеньне, безумоўна, не выпадковае. Тут свая мастацкая задача, якой падпарадкоўваецца ўсё ў творы.

Часам гэтыя галасы (Аўтара і Зянона) зьліваюцца і становяцца адным цэлым, як адзіная Душа.

*Не магу забыць з прадвесьня,*
*Трыста годзікаў мінула,*
*Любчу мілу, польны песьні,*
*Млын старога вайдэлёта...*

У такой пабудове твора лягічна „сумяшчаюцца” і часы (XVII, XX і XXI стагоддзі). Мы разам з Аўтарам як бы адначасна прысутнічаем і ў мінулым, і ў сучасным, зьяўляемся сьведкамі трансцэндэнтнага дзеяньня.

Супадзеньне імёнаў аўтара паэмы, Аўтара як мастацкага вобраза і героя паэмы спрыяюць стварэньню адзінай „сімфоніі часу”. Рэальнае і мастацкае (прыдуманае) „перамешваецца”, і ўтвараецца адзіная вобразная карціна беларускага жыцьця ў стагоддзях, пакутная, якая руйнуецца амаль да шчэнту, але неверагодным чынам адраджаецца зноў і зноў.

Колькі „кругоў” руйнаваньня-адраджэньня павінна прайсьці Беларуская Душа, каб адрадзіцца навечна? Ці згінуць? Што неабходна пераадолець нашай нацыі, каб адрадзіцца – галоўная мастацкая праблема твора.

Героі паэмы „зьвязаныя” праз стагоддзі. Рэальна ажыцьцявіць гэтую „зьвязку” і дапамагае галоўны герой Зянон, ягоная душа, якая не зьнікае са сьмерцю „ў нікуды”. Яна вяртаецца па Боскай Волі, яна прадаўжае жыць і ў XX-м, і ў XXI-м стагоддзях. У канцы паэмы рамкі твора як бы зьнікаюць і зьліваюцца з рэальнай біяграфіяй рэальнага чалавека.

Паэма ня толькі прадаўжае традыцыю беларускай літаратуры, але і зьяўляецца творам наватарскім, асабліва ў распрацоўцы хрысьціянскіх ідэяў мастацкімі сродкамі. Галоўны герой паэмы Зянон – гэта, фактычна, Душа беларускага народа, адзіная ва ўсіх стагоддзях.

* * *

Надзвычай апраўданая кампазыцыя паэмы. Яна пацьвярджае вядомую ісьціну: нельга зразумець сучаснасьць і асягнуць будучыню, ня зьведаўшы мінулае. Творчае „дасьледваньне” сучаснага бядотнага стану Беларусі аўтар пачынае з мастацкага аналізу мінулага, прычынаў заняпаду магутнага, ад мора да мора, Вялікага Княства Літоўскага. Ня зьведаўшы гісторыю гібелі маладога, адданага Бацькаўшыне Зянона *(„ Агонь”)*, цяжка зразумець трагічны лёс Яўхіма, Стаські і ўсіх іншых пазьнейшых высакародных і прыгожых беларусаў. Бо і Зянон *(„ Агонь”)*, і Яўхім, Стаська, Фэля, Ганна *(„ Зямля”, „ Трэці круг”)* „уладкавацца” ў жыцьці асобна ад народнага лёсу ня могуць. Яны абавязкова падзяляюць лёс свайго народа, народа ўнікальнага, асаблівага ў сьвеце, сьціплага і высакароднага, гасьціннага, гаспадарлівага і трагічнага. Паэма пераканаўча ўвасобіла гэтую думку.

Гэты закон жыцьця, як наканаваньне лёсу, што павінны ўсьведамляць сёньняшнія беларусы, бо ў нас застаўся выбар толькі паміж здрадай Бацькаўшчыне, адрачэньнем ад яе, пошукам індывідуальнага шчасьця, альбо – змаганьне. Каб стаць шчасьлівымі асабіста, трэба змагацца за Беларусь

без акупантаў, за вольную Беларусь – такі выбар дае нам час, наша гісторыя, і паэма напісана пра гэта.

Мастацкае ўвасабленьне ідэі ўражвае. Мы захапляемся героямі паэмы, любім іх, блізка да сэрца прымаем іхны асабісты лёс. І бунтуецца кроў ад несправядлівасьці абставінаў іхнага жыцьця. Паэма падымае наш Дух на змаганьне.

* * *

Першая частка *(„Агонь")* пераносіць нас у цяжкі пэрыяд гісторыі Вялікага Княства Літоўскага – пэрыяд *Патопу* – крывавай і вынішчальнай беларуска-расейскай вайны сярэдзіны XVII-га стагоддзя і маскоўскага генацыду беларускага насельніцтва. Аўтар малюе разгорнутую карціну беларускага жыцьця, аналізуе прычыны дзяржаўнага заняпаду.

Мы знаёмімся з сапраўднай беларускай шляхтай, іхнымі думкамі, складам розуму, інтарэсамі. Яны жывуць на багатай зямлі (лясы, рэкі, жывёльны сьвет) і ўмеюць гаспадарыць на ёй. Тут усё родзіць, „вядзецца", „сакоча", расьце і буяе. Тут усё гаворыць за гаспадара („хата-веліката", пуня, лазьня, студня, склеп і г.д.). Спадарства Шацілаў і Патрэбаў – гэта людзі шырокай душы. Яны прагнуць прыгажосьці:

*Пасьпяваем разам дружна,*
*Каб гучэла ўся акружна.*

І песьні іхныя – незвычайны скарб духоўнай культуры беларускага народа *(разьдзел „Трабы")*.

Гэтыя людзі па-беларуску гасьцінныя і хлебасольныя, багатыя матэрыяльна і духоўна, гарманічныя ў сямейных адносінах (Шаціла-Мальвіна; Патрэба-Мар'янна-Любча). Услухаемся ў іхныя размовы. Што ўваходзіць у кола іхных інтарэсаў?

Найперш – гэта патрыёты сваёй зямлі: і Зянон (найдаражэй для якога – родны край, за які *„іду я першы"*), і сям'я шляхціча Шацілы, у якога гасьцюе Зянон, і спадарства Патрэбаў. Іх усіх найперш цікавіць лёс Бацькаўшчыны, якая церпіць ад варварскіх набегаў з усходу.

* * *

Пра трагічную гісторыю ВКЛ мы даведваемся на прыкладзе беларускага мястэчка Суботнікі (дзе нарадзіўся аўтар і 300 год таму яго герой Зянон). Мы бачым карціну поўнага зьнішчэньня мястэчка ў XVII стагоддзі ў выніку навалы ўсходніх ворагаў.

Стаяў тут калісьці і стары млын – сапраўдная крэпасьць, які пры небясьпецы мог схаваць усё мястэчка. Пазьней Суботнікі адрадзіліся ўжо на правым узьбярэжжы Гаўі. Збудавалі і новы млын. Аўтар добра памятае гэты новы млын, які *„закрануў маё дзяцінства"*.

Але вернемся да маладога героя паэмы, які на шляху з Геранёнаў ў Трабы (едзе за ваеннай падмогай да Патрэбы). Зянон гатовы гнаць рабавальнікаў з роднай зямлі,

*Што гайсалі ў навакольлі*
*І пускалі вёскі з дымам,*
*Насьлядуючы ардынам.*
*Ўсіх ліцьвінаў забівалі,*
*Літву нашу руйнавалі.*

*(„Мястэчка")*

Ягоны конь рвануўся ў дарогу – і нечакана спатыкнуўся. Па народных назіраньнях, гэта дрэнная прыкмета, а ў мастацкім творы (дзе кожная дэталь мае значэньне) – тым больш. І мы, чытачы, ужо ў прадчуваньні бяды.

Па дарозе ў Трабы Зянон марыць убачыць Любчу – і сам саромеецца сваёй радасьці.

*Не да твару мая радасьць,*
*Калі тут маскаль вірує*
*І народ мой тартурує*

*(„Мястэчка")*

У далейшых развагах Зянона раскрываецца сутнасьць моцнай дзяржавы: праблема народнага духа *(„Ці душа твая самлела?")*; праблема палітычнай сістэмы *(„Мо зашмат ты мела волі?")*; праблема ўлады *(„Трэба Князя падымаці")*; праблема адносінаў да ўлады *(„І ўладу ў грош ня ставіць")* і моцнага войска *(„Трэба множыць сілу збройну")*.

*О, Вяліка наша Княства!*
*Ці ўжо ты ў нас паслабела?*

*Ці душа твая самлела?*
*Мо' зашмат ты мела волі?*
*Кожны сам сабе пануе,*
*Кожны дурань галасуе,*
*Кожны пан – сабе за князя,*
*І ўладу ў грош ня ставіць.*
*Сам сабою хоча правіць.*
*Скуль жа будзе тая сіла?*
*Пакарае нас магіла.*
*Трэба Князя падымаці,*
*Каб мог Княствам кіраваці.*
*Трэба множыць сілу збройну...*

*(„Мястэчка")*

З гэтымі разважаньнямі Зянон пад'язджае да Суботнікаў. Тут цікава паназіраць за лірычным складам думак Зянона (XVII стагоддзе), які выяўляе стыль думаньня маладой патрыятычнай шляхты ў час народнай бяды, калі ўсё простае становіцца значным, усё звыклае – дарагім і ўсё дарагое – шчыміць.

*Разважаючы ў міжчасе,*
*Да Суботнік пад'язджаю.*
*На мястэчка пазіраю.*
*На высокім берагвіску*
*Тут мястэчка, як цацуля.*
*Спамінаю, як калісьці*
*У касьцёлік сярод лісьця*
*Прывяла мяне матуля.*
*Чую гукі клавесіна*
*І касьцельны хор няроўны.*
*І зямная небасіня*
*За сьцяною мілюжыцца,*
*І няўлоўны ветрык вее*
*Пералётны із-за жыта,*
*Як далёкі сьпеў народны,*
*Дзе душа мая адкрыта...*

*(„Мястэчка")*

Далей – жудасныя карціны маскоўскага вынішчэньня. Усё палае. Але беларусы-ліцьвіны гуртуюцца, пачуўшы пра ворага, кідаюць усё, зьбіраюцца разам на плошчы і прымаюць агульнае рашэньне: ратуюць жанчын, старых людзей, дзяцей і скаціну ў балоце, а ворага гоняць прэч.

Патрыётаў у Літве ня мала. Вось і геранёнскі каштэлян, пачуўшы пра варожыя напады, рэагуе імгненна:

*Сплюшчыць падлаў!*
*Здрузгатаць іх, як капусту!*
*Усю маскоўскую распусту!*

*(„Мястэчка")*

Ён разумее, што „мусім сілу аб'яднаці". А вось шляхта – разьяднаная.

Праязджаючы Раманы, Трабы, Аўтар малюе цудоўныя ліцьвінскія землі, дзе прыгажосьць краю гарманічна спалучаецца з багацьцем і гаспадарнасьцю яго жыхароў. Аўтар любуецца роднымі краявідамі.

*Ўнізе тут Клява уецца,*
*Млын, ставок, касьцёлік файны,*
*І дагледжаны, і дбайны,*
*Па дарозе із Суботнік*
*(Дзе радзіўся я, гаротнік).*

*(„Трабы")*

Гэтыя мясьціны аднолькава дарагія і маладому ваяру Зянону, і Аўтару. Тут *„я"* Аўтара зліваецца зь *„я"* ягонага героя Зянона. Іх хвалююць адны пытаньні: *„Чаму маскаль усё зьнішчае?"* І калі малады герой Зянон не знаходзіць адказу *(„Адказу ў тым сабе ня бачу")*, у Аўтара адказ ёсьць: *„Напэўна, у гэтым іх прырода..."*

*(„Трабы")*

Ня гледзячы на вестку, што *„ўжо пабіты маскавіты"*, Патрэба разумее, што маскву неабходна гнаць далей. Патрэбна падтрымка войта Паставойта з Гальшанаў.

А пакуль Зянон – госьць у Патрэбы, добрага і гасьціннага гаспадара. Ён каштэлян трабскага замку, у якім яго сям'я знаходзіцца часова, бо масква ў навакольлі, і трэба ваяваць. Замак прыгожы і моцны, вялікая вежа, *„двайным зрубам збудавана"*, шырокая заля, вялікая печ, сталы з дубу, крэпкія лавы. І Патрэбіха Мар'янна такая ж гасьцінная, як і Шаціліха Мальвіна.

Тут за сталом яны разважаюць пра тыя самыя агульныя праблемы еднасьці дзяржавы, веры, на-



*80. Летні спакой Гаўі. (1959 г.). (З кнігі „Вялікае Княства”)*

роднага адзінства, пра прычыны агульнай бяды *(„Нейка трасца ды халера У народзе гэтым ходзіць”)*. І ў Бога вераць, а

*Тацю дзьверы адчыняюць,*
*Родну матку зьневажаюць,*
*Што ня так іх гадавала...*
*Дык якое ж тут адзінства.*

*(„Трабы”)*

Гутарка Патрэбы і Зянона аб лёсе свайго краю і народу, аб разуменьні і адносінах да паняцьця свабоды прымушае чытача шмат над чым паразважаць. А жартаўлівы аповяд Патрэбы „пра гавечак” мае на мэце ўзбудзіць у чытача натуральны пратэст і нязгоду, як у Мар’янны *(„Ну, мы, мой пане, не гавечкі”)*.

Асобнай гаворкі заслугоўваюць песьні, якія сьпяваюць за сталом у Патрэбы. Старажытныя беларускія песьні-шэдэўры, у якіх выяўляецца незвычайная вышыня і хараство народнага духа, яго высокая хрысьціянская культура, яго ваярскі патрыятычны дух, яго шчырасьць, глыбіня пачуцьцяў. Такія песьні маглі нарадзіцца толькі ў вялікім магутным народзе. Яны яднаюць душы герояў паэмы, узвышаюць іх, і чытацкае ўспрыняцьце дасягае эмацыйнага ўсплеску.

Балючым дысанансам успрымаецца вестка, што падмогі з Гальшанаў ня будзе, бо Пуставойт сам баіцца аблогі. (Вось і загучэў матыў векавой беларускай бяды.) Патрэба абураны: *„Варага шукаці трэба, Забіваці яго ў стойле, Не тады, як нас пяройме!”*

*(„Мілюці”)*

Словы Патрэбы – гэта прыклад актыўнага ваярскага і дзяржаўнага думаньня.

* * *

Уяўляючы прыгажосьць беларускіх краявідаў *(„Мілюці”)*, чытач добра разумее Аўтара, які так востра адчувае любоў да кожнага роднага каменя, кожнай роднай галінкі, рэчкі ці луга. Псіхалягічна гэта вельмі дакладна, бо ў час агульнай бяды пачуцьці абвостраныя, успрыняцьце схільнае да сымволікі.

Гаворка Зянона і Патрэбы пра каханьне выяўляе звычайны погляд беларусаў на чалавечы гонар. Спачатку жартаўлівая гаворка пра каханьне скіроўваецца потым на больш высокі ўзровень і пераходзіць у абагульненьне беларускага нацыянальнага характару. Тут выяўляецца традыцыйны шляхецкі падыход да сутнасьці чалавечага жыцьця.

Што ж для шляхціча-беларуса ёсьць вышэйшай цнотай *(„што каралеўства пераважыць”, „жыцьця бывае не шкадуе”)*? Менавіта чалавечы гонар і годнасьць вызначаюць субяседнікі як найвышэйшую цноту для беларуса:

*У шляхты гэта ўсё адвеку,*
*Ад продкаў нашых засталося.*
*...Каб гонар за жыцьцё аддаць,*
*Не дазваляе наша існасьць.*

*(„Мілюці”)*

І зусім іншы падыход вызначаюць суразмоўцы ва ўсходніх суседзяў, які істотна адрозьніваецца ад беларускай традыцыі. Усходні сусед – варвар і вораг. Паняцьце высакародства і духоўнасьці тут не існуе.

*Для маскаля – жыцьцё бліжэй,*
*Жыцьцё ў маскоўцаў найвышэй...*

Цікава, што ў працяг гаворкі словы *(„Найвышшым кодэксам мужчыны Павінна стаць жыцьцё Айчыны”)* выказвае маладая шляхцянка Любча. І мы ўспрымаем гэтыя словы менавіта як традыцыйны шляхецкі сьветапогляд, а не выключна „мужчынскую” думку. Шляхцянка Любча гатовая змагацца мечам разам з мужчынамі за свабоду сваёй Айчыны. (Гэты беларускі характар нашых любчаў надалей своеасабліва трансфармуецца, калі ў выніку зьнішчальных пэрманэнтных войнаў за беларускія землі і ў выніку генацыду пакаленьне за пакаленьнем лепшых, дужых, моцных, высакародных беларускіх мужчынаў палягуць у нашу сьвятую зямлю, абараняючы яе, а пазьней будуць зьнішчаныя ў шматлікіх Курапатах. Тады ў беларускай нацыі адбудуцца вымушаная перамены. Значны цяжар жыцьця пад векавой акупацыяй, асабліва за савецкім пасьляваенным часам, возьмуць на свае плечы беларускія жанчыны.)

*О, гэй, о, гэй! Мой конік сівы.*
*Гоп-гоп! Гоп-гоп! Мой белагрывы, –*
*І Любча коніка – галопам.*

*(„Мілюці”)*

Вытокі разважаньняў шляхціча Патрэбы і Зянона пра каханьне, „аб таямнічасьці жанчыны” – ў хрысьціянскай традыцыі *(„І са сьвятым пісаньнем згодна”)*.

У паэме мы знойдзем шмат глыбокіх думак, якія стануць сур’ёзнай нагодай паразважаць. Напрыклад, Патрэба кажа:

*Жана такая, брат, як зробіш.*
*Папусьціш лейцы – ўсё угробіш...*

*(„Мілюці”)*

Гэтая думка ня мае нічога агульнага з жаданьнем груба „зламаць” жаночы характар: *„Дык Бог сказаў жану кахаць.”* Але каханьне, з боку гледжаньня Аўтара, мае на ўвазе і вялікую духоўную працу, а захаваньне пачуцьцяў моцна зьвязана з захаваньнем хрысьціянскай традыцыі. Крыніца гэтых думак-перакананьняў для герояў паэмы – Сьвятое Пісаньне.

Чытаючы апісаньне фальваркавай сядзібы і акаляючага асяроддзя ў Мілюцях, нас зноў ахоплівае радаснае захапленьне. Усё тут упарадкавана і прыгожа. І раптам – баба лемантуе. Але гэта зусім іншая сварка, чым тая, што была завезена на Беларусь з усходу. Беларускія словы ёмкія, з шырокімі параўнаньнямі, часам сьмешныя, але ў іх няма ніякага бруду.

*Ах ты дурында, ты чурыла,*
*Ты шпуня, дрыньдзя ты, абрубак,*
*Ты шмуля, гнюздала, ты цюпа!*
*Каб ты ўжо спух, ты курашчупа!*
*Каб цябе сплюндрыла, халера!..*

*(„Мілюці”)*

Сварыцца Міхаліна моцна, словы яе крэпкія, але ж і прычына сур’ёзная: скрадзены мех з салам – галоўнай сялянскай ядой.

Ськіроўваючыся (разам з Зянонам) ў Бычкі на мужчынскую размову са злодзеем, Патрэба не выпадкова загадвае дачцэ Любчы застацца. „Крэпкая” мужчынская размова – не для дзявочых вушэй (і ў гэтым таксама праяўляецца традыцыйны народны падыход да выхаваньня маладой шляхцянкі).

* * *

Напэўна, у кожным нацыянальным характары знойдзецца тое, ад чаго нацыі трэба пазбаўляцца як мага хутчэй. Разьдзел *„Пятрук”* як бы дасьледуе, адкуль і чаму на Беларусі „разьвяліся” пятрукі – людзі без нацыянальнага гонару і годнасьці. Пятрука і шкода: масква спаліла вёску, забіла яго жонку і дзяцей, зьнішчыла ўсю гаспадарку.

Але на прапанову Патрэбы ваяваць, „выганяць маскоўцаў” (каб мець каня, а магчыма, нават шляхту) – той адмаўляецца. Паэтычная паралель зь Янкам Купалам ілюструе працяг шкодных карэньняў пятрукоў ў XX стагоддзе: *„Але як ёсьць гэт’ сьвет вялік, Я ўсё ж мужык, дурны мужык”*.

Далейшыя разважаньні Патрэбы выяўляюць самае істотнае ў народным існаваньні і ў яго захаваньні – гэта моцная шляхта (эліта нацыі, як кажам мы сёньня). Менавіта яна (а не пятрукі) зьяўляецца захавальніцай, абаронцай і нацыі, і Айчыны.

*Як шляхта, пане, упадзе,*
*Літва, напэўна, прападзе...*

*(„Пятрук”)*

І гісторыя яскрава праілюстравала нам, як важна для нацыі выхоўваць нацыянальную эліту (шляхту) – падмурак дзяржаўнасьці, незалежнасьці, моцы і культуры.

* * *

Фальварак у Мілюцях. Усё тут „кіпіць”, „віруе”, *„І дым із коміна ідзе”*. Патрэба разам з Зянонам аглядаюць гаспадарку.

*Усё звычайна, але дбайна,*
*Ёсьць хлеб і ёсьць да хлеба.*

*(„Фальварак”)*

У склепе лядоўня, у ёй сала, кілбасы. Гожа выглядае вяндлярня. Аўтар да драбніц ведае сялянскую гаспадарку, у якой усё „вядзецца”.

І зноў мы бачым, якая гасьцінная беларуская шляхта: усё лепшае – для госьця. І белы ільняны абрус (а гэта значыць – вырашчаны лён, апрацаваны, вытканы на кроснах і выбелены на сонцы), і беларуская нацыянальная страва: гарачыя буракі *(„аж насы заказытала")*, вантрабянка, скваркі, бліны. Стол *„увесь устаўлены начыньнем"*.

Прадмет гаворкі за сталом (як і раней у Трабах) зьвязаны з патрыятычнымі пачуцьцямі. Яны разважаюць пра шчасьце для сапраўднага шляхціча:

*Вышэй сьмерці ставіць гонар*
*Шляхціч польны беларускі.*

*(„Фальварак")*

Таму і для жанчыны ейны жаночы гонар – вышэйшы за сьмерць. Каб падкрэсьліць і ўзмацніць веліч і прыгажосьць беларускай жанчыны, якая скрозь стагоддзі зьяўляецца ўвасабленьнем годнасьці, жаноцкай чысьціні, аўтар зноў выкарыстоўвае прыём літаратурнай паралелі зь Янкам Купалам.

Вельмі важны атрыбут шляхецкага жыцьця Якуба Патрэбы – бібліятэка, ганаровае месца ў якой займае Скарынаўскі *Псалтыр („то на ўсім сьвеце першы друк")*. Тут размаўляюць Зянон і Любча. Іх размова напоўненая сьвятлом, чыстасьцю, высакародным каханьнем.

* * *

Дзякуючы зладжанасьці і апэратыўнасьці ў дзеяньнях шляхты, *„усіх падпальшчыкаў"* каля Трабаў зьнішчылі. Але недалёка варожае недабітае войска, якое ідзе на ўсход. Зянон едзе да Сурвілы спраўдзіць, ці ня ёсьць дзе вораг.

Усюды „галавешкі толькі чадзяць". Далейшае апісаньне падрыхтоўвае чытача да трагічнай разьвязкі: касагор *„пахілы"*, ялаўцы *„як сьвечкі ці манашкі над магілай"*, дарога *„бязьлюдная"*, *„лес і лес"*.

*Тут бязьлюдная дарога,*
*Лес і лес, аж да Суботнік.*
*І вакол – ніякіх вёсак.*
*Ані вестак, ні сьцяжынак,*
*Дзесяць вёрст, як супачынак.*

*(„Апошняя дарога")*

Зьвернем увагу, як нагнятаецца пачуцьцё адзіноты і трывогі. Гэтаму „спрыяюць" і паўтарэньне адмоўных часьціц (*„ані", „ні"*), адмоўны займеньнік *„ніякіх"*, злучнік *„і"*, двойчы паўтораны назоўнік *„лес"* (паўтор узмацняе напругу), выклічнік *„аж"*, змрочнае слова „магіла".

Трывога недарэмная, бо далей „банда руска", якая начавала ў Вайдзілавым млыне, схапіла Зянона і зьдзекваецца зь яго. Герой гіне ў вялікіх мучэньнях. Апошнія яго імгненьні – гэта малітва да Бога і словы любві да роднага краю.

Сьмерць ваяра Зянона – прыклад высокай трагедыі высокага духа. Карціна сьмерці ўспрымаецца надзвычай востра, моцна ўражвае яшчэ і таму, што падаецца ад першай асобы.

*І застаўся я адзін*
*З агнём і Богам, і Зямлёй.*
*...Ужо гарыць маё адзеньне,*
*Палае млын – агню гудзеньне,*
*Якое страшнае гарэньне,*
*Здаецца, дыхаю агнём...*

*І чую ўжо крыві кіпеньне...*
*...Які магутны гул сьвятла,*
*Яно гудзіць, яно гарача,*
*Яно, як гром, грыміць,*
*Яно зьвініць і плача.*
*Ах, гэта ж я крычу,*
*Мне сэрца ў горле скача,*
*Мне боль карожа,*
*Душа ня можа,*
*Божа...*

*(„Апошняя дарога", „Сьмерць")*

І далей – моцны і выразны вобраз-параўнаньне: „сьвет" – „ссохлы ліст", „берасьценьне".

*Скруціўся сьвет – адно імгненьне,*
*Як ссохлы ліст, як берасьценьне.*
*І я ўнутры той берасьцені,*
*Нібы з замковых сутарэньняў,*
*Лячу да дзіўнага сьвятла.*

*(„Сьмерць")*

Душа героя адлятае ад цела, і Анёл раскрывае перад ёй (душой) цяжкія карціны разбурэньня

Літвы. Гэта сумны агляд „сьціснутай” гісторыі Бацькаўшчыны.

*Зыходзіць лецейка па леце,*
*Ў зямлі нас болей, чым на сьвеце.*
*Там, дзе прайшла арда маскоўска,*
*Там дым і рэзь, дарога коўзка,*
*Кроў крывянее пад капыцьцем.*

*(„Анёл”)*

Душа Зянона бачыць прыклады ліцьвінскага высакародзтва *(„Палоняць войска маскалёўска І зь мірам іх дамоў пускаюць”)* і разумее нашыя гістарычныя памылкі *(„Хто ж гэтак з варварам ваюе”).*

Увасоблены ў мастацкую форму ліст рускага ваяводы Трубецкога да цара адпавядае гістарычнай праўдзе і зьяўляецца дамінантай жорсткасьці і цынізму ўсходняга ворага Літвы.

Далей Анёл раскрывае будучую „гісторыю” перад душой Зянона (пра заняпад Княства, пра тое, што наш ліцьвінскі скарб (Вільня) будзе прыўлашчаны жмудзьдзю). Пры гэтым Анёл выказвае вельмі важныя сьветапоглядныя хрысьціянскія думкі аб вечным жыцьці душы і ад чаго залежыць яе „вышыня”: душа чалавека павінна ўдасканальвацца на зямлі, ведаць Божыя запаведзі і жыць па іх.

*Хто на зямлі аглух, асьлеп,*
*Мадзеў, як мокры курасьлеп...*
*...Той тут ня стане лепей бачыць.*
*І колькі ты яго ня чысьці,*
*Чарта на бела не адчысьціш.*
*Для разьвіцьця – зямная доля.*

*(„Анёл”)*

Калі жыць не па Божых законах, дух не разьвіваецца – *„Ён стане целам дыктавацца”.*

Але душу Зянона не цікавіць ні пекла, ні неба.

*Мой народ масква пасекла,*
*Мне баліць мая Літва.*

*(„Анёл”)*

Таму калі душы Зянона зьяўляецца воблік Хрыста, яна моліцца да Яго, каб вярнуцца ў свой гаротны край. І, з Боскае Волі, цуд адбыўся, але своеасаблівым чынам.

* * *

ХХ-е стагоддзе *(частка 2-я, „Зямля”).* Цяжкая беларуская доля ў Яўхіма: працуе на чужыне, ваюе за Расею. Яго ўласны лёс неаддзельны ад лёсу Беларусі, якую *„як палатніну кроілі на мундзіры ды на каптаны”(Р. Барадулін).*

І падзялілі Беларусь якраз, калі Яўхім прыехаў у Суботнікі пагасьціць (1921 г.). Так ён застаўся на „польскай” тэрыторыі. Як кажуць, ні кала, ні двара. У такой сітуацыі ня цяжка ўпасьці ў адчай. Але Яўхім асэнсоўвае сітуацыю, умовы, у якіх ён апынуўся, і яго моцны дух дапамагае выбрацца са, здавалася б, безнадзейнай гаротнай долі, дзякуючы цяжкай працы – дзень і ноч.

*І настала ўсім змаганьне*
*За жыцьцёва выжываньне.*
*Уставалі –яшчэ цёмна –*
*Ўсёй сям’ёй, пакуль ня днела,*
*Шчэ і ў печы не дымела.*
*Карчавалі, высякалі, вырывалі ўсё кустоўе,*
*Усё лазоўе, ялаўцоўе...*

*(„Яўхім”)*

І зямля аддзячыла за цяжкую працу – *„От жа Боскі падарунак”.* Яўхім выбіўся, перамог, збудаваў хатку, разбагацеў, дзякуючы бязлітаснай працы. І ўсё ў яго доме вядзецца і расьце, як спрадвеку ў працавітых беларусаў. І, як спрадвеку, працавіты беларус Яўхім за ўсё ўдзячны Богу і абяцае Боскі дар (зямлю) берагчы.

*Мы яе наноў адродзім,*
*Мы яе ўвысакародзім.*

*(„Яўхім”)*

Толькі гэтае яго цяжкое шчасьце ненадоўга: пачнецца вайна і дом згарыць. І Яўхім зноў застанецца на папялішчы. Лёс Яўхіма Патрэбы – гэта адлюстраваньне лёсу працоўнага беларускага народу. Яўхім моцна працуе, ён любіць сваю зямлю, называе яе „зямелька”. І толькі зноў пачынае выбівацца з адной бядоты, як прыходзіць новая бяда – новыя акупанты і калгасы. Яўхім разумее, што чалавек,

які ня мае сваёй дзяржавы, ня мае і свайго дому. Ён можна разбагацець, але ненадоўга. І ня знойдзе шчасьця, бо потым будзе зноў папялішча і руіны.

Другі дзед Аўтара-апавядальніка Зянона Ян – адраджэнец і антыкамуніст.

*Рух магутны беларускі*
*Захапіў яго зь юнацтва*
*І прымусіў лёсам звацца.*

*(„Ян")*

Ён жыве ў Вільні, выпускае газэту, займаецца палітыкай. Але прышлі бальшавікі і пачалі хапаць беларускіх дзеячоў. Так загінуў дзед Ян: *„Ян пайшоў, пайшоў навечна"*.

Сын Яна Стаська скончыў беларускую гімназію *„І ў палітыку ўскочыў"*. Сутыкнуўшыся з польскім шавінізмам, ён едзе ў Суботнікі (ў „польскай" Вільні жыць беларускаму дзеячу небясьпечна).

Тым часам няма спакою і шчасьця працавітай сям'і Яўхіма. Ад запальнай страляніны расейцаў па Суботніках цалкам згарэў ягоны дом і ўся жыўнасьць. *„Мінула роўна 20 год, І нам ізноў наш круг вярнуўся",* – у роспачы думае Яўхім. Але ўчэпісты жыцьцёвы дух не дае яму загінуць. Выратавальны беларускі звычай – талака – ратуе сям'ю: людзі ўсе разам збудавалі новы дом для яўхімавай сям'і.

Шмат праблемаў беларускага жыцьця закранае аўтар паэмы. Не абыходзіць ён і пытаньне партызаншчыны. Двое рускіх палонных, якія жылі па загаду немцаў у Яўхіма (елі-пілі – анічога не рабілі), вясной сышлі ў лес у „красныя парцізаны", якія займаліся бандытызмам: рабавалі людзей, у тым ліку і Яўхіма. І так тыя партызаны рабавалі сялян, пакуль іх не пастралялі немцы.

Мясцовыя ж прапольскія „белыя" партызаны, („пятрукі"), неўзьлюбілі Стася за беларушчыну. Яны цураюцца таго, што дадзена ім ад нараджэньня Богам – выступаюць супраць свайго, беларускага *(„Беларусь павыдумлялі")* і даносяць на Стася немцам. Гэта ледзь ні каштавала яму жыцьця. Пазьней абалваненыя прапольскія беларусы рашаюць самы забіць Стася.

У разьдзеле *„Вайна"* на прыкладзе вобразаў Нупрэйкі, Пятрука, Гудзя і Фанута адлюстраваная наша векавая бяда і ганьба – вынік 200-гадовай акупацыі, чужой палітыкі і вынішчэньня беларускай нацыі. З пераканаўчай мастацкай сілай аўтар малюе людзей, якімі кіруе ўласная жудасная „зброя" – чалавечая шэрасьць, цемра і невуцтва. Яна (гэтая „зброя") здольная перакруціць увесь сьвет, усё Боскае і чалавечае. Аўтар не засяроджваецца на гэтых страшных вобразах, але трапнымі штрыхамі дакладна малюе іхныя бандыцкія звычкі.

У кароткім дыялёгу (Стась-Нупрэйка) і выяўляецца цемрашальства бандытаў, у галовах якіх усё пераблытана ксяндзоўска-эндэцкай прапагандай. Яны „судзяць" Стаську за „грахі", за тое, што той чытае Купалу *„І ўсім людзям падтыкае"*, што чытае Пушкіна (значыць „камуніст"), што лічыць сябе беларусам. „Беларускія мальцы" ж лічаць, што яны „палякі, толькі просты", гавораць па-беларуску, але не прызнаюць сваё.

Як гэта тыпова для некаторых заблытаных і з пакаленьня ў пакаленьне падманутых, перакручаных беларусаў. Яны ўжо і не беларусы (хоць і зьяўляюцца этнічнымі беларусамі), і ніяк не палякі, і ня ёсьць роўнымі для палякаў, але толькі „хлопамі зэ всходу". Бо нідзе ў сьвеце не паважаюць тых, хто адрокся ад свайго і ператварыўся ў нешта другаснае, нявызначанае і ніякае.

* * *

*„На захад войска паплыло"*, немцы адступаюць. Але беларускія пакуты на тым не канчаюцца. На зьмену нямецкай (пасьля польскай) акупацыі ідзе трэцяя – савецкая.

*Усё ў мястэчку замярло,*
*Паўзло йшчэ горшае мурло.*
*З трывогаю глядзелі ў сьвет –*
*Ізноў маскаль, ізноў савет.*

*(„Фэля")*

Зноў гараць Суботнікі. Яўхім завіхаецца на страсе, спрабуючы ўратаваць хату ад пажару. Разам з Фэляй і Ганнай ён моліцца Богу, каб не дапусьціў „трэцяга круга" – спаленьня немцам, які сьціраваўся да іхнай хаты.

Яшчэ адзін дзівосны вобраз беларускай жанчыны – Фэля. Ня ведаючы, чаго можна прычакаць ад

„незразумелага” немца, яна ўсё ж ідзе ў агарод, дзе схаваўся чужы „неадэкватны” салдат: *„Ты, можа, хворы? Хочаш піць?”*

У гэтых яе дзеяньнях і словах – і практычны розум паводзінаў у час небясьпекі, і ўся душа беларускай кабеты, яе ўсяленская дабрыня, якая адгукаецца на любую бяду чалавека, нават калі ён у вобразе ворага. І хоць вобраз Фэлі мае рэальны прататып, Фэля – гэта і абагулены вобраз беларускага жаночага характару, дзе сьветлыя намеры і дабрыня сэрца пануюць над усім. Ня гледзячы на пагрозу расстрэлу, Фэля, Ганна, местачковыя кабеты кідаюць галодным савецкім палонным яду.

Праз чатыры гады такая ж сітуацыя паўтараецца, толькі зараз палонныя – немцы. Аўтар не выпадкова ўжывае двойчы адзін рэфрэн, які падкрэсьлівае сутнасьць гэтых жанчын:

*І тады Ганулё й Фэля,*
*І кабеты местачковы*
*Хлеба, бульбы набіралі,*
*На дарогу выбягалі*
*І палонным хлеб кідалі...*

*(„Фэля”)*

Паўтораныя двойчы радкі падкрэсьліваюць Боскую міласэрнасьць беларускай кабеты. Іхныя вялікія сэрцы не выбіраюць паміж чужым горам. Няшчасных, сагнаных ў войска салдат, яны шкадуюць. Беларускія жанчыны пакаленьнямі змушаныя былі аддаваць сваіх сыноў у чужое акупацыйнае войска, у іх свой погляд на чужую вайну. Тут ёсьць увасабленьне ідэяў Хрыста ў чалавечай сьведамасьці. Гэтыя радкі кранаюць, прымушаюць задумацца пра сутнасьць міласэрнасьці і зьвяртаюць чытача да Бога.

Нацыянальнае пытаньне для беларуса ўсеабдымнае. Яно цесна зьвязана і з праблемай чалавечага шчасьця. Герой другой часткі паэмы Стаська – сапраўдны сын свайго бацькі Яна. Моцны бе-



***81. Ноч над Гаўёй. (1968 г.). (З кнігі „Вялікае Княства”)***

ларус, які моцна стаіць на зямлі. Як жа ён уяўляе свой уласны шчасьлівы дом разам з каханай Ганнай – дачкой Яўхіма?

Стась і Ганна мараць пра свой дом. Ён будзе такі ж грунтоўны, чысты, поўны ўсяго, як у Яўхіма, бо ёсьць працавітыя рукі, маладосьць і сілы. Мары Стася і Ганны пра ўласны дом чыстыя і сьветлыя. Але *„у гэтай завірусе Ўжо ж ня будзе наша шчасьце, Як ня стане Беларусі”,* – так думаюць закаханыя, і гэтыя думкі Ганны раскрываюць сэнс *„Трэцяга круга”.* Яны хочаць шчасьця, хочаць разбагацець (стаць на ногі). Але дзе – галоўнае пытаньне. І абодва разумеюць, што іхнае шчасьце немагчымае бяз вольнай Бацькаўшчыны, бо зьведалі і польскую, і нямецкую, паспыталі і расейскую акупацыі, калі беларус на сваёй зямлі – і не гаспадар.

*Нас з табой, мой мілы Стасю,*
*За зямельку гэту родну*
*Пакладуць у дол халодны,*
*І за тое, што мы маем,*
*Па Сібіру атрымаем...*

Адзінае выйсьце бачыць для сябе Стась (і гэта ідэйная кульмінацыя паэмы): *„За Беларусь змагацца трэба... Інакш нас доля абміне.”*

Трагізм вобраза Стася раскрываецца ў далейшым, бо, зразумеўшы свой шлях змаганьня, ён вымушаны аддаць сваё жыцьцё за чужыя (не беларускія) інтарэсы і пад чужым акупанцкім сьцягам, а ягоная сьмерць не наблізіла Беларусь да свабоды.

Трагічны вобраз Стася (як і вобраз Яські) адлюстраваў лёс усяго ваеннага пакаленьня. Сотні тысячаў беларусаў, якія змагаліся пад расейскім, польскім, італьянскім, француzкім і іншымі сьцягамі, загінулі, ня ўбачыўшы сваёй Бацькаўшчыны вольнай і незалежнай. У выніку 2-й Сусьветнай вайны Беларусь, страціўшы мільёны жыцьцяў і будучы ў стане пераможцаў, але ня маючы незалежнасьці, страціла нават свае тэрыторыі і гістарычную сталіцу. І ўсе яе ахвяры пайшлі на карысьць злачынцаў, што разьвязалі вайну.

Наступная 3-я частка паэмы *„Трэці круг”* адлюстроўвае беларускае жыцьцё пад савецкай акупацыяй пасьля 2-й Сусьветнай вайны.

Ганна – беларуская кабета з пачуцьцём жаноцкай годнасьці, яна прыгожая і зьнешне, і ўнутрана. Ганна любіць Беларусь і разумее яе бядотны (акупацыйны) стан. Безумоўна, гэта працяг Любчы ў іншых умовах, у іншым асяроддзі і сацыяльным статусе. Гэта той жа, што і Любча, беларускі характар – і цяжкая доля. Трэба разумець, што Яўхім Патрэба – гэта сацыяльна заняпалы працяг таго роду Патрэбаў, што былі ў трабскім замку і ў жылах Ганны ёсьць Любчына кроў. Асноўныя героі 2-й і 3-й частак паэмы – гэта тыя ж людзі (нават Пятрук), што і ў XVII стагоддзі (*„Агонь”),* толькі яны жывуць ўжо ў іншым сьвеце, у які й вярнуўся ваяр Зянон як сын Ганны.

Ганна засталася адна з маленькім сынам. Вялікае каханьне, якое было ў іх са Стасем, яна праносіць праз усё жыцьцё, застаўшыся вернай загінуўшаму мужу. Яна падае дзівосны прыклад выхаваньня сына, стварыўшы ў доме культ загінуўшага бацькі. Бацька для маленькага Зянона – ўзор ва ўсім, ён жыве зь ім ў кожным дні і імгненьні, і нават у бацькавых рэчах, якія для яго як бы адухоўленыя.

*Мяне марнарка саграваіа,*
*Як бы душа мая чувала,*
*Што ў жылах бацька мой жыве*
*І дух яго са мной ідзе.*

*(„Інтрадукцыя”)*

Хлопчык расьце ў дзівосным асяроддзі дабрыні, ласкі і строгасьці. Гэты ўзор выхаваньня падаюць і Ганна, і Яўхім, і Фэля. Зянон бачыць, як шануюць у доме памяць ягонага бацькі Стася і дзядзькі Яся. Гэтая памяць і пашана пазбаўлены якой бы ні было штучнасьці. Усё стрымана, сьціпла, глыбока.

*Там ставала на калені*
*І усьцешана ў маленьні*
*Перад фоткай Яські-сына*
*Вылічала, галасіла*
*Ціха, нішчачкам – сабе.*

*(„Інтрадукцыя”)*

Сям’я жыве ў хрысьціянскай традыцыі, па Боскіх законах. Яны вельмі ўважліва ставяцца да жы-

вёлы. Коську (як і ўвесь жывёльны сьвет) любяць і берагуць. Дзед Яўхім вучыць унука быць уважлівым з канём, бо ён для гэтых людзей як член сям'і.

*Вялікі, моцны ламавік*
*І ўжо ж спакойны, як мужык...*

*(„Інтрадукцыя")*

І Коська адчувае чалавечую любоў. Ён як бы адказвае людзям сваёй моцай і надзейнасьцю. Мы разумеем, што ў яго жылах цячэ кроў старажытнага надзейнага дрыганта Зянона *(„Агонь"),* успамінаецца і моцны фальклёрны вобраз *(„Косю, мой косю", косю вараненькі").* Радкі паэмы, прысьвечаныя каню Коську, прасякнутыя незвычайным цяплом.

* * *

Пакутная гісторыя Беларусі вострай больлю з дзяцінтва запала ў душу малога хлопчыка Зянона.

*Як у Сібір людзей зганялі,*
*Як забівалі і каралі,*
*Як хаты ў вёсках пуставалі...*

*(„Фэля")*

Страшныя карціны жыцьця сталінскай пасьляваеннай пары *(„Падаткі")* перадаюцца некалькімі эпізодамі. І гэтага дастаткова, каб стварыць шырокую карціну агульнага сялянскага гора (Антоська Рамановіч і „сала са скуркай"; Мінка і ягоныя яблыні; савецкі падатковы агент Мандрылаў і ўдава Алена).

Каб прааналізаваць беларускую бяду з усіх бакоў, аўтар паэмы адлюстроўвае і адмоўнае ў беларускім характары праз рэакцыю шаўца Пятрука на прапанову стаць старшынём калгаса:

*Дык Пятрук, як трусаваты,*
*Уцякаў, як тхор, дахаты.*

*(„Калкоз")*

Гэта працяг таго самага Пятрука, з XVII-га стагоддзя, у якога масква зьнішчыла сям'ю і гаспадарку, але змагацца з ворагам за сваю зямлю ён ня йдзе.

У паэме, як і ў жыцьці: калі ты адмаўляешся ўзяць адказнасьць, знойдзецца найгоршы, які возьмецца і прынясе шкоду ці загубіць справу зусім.

А далей – яшчэ больш сумна. Сялян заганяюць у калгас сілай. Яўхім разумее, што гэта азначае трэці круг пакутаў без зямлі і сваёй гаспадаркі.

*І страшна стаць у трэці круг.*
*Бо ўжо не над табой – над краем,*
*Над зямлёй і небакраем*
*Заломны, чорны, самагубны*
*Вісіць зьнішчэньня крук.*

*(„Калкоз")*

Сіла духа і разважлівасьць Яўхіма ўражваюць. У самыя горшыя часы ён не ўпадае ў адчай і верыць: *„Настане наша ўваскрашэньне".* Уважыўшы сітуацыю, ён дабраахвотна аддае ў калгас усё, што складала зьмест яго сялянскага жыцьця. Чытаючы гэтыя радкі, мы ўяўляем карціну вялікага гора. Аўтар выкарыстоўвае і трапнае параўнаньне *(„Заяву піша, як адмаўляецца ад хлеба").* Дакладна намаляваны цяжкі псіхічны стан Яўхіма: *„Пастаяўшы на парозе, Паехаў ціха па дарозе" („пастаяў" – „паехаў ціха").* Пасьля пералічэньня сялянскага багацьця – трагічная выснова: *„Ўсё ўжо гэта больш ня наша".*

Надвор'е таксама адпавядае настрою Яўхіма *(„дожджык кволы"),* і асабліва метафарычнае параўнаньне чалавечага лёсу з трывожнымі ластаўкамі: *„І дзьве ластаўкі з паддаша Абляталі нас, як лёсам".*

Апісваючы людзкі шум і тлум, калі сяляне вымушана аддаюць ўвесь свой рыштунак для калгаса, аўтар лёгкай заўвагай псіхалягічна тонка малюе людзкі стан:

*Кожны збоку прыглядае,*
*Пільным вокам выцаляе,*
*Як там коніка паставіць,*
*Хто тут той парадак правіць.*
*Усёроўна – ды ж сваё.*

*(„Калкоз")*

Яўхім з унукам вяртаюцца дадому пешшу. *„У хаце ціша", „І змрок у шыбы пранікае, Сачыцца ў дом і спачывае За печкай белай ў рызмане..."* І завяршае карціну невычарпальнага гора далейшае параўнаньне стану Яўхіма: *„Нібы душой перавярнуўся".*



*82. Жняя (Фэля). (1958 г.). (З кнігі „Вялікае Княства")*

Яўхім вельмі мудры чалавек. Ён шчыра верыць у Бога і таму разумее, што зло ня можа перамагчы назаўсёды. Але каб зло зьвесьці, нельга паддавацца адчаю. Ён размаўляе з унукам як з дарослым і вучыць яго самаму галоўнаму ў беларускім жыцьці: *„Зямлю сваю вярнуць мы мусім"*. І навучае, як гэтага дасягнуць, як вытрымаць усе выпрабаваньні – цераз навуку. Толькі, маючы адукацыю і розум, беларус зможа вярнуць зямлю і дзяржаву.

*Вучыцца трэба, мой нябога.*
*Вучысь ад самага парога,*
*І ўсё жыцьцё, як покі змога.*
*Бо іншай зброі мы ня маем,*
*Каб заўладаці сваім краем,*
*Зямлю каханую вярнуці...*

*(„Школа")*

Яўхім разумее, што інтэлегентная, адукаваная, інтэлектуальная нацыя выжыве. Ён мысьляр, ён усё асэнсоўвае. Гэты селянін аналізуе сваё жыцьцё, чытае Біблію, якая дапамагае яму рабіць беспамылковыя дзеяньні. Ён вучыць унука не загадам, а ўласным прыкладам, на памылках унука незаўважна прымушае яго рабіць уласныя высновы, бо разумее: так дзіця запомніць на ўсё жыцьцё. Загад жа без разуменьня можа выхаваць ў дзіцяці страх, скрытнасьць, жаданьне зрабіць наадварот і можа сапсаваць асобу.

У Яўхіме сканцэнтраваная народная мудрасьць. Ён ня толькі аналізуе свой уласны лёс, але зьяву ў цэлым, і робіць тыпалягічныя высновы. (Так пры паляках, напрыклад, ня проста было беларусам вучыцца, але была зямля. Пры саветах зямлю забралі, але вучыцца было можна, значыць – трэба вучыцца.)

* * *

Эмацыйная кульмінацыя III-й часткі – гэта, безумоўна, разьдзел *„Коська"*. Увогуле, вобраз магутнага каня пераходзіць з адной часткі паэмы ў другую. Малады шляхціч Зянон едзе ў Трабы *„добрым конікам буланым". („Агонь")*

Адносіны беларусаў да каня як да сябра адлюстраваныя і ў вуснай народнай творчасьці.

*За талер бяленькі я не разжывуся,*
*З табою, мой косю, я не разлучуся.*

Надзейны, моцны дрыгант – сябра Зянона, які ратуе жыцьцё яму і Любчы *(„Бабыры").* Коська таксама такі ж магутны і надзейны сябра, як той старажытны дрыгант, але выпала яму трапіць ва



*83. „Зямля". (1967 г.). (З кнігі „Вялікае Княства")*

ўладу нікчэмных людзей. Для хлопчыка ён, як чалавек. І як шчыміць сэрца, чытаючы цяжкую гісторыю Koські. Гэта першае сутыкненьне маленькага хлопчыка з хамскім духам новай улады, які бачыць зьдзекі дарослых бязьлітасных людзей зь яго дарагога коніка. Зьдзек над канём (якога на спрэчку запрэглі цягнуць непасільна цяжкую малатарню) выклікае натуральны пратэст у душы маленькага чалавека. Хлопчык кідаецца выратоўваць свайго найдаражэйшага сябра.

У беларускай народнай сьведамасьці жывёльны сьвет заўсёды блізкі чалавеку. Гэта насамрэч браты нашы меншыя, і такія адносіны беларуса да жывёлы традыцыйныя. Саветы імкнуцца зламаць беларускія звычаі (ператварыўшы беларусаў у „савецкі" народ). Супраць гэтага і пратэстуе душа маленькага беларуса (які гадуецца ў традыцыйнай сям'і).

Цікава, што ў гэтай частцы чытач назірае падзеі і вачыма дарослага Зянона, і хлопчыка. Да-

рослы „апавядальнік” пераказвае тое, што хлопчык яшчэ ня ў стане прааналізаваць: як „ліпіць” калгас, характарызуе кіраўнікоў калгаса, і „малатарню”, і „спрэчку” калгасьнікаў (Пятрук-Канчар). Гэта ўсё адбываецца ў „дарослым” сьвеце. Калі ж прыгналі Коську на зьдзек, пра гэта ўжо „апавядае” хлопчык Зянон. Ён бачыць пакуты свайго коніка і зьвяртаецца да яго па-дзіцячаму наіўна і шчыра.

*Цярпі, мой дружа, як на полі,*
*Ты йшчэ пазнаеш лепшай долі,*
*Я толькі падрасту –*
*І вызвалю зь няволі.*

*(„Коська”)*

Калі Коська ўпаў на калені і яго пачалі біць закладчыкі, хлопчык кінуўся ратаваць каня сам. Натоўпу супрацьпастаўляецца чыстая дзіцячая душа – абаронца Коські. І чытач разумее, што расьце барацьбіт з несправядлівасьцю, што гэта ёсьць пачатак змагара. Удумаемся: вобраз каня ў паэме (фальклёрны „косю”, дрыгант Зянона і Коська Яўхіма) – гэта сымвал вернасьці і апоры для беларуса. І вось настаў час у няволі, калі адурэлы натоўп зьдзекуецца над канём, але хлопчык бароніць яго.

І яшчэ адзін абагулены страшны вобраз – савецкая школа:

*Галоўны сэнс – зламаць асобу,*
*Зрабіць бязбожніка да гробу*
*Ды навучыць любіць саветаў...*

*(„Школа”)*

У таго, хто прайшоў савецкую школу, насамрэч „адчыняцца раны” ўспамінаў. За кароткімі замалёўкамі Аўтара паўстае страшны вобраз-машына па рабленьню „стандартных” дзяцей, грубыя, хамскія метады савецкай пэдагогікі, якая нарабіла шмат шкоды не аднаму пакаленьню.

* * *

Разьдзел *„Вільня”* раскрывае боль і смутак дарослага Зянона аб страце беларускай сталіцы. Ён надзвычай любіць Вільню, ведае яе акругу да дробязей. Дзівосныя „дарожныя замалёўкі” аўтара раскрываюць агульны беларускі характар віленчукоў. Гэта людзі засяроджаныя і самавітыя. Тут усе (і знаёмыя, і незнаёмыя) – свае. Яны „аднаго характару”, адных уяўленьняў пра сьвет і жыцьцё, трымаюцца сваістай тутэйшасьці ў дачыненьнях, але да свайго беларускага („простага”) абыякавыя.

І аўтар аналізуе працэс паступовага адыходу людзей ад сваіх карэньняў *(„Пралог”).* У гэтым былі пэўныя прычыны. У этнічных адносінах віленчукі (пра якіх ідзе гаворка) – працавітыя. Яны і раскажуць спадарожніку ўсё, і пакажуць, але ў палітычных ацэнках яны іншыя, насьцярожаныя і заблытаныя.

Надзея „выбіцца ў людзі” заўсёды жыла ў душы беларуса. Ён прагнуў навукі, імкнуўся стаць „адукаваным чалавекам”. Мудрыя словы Яўхіма свайму ўнуку былі як бы зьвернутыя да ўсёй нацыі. Галоўнае было – не патрапіць ў савецкія жорны *(„ пад сьцяг савецкі начаваць”)*, бо там нацыянальны чалавек прападаў, гінуў, ператвараўся ў „савецкі народ”.

Героя паэмы Зянона такі лёс мінуў *(„ І адчуваў я Божу ласку”).* Яму адкрываецца таямніца Вялікага Княства, тут, амаль побач зь ягоным домам *(„ Адкрыўся від, які ўразіў”).*

Раскрыцьцё таямніцы вечнай душы Зянона, які імгненна ўспамінае „сябе” 300 год таму – адно з самых моцных месцаў паэмы.

*Як быццам гэта было ўчора.*
*Нібыта лопнула запора,*
*І памяць скочыла ў мінуласьць.*

*(„Пралог”)*

Баліць, невыносна шчыміць сэрца:

*Літва! Літва! О, Беларусь́ка!*
*Як у вязьніцы каралевіч,*
*Ты дзе? Дзе твая веліч?*
*Дзе твая слава, што аберуч,*
*Як меч двувостры, мы трымалі,*
*Маскву і немцаў адганялі,*
*Каб край ніколі не таптталі?*

*(„Пралог”)*

Герой разумее, што таямніца раскрылася яму не выпадкова, што ў гэтым – Боская воля, *„ Каб*

*зразумелі сувязь часу, Адкрылі будучыню нашу".* Тройчы паўтораны рэфрэн падкрэсьлівае жыццесцьвярджальныя думкі, поўныя аптымізму і веры ў нашае Адраджэньне.

*І ўсё ж снуецца нітка шчасьця,*
*О, Вяліка наша Княства!*

*(„Пралог")*

І, пачынаючы з 80-х гадоў XX-га стагоддзя, кола пераменаў на Беларусі закруцілася *(„Эпілог").* Гэта ня просты і ня хуткі працэс. Народ тут яшчэ ня творца „свайго лёсу", ён назірае і чакае, каб нешта само сталася; ён ужо стаміўся нават чакаць незваротных пераменаў, каб нехта іх зрабіў. Ну дык хто ж тады дапаможа нам, калі ня людзі самы сабе? Ужо можа конь?

І тады – невыпадковы зварот да Коські. Чаму? Што гэта азначае?

Гэты вобраз увасабляе абсалютную надзейнасьць, сябра, зь якім ня страшна нічога. Думкі-ўспаміны Зянона пра вернага сябра Коську – вяршыня лірыкі.

*Ты б нам памог, мой мілы Косю,*
*Ты б прыскакаў бы – дай Бог ногі.*
*У каго ж яшчэ прасіць падмогі?..*

*(„Эпілог")*

А вось эпізод, апісаньне якога ўзвышаецца да сымвала: за Іўем палае стары шляхецкі дом, дзе пры саветах разьмясьціўся дзяржаўны камбінат. Але ратуюць дом толькі чатыры чалавекі. Натоўп жа – глядзіць.

Апісаньне пажару перадае дынаміку рухаў выратавальнікаў. Тут аўтар выкарыстоўвае няпоўныя (як бы абарваныя) клічныя сказы *(„Ў машыну – раз! Хутчэй! Разгон!"; „А мы – у школу, вёдры браць"* і г.д.*)*, сказы, у якіх перадаецца рэзкая зьмена дзеяньняў (*„Да рэчкі лётам – падмяняем"* і г.д), нагнятаньне аднародных дзеясловаў: *„І палівае там кругом, І скача, круціцца ваўчком";*



***84. „Віленскі брук"** (2000 г.). **(З кнігі „Вялікае Княства")***

*„І тут калейку хутка ставім, Штурхаем, просім, розум правім”.*

Усё названае стварае пэўны (хуткі) рытм верша. І зусім іншы, запаволены рытм верша, калі ўжо ўсё скончана, дом згарэў: *„Назад мы ехалі – маўчалі, Як бы мы словы пагублялі”.*

Дом згарэў, бо „ня свой” – дзяржаўны. Ніхто не хацеў ратаваць дзяржаўную маёмасьць. Беларусы пад саветамі не бачылі ў дзяржаўным нічога свайго, не адчувалі сувязі з сабой. І мы ўспрымаем пажар, як алегорыю, як папярэджаньне: стары дом, як Беларусь, якую можна страціць, калі спадзявацца, што „неяк жа будзе”. Трэба ратаваць гэты наш агульны Дом, не шкадуючы сілаў.

Зянон, які так моцна любіць сваю Бацькаўшчыну, ёсьць аптыміст да канца, пакуль б’ецца ягонае сэрца, у якім большую частку займае ня боль і горач, а пяшчотная любоў да Радзімы. Так сталася, што на нейкі час ён вымушана разлучаны зь ёй. Але за гады разлукі любоў да саёй Зямлі ў сэрцы ня сьцішылася, не прытупілася. Душа Зянона, зьведаўшы сьвет, яшчэ больш перакананая:

*Ні зямлі і ні краіны*
*Няма лепшае на сьвеце,*
*Чым Беларусь – а мы ёй дзеці.*

*(„Эпілог”)*

Таму апошнія словы гучаць як закліланьне:

*... будзе шчасьце. Мусіць стаць.*
*Ня мусім толькі мы чакаць,*
*Бо шчасьце трэба здабываць.*

* * *

Мы загарнулі апошнюю старонку паэмы. Бясспрэчна, гэта сталася падзеяй у нашай чытацкай цікавасьці. Твор шматгранны, ахоплівае беларускае жыцьцё ў стагоддзях. Мы бачым шырокія карціны народнага існаваньня, розныя характары. Усіх аб’ядноўвае адзінае – беларуская зямля, беларускі погляд на сьвет, беларуская мэнтальнасьць.

Паэма зьяўляецца багатай крыніцай афарызмаў. Напрыклад:

*Як рэпа, дзеўка высьпяве*
*І па вашэсьці ўздыхае.*

*Дзе калі было такое,*
*Каб нячысты ў Вільні ўсеўся!*

*Свабода – гэта наша сіла,*
*Свабода – нашая магіла.*

*Беларусец наш як дзекне,*
*Аж у сэрцы ёкне.*

*Вось гэта голас – сотні струнаў!*

*Ехаў госьцем, вымкнуў братам.*
*Як вярнуся – стане сватам.*

*Ах, якое харашэньне –*
*Жоўта мора – летуценьне!*

*Нават камень на Радзіме*
*Для мяне – падушка.*

*От дзеўка красна, от надзея.*
*Як паглядзіш – дык сэрца грэе.*

*... нямашка лепш, як родна хата,*
*Няхай сабе і небагата,*
*Але свая, свая Айчызна.*

Аўтар умела і дасканала выкарыстоўвае багатыя магчымасьці гнуткай беларускай мовы, у тым ліку і рухомы націск, і ўнікаліныя для вершаскладаньня пристаўныя галосныя і зычныя, мужчынскія-жаночыя рыфмы, і неабсяжны слоўнікавы скарб, і шматварыянтнасьць (шматзначнасьць) беларускага слова. Паэма шматбаковая і гістарычнай асновай, і маштабам падзеяўпачуцьцяў, што патрабуе перачытваньня. І чым больш мы ўчытваемся, тым больш адчыняецца думак. Чаму? Бо паэма абуджае і ўзьнімае Беларускі Дух, мы спасьцігаем яго, асэнсоўваем, ён зьвязвае нас і аб’ядноўвае. І без перабольшваньня можна сказаць, што эпічная паэма Зянона *„Вялікае Княства”* зьяўляецца паэтычнай энцыкляпэдыяй беларускй душы.

Хочацца сказаць некалькі словаў яшчэ пра адну зьяву. Чым больш мы, чытачы, знаходзімся „ў матэрыяле” паэмы, тым больш нас ахоплівае сьветлае пачуцьцё чысьціні і ўздыму. Няма безнадзейнага,

цяжкага трагічнага стану (хоць падзеі разгортваюцца і трагічна), няма прыгнечанасьці і сьлёз, бо сама паэма „выпраменьвае” сьвятло, надзею і высакароднае хараство. Сьветлыя, верныя, надзейныя, высакародныя і спакойныя людзі гэтага „сьвету” прыцягваюць і ачышчаюць, у гэты сьвет пагружаешся і ім жывеш.

І як гарманічна спалучаецца зьмест паэмы з формай яе кніжнай падачы. Выданьне ілюстраванае дзівоснымі здымкамі замілаваньня Беларускай зямлёй, а там, дзе ў аповяд уплятаецца трывога – такія ж трывожныя і шчымлівыя ілюстрацыі. Толькі ўгледзьцеся!

А якое дзівоснае хараство – калі нашыя асацыяцыі сягаюць увысь. І гэты „набесны сьвет” – адмыслова калярові, бо ўсё ў гэтым выданьні прадумана да драбніц і адпавядае нашаму ўяўленьню пра „адзінства формы і зьместу”.

* * *

Роздум паэта пра Вялікае Княства ўвасоблены аўтарам і ў „малых формах” – у лірычных цыклах. Іх некалькі, але сваімі матывамі яны пераклікаюцца з паэмай і як бы працягваюць яе.

З першага верша цыклу *„Дарога ў Вялікае Княства”* нас агортвае цеплыня і радасьць ад знаёмай дзівоснай карціны:

*Каля возера вазок.*
*Гнеды конік скача.*
*Дзяцюк ножкай не калыша –*
*Заснуў, небарача.*

Знаёмая карціна выклікае замілаваньне. (Таму спрыяюць зьмяншальна-ласкальныя суфіксы: „вазо**к**”, „кон**ік**”, „нож**к**ай”, „небара**ча**”).

Зянонаў лірычны герой – рыцар. Ён заклікае нас ў дарогу, да Вялікага (*„ дзе ні глянь”)* Княства, якое *„ прыўкраснае, нібы бор, І сьветлае, нібы лета”.* І суправаджае рыцара ў дарозе верны конь. Герой зьвяртаецца да каня: *„ у чыстае поле паеду з табой, Твайго ездака пахаваю...”* Ён як бы падхоплівае эстафету загінуўшага рыцара. І, як надзея на будучае, чакае каня *„ малады мой сынок”.*

Але, як бы і незаўважна, са словам „успамін” (гэта азначае мінулы час) ў прыўзьняты настрой ўкрадаецца званочак трывогі *(„ Успамін пра Айчыну”).*



***85. Вільня. Вежа сьвятога Яна. (2002 г.). (З кнігі „Вялікае Княства”)***

Герой востра адчувае сувязь часоў: *„Мінулае было і мінулае ёсьць. Яно ёсьць цяпер і яго няма цяпер. Бо ўсё існуе разам з табой”.* Ён памятае часы „вольных людзей”, яго хвалюе, ці ня згінуў ваярскі вольны дух:

*Ці ёсьць яшчэ хто жывы?*
*Ці зможам яшчэ ваяваць?*

Сумныя рэаліі сучаснага беларускага жыцьця назірае лірычны герой ЗЯНОНА. Шмат здрады, прадажнасьці. Шкада, *„што я ўжо не юнак, Пагуляў бы пад посьвіст Пагоні”*, – ўсклікае лірычны герой.

Цяжкія думкі не даюць яму спакою:

*Як запыніць арду,*
*Што распаўзаецца, як ноч,*
*Па нашых гонях?*

*(„Зброя”)*

Наступны цыкл – *„Вечная Вільня”. „Ты сэрца наша жывое, Вырванае з грудзей”,* – з горыччу ўсклікае герой пра дарагую для беларусаў Вільню. Нізка вершаў, прысьвечаная Вільні, вельмі пяшчотная. Герой лірыкі Зянона моцна любіць яе, любуецца кожнай яе драбніцай.

*І вось, я тут ізноў*
*На імгненьне вярнуўся з чужыны.*
*Як жывецца мне Вільняй! –*

усклікае лірычны герой, які вымушаны знаходзіцца ў чужыне. Тут усё дарагое сэрцу: і вежы касьцёла, і зграі птушак, што *„лятуць з-пад шыбеніцы Кастуся...”*, і Віленка, і магутная Вяльля, і віленскі брук, які *„дыхае Беларусяй”*. Тут усё сваё, роднае, нават вецер: *„Жывы ты, ці што, вятрыска?” І* паэт верыць, што Вільня вернецца нам, але *„толькі тады, Калі захочуць яе вярнуць”.*

Цыкл *„Траціны”* – гэта маленькія шэдэўры, якія хочацца запомніць. А які цёплы і часам балючы цыкл *„Свае”*. Матывы вершаў відавочна перагукаюцца з матывамі паэмы. Услухайцеся:

*Кожны сам сябе шануе,*
*Кожны сам сваіх няславіць.*

*(„Коні”)*

*Ня плач, каханая, ня плач.*
*Усё застанецца.*
*Толькі ня будзе шчасьця.*
*Бо няма шчасьця*
*Без Беларусі.*

*(„Дрэнныя весткі”)*

Шчыміць сэрца, калі ўглядаешся ў беларускія далі, дзе ніколі не было мяжы. А падзялілі Беларусь – і беларусы аказаліся праз мяжу.

*Не было тут спрадвеку мяжы.*
*Там, за лесам, касьцёл наш прыгожы,*
*Там, за лесам, мой дом,*
*За нябачнай жалезнай заслонай.*
*Не было тут ніколі мяжы...*

*(„У Шадзюнах гляджу ў бок Суботнікаў”)*

Успрыняцьце вершаў узмацняюць дзівосныя ілюстрацыі. Ілюстрацыі-карціны, ілюстрацыі-думкі, надзеі, трывогі. Каб зразумець гэтае хараство, ня трэба нічога асаблівага. Трэба проста любіць Беларусь, як любіць яе Зянон. Да гэтага цяжка што дадаць...

І завяршае гэтую цудоўную кнігу цыкл *„Напісанае адчыніў”* – філясофскія падсумаваньні паэта, разважаньні і высновы жыцьця.

Верш *„Крык”* як бы ілюструе тыповую сітуацыю, увасобленую ў страшнай антытэзе: крык – і *„ніхто не спыніўся”*. Гэта не адчай, не безвыходнасьць, а, хутчэй, горыч, шкадаваньне за тых, хто ня чуе, хто не спыняецца перад папярэджаньнем вышэйшай жыцьцёвай мудрасьці. Але вышэйшая мудрасьць ёсьць, яна існуе. Лірычны герой Зянона ведае, дзе крыніца праўды і надзеі жыцьця. Ён як бы „пытаецца” ў Сьвятой Кнігі – і там знаходзіць для сябе адказы „пра сёньняшні дзень”.

*Трэба любіць хараство, чысьціню і праўду.*
*Гэта брама ў сьветлы шлях.*

*... сапраўдную славу народам*
*Робяць справядлівыя людзі,*
*Моцныя Боскім Духам.*

Апошні верш *„Дарога ў адзін бок”* як бы падсумоўвае цяжкі беларускі шлях лірычнага героя Зянона. Але ён памятае словы Белага рыцара

(верш *„Белы рыцар”*): *„Не спыняйся. Ідзі... Тваё поле – шлях. Як спынішся – Вырасьце лес на шляху”.* І ён не адгукаецца ні на голас скептыка, ні на голас зьняверанага. Як гэта моцна:

*Іду сабе ды іду*
*Адзінай сваёй дарогай”.*

* * *

Таленавітым можа быць ня толькі высокае, але, на жаль, і нізкае. Часам людзі захапляюцца „талентам” і не заўважаюць, што ж нясе гэты талент, якія пачуцьці, якую філясофію сцьвярджае.

Падмуркам паэзіі Зянона зьяўляецца сьвятло душы, чысьціня думак, рыцарства і высакародства. Душа паэта цягнецца да гармоніі і хараства. Такую паэзію трэба чытаць, бо чытаць яе прыемна; над ёй трэба разважаць, бо яна сцьвярджае Боскія каштоўнасьці жыцьця, хрысьціянскія ідэі дабра і справядлівасьці, яна дае душэўныя сілы і ўзмацняе дух.

***Галіна Пазьняк***

*30 траўня 2006 г., Нью-Ёрк*

*Надрукавана: („Беларус”, – 2006, верасень (№524); скарочаная публікацыя пад загалоўкам: „Калі хочаш узмацніць свой дух”, псэўданім – Марыля Якушэвіч)*



***86. Рыцар збройны (з кн. „Вялікае Княства”).***

# ПАДАРОЖЖА Ў СУТНАСЬЦЬ РЭЧАЎ

У сакавіку гэтага году рэдакцыя *„Беларускія Ведамасьці"* ў Варшаве выдала кнігу вершаў і фатаграфіяў ЗЯНОНА *„Дарога"*.* Гэта як бы працяг *„Глёрыі Патрыі"*, якая выйшла ў 2000 годзе. Той жа стыль афармленьня, аналягічныя шрыфты і структура твора. Але тут ўжо іншы маштаб зьместу, асэнсаваньне шырэйшай тыпалёгіі ідэй і нават геаграфіі тэмаў, паэтычнае выяўленьне новай рэчаіснасьці. Сама кніга, якую бярэм у рукі, ёсьць твор мастацтва, твор, які аўтар аформіў і зрабіў сам.

Кніга складаецца з 29 тэмаў-разьдзелаў, напрыклад, *„Бацькаўшчына, далёкая і любімая", „Некалі даўно", „Шлях у Вялікае Княства", „Чужына", „Мінулы час", „Дарога", „Душа", „Вечныя каштоўнасьці", „Месяц", „Тонкія колеры", „Траціны", „Пятрыны", „Цяжкая пара"* і інш. Гэта, аднак, ня толькі тэмы – але катэгорыі рэчаіснасьці ў рэальным і метафізічным яе сэнсе. Прынамсі, такі аўтарскі падыход. Тут галоўнае не настолькі рацыянальныя ці інтэлектуальныя вызначэньні, колькі эмацыянальныя адкрыцьці, якія цяжка акрэсьліць дакладнымі словамі. Але, на мой погляд, гэтае „няўлоўнае" і ёсьць галоўнае ў паэзіі.

Ну што, здаецца, тут такога – вершык у два радкі:

*Калі я ноччу глядзеў на Месяц,*
*Праляцелі над полем шэрыя гусі.*

Усё проста. Але душа шчыміць. Чаму гэта так? У чым тут магія слова, ці, хутчэй, – магія карціны? Бо ЗЯНОН піша карцінамі, ягоныя вершы – гэта фатаграфіі вечнага быцьця.

Калі задумаемся, то ўбачым, што ў гэтых двух радках фігуруюць тры асноўныя сымвалы: „поле", „ноч" і „шэрыя гусі". (Чацьверты сымвал – „Месяц".)

Сымволіка ночы ў нашай беларускай культуры і народнай сьвядомасьці – гэта непазнаная таямніца, таемнасьць, праз якую адчуваецца аблічча іншага сьвету; „поле" – гэта сымвал і вобраз жыцьця, адмеранай зьверху (наканаванай) жыцьцёвай прасторы, – як шляху, вызначанага ў часе; „шэрыя (дзікія, пералётныя) гусі" – гэта сымвал расстаньня і жыцьцёвага праміналньня, незваротнага часу.

Усе гэтыя сымвалы (разумеем мы гэта, ці не) сядзяць у нас – людзях адной культуры – у падсьведамасьці, існуюць, як архетыпы. Усе тры словы-сымвалы, што існуюць у вершы, зьвязаныя з чалавечым лёсам і непасрэдна зь лірычным *„Я"* аўтара (дакладней, ягонага лірычнага вобразу: „Калі ***Я*** ноччу глядзеў...")

Дамінуючым матывам верша, які выклікае „магію шчымленьня", ёсьць тэма праміналньня жыцьця (дачаснага *„Я"*), жыцьця, якое вечнае і прыўкраснае (Месяц – як вобраз ночы – ёсьць сымвал таемнай вечнасьці).

Уся гэтая калізія сымвалаў, што ўзварушвае нашу падсьведамасьць і пачуцьці, аб'ядноўваецца адзіным сьведамасным і метафізічным паняцьцем – ЛЁС. Прачытаем ізноў:

*Калі я ноччу глядзеў на Месяц,*
*Праляцелі над полем шэрыя гусі.*

Успомнім клясычнае. Мастацтва (канкрэтна – літаратура) пачынаецца тады, калі адлюстроўвае чалавечыя лёсы. Кожны літаратурны род (від), кожны жанр па-свойму выяўляе і асэнсоўвае пытаньне чалавечага лёсу ў форме эстэтыкі. Але ўсюды ў сапраўднай літаратуры (ад трагедыяў Эсхіла да сучасных лірычных вершаў) катэгорыя чалавечага лёсу існуе (павінна існаваць). Успомнім, дарэчы, і вядомае вызначэньне нацыяналь-

* ЗЯНОН. ДАРОГА. Вершы і фатаграфіі: – „Беларускія Ведамасьці", Варшава; Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве, Вільня, 2007 г., 432 с.: іл.



***87. Месяц захмараны („Дарога”, стар. 252).***

най літаратуры: „Лёсы чалавечыя – лёсы народныя”.

Паэзія ЗЯНОНА скрозь сатканая са словаўсымвалаў, народжаных у нашай беларускай культуры. Яна вызначальна нацыянальная.

Сама назва кнігі – „Дарога” – ёсьць у нашай культуры вельмі моцнае і агульнапрынятае слова-сымвал. У кантэксьце зянонавай паэтыкі словы сымвалізуюцца, нібы па індукцыі, калі стаяць побач з сымваламі-тыпамі і вырастаюць у іх ад частага паўтарэньня. Тут і *„ дождж”*, і *„ вецер”*, і *„ акіян-мора”*, і *„зязюлі куваньне”*, і *„ вішневы цьвет”*, і *„ пялёсткі”*, і *„ сьнег”*, і *„ плакучая бяроза”*, і *„ грушка ў полі”*, *„ вярба пры дарозе”*, і *„ пах веснавы”*, *„ хвоя”*, *„ неба”* і *„ рунь”*, і *„ конь”*, і *„ рыцар”*, і *„ сьвітаньне”*, і асабліва *„ дом”*, *„ агонь”*, *„ гара”*, *„ брама”* і вечная рэчка *„ Гаўя”*.

Уся паэтычная лексіка ЗЯНОНА зьнітаваная словамі-сымваламі. Іх сотні, і галоўнае, што карціны гучаць – то шчымліва, то сьцішана, то весела, то трагічна:

*Ужо сонца заходзіць,*
*І слабее сэрца.*
*А свабоды няма.*

*(„ Ужо сонца заходзіць...”)*

*Бягуць гады.*
*Так хутка.*
*І, як раней,*
*пакутуе*
*наш народ.*

*(„ Бягуць гады.”)*

*На жоўтых вяргінях – раса.*
*Туман над іржышчам.*
*Вось і гэтае лета мінула.*

*(„ Халодная раніца”)*

*Вішня ля дарогі*
*так шчодра зацьвіла.*
*Куды вы сьпяшаецеся,*
*гледзячы пад ногі?*

*(„ Вішня”)*



***88. Зімовы дуб („Дарога”, стар. 257).***

***Ліхтар*** *у цемнаце.*
*Ты, як надзея.*
*І* ***матылькі*** *лятуць.*

*(” Ліхтар у цемнаце.”)*

*Промні ў лісьцях,*
*Як хвалі ў моры,*
*мігцяць –*
*Сонца асеньняе.*

*(„ Асеньні поўдзень”)*

*Перабіраю бульбу.*
*Крыльляў шум у гары.*
*Праляцела птушка.*

*(„ Перабіраю бульбу.”)*

*Белая вішня! О, вішня цьвітучая!*
*Пад белаю вішняй*
*Спынімся ў чысьціні.*

*(„ Белая вішня!*
*О, вішня цьвітучая!”)*

*Праімчаўся цягнік ля вакна, нібы сьмерч.*
*Пакінуў толькі колаў стук*
*І горкі дым над полем.*

*(„ Праімчаўся цягнік ля вакна, нібы сьмерч.”)*

*Вершы пішу*
*аб Радзіме.*
*Не забыцца б аднак*
*Абмакнуць мне пяро ў Гаўі,*
*Што ў вечнасьць плыве –*
*Акіян-мора.*

*(„ Пяро”)*

*Калі я драмаў на прыстанку,*
*Хтось даткнуўся маёй рукі.*
*Сабачка бяздомны*
*ў вочы глядзіць.*

*(„ Чакаю аўтобуса”)*

Улічым, што апошні верш (трацiна) напісаны ў эміграцыі. Магчыма, што толькі той, хто ў да-

лечыні ад Бацькаўшчыны пераажыў эміграцыю, зразумее да канца шчымлівасьць і сэнс гэтага верша.

Словы-сымвалы, што актывізуюць падсьвядомасьць, ствараюць падтэкст верша (другі і трэці плян). Гэта вельмі важны аспэкт ва ўсім мастацтве (асабліва ў літаратуры і тэатры). Менавіта падтэкст і другі плян выяўляюць прыцягальнасьць, магнэтычнасьць успрыняцьця мастацтва.

А цяпер працытую зянонавае *„Крэда”* з *„Глёрыі Патрыі” (стар. 340)*

*„Вершы: Мала слоў. Рытм. Канкрэтнасьць думкі і пачуцьця, выяўленыя праз падтэкст. Праз падтэкст пранікаем у сутнасьць рэчаў.”*

„Сутнасьць рэчаў” – вось што, на мой погляд, непакоіць паэтыку ЗЯНОНА. Гэта надзвычай цяжкая задача эстэтыкі. І тым ня менш, і „ліхтар у цемнаце”, і „птушка”, і „горкі дым над полем” – штосьці даюць большае для розуму, сэрца і ўспрыняцьця, чым проста апісаньне.

Дадам, што настраёвыя, тонкія фатаграфіі кнігі цалкам суадносныя і згарманізаваныя зь вершамі.

Кожны разьдзел „Дарогі” вымагаў бы асобнай гаворкі. Гэта, аднак, не ўваходзіць у задачу гэтага майго кароткага артыкулу. Адзначу толькі, што ляйтматывам усіх тэмаў новай кнігі ЗЯНОНА ёсьць шчымлівая туга па Айчыне і сьветлая любоў да радзімы – Бацькаўшчыны Беларусі.

Кніга ўжо дастаткова шырока распаўсюджана на Беларусі і, спадзяюся, ня гледзячы на ўсе нашыя цяперашнія беларускія цяжкасьці, яшчэ паслужыць дзеля ўзроўню і здароўя Беларускай літаратуры і велічы нашай культуры.

***Галіна ПАЛАЧАНІНА***

*Ліпень 2007 г.*

# ДАРОГА АЙЧЫНЫ, ДАБРА І ЛЮБОВІ



Добра, калі паэзія агортвае чалавека зь дзяцінства, яшчэ тады, калі ён гэтага нават не ўсьведамляе і ня ведае значэньня гэтага слова, бо паэзія – гэта добрыя чыстыя думкі, гэта ўсплеск душы, яе песьня, гэта калі хочацца глядзець на неба-зоркі і – рабіць дабро. Сапраўдная паэзія адлюстроўвае сьветласьць душы, якая ўзбуджае ў чалавеку высакародныя ўчынкі. Галоўная якасьць паэзіі (менавіта паэзіі, а ня „слоў”, як кажуць пра сучасныя песьні) – яе чысьціня, якая нараджае сьвятло ў душы чалавека.

Гартаючы старонкі кнігі ЗЯНОНА „Дарога”*, мы напаўняем сваю душу гэткай чысьцінёй і высакароднымі пачуцьцямі, якімі прасякнуты кожны твор гэтай паэтычнай кнігі.

З першай старонкі, а дакладней, з першай фатаграфіі Гаўі *(стар.5)*, аўтар настройвае нас на сьветлы лад. Чыстая рака і адлюстраванае ў ёй высокае неба. І дзівосны спакой. Здаецца, тут прысутнічае Высокі дух Творца. Гэта наша беларуская прырода.

І ў якую б „беларускую” фатаграфію мы ні ўглядаліся далей – усё гэта знакі высокага, прыгожага і высакароднага: і нашыя касьцёлы з вышыні птушынага палёту, і бязьмежнае поле, якое прачынаецца ад зімовага сну, і бляск вады, і птушкі-дрэвы-травы, і „Менскае вакно”, і засьнежаная вечаровая хата з сьвятлом у вакне, і сонца, якое заходзіць над Суботнікамі, і птушынае гняздо, і летняе поле, і бярозы, і віленскі брук – усё гэта нашая любімая і найпрыгажэйшая Бацькаўшчына.

Беларуская прырода. Мы ўсе добра ведаем яе жыцьцё: як скрыпіць сьнег пад нагамі, як ён тае і будзяцца сокі бяроз, як надыходзіць сакавік, памятаем пра вясновы пах у паветры, пра ветрык маёвы і жабін канцэрт. Таму, чытаючы, мы лёгка ўяўляем гэта:

*Ноччу пад зорамі,*
*Калі прымерзьне талы сьнег –*
*Вясновы пах.*

*(„Сакавік”)*

Зянон заклікае нас у сьвет прыроды, каб разам перажыць высокі стан душы.

*Над чаромхай Месяц*
*маёвы сьвеціць*
*І водар стаіць, нібы сон.*
*І кружыцца галава.*

*(„Над чаромхай Месяц...”)*

Калі казаць пра паэзію Зянона, то хочацца цытаваць усё, бо ў кожным самым маленькім вершы-хоку – новая грань дзівоснага стану прыроды і душы. Але незвычайная любоў да яе тлумачыцца яшчэ і тым, што гэта – нашая зямля, нашая дарагая Беларусь:

*Возерца, як сподак,*
*Унізе пад гарой.*
*На возеры – лодка.*
*Ля вады сяліба,*
*Арабіна, ясень, бэз.*

---

* ЗЯНОН. ДАРОГА. Вершы і фатаграфіі: – „Беларускія Ведамасьці”, Варшава; Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве, Вільня, 2007 г., 432 с.: іл.

*Гамоняць людзі спакваля.*
*Ня бачу іх, але люблю.*
*Бо Беларусь мая.*

*(„Па дарозе ў Слабодку")*

У гэтым вершы (як і ў *„Мэлёдыі гучаньня")* раскрываецца галоўны прынцып і грунт любові, па якім існуюць усе народы сьвету: трэба любіць сваё і сваіх людзей (*„Бо Беларусь мая"*). Іншыя ж, беларусы, любяць – чужое і гатовыя адрачыся ад свайго на яго (чужога) карысьць. Таму нам трэба выхоўваць у сабе любоў да свайго і да сваіх, як маці любіць дзяцей, і „вартых", і „ня вартых" – усялякіх. Трэба, неабходна ўпарта вучыцца любіць сваё („Ня бачу іх, але люблю").

Дык як жа палюбіць усім нам адзін аднаго (бо мы беларусы), калі ня надта „любіцца", калі кругом – „сваркі і звадкі"? Зянон прапануе такі шлях любові беларуса да беларуса, і ён, напэўна, самы правільны – праз пранікненьне ў сваю Беларускую прыроду, дзівосную, нашую – для ўсіх нас адзіную. Калі мы ўсе ўсьвядомім гэтую нашую любоў да нашай прыроды, якая ёсьць агульная і любімая для ўсіх (і для мяне, і для тых, хто ня надта любіць „мяне" ці каго ня вельмі люблю „я", а „тыя" зразумеюць, што іхная „любоў" – і „мая" таксама) – гэта і стане першай нашай прыступкай да агульнай салідарнасьці і пашаны – канкрэтнае ўсьведамленьне сваёй зямлі як рэальнай існасьці.

Гэтая думка знаходзіць свой працяг, асабліва ў цыклах *„Месяц"* і *„Пятрыны"*. Вершы-карціны беларускага харства зьмяняюць вершы-звароты „Ці бачылі вы", якія прымушаюць зьвярнуць увагу на харство ў „простым", ня раз бачаным і яшчэ раз „адкрыць" для сябе веліч беларускай ночы, „Месяца над туманамі", таямніцу начнога поля, пачуць, як „пляскоча Гаўя", убачыць палёт шэрых гусей і ў квецені вішні...

*Ці плыў з вас хто*
*Па начной Гаўі*
*Праз месячны шлях на вадзе?*

*(„Ці плыў з вас хто...")*

Але, бадай, самыя радасныя, прасякнутыя тонкім гумарам, старонкі – гэта *„Пятрыны"* і цыкл *„От добра"*. Тут нічога не дадасі – трэба чытаць, і душа напоўніцца радасьцю суперажываньня лірычнаму герою Зянона.

*От добра,*
*Калі на двары мароз,*
*А ўдома цёпла.*
*Сядзіш сабе ля вакна*
*І спакойна гэтак на сьвет Божы глядзіш.*

*(„От добра...")*

Паэзія дае магчымасьць успомніць-перажыць асабістае, стан чыстай душы лірычнага героя Зянона перадаецца і нам – і душа напаўняецца цеплынёй:

*Як добра глядзець*
*на вячэрняе поле,*
*Калі буйны сьнег*
*Пакрывае асеньнюю рунь.*

*(„Рунь")*

Ці яшчэ прыклад:

*Цэлую ноч вецер у вольхах шумеў*
*І пад раніцу сьціх:*
*Першы сьнег*
*на блакітныя астры прылёг.*

*(„Халодная перамена")*

І як хораша спалучаюцца добрыя думкі і сьветлы стан душы лірычнага героя з дзівоснымі фатаграфіямі родных краявідаў. Калі ўважліва ўглядзецца ў іх – межы фатаграфіі як бы пашыраюцца, і мы амаль фізічна адчуваем, як „зьвініць" паветра чысьцінёй і сьвежасьцю *(фатаграфія на стар. 35)*, як „бяжыць" дарога *(„Асеньняя Беласточчына"– стар.78, стар.115, „Родная карціна" – стар.264, „Зімовае поле па дарозе ў Вільню"— стар.382-383)* і мы ўжо „дыхаем" здаровым марозным паветрам. І ўсё гэта – нашае, беларускае, сваё:

*Нават куст ялаўцовы*
*Прыяцель табе,*
*І родны прастор пад нагамі.*

*(„Адчуваньне")*

Паэзія выклікае суперажываньне ня толькі тады, калі перажываньні лірычнага героя нагадваюць нам уласныя. Яна здольная пашыраць наш эмацыйны вопыт і вучыць заўважаць тое, што мы самы як бы і не заўважалі раней, ці яшчэ ня мелі вопыту нейкага перажываньня, ўласных асацыяцыяў і асэнсаваньня. Паэзія дапамагае зразумець вечныя каштоўнасьці раней, чым прыдзе старасьць *(„Так і хочацца крыкнуць...", „Ёсьць сэнс жыцьця...", „Чалавек, які жыве толькі патрэбамі..." і інш.)*. І як хораша дапамагае нам уявіць карціну і перажыць стан лірычнага героя зянонавы фатаграфіі *(стар.198, 411)*:

*Цэлы дзень сядзіць на палі*
*І глядзіць у далячынь*
*Пегі-шэры, нерухомы*
*Адзінокі альботрос.*
*Дзе радзіма твая, птушка?*

*(„На беразе акіяна")*

Усе назіраньні-параўнаньні – у рэчышчы любві да Беларусі:

*Бабы на лузе*
*сена грабуць.*
*Нібы тлум буслоў,*
*Белыя хусьцінкі.*

*(„Бабы на лузе сена грабуць...")*

Ці яшчэ:

*Адпачываюць касцы.*
*Уткнутыя косы,*
*Нібы сьцягі на ветры.*

*(„Адпачываюць касцы...")*

Лірычны герой уважліва прыглядаецца да „жыцьця" прыроды *(разьдзел „Кветкі, дрэвы, травы")*. І нараджаюцца асацыяцыі-параўнаньні *(„Тульпан", „Цьвіце груша", „Згукі")*:

*Вішня – як цёплы вецер,*
*Як дождж веснавы.*
*Яблыня – Боскі касьцёл*
*Прамянее сьвятлом.*

*(„Цьвітуць дрэвы")*





*91. Сакавік у Суботніках. 1959 г. (З кнігі „Дарога”)*

Словам ствараючы карціны беларускай прыроды – лірычны герой гаворыць пра нашы беларускія каштоўнасьці. І праз карціны-вобразы-пачуцьці – паўстае Айчына.

*Няма мора.*
*Але ёсьць прасторы*
*Бяскрайніх жытнёвых хваль*
*І хвалістыя пагоркі,*
*І людзі, добрыя, як прырода.*

*(„Наша зямля”)*

Але паступова у душы лірычнага героя ўзьнікае трывога. Чаму? Мой дом, мая зямля – а ці гаспадары ў ім мы, беларусы?

*...Хто я тут? Хто я тут*
*Пад крушынай маёй!*
*Чужы бамбавік над маёй галавой.*

*(„Крушына”)*

Так раз за разам ўзьнікае тэма акупацыі (якая потым пяройдзе ў матыў выгнаньня), узьнікае – і зьнікае за карцінамі найпрыгажэйшай Айчыны, і зьяўляецца зноў.

*А як там у Вязынцы нашы дубы,*
*Дзе Купала хадзіў?*
*Але ўжо й там чужыя.*

*(„Дубы векавечныя”)*

Сэрца лірычнага героя, перапоўненага прыгажосьцю роднага краю і любоўю да радзімы, баліць ад цяжкіх і трывожных думак:

*Як запыніць арду,*
*Што распаўзаецца, як ноч,*
*Па нашых гонях?*

*(„Зброя”)*

Гімнам чалавечаму духу, чалавеку-змагару гучыць верш *„Жыцьцё”,* прысьвечаны чачэнскім змагарам за радзіму. Герой лірыкі Зянона шукае іншыя прыклады – апору для беларускага духу. Дзе яна і ў чым? На што абаперціся нам, беларусам, каб вярнуць годнасьць, стаць годным народам? *(„Краіна”)*

Праз карціны-перажываньні паўстае цяжкая беларуская гісторыя савецкага часу *(„Беднае жыцьцё”, „Карова, „Шум вады”, „Вяртаньне з Аўганскай вайны” і інш.)* Нецікавым змарнаваным жыцьцём беларусаў выкліканы матыў шкадава-

ньня па сапраўдным, напоўненым сэнсам жыцці *(„Касавая будка на аўтобусным прыпынку ў Ліпнішках")*. Цяжкая туга ахоплівае лірычнага героя, калі ён думае пра акупаваны родны край *(„Туга па роднай старане","Ізноў вясна", „Марнае поле", „Каменьні")* і пра тое, як акупацыя перараджае беларусаў, што „перад чужынцам каркі гнуць" *(„Коні", „У Крынках", „Гэтыя", „Што за людзі вырастаюць...", „Крот", „Гэта страчаныя людзі...", „Шыбеніцы", „Падарожжа ў краіну мёртвых душ")*. І як сымвал страшнага жыцьця-забыцьця паўстае вобраз анёла „з адбітай галавой І абламанымі крыламі" *(„Анёл каменны")*.

Вершы разьдзелу *„Сьвет у якім жывуць"* у цэлым адлюстроўваюць цяжкі стан нацыі, стан бездухоўнасьці, абледзяненьня беларускай душы *(„Падарожжа ў краіну мёртвых душ")*. Таму сэнсавая нагрузка часамі прыпадае на словы „глухамань", „гразь", „панурыя". „Сьвет" такіх людзей (ці нацыі?) зьбеднены, інтарэсы прыземленыя *(„Падарожжа ў адсталы час")*.

Але лірычны герой не супроцьпастаўляе „сябе" гэтаму „сьвету", бо гэта „свае", гэта „радакі", і іхнае жыцьцё – асабісты душэўны боль лірычнага героя. Гэтаму нецікаваму жыцьцю ён супроцьпастаўляе духоўнае жыцьцё. І разьдзелы *„Вечныя каштоўнасьці", „Душа", „Напісанае адчыніў"* прасякнуты іншымі думкамі-пачуцьцямі. Гэтыя вершы ськіроўваюць чытача задумацца над высокім зьместам жыцьця, і асабістага, і жыцьця нацыі. І тут сэнсавая дамінанта прыходзіцца на іншыя словы і паняцьці: „Бог", „вечнасьць", „Дзень Хрыстовы", „надзея", „будучыня", „прыгажосьць", „сьвятло", „душа", „сэнс жыцьця", „любоў", „шчасьце" і г.д. У аснове канцэпцыі ўсёй кнігі *„Дарога"* і ляжыць непрыняцьце бездухоўнасьці і прага высокага (вышэйшага), напоўненым духоўным зьместам жыцьця і змаганьня за вольную Бацькаўшчыну.

Шчымлівыя вершы, прасякнутыя матывам цяжкай долі, маюць канкрэтны і, разам з тым, агульнанацыянальны характар *(„Бягуць гады...", „Дні страт")*.

*Ужо сонца заходзіць,*
*І слабее сэрца.*
*А свабоды няма.*

*(„Ужо сонца заходзіць...")*

Вершы, у якіх адлюстраваны цяжкі асабісты чалавечы лёс, уражваюць сваім трагізмам *(„Рота", „Неяк дзіўна пражылося жыцьцё...", „Шлях-2", „Імя",* алегарычная прыпавесьць *„Зямля")*. Але лірычны герой Зянона верны сабе. Ён не згінаецца пад цяжарам лёсу і верыць у прышласьць, якая „прыйдзе, як звон". Ён цьвёрда ведае сваю праўду, якой верны да канца: „Іду сабе ды іду / Адзінай сваёй дарогай" *(„Дарога ў адзін бок")*.

І узьнікаюць матывы Вялікага Княства, у якое настойліва запрашае нас лірычны вобраз Зянона. Што значыць для яго ВКЛ? Гэта і бяскрайнія (ад мора да мора) прасторы, гэта і рыцарскі беларускі гонар, і воля, і годныя людзі, і магутная Айчына. Адрадзіць гэтую беларускую моц прагне лірычны герой усім сэрцам, ўсімі сіламі душы:

*– Рушайма, йдзем, – прамовіў князь.–*
*Сьпяшайма дадому,*
*у нашае Княства,*
*Прыўкраснае, нібы бор,*
*І сьветлае, нібы лета,*
*Калі над Нараччу*
*белы ляціць бацян.*
*Там чакае нас Бог.*
*Там гарцуюць крылатыя коні...*

*(„Княства")*

Тут, у Княстве, вольным і магутным, ён шчасьлівы, бо ўсё ў ім – у гармоніі і чысьціні, „Й крыніцы чыстыя":

*Бо ёсьць нам – Вялікае Княства,*
*Бо маем – вялікае войска,*
*Бо ёсьць наш вялікі князь...*

*(„Краіна")*

Як дайсьці нам да Вялікага Княства – жартаўліва разважае Аўтар у вершы-прыпавесьці „Пуга", і ўжо сур'ёзна:

*Між стаптаных палёў,*
*Сярод дымных кастрышч*
*Мы чакаем сваёй пары.*
*Яна прыйдзе, як звон.*
*Яна будзе, як вецер з высокіх нябёс.*

*Яна стане, як полымя душ,*
*І як сэрца агонь,*
*Калі вернецца наша Княства.*

*(„Хмары")*

А яно вернецца, павінна вярнуцца! Лірычны герой цьвёрда верыць у гэты сьветлы дзень Беларусі. Бо за плячыма – магутная гісторыя і магутныя постаці вялікіх беларусаў – гонар беларускай гісторыі. Моцныя беларусы не пераводзяцца на беларускай зямлі *(„Замак", „У Залесьсі", „Князь Базыль", „Музыка Стомы"):*

*Пахавалі Купалу,*
*Пахавалі Быкава,*
*Пахавалі вялікіх.*
*Але Беларусь не памрэ.*
*Бо яны жылі для Беларусі.*

*(„Пахавалі Купалу...")*

Але часам – вырываецца боль душы *(„Людзі, што выракліся свайго...", „У памяці засталіся праблескі...", „Прывід Рэйтана", „Марнае поле", „Паміраюць сябры...")* і складаецца ў радкі матыў роздуму і трывогі:

*Ці ёсьць яшчэ хто жывы?*
*Ці зможам яшчэ ваяваць?*

*(„Успаміны*
*зь бясконцай гісторыі")*

Любоў лірычнага героя да Бацькаўшчыны падкрэсьліваюць вершы-успаміны *(„Зьмярканьне ў Грушаўцы", „Карціны памяці", „Месячнай ноччу..." і інш.)*. Здаецца, што яны напісаныя там, на Радзіме, і толькі дата пад імі гаворыць, што гэта – успаміны беларуса ў выгнаньні *(„Лагойшчына", „Раніцай у вясновы дзень", „Вандроўка вясной", „Вяртаюся дадому" і інш).*

Сэрца лірычнага героя плача па забранай, страчанай Радзіме, і вастрыню аўтарскага болю асабліва падкрэслівае „цяжкое" і моцнае слова „вечна", і вобразнае пераўтварэньне („шэры воўк"), і адухоўленыя „родныя" дзьверы:

*...Я ўжо тут, і ня тут.*
*Засталося два крокі.*
*Можа, вечна туды не вярнуся.*
*Можа, ноччу ў цішы – шэры воўк –*
*Перайду праз „мяжу"*
*І да родных дзьвярэй прытулюся.*

*(У Шадзюнах гляджу*
*ў бок Суботнікаў")*

Гэты матыў вострага болю па-рознаму працягваюць іншыя вершы: *„На беразе акіяна гляджу ў бок Беларусі", „Палёт гусей", „Усё баліць", „Там далёка", „На чужыне думаю пра пакінуты дом", „Хатка", „На чужыне", „Вераб'і у кустах шчабечуць..."* і шмат іншых.

Вялікая частка лірычных вершаў прысьвечана „чужыне". Але па сутнасьці – і яны пра Беларусь, якая далёка і якая – у душы.

Чужына – гэта іншы сьвет, іншы край. І як балюча „адчыняюць" гэты чужы сьвет дзьве каляровыя фатаграфіі – бераг акіяна *(стар. 74-77)*. Неверагодная прыгажосьць – і касьмічны жудасны холад ахінаюць нас. І мы востра адчуваем адзіноту і бяспрытульнасьць лірычнага вобразу ў гэтым халодным чужым сьвеце. Гэтыя фатаграфіі – своеасаблівая „настроенасьць" душы чытача на шчымлівы стан і перажываньні лірычнага героя. І як бы далей ні разьвівалася аўтарская думка (сумная, а часам і жартаўлівая, балесная і вясёлая, поўная маркоты і радаснага аптымізму), тут усё вызначае галоўны рэфрэн: „Але гэта не Беларусь", „але гэта ня Бацькаўшчына". Гэта асобны цыкл вершаў, які заканчваецца такім рэфрэнам. Аўтар знарочыста стварае такія цыклы з рэфрэнам („Ці бачылі вы", „Там, далёка", „Адчыняю Эвангельле наугад", клясычны „Як добра" і інш.), каб падкрэсьліць галоўны матыў.

Лірычны герой бачыць зямную прыгажосьць і ў чужым сьвеце. Гэта і дзівоснае цьвіценьне магноліі (што *„набрыняла сьвятлом"*), і незямны – райскі „гушчар" цьвітучай сакуры *(„Ты, як пышная цепліня!")*, і Боскі прасьвет *(„Здымаю ў Брукліне")*, і плакучая бяроза *(„Дажджлівы дзень на Шыпсхэтбэй")*, і ласкавая трава *(„Мінаю дрэвы")*. Чужая прыгажосьць не адмаўляецца *(„Ружовы цьвет" „Назіраю за вераб'ямі ў Манхэтане.." „Вераб'і ў кустах шчабечуць...")*, а толькі падкрэслівае настрой ягонай душы – гэта не Беларусь:

*Здавалася б*
*Гэткі ж цьвет,*
*як на радзіме.*
*Але душа маўчыць.*

*(„Чужыя вішні”)*

І далей – калейдаскоп уражаньняў ад прыроды і характва. І тым мацней працінае маланкавы душэўны боль: *„Толькі што мне з таго, Калі ўсьцяжна шчыміць душа”.*

*Па чужацкім бруку*
*Дождж чужацкі*
*плешча,*
*Як некалі,*
*у Вільні.*
*Але гэта*
*ня Вільня...*

*(„Дождж на чужыне”)*

І аказваецца, што любіць можна самыя празаічныя рэчы, калі яны нагадваюць Беларусь. Аб гэтым – шчымлівыя вершы-успаміны:

*...І студня з цыновым вядром*
*(О, Божа, – як любае мне!)...*

*(„Вецер на чужыне”)*

*Жалезная клямка*
*Сьцерлася, нібы нож.*
*Колькі ж рук за яе ўзялося?*

*(„Старыя дзьверы”)*

*Перад домам усьцяж*
*Матруна па каменьнях*
*булькоча ў Гаўю.*
*Я і цяпер*
*кожны каменчык на дне*
*помню.*

*(„Матруна”)*

*...Але помніцца*
*Нават кожны цьвічок у дзьвярах,*
*І наш ганак, і родны мой дом.*
*Мне вецер Айчыны чуваць...*

*(„Усьлед за думкамі пішу”)*

А чужое? Хіба можа чужына замяніць родныя краявіды!

*Крапае дождж па чужым вакне.*
*Пагаварыць бы з дажджом.*
*Але й ён чужы.*

*(„Дождж на эвеню „Z”)*

На Беларусі родная прырода выклікае пачуцьцё спакою і замілаваньня:

*Такі лівень,*
*Што схаваўся сьвет.*
*А бусьліха ж сядзіць.*

*(„Праз вакно назіраю за бусьлянкай”)*

*Ударыў мароз –*
*І сьнег зацярушыў замерлыя сосны.*
*Прыляцелі гракі пад вакно.*
*Цэлы дзень на галінах сядзяць,*
*Унурыўшы дзюбы ў пер’е.*

*(„Гракі”)*

*Першы сьнег.*
*Чысьціня-белізна.*
*Нават шкода ступаць.*

*(1995 г.)*

І якія б карціны ні ўзьнікалі перад вачыма, адна думка-рэфрэн засланяе ўсё – „чужое”, „чужына”. Балючасьць, зь якой трэба зжыцца, перадаецца праз шматлікія асацыяцыі і параўнаньні:

*Ноччу выпаў сьнег.*
*Прыўбралася бяроза –*
*на вясельле маладая.*
*Толькі якое вясельле*
*ў чужыне?*

*(„Белая раніца”)*

*Скрозь лісьце на двары*
*Мігціцца сонца бляск.*
*І ўсё чужое.*

*(„Далёка”)*

*Уляцеў матылёк у вакно.*
*Усе думкі мае пра Айчыну.*
*Можа, й ён зь Беларусі?*

*(2002 г.)*



*92. Зіма на Валожыншчыне. 1993 г. (З кнігі „Дарога”)*

*Прашумеў цёплы дождж уначы.*
*А ўраньні гляджу:*
*Распусьціўся магноліі цьвет.*
*Толькі штосьці нявесела тут*
*Ад яе хараства.*

*(„Вясновы дзень у чужыне”)*

Чужы горад насоўваецца на душу і хапае ў абдымкі. Тут ідзе сваё жыцьцё, цьвітуць і адцьвітаюць дрэвы, мінаюць поры года... Але душа на Беларусі – „Там – у цэнтры сьвету” *(„Шум чужога горада”)*.

Шмат якія вялікія дамы ў Брукліне („білдзінгі”) дзіўна пабудаваныя ў форме выцягнутай літары „О”, і большая палова вокнаў глядзяць унутар, у каменны калодзеж. Тутэйшым, відаць, нічога, прывычна. Але беларускай душы, якая прагне свайго прастору і прыгожосьці, такая „бэтонная архітэктура” ледзяніць душу:

*Каменная яма – двор.*
*Халодны развор.*
*Сінічка пяе.*
*Весела, нібы тады,*
*Нібы там:*
*далёка,*
*дзе сьвежы вецер.*

*(„Сьвітанак у Нью-Ёрку”)*

Чужы халодны сьвет. У ім лірычны герой востра адчувае адзіноту *(„Міжнародны аэрапорт на чужыне”, „Ідуць гады...”, „Чужая вуліца”, „Балтымор уздоўж чыгункі”)*. Тут нават сьнег выклікае непрывычнае „антыэстэтычнае” параўнаньне-асацыяцыю – „як мука” *(„Белы сьнег за вакном...”)*, асабліва калі параўнаць зь „беларускімі” вершамі („Аж іскрыцца асьнежаны тын”): *„Зімовая ноч удома”, „Зімовая пара”, „Адчуваньне” і г.д.* Такія ж далёкія ад разуменьня і людзі *(„Біл”, „Нью-Ёрк, як плянэта Зямля...”);* празаічная замалёўка *„Ўражаньні беларуса ў Амэрыцы”* выяўляе тонкі і глыбокі аўтарскі гумар, уменьне ўгледзецца ў сутнасьць рэчаў, уменьне быць аб’ектыўным. Ня гледзячы на тое, што Амэрыка ніяк ня можа „замяніць” аўтару Бацькаўшчыну (бо слова „Радзіма” аднаго кораня са словам „родная”), ён аддае належнае гэтай краіне, бачыць у ёй ня толькі „чужое”, але ўспрымае яе як самую магутную дзяржаву сьвету, заўважае яе добрыя якасьці, прыхільнасьць да чалавека, перавагі і дасягненьні.

Што ж дае сілы лірычнаму герою вытрымаць такое цяжкое вымушанае растаньне зь любай Беларусяй? Адказ на гэтае пытаньне знаходзім у шатлікіх вершах: *„На чужыне думаю пра лес”, „Жывое”, „Бог”, „Усьлед за думкамі пішу”, „Найдаражэйшая Айчына”* і іншых.

Ёсьць вершы, якія складаюцца ўсяго з аднаго радка. Гэтая сканцэнтраваная думка ёсьць і жыцьцёвая пазыцыя, і крэда, і філясофія. Напрыклад, такі верш: *„Цяжка, але ёсьць сэнс”*. Ці яшчэ:

*„Мінае час –*
*і фатаграфія шчыміць.”*

Фатаграфіі аўтара-майстра абвастраюць сьветлыя пачуцьці лірычнага вобраза, як, напрыклад, да верша *„У моры шэрасьці і чужыны...”*.

Дзівосная фатаграфія *„Зімовы вечар над Суботнікамі”,* здаецца, адлюстравала такое абстрактнае паняцьце, як „любоў”, і зьвязала яго з паняцьцямі „чысьціня”, „прыгажосьць”, „спакой”, „высакароднасьць”. Не адчуць гэты стан лірычнага героя немагчыма – толькі ўгледзьцеся ў фатаграфію, якая яшчэ адлюстравала ў сабе і далёкі час 60-х гадоў. Фатаграфія „дыхае” тым часам, яна здольная „перанесьці” нас у тыя часы...

Калі мы ўчытаемся ў радкі, прысьвечаныя роднай зямлі, то адчуем сардэчную цеплыню вобраза. Радзіма для яго асацыюецца з „раем” *(„Рай, „Сьвятло любові””)*, і зьвяртаецца ён да яе з самымі шчырымі і ласкавымі словамі, як да каханай:

*І толькі ты адна,*
*І толькі ты адна,*
*Мая любімая...*

*(„Мая адзіная”)*

Вершы, прысьвечаныя Радзіме, успрымаюцца асабліва шчымліва, калі параўнаць іх зь вершамі, у якіх адлюстраваны стан збалелай душы і цела:

***„Сьвятло”***
*Мой беларускі сьвет, мой сьвет жыцьцёвы,*
*Мой сьвет за дальлю часу,*
*Не пакідай мяне...*

***„Усё баліць"***

*Ледзь падняўся ад болю.*
*У Брукліне дождж.*
*Там, за морам, далёка –*
*сасновы мой дом.*

Чужына абвастрае спасьціжэньне паняцьця „шчасьця" ці шчасьлівага стану душы:

*Няма нічога лепш,*
*Як прыедуць сябры*
*І на мове сваёй пра ўсё гавораць.*

*(„Няма нічога лепш...")*

Але ўсё ж поўнасьцю зразумець гэтае „простае шчасьце" – калі вакол свае радакі і чуеш родную мову – здаецца, можна толькі праз вялікую пакуту адарванасьці ад свайго і немагчымасьці вярнуцца на Радзіму.

*Толькі ня будзе шчасьця.*
*Бо няма шчасьця*
*Без Беларусі.*

*(„Дрэнныя весткі")*

Асобнага слова патрабуе разьдзел *„Напісанае адчыніў"*, які пачынаецца чорна-белай фатаграфіяй „касьмічнай сьветабудовы". Тут няма нічога „халоднага" (як у каляровай, да разьдзелу *„Там, за сіняй смугой"*). Наш зрок ськіваваны у нябесную вышыню, і мы адчуваем спакой, гармонію і – Боскасьць. Спакой, якім напоўнена фатаграфія, „падрыхтоўвае" чытача да ўспрыняцьця сур'ёзных і высокіх думак. А думкі – сапраўды



***93. Чарот. 1994 г., возера Балдук. (З кнігі „Дарога")***



***94. Чужое неба над Пэнсыльвэніяй. 1996 г. (З кнігі „Дарога”)***

высокія, бо „вычарпаныя” з самай Вялікай Кнігі – Эвангельля. Эвангельле для лірычнага вобразу – галоўная Кніга жыцьця, крыніца глыбокіх думак, якая дапамагае ягонай хрысьціянскай душы думаць і жыць па Боскіх запаветах, быць свабодным, бо „свабода” пачынаецца, перш за ўсё, у самым чалавеку, „унутры”, у яго думках, у стане душы.

*Як розьняцца людзі:*
*Нехта вольны ў ланцугах,*
*Іншы – і на царстве раб.*

*(„Як розьняцца людзі...”)*

У ёй, у Вялікай Кнізе, знаходзіць ён адказы на ўсе пытаньні быцьця, па ёй ён вучыцца жыць і „фармаваць” свае думкі. Гэта асноўная крыніца ягонага жыцьцёвага аптымізму. Праз Эвангельле лірычны герой асэнсоўвае важнейшыя паняцьці чалавечага існаваньня: дабро і зло, міласэрнасьць і справядлівасьць, свабода, воля – і рабства, народ і натоўп, вечнасьць – і сэнс зямнога жыцьця, мінулае і будучыня... У самым напісаньні гэтага цыклу ёсьць элемэнт містыкі, бо тэмы для пісаньня вершаў не выбіраліся аўтарам, а вызначаліся з дня ў дзень адчыненьнем Эвангельля наугад.

Вершы, навеяныя Кнігай жыцьця, выразна выяўляюць хрысьціянскую сьведамасьць лірычнага героя. І як заклік да высокага сэнсу жыцьця, чытаем „простую” і глыбокую выснову: *„ Чалавек не адзінокі, Бо ёсьць Бог.”*

Адзін з самых важных разьдзелаў „Дарогі”, у якім асэнсоўваецца значэньне паняцьця „нацыянальныя каштоўнасьці”, – *„ Горад гарадоў”*. Вільня – гэта і захапленьне веліччу, і замілаваньне, і боль-туга па страчанай сьвятыні... Тут – усё блізкае і дарагое: і вежа сьвятога Яна, і сонца за сьветлым касьцёлам, і арганы, і імша, і сьцяжынка, і сасна, і прастора. Тут нават каменьне „дыхае Беларусьсю”. Вільня трымае беларускі дух. І падкрэсьліваюць сказанае асноўныя словы-дамінанты „вечная”, „родная”, „водар Радзімы”, „сон ружовы”. Але гэта толькі „адзін бок” разважаньняў. Учытаемся ў верш *„Дзяды на Росах”*. А ці не „схаваная” ў ім „гісторыя” нашых пакут? *„ Былыя беларусы”,*

*„Ціха цені жывых адышлі", „беларусаў няма"* – за гэтымі маркотнымі думкамі разуменьне нашай агульнай віны перад „дзядамі", за тое, што *„ парвалася нітка яднаньня"*. І ўжо зусім балесна:

*Ні помніка, ні крыжа.*
*Адзінокая сьвечка*
*трашчыць пад дажджом,*
*Дагарае ў ссохлай траве.*

*(З. „ Сьвечка")*

І тут жа:

*Загіблая сталіца,*
*Наш зрабаваны сьвет.*

*(„ Там, дзе ляжыць Кастусь")*

„Зрабаваны сьвет" – гэта больш, чым „зрабаваны край", значна цяжэй... Можа тут, на Росах ці на Замкавай гары – „схаваная" прычына заняпаду ВКЛ?

І ўсё ж пытаньне „Ці вернута будзе Вільня калі?" ня ёсьць галоўным для лірычнага вобразу. Бо ён ведае: можна мець скарб – і лёгка страціць яго, калі не шанаваць, ня памятаць і не змагацца. Усё ў руках Божых, але мы, беларусы, павінны „захацець" вярнуць ўсю былую сваю моц.

Аднак жа не, „нітка пераемнасьці" не перарвалася. Вялікія беларускія постаці трымаюць нас і духоўна, і „змагарна", яны – у кантэксьце нашага беларускага жыцьця.

*Ціха зорка ўзышла ў вакне –*
*Мілавіца.*
*Колькі згадак прынесла*
*з сабой.*
*Выйду на ганак –*
*І думаю пра Багдановіча,*
*Гледзячы ў сіняе неба.*

*(„ Мілавіца")*

Сваімі матывамі гэты верш пераклікаецца зь лірыкай Багдановіча і сьведчыць пра нашу культурную аўру, пра нашую духоўную памяць.

У чым жа паэтычнае крэда лірычнага героя? Яно вельмі падобнае на жыцьцёвае крэда: *„ У мастацтве не павінна быць / Нечыстаты." (Верш „ Мастацтва")* Гэтая мастацкая пазыцыя разьвітая далей у вершах *„ Мастак", „ Творцы", „ Падмена", „ Запісаў наўзбоч", „ Справа відушчых...", „ Паэзія", „ Хіба ня бачыце?", „ Фатограф паэту"* і інш.



***95. Зімовы захад над Суботнікамі. 1960 г. (З кнігі „Дарога")***

*Калі цёмна ў душы,*
*То ці трэба пра гэта пісаць,*
*Каб усім было цёмна.*

*(„Калі цёмна ў душы...")*

*Сьвятло паэзіі – гэта тады,*
*Калі трэба заглыбіцца ў сваю душу*
*І ўбачыць сьветласьць.*

*(„Душа")*

*Мастацтва ў тым, каб праз красу*
*Вялікі Боскі Дух убачыць,*
*Пазнаць праз вобраз рукатворны.*

*(„Мастак")*

* * *

Творчая асоба аўтара „Дарогі" рэалізуецца і ў вершах, і ў мастацкай фатаграфіі, і гэтыя два віды мастацтва як бы ўзаемапранікаюць адзін у адно. Фатаграфія дапамагае „раскрыць" ці „ўбачыць" хараство, адлюстраванае словам. Для аўтара фатаграфія – мастацтва, праз якое ён выяўляе сваю душу і сваё бачаньне жыцьця. І, як вынікае з кнігі, фатаграфія мае неабмежаваныя мастацкія магчымасьці. У такім спалучэньні (вершы і фатаграфіі) эфэкт дасягаецца максімальны. А *разьдзелы „Фатаграфіі", „Тонкія колеры"* раскрываюць перад намі таямніцы гэтага роду мастацтва.

Спалучэньне вершаў з мастацкай фатаграфіяй ня новае ў кнігавыдавецтве, але, як правіла, гэта заўсёды два аўтары. „Сумяшчэньне" ж паэта і фатографа-мастака ў адной асобе – зьявілася, бадай, упершыню ў беларускай літаратуры. Гэта яшчэ адно „адкрыцьцё" Зянона.

Так перад намі „Дарога". Шмат гаворыць чытачу яе вокладка. Мы ўглядаемся ў дарогу, і здаецца, што яна бясконцая – не ўгрунтаваная, а ўзараная. Яна „прыгатавалася" да таго, што мы, беларусы, у яе пакладзем. І што мы пасеем – тое і ўзрасьце.

***Галіна ПАЗЬНЯК***

*Травень 2007 г.*




***96. Вокладка „Дарогі".***

# ПАКАЗЬНІК ПРОЗЬВІШЧАЎ

# ЗЬМЕСТ

UDK 323. 1 (476)
PA 454

Пазьняк Галіна Фёдраўна

*БЕЛАРУСЬ У СЭРЦЫ*

*Грамадзка-асьветніцкае выданьне*

*Надрукавана на сродкі аўтара і пры фінансавай падтрымцы Беларускай фундацыі імя Рамуальда Траўгута.*

**Галіна Пазьняк.** Беларусь у сэрцы.
Выданьне: „Беларускія Ведамасьці", Варшава-Нью Ёрк; Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве, Вільня, 2007. – 240 с.: іл.
ISBN 978-9955-578-07-9
UDK 323. 1 (476) PA 454

Кніга Галіны Пазьняк – гэта зборнік яе ўспамінаў, артыкулаў, тэматычных запісаў гаворак, літаратуразнаўчых працаў, напісаных аўтарам на працягу апошніх сямі гадоў уцякацкага жыцьця за мяжой. У кнізе адлюстраваныя факты і змагарны дух эпохі Беларускага Народнага Фронту і новага Беларускага нацыянальнага Адраджэньня, актыўным удзельнікам якога яна зьяўляецца, паказаны грамадзкі ўздым таго часу, калі была палітычна адваявана і вернута незалежнасьць Беларусі.



Мастацкі макет, вокладка, афармленьне,
укладаньне і падрыхтоўка да друку: *Зянон Пазьняк*.
Кампутарны склад па макету: *Робэрт Стаховіч*.
Кампутарны набор і карэктура: *Галіна Палачаніна*.
Друк: QLCO.
Наклад: 1000 асобнікаў.
Аддрукавана: у верасьні 2007 г. у Варшаве.
Папера: крэйдавая, фармат 68 х 86, 1/16 арк.
Ул. выдавецкіх арк.: 15.
Ум. друк. арк. (разам з іл.): 21,8.

„Беларускія Ведамасьці", Варшава 02-017, вул. Ерузалімскія алеі, 125/127.
Таварыства Беларускай Културы ў Летуве, Вільня 02155, вул. Бролю, 9 – 86.

**ISBN 978-9955-578-07-9**